Т. С. ЯНКОВА

# ДЫЯЛЕКТНЫ СЛОЎНІК ЛОЕЎШЧЫНЫ



ББК 81.2Бел-4
Я62

Рэдактары:
*М. В. Бірыла,* акадэмік АН БССР,
*А. А. Крывіцкі,* кандыдат філалагічных навук

Рэцэнзенты:
*А. Е. Міхневіч,* доктар філалагічных навук,
*І. Я. Яшкін,* кандыдат філалагічных навук

**Янкова Т. С.**
Я 62 Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны.— Мн.: Навука і тэхніка, 1982.— 432 с.
У пер.: 1 р. 60 к.

У слоўніку падаецца каля сямі тысяч слоў, запісаных за два дзесяцігоддзі ў Лоеўскім раёне Гомельскай вобласці. Шырока паказана народная фразеалогія.
Разлічан на мовазнаўцаў і этнографаў, пісьменнікаў і журналістаў, выкладчыкаў і студэнтаў ВНУ.

**Я $\frac{4602020000-095}{М316-82}$ 105—82** **ББК 81.2Бел-4**
**4Бел**

# ПРАДМОВА

«Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны» змяшчае лексіку, характэрную для мясцовай гаворкі сельскага насельніцтва на тэрыторыі паабапал р. Дняпра ў аколіцах г. Лоева Гомельскай вобласці. Раён гэты досыць цікавы ў дыялектных адносінах. Гаворка яго займае берагавое становішча ў палескай групе гаворак, да якой яна адносіцца генетычна. На поўначы яна мяжуе з разнастайнымі дыялектнымі гаворкамі наваколля Гомеля, а на ўсходзе — з гаворкамі Чарнігаўскай вобласці. Па слоўнікаваму складу гаворка гэтай часткі Палесся яшчэ не даследавалася. У той жа час навуковая і практычная цікавасць да лексічных багаццяў гэтага старажытнага краю па Дняпры і нізоўі Сожа вельмі вялікая. Геаграфічнае палажэнне рэгіёна (на стыку некалькіх дыялектных груп) абумовіла багацце і разнастайнасць яго гаворкі. У слоўнік уключана не толькі вузка тэрытарыяльная лексіка Лоеўшчыны, але і лексіка яе наваколля.

Гаворка Лоеўскага раёна ў сучасным стане не з'яўляецца аднароднай. Вызначаюцца тры асноўных групы: гэта гаворка карэнных жыхароў Лоеўшчыны, гаворка перасяленцаў з былой Мінскай і Магілёўскай губерняў і гаворка перасяленцаў з былой Чарнігаўскай губерні.

Бясспрэчна, найбольшую цікавасць мае гаворка карэнных жыхароў Лоеўскага раёна, якая сумяшчае асаблівасці як беларускай, рускай, так і ўкраінскай моў. Лексіка сельскага насельніцтва гэтай гаворкі ўключана ў слоўнік.

Галоўныя фанетычныя асаблівасці гаворкі наступныя:

У палажэнні пад націскам, акрамя галосных-манафтонгаў *і, ы, у, е, о, а,* падобных да галосных у беларускай літаратурнай мове, у традыцыйнай гаворцы адзначаюцца таксама дыфтонгі: *уо* ў гістарычна новых закрытых складах: *вуол, куонь, стуог, суон* і *іе* на месцы

этымалагічных *ѣ, е: ді͡ед, хлі͡еб, на сталі͡е, сі͡ем, пі͡еч.* Дыфтонг *у͡о* адзначаецца не толькі на месцы *о* з этымалагічнага *о,* але і на месцы галоснага *о* з *ъ (су͡он);* дыфтонг *і͡е* сустракаецца не толькі на месцы *ѣ,* але і на месцы этымалагічнага *е* ў гістарычна новых закрытых складах *сі͡ем, пі͡еч* (дыфтонгі ў тэксце слоўніка не абазначаны).

Непаслядоўнасць пераходу *е́* з этымалагічнага *е* і *ь* ў *о* ў пэўных фанетычных умовах. У лексічна абмежаваных выпадках не назіраецца пераход *е* ў *о* пад націскам перад цвёрдымі зычнымі і ў канцы слова, г. зн. у тых выпадках, дзе фанетычна заканамерны пераход у *о: авес, мед, далека, Хведар, усе поле, мае пісмо, твае гасцеванне, е работа* і інш. (паралельна ўжываюцца *аўёс, мёд, усё, маё).*

Важнай асаблівасцю, якая адрознівае гаворку ад іншых беларускіх і ад паўночнаўкраінскіх гаворак, з'яўляецца пераход этымалагічнага *ы* ў *у* пасля губных і губназубнога *в* (як пад націскам, так і без націску) у каранях слоў, прыстаўках і канчатках розных часцін мовы ў выніку моцнай лабіялізацыі губных і губна-зубнога *в: бук, кабула, му, муш, ву, вукінула, паграбу.*

Вакалізм першага пераднаціскнога складу характарызуецца наступнымі асаблівасцямі:

Наяўнасцю рэштак акання, якое ў гаворцы прадстаўлена як асімілятыўнае, пры супадзенні гукаў [*о*] і [*а*] ў адным галосным [*а*] перад усімі іншымі націскнымі галоснымі: *столóм,* але *сталá, сталý, сталы́; ногóй,* але *нагá, нагí, назé* і г. д.

Супадзеннем галосных няверхняга пад'ёму *е, о, а* ў першым пераднаціскным складзе пасля мяккіх зычных у *е,* сярэднім паміж *е* і *а* ([$e^a$]).

Вымаўленне галоснага *а* ў першым і другім складзе перад націскам больш працяглае і з выразным павышэннем тону, у выніку чаго робіцца ўражанне найбольшай паўнаважнасці і сілы гэтага складу. Падаўжэнне адбываецца ў пазіцыі перад галоснымі верхняга пад'ёму: *ва̄зілі, ра̄біла, за̄ Мікулічы, па̄сылаць, па̄дышоў, да̄купіцца, за̄губіў.*

У сістэме зычных адзначаюцца наступныя асаблівасці:

Адсутнасць аглушэння звонкіх зычных у становішчы

перад глухімі і на канцы слова: *гроб, боб, сад, клад, нож, мороз, суседка, лёгка, ражка, казка* і інш.

Асаблівая артыкуляцыя губных, якая праяўляецца ў іх напружанасці і моцным агубленні. Губныя ў гаворцы з'яўляюцца гукамі з моцнай лабіялізацыяй, у тым ліку і зычны *в*.

У гаворцы адсутнічае такая важная асаблівасць беларускіх гаворак, як дзеканне — вымаўленне мяккага *д'* з свісцячым адценнем *(дз)*. Акад. Я. Ф. Карскі гэту агульнабеларускую рысу (дзеканне разам з цеканнем) лічыў «самай характэрнай рысай беларускага кансанантызму» і тут жа падкрэсліваў, што яе няма толькі ў некаторых берагавых гаворках, пераважна паўднёва-ўсходніх, часткова ўсходніх і паўночных. У нашых гаворках зараз цеканне назіраецца: *детка, деўка, прыходіў, дядька,* але *цётка, цертушка, прыдіце* і г. д.

Не менш важнай асаблівасцю кансанантызму гаворкі з'яўляецца ацвярдзенне губных зычных. Як вядома, у беларускіх гаворках гэта зацвярдзенне абмяжоўваецца становішчам перад *j* і ў канцы слова: *сем, сып, голуб, п'у, б'у*. Зацвярдзенне захапіла становішча перад галоснымі [*а*] з ʌ і [*о*] з [*е*]. Але гэтыя галосныя заўсёды знаходзяцца пасля мяккіх зычных, таму паміж цвёрдымі губнымі і галоснымі [*а*], [*о*] з'яўляецца [*j*]: *м'аса, м'ала, п'атніца, п'атка, жараб'онак, прыў'оз* і г. д.

З марфалагічных асаблівасцей найбольш істотнымі з'яўляюцца:

Рэшткі раней прадуктыўнай катэгорыі парнага ліку: *две хаці, две сестрэ, две пісьме, две серадзе* і інш.

Рэшткі форм клічнага склону: *Тане, Каце, чалавеча, Іване.*

Ужыванне ў вінавальным склоне множнага ліку форм на *-ы, -і* для назоўнікаў, якія абазначаюць не толькі неадушаўлёныя прадметы *(па ягады, па косці)*, але і адушаўлёныя, галоўным чынам жывёл *(па валы, даіць коровы, пагналі коні)* і нават асоб (*дадуць грабцы, пакарміў деці)*.

Частковае захаванне архаічных форм давальнага і меснага склону множнага ліку: *к пастухо́м, к рыбако́м, у стого́х, на дворо́х*.

Наяўнасць кароткай формы прыметнікаў і ўжыванне яе ў ролі азначэння: *холо́дну воду, нечы́сту сілу* і інш.

«Слоўнік» складзен на матэрыяле адной гаворкі, якая

вывучалася аўтарам з 1960 па 1980 год. Асноўным метадам збірання лексічнага матэрыялу было назіранне і фіксацыя дыялектнай вуснай мовы, а таксама апытанне (пры збіранні лексікі з канкрэтным значэннем). Дыялектныя словы адабраны дыферэнцыяльна ў адносінах да беларускай літаратурнай мовы. У слоўніку змешчана наступная лексіка:

Словы з дыялектнымі карэннымі марфемамі: *хвішча* 'моцны халодны дождж ці снег з ветрам'; *хатылле* 'рыззё, лахманы'; *пла́ўны* 'бакены' і інш.

Словы, якія адрозніваюцца ад адпаведных слоў беларускай літаратурнай мовы сваёй марфалагічнай структурай: *па́куль* 'пакулле', *поло́ння* 'палонка', *памінак* 'памяць', *па-на́ські* 'па-нашаму' і інш.

Словы, якія адрозніваюцца фанематычна: *учо́рі* 'ўчора', *коро́місел* 'каромысел', *вышня* 'вішня', *вісокі* 'высокі', *палуса́днік* 'палісаднік', *халасцік* 'халасцяк', *бацілы* 'бахілы', *ба́нак* 'банк' і інш.

Словы з акцэнталагічнымі асаблівасцямі: *падсціл* 'подсціл', *паду́ст* 'подуст', *холо́сты* 'халасты', *хо́ладна* 'халодна' і інш.

Словы з граматычнымі адрозненнямі: *палуклінік* м. р. 'паліклініка', *вера́ння* ж. р. 'варэнне', *тон* м. р. 'тона'.

Словы, якія не адрозніваюцца ад слоў беларускай літаратурнай мовы сваім гукавым складам, але ў гаворцы маюць іншае значэнне: *ціка́вы* 'акуратны', *падде́ўка* 'ніжняя спадніца'.

Словы, якія часткова адрозніваюцца ад слоў беларускай літаратурнай мовы сваёй семантыкай: *паду́шка* 'падушка' і 'пярына'; *падыма́цца* 'падымацца' і 'распачынаць зборы, падрыхтоўку да чаго-небудзь'.

Словы са стылістычнай афарбоўкай, якія ў слоўніках літаратурнай мовы кваліфікуюцца як абласныя, устарэлыя, простанародныя: *бабка* 'павітуха', *байструк* 'пазашлюбнае дзіця'.

Словы з асаблівасцямі ў адносінах сінтаксічнага спалучэння з іншымі словамі: *паблагадарыць* (каму) *ему*.

Словы, агульныя са словамі ў рускай літаратурнай мове, якія шырока распаўсюджаны ў гаворцы: *пальзіцельны* 'карысны', *памрачэнне* 'галавакружэнне', *панадобіцца* 'спатрэбіцца'.

Фразеалагізмы, якія адсутнічаюць у беларускай літаратурнай мове або маюць іншае значэнне ці іншую су-

вязь паміж кампанентамі: *павуедаць гарикі* ’прагна па-ессці’, *зайца скакаць* ’быць у цеснаце’.

Асобнымі самастойнымі артыкуламі змешчаны ў слоўніку словы, утвораныя ад пералічаных вышэй груп. Гэта тлумачыцца своеасаблівасцю дыялектнага словаўтварэння, а таксама адсутнасцю невытворнай асновы для многіх дыялектных слоў, напрыклад: прадуктыўнае ўтварэнне дзеясловаў з прыстаўкай *папа-*, якая мае значэнне працягласці дзеяння: *папаякатаць,* ’паплакаць, пакрычаць’, *папаразаць*, *папаробліваць* і інш.; суфікс *-енн-* у прыметніках для абазначэння вышэйшай ступені якасці: *паганенны, красівенны, бальшэнны;* суфіксы *-енечачк-, -есенечк-, -юпесенечачк-: маленечачкі, малесенечкі, малюпесенечкі*.

У слоўніку знайшла сваё адлюстраванне самая разнастайная па свайму значэнню лексіка: назвы прадметаў ужытку, назвы страў, вопраткі, абутку, прадстаўнікоў жывой і прадметаў нежывой прыроды, сельскагаспадарчыя тэрміны, тэрміны роднасці і інш. Шырока прадстаўлены назвы дзеянняў, стану, якасці, уласцівасцей і прымет прадметаў.

Слоўнік адносіцца да тыпу тлумачальна-перакладных. Прымяняюцца тры спосабы тлумачэння:

1. Дыялектныя словы, значэнні якіх поўнасцю супадаюць са значэннем іх адпаведнікаў у беларускай літаратурнай мове, тлумачацца пры дапамозе гэтых адпаведнікаў, напрыклад: *паберажыцца* ’паберагціся’, *павымерхацца* ’прагаладацца’.

2. Дыялектныя словы, значэнні якіх не супадаюць са значэннямі слоў у літаратурнай мове, тлумачацца апісальна: *падáўніна* ’тое, што было калісь, што даўно мінула’; *паджэ́нішнік* ’дружка жаніха’ і інш.

У некаторых выпадках словы забяспечваюцца камбінаваным тлумачэннем—спалучэннем перакладу з дэталёвым апісаннем: *павекаваць* ’звекаваць, доўга пражыць на адным месцы’; *пакрэпіцца* ’падсілкавацца, падмацавацца ядой’.

Рэестравыя словы размешчаны ў алфавітным парадку з граматычнымі паметамі. Падаюцца ўсе часціны мовы (знамянальныя і службовыя). Фанетычныя варыянты рэестравых слоў не прыводзяцца, яны паказаны ў ілюстрацыйным матэрыяле. З граматычных памет для назоўнікаў указваецца род. Калі слова ўжываецца ў форме

толькі адзіночнага або множнага ліку, ставіцца: *адз.* або *мн.* Для дзеясловаў вызначаецца трыванне: закончанае або незакончанае. Некаторыя словы гаворкі маюць стылістычныя паметы і паметы эмацыянальнай ацэнкі, якія прыводзяцца пасля граматычных. Шырока выкарыстаны ілюстрацыйны матэрыял. Пасля знака △ падаюцца ўстойлівыя словазлучэнні без падзелу на ўласна фразеалагізмы і тэрміналагічныя спалучэнні.

## АБСЛЕДАВАНЫЯ НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ

Бывальскі с/с, вв. Бывалькі, Дзяражычы, Цясны.
Казярожскі с/с, вв. Казярогі, Крупейкі, Мохаў.
Карпаўскі с/с, в. Карпаўка.
Малінаўскі с/с, в. Вулкан.
Пярэдзелкаўскі с/с, вв. Барэц, Первамайск, Пярэдзелка.
Ручаёўскі с/с, в. Ручаёўка.
Страдубскі с/с, вв. Рудня Марымонава, Чаплін.
Сяўкоўскі с/с, в. Сяўкі.

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

абразл. — абразлівае
адз. — адзіночны лік
адм. — адмоўны
анат.— анатамічнае
арх.— архаічнае
асаб.— асабовы
асудж.— асуджальнае

безасаб.— безасабовы

вык.— выказнік
выкл.— выклічнік
груб.— грубае
дзеепрым.— дзеепрыметнік
дзеепрысл.— дзеепрыслоўе
дзеясл.— дзеяслоў

ж.— жаночны род

займ.— займеннік
зак.— закончанае трыванне
зб.— зборны
злучн.— злучнік
з нар.— з народнай
зняважл.— зняважлівае

іран.— іранічнае

лаянк.— лаянкавае
ліч.— лічэбнік

м.— мужчынскі род
мадальн.— мадальнае
мн.— множны лік

н.— ніякі род
неадабр.— неадабральнае
незак.— незакончанае трыванне

памянш.— памяншальнае
перан.— пераноснае
прым.— прыметнік
прыназ.— прыназоўнік
прысл.— прыслоўе
пабочн. слова—пабочнае слова

спец.— спецыяльнае
субст. прым.— субстантываваны прыметнік

узмацн.— узмацняльны
у знач. наз.— у значэнні назоўніка
уст.— устарэлае

часц.— часціца

# А

А[1] *злучн.* 1. А. *Бабкі старые сціхі пеюць: де рай, а де пекла. Там сын не сын, а Дунай настаяшчы, там голас, калі б вы пачулі.* Дзяражычы. *Ты ж маладая, а я старая, да не здолею, да прыжурылась па маіх хлопцах.* Крупейкі. *Дарагі чалавек, а друга нет, дык і цаніць не можа.* Ручаёўка. *Хата здоровая, а як жа мне ее тапіць.* Карпаўка. 2. І. *Плача грэшны чалавек, што короткі его век, плача а рыдае, што з грахамі памірае.* Первамайск. *Спраў мне, бацюшка, ачаротавы чоўнок а тонка ліпава весло, штоб ад беражка атнесло.* Чаплін.

А[2] *часц.* *А цеперака парасёнка будуць біць. А я ужэ оцета парасят расхарміру́ю.* Чаплін. *А хамінськая дачка мая була, дык ена прышла да к ей як прыстала.* Карпаўка.

А[3] *выкл.* Пры здзіўленні, злосці. *А-а, Тамарка прыехала.* Бывалькі.

АБ *прыназ.* Аб. *Распусны такі хлопец, хоць ты аб его ударся.* Дзяражычы.

АБА′БАК *м.* 1. Абабак. *Абабкі усегда растуць. Іх сушаць, а зімой вараць.* Ручаёўка. 2. Падасінавік. *Абабкі быстра сінеюць.* Казярогі. *Абабак Танечка найшла да атламала шляпку — і пасінеў зразу.* Чаплін.

АБАБІБО′К *м.* Гультай, лежабок. *Усе таварышы работаюць, а ён лежыць, абабібок.* Ручаёўка. *Токога абабібока свет не бачыў: нічога не хоча делаць.* Карпаўка.

АБАБІ′ЦЬ *зак.* Абтрэсці. *Пагуляйце, нехай ро́су абаб'е, тады пажынаіце.* Бывалькі. *Абаб'е ро́су скора.* Дзяражычы.

АБАБРА′ЦЦА *зак.* Апамятацца. *Два разы хаділа замуж, цепер цётка абабра́лася, дак гледіць на людей.* Ручаёўка.

АБАГРАВА′ЦЬ *незак.* Рабіць цёплым. *Ото грубка абаграва́е две комнаты. Давай чай грэць да его абаграва́ць, да парадела у сухое.* Дзяражычы.

АБАЖДА'ЦЬ *зак.* Пачакаць. *Бач, не еде, хоча цебе абаждáць.* Бывалькі. *Абажджыце, я у місачку накалупаю кашы.* Первамайск.

АБАЙЦІ'ЦЬ, АБЫЙЦІ'ЦЬ *зак.* Абысці. *Трэба абайціць дерэўню кругом, а свецяць пражэктарамі.* Пярэдзелка. *За день абыйдеш з корóвамі мо трыццаць кілометраў.* Ручаёўка.

АБАКЕ'ННІКІ *мн.* Знадворныя планкі ў акне. *Іді прыбі абакéннікі.* Пярэдзелка.

АБАКО'НЧЫНА *ж.* Аканіца. *Глянь, абакóнчына атарвалась, ета у тую уюгу.* Бывалькі. *Ты сегодні будеш абакóнчыны закрываць?* Дзяражычы.

АБАЛАМУ'ЦЕЦЬ *зак.* Адурэць. *Скора я абаламýчу ад твае говóркі.* Карпаўка. *Абаламýцеў хлопец.* Ручаёўка.

АБАЛО'НКА *ж.* Кош у жорнах. *Абалóнку делаюць з бляхі ці з хванеры.* Пярэдзелка.

АБАМЛЯВА'ЦЬ *незак.* Страчваць прытомнасць. *Другі раз рукі заколóцяцца — прама абамлевáю.* Дзяражычы.

АБА'ПАЛАК *м.* Аполак. *Не было достак, дак вупісала абáпалак.* Дзяражычы. *Рэжуць гарбылі — от ета абáпалкі, а тады ужэ ідуць доскі.* Ручаёўка.

АБАПІНА'ХА *ж.* Вялікая суконная хустка. *Абапінáха — ета бальшы плотóк.* Карпаўка. *Абапінáху паверх кажуха заўязуюць.* Ручаёўка. *Учорі мая кума прыходіла у лаўку у такой абапінáхі, як мая, што летась купіла перад прачыстай.* Чаплін.

АБАПНУ'ЦЬ *зак.* Завязаць, закруціць. *Абапні плотóк.* Бывалькі. *Абапні кругом шыі хустку, штоб цёпла було.* Вулкан. *Як банцік, дак завезаць, а як плотóк — абапнýць.* Дзяражычы. *А послі ж вайны німа нічога ні абапнýці, ні прыкрыці.* Бывалькі.

АБАПРА'ЦЬ *зак.* Абслужыць сціркай. *Абперы́ квацер'янтаў і абмый.* Дзяражычы.

АБАПЯ'ЦЬ *зак.* Абкрыць. *Ты плотóк мой абап'яла?* Бывалькі. *Абапні тую расцеганку.* Дзяражычы.

АБАРЭ'МАК *м.* Абярэмак. *Абарэ́мак добры набрала.* Дзяражычы. *Тут і абарэ́мка не буде. Я у раўчакох касіў, адін абарэ́мак узяў.* Карпаўка. *Прынесі абарэ́мак дроў, печ распалім.* Ручаёўка. △ *Абарэ́мкам грэ́бці.* Многа браць. *Абарэ́мкам грабé грошы.* Ручаёўка.

АБАЮ'ДНА *прысл.* Дружна, зладжана. *Абаю́дна так*

*жывуць, деляцца друг з другам. Абаю́дна, зла́гадна — адно слова.* Дзяражычы.

АБАЮ′ДНЫ *прым.* 1. Ветлівы, сяброўскі. *Девачка такая чысценькая, да абаю́дная, да нешэпелятая.* Дзяражычы. 2. Дружны, зладжаны. *От сем'я такая абаю́дная, дружная, жывуць злагадна.* Дзяражычы. *У Пашы деці абаю́дные: адін за другога гото́вы вочы выдраць.* Ручаёўка.

АББАРСА′ЦЬ *зак.* Абабраць. *Не аббарса́лі лісапету там.* Барэц. *Спорціўся трактар, кінулі его на доро́зі, дак кабіну аббарса́лі.* Пярэдзелка.

АББРЫ′ЗКАЦЬ *зак.* Апырскаць. *Нада на маладіку аббры́зкаць яблані.* Казярогі. *Сады у нас аббры́зкуюць.* Мохаў.

АББЯЖЫ′ЦІ *зак.* Аббегчы. *Як бы ена здолела, дак магла аббежы́ці увесь куток, а цепер ена не бачыць.* Дзяражычы. *Ён ізноў аббежы́ць увесь лес.* Ручаёўка.

АБВАРЫ′ЦЬ *зак.* 1. Зварыць цалкам. *Скрыгель ёй нада абвары́ць, а не кусок, толькі скрыгелічак.* Дзяражычы. 2. Апарыць. *Кіпеткам абвары́ла учорі руку, усю ноч не заснула.* Дзяражычы.

АБВЕ′РТАНЫ *дзеепрым.* Абгорнуты, абверчаны. *Не у маей меры, еты палец баліць, палец абвёртаны.* Дзяражычы. *Ено бумагамі абве́ртана.* Пярэдзелка. *Сыравымі ніткамі абве́ртана.* Чаплін.

АБВЕ′СЦІ *зак.* Абвесці, абчарціць. *Абведі карнілам усе буквы.* Бывалькі. *Перазнімай да луччай абво́дь цветы.* Казярогі. *Абведіце канавай пітомнік.* Пярэдзелка. *Як бы нача наметкі купіць: як памру, наметкаю абведу́ць гроб, дак трэба метраў чатыры наметкі купіць.* Дзяражычы.

АБВІХНУ′ЦЬ *зак.* Абкруціць. *Раней так бедна жылі, што і пальца нечым было абвіхну́ць.* Дзяражычы.

АБВІ′ЦЦА *зак.* 1. Абвіцца. *Хмель абвіўся на гале.* Дзяражычы. 2. Сесці клубком. *На гале абаўецца рой, дак падрэжа галю і у коро́бку.* Чаплін. *Рой выйшаў і абвіўсь. Рой на маленькай ветачкі можа абвіцца.* Пярэдзелка.

АБВЯРНУ′ЦЬ *зак.* Абвярцець. *Невестка пры́де, дак ена рукі абве́рне латкамі і нічога не буде рабіць.* Дзяражычы. *Абверні анучы, штоб не церлі ногі.* Казярогі.

АБГАМАНІ′ЦЬ *зак.* Параіцца. *Матка да бацька скупуе: ні прывецяць ні разу, ні абгомо́няць.* Дзяражычы.

АБГАНЯ'ЛКА *ж.* Сошка для абворвання бульбы. *Абганялка і саха — адно і тое ж.* Чаплін.

АБГАНЯ'ЦЬ *незак.* Здзімаць (ветрам). *Жукоў багата на жыці?— Багата.— Дак буде раснае, ядранае. Вецер краску абганяе, як бы ціхенька було, дак добра, було б зерно добрае, поўненькае.* Дзяражычы.

АБГА'РАНЫ *дзеепрым.* Абгарэлы. *Ты ёй хоць страляй, а ена пень дай усе — абгараны.* Дзяражычы.

АБГРЭ'ЗУВАЦЦА *незак.* Агрызацца. *Я его вуругаў, дак ён не абгрэзуецца са мной.* Ручаёўка.

АБДЗІРА'НЫ *дзеепрым.* Абарваны. *Наденься, а то ходіш абдіраны, а людi падумаюць, што німа чого надець.* Ручаёўка.

АБДЗІ'РКАВЫ *прым.* Вытканы са зрэб'я. *Абдіркавае полотно ужэ не токое добрае, як тонкае, льняное.* Ручаёўка. *А то прэдуць на абдіркі, дак ета таўшчэйшае. І на полотно кажуць абдіркавае. І на ніткі кажуць абдіркавые ніткі.* Пярэдзелка.

АБДЗІ'РКІ *мн.* Зрэб'е. *Што абдіраюць — абдіркі. Жменьку абдерэш — абдіркі адкідаеш: фтары сорт.* Пярэдзелка. *Абдіркі пасля грэбня.* Крупейкі.

АБДЗЮ'ЖЫЦЬ *зак.* Абмачыць (пра дождж). *Вымакла, як хлюшч, так дошч абдюжыў.* Дзяражычы.

АБЕ'ДАННЕ *н.* Абед. *Трэба і вечэра, і снеданне, і абеданне.* Дзяражычы.

АБЕ'ДАШНЫ *прым.* Абедзенны. *У абедашным перарыві нагадуе вуценят.* Чаплін.

АБЕ'ДЗВЕЕ *ліч.* Абедзве. *Ета ж абедвее дачкі прыежджалі.* Ручаёўка. *Іванькавы абедвее капаюць кортоплі.* Чаплін.

АБЕ'ДНІ *прым.* Абедзенны. *Магазіншчыца куды паехала? — Ей жа парарыў абедні.* Дзяражычы.

АБЕ'ЧКА *ж.* 1. Вокладка. *Красівые абечкі у цітраді.* Первамайск. 2. Кош у жорнах. *Атламалася абечка, здзелай новаю.* Первамайск. *Абечку трэ було прачысціць.* Ручаёўка.

АБЗО'Л *м.* Знешняя частка драўніны ў ствале дрэва. *Ну і рэжчыкі: столькі абзолу нарэзалі.* Дзяражычы.

АБЗО'ЛЬНЫ *прым.* Абалоністы. *Абзольные дошкі аддаў сыну на шалёўкі.* Дзяражычы.

АБІ'ДА *ж.* Крыўда. *Такая абіда на его, што змоўчыць нельга.* Чаплін. *Абіда, калі хто цебе абкраде, напрасна атругае.* Ручаёўка.

АБІДЖА′ЦЦА *незак.* Крыўдзіцца. *Я не буду абіджáцца на сваю долю: я важка не робóтала, хоць хадяйства було большóе — наймалі і рабілі.* Дзяражычы. *Мая донька, нашто табе абіджáцца: дваюрадные, траюрадные — холóдная радня.* Вулкан. *Я абіджáўсь: акціўны робóтнік, а чого-та вы мене не паменіце.* Казярогі. *Абіджáецца на Ябрыка, што его жонку вугнаў.* Ручаёўка.

АБІДЖА′ЦЬ, АБІЖА′ЦЬ *незак.* Крыўдзіць. *Я пытаю: не абіджáе цебе мая новая жонка?— Не, кажа, не абіджáе.* Дзяражычы. *Мене не абіджáюць, харашэ гледяць.* Первамайск. *Я нікога ніколі не абіжáў.* Чаплін.

АБІ′ДНА *прысл.* Крыўдна. *Мне на его тожа абíдна, я на его неміласердна, бо ён адбіў Пашу, а сам і не думаў жэніцца.* Дзяражычы. *Еслі табе шчо абíдна, скажы.* Ручаёўка.

АБІРА′ЦЬ *незак.* 1. Абрываць. *Я табаку абірáў на хаці, дак чуў.* Казярогі. *Пошóў на кустах з бабай абірáць маліну.* Чаплін. *Аж морóз па кожы сыпле, так праціўна абірáць жукоў каларадскіх.* Ручаёўка. 2. Збіраць рой. *Рой абірáюць у раёўню.* Дзяражычы. *Скарэй іді абірáй пчол — вісяць на дераві.* Ручаёўка.

АБКЛА′Д *м.* Пухліна. *У ее абклáд пад каленам, хадіць не можа.* Карпаўка. *На назе такі абклáд, усю ноч не заснула.* Крупейкі.

АБКЛА′ДКА *ж.* Свінка (хвароба). *У мене хлопчык буў сем годóў, дак абклáдка задушыла.* Дзяражычы.

АБКРА′СІЦЬ *зак.* Нафарбаваць. *Нашто ты абкрáсіла рот? У нас жа ніхто не красіцца.* Первамайск.

АБКУ′ТВАЦЬ *зак.* Захутаць. *Абкýтай діця да панесі на вуліцу пагуляць.* Дзяражычы. *Абкýтай калыску ат мух, а то діця прачнецца скора.* Казярогі.

АБЛАВУ′ХІ *прым. перан. абразл.* Прыдуркаваты. *Вот аблавýхі, не мог сам прыці, трэба зваць.* Ручаёўка.

АБЛАЖНЫ′ *прым.* Абложны, зацяжны. *Отэта ужэ хмара нашла, буде аблажны́ дошч ліць.* Чаплін.

АБЛАМА′ЦЦА *зак.* 1. Абламацца. *Абламáўся сук пад ім.* Дзяражычы. 2. Паламацца. *Му вуехалі за село, абламáўся аўтобус, дак му не паехалі.* Дзяражычы.

АБЛЁПАЦЦА *зак.* Абляпацца. *Аблёпаўся граззю.* Карпаўка. *Свіння аблёпалась глінай — уся жоўтая.* Ручаёўка.

АБЛЁТ *м.* Веснавы вылет пчол. *Веснавы аблёт пачаўся рана.* Дзяражычы.

АБЛІ'ЦЬ *зак.* Абліць. *Нада абліць аснову.* Бывалькі. *Аснову абаллёш картапляным крухмалам, мукою.* Дзяражычы.

АБЛО'ЖНІК *м.* Абложны, зацяжны дождж. *Аблóжнік мо усю неделю буде ліць.* Ручаёўка.

АБЛЯЧЫ'ЦЬ *зак.* Вылечыць. *Чым ена хварэе?— Падучая балесць напала на ее, ніяк не аблéчаць. Тады не так брала, а цепер часта.* Дзяражычы.

АБМА'НУВАЦЬ *незак.* Абманваць. *Бач, як любіць абмáнуваць дзевак.* Казярогі. *Магазіншчыца ніколі нікогó не абмануе.* Ручаёўка.

АБМАНУ'ЦЬ *зак.* Падмануць. *Не седі, Іванечка, не седі, паднімі намет, пагледі, можа цебе деражні абманýлі да старую бабу пасаділі* (З нар. песні). Дзяражычы. *От, думае пан, калі ён мене абманýў, то любому збрэша* (З казкі). Казярогі.

АБМАРО'ЧНЫ: *узялá абмарóчная.* Пра стан непрытомнасці. *Узелá его абмарóчная.* Пярэдзелка.

АБМЕ'ШКА *ж.* Мука на корм жывёле. *Жыта ладнага і ячменю ладнага, дак ены укормяць добрага кабана: у іх і кордóплі свае, і абмéшка свая.* Чаплін.

АБМІНАВА'ЦЬ *зак.* Абмінуць. *Кажа, абмінавáў хату бабкі, так бег.* Дзяражычы.

АБМЫВА'ЦЬ *незак.* Абмываць, рабіць чыстым. *Як трэба було, дак абмывáла рану кожны день.* Дзяражычы. *За маю дяку, шо я ее абмывáла, уцета мне токóе.* Бывалькі.

АБМЫ'ЦЬ *зак.* Абмыць, зрабіць чыстым. *Я раначкі твае абмыю.* Вулкан. *Час, як памер Мішка, толькі абмýлі его, прыехала дачка.* Ручаёўка. *Памыю чэпец сабе і насавік абмыю, сцелюся сама, а мне ужэ деўяць десятак: от як скрозь полотнó гледіш дай годі, цёмна.* Дзяражычы.

АБМЯ'ГНУЦЬ *зак. перан.* Абяссілець. *Прышла не снедаўшы, дак абмягла, не здолею.* Ручаёўка.

АБМЯРДЗЕ'НІЦЬ *зак. груб.* Абразіць, зняважыць. *Шчэ скажы шчо, дак мацюкоў нагорне да абмердéніць як.* Дзяражычы.

АБМЯТА'ЦЬ *зак.* Абкідаць. *Етую пецельку трэба абметáць.* Ручаёўка. *Хто кажа абкідаю, а хто абметáю.* Чаплін.

АБО'РА *ж.* 1. Абора ў лапцях. *Абóр німа, діця, у нас.* Рудня Марымонава. *Абóры у лапцях з канапель.* Чаплін. *За твае пераборы табе не даў бог шчасця і долі, а ў нас*

*кажуць: за пераборы падкінуў чорт лапці і абóры.* Ручаёўка. 2. Вяроўка. *Капыл нада і абóры, на капыле плесці чуні.* Казярогі.

АБО'РВАЦЬ *незак.* Абрываць. *Маня абóрвала парэчкі надовечы, дак я скруціла да прысыпала сахарам.* Ручаёўка.

АБО'ЎТАЦЦА *зак.* Пакорпацца. *Пака абóўтаецца з целяцьмі, дак деці без маткі у школу пабегуць.* Дзяражычы.

АБПІНА'ЛКА *ж.* Вялікая хустка. *Абкрылася абпінáлкай, а усероўна холадна.* Казярогі. *Абпінáлкі выгадна купляць: ены вельмі цёплые.* Крупейкі.

АБРАБА'ТУВАЦЬ *незак.* Апрацоўваць. *Так і жыў Атрошка: абрабáтуваў свой планік патрохі, карміўся, чым бог пашле.* Пярэдзелка. *Трэба землю абрабáтуваць кожны год.* Ручаёўка.

АБРАБІ'ЦЦА *зак.* Запэцкацца. *Де ты так абрабілася.* Бывалькі. *Учорі ена абрабілася у канхвету, я скінула ее плацце.* Дзяражычы.

АБРАДЗІ'ЦЦА *зак.* Адзецца (прыгожа). *Абраділася у новае плацце і пашла.* Дзяражычы.

АБРАДЗІ'ЦЦА: *дачкóй абрадзіцца.* Нарадзіць дачку. *Мая завіца дачкóй абраділася.* Дзяражычы.

АБРА'ЗУ, АДРА'ЗУ *прысл.* Адразу, зразу. *Я абрáзу скажу сцішок.* Крупейкі. *Ад тае травы шкурка навалаклась — абрáзу зацегло.* Ручаёўка. *Прынесеш — адрáзу пералі молокó.* Чаплін.

АБРАКА'ЦЦА *незак.* Ахвяроўваць. *Калісь хто што пажэртвуе на ікону — ета і звалі абракáцца.* Ручаёўка.

АБРА'ТНА *прысл.* 1. Зноў. *Мінуту пастаяла і абратна пытае.* Карпаўка. *Вупілі, абрáтна становяць поўны буталь на стол.* Вулкан. *Памыю, а ена абрáтна зноў такая.* Ручаёўка. 2. Назад. *Паутаскувала, паукарчувала — саджае абрáтна.* Рудня Марымонава.

АБРА'ТНЫ *прым.* Зваротны. *Куміна вада — абрáтнае цечэнне, заварот вады.* Дзяражычы.

АБРО'К *м.* 1. Падатак. *Калісь пану плацілі абрóк хлебам, салам, палатном.* Вулкан. 2. Ахвярапрынашэнне. *Хто екі абрóк даваў — хто хоўст, хто што. Абракáцца — даваць на ікону абрóк.* Ручаёўка.

АБРУ'САК *м.* Настольнік. *Старые людзі купленую скацерку называлі абрýсак.* Вулкан. *Купленая вубіваная цветамі скацерка — абрýсак.* Казярогі.

АБРЫ'ЦЬ *зак.* Пабрыць. *Ото зайшоў сюды і гуляе, а барады абрыць некалі.* Дзяражычы.

АБРЭ'ЗНІ *мн.* Абрэзаныя галоўкі ад ботаў. *Етых абрэзняў валяецца цэлы двор, і де іх дзець.* Рудня Марымонава.

АБРЭ'МАК *м.* Абярэмак. *Матка Грышачку на абрэмак да додому панесла.* Дзяражычы.

АБРЭ'НЧ *м.* Абруч. *На бойцы абрэнч лопнуў.* Дзяражычы. *Абрэнч — абруч на бочцы, дежцы, бойцы.* Чаплін.

АБРЭ'ЧАК *м.* Рукаў ракі. *У абрэчку рыбу ловяць.* Ручаёўка. *Абрэчак скора зарасце.* Чаплін.

АБСЕМЯНІ'ЦЦА *зак.* Абзавесціся сям'ёй, абжыцца. *Ужэ ж ена абсеменілася у Маскве.* Бывалькі. *Петрыкаў дайно роботае десь далека у Сібіры, там ужэ абсеменіўся, чэцвера децей.* Ручаёўка.

АБСТАЯ'ННЕ *н.* Становішча. *Андрэй упаде на уколенца да заплача, кажа: «Пане Прося, хіба я не бачу тваe абстаянне». Шчо зробіць, дак не кажа скольки, а шчо дасі, тое і возьме.* Дзяражычы.

АБСТО'ЯЦЦА *зак.* Абжыцца. *Абстояліcь да вайны, ураг прышоў, ізбіў усе, спаліў, адін слон дай той крыву.* Ручаёўка .

АБСТРО'ІЦЬ *зак.* Пабудаваць. *Трэба ж було абстроіці усе дерэўні.* Бывалькі. *Хату абстроілі умесці з сынам, а усяк клене невестку.* Ручаёўка.

АБСУ'НУЦЦА *зак.* Асунуцца, апусціцца. *Токое памрачэнне у галаве — я так і абсунулася на землю.* Бывалькі. △ *Абсунулісь рукі.* Аб страце жадання рабіць штонебудзь (ад гора, няшчасця). *Узялі да у усіх людей абсунуліся рукі пры немцах, звелі усе на нет.* Дзяражычы.

АБУДЗЁНЫ *дзеепрым.* Абуты. *Абудёная не спраўлюсь іці, я скінула тухлі.* Ручаёўка. *Цепер усе абудёные.* Чаплін.

АБУ'РЫНЫ *мн.* Адыходы пры малацьбе і ачыстцы збожжа. *Машына абурыны складаць не буде.* Дзяражычы. *Насып корові абурын, нехай есць.* Ручаёўка.

АБХЛЯ'РЫЦЬ *зак.* Вымачыць. *Дошч так абхлярыў да ніткі.* Дзяражычы. *Пака дайшла да Мар'і, абхлярыў усю.* Ручаёўка.

АБЦАПА'ЦЬ *зак.* Абнесці. *Немцы загналі у колхозны двор і круга нас правадамі абцапалі.* Ручаёўка.

АБЦЕ'СВАЦЬ *незак.* Абчэсваць, знімаць кару з бяр-

венняў. *Сегодні абцёшым усе дерэўя.* Дзяражычы. // Абчысціць. *Ты буракі не абцесуй, а то заўянуць.* Ручаёўка.

АБЦЯГНУ'ЦЬ *зак.* 1. Абгарадзіць. *Абцегнуць городчык провалкай.* Дзяражычы. // Зацягнуць (пра хмару). *Трэба ж вутак гадаваць, а то абцегнула хмара, дошч пойде.* Ручаёўка. 2. Аб'ехаць. *Нагулялась добра, я ужэ абцегнула увесь свет.* Крупейкі.

АБЧЫРЫ'ЦЬ *зак.* 1. Абчарціць, абвесці лініяй. *Абчырыла роўненька ліст.* Первамайск. 2. Намазаць, напэцкаць. *Он як мая донька умее пісаць: абчырыла усю кніжку.* Ручаёўка. 3. Абкружыць. *Деці мене абчыраць і на беседу завуць.* Ручаёўка.

АБЧЭ'РЫЦЬ *зак.* Адкласці яйкі (пра пчол). *Матка добра абчэрыла усе чарачкі.* Пярэдзелка.

АБШАЛЕ'ХТАЦЬ *зак.* Абсесці. *Мухі абшалёхталі хлеб.* Пярэдзелка.

АБШАЛЁХТАЦЬ *зак.* Абарваць. *Уночы хлопцы абшалёхталі усю ябланю.* Дзяражычы.

АБШКРЭ'БЦІ *зак.* Аскрэбці, ачысціць. *Абшкрэбла на абед кордопляў.* Пярэдзелка. *Абшкрэбу кортоплікаў да зделаю жаранікаў.* Чаплін.

АБШУ'КАЦЦА *зак.* Уладкавацца. *Сядем на каня, абшукаемся і паедем.* Дзяражычы.

АБШЧАПЕ'РЫЦЬ, АБШЧАРЭ'ПІЦЬ *зак.* Абняць за шыю. *І так абшчаперыў, шо аж рукі пабелелі.* Пярэдзелка. *Ена ляжа ле мене, абшчэрэпіць за шыю.* Дзяражычы.

АБШЧЫКНУ'ЦЦА *зак.* Аблегчы шчыльна (пра вопратку). *Казачына сперади і з бокоў абшчыкнецца шчытна, а там ззаду зборкі, зборкі.* Пярэдзелка. *Ну і плацці у девак — абшчыкнецца, усё відна.* Ручаёўка.

АБШЫВА'НКА *ж.* Лодка на аднаго чалавека. *Дай бо, брат, абшыванкі свае, з'ежджу за гусямі: пераплылі на той бераг.* Рудня Марымонава.

АБЫЗ'Я'ЦЬ *зак.* Абабегаць, наведаць розныя мясціны. *То ж сёдні дахтуры там, а то ена б усе село абыз'яла.* Дзяражычы.

АБЫЙЦІ'ЦЦА *зак.* Абысціся. *Мы без цебе маглі б абыйціцца.* Рудня Марымонава. *Еслі можна абыйціцца, не залазь у даўгі.* Ручаёўка.

АБЫХО'Д *м.* Абход. *Абыход ізделаю, праверу, абгледжу.* Первамайск.

АБ'ЯДА'ЦЦА [1] *незак.* Есці звыш меры. *Летась сваe ігрушы булі, деці цэлае лета аб'едаліся.* Дзяражычы.

АБ’ЯДА’ЦЦА² *незак. перан.* Агрызацца. *Такі стары, а шчэ са усімі аб’едáецца, такі езыкаты, да усе ему трэба.* Ручаёўка.

АБЯЗА’ЦЕЛЬНА *прысл.* Абавязкова. *Етае возера пан іздаваў у арэнду, штоб лавілі рыбу і абезáцелна здавалі пану.* Вулкан.

АБЯРНА’ЦЦА *незак.* Зрабіць абарот. *Даў сто рублей, дай абернáйся як хочаш—і крый, і харані его.* Ручаёўка.

АБЯЧА’ЙКА *ж.* Вокладка. *Так скора абечáйкі парваў.* Парэдзелка. *Цепер добра: можна купіць абечáйку.* Ручаёўка.

АБЯШЧА’ЦЦА *незак.* Абяцаць. *Абешчáўся прыці на Акцебрыны.* Дзяражычы. *Ты абешчáўся любіць мене верна* (З нар. песні). Крупейкі.

АБЯШЧА’ЦЬ *незак.* Абяцаць. *Абешчáў прыехаць у вотпуск.* Дзяражычы. *У нас абешчалі даваць муку.* Рудня Марымонава. *Багата хто абешчáў мне памагці, да нікога не було.* Ручаёўка.

АВЕС, АЎЁС *м.* Авёс. *Што на гарэ дай пшанічанька, а ў даліні й авес, не па праўдзі, мае серденятка, ты са мною жывеш* (З нар. песні). Казярогі. *Авéс качаць пашлі.* Карпаўка. *Аўёс в’яжацца у снапы, качаецца.* Чаплін.

АВУ’ЦЬ *выкл.* Выгук для адгону качак. *Авýць, куды вы ідеце!* Ручаёўка.

АГАЛАДЗІ’ЦЬ *зак.* Пакінуць без ежы, прымусіць галадаць. *Ці ты мене агалóдіш, як сядеш за стол.* Казярогі. *Бадай цебе, мая Хіма, пераламіла, як ты маіх жанцоў агаладіла* (З нар. песні). Вулкан.

АГАЛІ’ЦЬ *зак.* Зрабіць бедным. *Тутакі вайна агаліла, нічога не було: ні адежы, ні лавак.* Бывалькі. *Агаліла хату, усе забрала ат Кузьмы.* Казярогі.

АГАНЁК *м.* Бальзамін. *Аганёк — цвет красны такі, красівы, як тая гваздіка, толькі меншы за ее і лісцікі не такіе.* Ручаёўка. *Аганёк, як жар, гарыць на акне.* Чаплін.

АГАРО’ДЗІНА *ж.* Агарод, участак зямлі. *Пасажу й арэх у агародіне* (З нар. песні). Ручаёўка.

АГАРО’ЖА *ж.* Агароджа, паркан. *Цёсана — агарóжа, лескаю була і жардём.* Ручаёўка. // Поручні. *Сыходіла с парахода, дак добра, шо за агарóжу ухапілася, а то була б у рацэ.* Чаплін.

АГЕ’ *часц.* Так, але. *Аге, я толькі малую атпраўлю.* Ручаёўка.

АГІ'ЛЯ *выкл.* Выгук для адгону гусянят. *Агіля, агіля, пашлі з двара!* Ручаёўка.

АГІ'СЬ *выкл.* Выгук для адгону авечак. *Агісь, куды ідеш!* Ручаёўка.

АГЛАЕ'Д *м. абразл.* Абжора. *Ужэ такіе аглаёды, шчо нічога за імі не удержыш.* Дзяражычы. *У нас пасей, дак тые аглаёды паедяць — куры паедяць.* Ручаёўка. *Ці бачыў ты такога аглаеда! Не накарміць.* Рудня Марымонава. *Аглаёд! Аб'еў Ганну і змыўся.* Пярэдзелка.

АГЛАШЭ'ННЫ *прым.* Апантаны. *Чого бежыш як аглашэнная?* Дзяражычы. *Такіе аглашэнные деці сталі — нікога не слухаюць.* Бывалькі.

АГЛЕ'ДЗЕЦЬ *зак.* Адшукаць, знайсці. *Наша курка у Варчынам хлеве нанесла еечак. Аглёделі, аж пад ей адінаццаць штук, нехай седіць — вуведе.* Бывалькі. *Гледі, каб хто не аглёдеў да не парваў.* Ручаёўка.

АГЛЕ'ДЗЕЦЦА *зак.* 1. Заўважыць, хапіцца. *Пака аглёділіся, дак німа нічога: сабака ужэ з'еў.* Дзяражычы. *Дай аглёдіцца, маці, што не уся сем'я у хаці* (З нар. песні). Крупейкі. 2. Азірнуцца. *Не аглёдісся, як пойде у школу.* Першамайск. *Не аглёдісся — сваты у хаці.* Ручаёўка.

АГНІ'СЦІК *м.* Гарэза, свавольнік. *Колька наш — настаяшчы агнісцік.* Ручаёўка. *Во еты малы, бегае, як агнісцік.* Дзяражычы.

АГО'НЬ *м.* 1. Агонь. *Агонь красалі калісь.* Бывалькі. *Пры немцах у комінку агонь клалі.* Першамайск. 2. Святло. *Запалі агонь, а то не відна.* Дзяражычы. *Увечары му запальваем агонь.* Ручаёўка. 3. Вогнішча. *Раскласці агонь трэба.* Дзяражычы. *Іван, о тут агонь кладі, а то яблына сосохне.* Ручаёўка. △ *Агонь іх знае.* Пра няведанне. *Агонь іх знае, што трэба казаць.* Казярогі. *Агонь пусціць.* Падпаліць. *Агонь пусцілі калісь у Бывальках, згарэла восім двороў.* Дзяражычы. *Агнём гарыць сёрца.* Аб стане тугі, нуды. *У бабы гарыць агнём сёрца без мене.* Дзяражычы. *Агнём паліць (смаліць).* Вельмі прыпякаць. *Паліла агнём усе лета, не було дашча.* Першамайск. *Агнём гарэць.* Пякуча балець. *Агнём гарыць, мама, чухайце. Такая балячка!* Ручаёўка. *На агня.* Навошта, нашто. *На агня ён ёй іздаўся.* Казярогі. *На агня ён мне.* Першамайск. *У агне гарэць.* Хварэць. *Ты сегодні усю ноч сама у агне гарэла.* Ручаёўка. *Хай агні запаляць, хоць агонь*

*запа́лі.* Пажаданне нядобрага. *Хай цебе агні запа́ляць, як ты мне уеўся у печонкі.* Казярогі. *Наплюём дай пайшлі, думаем, хоць цебе аго́нь запалі.* Первамайск. *Як с агню́.* Хутка. *Як с агню́ вылецелі з вады.* Первамайск.

АГРАБЛЯ'ЦЬ *незак.* Рабаваць. *Нас жа паліцаі і немцы аграбля́лі, наголо́ аграбля́лі: і касцюмы, і усе бралі.* Первамайск. *Аграбля́лі калісь у нас у лесі.* Ручаёўка.

АГРЫЗНУ'ЦЦА *зак. перан.* Груба, са злосцю сказаць. *Такую невестку Піліп узяў: ніколі не агрызне́цца, маўчыць і маўчыць, што ёй ні кажы.* Вулкан. *Наверна, езык такі, шо са усімі агрызну́лася, дак ніхто не хоча даваць.* Чаплін.

АГУРКО'ВЫ *прым.* Агурочны. *Хто кажа росо́льнік, а хто кажа боршч агурко́вы.* Ручаёўка. *Агурко́вы росо́л деці добра едяць.* Чаплін.

АДАБРА'ЦЬ *зак.* 1. Адабраць. *Адабра́лі десяць сотак плану.* Дзяражычы. 2. *перан.* Ампутаваць, адрэзаць. *Па наге ён так ударыў, што ногу адабра́лі.* Первамайск.

АДАЛЯВА'ЦЬ *незак.* Адольваць, асільваць. *Праўда людей адалева́е па прыроді.* Дзяражычы. *Поро́да адалева́е, по поро́ді такіе хоро́шые деці у Ігнаціхі.* Ручаёўка.

АДАТКА'ЦЬ *зак.* Выткаць. *Як я ататку́ — замочую, штоб сыроўка вымакла.* Дзяражычы.

АДБАРАБО'ШЫЦЬ *зак. груб.* Моцна пабіць. *Пошо́ў раз ее мужык к деўкам, дак ена его адбарабо́шыла добра.* Ручаёўка.

АДБАЯ'РЫЦЦА *зак.* Адгаварыцца, апраўдацца. *Осіпаўна умее ат усіх адбая́рыцца.* Бывалькі. *Бач, як лоўка адбая́рылася, а ужэ цэлую неделю не була на робо́ці.* Дзяражычы.

АДБІВА'ЦЬ *незак.* 1. Адбіваць. *Адбіва́й доскі, паладім шчыкет с тобо́й.* Бывалькі. 2. Адтыкаць. *Адбіва́й пляшку да вот вуп'ем.* Ручаёўка. *Бач, прынеслі канцэрву, адбіва́й тую канцэрву да на стол.* Чаплін. 3. Клеймаваць. *Учора хаділі адбіва́ць лес на делянцы у Ракітным.* Вулкан. 4. Прывабліваць да сябе хлопца ці дзяўчыну. *Клава адбіва́ла Андрэя у Марусі, а ён кінуў ее.* Бывалькі. *Не адбіва́й, падруга, друга, не адбіва́й, красавіца. Адбіва́й, падруга, друга, у цебе лёгкая рука, сорак раз скажу спасіба, што адбіла дурака* (З прыпеўкі). Карпаўка. △ *Адбіва́ць глузды́ і па́мяць.* Рабіць тупым, беспамятным. *Детачка мая, чого ты усе седіш і седіш з кніжкай, вучоба адбіва́е глузды́ і па́мець.* Бывалькі.

АДБІРА'ЦЬ *незак.* 1. Забіраць. *Соткі адбіралі, хацелі нас з ею у кучу злыгаць — сорак сотак давалі, а сорак забіралі.* Чаплін. *Калісь, бувала, на корчомцы бабы булі, шо молоко адбіраюць.* Ручаёўка. 2. Адсартоўваць. *Хуччэй адбірай кортоплі на насенне.* Пярэдзелка. *У трыццаць дев'ятам гаду пасылалі у Гомель ад драмацічаскага кружка. Паехалі утрох, мене запісалі у харавы. Там па голасу адбіралі.* Крупейкі. 3. Пазбаўляць здароўя. *Я ішчэ ў іголку укладаю, я у ачкох: вочачкі адбірае грамаць.* Бывалькі.

АДБІ'ЦЬ *зак.* 1. Адбіць. *Трэба ж — адбіла ручку у чашацці.* Бывалькі. *Шэлёўку адбіў і залез у двор.* Дзяражычы. 2. Адаткнуць, адкаркаваць. *Адбі бо пляшку, а то у мене не вуходіць.* Дзяражычы. 3. Прывабіць да сябе хлопца ці дзяўчыну. *Я на его неміласердна, бо ён адбіў Пашу, а сам і не думаў жэніцца.* Дзяражычы. // Адвярнуць. *І Іван не ходіць: баіцца — адбіла, атлекнула ат радні.* Дзяражычы. 4. Ударам пашкодзіць. *Хлопчык мой, пошоў на вуліцу да адбіў ручку, ножку. Не плач!* Чаплін. 5. Адгарадзіць. *Адбілі саж у хлеве, пасаділі парася.* Ручаёўка. 6. Завастрыць. *Адбі косу мне.* Дзяражычы. △ *Адбіць пячонкі.* Моцна пабіць. *Павел ему адбіў печонкі, трэйці день устаць не можа.* Чаплін.

АДБЫ'ЦЬ *зак.* 1. Прабыць вызначаны тэрмін. *Год адбыў.* Бывалькі. 2. Адрабіць, адпрацаваць. *Памешчык купляе вала, де тры, да аддае, у кого німа, і застаўляе адбыць тые грошы.* Бывалькі.

АДВАЛО'ЖЫЦЬ *зак.* Зрабіцца вільготным. *У нас атволожыць чуць, і земелька становіцца мокранькая.* Дзяражычы.

АДВЕ'КУ *прысл.* Спрадвеку. *Де ж ены будуць роботаць, ены ж атвеку не роботалі.* Дзяражычы.

АДВЕ'С [1] *м.* Вызначаная мера на вагах. *Па аднаму атвесу давалі мукі.* Дзяражычы.

АДВЕ'С [2] *м.* Грунтвага. *Адвесам атбілі лінію.* Дзяражычы.

АДВЕ'СЦІ *зак.* 1. Адвесці. *Трэба Таню к бабі атвесці на канікулы.* Ручаёўка. 2. Звольніць. *Его са школы атвелі.* Ручаёўка.

АДВЯРНА'ЦЬ *незак.* 1. Адварочваць. *Бежы адверні короў.* Ручаёўка. 2. Выдзяляць (маёмасць або грошы). *Ета сколькі ты мне адвернаеш?* Ручаёўка. 3. Вылічваць. *Перад той войной паны сталі землю прадаваць, малые*

*подаці даваць — трынаццаць рублей: сем рублей за зямлю адвернáлі, а шэсць — мірскіе зборы.* Бывалькі.

АДВЯРНУ'ЦЦА *зак.* 1. Адвярнуцца. *Я к ей падышла, а ена, гразь такая, атвернýлася ат мене.* Ручаёўка. 2. Адысці, адлучыцца. *Сем'я ужэ децьвішча—атвернýцца нельга.* Пярэдзелка.

АДВЯРНУ'ЦЬ[1] *зак.* Адвярнуць, накіраваць у другі бок. *Атверні корóў ат жыта.* Пярэдзелка. *Бач жа усхапіўся да атвернýў коней.* Ручаёўка.

АДВЯРНУ'ЦЬ[2] *зак.* Перамясціць з адной пасудзіны ў другую. *Хадем есці, матка атвернýла палавінкі.* Бывалькі. *Трэба атвернýць у ласкавік сыр.* Дзяражычы.

АДВЯРНУ'ЦЬ[3] *зак.* Заплаціць, аддаць. *За план трэба атвернýць целя.* Карпаўка. *Столькі грошай атвернýла сыну?* Крупейкі.

АДГАВЕ'ЦЬ *зак.* Закончыць гавенне. *У Любеч едь, адгавéй.* Дзяражычы.

АДГАВО'РУВАЦЦА *незак.* Адгаворвацца, адмаўляцца. *Ена стане адгавóрувацца, дак ён тупне: цуць, не пікні.* Дзяражычы.

АДГА'ДКА *ж.* 1. Адгадка. *На кожну загадку е адгадка.* Дзяражычы. 2. Адгадчыца. *Ой вы, бабы, вы й адгáдкі, адгадайце, што за сон* (З нар. песні). Крупейкі.

АДГНЕ'СЦІ *зак.* Выціснуць. *Адгнéсці трэба творог.* Дзяражычы. *Ета трошкі сыру му атгнетóм.* Чаплін.

АДГО'НЕЦ *м.* Парастак. *Паабрастала роза, адгóнцы ат ее пашлі.* Рудня Марымонава. *Адгóнцы мы убачылі ужэ весною.* Ручаёўка. *Памянш.* адгóнчык. *Роза пусціла адгóнчыкі.* Крупейкі.

АДГУЛЯ'ЦЬ *зак.* 1. Выкарыстаць чарговы адпачынак. *Еты год я ужэ адгуля́ла за усе гады.* Дзяражычы. 2. Згуляць. *Я довóльна ад бога: було восьмера децей, веселле адгуля́лі, ужэ меншы ажаніўся.* Бывалькі. *Аддалі Пашу за рэку, учора веселле адгуля́лі.* Дзяражычы.

АДДАВА'ЦЬ, АДДАВА'ЦІ *незак.* 1. Вяртаць узятае. *Пазычаць пазычаюць, а аддавáць не хочуць.* Ручаёўка. 2. Плаціць. *Як жа буде з перапраавай: ета нада плаціць, туды і туды па рублю аддавáці.* Рудня Марымонава. 3. Выдаваць замуж. *Братавая аддавáла мене замуж з братам.* Вулкан. *Матка дочку аддавáла, дак ігрушку ёй пасаділа.* Карпаўка. △ *Аддавáць душý.* Вельмі жадаць. *Як бы ены не пілі гарэлкі, а то душý аддаюць за гарэлку.* Дзяражычы.

АДДА'ЦЬ *зак.* 1. Аддаць. *Мам, на памый да курам аддáй.* Дзяражычы. *Скацеркі да уціральнікі паўезала да мне аддалá.* Ручаёўка. *Адно раділась діцятка, дак ена два месяцы пагадавала і нам аддалá.* Чаплін. 2. Вярнуць узятае. *Ён жа на галасаванне пазычыў грошай у Просі і не аддáў.* Дзяражычы. *Гаўрыла, не шуці, аддáй казла. Пашуціў, аддáй, хваціць.* Рудня Марымонава. 3. Заплаціць. *У нас стараста спраўляў налогі. Еслі не аддáў, то канфіскуе.* Бывалькі. *Аддáў девяцьсот с палавінай.* Чаплін. *Такіе гаршкі дарагіе: на базары цэлага рубля аддалá.* Дзяражычы. 4. Выдаць замуж. *Мая сестра любілася с адным, а бацька не аддáў за сірату, а аддáў за багатыра з Цесной.* Дзяражычы. 5. Адправіць, накіраваць на службу. *Сыночка я роднага у матросы аддалá.* Дзяражычы. 6. Пусціць у статак. *Целушку аддáў на пашу.* Первамайск. △ *Аддáць канцы́.* Памерці. *Так доўга хварэў бацька, а ета учорі аддáў канцы́, а ему толькі сорак п'яць було.* Пярэдзелка. *Аддáць дзежу з цéстам.* Аддаць усё, што можна. *А ты ему хоць і дежу з цестам аддáй, а усё мала, і усё не угодіш.* Дзяражычы.

АДДЕ'Л: *на аддéлі.* Асобна, паасобку. *Ее сын на аддéлі жыве.* Дзяражычы. *Цепер усе маладые толькі на аддéлі хочуць жыць.* Чаплін.

АДДЗЕ'ЛЬНА *прысл.* Асобна. *Гусі рэжу, дак пер'я аддéльна, а пух аддéльна.* Ручаёўка. *Купіць хто аддéлна такі велікі чыгун пабелены і держыць воду.* Карпаўка. *Галя узелася, дак ву ешчэ аддéльна жылí?* Дзяражычы. *Аддéльна жывуць недалечка.* Карпаўка.

АДДО'НІЦЬ *зак.* Зрабіць добры, вялікі стог. *Такі стог аддóнілі, люба пагледець.* Дзяражычы.

АДДУ'РВАЦЬ *незак.* Выманьваць. *Аддуры́ла у Танькі такую красіваю каробачку.* Бывалькі. *Не аддýруй у діцёнка канхвету, ты ужэ велікая девачка.* Крупейкі.

АДДЫ'ХАЦЬ *зак.* Адпачыць, аддыхнуць. *Покуль вало́ аддышуць, і мы паседім.* Дзяражычы. *А з лесу немцы як пагналí нас, за раку гналі. Стары мой буў бальны, дак просіцца: пан, дай міне адды́хаць, дак ён его у плечы, у плечы!* Карпаўка. *Пакуль прыпораюсь, тады трэба мне адды́хаць.* Чаплін.

АДДЫХА'ЦЬ *незак.* Адпачываць. *Робóтай, робóтай, а аддыхáць ніколі не даюць етые деці.* Дзяражычы.

АДДЫ'ШКА [1] *ж.* Задышка. *Адды́шка у мене, хадіць не магу.* Крупейкі.

АДДЫ′ШКА[2] *ж.* Кароткі перапынак. *Пранесла без аддышкі два ведры.* Крупейкі.

АДЖЫ′ЛЫ *прым.* Пажылы, у гадах. *Мы ужэ аджылые людi.* Пярэдзелка. *Аджылым людям i пенсая хорóшая, хто зарабiў ее.* Чаплін.

АДЗВО′ЛІЦЬ *зак.* Вызваліць ад работы. *Хоць бы тые дзеці ее ужэ адзвóлілі, дак ена б палецела к сестрэ.* Дзяражычы.

АДЗЕ′ТЫ *дзеепрым.* 1. Апрануты. *Ты ужэ адетая? Падажджы, i я iду.* Дзяражычы. 2. Забяспечаны. *Адéтые дзеці i ён. Чогó ему ешчэ трэба?* Дзяражычы.

АДЗЕ′ЦЬ *зак.* Надзець, апрануць. *Бабы прыдуць да паадеюць такіе латаные кухвайкi, а жывуць луччай мене, а я адéну не латаную кухвайку, а цэлую, дак кажуць: ена багатая.* Дзяражычы. *Ахвiцэрам навучылi, адéлi, паслалi, такi рослы, такi красiвы i пагiб.* Ручаёўка. *Забралi i на фтары день ужэ адéлi i у бой.* Чаплін.

АДЗЁНАК *м.* 1. Адонак. *Трэба намасціць адёнак. Адёнак — падсцiлка пад стогам.* Дзяражычы. // Астатак, рэшткі сена на адонку.— *Вы ужэ сена забралi? — Да не, шчэ адёнак астаўся.* Дзяражычы. 2. Капа сена, невялікі стажок. *Нема часу, девачкi, трэба астатнее сена складзцi у адёнак, а то пойде дошч.* Дзяражычы. *За п’яць днёў склалi десяць адёнкаў сена.* Дзяражычы.

АДЗІ′Н[1] *ліч.* Адзін. *На две Лутавы адiн брыгадiр.* Вулкан. *У мене було аднó замечэнне: бура прайшла — не буде дашчу да рушання.* Дзяражычы. △ *Адзiн аднагó.* Адзін другому. *Адiн аднагó не падчыняецца — вот i сварка.* Казярогі. *Адна адным.* Адзінокая. *Мархва адна адным жыве.* Рудня Марымонава. *Аднó вóка.* Дзіця. *Аднó вóка етае засталося, дак i тое налегаюць.* Дзяражычы. *Адна як вóка.* Пра адзіноцтва. *Ена адна як вóка ва iлбе.* Казярогі. *Аднó як вóка.* Адзіны. *Аднó як вóка, як дунай, вурас бальшы да красiвы.* Дяражычы. *На аднóй мéры.* Аднолькава, без змен. *У ее невесткi була дужа м’яккая робóта: робiць i усе на аднóй мéры.* Дзяражычы. *Як адна.* Усе аднолькавыя. *Як адна — усе деўкi ў постóлях.* Ручаёўка. *Да аднаго.* Усё да апошняга. *Немцы забралi да аднаé курачкi i пабiлi.* Ручаёўка.

АДЗІ′Н[2] *часц.* Толькі. *Пабач, наткала адны блiзны.* Дзяражычы. *Адiялам я зiмой укрываюсь, а летам аднóй посцiлкай.* Чаплін. *Ллюцца куры, адны вылiўкi валяюц-*

*ца.* Казярогі. *Кортóплі — адные чэрві: трэба капаць да варыць свінне.* Ручаёўка.

АДЗІНА'КАВЫ *прым.* Аднолькавы. *Маладые усе цепер адінáкавые: багата хто вучыцца, усе хáрашэ жывуць.* Ручаёўка.

АДЗУ'С *выкл.* Выгук для адгону ката. *Адзýс з лаўкі!* Дзяражычы.

АДЗЯВА'ННЕ *н.* 1. Адзенне. *Дак, канешне, не було раней такого адевáння, як цепер.* Ручаёўка. *Не путай жа, мамка, мойго гасцевання, а гатуй жа, мамка, на смерць адевáнне* (З нар. песні). Крупейкі. 2. Уборы. *Галя вурасла так хутка, давай толькі адевáнне.* Дзяражычы. *Калісь бувала празнічак, дак прыберэсся, а цепер нічога не нада —ніякага адевáння.* Ручаёўка.

АДЗЯРЖА'ЦЦА *зак.* Вытрымаць. *Як насадіць торху у грубу, дак у хаце жарка, нельга адержáцца.* Дзяражычы. *Натапі, дак тады не адéржысся, некуды деццa буде.* Первамайск.

АДКАРАБО'ШЫЦЬ *зак. абразл.* Пабіць. *І так аткарабóшылі зладюгу, што чуць нoгі понёс.* Пярэдзелка.

АДКІ'НУЦЬ *зак.* 1. Адкінуць. *Адкінь скепкі з дорóгі.* Дзяражычы. 2. Адціснуць. *Адкінеш сыр, ён ісцечэ, а тады разатрэш, сметаны укінеш, а молочкóм разатрэш — і мачанне.* Дзяражычы.

АДКЛА'СЦІ *зак.* 1. Назапасіць, назбіраць. *Трэба грошай атклáсці на свадьбу.* Карпаўка. 2. Пабіць. *Усіх атклáлі немцы старых і малых, хаты папалілі, толькі маладых пагналі у лагер.* Ручаёўка.

АДКРАСА'ЦЬ *зак. груб.* Пабіць. *От січас цебе аткрэшý. Добра аткрэсáлі хлопцы: уся морда пабіта.* Пярэдзелка.

АДКРЫ'ТЫ *дзеепрым.* 1. Адчынены. *З Масквы перадавалі, шоб не завешувалі і шоб кватэрачка була аткрытая.* Дзяражычы. 2. Свабодны. *Вучонаму усегда дорóга і шлях аткрыты.* Дзяражычы. *Ему пуць такая аткрытая дай божа.* Чаплін.

АДКРЫ'ЦЬ *зак.* 1. Адчыніць. *Нада дверы аткрыць.* Карпаўка. *А трэці бочку аткрыў дай цэдіць патрошку, дае усім па вочарадi.* Чаплін. 2. Адкрыць, зрабіць бачным. *Аткрый полаг да прыберы пасцель.* Бывалькі. *Падышла другая, тая не такая, аткрыла хусцінaчку дай пацалавала. Падышла трэцяя, лічанькам красіва, дай аткрыла хусцінaчку, дай загаласіла* (З нар. песні). Дзяра-

жычы. 3. Уключыць. *Ён аткрыў свет і да дня седеў.* Ручаёўка.

АДКУЛЯ′ *прысл.* Адкуль. *Адкуля ж узяўся ахотнік малады.* Бывалькі. *Аткуля его прычына нанесла.* Дзяражычы.— *Аткуля ты? — У Кіеві жыў, аттуля і прыехаў.* Чаплін. *Де хто екі навалока, дак там у тых хатах жыве, адкуля прывалачыўся да к нам.* Ручаёўка.

АДЛЕ′ГЦІ *зак.* Адлегчы. *На дварэ трохі атлёгла сегодні.* Бывалькі. △ *Адляжа серца.* Пра заспакаенне пасля крыўды. *Свекруха калі накрычыць на мене, а я маўчу, тады атляжа ее серца, дак я кажу: ой, мама, ты на мене не сердісь.* Дзяражычы.

АДЛЁГА *ж.* Адліга. *Адлёга, калі мороз адваліўся.* Ручаёўка.

АДЛІВА′ШКА *ж.* Коўш для адлівання вады з лодкі. *Атліваашкай вычарпай воду.* Пярэдзелка. *Атлівалі воду атліваашкай, хацелі рэчку атліць.* Ручаёўка.

АДЛІ′Ў *м.* Сцёк. *Атліў зделаў, дак цепер не цечэ на голову, як ідем ле прызбы.* Пярэдзелка.

АДЛО′Г *м.* Адліга. *То ж усе урэм'я буў мороз, а то зразу атлог.* Дзяражычы.

АДЛУ′Г *прыназ.* Каб людзі не асуджалі. *Ена так вот адлуг людей насіла ім, бо люді говораць: паганы сын і невестка, бацькі не гледяць.* Дзяражычы.

АДЛУПЕ′ШЫЦЬ *зак. груб.* Моцна пабіць. *Атлупешылі хлопца ваўсю — і баста.* Пярэдзелка.

АДЛУ′ЧУВАЦЦА *незак.* Адлучацца. *Прося нікуды не атлучувалась цэлы день.* Дзяражычы.

АДЛЯКНУ′ЦЬ *зак.* Адпудзіць. *І ён не ходіць, баіцца: адбіла, атлекнула ат радні.* Дзяражычы.

АДЛЯЧЫ′ЦЬ *зак.* Вылечыць. *Маю корову атлечылі, два дні жв'які не жавала.* Дзяражычы. *У ее мо две серцы ці конскае серца, то ж крэпкая була: ат язвы атлечылі.* Ручаёўка.

АДМО′ЧКА *ж.* Нізкае, вільготнае месца. *На плану атмочкі багата.* Первамайск. *План нізкі, як мачлівы год, дак адна атмочка.* Чаплін.

АДНА′КІ *прым.* Аднолькавы. *Аднакі плацці пашыла сваім деўкам.* Дзяражычы. *Жыве кот і сабака, да доля неаднака: кот на печы, а сабака на дварэ.* Ручаёўка.

АДНО′ЛІЧКА *ж.* Аднабаковы матэрыял. *Цепер багата у магазіне е мацер'ялу і усе аднолічка.* Бывалькі. *Атлас не аднолічка.* Дзяражычы.

АДНО'РУЧАК *м.* Ручайка. *Сначала с однóручка наматваюць у мотак, а з мотка на пачынак.* Дзяражычы. *Верацено і аднóручак шчэ говораць.* Крупейкі.

АДНО'РУЧКА *ж.* Ручайка. *Две аднóручкі пераматала на пачынак. Аднóручка меншая за пачынак.* Дзяражычы.

АДО'МХАЦЦА *зак.* Агледзецца. *Адóмхаліся, дак ужэ із'еў: такі сабака, як воўк, хіба ён не з'есць.* Дзяражычы.

АДПА'СЦІ [1] *зак.* Адпасвіць. *Трэба адпáсці чэраду да паехаць у Гомель.* Казярогі. *Васіль падмеўсь адпáсць за мене.* Дзяражычы. *Заўтрі я адпасý за Просю, а у сыботу за себе.* Бывалькі.

АДПА'СЦІ [2] *зак.* 1. Адваліцца. *Бародаўку перавезала, дак атпáла.* Бывалькі. 2. Аслабець. *Я цeперакі так: пораюсь, а тады—гоп: усе мае атпáла і села.* Ручаёўка.

АДПЕ'ТАВАЦЬ *зак.* Моцна пабіць. *Я цебе так адпéтую, як пападу у содóчку.* Дзяражычы.

АДПІСА'ЦЬ *зак.* 1. Напісаць. *Атпішы́ ему пра нас усе.* Дзяражычы. 2. Завяшчаць. *Ёй трэціну трэба було атпісáць.* Вулкан. *Цешча атпісáла ету і хату, і усе, усе хадяйства.* Дзяражычы. *Я загадей атпісáла дачцэ, а то умру, дак цеганіны той буде.* Ручаёўка.

АДРАБІ'ЦЬ *зак.* Адпрацаваць доўгі час і стаць непрыгодным для працы. *Ужэ міне не рабіць, атжыла, атрабіла, цепер па-готóваму толькі.* Дзяражычы.

АДРАБО'ТАЦЬ *зак.* Адпрацаваць. *Ена атрабóтала етые дні.* Бывалькі. *Невестка ходіць у колхоз, а я стары чалавек. Ей трэба і за себе і за мене атрабóтаць.* Первамайск.

АДРАЯВА'ЦЬ *зак.* Пражыць без турбот. *Дачка за мною атраевáла дак атраевáла.* Дзяражычы.

АДРО'СТАК *м.* 1. Парастак. *Бач, скольки атрóсткаў роза папускала.* Чаплін. 2. Галлё. *Усякіе шохвіры е, едуць шыбенна, пасцерэблівалі атрóсткі з берозак.* Ручаёўка.

АДРУ'БАК: *атрýбак здéлаць.* Адмовіць. *Я летась не насіла молокó, зразу атрýбак здéлала.* Дзяражычы.

АДРУ'БАМ *прысл.* Раптоўна, адразу. *Я проста атрýбам: не хочу нікога браць к сабе.* Дзяражычы.

АДРУБА'ЦЬ *зак.* Адсячы. *Ідi атрубáй апоўзень.* Первамайск. *Палак дваццаць нада атрубáць.* Ручаёўка.

АДРУЖЫ'ЦЦА *зак.* Ажаніцца. *Ён туды паехаў і адружыўся, нехай жыве добра.* Дзяражычы.

АДРЭ'ЗАЦЬ *зак.* 1. Адрэзаць. *Кусок сала атрэж Сашыным дзецям.* Дзяражычы 2. *перан.* Аддзяліць частку зямельнага ўчастка. *Кортоплі тут толькі, а то гуляе земля — атрэзалі.* Ручаёўка. *Зарабіў тую нудячку, а брыгадір атрэжа.* Бывалькі. △*Адрэзаць вуха.* Пакараць *За такіе штукі трэба чарапком вуха атрэзаць.* Дзяражычы.

АДСАДЗІ'ЦЬ : *адсадзіць печкі.* Моцна пабіць. *Ён ему адсадіў печкі, усё лета прахварэў.* Дзяражычы.

АДСЕ'ДЗЬ *прысл.* Адсюль, з гэтага месца. *А ну, адседь кінь, пабачым, ці дакінеш да серэдіны.* Ручаёўка.

АДСЕ'КЦІ *зак.* 1. Адсячы. *Трэба атсекці дроў, німа ні палкі.* Дзяражычы. 2. Адняць. *Ногу атсеклі ему у больніцы, згніла нага.* Первамайск. 3. Знішчыць. *Трутняў атсеклі пчолы.* Дзяражычы.

АДСЕ'ЧАК *м.* Адсечаны кавалак дрэва. *Там узяў атсечак, дак і грубу можна натапіць.* Дзяражычы.

АДСТРА'ЧУВАЦЦА *незак.* Адтэрміноўвацца. *Армія атстрачуецца да заканчэння вучобы.* Первамайск.

АДСТРО'ІЦЬ *зак.* Адбудаваць. *Хорошы хозяін: такіе хоромы сабе атстроіў.* Ручаёўка.

АДСЫ'ПАЦЦА *зак.* Памерці. *Тады столькі атсыпалася децей.* Дзяражычы. *Хваліць богу, мошкі ужэ атсыпаліся.* Чаплін. △ *Рукі адсыпаюцца.* Пра вялікі мароз. *Такі маразяка — рукі атсыпаюцца.* Дзяражычы.

АДСЮЛЯ' *прысл.* Адсюль. *Ёна паехала адсюля ужэ васімнаццаць годоў.* Карпаўка. *Аттуля дерайяны, атсюля каменны.* Чаплін.

АДТАПІ'ЦЬ [1] *зак.* Адтапіць, стварожыць. *Аттапіць молоко трэба.* Бывалькі. *Пастаў у печ гладышкі, аттопім да заўтра і спеком конікаў.* Пярэдзелка.

АДТАПІ'ЦЬ [2] *зак.* Вымакнуць (пра пасевы). *У нас на хлеб туга: немножка пасеяў і то аттапіла, земля наша не даказуе.* Первамайск.

АДТАРАБА'НІЦЬ *зак.* 1. *перан.* Адвезці. *Івана аттарабанілі додому, бо ён як п'яны, дак зразу пачынае біцца.* Ручаёўка. 2. Нагаварыць без толку. *Аттарабаніла. Цэлы час стаяла з бабамі.* Бывалькі.

АДТАРА'ЧЫЦЬ *зак.* Аднесці. *Пайду пісьмо аттарачу на пошту.* Дзяражычы.

АДТАТУ'РАНЫ, АДТАТУ'РШЧАНЫ *дзеепрым.* Адтапыраны. *Бач, якіе аттатураные вусы у его, саўсім не*

*ідуць ему.* Ручаёўка. *Набраў арэхаў, карманы аттатўршчаные.* Чаплін.

АДТАТУ′РШЧЫЦЦА *зак.* Адтапырыцца. *Аттатўршчылася пала у пальце.* Ручаёўка.

АДТУ′ЛЬКА *прысл.* Адтуль. *Як прыду аттўлька, тады і падаю коро́ву.* Ручаёўка.

АДТУЛЯ′ *прысл.* Адтуль. *Деціну адтуля́ прывезла.* Бывалькі. *І невесткі адтуля́ пабралі.* Ручаёўка. *Сюды стогнучы, адтуля наўскачы.* Дзяражычы. *Шэсць недель булі, а дале, як погналі немца, дак мы аттуля́ у Карпаўку.* Первамайск. *Аттўль такіе выдмы: вецер выдымае такую яму, круціць і круціць.* Дзяражычы.

АДТУЛЯ′-АДСЮЛЯ′ *прысл.* З розных месцаў патроху. *Послі вайны німа нічога ні абапнуці, ні прыкрыці. Сын адтуля́-адсюля́ і прыкрыў мене.* Бывалькі. *Адтуля́-адсюля́ чого́ і назбіраецца коро́ва за день.* Карпаўка.

АДТУ′ХНУЦЬ *зак.* Зменшыцца (аб пухліне). *Нага сегодні аттўхла.* Дзяражычы. *Як к вечару аттўхне, дак жыць буде.* Ручаёўка.

АДУБЕ′ЦЬ *зак.* Вельмі змерзнуць. *Адубе́ў ат холаду, лезь на печ.* Дзяражычы. // Застыць (пра нябожчыка). *Адубе́ў ён ужэ, часы тры як сканаў.* Дзяражычы.

АДУЧЫ′ЦЬ *зак.* Адвучыць. *Я цебе атучў у сад лазіць.* Бывалькі. *Мая Маруся насіла соску на грудях, ніякім трыбам нельга було атучы́ць.* Дзяражычы.

АДХА′ЯЦЬ *зак.* Адратаваць, аказаць дапамогу. *Упаў з крышы, дак мы чуць адха́ялі его.* Пярэдзелка. *Его ж чуть атха́ялі: так напіўся на свадьбі, шчо ужэ паміраў.* Дзяражычы.

АДХВАРАСЦІ′ЦЬ *зак.* Адсцябаць. *Я вазьму хварасціну да як атхварашчу.* Чаплін.

АДХЛЯ′РЫЦЬ *зак.* Моцна пабіць. *Ена ж его так атхля́рыла, што доўга не пойде с хаты.* Дзяражычы.

АДХУ′КАЦЬ *зак.* Аджывіць, адагрэць дыханнем. *Верабейку мы як ні стараліся, а не адхўкалі — іздох.* Ручаёўка.

АДЦЮЛЯ′ *прысл.* Адсюль. *Адцюля́ да Лоева буде кілометраў чатырнаццаць.* Бывалькі. *Во аццюля́ земля цвёрдая.* Дзяражычы.

АДЧЫХВО′СЦІЦЬ *зак.* Вылаяць. *Ена ее так атчыхво́сціла, усякімі сло́вамі ќлела.* Дзяражычы.

АДЧЭ′ЗНУЦЬ *зак.* Загінуць. *Еты год такі буў, што пчолы атчэ́злі.* Дзяражычы.

АДШЧЫКНУ'ЦЬ *зак.* 1. Адшчыпнуць. *Атшчыкні мне парастачка ат етага цвета.* Дзяражычы. 2. *перан.* Адскочыць. *Я буду дома, хіба мо атшчыкнў у сельсавет.* Дзяражычы.

АДЫЙСЦІ', АДЫСЦІ' *зак.* 1. Адысці. *Далека ена не адыйшла́, скора догонім.* Первамайск. 2. Акрыяць. *Валечка такая страшкая була послі хронту, а тады адышла трохі да мала і пажыла.* Рудня Марымонава. 3. Сканаць. *Покуль воды прынесла, верабейка адыйшла́.* Крупейкі.

А'ЖНА *злучн.* Аж, ажно. *Так ударыў, а́жна вочы на лоб павыскакувалі.* Ручаёўка. *Прышоў, а́жна матка паехала у Лоеў.* Чаплін.

АЖЫ'М *м.* Нажым. *Гово́рка у нас з ажы́мам, чыстая.* Дзяражычы.

АЖЫ'ЦЦА *зак.* Абжыцца. *Ены ж цепер ажыліся, дак луччай стала, а то нічога не було.* Дзяражычы. *Толькі людечкі ажывўцца — напасць нападе екая-небудь.* Чаплін.

АЗІ'МКА *ж.* Азімая пшаніца. *Азі́мка уся вумерзла, снегу не було, а мороз крэпкі.* Дзяражычы.

АЗУВА'ЦЦА *незак.* Абувацца. *Азува́йся да скарэй бежы.* Казярогі. *Чо ты босы ходіш? Ніяк не хоча азува́цца.* Ручаёўка.

АЗУ'ЦЦА *зак.* Абуцца. *Ён толькі азўецца, падажджы.* Ручаёўка. *Азўйся у пасталы, як калісь.* Карпаўка. *Матка азўлась, наделась і пашла у цэркву.* Казярогі.

АЗУ'ЦЬ *зак.* Абуць. *Азўў адну ногу, а другую не далі — пагналі.* Казярогі.

АЗЯ'БНУЦЬ *зак.* Змерзнуць. *Такая сіверка, азя́бла я.* Дзяражычы. // Астыць. *Асталіся тые ладкі, азя́блі і ніхто не хоча есці.* Ручаёўка.

АЗЯРЫ'НА *ж.* 1. Невялікае возера. *Ле Днепра на лузі е азеры́на, там мы ловім рыбу.* 2. Рукаў ракі. *Азеры́на цечэ у Днепро.* Дзяражычы.

АІ'ДАЛЕЦЬ *зак.* Моцна надакучыць. *Аідалелі мне тые камары.* Ручаёўка.

АЙ [1] *выкл.* Ай. *Ай, куды ты прэш на ногі?* Дзяражычы.

АЙ [2] *злучн.* Ці. *Де ты быў? Дома ай так де?* Дзяражычы.

АК *злучн.* Як. *Ак увыйшлі к нам немцы, дак далі мне ены!* Карпаўка.

АКАВА'ЦЬ *зак.* 1. Акаваць. *Калісь акава́ў сундук,*

*дак на усіх хопіць.* Казярогі. 2. Закаваць. *Младшай сестрыцы табе не відаць, мене маладую жалезам акава́ць* (З нар. песні). Вулкан.

АКАЗІ′ЦЦА *зак.* Акаціцца (пра казу). *Мая каза як аказілася, дак трое казленятак було.* Чаплін.

АКАЛА′ЧУВАЦЬ *незак.* Акалочваць. *Сегодні будам акала́чуваць жыта, скарэй прыходь.* Дзяражычы.

АКАЛЕ′ЧЫЦЦА *зак.* Зрабіцца калекам, няздольным да працы. *Сын жанаты ногой акале́чыўся.* Бывалькі. *Так акале́чылася я учорі, чуць дайшла додому.* Дзяражычы.

АКАЛО′ЦІНА *ж.* Акалот. *Аколо́ціна — жыта, екое ужэ раз малацілі.* Дзяражычы. *Аколо́ціна — ета сноп жыта, абмоло́чаны аб коло́ду.* Ручаёўка.

АКАНЕ′ЧНЫ *прым.* Канцавы. *Ака́не́чная частка невада ці брэдня — кульмень.* Мохаў.

АКА′РАК *м.* Карак. *Ака́рак — хоць абодде гні.* Пярэдзелка. *Як ён мене пабіў? — Даў па ака́рку.* Чаплін. *На ака́рку сала добрае.* Дзяражычы. *У кабана ака́рак аж дрыжыць.* Казярогі. *Ермо на ака́рак надеў і паехаў.* Чаплін. △ *Сядзе́ць на ака́рку.* Гультайнічаць, жыць за чужы кошт. *Седіць на ака́рку, а ужэ дваццаты год пошоў.* Дзяражычы.

АКАРА′ВЕЦЬ *зак.* Зрабіцца брудным, худым. *Ака-ра́велі хлопцы у тым болоці.* Пярэдзелка.

АКАШАВА′ЦЦА *зак.* Пасяліцца, асесці. *Думалі акашава́цца навек у Лоеві.* Казярогі. *Акашава́лісь у Карэліі, дак і не думаюць прыежджаць.* Мохаў.

АКАШЫ′ЦЦА *зак.* Асесці, праявіцца. *Не смейся з мене, бо етая балезнь на табе акашы́цца.* Казярогі.

АКАЯ′ННІЦА *ж.* Свавольніца, гарэзніца. *Ах ты, акая́нніца малая.* Пярэдзелка. *Такая акая́нніца, усюды улезе.* Чаплін.

АКІ′НУЦЦА *зак.* Ацяліцца. *Корова скора акінецца.* Карпаўка. *Мая корова ходіць последніе дні — скора акінецца.* Чаплін.

АКІЯ′НКА *ж.* 1. Піла з тонкім палатном. *Акія́нка — войстрая, тоненькая піла, екая добра рэжа.* Пярэдзелка. 2. *перан.* Сварлівая жанчына. *Смеюцца на жонку — акія́нка, которая пііліць, як піла.* Мохаў.

АКЛЮША′ЦЦА *незак.* Затрымлівацца. *Я падаю ко-роў дай додому, аклюша́цца доўга не буду.* Дзяражычы.

АКЛЯ′КНУЦЬ *зак.* Змерзнуць, адубець. *Завежы ка-*

*наплянку, а то акля́кнеш.* Бывалькі. *Акля́к, пасінеў, як гусіны пуп, і стаіць, не іде у хату.* Дзяражычы.

АКО'НЧЫЦЦА *зак.* Скончыцца. *Молоко ако́нчылась, заўтра прыходьце.* Казярогі. *Ако́нчылась сёлета молоко, месяц да целення астаўся.* Ручаёўка.

АКО'РТНА *прысл.* 1. Дакладна, пэўна. *Ако́ртна дагаварыцца нада.* Дзяражычы. *Я табе акортна гавару, што ее прывезуць.* Ручаёўка. 2. Хутка. *Робіць да дабрэнна, дай ако́ртна.* Дзяражычы. 3. Добра. *Зделаць усе нада ако́ртна.* Дзяражычы.

АКРА'З [1] *прысл.* Якраз. *Летась, акра́з у жніва езділі.* Рудня Марымонава. *Прывезлі чобаты бацьку, а ены мне акра́з.* Чаплін.

АКРА'З [2] *часц.* Іменна. *От узялі да акра́з его направілі у Лоеў децей везці.* Ручаёўка.

АКРА'ЙКА *ж.* Тканы або плецены пояс. *Калісь акра́йкі-паесы ткалі.* Вулкан. *Жэншчыны калісь падперазуваліcь, называлась акра́йка.* Дзяражычы. *По́есам падвязуваліcь па кажухах, па світках, а акрайкамі хлопцы падвязуваліcь по сорочках ушываных, і кіціцы булі на баках. Баба бабіць, несе пелёначку, шапачку, абезацелна акра́йка даўжна быць.* Пярэдзелка.

АКРАПІ'ЦЦА *зак.* Абжыцца, усталявацца. *Акрэпіліся люді, курэнікі паставілі, з землянак, паграбоў павуходілі.* Бывалькі.

АКРА'С *м.* Масць. *У сабачанят не такі акрас, як у маткі.* Дзяражычы.

АКРУ'ЖНАСЦЬ *ж.* Акруга. *Далека наша акру́жнасць занімае.* Первамайск.

АКРЭ'ПНУЦЬ *зак.* 1. Паздаравець, набрацца моцы. *Пажыве два месяцы у мене, дак акрэ́пне унучак, дахтары так і сказалі.* Пярэдзелка. 2. *перан.* Абжыцца. *Пад'ёмных не палучыла, жалаванне не палучыла, німа у ее нічагусенька — нехай пака акрэ́пне, а тады вышле доўг.* Первамайск.

АКСЮ'ЛЯ *выкл.* Выгук для адгону жарабят. *Аксю́ля, аксю́ля, ідіце адсюль. Аксю́ля, у хлеў.* Ручаёўка.

АКУКО'БІЦЬ *зак.* Даглядзець. *От, екая ты нехорошая деўка, хоць ба ты сваю голаву акуко́біла.* Дзяражычы.

АКУРА'ТНА *прысл.* Прыстойна. *Ён такі цікавы, такі скромны, так веде себе акура́тна.* Дзяражычы.

АКУ'ТАНЫ *дзеепрым.* Агароджаны. *Хрэст акýтаны ле Чапліна.* Чаплін.

АКЦЯБРЫ'НА *ж.* Кастрычніцкае свята. *То ж ена сюды прыеде к Акцебрыні. Ты прыедь трэцега з жонкаю, а ены на хтары день Акцебрыны нехай прыедуці.* Дзяражычы.

АКЦЯ'БРШЧЫНА *ж.* Кастрычніцкае свята. *Послі Акцябршчыны адбілі Ліпнекі.* Ручаёўка.

АКЫ'Ш *выкл.* Выгук для адгону курэй. *Акыш, штоб вы подохлі.* Ручаёўка.

АЛЕ'ЙНІК *м.* Гліняны посуд, у якім трымаюць алей. *Трэ було новы алéйнік купіць.* Ручаёўка.

АЛІ *злучн.* Ці. *Жарабец алі лашыца?.* Первамайск. *Прыдi сама алі прышлі хлопца свогó.* Ручаёўка.

АЛЛЯ'НЫ, ІЛЛЯ'НЫ *прым.* Ільняны. *Калісь усе аллянае насілі, здаравей було.* Дзяражычы. *Бежыць свінка, залатая спінка, алляны хвосцік.* Чаплін. *Ілляные сорочкі толькі у старых.* Пярэдзелка.

АЛУ'ЗУВАЦЬ *незак. груб.* Прагна есці, з апетытам. *Варэнікаў налепіла, а ён так іх алýзуе.* Ручаёўка.

АЛЬПІГО'ВЫ *прым.* Шарсцяны. *Альпігóвая спадніца — шэрсцяная, чыстая.* Пярэдзелка.

АЛЮ'ШКІ *выкл.* Выгук для адгону цялят. *Алюшкі, алюшкі, у поле.* Дзяражычы.

АЛЯ' *выкл.* Выгук для адгону свіней. *Аля, пашла у хлеў.* Ручаёўка.

АМБА'Р, АНБА'Р *м.* Свіран. *Надя роботае у амбáры, ссыпае зерне.* Дзяражычы. *У анбáры зерно лежыць, там ено луччай сахраняецца.* Чаплін.

АМЯ'ЛЛЕ н. 1. Дробная салома. *Калісь рэзку давалі коровам і амялле дабаўлялі.* Дзяражычы. *Абмолоціш горох, амялля скату укінеш.* Казярогі. 2. Смецце з галовак лёну. *Амялле саберы у кучу да ешчэ раз правеем.* Пярэдзелка.

АНДАРА'К *м.* Саматканая спадніца з шэрсці. *Андаракі калісь насілі у клетачкі, у полоскі.* Дзяражычы. *Андаракі даўгіе, шырокіе у клетачкі е, а то е адной краскі.* Первамайск. // Спадніца з бавоўны. *Ткалі мы спадніцы і з порту, называлі іх андаракáмі.* Ручаёўка.

АНЕ' *злучн.* Ці. *Малака наллю у міску ане у стаканы паналіваю.* Дзяражычы. *Колічкі убіваюцца у сценку ане гвозде.* Казярогі.

АНЕ'Ж [1] *злучн.* Аднак. *Мо я умру сей год, анéж шчэ*

*і цегаюся.* Дзяражычы. *Жыў доўга у Просі, анёж прышлося вубірацца.* Ручаёўка.

АНЕ′Ж [2] *часц.* 1. Хіба. *Цепер ужэ мо другая, анёж етую пеюць?* Дзяражычы. *Анёж ужэ трэба варыць?* Пярэдзелка. *Анёж ты хочаш усе знаць?* Первамайск. 2. Так, але. *Анеж, ужэ трэба варыць абед.* Первамайск.— *Ты хочаш усе знаць?— Анеж.* Ручаёўка.

АНЕ′Ж НЕ *часц.* Так, вядома.— *Ты бачыла Кацю? — Анёж не, за целятамі бегала.— Утамілася?— Анёж не.* Рудня Марымонава.

АНУ′ *выкл.* Выгук для адгону кароў і коней. *Ану́, коройка, іді.* Ручаёўка. *Ану́, пошоў адсюля у хлеў, ану́, конік.* Чаплін.

АПАЗНІ′ЦЦА *зак.* Спазніцца. *Уставай, Проська, да іді на херму, а то апо́знісся.* Бывалькі. *Я два коромісла вады прынесла да шэсць бітонаў памыла, от і апазнілася.* Дзяражычы. *Трохі апазнілася, дак клопат.* Первамайск.

АПА′РЫЦЬ *незак.* 1. Апарыць. *Руку апарыла кіпеткам.* Ручаёўка. 2. Заварыць. *Уцета хмелем толькі асталося апа́рыць, да без дражджэй баюся класці.* Ручаёўка.

АПА′СЦІ *зак.* 1. Асыпацца, адваліцца. *Лісточык апаў, земельку прыслаў.* Чаплін. *Еты свет макаў цвет: удень зацвіў, а у ноч апа́ў.* Дзяражычы. 2. Знікнуць, высахнуць. *Вецер вее, а сонейка грэе, а раса апада́е.* Крупейкі.

АПАЧЫ′НА *ж.* 1. Вясло. *Апачы́на закладаецца у качаток, а тады грэбуць.* Дзяражычы. 2. Кармавое вясло. *Абезацельна шоб була апачы́на? — Можна проста веслом грэбць.* Рудня Марымонава.

АПЕ′КЦІ *зак.* Падсмажыць. *Трэба було на дорогу апе́кці сала.* Дзяражычы.

АПЕРАЗА′ЦЬ *зак. перан.* Ударыць. *Як апераза́ў друкам, дак ён чуць пошоў.* Дзяражычы.

АПЕ′РЫЦЬ *зак. груб.* Ударыць, выцяць. *Бойся, што б на двох нагах не аперы́ў з-пад вугла.* Чаплін.

АПЕ′ЧКІ *мн.* Фундамент печы. *Апе́чкі так склаў, што печ у бок гледзіць.* Дзяражычы.

АПІГА′СІЦЬ *зак. груб.* Выцяць, ударыць. *Апіга́шу па спіне — будеш знаць.* Дзяражычы.

АПІ′ЦЦА *зак.* Упіцца, абапіцца. *Віна апіла́ся ужэ, дак я лягу да палежу трошкі.* Дзяражычы.

АПЛА′ВА *ж.* Трэскі, смецце, якое прыбіваецца да берага ў час паводкі. *Пойде на бераг, на спіну мешок по-*

*лóжыць з дрывамі дробненькімі — аплáвай, прынесе аплаву.* Чаплін.

АПЛА'Т *м.* Плата. *Ему і аплáт хорошы, а роботаць не можа, кідае.* Дзяражычы.

АПЛЕ'ЙТУХ *м.* Аплявуха. *Ён як дасць ему аплéйтуха.* Дзяражычы.

АПЛЕ'К *м.* Гаплік. *Прышый аплéк у кажух.* Ручаёўка.

АПЛЕ'ЦЕНЬ *м.* Гліняны гаршчок, аплецены дротам. *Як у сетку усадіш горшчок, дак ета аплéцень.* Пярэдзелка.

АПО'ЎЗІНА *ж.*, АПО'ЎЗЕНЬ *м.*, АПО'ЎЗІНЫ *мн.* Апоўзіны. *Трэба бо на стог апóўзень адсекці.* Дзяражычы. *Апóўзіна кладецца наверсе стога.* Пярэдзелка. *Пакладі апóўзіны, а то вецер разбурыць стог.* Ручаёўка.

АПО'ЎНАЧ *прысл.* 1. Апоўначы. *Колькі ж можна есці апóўнач: баба ж ела с Іванам.* Дзяражычы. 2. Упоцемку.— *Патушыць свет? — Патушы, я буду апóўнач.* Дзяражычы.

АПРА'ВІЦЦА *зак.* Паправіцца. *Апірацыю ізделалі, апрáвілася дейка, хадіць стала.* Ручаёўка.

АПРАНУ'ЦЬ *зак.* Апрануць. *Апранáй кажух, а то змерзнеш.* Бывалькі. *У нас кажуць і надець і апранýць кажух—усеадно.* Чаплін.// Завязаць. *Давай касінку апрані.* Бывалькі.

АПРА'ТАЦЬ *зак.* Дагледзець. *Апрáтала б хоць тое діця, а то ходіць гразнае.* Ручаёўка.

АПРО'Ч [1] *прыназ.* Акрамя. *Старая стала, еты год нікуды не вуйшла, апрóч у сваём дварцэ.* Дзяражычы. *Пляшачку віна возьме, апрóч віна нічога не піў.* Первамайск.

АПРО'Ч [2] *прысл.* Асобна, паасобку. *Деці апрóч едяць, а умесці ніколі не пад'едяць.* Ручаёўка.

АПУ'КА *ж.* Мячык, сшыты з тканіны. *Цепер апýкі не шыюць, гуляюць куплёнымі мечыкамі.* Дзяражычы.

АПУ'ЛЯ *выкл.* Выгук для адгону куранят. *Апýля, апýля, ідіце на двор.* Ручаёўка.

АПУ'ШЧАНЫ *дзеепрым.* Запушчаны. *То дед апýшчаны, еслі б ён пабpоіўся да адеўся, дак быў бы маладым.* Дзяражычы.

АПУШЧА'ЦЬ *незак.* Апускаць. *Чого ты апушчáеш так плечы?* Казярогі. *Калінушка, размалінушка, не апушчáй голле на сінее мора* (З нар. песні). Чаплін. △

*Апушча́ць го́лаву.* Сумаваць. *Ну што ж ты зробіш. Нельзя апушча́ць голаву.* Чаплін.

АПЫНІ'ЦЦА *зак.* Апынуцца. *Ён апыніўся аж у Дамамерках, дак паатмерзалі ногі.* Ручаёўка.

АПЯКНУ'ЦЬ *зак.* Аббегаць. *Мы ж гаварылі: каб другое, дак п'яць раз апекну́ла туды і назад.* Дзяражычы.

АПЯХНУ'ЦЬ *зак.* Абрыднуць. *Апехну́ў мне еты боршч.* Пярэдзелка.

АПЯ'ЦЬ *прысл.* Зноў. *Ап'я́ць у Лоеў вызываюць.* Вулкан. *Ета вы ап'я́ць печ перабівалі?* Дзяражычы.

•АРАЛЛЯ' *ж.* Ворыва. *Нада правалачыць араллю́.* Казярогі.

АРАМО'НАК *м.* Рамонак. *Рвалі арамо́нак, усякую траву да купалі унучку, у любісціку купалі.* Ручаёўка.

АРА'ННЕ *н.* Ворыва. *Ара́нне на конях вельмі цяжко́е.* Ручаёўка.

АРА'ПТАМ *прысл.* Раптам. *Лецяць, а тады ара́птам сядуць на вішні.* Чаплін.

АРАТА'Й *м.* Араты. *Трэба мне усадьбу сеяць, арата́я ніяк не найду.* Дзяражычы. *Арата́й ета, да добры арата́й.* Ручаёўка.

АРАХО'ВЫ *прым.* Арэхавы. *Еты рак ссушыць дак на арэховаю шалупаечку.* Ручаёўка.

АРА'ЦЬ *незак.* Араць. *Я за ім не бачыла прасветласці, усе сама рабіла: і касіла, і ара́ла, і сеела.* Дзяражычы. *Картаплянішча ара́е.* Казярогі. *Ты ужэ добра ара́еш.* Чаплін. *Ара́йце ж мае да валы палавые, верніцесь мае да лета маладые* (З нар. песні). Чаплін.

АРЧАКО'ВЫ *прым.* Прыпрэжаны да караннога (пра каня). *Арчако́вы конь з пастаронкамі.* Вулкан. *Нача той конь не пад аглоблямі, арчако́вы.* Ручаёўка. *У каранном гужы раменные, а у арчако́вым канапляные.* Дзяражычы.

АРЭ'ЛЯ *ж.* Качэлі, арэлі. *Пабеглі деці к Просі на арэ́лю.* Карпаўка. *Калыхацца, дак ета як на арэ́лях.* Ручаёўка.

АСАДЗІ'ЦЬ[1] *зак.* 1. Паставіць асаду ў вокны, дзверы. *Не кожны можа асадіць вокна і дверы.* Чаплін. 2. Падагнаць шчыльна адно бервяно да другога, прыладзіць. *Де ты деў чакуху, трэба асаді́ць палена.* Ручаёўка.

АСАДЗІ'ЦЬ[2] *зак.* Наслаць хваробу, няшчасце, бяду. *А господь бог асаді́ў мене ачамі, бачу, як скрозь сіта.* Дзяражычы.

АСАТАНЕ'ЦЬ *зак.* Аслабнуць. *Сегодні трошкі асата-*

*неў вецер.* Пярэдзелка. *Ета о трошкі нача асатанéла: цепер мне луччай.* Чаплін.

АСІ′НАЎКА *ж.* Вялікая бочка з асінавай клёпкі. *Намалацілі цэлую асінаўку жыта.* Дзяражычы.

АСКАБА′ЛАК *м.* Кавалак дрэва, адломлены ветрам. *Аскабáлкам ударыла Ігната.* Пярэдзелка.

АСКРО′БАК *м. перан.* Найменшае дзіця ў сям'і. *У мене сёстры большые, а я аскрóбак, самая меншая.* Дзяражычы.

АСЛАБАНІ′ЦЦА *зак.* Вызваліцца. *У бару була две неделі, прышла назад з бору, як аслабанілася — на пажарышчы толькі попел буў.* Бывалькі.

АСЛАБАНІ′ЦЬ *зак.* Вызваліць, зрабіць вольным. *Як нашы увыйшлі, нас аслабанілі, дак адтуль, з Западнуй, вернулісь.* Карпаўка. *Прыходім, а тут чалавек педесят салдат. Прыходіць старшы, пусціў нас, аслабанілі нам нары.* Карпаўка. *Паехалі унукі мае, аслабанілі мне рукі, можна што-небудь зделаць.* Первамайск.

АСЛЕ′ПЦІ *зак.* Аслепнуць. *Столькі чытаеш, так і аслéпці можна.* Чаплін. *Даўно аслéп, жалка токóга чалавека.* Ручаёўка.

АСНАВА′ЦЬ *зак.* 1. Аснаваць. *Сем ці дванаццаць губак аснавáла.* Ручаёўка. *Уперад аснуéм, тады навіваем, а тады накідаем у ніты.* Мохаў. 2. Абцягнуць. *Калішніе людi казалі: аснуюць увесь свет дратамі.* Ручаёўка.

АСНА′Ч *м.* Плытагон. *Аснáч — плытнік, на плытох і спіць і есць. Прыбірайся, да адевайся, баба, як аснáч, да іді на роботу.* Дзяражычы.

АСО′БЕННА *прысл.* 1. Асобна, паасобку. *У две стаді ганяюць короў, той куток асóбенна. На снеданне наварыць мне асóбенна, у маленькім чыгуночку прыставіць — дак от екая була невестка.* Дзяражычы. *У деда на кніжцы грошы і у мене, у нас кніжкі асобéнна.* Ручаёўка. *Тое сабе, а тое сабе і вараць, асобенна вараць.* Чаплін. 2. Асабліва, у асаблівасці. *Добра жывуць, асóбенна маладые.* Бывалькі. *Самае хорошае сена у заліўных лугах, асóбенна па далінах.* Первамайск.

АСО′ЧНЫ *прым.* Асаковы. *Асóчнае сена не хочуць есці коровы.* Пярэдзелка.

АСТА′ВІЦЬ *зак.* Пакінуць. *Кілаграм масла астáвім на закуску.* Бывалькі. *Як у гулі кінецца, да і вучэнне астáвіць. Я ж астáвіла его у карзіні, ай вы мо уавбралі?* Дзяражычы. *Астáвіла на перацяжку чобаты.* Ручаёў-

ка. △ *Астáвіць у нявóлі.* Пакінуць цяжарнай. *Гуляў з дзеўкай, дай астáвіў ее у невóлі.* Карпаўка.

АСТАЛЬНЫ′ *прым.* Астатні. *У мурамку гуляюць: адін мурыцца, а астальные хаваюцца.* Первамайск. *Тры дні у мене пажыла, а астальные дома — і увесь вотпуск.* Чаплін.

АСТАНАВІ′ЦЦА *зак.* Спыніцца. *Ці астановіцца аўтобус ле нас?* Чаплін. *Ён астанавіўся на адной калеіне ат нас.* Ручаёўка.

АСТА′ННІ *прым.* Апошні. *То ж ужэ етая курка астáнняя: усе ужэ пад печчу.* Бывалькі. *Я учорі з′ела тваю астáннюю печэню, дак Прося крычала на мене.* Дзяражычы. *Ужэ усе палучылі, ета толькі астáнніе.* Ручаёўка.

АСТАЎЛЯ′ЦЬ *незак.* Пакідаць. *Сцегно астаўлялі ему.* Дзяражычы. *Я его сомóга пабачу і скажу: не астаўляй ты дзеўкі дома, ена не буде вучыцца, ена толькі разбалуецца.* Ручаёўка.

АСТРО′К *м.* Куслівая муха. *Астрóк такі летучы, тонкі, даўгéнькі, на скот садіцца, іх у полі нема, у лесі толькі.* Ручаёўка.

АСТРУ′ЖКА *ж.* Ачыстка ствала ад кары. *Тапаром абрабатуюць кару, палучаецца чыстая дерава, ета і называецца астрýжка.* Бывалькі.

АСУ′ДЛІВЫ *прым.* Той, які можа зганіць, абгаварыць. *Асýдлівые людзі у Чапліні.* Пярэдзелка. *Заручаеш мене, мамка, заручаеш, ой, чаму ж ты у суседачкі не путаеш, можа, тая семеечка наравіста, можа, тая семеечка асýдліва: ой, асудяць еду, хаду і говорачку, ой, як ходіш, і говорыш, і делечка робіш.* (З нар. песні). Чаплін.

АСУ′ШЧЫК *м.* Асушак. *Паабдіраюць асýшчыкі з кулідкі. Атрэж бо асýшчыка там, а то спаць хочу.* Дзяражычы.

АСЦЕПЯНІ′ЦЦА *зак.* 1. Пасталець. *Петрок ажаніўся, такі хорошы хлопец стаў, асцепеніўся — не той хлопец.* Чаплін. 2. Апамятацца, адумацца. *Я асцепенілася трохі, а то усе бацька сніцца з Якавам.* Ручаёўка.

АСЦЯНЦЫ′ *мн.* Зародкі пёраў. *Асценцы́ е у гусях: абскубаеш, а асценцы́ во так тырчаць, тырчаць такіе палачкі, і ачышчаеш іх.* Ручаёўка.

АТАБЕ′ДАЦЬ *зак.* Паабедаць. *Атабéдаю і лажуся так: вечэраць нічога не хочу.* Дзяражычы.

АТАБРА′ЦЬ *зак.* 1. Адабраць. *У старца кій атабрáць.* Дзяражычы. 2. Адняць. *Атабрáла ёй па поес ногі, дак ена*

*не ходіць.* Ручаёўка. *Тры дні лежала, адабра́ла рэч ёй і скора памерла.* Первамайск. 3. Выдзеўбці паз па канту. *Нада размераць, штоб пападала на серэдіну шулы, тады даўбеш тапаром і убіраеш долатам — так атберэ́ш чэцверць.* Ручаёўка.

АТА'ВІЦЬ *незак.* Прапускаць траву пры касьбе. *Каса ата́віць — астаўляе траву.* Пярэдзелка. *Як добра не наклепаеш касу, дак ена буде ата́віць.* Ручаёўка.

АТАМШЧА'ЦЬ *незак.* Адпомшчваць. *Калісь атамшча́лі: бралі след у людей. Етае знахарства е на Украіні.* Ручаёўка.

АТВЕ'Т *м.* Адказ. *Я падружкам атве́ту ні дала.* Карпаўка. *Я напісаў даццэ сваей, а ена атве́т дала.* Ручаёўка.

АТВЕ'ЦІЦЬ *зак.* Адказаць. *А тая атвеча́е: «Пагуляй». Ну, ена думае, што ена занятая, дак так атве́ціла.* Крупейкі.

АТО'РА *ж.* Дробная салома. *Ато́ра пойде на падсцілку корові.* Ручаёўка.

АТО'РАК *м.* Палоска, якая застаецца ад загона (пры ворыве). *На ато́рку пасеелі гарбузы.* Ручаёўка.

АТРА'ВА *ж.* 1. Атрута. *Атра́вы дала сваёй свекрусі, атравіла, а сама у цюрму пашла.* Ручаёўка. 2. *перан.* Нягоднік. *Ах ты, атра́ва, негода, я табе пакажу не слухаць бабы.* Дзяражычы. *Ета не чалавек, а атра́ва, ніяк нельга жыць з ім.* Пярэдзелка.

АХВАТНЕ'Й *прысл.* Ахвотней. *Умесці, дак ахватне́й бегуць на роботу.* Ручаёўка. *Бліжай к городу, штоб було ахватне́й ягады насіць на базар.* Чаплін.

АХЛЯ'ЦЬ *зак.* 1. Аслабець. *Коні да того ахля́лі, што неспасобны хадіць у плугу.* Ручаёўка. *Матка у нас ахля́ла саўсім: з печы не злазіць.* Первамайск. 2. Заняпасці. *Такі чалавек хазяйлівы буў: і гарэлкі не піў багата, да вайны жылі харашэ. Послі вайны мы ахля́лі, ахля́лі, нічога не асталося — ні короўкі, ні парасятка.* Дзяражычы.

АХО'ТА [1] *ж.* Паляванне. *Заўтра сабіраемся іці на ахо́ту.* Дзяражычы.

АХО'ТА [2] *ж.* Ахвота, жаданне. *Ахо́та табе з ім звязувацца.* Первамайск. △ *Ахо́та бярэ́ (бра́ла).* Пра настойлівае жаданне. *Ногі баляць, а ахо́та берэ́ браць ягады.* Ручаёўка. *Як пажаніліся, так ахо́та бра́ла танцаваць: я ж маладая пашла замуж.* Чаплін. *Ахота атпадае.* Пра

страту жадання што-н. рабіць. *Старая, дак ахо́та адпадáе роботаць, ужэ не здолею.* Первамайск.

АХО′ТНІК *м.* Паляўнічы. *Елісей калісь на болоці хадіў, убіў казла, а другі ахо́тнік падгледеў.* Рудня Марымонава. *Аткуль жа узяўся малады ахо́тнік, разбіў, разлучыў усю нашу любоў* (З нар. песні). Чаплін.

АЦАНАВА′ЦЬ *зак.* Ацаніць. *Ах, невесёлая сегодні публіка, ацанавáць ее чатыры рубліка* (З песні). Вулкан. *Веня буў такі цікавы, проста я не магу ацанавáць.* Дзяражычы.

АЦАНО′ВАНЫ, АЦАНАВА′НЫ *дзеепрым.* Ацэнены. *Мне прышла пасылка на трыццаць рублей ацано́вана.* Ручаёўка. *Пасылка на две сотні рублей ацанавáна.* Первамайск.

АЦЁПВАЦЦА *зак.* Абтрапацца. *Штаны слабые екіесь, абцёпуюцца.* Пярэдзелка.

АЦІ′ХНУЦЬ *зак.* Супакоіцца. *Аціхла трохі непутна, то ж каб чужое, а то свая стрáда.* Ручаёўка.

АЦІ′ШЫЦЦА *зак.* Супакоіцца. *Вецер аціішыўся толькі к поўначы, а цэлы день дуў так, што песком засыпала вочы.* Ручаёўка. // Супакоіцца, прыйсці ў спакойны стан. *Толькі к старасці баба аціішылася.* Чаплін.

АЦО′ПАҚ *м.* Цяльпук. *Пакажы хлопца, екі ён у цебе ужэ вырас. Ого, екі ацо́пак!* Қарпаўка. *Ого, екі ужэ ацо́пак стаў!* Дзяражычы.

АЦУРА′ЦЦА *зак.* Зусім адмовіцца. *Я ацурáлась і кінула усе, думаю, захрэсніцесь вы са усім сваім.* Дзяражычы. *Ачурáўся ат етых детак.* Чаплін.

АЧАРО′Т *м.* Чарот. *Пад'ежджаюць к ачарот-асаке: ізлазь, деўка, із калясачкі мае да жні, деўка, ачаро́туасаку, сцелі пасцель молодому казаку* (З нар. песні). Вулкан. *Паеде стары ачаро́ту накосіць, а я вусушу.* Қазярогі. *Адна рота ішла із лесу, а я драўся па ачаро́ту.* Первамайск.

АЧНУ′ЦЦА *зак.* 1. Адгукнуцца, адазвацца. *Паехаў Сашын унук дай не чутна.— Де-небудь дай ачнéцца — моладеж цепер усюды: як день, дак ідець народ угору, усякай навукі вучыцца.* Первамайск. 2. Паказацца, праявіцца. *Рак як боро́даўка ачнéцца, а тады пускае карэнне.* Ручаёўка.

АЧО′МҚАЦЦА *зак.* Апамятацца. *Чуць ачо́мкаўся: тры дні галава балела послі свадьбы.* Дзяражычы.

АЧУ'ХАЦЦА *зак.* Апрытомнець. *Палежаў трохі і ачухайся, чуць допоўз додому.* Дзяражычы.

АШО'КАЦЬ [1] *зак.* Абдурыць. *Его ашокалі — малады буў ешчэ, дай ажанілі на Пашы.* Бывалькі. *Ашокаў дурную, дак вот жыві — гледі ляльку.* Дзяражычы.

АШО'КАЦЬ [2] *зак.* Узяць верх. *Як ашокаюць кого, дак не адбіцца.* Дзяражычы.

# Б

БА[1] *узмацн. часц.* Ды. *Коля, іді ба скарэй.* Дзяражычы. *Атчапіся ба, чо ты ка мне прыстаў, а то плюхну у вочы.* Ручаёўка. *Чого ба то ім багата налогу?* Чаплін.

БА [2] *злучн.* Бо. *Не магу есці вуцінага м'яса, ба ветрам пахне.* Дзяражычы.

БАБА [1] *ж.* 1. Маці аднаго з бацькоў. *Баба, ты ляж, калі у цебе галава баліць.* Карпаўка. *От дабрэнная унучка, не забывае сває бабы.* Чаплін. 2. Прабаба. *Баба Нюра — матка маёй бабушкі.* Дзяражычы. 3. Жонка. *Ета у мене другая баба.* Дзяражычы. *На вайне разам двох сыноў пабіта, з бабай удвух натуральна жывом.* Першамайск. *Юра пошоў у прымы, ета у его трэйцяя баба, да лісавая з ім такая, ведама, баба і у цыгана ласкі даб'еецца.* Бывалькі. 4. Жанчына. *Баба ішчэ уклоніцца: драстуйце, як здоровейка ваша, а бабі ужэ восім десяткаў.* Ручаёўка. *У нас і старые бабы пробуюць хадіць на роботу.* Першамайск. *Да цішэй ву, раскрычаліся. Праўду кажуць: як две бабу базар, а п'яць, дак ярмалка.* Дзяражычы. *Памянш.* бабка. *Бабка, чого у цебе бальшая кучка вуценят, а у нас малая?* Ручаёўка. *Бабка, прыді к нам начаваць.* Чаплін. 2. Зварот да старой жанчыны. *Надовечы прышлі: бабка, дай грошай.* Ручаёўка. *У нас такая старая толькі Ходора, мо сто годоў; зайдуць чужые: бабка, як тває здороўе.* Чаплін. 3. Павітуха. *Ваша бабка — баба Матруна: усіх ена бабіла.* Чаплін.

БА'БА [2] *ж.* Прылада, якой забіваюць палі. *Заўтра бабу трэба падвезці к масту, будам сваі забіваць.* Першамайск.

БАБА'ЙКА *ж.* Вясло на плытах. *Бабайкі з лесіны зделаны.* Пярэдзелка. *О-о, добрые бабайкі, лёгенькіе да гладкіе.* Чаплін.

БА'БАЧКА: *у бабачку.* Спосаб завязвання хусткі дву-

ма канцамі на патыліцы. *Абапні под бораду, а хоць у ба́бачку завежысь.* Ручаёўка.

БА′БІЦЬ *незак.* Прымаць роды. *Баба ба́біць, несе пелёначкі, шапачку.* Дзяражычы. *Калісь я у ее ба́біла деці, а цепер у больніцы водяць.* Ручаёўка.

БА′БКА [1] *ж.* Страва з дранай бульбы. *Маруся, разагрэй ба́бку і еж.* Дзяражычы. *Натруць у той самы макацёр, паставяць ба́бкі.* Пярэдзелка. *Корто́пляў начысцім і надерэм бабкі.* Ручаёўка. *Я ба́бку салам зажарую і у печы пеку.* Чаплін.

БАБКА [2] *ж.* Дзесяць снапоў, пастаўленых для сушкі. *Па десяць снопоў становяць у ба́бкі.* Дзяражычы. *Ба́бка — десяць снопоў.* Казярогі. *Аж чатыры ба́бкі паставіла, як полоску зжала.* Чаплін.

БАБКА [3] *ж.* Кавадла, на якім клепяць касу. *Ба́бкі бываюць круглые, трохкутные, чатырохкутные.* Пярэдзелка.

БА′БКА-ПРЫРОДНІЦА *ж.* Павітуха. *Дочка, іді гукні ба́бку-прыро́дніцу. От ба́бка-прыро́дніца прышла, і ета жэншчына скоранька раділа две дочары.* Казярогі.

БА′БСКІ *прым.* Жаночы. *Што ты закруціў? То ж ба́бскі плоток.* Бывалькі. *Ета ба́бскае дела.* Казярогі. △ *Ба́бскай до́бай.* 1. Адзінока, без мужа. *Прося век жыве ба́бськай до́бай. Гаруем ба́бськай до́бай удвох з Просей, а уміраць не хочу.* Дзяражычы. 2. Будучы жанчынай. *Ба́бськай добай лезць у невад — магіла.* Первамайск. *Бабскі рад.* Жаночыя справы. *Цежало: і мужчынські рад і ба́бські рад на мне.* Дзяражычы. *Ба́бскае ра́діва.* Неабгрунтаваныя чуткі. *От ба́бськае ра́діва ужэ усё разнесла.* Карпаўка.

БАБЫ′Р *м.* Ёрш. *У нас на ерша́ кажуць бабыр.* Пярэдзелка. *Падпусці паплавок вышай, бабыро́ў наловіш.* Чаплін.

БАГА′Т *прысл.* Багата. *Бага́т грошай перавела.* Чаплін.

БАГА′ТА *прысл.* 1. Багата. *Калісь Просіны деды бага́та, бага́та жылі.* Дзяражычы. *У мого́ бацькі быў надел, поласы вузенькіе, не вельмі бага́та жылі.* Карпаўка. 2. Шмат, многа. *Такі чалавек хазяйлівы буў і гарэлкі не піў бага́та. Мужчына як зачарэпае, дак бага́та скражак вуцегне.* Дзяражычы. *Ена бага́та больніц прайшла.* Чаплін. 3. Намнога. *Ён бага́та старэй за мене.* Крупейкі. *У дерэўні старым бага́та веселей.* Чаплін.

БАГА'ТЫ *прым.* 1. Багаты. *То ж Каці усё добро: ат маткі роднай, ат цёткі і ат свекрухі забрала — ото ж ена і бага́тая.* Дзяражычы. *У бага́тай була наметка.* Бывалькі. 2. Поўны, тоўсты. *Багатае — не сухое цела, а тоўстае шчэ, хоць і старая.* Дзяражычы. △ *Бага́тая куцця́.* Вячэра перад Новым годам. *Шчадруюць на бага́тую куццю́.* Дзяражычы. *А на бага́тую куццю́ варацъ м'яса, жарацъ каўбасу.* Ручаёўка. *Перад Новым годам бага́тая куцця́ буде. Цепер ужэ гатуюць каўбасы, бліны пекуць.* Чаплін.

БАГАЦЕ'ННА *прысл.* 1. Вельмі багата. *Сілна багаце́нна жылі.* Дзяражычы. 2. Шмат, многа. *У магазін привезлі багаце́нна сахару.* Дзяражычы. *Дроў багаце́нна нада спалюваць.* Мохаў. *Ён, еты стары, багаце́нна знае чого.* Чаплін.

БАГА'ЦТВА *н.* Багацце. *Каму трэба тваё бага́цтва — цепер каб ву́чаная була.* Первамайск.

БАГНІ'СТЫ *прым.* Гразкі. *Багністае боло́та, шчо іцці па ём нельзя.* Дзяражычы.

БАГНО' *н.* Багна. *Не іді туды, там багно́ зацягне.* Мохаў. *Багно́ — такое боло́та, што туды нельзя зайці ніякім спосабам.* Пярэдзелка. *Дорога хорошая, а толькі ля Нікалаеўкі як залезлі у багно́, чуць трактар вуцег.* Ручаёўка.

БАГО'Н *м.* Багун. *Баго́н заваруюць ат прастуды.* Первамайск. *Ох, і смашна пахне баго́н.* Ручаёўка.

БАДЫЛІ'НА *ж.* Сцябліна буракоў. *Бадыліна вурасла высокая, адна асталася.* Ручаёўка.

БАДЫ'ЛЛЕ *н.* Сцяблы. *Бады́лле — з буракоў палкі.* Первамайск. *Буракоў з бады́ллем накрышу у боршч.* Бывалькі.

БАЖА'ЦЬ *незак.* Жадаць. *Чого ён бажаў, ніхто не ведае.* Дзяражычы. *Каліна-маліна, чо б ты не ўраділа? Ці сушы баісся, ці дашчу бажа́еш.— Сушы не баюся, дашчу не бажа́ю, кого люблю верна, за тым паміраю* (З нар. песні). Первамайск.

БАЗА'РНЫ *прым.* 1. Базарны. *У Гомлі неделя, серада і п'ятніца база́рные дні.* Казярогі. 2. *перан.* Прывабны, красівы. *З ею гуляў хорошы, база́рны хлопец, а выйшла замуж за маленькага, салагубенькага.* Дзяражычы.

БАЙДА'К *м.* Байда. *Байда́к — велікая лодка.* Пярэдзелка. *Каліcь параходаў не було, байдакі булі.* Крупейкі.

БА'ЙДЗІК *м.* 1. Бандыт. *Ба́йдікі ходяць у лесі, дак баімся хадіць.* Дзяражычы. 2. Лайдак. *Злазь, пабач, што твае ба́йдікі нарабілі: усю ігрушу абарвалі.* Дзяражычы.

БАЙДУ'ЖА *прысл.* Усё роўна, хоць бы што. *Прастаяла деўчына усю ноч боса, дай байду́жа, бо я чарнаморчыка люблю дужа* (3 нар. песні). Дзяражычы.

БАЙРА'К *м.* Барак. *У байраку́ адном було восім семей.* Дзяражычы. *Байрако́ў не було, а землянкі.* Ручаёўка.

БАЙРУ'ГА *м.* Ручай. *О-о, у нас байру́гі такіе. Байру́гі меншые за каўтаба́ні.* Дзяражычы.

БАЙСТРУЧО'К [1] *м.* Пазашлюбнае дзіця. *Бач, екі байстручо́к ужэ вурас, да гледіць маткі.* Ручаёўка.

БАЙСТРУЧО'К [2] *м.* Маленькая бутэлька. *Е усякіе пляшкі: велікая пляшка — трохчэцвертная, сотка — байстручо́к.* Первамайск. *Налі бо у байстручо́к малака діцяці.* Пярэдзелка.

БАКЛА'ГА *ж.* Біклага. *Бакла́гу для піцця на поле бралі.* Дзяражычы. *Бакла́га дераўяная для вады.* Казярогі. *У бакла́гу налі гарэлкі.* Пярэдзелка.

БАЛАБО'ЙКА *ж.* Балаболка. *Ты толькі слухай Ходору, ена наговорыць! Ета балабо́йка дай усе.* Дзяражычы.

БАЛАЎНЫ' *прым.* 1. Балаваны, распешчаны. *Слухмяные, мае не балаўны́е деці.* Пярэдзелка. 2. Разбэшчаны. *Балаўна́я такая деўка у Пашы, ніяк себе не беражэ, а п'е да гуляе.* Пярэдзелка.

БАЛАХО'Н *м.* Адзенне свабоднага крою. *Што ужэ цепер за мода пашла, усе і плацці і польты пашыты балахонамі.* Ручаёўка.

БАЛАЦЯ'НКА *ж.* Невялікі ўчастак сенакосу. *Две балаця́нкі вукасіў і прывез.* Дзяражычы.

БАЛБАТА'ЦЬ *незак.* 1. Балбатаць, гаварыць бязглуздзіцу. *Балбата́ў, балбата́ў з п'янкі.* Дзяражычы. 2. Пускаць бурбалкі. *Кабанчык як вычухаецца, дак так слаўна паесць, а не вычухаецца, дак есць і болбо́ча.* Дзяражычы.

БАЛЕ'ЗНЯ, БАЛЕ'СЦЬ, БАЛЕЗЬ *ж.* Хвароба. *Мае ручачкі холодные, балёзня ека.* Бывалькі. *Гуляе гульма, палец аб палец не ударыць; шоб на іх панападала екая балёзня. Хіба усе па старасці уміраюць, па балёзні болей.* Дзяражычы. — *Чым ена хварэ?* — *Падучая балёсць.* Крупейкі. *Па балёзі атправіла додому.* Карпаўка.

БАЛЕ'ЦЬ *незак.* 1. Хварэць. *І ходіць, і балée, і робіць, і деці водіць.* Дзяражычы. *Хто ета думаў, шчо будеш нездолець да балéць.* Ручаёўка. 2. Балець. *Уся старана навылет баліць.* Дзяражычы. *А я не умею без коромісла, рукі баля́ць.* Карпаўка. *Рукі, ногі баля́ць, а седі да лёпай за кроснамі.* Ручаёўка. 3. *перан.* Клапаціцца, турбавацца. *За усіх детак балéеш: і за Хведю, і за Івана.* Чаплін.

БАЛО'ТА *н.* 1. Балота. *У людей бoлóты, а у нас ужэ усе высушылі.* Бывалькі. *Хвароба пашла на мха, на балатá, на сухіе лозы.* Первамайск.//Грузкае месца. *Грузкае месца — болóта.* Казярогі. *Де сена косяць — болóта.* Дзяражычы. *Не едяць коровы сена з болóта.* Бывалькі. 2. Асушаная зямля. *У нас болóта — неважная земля, нічога там не расце.* Мохаў. *На болóці усе родіць.* Бывалькі. *На болóці сцелюць лён.* Пярэдзелка.

БАЛСА'НКА *ж.* Манерка. *Балсáнка на манерку кажуць у нас.* Цясны.

БА'ЛЬКА *ж.* Бэлька. *Бáлька — палена, на екое кладуць столь.* Бывалькі.

БАЛЬКАВО'Е *субст. прым.* Пачастунак цеслярам пасля ўкладвання бэлек для столі. *Послі, як пакладуць бáлькі, дак хазяін дабрэнны магарыч ставіць, балькавóе называецца.* Ручаёўка.

БАЛЬНЫ' *прым.* Хворы. *Але ж пара невесёлая: бальны́, усего бойся.* Дзяражычы. *Я учора нача бальнáя була, а сёдні палуччала.* Казярогі. *Бальны́ пальчык мой ужэ чатыры месяцы.* Ручаёўка. *У больніцы була шэсць недель: то жыватом лежала, то нага забалела — на бальны́е вочы і парушша леціць.* Дзяражычы.

БАЛЬШУ'ШЧЫ *прым.* Вялізны. *Бальшу́шчы такі вурас.* Вулкан. *Бальшу́шчые грошы палучае.* Казярогі.

БАЛЬШЫ' *прым.* 1. Вялікі. *У старыну, мае деткі, жылі люді бальшы́мі сем'ямі.* Дзяражычы. *Петроўка малая, дак бальшы́ мясаед.* Карпаўка. *Хадяйства було большóе—наймалі і рабілі.* Первамайск. 2. Высокі. *Сончнік бальшы́ буў, куры па сончніку хаділі.* Дзяражычы. *Кату па п'яту: не вурас бальшы́, куцы.* Крупейкі. 3. Багаты, знатны. *Як наймаюць чэлядку бальшы́е люді, дак кідаюць грошы.* Дзяражычы. 4. Нешта значнае. *Свае кінуў большóе, а пошоў у маленькае.* Казярогі.

БАЛЬШЭ'ННЫ *прым.* Велізарны. *Бальшэ́нную ямку*

*вукапалі.* Вулкан. *Таполі бальшэ́нные вураслі.* Дзяражычы.

БА'НІЦЦА *незак.* Мыцца ў лазні, парыцца. *Летам на рэчцы мыемся, а хто дома — як хто любіць, а другі, так саўсім ніде не ба́ніцца.* Ручаёўка. *Сёдні баню затапілі, будам ба́ніцца, наверна, ваўкі у лесі усе подохлі.* Чаплін.

БА'НКА *ж.* Слоік. *Поўную ба́нку накідайце малака.* Бывалькі. *Як молоко у ба́нцы лежыць, а ты не хочыш его есці, дак ета ты не голодная.* Дзяражычы.

БАНЯ *ж.* Лазня. *Ба́ні нема, ён жа не вінаваты.* Бывалькі. *Мала е ба́няў у нашай старане.* Казярогі. *Ото з ба́ні тае да не паберажылася, дак дыхаць нельга.* Дзяражычы. *У людей е ба́ні, дак ён пойде да выбаніцца.* Ручаёўка. *Памянш.* ба́нька. *Ніякай людям ба́нькі не построяць.* Ручаёўка. *Ох, і ба́нька сегодні! Добра натапілі.* Чаплін.

БАРАБО'НІЦЦА *незак.* Лаяцца, сварыцца. *Дак тая ж прыбегла, дай стала тут барабо́ніцца, чуць вугналі.* Ручаёўка.

БАРАДА'К *м.* Барадач. *За ей ішло тры казакі, тры казакі-барадакі* (З нар. песні). Ручаёўка.

БАРАЗДА' *ж.* Баразна. *Ворыва уроскідку — бараздá буде пасерэдіні.* Карпаўка. *Узела у Гены красных кортопляў да у кождую бо́разду пакідала.* Дзяражычы.

БАРА'Н [1] *м.* Баран. *Німа цепер авечак, ніде і бараноў німа.* Чаплін. △ *Рабіць казлá і баранá.* Здзекваццa. *З мене рабілі і казлá і баранá — мучылася.* Ручаёўка. *Як бара́н на но́выя варо́ты.* Разгублена, тупа, збянтэжана, нічога не разумеючы. *Чого ты тут стаіш і пагледаеш, як баран на но́выe воро́ты?* Чаплін.

БАРАН [2] *м.* Рубанак з двума ручкамі. *Баранá ты возьмеш толькі у плотнікаў.* Дзяражычы.

БАРА'НАК *м.* Абаранак. *Купіла сегодні цэлую нізку бара́нкаў.* Вулкан. *Ох, екіе сухіе бара́нкі, прама зубы мае баляць.* Первамайск.

БАРАНЕ'Ц *м.* Баран. *Повен хлевец авец, адін бара́не́ц.* Казярогі. *Баранцá купіла у Марфы к празніку.* Первамайск.

БАРА'НЧЫК *м.* Бакас.— *А чым ён крычыць?— Крычыць бара́нчык не ротам, а крыллямі.* Пярэдзелка.

БАРДЖЭ'Й *прысл.* Скарэй, хутчэй. *Его барджэ́й паднялі да паклалі наўзнач.* Дзяражычы. *Я у етай хаці*

*з девачкай, а ён: хадi барджэй, пеўне бацька умiрае.* Ручаёўка. *Iдiце за пасцеллю, берыце да барджэй насiце.* Чаплiн.

БА'РЖА *ж.* 1. Баржа. *Кадась там быў затоп, ба́ржы делалi.* Дзяражычы. 2. *перан. зняважл.* Лянiвая, непаваротлiвая жанчына. *Ото тая ба́ржа лёгам лежыць, нiчога не хоча делаць.* Бывалькi.

БАРКА'Н *м.* Паркан. *Барка́н — забор з палення.* Дзяражычы. *Барка́н — зам'ёт, што становяць з дерава.* Крупейкi. *Барка́ны з ушуламi бура павурывала.* Ручаёўка.

БАРО'ДКА *ж.* Выступ ззаду ў сякеры для захавання ручкi ад пашкоджанняў. *Боро́дкi е не у кожным тапару, а толькi у маскоўскiх.* Дзяражычы.

БА'РХАТКА *ж.* Аксамiтка. *Ле школы растуць ба́рхаткi, а у мене нема.* Мохаў.

БА'РХАТНЫ *прым.* Аксамiтавы. *У ее расцеганка е руськая, спаднiца з лентамi ба́рхатная.* Дзяражычы.

БАРШЧАВI'К *м.* Грыб баравiк (сiвы). *Грыбы баршчавiкi, са́ма у боршч етые грыбу.* Бывалькi. *Цэлую карзiну баршчавiко́ў прынесла, нiхто не хадiў там, дак ены сiвые, сiвые.* Ручаёўка.

БАРЫ'ЛА *н.* Бачонак, бочачка. *Прывезуць бочку пiва, шчэ гарэлкi бары́ла, а барыла гаварыла: калi мене не вуп'еце, то па постацi пакачусь да да каплi разаллюсь* (З нар. песнi). Чаплiн.

БА́РЫЛАЧКА *ж.* Бiтончык. *На табе бары́лачку малака, занесi цёццы Мар'i: да ее унукi прыехалi.* Ручаёўка.

БА'РЫНЯ [1] *ж. зняважл.* Гультайка. *Бач, ба́рыня, за усё лета неделi у колхозi не робо́тала.* Бывалькi.

БА'РЫНЯ [2] *ж.* Танец. *Ба́рыню калiсь усе танцавалi.* Чаплiн.

БА'РЫНЯ [3] *ж.* Гартэнзiя. *Мая ба́рыня колеры меняе: зараз ена розавая, а потым буде салатавая, а тады красная.* Ручаёўка.

БАРЫ'ЦЦА *незак.* Затрымлiвацца. *Не бары́ся доўга, скарэй прыходь додому.* Чаплiн. *Ведi, ведi, малады казачэнька, не барыся* (З нар. песнi). Казярогi. *Не бары́ся: у сенечкi дай варацiся.* Чаплiн.

БА'РЫШНЯ *ж.* 1. Дарослая дзяўчына. *Ужэ велiкая деўка — ба́рышня.* Вулкан. *Ба́рышнi у клуб пашлi.* Казярогi. 2. Партнёрша ў танцах. *Кавалер i ба́рышня —*

*ета ужо шчытаецца пара. Ба́рышні ле сцен стаяць, ждуць сваіх кавалераў.* Чаплін.

БАСАВА′ЦЬ *незак.* Спяваць басам. *У нас Варка падымае, а мы басу́ем.* Дзяражычы. *Сама пею, а деда басава́ць застаўляю.* Крупейкі.

БАСЯ′К *м.* Басяк. *Цепер такіх басяко́ў, як каліс́ь булі, німа.* Вулкан. *У нас сусед буў раней, етакі ж ба́сяк: деці з хаты паўшыбае і ее вуганіць.* Ручаёўка.

БАТАВА′ЦЦА *незак.* Шмат працаваць. *Батава́ўсь чалавек, батава́ўсь, зарабіў пятнаццаць кіло яблак.* Казярогі.

БАТВА′ *ж.* Націнне. *Батва́ бальшая парасла, а кортоплі нема.* Пярэдзелка. *У мене на гурках батва́ пажаўцела.* Ручаёўка. *Толькі корова есць ету моркоўную батву, а свінне ж ее не едяць.* Чаплін.

БАТЛАВА′ЦЬ *незак.* Неспакойна паводзіць сябе, задзірацца. *Амерыканец стаў батлава́ць.* Ручаёўка.

БАЎДО′РЫЦЬ *незак. зняважл.* Гаварыць абы-што. *Пагледі, што ета ена баўдо́рыць.* Дзяражычы. *Ці ж можна такое слухаць — баўдо́рыць што зра.* Первамайск.

БАХІ′ЛЫ, БАЦІЛЫ *мн.* Гумавыя клееныя галошы. *Бахілы я паклеіў, немцы із ног сарвалі бахілы.* Вулкан. *Калісь екіе бацілы наденеш і добра, а цепер маладым не тое трэба.* Дзяражычы. *Трэба чобот пашукаць і бахіл.* Карпаўка. *Памянш.* бахільцы. *Паклеілі бахілцы Грышачку, дак пецёрку аддала.* Чаплін.

БАХРО′МКА *ж.* Махры. *Я хацела бахро́мкай шторы абшыць, дак сын засмеяў — не модна.* Чаплін.

БАЦВІ′ННЕ *н.* Лісце буракоў. *Пайду наламлю бацвіння да брукванніку.* Дзяражычы. *Уцета пажжынала бацвінне буракоў, а іх усероўна гоніць немазнаць як.* Казярогі. *Кабану бацвіння з мукою па́ру. Хіба ж ему адных кортопель наберэшся.* Цясны.

БА′ЦЕЧКА *м.* Зварот да чалавека, незалежна ад полу. *Не муч его, ба́цечка.* Бывалькі. *Ба́цечка, доўга ж ты хаділа.* Дзяражычы.

БАЦЁК *м.* Зварот да мужчыны. *Бацёк ты мой, калі ж ты мне паладіш хлеў?* Казярогі.

БАЦІ′СТАЎКА *ж.* Хустка з батысту. *Оцета ж бацістаўка — такі красівы плоток нападобіі шоўковага.* Мохаў. *Калісь у мене було тры ці чатыры бацістаўкі.* Ручаёўка.

БА'ЦЦА *прысл.* Быццам. *Бáцца куды пашла, пагледі у хаці.* Ручаёўка. *Бáцца Таня прыбегла.* Чаплін.

БА'ЦЬКА *м.* 1. Бацька. *Прынес мой бáцька млінцоў мне.* Дзяражычы. *Бáцька, увесь подлóбісты бáцька.* Ручаёўка. 2. *мн.* Продкі. *Маткі, бацькі роботалі паншчыну.* Дзяражычы.△*А бáцьку тваймý нéмач.* Праклён. *А бáцьку тваймý нéмач, калі ты ат мене з'едіш!* Дзяражычы. *Чорт егó бáцька знáе, груб.* Хто яго ведае. *Чорт егó бáцька знáе, де ён цэлы день швэндае.* Чаплін. *Які ясень, такі клін, які бáцька, такі сын.* Па бацьках і дзеці. *Ну што ты хочыш з етага злодея: екі ясень, такі клін, екі бацька, такі сын.* Ручаёўка.

БА'ЦЬКАЎ *прым.* Бацькаў. *Ена була хрышчэніца бáцькава.* Дзяражычы.△ *Пéлі, як бáцькаў хлеб елі.* Пра бесклапотнае жыццё. *Мае деці скрозь говорацьь: пелі, як бáцькаў хлеб éлі, як на свой сталі, пець перасталі.* Бывалькі.

БАЧ [1] *выкл.* Бач. *Бач, калі прышоў, цэлы день лынды біў.* Казярогі.

БАЧ [2] *пабочн. слова.* Бачыш, як бачыш. *Ужэ грошай, бач, не палучыш.* Бывалькі. *Па пасцы гаварылі, што умер, а ён, бач, да екіх пор жыве.* Дзяражычы.

БА'ЧУЧЫ *дзеепрысл.* Бачачы. *Не бáчучы, слепому, як карміць того кабана.* Дзяражычы.

БАЮ'РЫ *мн.* Дзівосы. *Я не знаю, што за такіе баю́ры палучыліся.* Дзяражычы.

БАЯ'РА *мн.* Дружкі ў час вясельнага абраду. *Выйді, мамачка, пагледі, што табе баяра прывезлі* (З нар. песні). Пярэдзелка.

БЕ'ГАМ *прысл.* Бягом. *Я сама пабегаю да шчэ бéгам.* Дзяражычы. *Ена о—о так бéгам увесь день, як метла.* Казярогі.

БЕ'ГАЦЦА *незак.* Паляваць. *Он, твая карова бéгаецца.* Дзяражычы. *Мая ужэ бéгаецца, трэба на хверму звесці.* Первамайск. *Трэба ж столькі бéгацца: тры разы ваділа к бугаю.* Ручаёўка.

БЕ'ГАЦЬ *незак.* 1. Бегаць. *То ж ены бéгаюць, бéгаюць, а тады павыгаладжуюцца да хрэшчыка просяць.* Дзяражычы. *Сілна бéгае, крэпка бéгае сабака.* Чаплін. 2. Часта хадзіць. *Ена тае капусты не купіць, буде бегаць сюды, калі удержыш у той дежцы да весны.* Дзяражычы. *Як вы семейные, дак і бéгайце, капайце, я неўпроці.* Крупейкі.// Хадзіць. *Я бéгала к тым людзям, которые*

*міне доўжны булі.* Дзяражычы. 3. Ездзіць. *Самахвалы бе́гаюць па дерэўні цэлы день, не выпусціць ні парасяці, ні кураняці.* Дзяражычы. *Молоко прывезлі, дак машын сегодні багата бе́гае.* Крупейкі.△ *Бе́гаць за ве́трам.* Жыць бесклапотна, бестурботна і нічога не мець. *Калі б так гаравалі, як ена, а то бе́гаюць за ветрам.* Дзяражычы.

БЕ'ГЦІ *незак.* 1. Бегчы. *Бо дам во де носцыкам, дак не будеце знаць, куды бе́гці.* Дзяражычы. *Ото тое зелле, шо маж да бежы́.* Ручаёўка. 2. Ісці. *Бежы́ць пейце і гуляйце на дварэ.* Дзяражычы. *Дзеці бегу́ць: і сала паатразае і хлеба — наце у школу.* Казярогі. 3. Цячы. *Адну сегодні не падаіла, гуляла, дак стаіць і молоко дзураём бежы́ць.* Дзяражычы. *Ото ж бежыць вада з дежкі, нельга складаць капусту.* Карпаўка.△ *Бе́гці на ўсе но́гі.* Бегчы хутка. *Так ужэ бег на усе́ но́гі, і то чуць дагнаў.* Дзяражычы.

БЕДНЫ *прым.* Бедны. *Выбралі з бе́днага пакалення, калісь бацькі жылі бедна.* Дзяражычы. *На весне мы калісь дак булі бе́дные.* Казярогі.

БЕ'ЖКАМ *прысл.* Бягом, бегма. *Бе́жкам уцекаюць сейчас.* Ручаёўка.

БЕЛАГАЛО'ВІК *м.* Грыб баравік з белай шапкай. *Ох, екі красівы белагало́вік.* Карпаўка.

БЕЛАСПІ'НЫ *прым.* Масць жывёлы. *Усякіе жывёлы е ў нас: онь пашла беласпі́ная корова — Варкіна.* Казярогі.

БЕ'ЛЕНЕЧАЧКІ *прым.* Бялюсенькі, бялюткі. *Сукно валенае у палец, бе́ленечачкае воўна напрадена.* Дзяражычы.

БЕ'ЛЕНЕЧКІ *прым.* Бялюсенькі. *І здор бе́ленечкі, чысценькі.* Бывалькі.

БЕ'ЛЕНЬ *ж.* Бялізна. *Бе́лень белу расцілалі на зелену траву* (З нар. песні). Карпаўка.

БЕЛЧАНЯ' *н.* Ваверчаня. *Я бачыла у лесі, як маленькае белчаня́ па дераву бегала.* Чаплін.

БЕ'ЛЫ *прым.* 1. Белы. *Бе́лая мука була, дак я бліноў напеку да намачаюсь з медам.* Бывалькі. *Сцена бе́ла да нема, дак не с кім гаманіць.* Дзяражычы. 2. Лепшы. *Прося пашла ужэ на пенсаю, маладые гады прайшлі, ветрам пранесло, а пад старасць вушла за Хведара: не бачыла баба бе́лага, дак і сераму рада.* Дзяражычы.

БЕ'РАЖНА *прысл.* Асцярожна. *Так як я старык, дак я не думаў хавацца, не бе́ражна хадіў.* Крупейкі.

БЕРАЖЫ'ЦЦА *незак.* Засцерагацца, сцерагчыся. *От я так жа беражылася летам, штоб мух не было.* Дзяражычы.

БЕРАЖЫ'ЦЬ *незак.* 1. Берагчы. *Здароўе беражыць трэба, му ужэ старые, а ву беражыце.* Ручаёўка. *Ены беражылі сваю дачку.* Дзяражычы. 2. Ахоўваць. *Сабака у дварэ сцеражэ і беражыць, і беражыць.* Дзяражычы. *Леснік аленя беражыць: его нельзя біць.* Крупейкі. 3. Шанаваць. *Ад града празнуюць той празнічок: его трэба беражыці.* Дзяражычы.

БЕРАЗНЯ'К *м.* 1. Бярэзнік. *Па берэзнеку поўну карзіну набрала грыбоў.* Ручаёўка. 2. Бярозавыя дровы. *От хтось в'ёз берэзнеку машыну — ото добрые дрова.* Ручаёўка.

БЕРАСТО'ВЫ *прым.* Бярозавы. *Берастóвые дрова добрые.* Ручаёўка. *Асіна, ена толькі страляе, калі б берастóвых дроў прывезці.* Чаплін.

БЕРАСЦЯ'НКА *ж.* Лыжка, якой аграбаюць рой. *Берасця́нка — ена з беросты. Бачыш, оцета во ена, беры да хадем рой збіраць.* Пярэдзелка.

БЕРАСЦЯ'НЧЫК *м.* Берасцянка. *Берасця́нчык — птушачка маленькая, ена делае гнездо з беросты: збірае тоненькую беросту і кладе у гнездо.* Ручаёўка.

БЕ'РДА *н.* Бёрда. *Пасмы па рашчоту бёрда: ат шасці да дванаццаці.* Дзяражычы. *Я сама у бёрда накідаю, у деўятку легчэй.* Казярогі. *Сем пасам — бёрда, да ччэш восім, десяць — па пражы.* Ручаёўка. *Бёрда устаўляецца у набілкі і падвешуецца на аборачках к столі.* Чаплін.

БЕСПАРА'ДКАЎШЧЫНА *ж.* Беспарадак. *Беспара́дкаўшчына: бач, екіе машыны; шохвір жа кручаны, ён жа еде безабразна.* Дзяражычы. *Беспара́дкаўшчына, хоць ты загаласі: німа парадку ніде — ні у печы, ні у дварэ.* Казярогі.

БЕ'ЦЦЫ *мн.* Аладкі, якія пеклі ў ваенны час (у галадоўку) з розных збожжавых адыходаў. *Полова, да лісце, да мукі мо жменьку усыпюць і пекуць бéццы.* Бывалькі. *У голодоўку елі бéццы — токое, што і есць нельзя.* Карпаўка.

БЕ'ШАНЫ *прым.* 1. Шалёны. *Ат бéшанага сабакі уцекаў.* Казярогі. 2. *перан.* Нястрыманы, злы. *Наш Сцепан бéшаны стаў: слова не скажы, кідаецца на усіх.* Дзяражычы.

БІ'ТКА *ж.* Яйка, пабітае пры гульні «ў біткі». *У ме-*

*не две біткі асталіся.* Бывалькі. *У біткі гулялі на паску калісь, дзеці мае біткаў нанесуць.* Ручаёўка. *У біткі гулялі, дак я толькі адну бітку узяў.* Чаплін.

БІ'ТЫ *прым.* 1. Біты. *Сядь, кажу табе, будеш біты.* Вулкан. *Бітая любоў крэпкая.* Ручаёўка. 2. Раз'езджаны. *Ты ж па бітай дорозі не едь, паўз бочок цвярдей.* Пярэдзелка. *На біты шлях пагледае, бітым шляхам салдат іде* (З нар. песні). Ручаёўка.

БІ'ЦЦА *незак.* 1. Біцца. *Ён жа сухарэбры, а так б'ецца.* Дзяражычы. *Гусак б'ёцца: і дзюбою кусае, і ногою б'е.* Ручаёўка. 2. *перан.* Шмат працаваць. *Не, мне буде шкода, шчо ена буде біцца там адна, сеяць тую усадьбу.* Дзяражычы. △ *Біцца, як рыба аб лёд.* Старацца, шмат працаваць. *Прóся усюды адна, б'éцца, як рыба аб лёд.* Дзяражычы. *Удвох жывом, б'ёмся, як рыба аб лёд.* Чаплін.

БІЦЬ *незак.* 1. Біць. *На носцаках прыкачу, а біць не буду.* Дзяражычы. 2. Забіваць, заколваць (свіней). *У ее сала: і кабана біла, і авечкі рэзала.* Дзяражычы. *Будам к калядам біць кабана, а то ж празнік буде.* Ручаёўка. 3. Збіваць (пра алей, масла). *Біла учоры масла.* Бывалькі. *Як сойдуцца сліўкі на сметану, дак буду біць. Бувае будеш біць да разаб'еш бойку.* Дзяражычы. *Калісь білі алей.* Пярэдзелка. 4. Ліць (пра дождж). *От біў у Лоеві дошч.* Ручаёўка. △ *Біць лынды.* Гультайнічаць. *Пашла ужэ лынды біць па селу.* Дзяражычы.

БІЧО'ЎКА *ж.* Вяроўка. *Процi вады дак на бічóўку узялі і паехалі. На бічóўку цегалі лотку.* Дзяражычы.

БІ'ЧЫЦЦА *незак.* Поркацца, вазіцца. *Бічылісь, бічылісь з етымі жукамі-каларáдамі, рады не даць.* Дзяражычы.

БЛАГАДАРЫ'ЦЬ *незак.* Дзякаваць. *Калі ні зайде, дак благадарыць.* Дзяражычы.

БЛЁХАЛА *н.* Прылада, якой заганяюць рыбу ў сетку. *Блёхала лежыць пад чоўнам.* Карпаўка.

БЛЁХАЦЦА *незак.* Плюхацца, пляскацца. *Цэлы день дзеці блёхаліся у канаві, прышлі саўсім мокрые.* Ручаёўка.

БЛЁХНУЦЬ *зак.* Кінуць. *Сунімай дзіця, а то як пачуе немец, што мы у бліндажах, да як блёхне сюды, то і ўсім смерць буде.* Дзяражычы.

БЛІ'ЖАЙ *прысл.* Бліжэй. *Бліжай сяде да й пацалуе.* Казярогі.

БЛІЗАВО'КІ *прым.* Блізарукі. *Екісь ён блізавокі: іде з ею за рукі да прыглядаецца.* Бывалькі. *Блізавокі — блізка ле воч держыць.* Казярогі.

БЛІЗНА *ж.* Памылка пры тканні палатна. *Блізна бывае, як ччэш: дірка у палатне; пабач, наткала — адны блізны.* Дзяражычы. *Ччэ, ччэ, а тут нітка парваная — блізна.* Карпаўка. *Калі я ткала первы раз, у мене блізна была, нітка парвалася, а я не убачыла. Не толькі у маладых блізна бывае, і ў мене спомылкі е: у віленцы чуць не клетку расшывала.* Цясны.

БЛІНЕ'Ц *м.* Блін. *А к нам ён як прыде, дак усе чыста есць: і скваркі з блінцамі есць і у тук мачае.* Дзяражычы. *Блінцы пекуць, камы таўкуць.* Пярэдзелка. *Як знаю, што мае хто прыехаць, дак я ім блінцоў шчэ звечара учыню.* Чаплін.△ *Узяцца пад блінец.* Уздуцца, пачарнець. *Усё ліцо узелось пад блінец — такая чорная.* Дзяражычы.

БЛІНЦОЎКА *ж.* Дзежка для бліноў. *Блінцоўка — дежка, де блінцы рашчыняюць.* Дзяражычы. *Памянш.* блінцовачка. *Блінцовачку пастаў на печ.* Ручаёўка.

БЛІСЕ'НІЦЬ *зак.* Лавіць зімой рыбу на блешню. *Блісенілі сегодні, спаймалі п'яць ершоў.* Пярэдзелка.

БЛІ'СНУЦЬ *зак.* 1. Бліснуць. *Так маланка блізнула, што жутка прама.* Чаплін. 2. *перан.* Хутка пабегчы, знікнуць. *Як блізнула, дак я і не бачыла ее.* Дзяражычы. *Сабраліся да як блізнулі у суседнее село гуляць.* Чаплін. 3. Хутка саскочыць. *Учорі апазнілась, дак я як блізнула с карваці, дак як на метле.* Дзяражычы.

БЛІСНЯ' *ж.* Блясна. *Блісня — прылада рыбалавецкая, якой ловяць зімой рыбу.* Дзяражычы. *У Шміцькі хорошая блісня.* Пярэдзелка. *Блісня крэпіцца на шнуру, а рыба хватае.* Чаплін.

БЛУ'ДСТВА *н.* Блуд, распуста. *У нас жа сыны, і ат сыноў маткі пашлі у блудства.* Первамайск.

БЛЯС *м.* Бляск. *Усероўна, як хороміна гарыць, бляс такі на небі буў.* Бывалькі. *Машына з Цесноў іде, і міне бляс у вокна.* Дзяражычы.

БЛЯ'ХА *ж.* 1. Патэльня. *Высып зерне на бляху.* Бывалькі. *Уставіла бляху ігруш у печ, каб сохлі.* Крупейкі. 2. Тонкае, ліставое жалеза. *От зайграў: бляхі — шчэ ж хата не цечэ.* Ручаёўка. 3. Вёрхняя частка пліты. *Ідзі пачысці бляху, а то смурод іде.* Вулкан. *Бляха раскололась, трэба масцера звацб, заменіць.* Ручаёўка.

БЛЯША'НКА *ж.* 1. Бляшанка. *У блешанку пакладі пугаўкі.* Казярогі. 2. Тонкі ліст жалеза. *Блешанкі дасталі на крышу.* Пярэдзелка.

БЛЯ'ШКА *ж.* Тонкі ліст жалеза. *Бляшкай накрый ле коміна, каб вугалле не паліла мост.* Бывалькі.

БО[1] *злучн.* Бо. *Не любі чужых жонак, бо ты сваю маеш* (З нар. песні). *Закатуй плот, бо коровы ходяць у город.* Казярогі.

БО[2] *часц.* Ж, жа. *Екую бо, Варка, Іван Саўкаў заводіць песню.* Дзяражычы. *Давай бо я пайду по воду.* Казярогі. *Проня, знаеш, сестрычка, прыдi бо, сестрычка, памажы.* Пярэдзелка. *Чого бо то ім багата нологу?* Чаплін.

БО'ЙЛА *м.* Бойка. *Бойлам нічога не зробіш. Бойлам бі, дак шо толку.* Дзяражычы.

БОЛЬ *ж., м.* Боль.— *Бабка, мне не жыць на свеці.— Не журысь, детачка,— кажа бабка,— я на его нашлю болі.* Казярогі. *Ена ад болю стогне, а да дохтара не йде.* Ручаёўка.

БО'ЛЬША *прысл.* Больш, болей. *Пашый, шоб тут закладак больша було.* Дзяражычы. *Вераб'і што едяць вышні, а больша спускаюць на землю.* Чаплін. *Буде стоіці тон больша сто рублей.* Казярогі.

БО'ЛЬШАЦЬ *незак.* Павялічвацца, прыбаўляцца. *У петроўку день менчы, а ноч буде большаць.* Дзяражычы.

БОР *м.* 1. Сасновы лес. *З бору назад прышла на пажарышча.* Бывалькі. *Уранні у бары пахне сасной.* Казярогі. 2. Лес. *Бары ў нас ле Удалёўкі булі несхадімые, дубы такіе, што шапка валіцца, як пагледіш угору.* Бывалькі.

БО'РАЦЦА *незак.* Бароцца. *Я з тобой борацца не буду, бо ты мене падужаеш.* Дзяражычы.

БО'РАШНА *ж.* Мука. *Раней на муку гаварылі борашна.* Дзяражычы. *У саседнім селе борушня кажуць на муку.* Бывалькі.

БО'ЯЗКА *прысл.* Боязна, страшна. *Цеперакі боязка хадіць.* Казярогі. *Адна ніколі дома не астанецца, кажа, боязка.* Чаплін.

БРА'ДЗЕНЫ *дзеепрым.* Узяты. *Ена брадена з Петрыцкага.* Ручаёўка.

БРАДЗІ'ЦЬ[1] *незак.* 1. Хадзіць па вадзе. *Тую простку засыпала, шчо мы браділі. Аўрам ходіць па дрова, бро-*

*діць босы па ваде.* Дзяражычы. 2. Хадзіць, блукаць. *Уставай, казачэнька, уставай, маладенькі, ходіць, бро́діць па дуброві твой конь вараненькі* (З нар. песні). Первамайск.

БРАДЗІ'ЦЬ[2] *незак.* Брадзіць (пра мёд, піва). *Мёд бро́діць, еслі вады дабавіць.* Чаплін.

БРА'ЖКА *ж.* Спражка. *Красівая бра́жка, як блішчыць.* Чаплін.

БРА'ЖНЫ *прым.* Звыклы да брагі. *Корова бра́жная, а ена ей не дае брагі.* Дзяражычы.

БРАЗКАТА'ЦЬ *незак.* Бразгатаць. *Будеш век ваеваць да бляшкамі бразката́ць.* Бывалькі.

БРА'ЗКАЦЬ *незак.* 1. Бразгаць. *Не бра́зкай клямкай, а то дам па рукам.* Дзяражычы. 2. *перан. асудж.* Гаварыць неабдумана. *Не бра́зкай дурніцы, а то езыком, як цэпам.* Дзяражычы.

БРАТАВА'Я *ў знач. наз.* Бра́тавая. *Братава́я аддавала мене замуж з братам.* Дзяражычы. *Братава́я з Ручаёўкі і пагаварыць, і пагаманіць, і парагатаць була.* Ручаёўка.

БРАХА'ЦЬ *незак.* 1. Брахаць. *Сабака брэ́ша, вецер носіць.* Дзяражычы. *Што ты брэ́шаш усю ноч, дурны.* Карпаўка. 2. *перан. груб.* Хлусіць, выдумляць. *Я ж табе браха́ць не буду.* Бывалькі. *Ён Полі браха́ў адно, а Пашы другое.* Дзяражычы. 3. Красамоўна і шмат гаварыць. *У брыгаді ніхто так не брэша, як ена: ее і у Лоеў пасылалі і у Гомель.* Дзяражычы. *Буў у дерэўні мужык, што любіў браха́ць, пад нас пад'еде, удвох з дачкой слухаем.* Казярогі. *Навучыўся браха́ці, усё языком меле: дела, дак меле, не дела, дак меле — браха́ці навучыўся.* Ручаёўка.

БРАХА'ЧКА *ж. асудж.* Манюка, пляткар. *Ну, ці не браха́чка той Хізееў! Дасць ён десяць рублей. Пабіраха да такая брэха́чка.* Дзяражычы. *То браха́чка начаваў, дак не знаў, што казаў.* Вулкан.

БРАХЛІ'ВЕЦ *м.* Брахун. *Брахлівец абдуруе людей.* Дзяражычы. *Брахліўцы у Хамінцы.* Карпаўка.

БРАХЛІ'ВЫ *прым.* Брахлівы. *Ены і брэхлівые, і судлівые.* Дзяражычы. *А мой ні хітры буў, ні брахлівы, такі трудяка і усе.* Дзяражычы.

БРАХЛІ'ЎКА *ж.* Пляткарка, манюка. *Ена такая брахліўка: слова праўды не скажа.* Ручаёўка.

БРАХНЯ' *ж.* Хлусня. *У нас брахня́ говораць, брах-*

*ня — ета па-деравенскі, нада далікатней гаварыць.* Ручаёўка.

БРАХТУ'Н *м. асудж.* Брахун, хлус. *Брэхту́н ён, ему нельзя верыць.* Дзяражычы. *Брахту́н ён, ходіць ад аднае к другой да толькі брэша.* Ручаёўка. *Поп і дяк сабраліся, дак брахтуны́ хорошые.* Чаплін.

БРАЦЕ'ННІК *м.* Браценік. *Маю бабу немцы убілі, за две словы ўбілі. Тады немец убіў суседку, бабу трэйцею, браце́нніка — сына майго дядькі — убіў.* Чаплін.

БРА'ЦІКІ *мн.* Браткі. *Бра́цікі весной растуць па лесах.* Пярэдзелка.

БРАЦІ'ХА *ж.* Жонка брата. *Наша брацíха там роботае. Брацíха і етроўка адно і тое ж.* Дзяражычы. *Брагаву жонку ешчэ называюць брацíхай.* Ручаёўка. *Брацíха со мною жыве.* Чаплін.

БРАЦЬ *незак.* 1. Браць. *Беры́ чыгун ганчуркай, бо рукі папячэш.* Пярэдзелка. 2. Збіраць грыбы, ягады. *Я умею быстра ягады браць.* Казярогі. *Бра́лі, бра́лі — па поўнай карзіні набралі грыбоў, рана додому прышлі.* Пярэдзелка. 3. Апаноўваць, авалодваць (пра хваробу). *Напала на ее падучая балесць, ніяк не аблегчаць, тады не так бра́ла, а цепер часта.* Дзяражычы. *Я сена пацегала, дак ено так мене стала браць.* Крупейкі. 4. Купляць. *Я прышла уранні, хлеб беру́ць, а я такая рахманая, не скажу: дай мне.* Крупейкі. *Нема кортошкі, як браць парасяці, хоць бы кабана як пацешыць.* Пярэдзелка. *Пашлі з тарбінкаю браць хлеб.* Ручаёўка. 5. Атрымліваць. *Па трыццаць рублей не бра́лі за его.* Первамайск. 6. Жаніцца. *Алеся була за маім небожам, брат браў за свого сына. Калісь цьма була, дак абы екую бра́лі, а цепер вучоны вучоную берэ.* Дзяражычы. 7. Усынаўляць. *Мене за сына бра́лі, а куды ж я пайду ат свае маткі.* Дзяражычы. 8. Прывязваць. *На прыкал беру́ць у нас скрозь целят, так і росцім.* Пярэдзелка. 9. Убіраць. *Коноплі беру́ць мае деўкі у Мані.* Бывалькі. *Пашлі у колхоз лён браць.* Пярэдзелка. 10. Накідваць. *Два разы на кручок берэ́ш, а тады паўяжыш, тады зноў берэ́ш.* Бывалькі. 11. Рухацца, пераадольваючы перашкоду. *Беры́ бо разгон тут на песку.* Первамайск. △ *Браць у разон.* Прыслухоўвацца да думкі, лічыцца. *Калі хочыш з мужыком добра жыць, усё у разо́н трэба браць.* Вулкан. *А ты ў рэзо́нт не беры, не рві свае серца.* Дзяражычы. *Браць у се́рца.* Успрымаць штосьці з павыша-

най пачуццёвасцю. *Як бы у сéрца брáла, дак памерла б даўно.* Дзяражычы. *Браць след.* Высочваць звера. *Сабака добра берэ́ след.* Дзяражычы. *Бярэ́ нéбудзь.* Пра злосць. *Ніде у мене так не було: мене нéбудь берэ́, не магу гледець.* Бывалькі. *Мене берэ́ нéбудь, не магу перажыць, як ены абгаварують адін аднаго.* Дзяражычы. *Браць у зло.* Злавацца. *Не беры́ у зло, Осіпаўна.* Дзяражычы. *Памрачэнне бярэ.* Пра страчванне прытомнасці. *Як начаділі, дак мене такое памрачэ́нне берэ́, шо падаць трэба.* Дзяражычы. *Вóздух бярэ́.* Пра задыханне. *Я вышла да на прызбу села, а мене вóздух нача берэ́, дак і ехаць нікуды нельга.* Дзяражычы.

БРУ'КВА *ж.* Бручка. *Брýкву і турнэпс тавару сеюць.* Дзяражычы. *У мене на городі усе разоры брýквай паабсаджаны. Капусту пасадіш і паўз краі капусты садіш брýкву.* Ручаёўка.

БРУКВА'ННІК *м.* Бручкоўнік. *Пайду наламлю бацвіння да бруквáнніку.* Дзяражычы.

БРУШАВІ'НА *ж.* Жывот. *На жывот у нас ешчэ брушавіна кажуць.* Ручаёўка.

БРЫ-БРЫ-БРЫ *выкл.* Выгук для падзывання авец. *Бры-бры-бры, ідіце ежце.* Дзяражычы.

БРЫВА' *ж.* Брыво. *Во пагледі: адна брывá рыжая, а другая чорная.* Ручаёўка.

БРЫ'ДАСЦЬ *ж.* Золкасць. *Такая бры́дасць сегодні, рукі так мерзнуць.* Дзяражычы.

БРЫДЗІ'ЦЬ *незак.* Шчыміць. *Парэзанае асакой не баліць, а брыдíць.* Дзяражычы.//Баліць. *Палец так брыдíць, буде нарываць.* Пярэдзелка.

БРЫ'ДКА *прысл.* Золка. *Ну й бры́дка на дварэ якся.* Бывалькі. *Бры́дка — калі полошчаць плацце, а холодная вада, з ветрам. Нача бры́дка — не так холадна, а ено за рукі берэ.* Карпаўка. *Нача і дошчык памарасіў і бры́дка.* Чаплін.

БРЫ'ДКІ *прым.* Золкі, пранізлівы. *Надевайцесь, бо такі вецер бры́дкі.* Дзяражычы. *Погода бры́дкая, едкая, на дварэ дошч з ветрам.* Вулкан.

БРЫДО'ТА *ж.* Золкасць. *Ох, брыдóта, не холадна, а сіверна.* Казярогі.

БРЫЖ *м.* 1. Брыжы. *Сама ж у моді цепер брыжы́.* Казярогі. *Бач, екі красівы брыж прышыла к кохці.* Пярэдзелка.//Зборкі. *Круга коўбіка сала тое брыжáмі.*

2. Выступ у коміне. *Пакладі бо на брыж.* Дзяражычы. *Клала ж на брыж і ужэ нема.* Пярэдзелка.

БРЫ'ЗКАЦЬ *незак.* Пырскаць. *Лежу — брызкае на морду.* Бывалькі. *Нічога не бачыць і брызкае.* Карпаўка.

БРЫ'ЗКЛЫ: *брызклая пагода.* Халоднае надвор'е. *Брызклая погода, ох, як брыдка.* Вулкан.

БРЫЛЬ *м.* Капялюш. *Пакажы, діцятка, той брыль, мо і подойде майму чалавеку.* Рудня Марымонава. *Брылі цепер ужэ многа хто носіць.* Ручаёўка.

БРЫ'НДАЦЬ *незак.* Хадзіць туды-сюды. *І чого ты бриндаеш па хаце?* Дзяражычы.

БРЫ'СЦІ *незак.* Ісці па вадзе.— *Брысці трэба.— Ну, дак перабрыді. Брыді у воду, не бойся, там па костачкі буде.* Дзяражычы. *Хто кого верна любіць, дак брыдé, брыдé чэраз воду. Брылá рэчку, брылá другу, а на той палавіне стала* (З нар. песні). Пярэдзелка.

БРЫЎЁ *н.* Бярвенні. *Панаклалі трупы, як брыўё.* Дзяражычы.

БРЭ'ЗКАВАЦЬ *незак.* Брыдзіцца. *Я даю короў, я ж і рукі памыю, ат себе не будіш брэзкаваць, а от ено мене урэдіць, я его не п'ю.* Дзяражычы.

БРЭ'ЕЦЦА *незак.* Брыцца. *Табе брэецца нада: вусы і барада нача гнілая бульбіна.* Первамайск. *Ён у нас ужэ брэіцца пачаў.* Пярэдзелка.

БРЭ'ІЦЬ *незак.* Брыць. *Трэба брэіць бораду.* Дзяражычы.//*перан.* Апякаць (пра мароз). *А мороз аж брэіць!* Карпаўка.

БУ'БЕН: *убівáць бýбна.* Многа працаваць. *Убівáлі бýбна усе, а на трудадні нічога не палучалі послі вайны.* Ручаёўка.

БУ'БКА *н.* Асобнае зерне. *На насенне поўные бýбкі вубіраць трэба.* Дзяражычы. *Трохі бýбак квасолі укінь у кортоплі — пахне па-другому.* Цясны. *Памянш.* *бýбінка. Бýбінка — ета горошына, квасоліна — усероўна адно зернетка.* Ручаёўка.

БУВАЛЬНІ'ЧНЫ: *бувальнічны платóк.* Шарсцяная хустка. *У нас бувальнічны называецца плотóк з тоненькай шэрсці.* Казярогі.

БУГАРО'К *м.* Узгорак. *Пройдіш бугарóк, а там і дорожка.* Дзяражычы.//Хмарка. *Набежыць бугарóк, і пойде ці дошч, ці снег.* Дзяражычы. *Бугарóк хмаркі найшоў.* Бывалькі.

БУГЛАІ': *буглаі напáлі.* Пра ленасць, гультайства.

*Што-та на цебе буглаі напалі, рабіць не хочаш! Чаму не праце Іван? — Да буглаі напалі.* Пярэдзелка.

БУ'ДЗЕН: *бу́дзен дзень.* Будны, будзённы дзень. *Пагуляем у бу́ден день, а у неделю некалі.* Бывалькі. *Сегодні ж бу́ден день, а ты ходіш па вуліцы, як нема чого рабіць.* Ручаёўка.

БУДНЫ' *прым.* Будзённы. *Мне нема ні светога дня, ні будно́га.* Ручаёўка.

БУ'ЙНЫ *прым.* Буйны́. *Я падгледела каліва, ой, бу́йная, бу́йная.* Первамайск. *Месціну му найшлі добрую, дай ягадкі бу́йные, а то па адной ягаді збіраць. У Гомлі я брала крупу грэчнаю, дак такая бу́йная.* Ручаёўка.

БУЛА'ЎКА: *нацягваць кій на була́ўку.* Знаходзіць выхад з цяжкіх жыццёвых абставін. *Усю жысць адна: баба наця́гуй кій на була́ўку.* Дзяражычы.

БУЛБУ'ШКА *ж.* Бутон. *У нас скора расцвітуць цветы: ужэ у булбу́шках.* Дзяражычы. 2. Пузыр. *На рацэ булбу́шкі ле берага ідуць.* Бывалькі. *Як булбу́шкі доўга на ваде стаяць, дошч буде доўга.* Дзяражычы.

БУРА'Й *м.* Свердзел. *Бура́й е той, шо бурують.* Бывалькі. *Землю буравацы ці дерава — бура́й, зелеза такое.* Дзяражычы.

БУРА'Н *м.* Буран. *У нас бура́н толькі старые кажуць, ета крэпкі вецер, бура.* Пярэдзелка. *Калісь такі бура́н ішоў, град ішоў.* Ручаёўка. *Бура́н — вецер бальшы, которы ірве крышы.* Чаплін.

БУРА'ЦЬ *незак.* Разбураць. *Бура́й бо хлеў.* Бывалькі. *Я бура́ў хату і думаў, шо венок вукіну.* Дзяражычы.

БУРАЧО'К *м.* Пустазелле. *О ета цветочык з бурачко́ў, іх па весне капаюць, карэнне капаюць і парасяткам секуць. У нас на пограбі растуць бурачкі.* Ручаёўка.

БУ'РБАЛТКА *ж.* Бурбалка. *Бу́рбалткі на калюжынах, дак шчэ буде дошч.* Чаплін.

БУР'Ё *н.* Пустазелле. *Тая дорожачка бур'ём парасла* (З нар. песні). Дзяражычы.

БУРКАТА' *ж.* 1. Бурчанне. *Надаела мне твая бурката́: цэлы день бурчыш, як свекруха.* Бывалькі. 2. Буркун. *Як бы той буркаты́ не було, дак Сашы луччай было б.* Дзяражычы.

БУРКО'ЎНІК *м.* Бурачнік. *Бурко́ўнік порос сёлета, хоць свінням е што даваць.* Дзяражычы.

БУРКУ'Н *м.* Бручка. *Бурку́н велікі: буде і сабе і*

*свінням.* Карпаўка. *На брукву у нас хто кажа буркýн.* Первамайск.

БУРЧА'ЦЬ *незак.* 1. Бурчаць. *Свекруха такая урэдная, як дома, увесь день бурчы́ць.* Бывалькі. 2. *перан.* Пець (ціха). *Лена усё бурчы́ць песні.* Дзяражычы.

БУТАЛЫ' *мн.* Пагоны. *За цесовымі сталамі седяць паны з буталáмі.* Бывалькі.

БУ'ТАЛЬ *м.* Бутля. *У нас бýталь — девяць паўлітраў.* Дзяражычы. *Сеголета паставіла поўны бýталь вішань, а да весны не буде: деці пацегаюць.* Ручаёўка. *Два бýтлі па десяць літраў водкі пахавалі у кухвайкі.* Чаплін.

БУХО'НЫ *прым.* Мяккі, пышны. *Такі бухóны хлеб у ее усегда.* Дзяражычы. *Памянш.* бухóненечачкі. *Я спеку, бувала, хлеб, дак як пшанічны: бухóненечачкі да смашны.* Дзяражычы.

БУШАВА'ЦЦА *незак.* Бушаваць. *Хоць вуп'е, дак не бушýецца, не б'ецца.* Дзяражычы.

БЫК[1] *м.* Бык, бугай. *Учорі бык за ею прышоў додому, ена усё лета іграла.* Ручаёўка.

БЫК[2] *м.* Кроква. *Прасіла лесніка мацер'ялу даць на быкі: ці дуба, ці што-небудь.* Чаплін.

БЫ'РУШКІ *выкл.* Выгук для падзывання авечак. *Бы́рушкі, бы́рушкі, ідіце у хлеў.* Ручаёўка.

БЫ'РЫ'-БЫ'РЫ *выкл.* Выгук для падзывання авечак. *У нас нема авечак, а суседка заве бы́ры-бы́ры. І на егнятак ена говорыць бы́ры-бы́ры-бы́ры.* Ручаёўка.

БЫСТРА' *ж.* Быстрыня. *Тамака была быстрá, нельга пераплыць.* Дзяражычы. *На быстрý не гані, а то згоніць, весла ж нема.* Первамайск. *Папаў на быстрý і утапіўся.* Пярэдзелка.

БЫ'СТРА *прысл.* 1. Хутка. *Дорога гладкая, дак му ехалі бы́стра.* Первамайск. 2. Жвава. *Калісь бы́стра танцавалі, а цепер на месці топчуцца.* Ручаёўка. 3. У хуткім часе. *Так надавала ему, не буде драцца бы́стра.* Бывалькі. *Маіх і девак маладых бы́стра пабралі.* Дзяражычы.

БЫ'СТРЫ *прым.* 1. Быстры, хуткі. *Бы́стры на хаду сабака.* Бывалькі. *Ён міне панаравіўся: бы́стры у робоці.* Дзяражычы. 2. Жвавы. *Ён жа бы́стры, а ена лемехавата, такая целеха, шо нікуды, екаясь кантужаная.* Ручаёўка.

БЫ'ТТА *злучн.* Быццам. *Бабі нешта зайшло у голаву, шо бы́тта не девачкін голас.* Чаплін.

БЫЧО'К *м.* Круча. *Бычо́к — ета сільная круча. На бычку́ нельзя праехаць.* Бывалькі. *Ат праку веку на бычку́ нельзя удержацца.* Дзяражычы.

БЯДА': *не бяды́.* Някепска, добра. *Дейка у Полі не беды́.* Дзяражычы. *Ну загнала, дак і не беды́.* Пярэдзелка.△*Не з бядой.* Нядрэнна. *Не з бедо́й вучыцца.* Дзяражычы.

БЯЗДЗЕ'ТУХА *ж.* Бяздзетная. *О тая Варка безде́туха, ена адна жыве.* Ручаёўка. *У іх децей нема, безде́тухі ены.* Чаплін.

БЯЛЛЁ *н.* Бялізна. *Ён з караваці да у цельнам беллé ка мне.* Дзяражычы. *Я беллё пакачаю, туды поло́жу.* Ручаёўка.

БЯРО'ЖАЯ *прым.* Жарэбная. *Кабыла у нас беро́жая, араць не трэба.* Дзяражычы. *У нас кажуць беро́жая на кабылу.* Казярогі.

БЯРО'ЗАЎКА *ж.* Губа (грыб). *З беро́заўкі можна апу́ку добрую зделаць.* Карпаўка.

БЯРО'ЗКА *ж.* 1. Бярэзінка. *Пад белаю беро́зкаю казачэньку ў́біта* (З нар. песні). Бывалькі. 2. Трава ўюнок, павой. *Нарвала корові цэлы мешок беро́зкі.* Бывалькі. 3. Хатняя расліна. *Еты цвет падобны да берозы, уніз расце, у нас багата хто пазаводіў беро́зку.* Ручаёўка.

БЯСЕ'ДА *ж.* 1. Кампанія. *Ён прыведе бесе́ду сваю, прыведе сваіх хлопцаў да кармі іх.* Бывалькі. *Бувала прыведе бесе́ду, дак кажа: дайце маей Ходоры чарку.* Дзяражычы. 2. Вечарынка. *Проська у нас розоў колькі була на бесе́ді.* Дзяражычы. *Ены мене абчыраць і на бесе́ду завуць.* Ручаёўка. 3. Госці. *Каравай деляць, па бесе́дах ходяць. Жаніўся хазяін, бесе́ду сабе збірай, да тры дні піў-гуляў.* Ручаёўка.

БЯСЕ'ДАВАЦЬ *незак.* Гутарыць. *Тые ужэ пазміралі, шчо са мною бесе́дувалі.* Дзяражычы.

БЯССО'ВЕСНЫ *прым.* Бессаромны. *Неўстыдная ты, кажа, бессо́весная.* Дзяражычы. *Ні у том дела, што бессо́весны.* Казярогі.

# В

ВА'БА *ж.* Вабік. *На ва́бу завуць воўка.* Дзяражычы.

ВАБРА'ЦЬ *зак.* Убраць, сабраць (пра збожжа). *Усё вабра́ў колхоз, увесь хлеб.* Ручаёўка.

ВАДА' *ж.* Вада. *Чыстая вадá у крыніцы.* Бывалькі.△ *Вóду варыць.* Мучыць, здзеквацца. *А вáрыць з ее воду Ілля, так і мой папаварыў з мене вады, памер, дак уздыхнула лёгка.* Ручаёўка. *Вады напіцца.* Пра вельмі прыгожага. *Дейка — толькі вады напіцца.* Дзяражычы. *Вады не замуціць.* Быць бясшкодным. *А ён жа такі ціхі, вады не замуціць, нікому слова плахога не скажа.* Ручаёўка. *Як вадóю ліць.* Нагаварваць. *Усе як водóю лéюць на мене, калі б не еты прэдседацель, дак і не была б на етай робоці.* Дзяражычы.

ВАДАТО'ПА *ж.* Паводка, разводдзе. *У нас вадатóпа бувае часта.* Первамайск.

ВАДЗІ'ЦЦА *незак.* Раджацца (пра дзяцей). *Ены у Лоеві жылі, тамака усе і деці ваділіcь.* Дзяражычы.

ВАДЗІ'ЦЬ *незак.* 1. Вадзіць. *Ваділа Таню у больніцу.* Дзяражычы. 2. Кахацца. *Ён тую девачку вадіў два годы. Ты Каці не вадi, мая девачка не позорная.* Дзяражычы. △ *Вадзіць дзяцéй.* Раджаць. *Не хоча вадіць децей, дак вот і хварэе.* Дзяражычы. *Я колькі жыву, дак децéй у бóльніцы не ваділа.* Крупейкі. *Вадзіць за нос.* Падманьваць. *Ена мене п'яць годоў ваділа за нóс, пакуль я ее не раскусіла.* Ручаёўка.

ВАДЗЯ'НКА[1] *ж.* 1. Дзежка для вады. *Вадя́нка пакалісьнему, цепер — дежачка для вады.* Пярэдзелка. *Дежачка з водой — ета вадя́нка.* Ручаёўка. 2. Дзежка наогул, цэбар. *Вадя́нка — цэбар.* Рудня Марымонава. *Дерайяная дежачка — вадя́нка: вулі памыі у вадя́нку.* Ручаёўка.

ВАДЗЯ'НКА[2] *ж.* Пухір. *Вадя́нка ускочыла на пальчыку.* Первамайск.

ВАДЗЯНЫ': *вадзяны вол.* Вялізны чалавек. *Во здаравенная зрабілася, як вадяны вол.* Ручаёўка. *Вадзяны жук.* Плывунец. *На ваде так і лётаюць, нача ракеты, етые вадяные жукі.* Ручаёўка.

ВАДЫ'Р *м.* Пухір. *Вадыры пашлі па целу.* Пярэдзелка.

ВА'ЖКА *прысл.* 1. Цяжка. *Я не буду абіджацца на сваю долю, я вáжка не роботала.* Дзяражычы. *Сама на паску міру було ле лайкі: земле вáжка. Галаве вáжка і рукам трэба знаць, што пісаць.* Ручаёўка. *Трэба ужэ беліць, да важка мне сегодні: усе цела баліць.* Мохаў. *Хопіць, а то буду есці, есці, а тады вáжка буде.* Рудня Марымонава. *Як бы була подмога: вáжка адной — де-*

*вачка як бы була*. Ручаёўка. 2. Няёмка. *Міне і гаварыць ва́жка без зубоў*. Дзяражычы. *Бач, як міне ва́жка гаварыць, шапеляю дай усе*. Карпаўка.

ВАЖКА′Я *прым*. Цяжарная. *Хвойнік саділа, хоць і важка́я була*. Бывалькі. *Ена ж ходіць важка́я, ена ж цепер негуляшчая*. Дзяражычы.

ВА′ЖКІ′ *прым*. Цяжкі. *Мне робота ва́жкая урэдная: абы я перацежэлілась, дак усе баліць*. Дзяражычы. *Усе роботу лёгкую просяць, а хто ж буде ва́жкую рабіць*. Крупейкі. *Зделайце крышку важку́ю із зашчэпкаю*. Пярэдзелка. *Я бачыла аленя: ножкі тонелькіе, а сам важкі, тоўсты, галава здоровая*. Бывалькі.

ВАЖЧЭ′ЙШЫ *прым*. Цяжэйшы. *Рускі езык, кажуць, важчэ́йшы*. Дзяражычы.

ВАЙДАВА′ЦЦА *незак*. Насіцца, як шалёнаму. *Чого ты вайду́ешся, сядь поговорым трохі*. Пярэдзелка.

ВАЙЁ, ВАЙЦО′ *н*. Дышаль. *Дышаль у возе для пары волоў называецца вайё. Падцегні вайцо́, бо шыю нарэжа валам*. Пярэдзелка.

ВАЛАСЯ′НАЧКА *ж*. Валасянка. *Валася́начка — маленькая птушачка, у земле, у норцы делае гнездо с валаскоў коней, коро́ў, зверэй*. Бывалькі.

ВАЛАСЯ′НКА *ж*. Ваўнянка. *Разаваценькі красівы грыб—валася́нка. Валася́нка ў ўсякім лесе бувае, толькі па-разнаму ее завуць*. Чаплін.

ВАЛАХА′ТЫ *прым*. Калматы. *Ах, ты авечка валаха́тая*. Бывалькі. *Паехалі па-за хатаю кабылаю валаха́таю* (З нар. песні). Пярэдзелка.

ВАЛАЧЫ′ЦЬ *незак*. Баранаваць. *Іван воло́чыць у маткі*. Дзяражычы. *Нехай валамі воло́чаць*. Ручаёўка. *Я і валачыла у трое коней*. Чаплін.

ВА′ЛАШАНЫ *прым*. Кастрыраваны. *Купіла парасят, ужэ ва́лашаныя кабанчыкі*. Дзяражычы.

ВАЛБУ′КА, ВАЛЬБУ′КА *ж*. 1. Нарыў, скула. *У нас кажуць і валбу́ка і вальбу́ка*. Казярогі. *Раділа да хату строіла, дак валбу́кі па целу пашлі*. Ручаёўка. 2. Бугор (на зямлі). *Чэраз тые вальбу́кі воз скакаў, скакаў*. Чаплін.

ВА′ЛКА *ж*. Кампанія, зборышча. *Ва́лкай пойдуць, найдуць і пачнуць біць*. Казярогі.

ВАЛНАВА′ЦЦА *незак*. Хвалявацца. *Як не валнава́цца, паехаў Васіль, дак так валнава́лась*. Бывалькі. *Ты ужэ не валну́йся аб етым крэпка*. Дзяражычы.

ВАЛО'ЧАНЫ *дзеепрым.* Заскароджаны. *Картóпля неволóчаная, так і засталася.* Ручаёўка.

ВАЛЯВА'ХА *ж.* 1. Чапля. *Бач, валевáхі палецелі кучай.* Пярэдзелка. 2. *перан.* Непаваротлівая жанчына. *Валевáха тая не павернецца, мо цэлы цэнцер стала.* Бывалькі.

ВАЛЯ'ЦЦА *незак.* Валяцца. *Доўга ты будеш валяцца на карваці. Уставай, ужэ десяць часоў прабіла.* Вулкан. *Трэба ета мне валяцца у дерэўні.* Ручаёўка.

ВА'РАНІКІ *мн.* Бульба, вараная ў шалупайках. *Вáранікі патаўчы.* Карпаўка. *Вáранікаў на вечэру звары.* Бывалькі.

ВАРГУЛЯ'ЦЦЕ *н.* Нараст на дрэве. *Да варгуляцце — ета нарасцень такі, балячкі на дрэві.* Ручаёўка.

ВАРО'ННІ: *варóнні сыр.* Грыб порхаўка. *Ну і нарасло ж варóннега сыру пасля дашчу.* Казярогі.

ВАРО'ТЫ [1] *мн.* Вароты. *Делай варóты шырокіе, шоб любая машына прайшла.* Карпаўка. *Перад варóцьмі паставіла дежачку.* Дзяражычы.

ВАРОТЫ [2] *мн.* Фігура ў «кадрылі». *«Эй, варóты», — крычаць, як танцуюць кадрылю.* Ручаёўка. *«У кола, у варóты» — каманды у кадрылі.* Чаплін.

ВАРО'ЧАЦЦА: *варóчацца на ўме.* Прыпамінацца. *У мене тожа варóчаецца на уме етая песня.* Чаплін.

ВАРСАНУ'ЦЬ *зак.* Штурхануць. *От лезе слепіцай, пака варсанé добра, будеш плакаць.* Крупейкі.

ВАРСА'ЦЬ *незак.* Штурхаць. *Ена его варсáе, не умее надоўга закалыхаць.* Ручаёўка. *Не варсáй ты у той агонь, страхá ж блізка, а іскры могуць палецець.* Чаплін.

ВАРЫ' *мн.* Вароты. *Сёння уночы і вары́ стаялі адчынены.* Дзяражычы.

ВА'РЫВА *н.* Квашаная гародніна. *Сем'і німашака, а вáрыва трэба класці.* Бывалькі. *Вáрыва — капуста, да гуркі, да буракі. Што квасяць, дак называецца вáрыва.* Дзяражычы. *Трэба вáрыва на зіму паставіць.* Карпаўка.

ВАРЫ'ЦЬ: *вары́ць ваду́.* Дрэнна абыходзіцца. *Вот ужэ вары́ць ён з ее вóду, нап'ецца, а тады ганяе і ее і децей.* Дзяражычы. *Сéрца не вáрыць.* Пра адчуванне незадаволенасці. *Міне сéрца не вáрыць, штоб я не роботала.* Рудня Марымонава.

ВАРЭ'ЙКА *ж.* Гаршчок. *О тую варэ́йку солонікаў наварым.* Дзяражычы. *Пастаў варэ́йку на прыпечак.* Ру-

чаёўка. *Памянш.* варэ́чка. *Во на стале чыгункі, варэ́чка стаіць.* Ручаёўка.

ВАРЭ'ННЯ *ж.* Варэнне. *Тую варэ́нню ужэ гады чатыры не бачыла.* Ручаёўка. *Сегодні па каліну у луг езділа, можа варэ́нні звару ведро.* Казярогі.

ВАСКАЖА'ЦІНА *ж.* Вашчына. *Як бы васкажа́ціны де узяць да накідаць, дак нашто той і берозавік.* Дзяражычы.

ВАСКАЗО'Б *м.* Пячкур. *Васказо́бы не ловяцца цепер.* Пярэдзелка.

ВАСПАРЭ'ННЕ *н.* Выпарэнне. *Нема з землі васпарэ́ння.* Дзяражычы.

ВАТАРПА'ЧУВАЦЬ *незак.* Шмат працаваць. *Ватарпа́чуе усе лета.* Казярогі.

ВАТКНУ'ЦЬ *зак.* Уваткнуць. *Дак чалавек косу ва́ткнуў, пайўў і указаў дорогу.* Бывалькі.

ВАТКУЛЯ' *прысл.* Адкуль. *Ваткуля́ і возьмецца шчо.* Бывалькі.

ВА'ТНІЦА *ж.* Ватоўка. *Ва́тніцы прывезлі у лаўку.* Карпаўка.

ВАТО' *прысл.* Вось тады, зусім нядаўна. *Помніш, як мы вато́ булі ў канцылярыі, дак ён прыехаў.* Ручаёўка.

ВА'ЎКА *ж.* Болька. *Не чашы ва́йку, балець буде.* Бывалькі.

ВАЧЫВІ'ДНЕ *прысл.* Увачавідкі. *Вачыві́дне украў, і нічога ему не зделаеш.* Дзяражычы.

ВЕ'ЙКА *ж.* Павека. *Пабач, як накрасіла ве́йкі.* Пярэдзелка. *Во ета расніцы, а тае па-нашаму ве́йкі.* Ручаёўка.

ВЕК *м.* 1. Перыяд жыцця чалавека. *Свой век пражыве, як у ступі пратаўчэ, дай не знае нічога.* Дзяражычы. 2. Заўсёды. *Ена век людная: з цэрквы бацька прыведе тры сталы, дак прывеціць усіх і нагадуе.* Дзяражычы. *Мар'я век буде худая.* Ручаёўка. 3. Ніколі. *З людьмі век не поспорыла.* Карпаўка. *Век нічога не скажа.* Ручаёўка. △ *Ад ве́ку.* Ніколі. *Де ж ены будуць роботаць: ены ж ат ве́ку не роботалі.* Дзяражычы. *Век векава́ць.* Быць усё жыццё, заўсёды. *Прыдецца мне тут век векаваць.* Бывалькі. *Паначаваць — не век векава́ць, можна і на мулкам паспаць.* Чаплін. *З ве́ку пра́веку.* Спрадвеку. *З ве́ку правеку жылі у етай дерэўні.* Чаплін. *Спра́ку ве́ку.* Спрадвеку. *Спра́ку ве́ку называецца пранік.* Пярэдзелка. *Спра́ку ве́ку вараць павідла.* Рудня Марымонава.

ВЕЛІГРО'Х *м.* Гатунак гароху. *Велігрóх — горох, екі уецца.* Казярогі. *Дуня, нашчыплі трохі велігрóху.* Чаплін.

ВЕ'НА *н.* Пасаг. *Добрае вéна за ею даюць.* Казярогі.

ВЕ'НЦЫ *мн.* Верхняя частка гаршка. *Вéнцы — рубчык самы на гаршчку.* Крупейкі.

ВЕРАБЕНЯ'ТАЧКА *н.* Верабейка. *Шчакечуць деці, як верабеня́тачкі.* Ручаёўка.

ВЕРАЦЯНО' *н.* 1. Верацяно. *Донька, напраді хоць адно вераценó.* Дзяражычы. 2. Частка жорнаў, вертыкальны шпянёк, на які насаджваецца верхні камень. *Вераценó праводіцца скрозь спадняка́.* Ручаёўка.

ВЕРБАВІ'К *м.* Лешч (які нерастуе). *Вымаю таптуху, а там вербавíк.* Дзяражычы.

ВЕ'РНА *прысл.* Правільна. *Як вéрна раблю і верна жыву, дак нікога не баюся.* Дзяражычы.

ВЕРТКАВА'ТЫ *прым.* Вельмі жвавы. *Да, верткава́ты хлопец, думаю, нехай возьмуць у армію, дак сыры́цу вуб'юць.* Ручаёўка.

ВЕ'РХНІЦА *ж.* Верх у церніцы. *Ото ж верх у церніцы і называем вéрхніцай.* Ручаёўка.

ВЕ'СЕЛА *прысл.* Весела. *Стаяць коні на прыстоні, не п'юць, не едяць, усе вéсела гледяць.* Вулкан. *Я слухаю да кажу: лянь, як вéсела пее, а стары мой так танцуе, вубівае.* Дзяражычы.

ВЕ'СЦІ [1] *незак.* Весці. *Екі хлопец не постол, дак веді дейку за стол.* Дзяражычы. // Выкладаць. *Ведé у школі немецкі езык.* Казярогі. △ *Вéсці пастрóйку.* Будаваць. *Раман ведé пострóйку: здоровая хата, хлевы, стобка.* Пярэдзелка. *Вéсці рабóту.* Рабіць. *Пойде, нап'ецца, а нада вéсці робóту.* Первамайск. *Вéсці разгавóр.* Гаварыць. *Калісь разгавóр Насця вела пра своró чалавека.* Ручаёўка.

ВЕСЦІ [2] *незак.* Раджаць. *Як вела своró сыночка, дак толькі баба Матруна була, акушэрка не паспела прыці.* Дзяражычы.

ВЕ'СЦІСЯ *незак.* 1. Святкавацца. *У нас празнікі веду́цца усе.* Дзяражычы. 2. Бываць. *Веду́цца і цепер сны, а сыночка ніколі не бачу.* Дзяражычы.

ВЕСЯЛУ'ХА *ж.* 1. Вясёлка. *Веселу́ха на небі стаіць.* Чаплін. *Он веселу́ха вóду берэ у рэцэ.* Ручаёўка. 2. *перан.* Вясёлая, жыццярадасная жанчына. *От Павел веселу́ху узяў: і пее, і скача, і робіць усе, як метла.* Ручаёўка.

ВЕ'ТКА *ж.* Галінка. *Етые вéткі толькі у кастры па-*

*ліць, а болей, дак некуды.*//Зб. Зеляніна. *Жыта свецяць і ветку свецяць.* Ручаёўка.

ВЕ′ЦЕР *м.* Вецер. *Калі дуе цёплы вецер, тады усегда цёпла на дварэ.* Чаплін.△ *Бегаць за ветрам.* Лодарнічаць, гультаяваць. *Калі б так гаравалі, як ена, а то бегаюць за ветрам, де ж ены будуць робо́тань, ены ат веку не робо́талі.* Дзяражычы. *На вецер жыць.* Лодарнічаць, гультаяваць. *Ты такім людям не пазычай, што ены не сеюць жыта, тые людзі на вецер жывўць.* Дзяражычы.

ВЕ′ХА *ж.* Вяха. *Веху устыркнулі на рацэ, де мы плавалі.* Ручаёўка.

ВЕ′ХЕНЬ *м.* Вехаць. *Вехеня зраблю міскі мыць.* Пярэдзелка.

ВЕЧАРНІ′ЦА *ж.* Вечарынка. *Як саберуцца на вечарніцу і хлопцы, і деўкі да такіе танцы устрояць.* Ручаёўка.

ВІДЗЁЛКА *ж.* Відэлец. *У нас кажуць відёлка, а у Баршчоўцы відёлак, а то ешчэ вілка.* Карпаўка.

ВІ′ДНАЧЫ *прысл.* Завідна. *Віднач‌ы дайду.* Дзяражычы.

ВІДНО′ *прысл.* Мусіць, напэўна. *Відно́, Васіль прыехаў, бо му цілігрaм білі.* Бывалькі.

ВІДУ′К *м.* Мак-самасейка. *Вонь у нас на градах — ета віду́к. Там на адном сцебле буде мо дваццаць головак на відуку́, а на етам толькі адна.* Ручаёўка.

ВІЗЕ′РКА *ж.* Лінія (у лесе). *Вузкую лінію, прасечаную у лесе, у нас называюць візерка.* Пярэдзелка. *Візеркі трэба расчышчаць.* Чаплін.

ВІЛЮ′ХА *ж.* Зігзаг. *Маланкі такімі вілюхамі.* Пярэдзелка.

ВІСАЧЫНА′ *ж.* Вышыня. *Ена ж такая, як Саша, на вісачыну́.* Дзяражычы.

ВІСК: *віскам вішча́ць (крыча́ць).* Моцна крычаць. *Віскам крыча́ў тры неделі день і ноч, пакуль не памер.* Ручаёўка. *Уразіла ручку, дак віскам вішча́ла.* Чаплін.

ВІ′СЛЫ *прым.* Вісячы. *Калісь казалі віслы замок.* Пярэдзелка.

ВІСО′К *м.* Скронь. *Усе валасы чорные, а віскі ужэ даўно пасівелі.* Ручаёўка. △ *Віскі рваць.* Бедаваць. *Аддалі замуж у Западнаю, а цепер віскі рвуць.* Бывалькі.

ВІСО′КІ *прым.* Высокі. *Ена удаленная була, да дабрэнная, да віcо́кая.* Дзяражычы. *Тоненькая да віcо́кая девачка.* Чаплін.

ВІСУСА'ЙЛА *м.* Здаравяка. *Такіе вісусáйлы вураслі ужэ, а розуму мала.* Дзяражычы.

ВІТУ'ХА *ж.* Фасоля, якая ўецца. *Отэта у мене седіць седуха, а вітýха — тая на тычках, ена уецца, вітýха.* Ручаёўка.

ВО'Б'Е *ліч.* Абое. *Ены вóб'е з мужыком роботаюць.* Ручаёўка.

ВО'БЕРЦЕНЬ *м.* Кавалак, кусок. *Узяў з собóй на сенакос вóберцень сала.* Пярэдзелка. *Хлеба такі воберцень атрэзала.* Ручаёўка.

ВО'БЛІВЕНЬ *м.* Абліваха. *Пойде вóблівень, дак усе дрова помочыць.* Казярогі.

ВО'БЛІЦА [1] *ж.* Вобла. *Вóбліцы купілі у лаўцы.* Пярэдзелка.

ВО'БЛІЦА [2] *ж.* 1. Плотка. *Ужэ вóбліца нерастуе, пайду жакі пастаўлю.* Карпаўка. 2. *перан.* Худая жанчына. *Вот вóбліца, есць і еда на ёй не відна.* Пярэдзелка.

ВО'БУЛЬ *ж.* Абутак. *Чаравікі, чобаты, бахілы — вóбуль.* Бывáлькі. *Па ярмалках возяць вóбуль, світры.* Ручаёўка.

ВО'ГКІ *прым.* Сыраваты, мяккі ад сырасці. *Сена вóгкае шчэ, у стог кідаць нельга.* Карпаўка.

ВО'ДЗЕКА *часц.* Вось. *Вóдека капала кордоплі, дак рукі як гразь.* Першамайск.

ВО'ДЗЕКАВО *часц.* Вось тут. *Вóдекаво наша Мар'я насаділа моркву.* Карпаўка. *У нас шчэ е вóдекаво трохі мукі.* Ручаёўка.

ВО'ДЗЕКІ *часц.* Вось. *Ты шукала плотóк, а ён вóдекі лежыць.* Дзяражычы.

ВО'ЖКІ *мн.* 1. Лейцы. *А дей-та вóжкі?* Дзяражычы. *Держы вóжкі, а то у калесо укруцяцца.* Ручаёўка. 2. Вяроўка для пераноскі сена, саломы. *Калісь булі рэзвіны, а цепер вóжкамі носім сена.* Пярэдзелка.

ВО'ЗДУХ *м.* Паветра. *Каля рэчкі вóздух свежэйшы.* Чаплін. *Мне сіпа становіцца гаварыць: вóздухам павекаю, павекаю — нельзя дыхаць.* Чаплін.

ВО'ІНСТВА *н.* Вайна. *Хаця б не було вóінства, цепер мóладежы жысць — ніколі так не було.* Пярэдзелка.

ВО'КА *н.* Вока. *Гледі рук да воч, шчоб не павыпекала.* Дзяражычы.△*Берагчы́ як вокá.* Беражліва ахоўваць. *Ну і деці ж пашлі, беражы́ як вóка, каб не папала кудынебудь пад машыну.* Пярэдзелка. *Вóка чы́стае.* Пра невіноўнасць. *Мае вóка чы́стае перад ім.* Дзяражычы.

*Во́чы адбіраць.* Псаваць зрок. *Во́чы адбіра́е грамаць.* Бывалькі. *Вочы выбіраць.* 1. Дакараць, папікаць. *А як свекруха летась угадавала двох парасятак, дак була вочы ву́брала Сашы.* Дзяражычы. 2. Насміхацца, кпіць. *Во́чы выбіра́юць, куды ні паедеш, з нашага слова—кордо́плі.* Казярогі. *Во́чы драць.* Дакараць, папікаць. *Ена не хоча у Ісака браць, шчоб ёй во́чы не дра́лі.* Дзяражычы. *Во́чы не паказа́ць.* Не прыходзіць, не бываць. *Трэйці жыве водекаво на посёлку у Сеу́кох, дак к бабі і во́чы не пака́жа. Нехай бы тые далека, дак не падумалі прыехаць, а еты у Сеу́кох, да не прыде.* Дзяражычы. *Во́чы пацяра́ць.* Аслепнуць. *Сын адін буу́ і того уцералі, плакау́шы, во́чы пацера́ла.* Бывалькі. *Насы́паць со́лі у во́чы.* Зрабіць непрыемнасць. *Мне сказалі, дак начай со́лі мне хто у во́чы насы́пау́.* Чаплін. *Укла́сці во́чы.* Закахацца. *Такая девачка укла́ла во́чы у его.* Дзяражычы. *Упасць на во́чы.* Аслабець на зрок. *Упа́ла на во́чы, дай не знаю, за шчо і шчо: я ж і ела і піла.* Дзяражычы.

ВО′ЛАЦЦЮ *прысл.* Каласамі ўніз (пра накрыванне страхі саломай). *Накрыць хату або хлеу́ во́лаццю — накрыць каласамі уніз, выступаюць каласы.* Пярэдзелка.

ВОЛЯ [1] *ж.* 1. Воля, свабода. *Нашы далі нам во́лю.* Дзяражычы. 2. Прастор. *У нас такая во́ля кругом: выйшау́ з хаты — і куды хочаш іді.* Ручаёўка. △ *Учыні́ць во́лю (во́лечку).* Падпарадкавацца, паслухацца. *Панасіла солому, пасկладала — тваю во́лю учыніла.* Бывалькі. *Я людскую во́лечку учыніла — стала старшыном.* Дзяражычы.

ВО′ЛЯ [2] *ж.* Валлё. *Вунь гусак екую во́лю наеу́.* Карпаўка.

ВО′НАКА *часц.* Вось. *Мае во́нака две сестрэ у Рэчыцу паехалі да не здалі целят.* Бывалькі.

ВО′НЕКІ *займ.* Вось які. *Во́некі чарапок прынесла, ці добра буде?* Дзяражычы.

ВО′ПСАМ *прысл.* Настойліва, упарта. *Матка хворая, а діця дерэцца во́псам, абарэмкам к маццы.* Бывалькі.

ВО′ПУХ *м.* Пухліна. *Палежау́, езык уцягнецца, во́пух меншы стау́.* Казярогі. *Я с таею рукою пашла к Навумаву: во́пух прэ да плеча.* Крупейкі. *У Мінску зделалі апірацыю у галаве: буу́ во́пух мазкоу́.* Ручаёўка.

ВО′СЕЦЬ: *во́сець наста́віць.* Раскласці снапы для сушкі. *Малаціць, дак его не заві, абу толькі му во́сець*

*настáвілі.* Дзяражычы. *Мы настáвілі вóсець, дак намалацілі два мешкі.* Чаплін.

ВО'ТМАЛАДЗЬ *ж.* Адросткі. *Уся пшаніца лёгам лежыць, расце зелень — вóтмаладь.* Чаплін.

ВО'ТМУТ *м.* Вір. *Вóтмут — глыбокае месца на рацэ.* Дзяражычы. *У хаце нашай, што у вóтмуце.* Пярэдзелка.

ВО'ЎСЕ *прысл.* Зусім. *Ена вóўсі его ні бачыла, ні чула.* Ручаёўка.

ВО'ХВАТ *м.* Нячысты, чорт. *А шоб цебе вóхват ухваціў.* Первамайск.

ВО'ЦЕТА *часц.* Вось. *Мы вóцета хацелі дом купіць.* Ручаёўка. *Вóцета ж дочка прыслала пасылачку круп.* Чаплін.

ВО'ЦЬВЕДЫ *мн.* Адведкі. *Пойдам к Веры у вóцьведы з Васілём.* Дзяражычы.

ВОЧЫВІ'ДНЯ *прысл.* Увачавідкі. *Ены ж хоць бы секрэтна делалі, а то вочывíдня, нікога не баяцца.* Дзяражычы.

ВУГО'ЛЛЕ *н.* Вуглы. *Па вугóллю стаяць і гледяць.* Ручаёўка.

ВУГО'ЛЬНІК *м.* Пасудная шафка. *Купіла вугольнік, паставіла дай пасуду у его складаюці.* Ручаёўка.

ВУДЗІЛЬНО' *н.* Вудзільна. *Рыбу лавіць трэба, а вудільнó зламалася.* Пярэдзелка.

ВУЖА'ЎКА *ж.* Неядомы грыб. *Вужáўка — уселякі ядавіты грыб, акрамя мухамора.* Пярэдзелка. *Нічога у лесі нема, акрамя вужáвак.* Чаплін.

ВУЖА'ЧКА *ж.* Неядомы грыб. *Не беры, то ж вужáчкі.* Пярэдзелка. *Колóдязь нада пачысціць, вужáчак навелося цэлы свет.* Казярогі. *Вужáчак налупіў, а думае апенькі.* Пярэдзелка.

ВУ'ЗКІ: *вýзкая дарóга.* Несумленны ўчынак. *Матка: мой сыночак, ты ж не пішыся да арміі, хоць жаніся, да не пішыся. А сын: мама, не сталкуй міне на вýзкую дорóгу.* Дзяражычы.

ВУМ *м.* Розум. *Скупу стаў, старые вумы́ скупуе.* Ручаёўка.

ВУ'НЕКА *часц.* Вунь. *Вýнека де плоточак загубіла.* Первамайск.

ВУ'ТВА *ж.* Качкі. *Вýтва у канаві блёхаецца.* Ручаёўка. *Вýтвы багата на лузе.* Чаплін.

ВУ'ТКА *ж.* Качка. *У нас кажуць і вýтва, і вýця.* Ручаёўка. *Вýтка кракае, ета есці просіць.* Чаплін. △ *Як*

*ву́тка (ву́ця) на вадзе́.* Добра (жыць). *Ты будеш жыць за ім, як ву́тка на ваде́.* Дзяражычы. *А шчо ёй атходіць: жыве сабе, як ву́ця на ваде́.* Пярэдзелка. *Я пражыла як ву́ця на ваде́ — добра.* Чаплін.

ВУ'ХА: *за ву́ха вазьмі і сербай.* Аб рэдкай страве. *Ну і боршч зварыла: за ву́ха вазьмі і сербай.* Казярогі. *Сядзе́ць, як у ву́сі.* Аб бесклапотным жыцці. *Прося папагаравала, а баба седіць, як у ву́сі за готовым парадкам.* Дзяражычы. *Як у ву́ха слу́хаць.* Быць паслухмяным. *Я баялася сваю матку: як у ву́ха слуха́ла.* Дзяражычы.

ВУ'ЦЯ *ж.* Качка. *Серая вуця адбілася і прапала.* Карпаўка.

ВУЦЯНЯ' *н.* Качаня. *Вуценя́ маленькае, слабенькае було, а добрая вутка вурасла.* Чаплін. *Спытай, маці, спытай, маці, у серага вуця́ці* (З нар. песні). Карпаўка.

ВУ'ШЛЫ *прым.* 1. Спрытны, дасціпны. *Етые, шчо по роботах ездяць, такіе ву́шлые.* Дзяражычы. 2. Цямлівы. *О-о, я баба ву́шлая: назбірала еечак моўчкі да нахавала; паставіла судно за торхам і туды еечкі паклала, а цепер бач як добра.* Дзяражычы.

ВУШНЯ'К *м.* Вушак. *Нада вушнекі асадіць.* Карпаўка. *Прыделаць вушня́к не так і проста, як вы думаеце.* Чаплін.

ВЫ'БАХАЦЦА *незак.* Вырасці вялікім. *Хорошы такі кабанчык, як лут, вуп'е усе молоко: іч вы́бахаўся, як лут.* Дзяражычы.

ВЫ'ВАЛІЦЬ *зак.* Высыпаць. *Выва́люй на стол, шо прынёс.* Бывалькі.

ВЫ'ВАЛЬНІЦЬ *зак.* Вызваліць. *Грышу з Цесноў прыслалі бумагу, шо ву́вальнілі: вучыталі рашэнне додому.* Ручаёўка.

ВЫ'ВЕРНУЦЬ *зак.* 1. Вывернуць. *Вы́верні чыгун кортопляў у ночоўкі.* Бывалькі. 2. Вылічыць, утрымаць. *Нолог наклалі, ужэ вы́вернулі і грошы тые, з Каціных дней вы́вернулі.* Дзяражычы.

ВЫ'ВЕСЦІ: *вы́весці дзяцей.* Радзіць і вырасціць. *Божа цебе збаў, у мае маткі було адінаццаць децей, адінаццаць деце́й ву́весці.* Дзяражычы.

ВЫ'ВЯЗАЦЦА *зак.* Завязаць хустку. *Ена іде уперад, ву́ўяжыцца, цікавенькая такая, яксьці ена заўя́зувала плоток рагамі наперад.* Ручаёўка.

ВЫ'ГАНШЧЫНА *ж.* Харчы (збожжа), якія выносяць пастуху ў дзень выгана кароў у поле. *Стары чэраду пасе,*

*дак вўганшчыну прыпрэ мешкі тры-чатыры кабаном.* Дзяражычы. *У нас добрую вы́ганшчыну выносяць: масла, сыру, і усе такое.* Рудня Марымонава. *Вы́ганшчыны тае: мешкоў п'яць хлеба.* Чаплін.

ВЫ'ГАЛІЦЬ *зак.* Зрабіць голым. *Шоб цебе галец вўгаліў.* Дзяражычы.

ВЫ'ГАРАДЗЬ *ж.* Адгароджанае месца для жывёлы. *Худоба прыходіць, дак у хлеў, а у калгасі вы́гарадь.* Ручаёўка. *У калгасі вы́гарадь, у дерэўні німа.* Чаплін.

ВЫ'ДМА *ж.* Яма. *Аттуль такіе вы́дмы: вецер выдымае такую яму, круціць і круціць.* Дзяражычы.

ВЫ'ДУБІЦЦА *зак.* Памерці. *А калі адін раз і не з'есі, то не вы́дубішся, цэлы будеш.* Карпаўка.

ВЫ'ДУШЫЦЬ *зак.* Знішчыць, вынішчыць. *Моркву у городах павурывай, вўдушыў усё насветачку.* Ручаёўка.

ВЫ'ЖАНУЦЬ *зак.* Выгнаць. *Раней аттуль не прыедеш, пака корой не вўжанеш у чэраду.* Дзяражычы. *Седі ціха, а то цёця вўжане.* Ручаёўка. *Ета баба хоча вўжануць хлопца к Просі.* Бывалькі. *Дедушка, ты плоціш нолог чэраз дочку, ты ее вўжань.* Первамайск.

ВЫ'ЖЛУКЦІЦЬ *зак.* Прагна выпіць. *Прышла з поля, дак зразу мо тры кружкі вады вы́жлукціла.* Ручаёўка.

ВЫ'ЖЫМКІ *мн.* Мязга. *Ён ездіў па вўжымкі тые на крухмальны завод да прастудіўся, дак у его прыліцце мозкоў було, дак ён пакрычаў і умер.* Дзяражычы.

ВЫ'ЗВАЛІЦЬ *зак.* Зрабіць паслугу, выручыць. *Вызваль, браток, пазыч грошай.* Казярогі. *Ена скрозь нас вўзваліць.* Чаплін.

ВЫ'ЗВЕЗДЗІЦЦА *зак.* Вызарыцца. *Вы́звезділася неба, зорачкі узышлі.* Чаплін.

ВЫ'ЙСЦІ *зак.* 1. Выйсці. *Камнем не прыкладаюць капусту, хай жа горасць вы́йде.* Дзяражычы. // Выляцець. *Калі рой вулетае, то говорацъ: рой вўшаў.* Чаплін. 2. Набыць спецыяльнасць. *Янка цепер чалавекам стаў, шохвірам вы́шаў, дак на машыні седіць.* Ручаёўка. 3. Быць лепшым. *Я хочу, шчоб мае коні луччые за усіх вы́шлі.* Дзяражычы. 4. Кончыцца, зрасходавацца. *Кортоплі ужэ вы́шлі усе, заўтра паеду у Лоеў купляць.* Ручаёўка. △ *Вы́йшлі гады́.* Дажыў да пэўнага ўзросту. *Як вы́йдуць гады, дак мо і буде пенсая.* Дзяражычы. *Вы́йшлі мае гады, куды мне іці даяркай!* Дзяражычы.

ВЫКА'ЎЗУВАЦЦА *незак.* Выслізгвацца. *Склізкіе крупейцы: з рук губяцца, выкáўзуюцца.* Карпаўка.

ВЫЛА'ЗІЦЬ *незак.* Вылазіць. *Бач, як прышлося вýлазіць з-пад плоту.* Вулкан.// Выходзіць. *Ена увосень прыехала, дак зімачку не вулáзіла нікуды.* Первамайск. △ *Вылáзіць душá.* Знаходзіцца ў цяжкім стане. *Як несе непасілна, дак кажуць: душá вулáзіць насырава, вупірае насырава душа.* Ручаёўка.

ВЫ'ЛІЦЬ *зак.* Выліць. *У хату носіць воду, ілле, а тады шухлею вýлле.* Ручаёўка. △ *Як вылліць.* Зрабіць добрае. *Пострóіць сапага ці бацінка — як вýлле усеадно.* Ручаёўка.

ВЫ'ЛУПІЦЬ [1] *зак. груб.* Выдраць. *Ужэ два лісты з цетрадзі вылупіла.* Дзяражычы.

ВЫ'ЛУПІЦЬ [2] *зак. груб.* Прагна паесці. *Не хочу, не хочу, а сама вылупіла б баршчу міску.* Карпаўка. △ *Вылупіць бéзікі (вóчы).* Угледзецца. *Ён як вылупіў безікі на мене.* Дзяражычы. *Чого ты вылупіў вочы? Вылуп бéзікі свае, куды ты гоніш корову.* Пярэдзелка.

ВЫ'МЕСЬ *ж.* Прыпёк. *Ні вýмесі у ём німа ніякай, нічога — чорць знае, што ета за хлеб: ён жа і стаіць тут, укусіла уранні, дак ён і стаіць ле серца, ле ложачкі.* Дзяражычы.

ВЫ'НЯЦЬ: *душы́ не выняць.* Соладка, прыемна слухаць. *О-о, такіе бабы і гомоняць, як душы́ не выняць.* Дзяражычы.

ВЫ'ПЛАТ *м.* Растэрміноўка. *Грошы у банку на выплат бралі і атрабатувалі, дрова рубілі і усе делалі.* Ручаёўка.

ВЫ'ПЛЕСЦІСЯ *зак.* Заплесціся. *Вýплелася і іде у школу.* Дзяражычы.

ВЫ'ПРУЦІЦЦА *зак.* Выпрастацца. *Пасыходіліся, аж ена ужэ вýпруцілася, згарэла у ее усе у серэдіне.* Бывалькі.

ВЫ'ПРУЧВАЦЦА *незак.* 1. Выпроствацца. *Усе канікулы выпрýчваецца на карваці.* Казярогі. 2. *перан.* Моцна крычаць, заходзіцца ад плачу (пра дзіця). *Діцятка не здолее, уцета перад чарадою выпрýчваецца.* Бывалькі.

ВЫ'ПУГАЦЬ *зак. груб.* Прагна з'есці. *Выпугаў зразу міску баршчу і усеадно голодны астаўся.* Ручаёўка.

ВЫ'ПУСК *м.* Выган, месца, дзе пасецца жывёла. *Ле вады у нас вýпуск, целічку выпусціць можна.* Дзяражы-

чы. *У Мішкі буў надел, у наделі 18 десяцін з выпускамі.* Бывалькі.

ВЫ'ПЫЛІЦЬ *зак.* Запыліць. *Ты са сваёю мукою вýпуліш людей.* Дзяражычы. *Пагледі выпыліла усю спадніцу.* Бывалькі.

ВЫ'РАГАТАЦЦА *зак.* Нарагатацца, насмяяцца. *Вырагачамся, як спім на лузі.* Дзяражычы.

ВЫ'РАЗЬ *ж.* Разрэз у плацці, кашулі. *Бальшую выразь зделала у плацці.* Пярэдзелка.

ВЫ'РУБКА *ж.* 1. Высека. *Вырубка — тое места, де увесь лес вырубаецца.* Ручаёўка 2. Паз. *Делай вуглавую вырубку, а я пакуру.* Первамайск.

ВЫ'СЕВАЧНЫ *прым.* З высевак. *Вýсевачны такі хлеб, усе дясны поколіш.* Вулкан.

ВЫ'СЕКЦІ *зак.* Адсячы. *Трэба паехаць да высекці жэртак.* Дзяражычы.

ВЫ'СЕЯЦЬ *зак.* Засеяць. *Бач, ляда высеяў.* Первамайск.

ВЫ'СКАЛІЦЦА *зак.* 1. Выскаліцца (пра сабаку). *Як хто чужы пройде, дак ён выскаліцца, аж страшка.* Ручаёўка. 2. *перан. груб.* Засмяяцца. *Чого ты выскаліўся — зубы сушыш.* Ручаёўка. 3. Заблішчаць, праглянуць (пра сонца). *Послі дашчу сонца выскаліцца, у нас кажуць прыпарыла.* Ручаёўка.

ВЫ'СКРЫПАЦЬ *зак.* Выстудзіць. *Выскрыпалі етую хату на нет, нема знаку, шчо і тапіла.* Дзяражычы.

ВЫ'СМАЖУВАЦЬ *незак.* Насмажваць. *Тая вучыцельніца вужаруе, вусмáжуе да мужыка корміць.* Дзяражычы.

ВЫСМІХА'ЦЬ *незак.* Высмейваць. *Я деўкаю калісь вусміхáла его.* Бывалькі.

ВЫСО'КІ *прым.* Высокі. *У болоці вісóкая рагаза.* Ручаёўка. *Вунь у мойго суседа дужа вісóкі струб.* Чаплін. *У нас вісóкім тонам пеюць песні.* Ручаёўка.

ВЫ'СПЯТАК *м.* Выспятак. *Даў такога выспетка, што болей не палезе у сад.* Пярэдзелка.

ВЫ'СТАГНАЦЬ *зак.* Выхвараць. *Да выстагнаў бы ён, такую беду прынёс у хату.* Карпаўка.

ВЫСТАЧА'ЦЬ *незак.* Даставаць, пастаўляць. *Як стане выстачáць, дак чого ён не выстачыць.* Дзяражычы.

ВЫ'СУЛУПІЦЬ *зак.* Высунуць (пра язык). *Я так старалася Сергея несці, да сюды данесла і език высулупіла.* Ручаёўка.

ВЫ'СЦЯГНУЦЦА *зак.* Выцягнуцца. *Вышла, вы́сцегнулась на сонейку і лежу — такая мая старасць.* Бывалькі.

ВЫСЫХА'ЦЬ: *высыха́ць у галаве́.* Паступова страчваць розум. *У галаве́ ужэ высыха́е, столькі годоў пражыць на свеце.* Бывалькі.

ВЫТАРПА'ЧУВАЦЬ *незак.* Працаваць без перадышкі. *Вытарпа́чувалі усё лета, а што палучылі.* Казярогі.

ВЫ'ТУРЫЦЬ *зак.* Выгнаць. *Што! Вы́турылі с хаты! Куды ты цепер пойдеш?* Дзяражычы.

ВЫ'ЦАДЗІЦЬ *зак.* 1. Працадзіць. *Можна садраць кордоплі да блінчыка іспекці, можна ву́цадіць малако да кіселіку заделаць.* Дзяражычы. 2. Выпіць. *Вы́цаділі усю гарэлку да каплі.* Дзяражычы.

ВЫ'ЦЕПАЦЬ *зак.* Выбіць. *Не вы́цепай нітак, ціхенька патрусі.* Дзяражычы.

ВЫ'ЦЕРЦІ *зак.* 1. Выцерці. *Вы́тры стол, а то кніжкі помочыш.* Вулкан. // Памыць. *Я ву́тру мост, гразны ужэ, іді анучу прынесі.* Чаплін. 2. Пачысціць (комін). *Калі б гліны узяць, комін ву́цер бы да пабеліў бы.* Ручаёўка. 3. Запаліць запалку. *Парцізаны увыйшлі у хату ноччу не свеціўшысь, вы́церлі спічку і спрашуюць у Васілька: «Ты не угадаў нас?»* Крупейкі.

ВЫЦІРА'ННЕ *н.* Націранне. *Урачы сказалі: сілна нада ву́граванне і вуціра́нне, тады ногі перастануць балець.* Дзяражычы.

ВЫ'ЦІСНУЦЬ *зак.* Выціснуць. *З яблак соку вы́ціснула.* Бывалькі.

ВЫ'ЦУРАЦЦА *зак.* Ацурацца. *Як ажэнісся, дак я цебе вы́цураюся.* Дзяражычы.

ВЫ'ЧАЎРАЦЬ *зак.* Схуднець, збалець. *Так вы́чаўрала, што нема на кого́ гледець.* Дзяражычы.

ВЫ'ЧУНЯЦЬ *зак.* Ачуняць, паправіцца. *Толькі вы́чуняла — і ужэ замуж іде.* Карпаўка.

ВЫ'ЧУХАЦЦА[1] *зак.* Акрыяць, ачуняць. *Чуць-чуць вы́чухалась, так цяжка хварэла, думала, што ужэ не устану.* Дзяражычы.

ВЫ'ЧУХАЦЦА[2] *зак.* Прагаладацца, выбегацца. *Кабанчык як вы́чухаецца, дак так слаўна паесць.* Дзяражычы.

ВЫ'ЧЫСЦІЦЬ *зак.* Скастрыраваць. *Кабан такі правішчлівы буў, пака ву́чысціла. Ву́чысціла кабанчыка і схалашчала кабанчыка — ета адно і тое ж.* Дзяражычы.

ВЫ'ШНЯ *ж.* Вішня. *У мене две дерайцы вышань.* Казярогі. *Паделаліся, як вышні, да такіе ядраные.* Карпаўка. *Вышань німа, а яблакі будуць.* Крупейкі.

ВЫ'ШПІГАВАЦЬ *зак.* Выведаць. *І што за чалавек! У діцяці і то сумее вышпігаваць усе.* Ручаёўка.

ВЫ'ШТУПАЦЬ *зак.* Вышыць. *Калісь сорочкі з зоборамі да выштупаеш — ого як.* Дзяражычы.

ВЫШТУПО'ЎВАЦЬ *незак.* Вышываць. *Шыюць сорочкі да выштупоўваюць, цікавенька.* Дзяражычы.

ВЫ'ШУПЦЕЛЫ *прым.* Пусты ў сярэдзіне. *А божа мой, уся рэдька вышупцелая стала, адны скарынкі асталіся!* Казярогі.

ВЫ'ШУПЦЕЦЬ *зак.* Зрабіцца пустым у сярэдзіне. *І у мене уся рэдька і радіска вышупцела.* Казярогі.

ВЫ'ШУШКАЦЦА[1] *зак.* Выстудзіцца. *Зачыніце дверы: вышушкаецца увесь дух.* Ручаёўка.

ВЫ'ШУШКАЦЦА[2] *зак.* Сабрацца (марудна). *Пакуль ён вышушкаецца, дак і абед: магазін закрыецца і хлеба не возьмеш.* Пярэдзелка.

ВЫШЫНА' *ж.* Вышыня, рост. *Хлопец мой прышоў на восім дней, дак вышына да платніна!* Дзяражычы.

ВЫ'ШЫШКАЦЬ *зак.* Выштурхаць, выгнаць. *Заберэцца у хату, дак і не вышышкаеш его.* Дзяражычы.

ВЫ'ЯСНІЦЬ *зак.* Высветліць. *А я выясніла, де учора наш настаўнік буў.* Первамайск.

ВЯДЗЬМА'ЧКА *ж.* Вядзьмарка. *Прыходяць две етройкі-ведьмачкі, адчыняюць ворота, а мой чалавек на іх мацюком!* Ручаёўка.

ВЯДЗЬМЕ'ДЗЬ *м.* Мядзведзь. *Калісь ведьмеді булі у нашым лесі.* Первамайск.

ВЯ'ЗА'НКА *ж.* Хустка, вязаная з шэрсці. *В'язаны такі плоток называецца в'язанка.* Дзяражычы. *Везанка добрая у цебе да доўга так носіцца.* Казярогі.

ВЯЗЕ'ЛЬ *м.* Гарошак. *Везель — нападобіе гороха, цвіце, самае хорошае сена у заліўных лугах, асобенна па далінах.* Пярэдзелка.

ВЯЗЁНКІ *мн.* Рукавіцы з адным пальцам. *Звезала свайму менчаму везёнкі.* Дзяражычы.

ВЯЛІ'КАДНЯ *ж.* Вялікдзень. *Мене на велікадню паддурылі деўкі.* Карпаўка.

ВЯЛІ'КІ *прым.* Вялікі. *Девачкі велікіе, дак нехай ладяцца удвох да спяць.* Дзяражычы.// Працяглы. *Ему ж служба велікая: ён пойде мо і на тры гады у армяю.*

Бывалькі. △ *Вялікія грошы.* Высокі заработак. *Грошы велікіе палучае, бо ён жа за доктара.* Дзяражычы.

ВЯЛЬМЕ'Й *прысл.* Больш, лепей. *Вельмі красівы чалавек, а мой вельмéй.* Казярогі.

ВЯЛЬМЕ'ННА *прысл.* Вельмі. *Вельмéнна змерз!* Карпаўка.

ВЯНО'К *м.* 1. Вянок. *З васількоў плелі венкі.* Бывалькі. 2. Рад бярвенняў зруба. *Цэлае лета зруб стаяў, ніхто за его не браўся, дак прышлось заменіць ніжні венóк.* Чаплін. 3. Пляцёнка цыбулі. *Мар'я наплела шаснаццаць венкóў цыбулі.* Казярогі. *Так, як деўка косу заплетае, так нада і цыбулю у венóк плесці.* Ручаёўка.

ВЯРНА'ЦЦА *незак.* Вяртацца, варочацца. *Вернáюся зноў назад.* Рудня Марымонава. *Вернáйсь, Алена, сюды.* Чаплін.

ВЯРНА'ЦЬ *незак.* Вяртаць, варочаць. *У раёні прымуць, а вобласць вернáе назад.* Дзяражычы. *Узела жлукта і не вернáе две неделі, а мне трэба плацце мыць.* Ручаёўка.

ВЯРНУ'ЦЦА *незак.* Варочацца. *Суседка заве: дед, дед, а ён лежыць на печы і не вéрніцца.* Дзяражычы.

ВЯРНЯ'КАЦЬ *незак. абразл.* Гаварыць шмат і абышто. *Перастань верня́каць, дай людям слова сказаць!* Казярогі.

ВЯРО'ЎКА *ж.* Вяроўка. *Скруціў добрую верóўку.* Чаплін. // Мера. *Ета баба баіцца, шчоб не ўмерла: як стане вувешуваць, дак аднае крамніны верóвак п'яць, а у мае маткі мо толькі адна верóвачка буде.* Дзяражычы.

ВЯРО'ЧАЦЬ *незак.* Варочаць. *Дайно сена верóчалі? Трэба ешчэ раз павернуць.* Ручаёўка.

ВЯРШНЯ'К *м.* Верхні камень у жорнах. *У жорванах зверху е вершня́к.* Ручаёўка.

ВЯРЫ'ДАВАЦЬ *незак.* Камандаваць. *Баба з намі веры́дуе увесь день, а толку нема.* Первамайск.

ВЯРЭ'ЙКІ *мн.* Пералаз з жэрдак. *І верэ́йкі мае аплылі, нема каму подстроіць іх.* Барэц.

ВЯРЭ'НІК *м.* Пірог з начынкаю. *Верэ́нікі пекла з начынкаю.* Пярэдзелка.

ВЯРЭ'НЯ *ж.* Варэнне. *Я кажу: давайце ма паедім етую верэ́ню. Там мо екая верэ́ня була, дак ены з макатра усю паелі.* Дзяражычы. *Верэ́ня стаяла у банцы.* Чаплін.

ВЯСЁЛЫ *прым.* Вясёлы. *Весёлые песні пеюць на ве-*

*селлі ці калі спраўляюць дажынкі.* Ручаёўка. *Я люблю весёлую музыку.* Чаплін. // *перан.* Прыгожы. *Его добра захавалі, да добрую дамавіну зделалі, да на весёлым месці захаранілі, да пасадкі пасаділі — вышні, слівы.* Дзяражычы.

# Г

ГА'ГАЦЬ *незак.* Гагатаць (пра гусей). *Еслі гусь гáгае, то ена, мабуць, есці хоча.* Ручаёўка.

ГАДАВА'ЦЬ *незак.* 1. Карміць. *К калядам нечым будзе гадавáць свіней.* Дзяражычы. *Маша на дварэ гадýе свіней, а я у хлеві гадавáла скрозь.* Пярэдзелка. // Скормліваць. *Каліськ була паралюбная мука: парасяткам не гадавáлі.* Ручаёўка. *Берэ хлеб і гадýе кабана, нада ж скаціну гадавáць!* Чаплін. 2. Расціць. *Бацька садеваў і гадаваў.* Дзяражычы. *Нехай сынок сам сваіх децей гадýе.* Первамайск.

ГА'ДАСНЫ *прым.* Дрэнны. *Гáдасны сабака: вутак ірве і гусей.* Бывалькі. *Гáдасная робота з грашамі звязуваццa.* Первамайск.

ГАДЗІ'НА *ж.* Часіна. *Бувае гадіна трудная.* Дзяражычы. △ *Стáрая гадзіна.* Даўні час. *Ета у стáраю гадіну було так: хлопцы вубіраюць і парабіраюць.* Крупейкі.

ГА'ДЗІЦЬ *незак.* 1. Нудзіць. *Драчоў напекла, наелась і так гáдіць, так блюю!* Дзяражычы. 2. Шкодзіць. *Што ты тут гáдіш? Не ты садіў парк.* Пярэдзелка.//Псаваць. *Шые світу, а шнураванння німа — не буду і сукно гáдіць.* Дзяражычы.

ГАДЗІ'ЦЬ *незак.* 1. Дагаджаць.— *А свекрусі нада гадіць.— Да ена ж гóдіць, а не здолее.* Бывалькі. *Затое тады і сыны гаділі бацькам, каб не вугнаў с хаты, а то землі ж табе не дасць.* Дзяражычы. // Іграць у тон песні. *А ён заўсёды гадіць пеўчым.* Чаплін. 2. Прадвяшчаць. *Парыць і парыць — усё гóдіць на дошч.* Ручаёўка.

ГАДЗЮ'ЧНІК *м.* Зверабой. *На его гаварылі гадючнік — цветы такіе жоўценькіе.* Ручаёўка.

ГА'ДКІ: *ні гáдкі (была).* Пра адсутнасць клопату. *Жыў бы цепер мой хазяін, я б ні гáдкі булá.* Вулкан. *Як будуць у лаўку вазіць, дак ні гáдкі — будам жыць.* Дзяражычы.

ГАДО'К м. Аднагодак. *Мне семдісят тры годы, от жа з Навумам я годóк.* Дзяражычы.

ГАЗ м. Газа. *Газ прынесі да налі у лампу.* Крупейкі.

ГАЗНІ'К м. Маленькая лямпа без шкла. *Цепер не прадуць нічога і светла, а тады газніка́ запаляць і прадуць.* Бывалькі. *Калісь буў газнік, а хто лісавы, дак кажа газнічóчык.* Дзяражычы.

ГАЙ м. Лес. *Гай — лес, малы аб'ёмчыкам.* Бывалькі. *Што расце хорошае, дак кажуць: от расце, як гай.* Крупейкі. *Памянш.* гаёк. *Гаёк лесу стаіць.* Бывалькі. *Гаёк — кусцік лесу.* Ручаёўка.

ГА'ЙВАРАН м. Грак. *Бач, га́йвараны ходяць па кукурузе.* Пярэдзелка.

ГАЙНО' н. Логава. *Гайнó — свіное логава.* Дзяражычы. *У гайне́ лежыць свіння.* Ручаёўка.

ГАЙСТРЫ'ЦЬ незак. Вастрыць. *Я сама гайстры́ла ножні.* Ручаёўка.

ГА'ЙСЦЕРКА ж. Астра. *У нас кажуць га́йсцеркі на астры.* Дзяражычы.

ГАЛАВА' ж. 1. Галава. *Галава́ мая крэпка баліць.* Вулкан. 2. Кола на навойцы. *Вельмі вісокая галава́ у нашай навойцы.* Ручаёўка. *Головóю калесо етае называецца і у велікай і у малой навойцы.* Бывалькі. △ *Го́лаву задра́ць.* Заганарыцца. *У горадε неделю пабуде, а го́лаву задерэ́, што не падыходь к ёй.* Первамайск. *Галаву́ ламіць.* Думаць шмат над чым-небудзь. *Чо ты седіш, го́лаву ло́міш? Пабачыш, усё буде добра.* Ручаёўка *На галаве́.* Пад началам. *Велікае хадяйства на галаве́.* Ручаёўка. *На ўсю галаву́.* Вельмі моцна. *Деўкі як завішчаць, дак на усю́ го́лаву.* Дзяражычы. *Я там на усю́ го́лаву галасіла.* Карпаўка. *Пусціць па галаве́.* Падумаць. *От пусці па сваёй галаве́ да разберыся толкам, тады і гавары.* Дзяражычы. *У галаву́ сту́кнуць.* З'явіцца ў думках. *І шчо ему у го́лаву сту́кнула паехаць у Карэлію? Багата грошай захацеў.* Чаплін.

ГАЛАВА'ТАР м. Завадатар. *Толік у іх галава́тар да такі урэдны хлопец.* Карпаўка.

ГАЛАВА'ТЫ прым. Разумны, кемлівы. *Е і девачкі галава́тые, а у ее такі хлопец.* Вулкан. *Галава́ты хлопец расце у Адаркі.* Пярэдзелка.

ГАЛАДАВА'ЦЬ незак. Галадаць. *Галадава́ць не буде, ета са дна мора дастычыць.* Казярогі. *Ены тую весну галадава́лі.* Карпаўка.

ГАЛАМО'ЗЫ *прым.* З непакрытай галавой. *Голавы памерзнуць галамо́зые.* Бывалькі. *Чого ты выскачыла галамо́зая.* Карпаўка.

ГАЛАПЛЕ'ЧКА *ж.* Сарочка. *Рубашка праражыцца да зарубіцца, і рукава е — галаплечка.* Пярэдзелка.

ГАЛАШЧО'К *м.* Галалёдзіца. *Галашчок буў, лёд.* Дзяражычы. *Пройде дошч, а тады мороз, земля замерзне без снегу — галашчо́к.* Пярэдзелка.

ГАЛЕ'Ц *м.* Галалёд. *Узелося усё гальцо́м, а ні праехаць, ні прайці.* Пярэдзелка.

ГА'ЛІЦЦА *незак.* Быць ахвочым. *Вот ена га́ліцца сама памыцца.* Крупейкі.

ГАЛО'ДНЫ *прым.* Галодны. *Як бы ена голо́дная була, дак шукала б сабе есці, а то тут жыруе.* Дзяражычы. △ *Гало́дны год.* Неўраджайны год. *Так не буде, як у голо́дны год падалі людзі.* Бывалькі. *Гало́дныя зу́бы.* Пра згаладаласць. *Шо той блінчык на голо́дные зубы.* Дзяражычы. *Гало́дная куцця́.* Абрадавая вячэра перад калядамі. *У панеделак голо́дная куцця́ була.* Дзяражычы. *На голо́дную куццю́ едяць поснае, а скаромнага не едяць.* Ручаёўка. *Гало́дная смерць.* Смерць ад голаду. *Што ета на голо́дную смерць саджаць людей.* Казярогі.

ГАЛУ'БКА *ж.* 1. Самка голуба. *У нас толькі у аднаго чалавека е голуб з галу́бкай.* Бывалькі. 2. Ласкавы зварот старых жанчын. *От такая жаждая, галу́бка, усё ёй мала.* Вулкан. *Я за ім, галу́бка, жыла, як вуцця на ваде.* Бывалькі. *Ена за ім рогі пакахае, галу́бка.* Дзяражычы.

ГАМАНІ'ЦЬ *незак.* 1. Гаварыць, гаманіць. *Ву ж пісалі усе: я гаманю́, а ву пішаце.* Ручаёўка. *Ут ета ена со мной не гаманіла.* Чаплін. *Гамане́лі б мужчыны, штоб далі травы.* Дзяражычы. 2. Гудзець. *Гомо́няць, шапечуць — мухі ці авадні.* Пярэдзелка. *Он поўну банку налезла мух, а ена закрыла крышкай, дак вон як гамо́няць.* Чаплін.

ГАМАНКІ' *прым.* Гаваркі. *Ён і гомоніць, і гомоніць — гаманкі такі.* Дзяражычы.

ГАМАНО'К *м.* Гаварун. *Мой бацька буў гамано́к, столькі знаў казак, прыказак.* Карпаўка.

ГАМА'Р *м.* Ніжняя ручка падоўжанай пілы. *А спадняк держыць гама́р і стаіць унізу. Ета му так зовом.* Ручаёўка.

ГАМУ'ЛА *ж.* Страва з грыбамі і мукой. *Укінула у гаму́лу трохі перцу, грыба пакрышыла.* Казярогі.

ГАНА'К *м.* Перасяленец. *Із-за рэкі — ганáк.* Пярэдзелка. *Ганакі — выдумка такая, адно село на другое кажа, як хто прыехаў у нашу дерэўню з другога места — ганáк.* Вулкан. *У нас плоток, па ганакáх кажуць хуста.* Ручаёўка. *Му іх, етых грохаўцаў, ганакáмі завом за тое, шчо у іх езык не такі, як у нас.* Ручаёўка.

ГАНАЧЧО' *н.* Перасяленцы. *Ганаччо — закаранелые беларусы, смаленшчына!* Ручаёўка.

ГАНЕ'ЙКА *ж.* Некалькі слухачоў. *Ён саберэ ганéйку да пытае, а сам піша і піша.* Ручаёўка.

ГАНЕ'ННЕ *н.* Попыт. *За етаю рыбаю такое ганéнне.* Дзяражычы.

ГАНЧА'К *м.* Рачное судно. *Ганчакі — судна такіе.* Крупейкі. *Раньшай плавалі на ганчакáх.* Пярэдзелка.

ГАНЧУ'Р *м.* Неахайны чалавек. *Увесь як ганчýр, як камінар — чорны.* Крупейкі.

ГАНЧУ'РА *ж.* Ануча. *Грaзная трапка, екой беруць у лузі гаршчкі—не у домі, жанчыны такого слова не ведаюць — ганчýра.* Пярэдзелка. // *перан.* Неахайная жанчына. *Адарка, як ганчура, гразная.* Пярэдзелка.

ГАНЧУ'РКА *ж.* Ануча. *Ганчýрка — ета трапка, як хто скажа.* Пярэдзелка. // *перан.* Неахайная жанчына. *Маню дражнілі ганчýрка.* Пярэдзелка. *Гразнаю бабу караўкай ці ганчýркай завуць.* Ручаёўка.

ГАНЯ'ЦЦА *незак.* 1. Ганяцца. *Сабака ганяўся за коцікамі.* Бывалькі. 2. Мець схільнасць, любіць. *Я не хочу рыбы, я за ею не ганяюсь.* Дзяражычы.

ГАНЯ'ЦЬ *незак.* 1. Ганяць. *Нашы пачарэжна ганяюць короў, у две стаді ганяюць.* Дзяражычы. 2. Пераганяць (пра малако). *Кожны день ганялі молоко.* Бывалькі. *Падбарабáнюе ужэ сепаратар, а ганяе добра.* Дзяражычы. 3. Вазіць. *Яблакі ганяе на Украіну.* Вулкан.

ГАПЛІ'К *м.* Аплік. *Ішла баба ліпняком, зачапілась гаплікóм, баба ў голас, баба ў крык: «Адчапіся, мой гаплік»* (З нар. песні). Ручаёўка. *Ушый у спадніцу гаплік.* Чаплін.

ГАПЛІ'ЧКА *ж.* Пятля для апліка. *Цепер гаплічкі купляюць і носяць, а калісь делалі самі.* Дзяражычы. *Ле кручка е названне — гаплік і гаплічка.* Ручаёўка.

ГАРАГУ'ЛЯ *ж.* Рагуліна. *Адкуль ты етые гарагýлі прыцегла?* Пярэдзелка.

ГА'РАНЫ *прым.* 1. Гарэлы. *Хлеб бувае глёўкі, гáраны, не відна, шчо ён і белы, як чыгун лежыць.* Бывалькі.

2. Распалены. *Жара — прысак: песок, як гáраны.* Дзяражычы.

ГАРАХВЯ'НІК *м.* Гарохавая салома. *Гарахвя́нік пакідай у хлеў, шчоб не так гразна було.* Дзяражычы.

ГАРА'ЧКА: *гара́чка пакаціла.* Разагрэлася. *Ужэ вукідала, вукідала гной, дак па мне гара́чка пакаціла.* Дзяражычы. *Гара́чка но́сіць.* Пра беганіну. *Чого цебе гара́чка но́сіць цэлы день, ці табе дома нема роботы.* Казярогі. *На гара́чку.* Навошта. *А на гара́чку ён ёй іздаўся!* Крупейкі.

ГАРАЧЭ'ННА *прысл.* Вельмі горача. *Як раскаліцца, дак тут і тут гарачэнна.* Чаплін.

ГАРАЧЭ'ННЫ *прым.* Вельмі гарачы. *Бач, екі гарачэ́нны жыватoк.* Крупейкі.

ГА'РБА *ж.* Воз, калёсы. *Мене немцы пасаділі у га́рбу, дак я, мамачка, уцёк.* Дзяражычы. *Я ж у мехі не сыпала, на га́рбу дай усе.* Рудня Марымонава.

ГАРБЫ'ЛЬ *м.* Аполак. *Сколькі ён етых гарбылёў наделаў, дак божачкі мае.* Чаплін.

ГАРДАВА'ТЫ *прым.* Горды. *Нашы девачкі гардава́тые.* Пярэдзелка.

ГАРКАТА' *ж.* Гаркота. *От як старая рыбу зварыць плоха, горка, я і гавару: гаркатá.* Ручаёўка.

ГА'РКНУЦЬ *зак.* Моцна і дружна заспяваць. *Га́ркнеш ту песню, дак красівенна.* Пярэдзелка.

ГАРЛЯНЫ': *гарляны́ рак.* Рак горла. *У его буў у горлі гарлены́ рак.* Карпаўка.

ГАРМО'НІ *мн.* Гармонік. *На вечарах з гармо́нямі Іван іграе.* Крупейкі. *Моладеж е, да на гармо́нях ніхто не можа іграць.* Ручаёўка.

ГА'РНЕЦ *м.* Мера сыпучых рэчаў (1/4 вядра). *Тады ж делалі дераўяные га́рнецы майстры, а цепер зелезные.* Ручаёўка.

ГАРО'Д *м.* Агарод. *І гной нада, і вада нада на горо́д.* Крупейкі. *Не знаю ужэ, што і сеяць на етым горо́ді, дашчу нема, а так на песку нічога не расце.* Чаплін.

ГАРО'ДЧЫК *м.* 1. Агародчык. *Ну, што у том горо́дчыку расце. Гуркі, кійкі, гарбузы.* Пярэдзелка. 2. Кветнік. *Півоня зацвіла у горо́дчыку — деўкам хлопцы пакрадуць.* Дзяражычы. *Стары, хоць бы ты горо́дчык паліў: сосо́хлі усе цветы.* Первамайск.

ГАРО'ЎЛЯ *ж.* Напружаная праца. *За ее горо́ўлю хле-*

*бам бы закідала хату: столькі ена гаруе на хермі.* Дзяражычы.

ГАРО'Ю *прысл.* Наскокам. *Што ж даццэ пабыць два месяцы, дак мачыха горо́ю, горо́ю на мужыка, нашто ена.* Ручаёўка.

ГАРСЭ'Т *м.* Верхняя жаночая адзежа без рукавоў. *Гарсэ́т цепер не шыюць, але завуць.* Бывалькі. *Гарсэ́т на ўсе гузікі буў, шчытненькі.* Ручаёўка. *От пашыла нача старая баба гарсэ́т.* Чаплін.

ГАРУ'КА *ж.* Гаротніца. *Ена баба гару́ка.* Ручаёўка.

ГА'РУСКА *ж.* Гарусавая хустка. *Завежы маю га́руску, сегодні празнік.* Ручаёўка.

ГАРУСО'ЎКА *ж.* Гарусавая хустка. *Гарусо́ўкі прадавалі у лаўцы.* Пярэдзелка.

ГАРУ'ЧЫ *прым.* Гаротны. *Ена баба гару́чая, увесь век сама пражыла.* Ручаёўка.

ГАРУ'ШЧЫ *прым.* 1. Гаротны. *А Прося мая гару́шчая, усе гаруе і гаруе.* Дзяражычы. *Такая гару́шчая ета жэншчына: трох сыноў на вайне паклалі.* Первамайск. 2. Працавіты. *Маня гару́шчая дзеўка: багата роботае і робо́тае.* Дзяражычы. *Деўка гару́шчая була, да гора ей велікае прыпала.* Ручаёўка.

ГАРШЧО'К *м.* 1. Гаршчок. *Хто скажа гаршчо́к, а болей горшчык.* Дзяражычы. 2. Пасудзіна для хатніх раслін. *Гаршчо́к ці макоцеркі — етые леплены з гліны, у іх і садім цветочкі.* Ручаёўка. △ *Гаршчкі павыеда́ць.* Прагна паесці. *Казала: зяць пабагату есць, навару, дак гаршчкі павуеда́е.* Дзяражычы.

ГАРЭ'Й *прысл.* Горш. *Ета недастача гарэ́й сушыць за усего.* Чаплін.

ГАРЭ'ЛІК *м.* Прыгарэлая бульбіна. *Хоць бы хто гарэ́ліка паднёс.* Первамайск. *Матка екіх гарэ́лікаў кіне нам у запечак.* Пярэдзелка.

ГАРЭ'ТНЫ *прым.* Гаротны. *Гарэ́тные деці, што без маткі астануцца.* Первамайск. // Здабыты ў цяжкай працы. *Мае дрова такіе гарэ́тные.* Рудня Марымонава.

ГАРЭ'ЦЬ: *гарэ́ць у агне́.* Хварэць. *Ты сама сегодні гарэ́ла у агне́.* Ручаёўка. *Гары́ць сэ́рца агнём.* Аб моцным жаданні. *У бабы гары́ць се́рца агнём без мене.* Дзяражычы. *Гары́ць шку́ра на ёй.* Аб непаседлівым чалавеку. *То ж трэба такому урадіцца: гары́ць шку́ра на ём.* Чаплін.

ГА'ТНІК *м.* Хто робіць гаці. *Га́тніка пусцім, дак і му-*

*ка буде і усе.* Бывалькі. *Шоб прыехалі га́тнікі, дак падгаілі б еты бераг.* Дзяражычы.

ГА'ЎГАЛІЦА *ж. груб.* Кампанія. *Там жа га́ўгаліца саберэцца, дай пеюць і крычаць.* Бывалькі.

ГАЦЬ: *на га́цях (у га́цях) рабо́таць.* Займацца ўмацаваннем берага ракі. *Хлопец тожа на га́цях роботае. Дак хіба у га́цях дурна: у га́цях і крупы наберэ, і зерна.* Дзяражычы. *Ён цепер у га́цях роботае.* Пярэдзелка.

ГВОЗД *м.* Цвік. *Де ена того гвазда́ нашла?* Дзяражычы.

ГВО'ЗДЗЕ *н.* Цвікі. *Гво́здя папарэзала ена.* Дзяражычы. *Калі балачнае гво́здзе, дак палена нікуды не павернецца.* Ручаёўка.

ГЕГЕТА'ЦЬ *незак.* Гергетаць. *Гусь гегє́ча.* Бывалькі.

ГЕ'ПНУЦЦА *зак.* Упасці, пляснуцца. *Ён як ге́пнуўся, дак чуць падняўся.* Вулкан.

ГЕ'РГАЦЬ *незак.* Гергетаць (пра гусей). *Гусь ге́ргае, гергеча.* Бывалькі.

ГІБЕ'ЦЬ *незак.* Гібець, карпець. *Казаў пассекаю, трэба ета нам гібець над етым.* Ручаёўка.

ГІ'ДАВАЦЬ *незак.* 1. Брыдзіцца, адчуваць агіду. *Прося гідуе скражкі варыць, мы не гадавалі кабана тым м'ясам, тымі скражкамі.* Дзяражычы. *Я сырое еечка гідую, гідую піць.* Карпаўка. *Я цёплае молоко гідую піць.* Ручаёўка. 2. Грэбаваць. *Садіцесь, деўкі, ежце, не гідуйце.* Бывалькі.

ГІДЗЮ'ЧЫ *прым.* Вельмі агідны. *Седяць каларады да гідю́чые такіе.* Ручаёўка. 2. Вельмі цяжкі. *Така робо́та гідючая, рукі баляць.* Ручаёўка.

ГІДЗЮ'ШНЫ *прым.* Агідны. *Я так не люблю кралёў, такіе гідю́шные.* Дзяражычы.

ГІ'ДКА *прысл.* Агідна. *Его дайжа гідка у рукі узяць.* Ручаёўка.

ГІЗУ'НТЫ: *выцягнуць гізу́нты.* Замучыць якімі-небудзь непрыемнасцямі. *Выцягнуць гізу́нты мне тым скрыпам, то у хату, то з хаты бегаюць.* Пярэдзелка. *Ён з мене гізу́нты выцегнуў за п'яць годоў: усего пабачыла.* Чаплін.

ГІЛЯ'ЦЬ *незак.* Цягаць. *Чуць свет, а ён гіля́е на сабе сена.* Пярэдзелка.

ГІ'РКА *ж.* 1. Збан з адбітым горлам. *Гірка — абабітая гладышка.* Чаплін. *А ета што там у гірцы?* Карпаўка.

ГІЦ *ж.* Сцябло, націна. *Пабуялі кортоплі, пагнала гіц уверх. Гіц — батва уверх іде.* Пярэдзелка.

ГІРЧА'ЦЬ *незак.* 1. Гыркаць (пра сабаку). *Сабакі гірчáлі.* Чаплін. 2. *перан.* Бурчаць. *Цепер, мая сестрыца, як не гірчы́ць да не б'еццa мой чалавек, дак ціха у хаце стала.* Первамайск.

ГЛА'БКА *ж.* Верхняя частка драбін. *Глáбка зламалася, а заўтра кордóплі трэба перавозіць.* Пярэдзелка.

ГЛАДЫ'ШКА *ж.* Гладыш. *Да палавіны глады́шкі наліла.* Первамайск. *Дейкі, берыце молоко у глады́шцы дай піце.* Ручаёўка. *Памянш.* гладышачка. *Як пойде у заём, дак і масла е, а хочыш, дак пастаў гладышачку на творóг.* Дзяражычы.

ГЛАСІ'ЦЬ *незак.* Гаварыць, паведамляць. *Вы гласіце па закону, зуб не скальце.* Бывалькі. *Закон не гласíць, каб людей не любілі.* Крупейкі.

ГЛА'ЎНЫ *прым.* Галоўны. *Барства не трэбуе, а здоройе глáўнае.* Дзяражычы.

ГЛЕЙ *м.* 1. Гліна. *Усю гліну, што штукатурaць, у нас называюць глей.* Дзяражычы. 2. Суглінак. *Суглінак — глеевая земля, земля з глéем.* Дзяражычы.

ГЛЁК *м.* Гляк. *Глёк для вады, для поснага масла.* Дзяражычы. *Пагледела, як сава у глёк.* Первамайск. *Гладышка — без вушак, глёк з вушкамі.* Пярэдзелка.

ГЛЁЎКІ *прым.* 1. Недапечаны, ліпкі. *Хлеб бувае глёўкі, гараны, не відна, што ён і белы, як чыгун лежыць.* Дзяражычы. *Глёўкі хлеб.* Казярогі. 2. Тоўсты, непаваротлівы. *Куры такіе глёўкіе е, шо не узлезе.* Дзяражычы.

ГЛІ'НА *ж.* Мел. *Я на печы у маткі пабеліла, дак у гліну дусу насыпала.* Дзяражычы. *Пані Хрысціна, нема гліны, нечым пабеліць і печ.* Карпаўка. *Вазьму сабе зелёнкі да гліны падгатоўлю да зімоі буду беліць.* Первамайск.

ГЛІ'ЦА *ж.* Ігліца. *Так гліцай паколóлась.* Ручаёўка.

ГЛУЗДЫ' *мн.* Мазгі. *Корóва глузды́ адбіла і памрэ, а пакуль і не здыхае, і не ачуняе.* Ручаёўка. △ *Глузды́ адбівáць.* Пазбаўляць разумовых здольнасцей. *Діця адбівáе глузды́ і памяць.* Бывалькі.

ГЛУМ *м.* Пасмешышча. *Ты думаеш, цётка ее на глум вучыць.* Дзяражычы.

ГЛЫБ *м.* Глыбіня. *У прорві бóльшая глыб, як тут.* Пярэдзелка.

ГЛЫ'ЖКА *ж.* Камяк. *Як узораш, дак глыжак тых поўна.* Дзяражычы.

ГЛЯДЗЕ'ЦЬ *незак.* 1. Глядзець. *Куды гледі, туды*

*бежы.*// Бачыць. *Було семдесят двороў, а послі вайны де хто гледіць, там і жыве.* Ручаёўка. 2. Даглядаць. *Чэлядка тая і мост памые, і децей гледіць, і корову подо́іць.* Бывалькі. *Нехай скажа спасіба, шо Алексей інвалід, а іх гледіць.* Чаплін.

ГМЫ'РА *ж.* 1. Нелюдзень. *А другая — як ото гмы́ра, ні слова не скажа.* Дзяражычы. 2. Скнара. *Ее свекруха не любіла за тое, шчо ена такая гмы́ра: што е у ее, век не пакажа і не дасць.* Дзяражычы.

ГНАЙНЕЙШЫ *прым.* Менш устойлівы. *Кортопля пазнейшая — гнайне́йшая.* Дзяражычы.

ГНЕ'СЦІ *незак.* Біць. *Жыве ена так: усё жыццё гнеце́ ее: век ходіць з сінекамі.* Бывалькі.

ГНЕТАНУ'ЦЬ *зак.* Выцяць. *Як гнетану́ла палкай па спіне, дак аж прысеў.* Дзяражычы.

ГНЁТЫ *мн.* Патугі. *От у ее начали там гнёты, дак ена гэ-гэ, дак ено як гнетанула ее, і раділа девачку.* Казярогі.

ГНІЛАВІ'К *м.* Гнілец. *Ета ужэ шчытаецца гнілавік, пчолы ета порчаные.* Ручаёўка. *Гнілавік з-за сырасці бувае.* Чаплін.

ГНІ'ЛІК *м.* Перамерзлая бульба. *Гнілікі елі у войну: натаўчэш у ступі карто́плі, шчо перазімуюць у полі.* Ручаёўка. *По полю пашлі да гнілікаў сабралі.* Дзяражычы.

ГНІ'ЛКА *ж.* Гнілушка (груша). *Гнілкі такіе смачные увосень, деці цегаюць з гары.* Вулкан.

ГНУЗДА'ЦЬ *незак.* 1. Кілзаць. *Гнузда́ем коней, калі пускаем на горо́д.* Первамайск. 2. Зацягваць кальцо ў лыч свінні. *Гнузда́юць свінню: рые тая сілна.* Ручаёўка.

ГНУЗДЗЕ'ЧКА *ж.* Вуздэчка. *Веді каня за гнуздечку.* Казярогі.

ГНУЗДО *н.* Вуздэчка. *Гнуздо́ закладаюць каню у рот.* Вулкан. *Я ж его́, як каня, на гнузде́ держала.* Дзяражычы.

ГНЮ'ПА *ж.* Скнара. *Не пайду я за его: такая гню́па, капейкі не убачыш у яго.* Пярэдзелка.

ГНЯЗДО' *н.* 1. Гняздо. *У нас кажуць і гнездо́, і кубло.* Ручаёўка. 2. Унутраная частка вулля. *Гнездо́ робяць цёплым.* Ручаёўка. *У гнезде́ рамкі е, пчолы туды мед кладуць.* Чаплін. 3. Выемка ў канцы бервяна для закладкі другога бервяна. *Гнездо́ нада такое зделаць, штоб бервенні добра держаліся.* Чаплін.

ГНЯНУ'ЦЬ *зак.* Выцяць. *Гледі ж ба як гнену́, дак вускачыш за дверы.* Дзяражычы.

ГОД: *год у го́д.* Штогод. *Корова дабрэнная да кабана б'е год у го́д, а грошы палучае велікіе, бо ён жа за дірэктара.* Бывалькі. *Гады́ перарасці.* 1. Дасягнуць пэўнага ўзросту. *Ена маладая, а раз гады́ свае перарасла́, дак гуляць хоча, хоць і маладая.* Дзяражычы. 2. Здавацца старэйшай за свае гады. *Ён гады́ свае на рост пераро́с.* Дзяражычы.

ГО'ДЗІ *прысл.* Даволі, хопіць. *Не, я ужэ го́ді, не пайду у ягады.* Дзяражычы. *Абгонім, а тады паладім рукамі і го́ді ужэ.* Карпаўка. *Жыла з дедам удвох дай го́де. Прыехала, дак у ее шчо — адін картопель, дай годе.* Дзяражычы.

ГО'ЙСТРЫ *прым.* Востры. *Такі го́йстры серп, што папала рэжа.* Ручаёўка.

ГО'ЛАС *м.* 1. Голас. *Сабака гоніць звера, дак крычыць, го́лас падае.* Бывалькі.//Плач. *Шчось паўліяла на глазы, мо го́лас паўліяў: сілна плакала па децях.* Дзяражычы. 2. Гаворка, мова. *Я де ні паеду, дак своѓо го́ласу не зменю, ва век жызней.* Ручаёўка. △ *Надзе́лаць го́ласу.* Закрычаць, запрычытаць. *Мы як убачылі жандармаў, дак наде́лалі го́ласу.* Первамайск. *Пані́маць на го́лас.* Ведаць матыў. *Песні, каб вы на го́лас пані́малі, дак з намі пелі б.* Бывалькі.

ГО'ЛЛЕ *н.* Галлё. *Лес парубалі, дак нача бура прашла: адно го́лле на землі.* Чаплін. *Куды ета го́лле палажыць?* Ручаёўка.

ГО'ЛЫ *прым.* 1. Голы. *Грышачка стаіць го́лы, як бізун.* Ручаёўка. *Каліcь не наччэш, дак хоць го́лая хаді: цепер людзі луччай ходяць, вутачка мая.* Бывалькі. 2. Без верхняй вопраткі. *Як сталі банбіць, дак пакідалі усю адежу: і го́лая, і босая прышла.* Крупейкі. *Жандармы схвацілі бацьку го́лага, у нацельным белле, вуцеглі на вуліцу і сталі біць прыкладамі і го́лага завезлі на Астраўкі: чатырнаццаць кілометраў го́лага, босага, без рубашкі.* Первамайск. 3. Бедны. *Ена сама го́лая, нічога у ее нема: ена була год ці болей десь, аттуля прышла го́лая, а тут пазабіралі людзі ці мо пагарэла.* Бывалькі. *Паша ка мне го́лая і босая прыйшла, а бачыце, шчо нажылі — усе е.* Казярогі. △ *На гало́.* Усё да нітачкі. *Нас жа паліцэі аграбілі з ног да галавы, на голо́ аграбілі: і касцюмы, усе пазабіралі.* Первамайск. *На го́лую бе́лку абабра́ць.* Усё забраць. *Абабра́лі іх на го́лаю бе́лку.*

Дзяражычы. *Ешчэ да хронта абабра́лі на го́лаю бе́лку.* Первамайск.

ГО'ЛЬКА *ж.* Галінка. *Паламалі усе го́лькі з яблані.* Бывалькі. *Іван, пападвязувай бы ты го́лькі з памідораў.* Казярогі.

ГО'НІ *мн.* Кавалак поля. *Падажджы, я етые го́ні узару.* Казярогі.

ГО'НКІ *прым.* Быстры. *Тая ж Алеся худая, ена го́нкая.* Ручаёўка.

ГО'ПАЦЬ *незак.* Моцна тупаць. *Чого ты го́паеш чобатамі; ета ж табе не на вуліцы.* Ручаёўка.

ГО'РА *н.* 1. Гора, бяда. *Наступіць чорны вол на нагу, пабачыш ешчэ го́ра.* Дзяражычы. 2. Дрэнь. *Там конóплі — го́ра.* Казярогі. 3. *часц.* *Екая у его го́ра дружба з Пашай.* Дзяражычы.△ *Го́ра его́ (іх) зна́е.* Пра немагчымасць сказаць што-небудзь пэўнае. *Да го́ра его́ зна́е, ена ніколі у его не була.* Казярогі. *Мне, го́ра іх зна́е, скольві годо́ў за вас болей.* Бывалькі. *Го́ра на ла́ўку класць.* Жыць без турбот. *Добра го́ра на ла́ўку класць, як пецерык хлеба стаіць.* Дзяражычы. *Го́ра не е́ўшы.* Не сустракаючыся з цяжкасцямі. *Хочыш, штоб ено хоро́шае було, ніякага го́ра не е́ўшы.* Пярэдзелка. *На го́ра.* Навошта. *На го́ра ён мне іздайся.* Дзяражычы. *Няха́й го́ра во́зьме.* Пажаданне нядобрага. *Неха́й его го́ра во́зьме, што б я церпела такую напасць.* Первамайск.

ГО'РАСЦЬ *ж.* Гаркота, горыч. *Каменем не прыкладаюць сперва: нехай жа го́расць выходіць. У дірку ена выходіць — го́расць, тады капуста смачная.* Дзяражычы.

ГОРБ *м.* Горб. *Пашына девачка упала, і горб расце.* Бывалькі.//*перан. груб.* Спіна. *Па гарбу́ мешалкай як улупіць.* Пярэдзелка.

ГО'РДЫ *прым.* Ганарысты. *Такая го́рдая, чэраз губу не плюне.* Дзяражычы.

ГО'РКА *прысл.* 1. Горка. *Го́рка з'есці, жалка кінуць.* Казярогі. 2. Цяжка. *Людї так го́рка робо́талі усё лета.* Дзяражычы.

ГО'РКІ: *го́ркая до́ля.* Няшчасны лёс. *Го́ркая доля у маей Пашы: адна гаруе усё жыццё.* Бывалькі. *Панесу я го́ркую долю у базар прадаваці, да ніхто ж не хоча го́ркай долечкі у базары купляці* (З нар. песні). Казярогі. *На го́ркае я́блыка (збіць).* Вельмі моцна (пабіць). *Збілі его на го́ркае я́блака, завезлі у больніцу.* Дзяражычы.

*Уесца ў горкія пячонікі.* Моцна надакучыць. *Вот ужэ уеўся у горкіе печонікі, гледець не магу.* Вулкан.

ГО'РШЧЫК *м.* Гаршчок. *Хто скажа гаршчок, а болей горшчык.* Дзяражычы.

ГРАБАНУ'ЦЬ[1] *зак.* Разгрэбці. *Я грабанула, аж пыляка як пыхнула.* Дзяражычы.

ГРАБАНУ'ЦЬ[2] *зак. груб.* Штурхануць. *Атыйді, а то як грабану, дак і месца не найдеш.* Ручаёўка.

ГРАБЁНКА *ж.* Частка сахі. *У сахі булі ножкі, паліца, страла, сашнік, граб'ёнка, кручок.* Ручаёўка. △ *Пад грабёнку надзецца.* Надзецца так, каб адна спадніца была відна з-пад другой. *Осіпаўна наделась пад граб'ёнку.* Дзяражычы.

ГРАБКО'М *прысл.* На вёслах. *Чалавек шэсць грабком седіць.* Пярэдзелка.

ГРАБЦЫ' *мн.* Граблі, якія прымацоўваюцца да касы. *Грабцы етые на касе е, ены роўненька кладуць жыта. Будам грабцамі касіць.* Ручаёўка.

ГРАДА' *ж.* 1. Града. *Цэлую граду гуркоў пасаділа.* Бывалькі. *Мы у адну граду пасеялі буракоў.* Карпаўка. 2. Узвышанае месца на лузе. *Града — высокае месца, болота — купістае места, а нізіна — нізкае места.* Пярэдзелка. *На граде добрае сена вырасла, а у болоці нічога нема.* Чаплін.

ГРА'ЗНЫ *прым.* Брудны. *Грязную воду туды у кусты вуліваўце.* Ручаёўка.//Зарослы. *Вельмі гразные грады.* Дзяражычы. △ *Гразна гаварыць.* Лаяцца. *Я гразна ніколі не гаварыла.* Ручаёўка.

ГРАЗЬ *ж.* 1. Гразь, бруд. *У ее ж гразі да нужы у хаці — о-еёй.* Дзяражычы. *Гръззю пасей — гразь і буде.* Казярогі. 2. *перан. лаянк.* Погань. *Начорта ены, каб ена вочы драла, гразь такая.* Дзяражычы. *І паймае, галубка, усероўна паймае, от гразь.* Карпаўка.

ГРАМА'ДА *ж.* Грамада. *Слухае, як грамада, куды ена верне.* Дзяражычы. *Як пойдеш ты рана по воду к Дунаю, буде стаяць да старых людей грамада* (З нар. песні). Ручаёўка.

ГРАМА'ДЗІЦЬ *незак.* Збіраць у груд. *Ён траву касіў, а я за ім грамаділа, ён мене любіў, а я его прынаділа* (З нар. песні). Пярэдзелка.

ГРАЦКО'ЎЕ *н.* Поле з-пад грэчкі. *На грацкоўе пусцілі короў.* Ручаёўка.

ГРАЧА'НЫ *прым.* Грачаны. *З грачанае мукі пеклі*

*блінцы*. Ручаёўка. *Грачáные крупы добрые, каша добрая*. Чаплін.

ГРАШАНЯ'ТКІ *мн*. Грошыкі. *Іспісалі мне тые грашанáткі*. Дзяражычы. *Сколькі я тых грашанáтак палучыла*. Первамайск.

ГРОБ: *грабы́ палажы́ць*. Пахаваць. *Я у весну два грабы́ палажы́ла, дак цепер саўсім жыць не хочыцца*. Ручаёўка.

ГРО'БКА *ж*. Зграбанне. *Заўтра пойдам на грóбку, будам сена загатаўлюваць*. Ручаёўка.

ГРО'ЙЛА *н*. Тоўсты, вялізны чалавек. *Мархва, ета такое грóйла, у дверы не улезе*. Казярогі.

ГРУ'БА *ж*. Грубка. *Грýба топіцца, дак туды у грубу пакідаў усе. А чо та Валька не йде грýбу лепіць*. Дзяражычы. *Нада у грýбу падкласці, а то ужэ позна*. Дзяражычы.

ГРУБА'Я *прым*. 1. Цяжарная. *Наверна, ці не грубáя Паша зноў*. Дзяражычы. *Прося грубáя, скора родіць*. Первамайск. 2. Цельная. *Твая корова грубáя*. Дзяражычы.

ГРУБЫ' *прым*. 1. Тоўсты (пра палатно). *Грубóе палатно абдіркавае, а з кужалю тоненькае*. Дзяражычы. 2. Нізкі (пра голас). *Запеём, я буду подводіць тонкім голасам, а ты грубы́м*. Вулкан. *І грубы́е есцека галасы, а як жа, е*. Ручаёўка.

ГРУЗА'ЦЬ *незак*. Правальвацца (у снег). *Ена ж дорога такая: лугам усе грузáй і грузáй. Усю дорогу грузáй па калена у снег*. Дзяражычы.

ГРУЗДЗІ'ЛЫ *мн*. Цуглі. *Муздзечка з грузділамі*. Казярогі.

ГРУЗЬ *ж*. Грузіла. *Грузь — рыбацкая прылада, штоб патанула леска*. Бывалькі.

ГРУ'ЦА *ж*. Каша і суп з ячменных круп. *І каша, і суп — грýца*. Бывалькі. *Грýца — ечменны суп і густы, і рэдкі*. Пярэдзелка.

ГРЫБ[1] *м*. 1. Грыб. *Вон грыб седіць пад сасной*. Карпаўка. *Грыбы́: беленькіе, абабкі, сыраежкі, зелёнкі, лісічкі*. Ручаёўка. 2. Баравік. *Як возьмеш белага грыба, дак: я гры́ба узяў*. Ручаёўка. *Грыбý насіла сушыць у печку, а тады паніжу*. Дзяражычы. *Пойдам па грыбу, мо наберам па десятку*. Карпаўка. △ *Грыбоў наведаць*. Пазнаходзіць грыбныя мясціны. *Я многа грыбóў навéдаў, трэба сходіць послі абеда*. Дзяражычы. *Гры́бам сядзéць*.

1. Не расці. *Гры́бам седе́ла да шаснаццаці годоў.* Бывалькі. 2. Гультайнічаць.— *Ты б не була на коровах, табе ужэ цяжка дагледаць іх.— А шчо б я гры́бам седе́ла.* Дзяражычы.

ГРЫБ[2]: *Грыбы́ атве́сіць (развесіць).* 1. Праявіць абыякавасць. *Шчо ты грыбы атвесіў?* Первамайск. 2. Раззлавацца. *Грыбы разве́сіў і гледіць воўкам.* Пярэдзелка. *Грыбы закапы́ліць.* Пакрыўдзіцца. *От деўка, дня не пройде, шчоб ена не закапыліла грыбы́.* Чаплін.

ГРЫБА'Ч *м. экспр.* Губа́ч (пра губатага чалавека). *Скубла, скубла, шамацела, за такога грыба́ча не хацела. Хоць грыба́ч, да багач: на чатыры гумны моло́ціць* (З нар. песні). Казярогі.

ГРЫМА'К *м.* Удар. *Дам грымака́ у плечы.* Дзяражычы. *Такіх грымако́ў надавалі, шчо ссінеў.* Пярэдзелка.

ГРЫМЕ'ЦЬ *незак.* 1. Грымець. *Десь грыміць.* Первамайск. 2. *перан.* Расходваць грошы (з шыкам). *Тут ужэ десяткі грыме́лі, грыме́лі.* Дзяражычы.

ГРЫ'МНУЦЬ *зак.* Ударыць, выцяць. *Седі, а то як гры́мну у плечы.* Дзяражычы.

ГРЫ'НДЖАЛЫ *мн.* 1. Сані без розвальняў. *На гры́нджалах паехалі хату перавозіць.* Ручаёўка. 2 *перан.* Ногі. *На во, пастаў сваe гры́нджалы. Я кагу: пастаў сваe гры́нджалы, удабней буде.* Ручаёўка.

ГРЭЦЬ *незак.* Грэць. *Давай грэць чай.* Вулкан. *Грэ́е, грэ́е сонейка не па-летнему.* Ручаёўка.

ГРЭ'ЧКА *ж.* 1. Грэчка. *У нас говорaць грэ́чка, грачыха мала хто говорыць.* Ручаёўка. 2. Вазон, хатняя кветка. *Грэ́чка — красненькі маленькі цвецік, грэ́чкай пахне.* Ручаёўка. △ *Грэ́чкаю зарубіць (падрубіць).* Падрубіць з упрыгожваннем. *Трэба мне грэ́чкаю зарубіць. Грэ́чкаю — нача хрэсцікамі такімі рубілі.* Дзяражычы.

ГУБА' *ж.* 1. Губа. *Ізлуплю шкурку із шчукі, да посеку м'яса, да туды перчыку, ізвару кусочкамі да ізделаю начынку, дак хоць ты губа́мі еж.* Дзяражычы. *Абы гу́бы накрасіла, а ў хату зайсці нельзя: гразі па калена.* Пярэдзелка. 2. Цэра. *Крэша агонь, губу́ запальвае.* Бывалькі. 3. Грыб на дрэве. *Ета берозавая губа́, ее труць і робяць зелле.* Казярогі. △ *Чэраз губу́ не плю́нуць.* Задавацца, фанабэрыцца. *Такая гордая, чэраз губу́ не плю́не.* Дзяражычы.

ГУБЕ'ЛЬ *м.* Губач, губаты чалавек. *Такі губе́ль его бацька, сын тожа такі.* Ручаёўка.

ГУ'БІНА *ж.* Грыбы (акрамя белых). *Гу́біна — старые гово́раць. Хадіць за гу́бінай.* Крупейкі. *А-а гу́біны накідаў у коробку і пошоў, а грыбоў німа.* Первамайск.

ГУ'БКА [1] *ж.* Мера палатна. *На сцену гу́бкі шчыталі. Екая хата — такіе гу́бкі: ці десяць локцеў, ці сем локцеў.* Дзяражычы. *Вышла п'яць гу́бак — мала усе ж такі.* Пярэдзелка.

ГУ'БКА [2] *ж.* Грыб на дрэве. *Алена, нарэж ба березавых гу́бак у дымар, заўтра пчол пабачу.* Казярогі.

ГУ'БЫ *мн.* Грыбы. *Разные грыбы у старыкоў — гу́бы.* Дзяражычы.

ГУ'ДЗІЦЬ *незак.* 1. Ганьбіць, абгаворваць. *Ніхто цебе не гу́діць.* Дзяражычы. *Не нада гу́діць Прохора, его ж нема тут.* Бывалькі. 2. Лаяць. *Не нада гудіць Кузьму; усероўна буде піць.* Карпаўка.

ГУЖВА' *ж.* Галінкі з лазы, якія ўжываюцца для звязвання. *Гужву́ з лазы круцяць для плытоў.* Казярогі.

ГУЛЕ'Ц *м.* Гуляка. *Што ты за гуле́ц. П'яць мінут паседела і ідеш.* Дзяражычы.

ГУ'ЛІ *мн.* Гульня, забава. *Як у гу́лі кінецца, дак і вучэнне аставіць.* Дзяражычы. *Што ужэ у гу́лі сабіраешся, а корову хто буде даіць? Я?* Ручаёўка.

ГУ'ЛІКІ *мн.* 1. Перамёрзлая бульба. *Бувала прынесем гу́лікі, матка налупіць, намуе да напечэ. Давімся, а едім.* Ручаёўка. 2. Аладкі з перамёрзлай бульбы. *Гу́лікі — ладкі з мёрзлай бульбы.* Бывалькі.

ГУЛЬ-ГУЛЬ-ГУЛЬ. Выгук для падзывання гусей. *Гуль-гуль-гуль, пашлі на двор.* Дзяражычы.

ГУ'ЛЬКІ: *набіць гу́лькі.* Нарабіць сінякоў. *Бач, хадіць не умее, дак набіў гу́лькі.* Пярэдзелка.

ГУЛЬНІ'ШЧА *н.* Гульбішча, гульня. *Самае гульнішча з поўдня.* Бывалькі.

ГУЛЯ'КА *м.* і *ж.* Гультай. *Хіба ета гуля́ка пойде капаць, ена умрэ без нееді, а не робо́тае.* Дзяражычы.

ГУЛЯ'НЕЙКА *н.* Гулянне. *Первы час мінае, другі настае, маладая Вера з гуля́нейка йде* (З нар. песні). Крупейкі.

ГУЛЯ'НІК *м.* Гультай. *Гуля́нікаў найшло поўну хату.* Ручаёўка.

ГУЛЯ'ЦЬ *незак.* 1. Гуляць. *І бабі, і даццэ нада убірацца да гуля́ць. Адну учора не падаіла — гуля́ла, дак стаіць, а молоко дзюраём бежыць.* Дзяражычы. 2. Быць свабодным. *Сеголета гуля́ла поле.* Бывалькі. *Тады еткае*

*сонца було і дежка гуляла, можна було тады і паладіць.* Дзяражычы. 3. Сябраваць, праводзіць час з дзяўчынай або хлопцам. *Ена маладая, а раз годы свае перарасла, дак гуляць хоча, хоць і маладая.* Дзяражычы. *Твой хлопец з маёй Нінай гуляе.* Пярэдзелка. *Забудь, як мы с тобой гулялі.* Чаплін. 4. Пераліваццa рознымі колерамі. *Гуляе сонца — кругом его кружкі усякіе: і красные, і зелёные, і жоўтые. І рассыпаюцца ены па усему небу.* Чаплін. 5. Паляваць (пра карову, авечку). *Авечка па разу у год гуляе. Мая корова гуляла ужэ сеголета.* Чаплін. △ *Гульма гуляць.* Нічога не рабіць. *Ці ж ён пераработаўся. Век гульма гуляе.* Чаплін. *Гуляць вясёлле.* Спраўляць вяселле. *Калі ужо распішуцца, тады ужо весёлле гуляем.* Ручаёўка. *Гуляць дажынкі.* Спраўляць заканчэнне жніва. *Гуляюць, п'юць, у каласкі сольку, хлеба пакладуць, бораду зделаюць, на каласкох пазаўязуюць — от і гуляюць дажынкі.* Ручаёўка. *Гуляць заручыны.* Адзначаць згоду дзяўчыны пайсці замуж. *Віці спрасі, ці вы заручыны гулялі.* Дзяражычы.

ГУМНІ'ШЧА *н.* 1. Месца каля гумна. *Ідзі за гумнішча, нарві свінням травы.* Карпаўка. 2. Роўная пляцоўка перад токам. *На месці гумнішча построілі зернавы склад.* Крупейкі.

ГУ'ПАЦЬ *незак.* Тупаць. *Так гупаюць, аж хата дрыжыць.* Бывалькі.

ГУ'РА [1] *ж.* Гурба. *Гуры навалiла за ноч, дверэй не адчыніць.* Бывалькі. // Гара. *Гледі, сколькі навазілі угнаення: гуры тамака п'яць верст.* Дзяражычы.

ГУ'РА[2] *выкл.* Пра нечаканасць. *Ён тыжджань пабудзе, да у сыботу гура туды і паехаў, а табе дулю дасць.* Дзяражычы.

ГУРО'ШНІК *м.* 1. Агурочнік. *Гурошнік наш такі зелёны.* Казярогі. 2. Расольнік. *Навары гурошніку.* Карпаўка.

ГУСІ'НЕЦЬ *незак.* Пакрывацца пупырышкамі. *На морозі гусінеюць рукі.* Пярэдзелка. *Маладая была, дак гусінелі рукі, а цепер нічога не берэ.* Чаплін.

ГУСІ'НІНА *ж.* Гусяціна. *Багаты кідаў гусініну.* Казярогі.

ГУСТЫ'Ш *м.* Гушча. *Юшку павуцягувалі, а густыш аставілі.* Пярэдзелка.

ГУСЦЕ'Ж *м.* Гушча. *Толькі юшку пахлёбаць, а гусцёж на дне застаецца.* Ручаёўка.

ГУЎНО′ *н.* Гумно. *Тут калісь гуўно́ стаяла.* Карпаўка.

ГУ′ШЧА *ж.* Каша з ячменных круп. *У неделю вам гу́шчы з молоком навару.* Ручаёўка. *На куццю мы варылі гу́шчу.* Чаплін.

ГЫ′ЛЯ *выкл.* Выгук для адгону гусей. *Гы́ля, гы́ля, куды вы ідіце.* Ручаёўка.

ГЭ′ПНУЦЦА *зак.* Упасці. *Ён як гэ́пнуўся, дак тры дні не ўставаў з карваці.* Дзяражычы.

ГЭ′ПНУЦЬ *зак. экспр.* Сказаць нечаканае. *Гледі ж мата не гэ́пні.* Бывалькі.

# Д

ДАБІВА′ЦЦА *незак.* 1. Дабівацца. *Ён два годы дабіваўся пенсіі, да бач, дабіўся ж.* Дзяражычы. 2. Дабірацца. *К рацэ мы дабіваліся.* Первамайск.

ДАБРА′ТЫ *дзеепрым.* Дарваны (пра лён). *Там яшчэ не дабраты лён.* Ручаёўка.

ДАБРО′ *н.* 1. Дабро. *От, і делай людям дабро́.* Дзяражычы. 2. Маёмасць. *То ж Каці усе добро́: ат маткі роднай, ат цёткі, ат свекрухі забрала — ото ж ена і багатая.* Дзяражычы. *Я кагу: луччай нехай сцены астанецца, а дабра́ не буде. У мене буў хазяін хорошы, дак дабра́ було усякага.* Карпаўка. 3. Зерне.— *У соломі штось е, бо так куры грэбуць.— Што там? Мо екое добро́?— Жыта там е, што ж там е!* Дзяражычы.

ДАБРЭ′ННА *прысл.* Вельмі добра. *Дабрэ́нна буде. як пашыю.* Карпаўка. *Уваллю сыровадачкі, дак ён так дабрэ́нна паесць.* Чаплін.

ДАБРЭ′ННЫ *прым.* 1. Вельмі добры. *Такі дабрэ́нны чалавек папаўся маей старшай деўцы.* Бывалькі. *Коро́ва дабрэ́нная да кабана б'е.* Дзяражычы. 2. Вельмі высокі. *Ну і дабрэ́нная кукуруза сеголета парасла у колхозі: вышай роста чалавека.* Ручаёўка. 3. Вельмі тоўсты. *Год пажыла, зделалась во такая дабрэ́нная. Ена удаленная была, да дабрэнная, да вісокая.* Дзяражычы.

ДАБЫ′ЦЬ [1] *зак.* Дабыць, дажыць да тэрміну. *Дабу́ду да канца лета і паеду у Карэлію.* Первамайск.

ДАБЫ′ЦЬ [2] *зак.* Прыдбаць. *У кого е капейка, дак якнебудь і хлеба дабу́де.* Рудня Марымонава. *Там целіца стаіць, дак траву дабуў.* Ручаёўка.

ДАВАЛЬНЕ′Й *прысл.* Лепей, заможней. *У моло́чнай*

*робо́тае, давальней жыве.* Рудня Марымонава. *Цеперакі людзі давальней жывуці.* Чаплін.

ДАВА'ЦЬ *незак.* Даваць. *Машка усім унукам дае́ і хлеба, і малака.* Бывалькі. *К Акцебрыні будуць дава́ць грошы.* Крупейкі. *За грошы будуць дава́ць, ну будуць прыменяцца к трудодням.* Дзяражычы. △ *Дава́ць крыві.* Біцца. *Як нап'ецца, дак дава́ў крыві.* Ручаёўка. *Дава́ць напаміна́нне.* Напамінаць. *Вольга мне дава́ла напаміна́нне.* Дзяражычы. *Дава́ць наўпро́кі.* Папракаць. *На мене і свекруха нічога не сказала, не дава́ла наўпро́кі.* Дзяражычы. *Дава́ць ру́мзікі.* Плакаць. *Прышла к сваёй маладіцы, дак тая дае́ ру́мзікі.* Ручаёўка. *Дава́ць уко́лы.* Рабіць уколы. *Доктар уко́лы мне дава́ў.* Дзяражычы.

ДАВЕ'СЦІ *зак.* 1. Давесці, прывесці да пэўнага месца. *Даведі ты етага хлопца.* Дзяражычы. 2. Зрабіць. *Як ету пражу даведе́ш добра, дак не палучыш розак, а як не даведе́ш — палучыш розак.* Бывалькі.

ДАВІ'ЦЬ *незак.* 1. Душыць, сціскаць. *Так заклала у горлі, да́віць, дыхаць нечым.* Дзяражычы. 2. Выціскаць. *Сыр да́вяць каменем, і ціскі булі.* Дзяражычы. 3. Таптаць. *Проці Марусі капаюць кордоплі, штоб худоба не давіла.* Казярогі.

ДАВО'ЛЬНАСЦЬ *ж.* Дастатак. *Ена жыве у дово́льнасці за маткай.* Дзяражычы.

ДАВЯДА'ЦЦА *незак.* Даведвацца. *Ена даведа́ецца, і цепер прыде. як к маццы.* Дзяражычы. *Ад нас недалека жыве, прыходіла даведа́цца.* Ручаёўка.

ДАДЫ'БАЦЬ *зак.* Паволі пайсці. *Насілу дады́бала у тухельках.* Первамайск.

ДАЖДА'ЦЦА *зак.* Дачакацца. *Дажда́лась свайго дружка.* Ручаёўка. △ *Дажда́цца во́ўчай не́мачы.* Не дачакацца жадаемага. *Ты тут даждж́эсся во́ўчай не́мачы.* Дзяражычы.

ДАЗВАЛЯ'ЦЬ *незак.* 1. Дазваляць. *Матка дазваля́ла нам гуляць у деўках.* Дзяражычы. 2. Успрымаць. *Ена вучылася; трэба ж узяць у галаву і у сэрца, а галава не дазваля́е.* Бывалькі.

ДА'ЙЖА *часц.* Нават. *У кунпаніі да́йжа з деўкамі буў.* Карпаўка. *Да́йжа палаценца уцерціся не було ніякага.* Крупейкі. *Я столькі не палучаю за год да́йжа.* Чаплін.

ДАК[1] *злучн.* Дык. *Як бы ты не нажывала другой сем'і, дак я б інжынерам буў.* Бывалькі. *Еслі б ты ка*

*мне зайшла, дак твой Володя рада буў.* Дзяражычы. *Бывала, прыведе беседу дак кажа: дайце маей Ходоры чарку.* Дзяражычы. *Уздумаю: захварэю да памру, дак ніхто мене не паблагадорыць.* Дзяражычы. *Учора пашла полпервага, дак ехала на трактары.* Бывалькі. *Усадьба песчаная, дак ужэ купіла шаснаццаць пудоў кортошкі.* Вулкан.

ДАК [2] *часц.* Дык. *У мене дак шчэ расіна у роце не була.* Дзяражычы. *Ее девачка дак раз прышла і просіць хлеба.* Карпаўка.

ДАКАЗА'ЦЬ *зак.* Расказаць, растлумачыць. *От, мая родненькая, я табе дакажў: цеперакі люді давальней жывуць.* Чаплін.

ДАКА'ЗУВАЦЬ *незак.* Расказваць. *Ена давай і унукам даказуваць, сколькі папавучыла децей.* Дзяражычы.

ДАКО'ПКІ *мн.* Заканчэнне копкі бульбы. *Дакóпкі спраўляем, калі усе да каліва покóпана.* Ручаёўка.

ДАЛЕ' *прысл.* Потым, пасля. *А далé уходяць усе у хату.* Казярогі. *Шэсць недель булі, а далé як пагналі немца, дак мы аттуля у Карпаўку.* Первамайск.

ДА'ЛЕЙ *прысл.* Потым, пасля. *А дáлей выйшла бабка, а то не вуходіла доўга.* Дзяражычы. *А дáлей па весне пашла вада.* Ручаёўка.

ДАЛЕ'КА *прысл.* 1. Далёка. *Усе мае деці далéка ат мене жывуць.* Дзяражычы. *Ой, як вы далéка, не падбегці мне.* Казярогі. 2. Доўга, няскора. *Шчэ у школу далéка: нагуляемся.* Ручаёўка.

ДАЛІКА'ТНЫ *прым.* Пераборлівы. *Галубка, каты такіе далікáтные: беленькі хлеб, дак скарыначку вугрызуе і есць так.* Дзяражычы.

ДАЛО'Ў *прысл.* 1. Далоў, долі. *Бач, як діця хоча далóў.* Первамайск. 2. Прэч. *От ета снег долоў, шчэ крыга лежыць, а я іду у рэчку.* Ручаёўка.

ДАЛЯ' *прысл.* Потым, пасля. *Седела, седела, а даля́ з маіх рук коўзь.* Ручаёўка.

ДАЛЯГА'ЦЬ *незак.* Настойваць. *Усе далегáў, хацеў з маей сестрой сысцісь.* Дзяражычы.

ДАМАВІ'НА *ж.* Труна. *Кого хороняць, дак глыбока, глыбока, дак страшка, да стануць упускаць дамавіну, дак которые не упусцяць харашэ да перавернуць.* Дзяражычы. *Многа у войну памірала тут людей, і хавалі так, без дамавін.* Ручаёўка.

ДАМА'ШНІ *прым.* Мясцовы. *Таня да Надя то ж дамáшніе люді, етые будуць вучыць.* Бывалькі. *Етые будуць*

*дамáшніе людзі: з суседней дерэўні прыехалі.* Дзяражычы.

ДАМО'ЎКА *ж.* 1. Дом, хата. *Забылася на дамóўку сваю.* Чаплін. 2. Труна. *Старуха хацела умерці: то дамóўка вечная.* Казярогі.

ДАМУ'ХА *ж.* Хатняя гаспадыня. *Яна сегодні дамýхай.* Пярэдзелка.

ДАНАСІ'ЦЬ *незак.* 1. Данасіць. *Данасіць трэба плацце, тады пашыем новае.* Первамайск. 2. Утрымліваць. *Головачка не донóся, пазабувалася усе песні.* Бывалькі.

ДАРАГІ' *прым.* 1. Дарагі. *Дарагóе сала сёлета.* Дзяражычы. 2. *перан.* Якім даражаць, якога шануюць. *Дарагі чалавек, а друга нет, дак і цэніць не можа.* Дзяражычы. *Ета кума — рабóтнік дарагі буў: ткаць, ушываць; па дерэўні ніхто век так не накідаў.* Чаплін. *У мене хазяін буў дарагі — унукаў жалеў.* Ручаёўка. △ *Дарагіе дні.* Гарачая пара. *Цепер дні дарагіе, скарэй трэба хватацца делаць.* Крупейкі. *З дарагóй душóй.* Вельмі ахвотна. *З дорогóй душóй я б узела цебе на зіму к сабе, калі б не настаўнік.* Ручаёўка.

ДАРМА' *прысл.* Марна. *Дармá схаділа к куме, ужэ усё прадала.* Дзяражычы. △*Дармá што.* Нягледзячы на тое, што. *У нас дармá што людзі бедные, а у нас людзі добрые.* Первамайск. *Дармá што малы, сілы вельмі багата.* Ручаёўка.

ДАРО'ГА *ж.* Дарога. *Седіць седнем, нікуда, псу дорóгі не укажа.* Дзяражычы. *Вучонаму усегда дорóга і шлях аткрыты.* Дзяражычы. *Памянш.* дарóжка. *Тая дорóжка зарасла травою.* Ручаёўка. *Я папахаділа па тых дорóжках, дак ні вочкі не свецяць, ні ножкі не ходяць.* Дзяражычы. △ *Упéрак дарóгі (станавіцца).* Рабіць наперакор. *Ён заўсёды становіцца упéрак дорóгі, такі хлопец урадіўся.* Дзяражычы.

ДАРО'ЖЖАЦЬ *незак.* Даражэць. *Не дарóжжаць сеголета кортоплі.* Рудня Марымонава. *Сеголета усе дарóжжае.* Чаплін.

ДАРО'ЖКА *ж.* 1. Палавік. *Я сама ткала дорóжкі, у мене і зараз лежаць самаробные дорóжкі.* Ручаёўка. *Дарóжкі вутканы з трапак.* Чаплін. 2. Фігура ў танцы «гапак». *Як танцуюць гапак, дак там е дорóжка, мельніца.* Чаплін. 3. Блясна на шнуры. *Дорóжка крэпіцца на шнуру, а рыба хватае.* Пярэдзелка.

ДАРЫ́ЦЬ *незак.* Абдорваць. *Ці я не дары́ла тых людей.* Дзяражычы.

ДАРЭ́М *прысл.* Дарма. *Хоць бы мне хто дарэ́м паставіў гарэлкі, я не хочу.* Чаплін.

ДАСА́ДА *ж.* Прыкрасць. *Зноў буде сухата да даса́да.* Дзяражычы. *Журыцца чалавек: плоха у его жызні — вот вам і даса́да.* Ручаёўка. *Такая даса́да на душэ седіць, хоць ты у пельку кідайся.* Пярэдзелка.

ДАСА́ДНА *прысл.* Прыкра. *Чого́сь мне даса́дна.* Дзяражычы.

ДАСКУ́ЛІЦЬ *зак.* Ударыць так, каб адчуў боль. *Хіба ты ему даску́ліш! Ён жа п'яны.* Вулкан.

ДАСТА́ТНА *прысл.* Дастаткова. *Мы не так даста́тна жывом, як ены.* Дзяражычы.

ДАСТАЧА́ЦЬ *незак.* Дастаўляць, забяспечваць. *Галадаваць не буде, еты са дна мора даста́чыць.* Дзяражычы.

ДАЎБЕ́НЬКА *ж.* Таўкач. *Зделай бо даўбе́ньку таўкці свінням.* Пярэдзелка. *Для свіней таўкуць даўбе́нькай.* Первамайск.

ДАЎЖЭ́ННА *прысл.* Вельмі доўга. *Машына так даўжэнна іде.* Дзяражычы.

ДАЎЖЭ́ННЫ *прым.* Вельмі доўгі. *З даўжэ́нным носам.* Казярогі. *Даўжэ́нные мінуты.* Пярэдзелка.

ДАЎЛЕ́ННЕ *н.* Ціск крыві. *Як павушана даўле́нне, капустачка зайчыкава памагае.* Ручаёўка. *Агапа казала: сквазняк праняў, дак було крыві даўле́нне.* Дзяражычы.

ДАЎНЕ́Й *прысл.* Раней. *Я б ужэ даўне́й пашла, да валы пасла.* Крупейкі. *Ты б сказала даўне́й, дак я б і паставіла банкі.* Дзяражычы.

ДА́ЎНІ *прым.* 1. Даўні. *О-о падругі такіе да́ўніе.* Ручаёўка. *Боб жа стары крэпка, да́ўні.* Чаплін. 2. Старажытны. *То да́ўніх прэдкаў земля.* Дзяражычы.

ДАЎНО́-ПРАДАЎНО́ *прысл.* Даўным-даўно. *Ета було даўно́-прадаўно́.* Казярогі.

ДА́ХА *ж.* Той, хто дзеліцца з другімі. *Як будеш да́ха, дак будеш і узяха.* Чаплін.

ДАХА́ДЖУВАЦЬ *незак.* Даходжваць (пра наведванне школы). *Два роботаюць, а самы меншы нехай даха́джуе.* Ручаёўка.

ДАХАДЯКА *м.* і *ж.* Слабасільны. *Етые хоць старэнечкіе дахадя́кі, да не б'юцца.* Дзяражычы.

ДА'ЦЦА: *дацца на гаворку.* Загаманіць. *Ена не далась і на говорку.* Дзяражычы.

ДАЦЬ *незак.* Даць. *Як дам, дак аж сукравіца пойде. Корова малака саўсім не дае, ена ж перэдайка.* Дзяражычы.△ *Даць воза.* Набіць. *Не пасу гусей, прыду, дак ена мне дасць воза, дак я плачу, плачу.* Рудня Марымонава. *Даць гону.* Пабегчы. *Як дала гону назад, бегла, бегла зноў таею доро́гаю абратна назад.* Ручаёўка. *Даць драстуй.* Прывітацца. *Чо ты, Мар'я, нам драстуй не дала.* Дзяражычы. *Падышла да іх, дала драстуй, паседелі му з імі, пагаварылі.* Чаплін. *Даць долю.* Ашчаслівіць. *Хай ёй бог долю дае, такая ена девачка хорошая.* Дзяражычы. *Даць збыту.* Супакоіцца. *Етая деўка збыту не дасць, пакуль свайго не даб'ецца.* Первамайск. *Даць маху.* Памыліцца ў разліках. *У етум делі Максім і даў маху.* Чаплін. *Даць парадак. Дагледзець. Даярка кінула даіць, дак трэба тым коровам парадак даць.* Дзяражычы. *Даць рады.* Справіцца. *Дзыбала, дзыбала замок, да не дала рады атамкнуць.* Дзяражычы. *Даць рэзі.* 1. Нічога не зрабіць. *Ну і дасць ена ужэ рэзі — удвох не маглі справіцца, а ена адна хоча падняць.* Дзяражычы. 2. Выконваць лёгкую работу. *Ле того горшчыка дак дасць рэзі.* Чаплін. *Даць ходу.* Уцячы. *Як далі ходу, дак толькі іх бачылі.* Вулкан. *Даць чосу* (джосу). 1. Імкліва ўцячы. *Я села летась на каня да як дала чосу, наўскач дала, ніхто не убачыў, як я уцекла.* Ручаёўка. *Я ж за ім, а ён як даў джосу, дак толькі пяткі бліскалі.* Чаплін. 2. Пакараць. *Ну і дала ена ему джосу, што аж заплакаў.* Первамайск.

ДА'ЧКА *ж.* Надзел, норма (пры ўборцы бульбы). *Расставілі дачкі. Распахуюць конём, а тады дачкі даюць.* Пярэдзелка.

ДАЧУ'ЦЦА *зак.* Пачуць. *Ена дачулася і сказала Есіпу.* Ручаёўка.

ДБАЦЬ *незак.* Дбаць, клапаціцца. *Цегайся, абы міне дбаў.* Дзяражычы. *Добра жывуць, самі сабе дбаюць.* Крупейкі.

ДВАЙНІ'К *м.* Адзін з двайнят. *Легла з естым хлопцам, з двайніком, на карваці.* Ручаёўка.

ДВАРЭ'Ц *м.* Двор. *Дварэц у мене добры.* Быванькі. *Еты год нікуда не вуйшла, апроч у сваём дварцэ сяду, паседжу.* Дзяражычы.

ДВО'ГНУЦЦА *зак.* Ударыцца, стукнуцца. *Гледі ж ба, а то аб жэртку двóгнешся.* Дзяражычы.

ДВО'РЫШЧА *н.* Месца, дзе стаяла хата. *З вайны прыходілі і ставілі новые хаты на двóрышчах.* Чаплін.

ДЖАГІ'ВЫ *прым.* Пякучы. *Ото ета джэгіва крапіва, а тая не.* Ручаёўка.

ДЖА'НЫ *прым.* Далікатны, слабы. — *Дай бо мне бойкі.— Не дам, ена маленькая, джáная, бувае будеш біць да разаб'еш, ена тоненькая да разаб'ецца.* Дзяражычы.

ДЖУ'ХНУЦЬ *зак.* Дзьмухнуць. *Насыпала крошак, дак ены і дым'яць і дым'яць, а ты як джýхнеш, дак і дыму і пылу поўна хата.* Бывалькі.

ДЖЫГНУ'ЦЬ *зак.* 1. Джгануць. *Не джыгні, гледі, крапівай размахайся.* Чаплін. 2. Ударыць, выцяць. *Як бы я ее джыгнýла разы два, дак ена знала б дісціпліну.* Дзяражычы. 3. Джаліць. *Джыгнýла пчала.* Бывалькі.

ДЗВЯ'КНУЦЬ *зак.* Стукнуць, ударыць. *Паліцэйскіе што хацелі, то й рабілі, жэншчынам вокна білі. Увечары прыходзіць, стукае.— Хто такі? — Адчыняй.— Да не, іді бо ты додому. Дак ён як дзвякне, дак і вокно ўсё вылецела.* Бывалькі.

ДЗЕ *прысл.* 1. Дзе. *Дзе ты буў?* Бывалькі. 2. Дзе-небудзь. *Як бы васкажаціны де узяць да пакідаць у дежку, дак нашто той і берозавік.* Дзяражычы. △ *Дзé там.* Куды там. *Дé там з тваім таланам.* Ручаёўка.

ДЗЕБЯЛЕ'ЙШЫ *прым.* Дужэйшы. *Хто з вас дебелейшы, памажыце паднесці.* Дзяражычы.

ДЗЕ'ВАЧКА *ж.* 1. Дзяўчына. *Прыберэцца, дак нача і дéвачка прыглядная.* Дзяражычы. *Ужэ ена дéвачка велікая, а ты прыходь сватаці.* Чаплін. // Дзяўчынка. *Девачкі велікіе, дак нехай ладяцца.* Дзяражычы. *Мáшына дéвачка — дéвачка прыветная.* Бывалькі. *Тры дéвачкі мае адна за аднаею памерлі.* Бывалькі. *Два сыны і тры дéвачкі — отэта мая сем'я.* Чаплін.

ДЗЕВЯ'ЦІНЫ *мн.* Памінкі на дзевяты дзень пасля смерці. *Трэціны, девяціны, сарачыны, паўгода, год — которые правяць, а которые не правяць.* Дзяражычы.

ДЗЕД[1] *м.* 1. Дзед. *Дед, а де твой унучак?* Вулкан. 2. Стары. *То дед апушчаны, еслі б ён пабрэіўся да адеўся, дак ён быў бы маладым.* Дзяражычы. 3. Муж. *У бабы дед буў вельмі трудяшчы.* Бывалькі. *Мой дед так, як чэлядка нада мной, усе і делае, і делае.* Дзяражычы. 4. *пе-*

*ран.* Пудзіла. *Ена і дéда ставіла, зелеза аб зелеза ляскала — лецяць і лецяць, усё проса з'едяць.* Бывалькі.

ДЗЕД [2] *м.* Дзядоўнік. *Дедóў багата у пшаніцы.* Казярогі. *Насéелася тут дедóў калючых.* Пярэдзелка.

ДЗЕДУГА' *м. экспр.* Дзед. *Дедугá сагнуўся, як дуга.* Казярогі.

ДЗЕ'ЛА *н.* Справа. *Ены ее улекнулі у етае дéла.* Дзяражычы. *Не ў том дéла.* Чаплін. *Усякае дéла нада знаць: і кросна вуткаць, і капусту скласці.* Бывалькі. △ *Дзéла рабіць.* Працаваць. *Як пашла за Лазара, дак і дéла не рабіла.* Бывалькі. *Будам у колхозі дéла рабіць і сабе дéла рабіць.* Дзяражычы. *К дзéлу.* Да месца, дарэчы. *Старая ужэ, а усё так к дéлу говорыць, так складна.* Бывалькі. *Не ў дзéлі.* Не на працы. *Ён цепер не у дéлі, дак і труднавата.* Дзяражычы. *Сухóе дзéла.* Пра нешта пустое. *То усе дéла сухóе, его не уговóрыш.* Карпаўка. *Святóе дзéла.* Добрая справа. *Бувала параход — святóе дéла — на Гомель: сядеш, ціхенька даедеш, а цепер рэкеты тые лётаюць па Днепру, як ветрам носіць.* Дзяражычы.

ДЗЕЛАВА'ТЫ *прым.* Дзелавіты. *Адін чалавек делавáты расказаў пра Калерыю.* Ручаёўка.

ДЗЕ'ЛАЦЬ *незак.* Рабіць. *Усе на свеці нада умець дéлаць: нада умець і капусту паставіць.* Дзяражычы. *Па перваму нельзя дéлаць аборта.* Вулкан.

ДЗЕНЬ *м.* Дзень. *Колькі дён наша мамка лежыць!* Дзяражычы. △ *Як мілы дзень.* Вельмі добра. *Ена прыде у кіно — як мілы день паседіць.* Бывалькі. *Ее деўкі такіе, галубка, хлопцы пабралі — як мілы день.* Дзяражычы. △ *На аднóм дне дзве серадзе.* Пра нясталага чалавека. *Што ты хочыш ад Ганны; ты на ее не надейся: у ее на адном дне две сераде.* Крупейкі.

ДЗЕ'НЯШНЫ *прым.* Дзённы. *Мы не селі на дéняшнаю, а вечэрняю машыну. Дéняшная — што удень ходіць.* Пярэдзелка.

ДЗЕ'СЬ-ТАКІ *часц.* Усё-такі. *Дéсь-такі мала прывезла, я ж цебе прасіла: беры на усе грошы.* Пярэдзелка.

ДЗЕ'СЯ *прысл.* Дзесьці. *Адна дéся роботае заўцехнікам, адна роботае булгахцерам.* Ручаёўка.

ДЗЕСЯ'ТУХА *ж.* Дзесятая пятніца пасля вялікадня. *Деся́туха на десятай неделі ат паскі у п'ятніцу.* Дзяражычы.

ДЗЕСЯТЫ: *не хватае дзесятай кляпчыны.* Прыдурка-

ваты. *Ну, шчо ты говорыш шчо зра: у цебе десятай клепчыны не хватае.* Пярэдзелка.

ДЗЕ′ТАЧКІ, ДЗЕ′ТКІ *мн.* Ласкавы зварот да адной асобы, часцей да чужога. *Я кагу: дётачкі, спасіба табе, шчо ты на мене не забуваесся.* Дзяражычы. *Ага, дётачкі, ты так робіш.* Бывалькі. *Деткі мае, прыходь к нам, у нас хлопец е.* Дзяражычы.

ДЗЕ′ТУХА *ж.* Курыца, якая водзіць куранят. *Дётуха у нас завецца, которая ужэ децей водіць — ото у дварэ бачыш.* Ручаёўка.

ДЗЕ′ЎКА *ж.* Дзяўчына. *Шоб мае дёўкі парушылі екое пагане дела — ніколі.* Дзяражычы. *Калі дёўка була, дак такая весёлая, а старая стала, дак бурчыць і бурчыць.* Ручаёўка. *Старшая у іх дёўка вопутная, а менчая шугавей.* Дзяражычы. *Маіх і дёвак быстра маладых пабралі.* Вулкан.

ДЗЁБАМ: *сесці дзёбам.* Не расці, застацца ў аднолькавым становішчы. *Маньцы шаснаццаць годоў, а ена седіць дёбам.* Дзяражычы. *Кортоплі седяць у мене дёбам і ніяк не растуць.* Ручаёўка.

ДЗЁР *м.* Дранка. *Соломаю будам крыць і дёрам.* Ручаёўка.

ДЗЁРНУЦЬ *зак.* 1. Тузануць. *Колю так дёрнулі за ручку, што чуць не вуламалі.* Бывалькі. 2. Уцячы. *Як пабачыла мене, дак дёрнула назад.* Ручаёўка.

ДЗІВАВА′ЦЦА *незак.* Здзіўляцца. *Седіць бусел на капе, дівýецца бараде* (З нар. песні). Вулкан.

ДЗІВ′ІЦЬ *незак.* Асуджаць, ганіць. *Як е, дак ужэ на дівíце.* Карпаўка. *Не дівíце вы ее етак жорстка.* Ручаёўка.

ДЗІКА′Р *м.* Дзікія пчолы. *Дікарáмі пчол называюць, ета екіе у лесе жывуць.* Ручаёўка.

ДЗІРА′ВЫ *прым.* 1. Дзіравы. *Дзірáвае плацце, де ты его вукапала.* Бывалькі. 2. *перан.* Бедны. *Мне клопат, абы я ні голодная была да ні голая. Калісь дірáвая была: ні надець, ні з′есць.* Рудня Марымонава.

ДЗІРАВЕ′ННЫ *прым.* Вельмі дзіравы. *Хлевы дiравéнные, бедная скаціна мерзне усю зіму.* Вулкан.

ДЗІ′СКІ *мн.* Аладкі з перамёрзлай бульбы. *Діскі на усю скавараду пеклі.* Бывалькі. *Діскі — ладкі, блінчыкі з картошкі па весне.* Дзяражычы.

ДЗІЦЯ′ *н.* Дзіця. *Етага дзіцяці печонікамі вукарміла.* Дзяражычы. *Деці цепер папарарасталі матак і бацькоў.*

Карпаўка. △ Вадзіць дзяцéй. Раджаць. *Не хоча вадіць децéй, дак вот і хварэе.* Дзяражычы.

ДЗІЦЯ'ТАЧКА *н.* Дзіцятка. *Так добра було, ено, дзіця́тачка, токое цікавенькае.* Дзяражычы. *А як буде діця́тачка, дак роботы буде болей.* Чаплін.

ДЗІЧА'К *м.* Камень, кавалак скалы. *Дічакі — ета велікіе камні. Дічакі валяюцца на полі.* Пярэдзелка. *Дайце мне хорошага дічака. Ета камень, шо у гуркі ложаць.* Ручаёўка.

ДЗУРАЁМ *прысл.* Цурком. *Адну учора не падаіла, гуляла, дак стаіць і молоко дзураём бежыць. Онь, бачыце, дзюраём бежыць вада.* Дзяражычы.

ДЗЫ'БНУЦЬ *зак.* Пацягнуць. *Я держу, а ён як дзы́бне за веройку, дак чуць рукі не парваў.* Бывалькі.

ДЗЬМІ'ХАЦЬ *незак.* Дзьмухаць.— *На солонікі хто? — Вельмі гарачые.— Дьміхаць будам усе.* Первамайск.

ДЗЮБА' *ж.* 1. Дзюба. *Гусак б'ецца, і дюбóю кусае, і ногою б'е.* Ручаёўка. 2. *перан.* Коўш пад'ёмнага крана. *Пад'еде машына, дюбóю клюк, тры каўшы — і поўная машына.* Ручаёўка.

ДЗЮ'БАЦЬ *незак.* Дзёўбаць вострым. *Пайшлі раз да пелькі, стаю, дай дю́баю сякераю.* Первамайск.

ДЗЮБКА *ж.* 1. Дзюба. *Пабач, з екой дю́бкай палецеў.* Пярэдзелка. 2. Вастрыё. *Войстрая дю́бка уперадi тапара, без ее і рубіць не можна.* Ручаёўка.

ДЗЯБЁЛЫ *прым.* Дзябёлы. *Нехай несе: ён чалавек деб'ёлы,ён сам возьме паперад, а тые удвох ззаду. Хто з вас дебёлы, памажыце паднесці.* Дзяражычы.

ДЗЯВІ'ЧНІК *м.* Вечарынка ў нявесты перад вяселлем. *Девічнік, калі адны деўкі ды песні пеюць маладой.* Ручаёўка.

ДЗЯВО'ШЧЫН *прым.* Дзявоцкі. *Ета ешчэ мае девóшчына рукаделле.* Пярэдзелка.

ДЗЯ'ДНА *ж.* Дзядзіна. *Я жыву адна, ні маткі, ні дя́дны, ні завіцы у хаце.* Бывалкі. *У мене була дя́дна — мужыковага брата жонка.* Пярэдзелка. *Памянш.* дзя́дначка. *Па нежнасці звалі дя́дначка. Прыді бо, дя́дначка, мне кросны снаваць.* Пярэдзелка.

ДЗЯДЫ'[1] *мн.* Дзяды, продкі. *Деды́ нашы паміралі, дак усе зубы, як часнок, булі у році.* Первамайск.

ДЗЯДЫ'[2] *мн.* Памінальны дзень. *Деды́ му ж правілі. Кашу, боршч варац, на стол стаўлеюць: деды́ ж нашы*

*памерлі*. Дзяражычы. *Паехаў рыбаліць, к дедóм рыбу трэба*. Чаплін. △ *Міхáйліны дзяды*. Памінальны дзень перад Міхайлам. *Міхáйліны деды́ мы правім*. Дзяражычы. *Траéцкія дзяды́*. Памінальны дзень перад тройцай. *Траéцкія деды́ будуць у п'ятніцу*. Бывалькі.

ДЗЯ'ЖКА *ж*. 1. Тонкая доўгая палоска з лазы ці дрэва. *Ляжыць дяжка, Мархва паднела, аж ета с акна. З лазы дя́жкі деруць*. Бывалькі. *Як зіхнула маланка, тут жа толькі дя́жка пашла с акна да трохі мост пакарбавала, вокна пакрышыла*. Дзяражычы. *Дя́жка доўгенькая; абручы гнуць, дак кажуць: ох, екіе дя́жкі па етам, нада іх паабрываць*. Крупейкі. 2. *перан*. Палосы гразі на целе. *О-о па лыткам цэлые дя́жкі цягнуцца*. Дзяражычы.

ДЗЯ'КА *ж*. Падзяка, удзячнасць. *За ею і шчавель, і трава, перакопуваць кордоплі пойдзе, а ёй ні славы, ні дя́кі*. Ручаёўка. // Старанне, клопат. *За маю дя́ку, шо я ее абмывала, оцета мне токóе*. Дзяражычы.

ДЗЯКО'ЎЯ *прым*. Дзякавы. *Калісь толькі попóўя сыны, декóўя сыны вучылісь, а цепер — іздаў десяць класаў і падавай у Мінск, ці у Гóмель, ці ешчэ куды*. Ручаёўка.

ДЗЯРЖА'ВА *ж*. 1. Дзяржава. *Наша Расія — велікая держáва*. Бывалькі. 2. Апора. *Рэжа што-небудзь на стале ці на верстаку, а ён і трусіцца — нема держáвы. Хадем на двор, пры ладім: нема держáвы тут*. Пярэдзелка.

ДЗЯРЖА'ЦЦА *незак*. Утрымлівацца. *Эге, пані Віцька, газеты не дéржацца ніяк*. Дзяражычы. △ *Не держáцца языкі*. Аб балбатлівым чалавеку. *А мо калі угрэшысся — не держáцца езыкі*. Дзяражычы.

ДЗЯРЖА'ЦЬ *незак*. 1. Трымаць. *Не держы́ рукі у карманах*. Вулкан. 2. Карміць, утрымліваць. *На жырах як стала сына держáць, дак зацеглася усё на лёгкам*. Чаплін.

ДЗЯРКА'Ч[1] *м*. Галень. *Пашаруй деркачóм мост, чысцейшы буде*. Дзяражычы. *Ена деркачóм як стала его дубасіць*. Карпаўка. *З деркачом у баню не пойдеш, ім толькі двор месці*. Ручаёўка.

ДЗЯРКА'Ч[2] *м*. Птушка драч. *Деркáч леціць у цёплые страны. Як убачыць деркáч, што грэчка цвіце, зразу іде на юг*. Пярэдзелка.

ДЗЯРО'ЎЯ *зб*. Дрэвы. *Дерóўя булі, да клёны, да ліпы*. Бывалькі. *У школу стукнула, і дерóўя парвала, і правады парвала*. Дзяражычы.

ДЗЯРЫ′ЗНУЦЦА *зак.* Стукнуцца, ударыцца. *Де ты абадраў калена? — Упаў ці мо аб камень дерызнуўся.* Дзяражычы.

ДЗЯРЭ′ЎНЯ *ж.* Вёска. *У чужую дерэўню продалі.* Казярогі. *У дерэўні не хочуць жыць, канчаюць школу дай уежджаюць.* Ручаёўка.

ДЗЯТУ′ХА *ж.* Квактуха. *Детухá — курыца, екая водіць децей.* Крупейкі. *Ідзі детýху нагадуй, а то трэйці день не есць нічога.* Пярэдзелка.

ДЗЯЦВІ′ШЧА *н. неадабр.* Дзеці. *Сем'я ужэ — децвішча: два сынавы, два дачкіны, атвернуцца нельзя.* Пярэдзелка. *Прыехаў Васіль, а сем'ішчы такой, децвішчы.* Ручаёўка.

ДЗЯЦІ′НА *ж.* Дзіця. *Деціну аттуля прывезла.* Бывалькі. *Чыя у цебе на руках деціна?* Вулкан. *Ета деціна була б у чуніках калісь, у лапцях, а цепер усе тухлікі да штонікі носяць.* Ручаёўка. *Памянш.* дзяцінка. *О-о як ты жалееш сваю децінку.* Бывалькі. *Усероўна, мая децінка, завезі нам гной.* Дзяражычы.

ДЗЯЦІ′НЕЦ[1] *м.* Дзяцінец, дзіцячая хвароба. *Калі децінец, дак прыпадкі у діцяці.* Казярогі.

ДЗЯЦІ′НЕЦ[2] *м.* Драўляны зруб у калодзежы. *Децінец ставіцца, штоб не сыпаўся песок.* Карпаўка. *Нада меняць децінец у нашум колодезі.* Ручаёўка.

ДНЕ′ЎНЫ *прым.* Які злічваецца днямі. *Жысць мая ужэ днеўная: параначую — слава богу, парадную — слава богу.* Дзяражычы.

ДНО *н.* 1. Дно. *Капусты засталося на дне, скора кончыцца.* Бывалькі. *Намедні дно выпала у дежцы.* Ручаёўка. 2. Ніз. *Кладіце сала на дно шкуркаю.* Бывалькі. *Пада дно падсуну уцетую — не смейцесь: дабрэнна буде, як пашыю.* Дзяражычы. *Паддевачка пада дно надееццa.* Казярогі. *Старую спадніцу пада дно, наверх новаю.* Пярэдзелка. *У канцы гумна восець стаіць, у восеці пада дном гарыць агонь: у серэдіні восеці яма, у ямі гарыць агонь.* Ручаёўка. *О-о, бачыш, пада дном у мене кохтачка.* Дзяражычы.

ДО′БАЙ: *бáбскай (дзявоцкай) добай.* 1. Будучы жанчынай (дзяўчынай). *Бабскай дóбай лезць у невад — магіла.* Первамайск. *Ета ж трэба девóцкаю дóбаю лажыцца спаць з хлопцам!* Дзяражычы. 2. Адзінокай без мужа. *Прося век жыве бáбскай дóбай.* Дзяражычы.

ДОБРА *прысл.* 1. Добра. *Добра мне на печы, хара-*

*шэ. Тые еечкі я узела да прыхараніла, дак так добра цепер.* Дзяражычы. 2. Вельмі. *Ён папабухаў ее до́бра, пабіў крэпка.* Дзяражычы. *Ён тожа до́бра піў.* Казярогі. *Хлопца апуталі до́бра, до́бра.* Карпаўка.

ДО′БРЫ *прым.* 1 Добры. *А не гадіцца, дак нікуды: ні ў тын, ні ў плот, ні ў до́брые людзі.* Дзяражычы. *До́брым насеннем засадіш план, дак буде што на зіму.* Казярогі. 2. Маючы сілу. *Шчэ і так ена до́брая матка, нехай хаця короў вуганяе.* Дзяражычы. 3. Значны па велічыні. *Было Вулляні узяць кныпель до́бры да па ём і па ей.* Дзяражычы. 4. У гадах. *Ото мужчыны — добрые деды, соро́чкі з зобо́рамі насілі, да доўгая, доўгая сорочка, і штаны не трэба.* Дзяражычы.

ДО′КІ *прысл.* Дакуль. *До́кі ты будеш мене мучыць.* Бывалькі. *Ото б седела неўма докі, а я первая запісалась.* Дзяражычы.

ДО′ЛІ *прысл.* Доле. *До́лі гаршчок пастаў, лі печы.* Ручаёўка.

ДО′ЛЯ *ж.* Доля. *Я не буду абіджацца на сваю до́лю: я важка не робо́тала, хоць хадяйства було большое — нанімалі і рабілі.* Дзяражычы. *Деткі мае, век гарую, век у гразе, нема мне празніка ніколі, до́ля мая, як лёля.* Первамайск. *Мая Прося гарука, усе адна і адна, буў чалавек, да шчасця не було — чыя до́ля красуе, а чыя гаруе.* Дзяражычы. *Ена буде камандаваць, а ён усе делаць, паспрабуй пакамандаваць маім — жыве кот і сабака, да до́ля не аднака: кот на печы, а сабака на дварэ.* Ручаёўка.

ДОМ *м.* Дом (гарадскога тыпу). *Хаты не стаўлей простай, а пастаў настояшчы дом. Цепер у іх — ого прыборы у домо́х.* Дзяражычы. *Калі е струб, дак крышу накрыць шыферам ці бляхай — і буде дом.* Ручаёўка.

ДО′СКА *ж.* Дошка. *Воцетые до́скі на мост добра. На мост дак толькі тоўстые до́скі трэба.* Первамайск. *У мене добры услон, толькі до́ска не дужа гладкая.* Чаплін.

ДО′СЮЛЬ *прысл.* Дагэтуль, дасюль. *Де ты, деўка, до́сюль хаділа. Ужэ можна було тры разы адтуль прыці.* Ручаёўка.

ДО′ТУЛЬ *прысл.* Датуль, да таго часу. *Хадіў воўк до́туль, покуль паеў усю жывёлу.* Чаплін.

ДО′ЎЖАН. 1. Павінен. *Ена не до́ўжна быць на ро-*

*боці*. Бывалькі. 2. Вінаваты. *Я бегала к тым людям, которые міне доўжны булі*. Вулкан.

ДО'ЎЖЫК *м.* Даўгунец. *Велікі лён — доўжык.* Пярэдзелка.

ДО'ЧАЧКА *ж.* Дачушка. *Схаді, дочачка, у магазін, хлеба прывезлі, купіць трэба.* Ручаёўка.

ДОШЧ *м.* Дождж. *Такі дошч іде, я вумак, як хлюшч.* Вулкан. *Мене сегодні атхлярый дошч.* Дзяражычы. *Дашча і восень мала дала.* Казярогі.

ДО'ШЧАЧКА *ж.* Прыстасаванне, пры дапамозе якога снуюць кросны. *Дошчачкі етые не даюць ніткам путацца.* Чаплін.

ДРАБІ'НА *ж.* Лесвіца. *Драбіна вунь каля хлева стаіць, штоб наверх лазіць.* Чаплін.

ДРАБКО'ВЫ *прым.* Кускавы. *Драбковы сахар прывезлі у лаўку.* Пярэдзелка.

ДРА'БЛЫ *прым.* Пусты ў сярэдзіне (пра рэдзьку, радыску). *Месечка калі пераседіць, то ена становіцца драблая, нікудышняя.* Ручаёўка.

ДРАБО'ЧАК *м.* Драбочак. *Цукар мая Маня узела: па два драбочкі у бумажцы, увертана нача у коробаццы.* Пярэдзелка.

ДРАБЫ' *мн.* Яслі. *Не даваць піць, а палажы сперва сена у драбы.* Пярэдзелка.

ДРА'ЗКА *ж.* Трэска. *Дразак пасабірай. Стружкі, як стругаюць доску, а так дразкі у нас кажуць.* Ручаёўка. *Іді нашчапай дразак.* Чаплін.

ДРАМА'ЦЬ: *драмаць ходзячы.* Быць вельмі слабым. *Дядна умерла, а Ходора дрэмле ходячы.* Дзяражычы.

ДРА'ПКА [1] *ж.* Матыка. *Грады драпкай пройдеш сегодні.* Казярогі.

ДРА'ПКА [2] *ж.* Вяроўка, на якой вісіць калыска. *Падвесные калыскі булі, абшывалісь полотном, у дераўянай діця можа забіцца: драпкай зачэплюецца калыска.* Ручаёўка.

ДРА'ЧКА *ж.* 1. Тарка. *Падай драчку, таранікаў натарым.* Чаплін. *Трэба драчку купіць, рэзіну клеіць.* Чаплін. 2. Ручныя жорны. *Колас я додому прынесла, дак пойпуда було, а тады на драчку да помолола да хлеба напекла.* Дзяражычы. 3. Драчка (у цесляроў). *Драчка трошкі загнутая, ведеш па ніжнему дераву, захватуеш верхнее, калі прыдерэш, дак ены шчыльна прылегаюць.* Ручаёўка.

ДРАЎЁ *н.* Гнілыя трэскі, якімі дымяць пчол. *У дымар мы кладем драўё — гнілушкі.* Ручаёўка.

ДРА'ХЛЫ *прым.* Стары. *Я ж дра́хлая, да па больніцам, да пілюжкі піла.* Ручаёўка.

ДРА'ЦЦА *незак.* 1. Драцца. *І нічога не робіць і дерэ́цца на ёй усё.* Дзяражычы. 2. Карабкацца, караскацца. *Без рук, без ног, а на печ дерэ́цца.* Вулкан. 3. Драпацца. *Вунь кошка як дерэ́цца — на мороз.* Казярогі.

ДРАЦЬ *незак.* Драць. *Дерэ́ш кортоплі, а тады печэш драчы.* Бывалькі. *Калісь зімой седелі да пер'е дра́лі у падушкі.* Ручаёўка. △ *Драць во́чы.* Зневажаць, абражаць. *Ена не хоча у Ісака браць, штоб ёй во́чы не дра́лі.* Дзяражычы.

ДРАЧ [1] *м.* Дранік. *Дранікі культурней, а у нас паганацкі — драчы́.* Бывалькі. *Драча́ спекла децям.* Дзяражычы. *Памянш.* дра́чык. *Пецька дра́чыкі любіць, сегодні напеку.* Ручаёўка.

ДРАЧ [2] *м.* Птушка дзяркач. *Драч водіцца часцей на лузе. Кажуць, што пціца-перапеліца — драчо́ва жонка.* Карпаўка.

ДРО'ВА *мн.* Дровы. *Дро́ва у нас нехорошые, і у міне дух цежолы.* Бывалькі. *Раней у нас колхоз буў, дак луччай було: і дро́ва булі, і сена.* Ручаёўка.

ДРО'ГАЦЦА *незак.* Здрыгвацца. *Я не сплю, а так на вецах : я сплю і дро́гаюсь.* Дзяражычы.

ДРО'ЗДЗІК *м.* Настурка. *А цепер настурцыі, а у нас дро́здікі.* Дзяражычы.

ДРО'ЎНЯ *ж.* Дрывотня. *Вычысці дро́ўню, а то заўтра прывозім дрова.* Карпаўка. *Твае анекдоты слухаць толькі на дро́ўні.* Чаплін.

ДРО'ШЧЫ [1] *мн.* Дрожджы. *Без дрошчэ́й гарэлкі не вуганіш.* Дзяражычы.

ДРО'ШЧЫ [2]: *дро́шчы бяру́ць.* Аб дрыжанні ад холаду. *Ох, і беру́ць жа дро́шчы, холадна, ізмерзла.* Бывалькі. *Сее так дро́шчы беру́ць, холад такі нападае.* Дзяражычы.

ДРУГІ' *ліч.* Другі, іншы. *Первы ці другі день послі паскі — не знаю. Еты год саўсім друга́я була палёгка.* Дзяражычы. *Як бы Белякова прыехала дохтарка; то хорошая маладіца, раскажа, а не то шо як друга́я, сепае.* Дзяражычы.

ДРУЖА'КА *ж.* Сяброўка. *Ена дружа́ка мая.* Дзяра-

жычы. *Було тры хорошые дружáкі: Тацяна, Мар'я і я.* Ручаёўка.

ДРУ'ЖКА *ж.* Шафер. *У нашага свата караслівые рукі, з кішэнь не вымае, дрýжак не вітае* (З нар. песні). Карпаўка. *Берэ дрýжак, свотóў і іде да маладой.* Ручаёўка.

ДРУЖО'К *м.* Сябар. *Не наводце поўную хату сваіх дружкóў.* Дзяражычы.

ДРУЖО'ЧАК *м.* Каханак. *Ой, ні даў жа міне бог да ні шчасця, ні долі, ні дружóчка, ні любові* (З нар. песні). Чаплін.

ДРУЖЫ'НА *м.* Муж. *Хорошая дружына найшлась.* Бывалькі. *Не лежала, мая мамка, ні час, ні гадіны, папалася, мая мамка, к невернай дружыні* (З нар. песні). Крупейкі.

ДРУК *м.* 1. Тоўсты кій. *Я ударыў дрýкам, дак ён чуць попоўз.* Вулкан. *Пастаў друк у куток.* Первамайск. 2. *перан.* Гультай. *Ну і друк. Лежыць, павернуцца не хоча.* Пярэдзелка. *Памянш.* דручóк. *Як учысціў дручкóм, дак ён аж пакацíўся.* Казярогі.

ДРУ'ЧЧА *н.* Друкі. *Светые узелісь за дрýчча да за дучкай, дай прагналі ее.* Крупейкі.

ДРЫПУ'ЛІЦЬ *незак. зневаж.* Хадзіць дробнымі крокамі. *Чого ты дрыпýліш? Шагай шырай.* Пярэдзелка.

ДУБ *м.* 1. Дуб. *Там стаяў дуб дупланасты.* Пярэдзелка. 2. Вялікая лодка. *Калісь мы паехалі дубáмі у Лоеў.* Дзяражычы. *Восім чалавек у дýбі.* Первамайск.

ДУБАДЗЕ'Л *м.* Гультай. *Дубадел ты, дубадéл, мешка травы не накасіў за день.* Ручаёўка.

ДУБІНА' *ж.* Дуб (матэрыял). *Дубовые пукі дак важкіе: дубіна цежолая.* Дзяражычы.

ДУБО'ВІК *м.* Рулявы на лодцы-дубе. *Дубóвік на дубе роботае, знае усе хады і выхады.* Пярэдзелка. *У нас была парція — дванаццаць чалавек, а дубóвік трынаццаты.* Рудня Марымонава. *Хадіў хазяін па плутох і за дубóвіка буў.* Дзяражычы.

ДУБОВЫ: *дубовая каша.* Каша з ячменю. *Наварыла дубóвай кáшы на абед.* Карпаўка. *Дубóвай кáшай у нас завуць кашу з ячменю.* Пярэдзелка.

ДУ'ЖЫЦЦА *незак.* Трымацца, мацавацца. *Нада ж расціць і сваіх і чужых, еслі дýжыцца.* Дзяражычы.

ДУ'ЛЯ *ж.* Дуля, ігруша. *Булі і вішні, і дýлі, і ябла-*

*кі, і слівы*. Дзяражычы. *Дулеваxі вісяць, аж завідна*. Бывалькі.

ДУ'НУЦЬ *зак. перан*. Моцна адпіхнуць. *Нада было дўнуць его, каб ён палецеў ад цебе*. Первамайск.

ДУ'ПЕЛЬ *м*. Каратыш. *Куцы, дак выдумалі дўпель, куцэйшы за бабу*. Дзяражычы.

ДУПЕ'ЛЬЦА *н*. Вочка на моркві, бульбе. *Павукавуруй дупéльцы ножычкам на моркві*. Казярогі.

ДУПЛЯ'НІК *м*. Вулей з дупляватага дрэва. *Пчолы жывуць у дупляніках*. Ручаёўка.

ДУ'РНА *прысл*. 1. Дарэмна, бясплатна. *Старая говорыць: дўрна не хадi работаць*. Вулкан. *Як не буде у его, дак шчо ты будеш дўрна его гадаваць*. Казярогі. 2. Дрэнна. *Дак хіба у гацях дўрна. У гацях і крупы наберэ, і зерна*. Дзяражычы.

ДУРНЕ'ЧА *ж*. Дур. *Було дурнéчы, дак насіла, а цепер дурнéчу вубіла*. Дзяражычы.

ДУРНІ'ЦА *ж*. Бязглуздзіца, лухта. *Дурніцы не гономіць ніякай, гарэлкі не піў, бажэсцвенны чалавек буў*. Дзяражычы.

ДУРНЫ'[1] *прым*. Дурны. *У дурнóга салаўя і дурнáя песня*. Ручаёўка. *Ты дурны́, як сала без хлеба*. Чаплін.

ДУРНЫ'[2] *прым*. Бясплатны, дармовы. *Тут жа у Ручаёўцы так жывуць: ягады дурны́е, грыб дурны́, планы кручаные, коровы е, свінне — от ены і п'юць*. Ручаёўка. △*На дурны́ дзень рабіць*. Дарэмна (працаваць). *Калісь жа рабілі, рабілі да на дурны́ день, цеперакі так добра палучаюць у колхозі*. Ручаёўка.

ДУРНЫ'[3] *прым*. Маласольны (пра гуркі) *Я дурны́е гуркі люблю, пах іхні. З солонікамі смачна дурны́е гуркі*. Дзяражычы.

ДУХ *м*. 1. Дух, паветра. *Нырнуў і вынырнуў.— Чого ты вынырнуў? — Не хапіла дўху*. Пярэдзелка. *Бег — не дабег: нема дўху*. Казярогі. 2. Цяпло. *Я пастаўлю у лёгенькі дух уцеты кушын*. Дзяражычы. *Зачыні юшку, а то духу і так мала, дрова пагарэлі і нічога не асталося*. Ручаёўка. 3. Пара (у лазні). *Наддай дўху, падлі на печ*. Ручаёўка. 4. Пах. *Ён дух чуў.— То печ паляць.— Не, то не грубны дух*. Вулкан. //Смурод. *З нагі цечэ, і недобры дух у хаці*. Дзяражычы. △ *Ні духá*. Зусім нікога (няма). *Завернай коней, паедам лугам, прыехалі, а там ні хі-хі, ні духá*. Казярогі.

ДУХАВІ′НА *ж.* Дыхавіна. *Ударыць пад духавіну, дак і дыхаць нельга.* Ручаёўка.

ДУЦЬ *незак.* Дзьмуць. *Адцюль дуе́ крэпка песок.* Дзяражычы. *От дуе́ так коровам ле ворот у короўніку.* Карпаўка.

ДУ′ЧКА *ж.* Дзірка. *Зрабіў дудачку з ду́чкаю.* Дзяражычы.

ДУША′ *ж.* 1. Душа. *Душа́ баліць, так далека аддала Гальку.* Вулкан. *Аж душа трымціць, як пабачу солодкага.* Дзяражычы. 2. *перан.* Чалавек. *Нельзя іздевацца, шо ж я не душа́! З мае сем'і п'яць душ паклалі.* Дзяражычы. *Две рабочые душэ́ у хаці.* Ручаёўка. *Уськая душа́ пее па-своему.* Чаплін. *Кожную душу перагаварыла у цэркві: і за матку, і за свекруху, і за бацька.* Дзяражычы. △ *Душа́ крыва́я.* Несумленны, няшчыры чалавек. *Хіба ж ты его усовесціш, станеш гаварыць, а ён адно: мая душа́ крыва́я — усё прымае.* Первамайск. *Па душэ́.* Добра, па жаданню. *Пад'ём па душэ́, дак я нача падужэ́ю.* Дзяражычы.

ДУШЫ′ЦЬ *незак.* Душыць. *Убегла на двор, а ён ду́шыць курку.* Казярогі. 2. Біць. *Ён ее прыўяжа вероўкаю у хлеве і ду́шыць.* Дзяражычы.

ДЫ′БАЛАМ *прысл.* Дыбам. *Ета машына ды́балам стала, зад у айрагу.* Чаплін.

ДЫ′БАЦІ *незак.* Ісці, цяжка ступаючы. *Як у бахілах буду ды́баці.* Бывалькі.

ДЫБКА′ *прысл.* Дыбам. *Косы у мене дыбка́ сталі.* Пярэдзелка.

ДЫ′ЛІ *мн.* Дашчаны насціл, на якім ляжыць ніжні камень у жорнах. *Дераўяные ды́лі находзяцца пад нізом спадняка.* Ручаёўка.

ДЫЛЬ *м.* Брус. *Калі гарбылі абрэжуцца, дак дыль астаецца.* Ручаёўка.

ДЫМАНУ′ЦЬ *зак. перан.* Штурхануць. *Ты мене сільна таўкаеш: як дымане́ш, дак і рукі, і ногі баляць.* Дзяражычы.

ДЫХАЦЬ: *у вадзе́ мо́жа ды́хаць.* Знойдзе выхад з любога становішча. *То баба хітрая, ена у ваде́ мо́жа ды́хаць.* Дзяражычы.

ДЫ′ХЛА *н.* Дыхавіца. *Як даў ему пад ды́хла, аж дыхаць занело.* Пярэдзелка.

ДЫ′ШЛА *н.* Дышаль. *Токо́е тоўстае ды́шла зделаў Юрка.* Чаплін.

# Е

Е *асаб. форма быць.* Ёсць. *Небогі е? Тры небогі е.* Дзяражычы. *Як жа за ім не жыць. У іх жа усе е: і грошы, і сала, і адежа, і кортоплі, і усе.* Ручаёўка.

Е́ЙНЫ *займ.* Яе. *Ейны муж буде здаваць.* Бывалькі. *Нада з ейнай зарплаты браць пенсаю.* Дзяражычы. *Е́йная сестра замужам.* Крупейкі.

Е́ЛКІ *прым.* Ёлкі, прагорклы. *Ну і е́лкае ж сала стала цепер, трэба скарэй біць другога кабана, а то етае і у рот не хочацца браць.* Ручаёўка.

Е́НТЫ *займ.* Гэты. *Енты чалавек старэй за мене.* Чаплін.

Е́СЦЕКА *асаб. форма быць.* Ёсць. *У нас тут тожа е́сцека такая, шчо вучылася.* Ручаёўка.

Е́СЦІ *незак.* Есці. *Деўкі, ідіце е́сці.* Ручаёўка. *Маруся, разагрэй бабку і еж.* Дзяражычы. *Ена прывыкла толькі чай е́сці.* Карпаўка.

Е́ТА *часц.* Гэта. *Што е́та ены пішуць усе?* Пярэдзелка. *Е́та нада не рабіць, а з вамі усё седець.* Ручаёўка.

Е́ТАКІ *займ.* Гэтакі, гэткі. *Е́такі хлопец вурас!* Бывалькі. *Тады е́такае сонца було і дежка гуляла: можна було тады і паладіць дежку, дак ужэ б Прося і склала капусту.* Дзяражычы.

Е́ТЫ *займ.* Гэты. *Во е́ты стог добры, велікі.* Вулкан. *Е́та не хвороба, е́та пошасць такая ходіць.* Дзяражычы.

# Ё

ЁЖЫК *м.* Вожык. *Прошлы год на плану було чэцвера ёжыкаў.* Чаплін.

ЁЛАЧКА *ж.* 1. Ёлачка. *Хоць маленькую ёлачку, а пастаўлю на Новы год.* Казярогі. 2. Спосаб вышывання. *На куце вісеў ручнік, вышыты у ёлачку.* Карпаўка. *Я і ёлачкай вушывала, і ліс́цікамі, і усяк.* Чаплін.

ЁМАЧНІК *м.* Чапяльнік. *Трэ нову ёмачнік зрабіць.* Ручаёўка.

ЁМКА *ж.* Чапяла. *Іді падай ёмку, бо рукамі скавараду нельзя зняць.* Крупейкі. *Пачуў чалавек уночы, што завылі ваўкі, берэ ёмку і штурхае у комін: «Ву, ву, я вам дам!»* Чаплін.

# Ж

ЖАБАЕ'Д *м.* Скнара. *Ета не людi, ета жабаéды: едяць i крычаць.* Дзяражычы.

ЖА'БУР *м.* Жабурынне. *Пакрылася балацянка жáбурам.* Первамайск.

ЖА'ДНАСЦЬ, ЖА'ЖДАСЦЬ *ж.* Прагнасць. *Жáднасць такая у его, каб усе сабе.* Ручаёўка. *Iз жаждасцi ума лiшаецца.* Вулкан.

ЖАЖДАВА'ЦЬ *незак.* Скнарнiчаць. *Е жэнщчыны, шо ены жáждуюць грашамi i едой.* Дзяражычы.

ЖА'ЖДЫ *прым.* Прагны. *Ён жáжды на еду.* Дзяражычы. *От такая жáждая, галубка, усё ей мала.* Карпаўка. *Ены жáждые такiе на чужое.* Чаплiн.

ЖАЛЕ'ЦЬ *незак.* Шкадаваць. *Цi ты жалéеш мне плаццяа надець?* Бывалькi. *Ены ее жалéць не будуць, як ена сваiх унукаў.* Бывалькi. *Ужэ узяўся Карп мой, дак не знае, што ему даваць, так жалéў дiця мае.* Дзяражычы.

ЖА'ЛIЦЦА *незак.* Скардзiцца. *Ена мо ле месяца жáлiцца.* Дзяражычы. *Багата баб-кастагрызнiкаў жáляцца нагамi.* Ручаёўка. *Ён нiчым не жáлiўсь, добры хлопец буў.* Вулкан.

ЖАЛКАВА'ЦЬ *незак.* 1. Скардзiцца. *Ена на мене жалкýе: чэраз цебе я баялась прымаць прымака.* Дзяражычы. 2. Шкадаваць. *Я паследнюю серыю не бачыла, дак так жалкавáла.* Ручаёўка.

ЖАЛО'СНЫ *прым.* Жаласны. *Як жалóсная песня, я плачу.* Чаплiн.

ЖАЛЬ[1] *ж.* Жаль. *Ена з жáлi не iде ка мне.* Дзяражычы.

ЖАЛЬ[2] *катэг. стану.* Шкода. *Пабiлi родiча, ну i жаль его стала.* Ручаёўка.

ЖАЛЬНЕ'Й *прысл.* Жаласней. *У мене нiма нiкога над ей жальнéй.* Ручаёўка.

ЖАЛЫБА'ЦЬ *незак. груб.* Празмерна пiць. *Сколькi вады жалыбáе адразу.* Пярэдзелка.

ЖА'МКI[1] *мн.* Жамерыны. *Варым кабану жáмкi.* Первамайск. *На спiртзаводi аддаюць жáмкi, свiнне добра едяць.* Чаплiн.

ЖА'МКI[2] *мн.* Пячэнне. *На печэнне у нас говораць жамкi. У магазiне купiла кiло жáмак, нехай дзецi едяць.* Дзяражычы.

ЖАНЕ'ННЕ *н.* Жаніцьба. *Пра жанённе Васілёк не казаў ніколі.* Ручаёўка.

ЖАНЕ'Ц *м.* Жнец. *Бувае, і мужчына добры жанёц: цэлую поласу сажне за день.* Вулкан. *У его девяць жэнцоў було.* Дзяражычы. *Бог пару сабірае: хоць пару старцоў, хоць пару жанцоў.* Бывалькі.

ЖАНІ'ЦЦА *незак.* 1. Жаніцца. *Хлопцаў у нас маладых нема: як жэніцца, дак у горад працаваць еде.* Ручаёўка. 2. Выйсці замуж.— *Я ці була деўкай, як ты прышла? — Ах, ты пры мне жанілась.* Чаплін.

ЖАРАБО'К *м.* Жэрабя. *Жарабкі цеглі, я вуцегла серэдні.* Чаплін.

ЖАРАЛО *н.* Лаз у пограб. *Памажы кортоплі вусыпаць у жараló.* Казярогі. *Жараló трэба зачыніць.* Карпаўка.

ЖА'РАНІКІ *мн.* Смажаная бульба. *Жáранікі — рэзаные кортоплі, кладуцца скрылікі у чыгунок да у печ ставяцца.* Дзяражычы. *Ні жáранікаў, ні сала нельга есці.* Ручаёўка.

ЖАРДЗЁ *н.* Жэрдзе. *З жардя́ делаюць плот.* Пярэдзелка.

ЖАРДЗІ'НА *ж.* Дубец, палка. *Возьме жардіну да як пацягне той паплІскай па вокнах.* Ручаёўка.

ЖАРЖЫ'НА *ж.* 1. Вяргіня. *Жэржы́ну прынесла ат маткі і пасаділа пад вокном.* Бывалькі. *Ета жаржы́на у мене велікая расце.* Дзяражычы. 2. *перан.* Здаравяка. *Еечка сами не з'едім, усе ему да ему, дак ён як жэржы́на красны!* Дзяражычы.

ЖА'РКА *прысл.* Горача. *Як насадіць торху у грубу, дак у хаце жарка, нельга адержацца.* Дзяражычы. *Ён жа у колхозі робóтаў так жáрка.* Дзяражычы.

ЖА'РКІ *прым.* 1. Гарачы. *Учорі такі жáркі день буў, а сегодні захолóдула.* Карпаўка. 2. Моцны (пра дождж). *Жáркі ішоў дошч, заліўны.* Ручаёўка.

ЖА'РНІЦА *ж.* Месца на прыпеку, куды выграбаюць жар. *Заграбі жар убок, у жáрніцу.* Первамайск.

ЖА'РЫ *прым.* 1. Руды. *Лён, кажуць, сабіраць, а куды ж его сабіраць, калі ён жáры.* Дзяражычы. *Мама, купі мне новые карандашы, а то я жáры загубіў, а ў школе ён нам трэба.* Ручаёўка. 2. Рыжы. *Девачкі, вон па вуліцы іде ваш хлопец жáры, мо к вам зайде.* Ручаёўка.

ЖА'РЫЦЬ[1] *незак.* Смажыць. *Жа́рыла сала уранні, ежце, ежце его.* Казярогі.

ЖА'РЫЦЬ[2] *незак. перан.* 1. Хутка ісці. *Бач, жа́рыць па вуліцы і галавы не падніме.* Пярэдзелка. 2. Біць. *Так жа́рыў свайго малога, крычаў на усю вуліцу.* Пярэдзелка.

ЖАРЫ'ШЧА *н.* Гарачыня. *Згарэць нада у хаці — тобе жары́шча.* Дзяражычы.

ЖАЎКЛЯ'К *м.* Жоўты агурок. *Як ужэ на семено, дак жаўкля́к называю.* Ручаёўка. *Ні аднаго жаўкляка́ не усцерэгла: куры паклевалі.* Пярэдзелка. *Заберы на насенне уцетые жаўклякі.* Казярогі.

ЖАЎТА'ЧКА *ж.* Жаўтуха. *Жаўта́чка — то такая хвороба.* Ручаёўка. *Діця жаўта́чкай забалела, дак стала як ліст восенню.* Ручаёўка.

ЖВА'КА *ж.* Жвачка. *Мабуць, прападе корова: другіе суткі не жуе́ жва́ку.* Чаплін.

ЖВАЛЕ'ЙШЫ *прым.* Больш жвавы. *Ены ж етые старэйшые жвале́йшые.* Ручаёўка.

ЖВА'НКА *ж.* Жвачка. *Корова ні жва́нкі не жавала, нічога.* Ручаёўка.

ЖВАЦЬ *незак.* Жаваць. *Старая я, хлеб жву, жву, ніяк не разжаваці.* Ручаёўка. *Што ета за м'яса, што я жваў, жваў і рады не даў.* Казярогі.

ЖВЯ'КА *ж.* Жвачка. *Калі корова не жуе́ жвя́ку, ена бальная. Маю корову атлечылі: а то два дні жвя́кі не жавала.* Дзяражычы.

ЖЛУ'КТА *ж.* Жлукта. *У жлу́кці той сціралі палатнянае беллё.* Дзяражычы. *Золім у жлу́кці, і полотно робіцца белым.* Чаплін. *Ета раней булі жлу́кты, да і цепер ены е.* Ручаёўка.

ЖЛУ'КЦІЦЬ *незак.* 1. Жлукціць. *Учорі цэлы день була дома: жлу́кціла сваё беллё.* Бывалькі. 2. *перан. груб.* Прагна піць. *Чого ты тую воду так жлу́кціш.* Дзяражычы.

ЖМУТ[1] *м.* Жмут. *Узела жмут лёну і траплом его.* Пярэдзелка. *Звежы етую солому у жмут да на вушкі закінь.* Ручаёўка.

ЖМУТ[2] *м. перан.* Скнара. *Матка толькі і дасць, а ён, жмут, капейкі не дасць старцу.* Пярэдзелка.

ЖНЕ'ЙКА *ж.* Жняя. *Цепер жа у нас жне́йкі не жнуць, а камбайнеры усе робяць.* Чаплін.

ЖНІВА' *ж.* Жніво. *Цэлая жніва́ робо́талі, дак ена*

*дала копу жыта палеглага.* Дзяражычы. *Ужэ жнівá началась.* Крупейкі. *Колькі жній було на маей памеці.* Вулкан.

ЖНІ'ЎНІ *мн.* Рунь. *У Крывіне ужэ у калена жніўні.* Ручаёўка.

ЖНІ'ЎНІК *м.* Іржышча. *Жніўнік — сцёран.* Первамайск. *Жніўнік — зжатае жыта.* Чаплін.

ЖО'ДЗІН *займ.* Кожны. *Ой, жóдін день дошч іде.* Крупейкі. *Жóдін год прыежджаў додому Пеця.* Пярэдзелка.

ЖО'ДНЫ *займ.* Кожны. *Жóдны день му, старые, говорым, а цепер говорацъ кожны день.* Дзяражычы.

ЖОМ *м.* Жамерыны. *Жóму тогó прывезе Волóдя трактар да будам карміць свіней.* Ручаёўка.

ЖО'РВАН *м.* Жорны. *Жóрван — мельніца, шо рукамі круцяць.* Ручаёўка. *Трэба свінням жыта змолóць на жóрван, а то у мельніцу нема чогó везці.* Чаплін.

ЖУЖЭ'ЦЬ *незак.* Бзыкаць. *Жужэла усю ноч конская муха.* Дзяражычы.

ЖУР *м.* Страва з аўсянай мукі. *Жур — кулага з аўсянай мукі.* Бывалькі. *Возьмуць мукі з аўса, наблёхаюць ваді, паставяць на печ, трохі паднімецца — ета жур, тады его едяць.* Пярэдзелка.

ЖУРА'ВАЧКА *м.* Журавель. *Да журáвачка краса, а мая Ніначка на хвасце плача: ці нема маці мае постаці падагнаці* (З нар. песні). Вулкан.

ЖУРА'Ў[1] *м.* Журавель. *Ходіць журáў па поплаву.* Дзяражычы. *Журавы́ лецяць пад сонцам і курлычуць.* Карпаўка.

ЖУРА'Ў[2] *м.* Трохлітровы буталь. *Цэлы журáў гарэлкі наліў.* Ручаёўка.

ЖУРА'ЎКА *ж.* Выемка ў ткацкім станку, куды закладваецца навой. *У ставу е журáўка, у ету журáўку му кладом навойку.* Дзяражычы.

ЖУ'РЖА *ж. лаянк.* Распусніца. *Аксіння берэ воду, от жýржа.* Ручаёўка.

ЖУХАВА'ТЫ *прым.* Жвавы. *Мая братавая покóйная жухавáтая була. От ена такая проворная була.* Дзяражычы.

ЖУХНУЦЬ *зак.* Загарэцца імгненна. *Саляркі нехай возьме, ліне, дак жýхне адразу у печы.* Дзяражычы.

ЖЫ'ВА *прысл.* Хутка. *Жы́ва свіней гані з двара.* Бывалькі. *Жы́ва сабірайся у школу.* Дзяражычы.

ЖЫВЕ'Ц *м.* Крыніца. *Жыдкі песок — смактун, там б'е пад нізом жывéц.* Дзяражычы. *Там у нас такая вада — жывéц, чыстая, чыстая.* Карпаўка. *Жывéц называецца, што зімой і летам не замерзне.* Пярэдзелка.

ЖЫВУ'ШЧЫ *прым.* Жывы, жывучы. *Еслі децінец на жывушчую — буде жыць.* Ручаёўка.

ЖЫВЫ *прым.* Жывы. *Люді жывы́е, дак прыдумоўваюць.* Дзяражычы. △ *Жывы́ замок.* Пра таго, хто заўсёды знаходзіцца ў хаце (звычайна стары). *Ото ж я зомóк жыву: кіне міне, хоць не замукае.* Дзяражычы. *На жывую нітку.* 1. Абы-як. *Зашыла плацце на жывую нітку і пабегла, такая нецікавая девачка.* Бывалькі. 2. Хутка. *Аж упацела: спешу, усе на жывýю нітку трэба делаць, куды ні павернісь — адна.* Дзяражычы. *Ні жывы́ ні мёртвы.* Пра стан страху. *Да того папужалісь, што ні жывы́е ні мертвые.* Карпаўка. *Ні ў жывы́ свет.* Ніяк. *Ен ні ў жывы́ свет не саглашаецца.* Пярэдзелка.

ЖЫ'ЗНЯ, ЖЫ'ЖНЯ *м.* Жыццё. *Жы́зня вельмі сложна слажаецца.* Дзяражычы. *Каму месяц, каму ясны, а мне ночанька да цемна, каму жы́зня да распрэкрасная, а мне горачка да беда* (З нар. песні). Вулкан. *Послі стала у нас жыжня плахая.* Бывалькі.

ЖЫ'ЛЛЕ *н.* Жылы. *Ена, кажуць, жы́лле парвала.* Ручаёўка. *Ена ж з самага децтва короў доіць, аж жы́лле на руках павупіралась.* Чаплін.

ЖЫР *м.* Тлушч. *Я табе банку жы́ру прадам.* Ручаёўка.

ЖЫРАВА'ЦЬ *незак.* Харчавацца, сытна есці. *Як бы ена голодная була, дак шукала б сабе есці, а то ена тут жырýе, дак де ж ена пойде ат нас.* Дзяражычы.

ЖЫ'РНЫ *прым.* Тлусты. *Такі жы́рны кабанчык стаў.* Бывалькі.

ЖЫ'СТКА *ж.* Жыццё. *Цепер людям жы́стка добрая, а калісь столькі дроў папанасілі да на гару і пад гару.* Рудня Марымонава. *Етакая була жы́стка, а цепер і старые паміраць не хочуць.* Казярогі.

ЖЫСЦЬ *ж.* Жыццё. *Гаравала усю жысць, да усё і скромнічаю, да усё і баюся.* Дзяражычы.

ЖЫ'ТКА *ж.* Жыццё. *Оцетаво такая мая жы́тка.* Первамайск.

ЖЫТЛО' *н.* Месца пражывання. *На жытлó туда па-*

*ехала.* Бывалькі. *Жытло́ маё вечнае у Деражычах.* Дзяражычы.

ЖЫ'ТНЫ *прым.* Житні. *Жы́тны хлеб пекуць з жы́тнай мукі.* Бывалькі.

ЖЫЎЦО'ВЫ *прым.* Крынічны. *Жыўцо́вая вада вельмі смачная.* Дзяражычы.

ЖЫ'ЦЦЕ *н.* Жыццё. *Нехай табе господь дае жы́цця і здоройя, шчо ты такая хорошая жэншчына!* Дзяражычы.

ЖЫ'ЧКА *ж.* Істужка. *Жы́чку купіла косы заплетаць.* Вулкан. *Я свайму деду і на смерць надела жылетку і касінку шоўкавую на шыю, а жы́чкаю падперазала — два метры жы́чкі. Жы́чка — такая красная була, як лента, таўстая, цёмненькая.* Дзяражычы. *Памянш.* жы́чачка. *Ета жы́чачка красіва табе у косы буде.* Дзяражычы.

ЖЭ'РАБ *м.* Жарабец. *На жэ́раба баялася садзіцца.* Бывалькі. *Жэ́раб у колхозі есцека.* Чаплін.

ЖЭ'РВАБ *м.* Жарабец. *Хорошага жэ́рваба купілі у колхоз.* Ручаёўка. *На жэ́рваба страшка садіцца.* Чаплін.

ЖЭ'РТКА *ж.* Жэрдка. *На нарад хаділі, жэ́ртак вупісала.* Бывалькі.

ЖЭ'ЎЖЫК *м.* Жэўжык, малады хлопец. *Жэ́ўжыкаў паставілі, дак нічога не буде, нема вопутнага чалавека.* Дзяражычы.

# З

З *прыназ.* З. *Ён не з ціху умер.* Бывалькі. *З дзіцяці умерла: діця упладіла да умерла.* Дзяражычы. *Юрка погіб з вайны.* Первамайск. *Здорова з вас була.* Ручаёўка.

ЗА *прыназ.* 1. Пра. *Ён давай за Вольку расказуваць: Вольга хаділа замуж да пражыла п'яць годоў. Я знаю за ета.* Дзяражычы. 2. За. *Бралі за сына, нехай хату перапісуюць.* Бывалькі. *Небожа былі узялі за діця, дак пошоў ат іх у армію і ажаніўся у Кіеві.* Дзяражычы. *— Дак ета за кого́ ён буде? — За інжынера.* Ручаёўка. *За агранома не хоча ехаць вучыцца.* Чаплін. 3. Пры. *За нашай памеццю було.* Дзяражычы. *За маёй памеццю лесы тут булі несхадімые.* Вулкан.

ЗАБАЛА'КАЦЬ *зак.* Загаварыць, забалабоніць. *А етые хлопцы забала́каюць Мішку.* Ручаёўка.

ЗАБАЛЕ'ЦЬ *зак.* Захварэць. *Да ужэ забале́ла дней чатыры, дак я хаджу як солоная. Ці ена була бальная, ці*

*ена улекнулась — забале́ла біркулёзам.* Дзяражычы. *Матка забалела рукамі.* Казярогі. *Сын забалеў лёгкімі.* Первамайск.

ЗА'БАРСКА *ж.* Абора ў лапцях. *Заўтра трэба ехаць па сена, і за́барскі ў пасталах парваліся саўсім.* Ручаёўка.

ЗАБАРЫ'ЦЦА *зак.* Затрымацца. *Зашла да у сестры забары́лася.* Бывалькі.

ЗАБІРА'НКА *ж.* Мужчынская кашуля са складкамі каля каўняра. *Добрую забіра́нку пашыеш з етага саціну.* Пярэдзелка.

ЗАБО'ЙКА *ж.* Шчыкетнік. *Забо́йка — забор з шалёўкі.* Карпаўка. *Паставіла забо́йку з досак.* Казярогі.

ЗАБО'ЙНЫ *прым.* Праліўны. *Заліва — забо́йны такі дошч, шо можа усе пазаліваць.* Дзяражычы.

ЗАБО'РЫ *мн.* Зборкі. *Тут ззаду забо́ры у казачыні.* Карпаўка. *Калісь сорочкі з забо́рамі, з чэхлікамі да вуштупаеш — ого як.* Дзяражычы.

ЗАБО'ТА *ж.* Клопат. *Без забо́т жыву, тады ж забо́ты ішлі, а цепер нема забот. Екіе у мене забо́ты, шо я не раблю нічога.* Дзяражычы.

ЗАБО'ЦІЦЦА *незак.* Клапаціцца. *Я не забо́чуся ні аб чым.* Бывалькі. *Мы са́мі аб сабе забо́цімся, а як не пазабо́цімся, ніхто і не падумае, як мы тут.* Ручаёўка.

ЗАБРА'ТЫ *дзеепрым.* Забраны. *Бітон слівак забра́ты.* Крупейкі.

ЗАБЫ'ЦЦА *зак.* Забыць, запамятаваць. *Міне зімой сон сасніўся, і я не забы́лася етага сну.* Дзяражычы.

ЗА'ВАД *м.* 1. Парода. *У етага чалавека хорошы за́вад короў.* Ручаёўка. 2. *перан.* Звычка. *Дурны за́вад той, шчоб деўка з хлопцам кожан вечар гуляла да самага рання.* Дзяражычы.

ЗАВАЖЖА'ЦЬ *зак.* Заляйцаць. *Заважжа́й·его да едь, куды хочаш.* Ручаёўка.

ЗАВАЛАКЦІ'СЯ *зак. груб.* Зайсці куды-небудзь. *Трэба мне сюды завалакціся. Думала, думала, куды іці, да к вам і завалакла́ся.* Дзяражычы.

ЗАВАЛА'ЦЬ *зак.* Прымусіць. *Ён мене не можа завала́ць кароў пасці, раз я не хочу.* Бывалькі. *Завала́лі целятам касіць.* Дзяражычы. *Хто тых девак гомельскіх завала́ў насіць снапы?* Бывалькі.

ЗАВАЛАЧЫ'ЦЦА *зак. груб.* Зайсці. *Я ішла додому да завалачы́лася у магазін.* Дзяражычы.

ЗАВАЛАЧЫ́ЦЬ *зак.* Забаранаваць. *Трэба завалачы́ць картоплі.* Дзяражычы. *Мо калі б далі екога каня жыта завалачы́ць.* Казярогі.

ЗАВА́РАМ *прысл.* Запар, штодзённа. *Як прывезуць, дак зава́рам ставяць кіно цэлую неделю: і учорі, і пазаўчорі.* Дзяражычы. *Каб я неделю пераганяла молоко зава́рам — і сегодні, і заўтрі — дваццаць рублей зарабіла б.* Дзяражычы.

ЗА́ВАРАТ *м.*, ЗА́ВАРАЦЬ *ж.* 1. Градкі бульбы ў канцы нівы, размешчаныя ўпоперак. *За́варат атсеела.* Пярэдзелка. *На за́варату картоплі параслі дабрэнные.* Ручаёўка. 2. Паварот (ракі). *Куміна вада — абратнае цечэнне, за́варат вады.* Бывалькі. *Е багата местоў, нас гнала, гнала па цечэнню, а тады раз — завернула і назад — за́варат.* Дзяражычы.

ЗА́ВЕРТА *ж.* Вяроўка, якой прымацоўваюцца аглоблі да капыла саней. *Прынесла за́верты, куды пакласці?* Первамайск.

ЗАВЕ́СІЦЦА *зак.* Павесіцца. *Нехай ён там заве́сіцца, а я не пайду к ему: я за ім не бачыла прасветласці, усе сама рабіла: і касіла, і арала, і сеела.* Дзяражычы. *Скамейка абернулась, дак ена заве́сілась.* Пярэдзелка.

ЗАВЕ́СІЦЬ *зак.* Павесіць. *Невіннае діця хацела заве́сіць.* Пярэдзелка.

ЗАВЕ́СЦІ[1] *зак.* 1. Завесці. *Дачку трэба заве́сці к бабі.* Вулкан. 2. Зацягнуць. *Завело́ нашу лотку у куміну воду.* Дзяражычы.

ЗАВЕСЦІ[2] *зак.* 1. Пачаць. *Ты заведі говорку сама.* Бывалькі. 2. Запісаць. *Заведі ты мне дні.* Казярогі.

ЗАВЕ́СЦІСЯ *зак.* 1. Завесціся. *У войну стольки вошай завело́ся у людей.* Карпаўка. *Нічога не буде, як заведе́цца хвороба.* Ручаёўка. 2. З'явіцца, зрабіцца наяўным. *Ты две казе держала, дак у цебе шчо завело́ся?* Дзяражычы. *У вас можа за тые годы завело́ся, дак вам і легчай.* Карпаўка. 3. Заспрачацца. *З таею русачкаю завёўся б, дак ена вупіла б стаканы два дай запела.* Дзяражычы. 4. Пачаць бойку, спрэчку. *Мо де біцца завеліся хлопцы.* Бывалькі. *Завеліся сварыцца з маткаю.* Дзяражычы. *За сценою жылі мужык з жонкай, да як заведу́цца біцца і сварыцца.* Пярэдзелка.

ЗАВІ́ДАВАЦЬ *незак.* Зайздросціць. *Ена заві́дуе таварышкам, шчо у іх і невесткі, і зеці.* Дзяражычы. *Усе*

*завідуюць на Адарку*. Пярэдзелка. *Вы хорошые людi, на вас толькі і завідуюць*. Ручаёўка.

ЗАВІ'ДЗЕЦЬ *зак.* Убачыць. *Да завідела девачка з высокага церама* (З нар. песні). Ручаёўка.

ЗАВІ'ДНАСЦЬ *ж.* Зайздрасць. *Ета завіднасць твая такая, шчо на усіх скасыруеш*. Ручаёўка.

ЗА'ВІДНЕЙ *прысл.* Завідна. *Я пагледаю угору на поплёт, да рэдка, штоб можна было перaлезць: і зáвідней нагледіла рэдкі поплёт*. Крупейкі.

ЗАВІ'ДНЫ *прым.* Зайздросны. *Ну і завідны ж ты чалавек. Усё табе мала, усё хацеў бы болей*. Ручаёўка. △ *Завіднае вóка*. Той, у каго благое, урочлівае вока. *Калі хто пагледіць, дак можа усе пагана стаці. Тады у нас кажуць: завіднае вóка*. Ручаёўка.

ЗА'ВІТКІ *мн.* Залом. *Дядна зáвіткі завівала у жыці, у чом ешчэ, да як прыде урэм'я, дак на берозах завівала, а наша баба умела развіваць етые зáвіткі*. Ручаёўка. *Зáвіткі на полі, каб хто умер, хто на кого злы, каб валы ці коровы подохлі*. Чаплін.

ЗАВІ'ЦА *ж.* Залоўка. *Сцепаніда, твая завіца була на городі?* Дзяражычы. *У мае завіцы дачка абрадiлася*. Ручаёўка. *Я вышла замуж, а у его сестра старшая — завіца мне*. Чаплін.

ЗА'ВІЦЬ *ж.* Залом. *Ены зáвіці бегаюць завіваць на русалнай неделі. Зáвіці людi не беруць: баба загадае перэвітак наламаць з сухога лазу і паліць зáвіць*. Дзяражычы.

ЗАВО'ЧНЕ *прысл.* Завочна. *Ена завочне і вучыцца*. Дзяражычы. *Цепер добра маладым: грошы палучаюць і завóчне вучацца*. Первамайск.

ЗАВЫ'КНУЦЬ *зак.* Прывыкнуць. *Мы завы́клі так делаць*. Ручаёўка.

ЗАВЯДЗЁНКА *ж.* Звычай. *У нас заведёнка такая: пад вокнамі пець*. Карпаўка.

ЗАВЯЗА'ЦЬ *зак.* Завязаць. *Як бы начай наметкі купіць да завезаць мне на голаву*. Дзяражычы. *Завежы́ тужэй хвартух*. Ручаёўка. △ *Як завязáць*. Адбіць ахвоту да ўсяго. *Усего на свецi е—і піць, і есць, а мне як завезáла*. Дзяражычы.

ЗАВЯРНА'ЦЬ[1] *незак.* 1. Заварочваць. *Завернáй коней, паедам у луг*. Казярогі. 2. Адварочваць. *Ты чого пыку завернáеш, харашэ не говорыш?* Дзяражычы.

ЗАВЯРНА'ЦЬ[2] *незак.* Захінаць. *Тое месіва заверн́аюць у халсцінне і выносяць на двор.* Ручаёўка.

ЗА'ГАВЕНА *мн.* Загавіны. *За́гавена будуць у неделю.* Дзяражычы.

ЗАГА'РНЫ *прым.* Працавіты, старанны. *Ена зага́рная такая: і робіць, і робіць.* Дзяражычы.

ЗАДАВІ'ЦЬ *зак.* 1. Задавіць. *Задавіла свіння гусенятка.* Бывалькі. 2. Закалоць (свінню на мяса). *Дома кортошка да парася тое зада́віш, дак ужэ луччай.* Дзяражычы.

ЗАДЗЕ'ЛАЦЦА *зак.* Зрабіцца, стаць. *Хацеў халасціком заде́лацца.* Дзяражычы.

ЗАДЗЕ'ЛАЦЬ *зак.* 1. Забіць, закласці. *Заде́лаць трэба тую дірку.* Дзяражычы. 2. Зрабіць. *Можна садраць кордоплі да блінчыка іспекці, можна вуцадіць да кіселіку заде́лаць.* Дзяражычы.

ЗАДЗЯРЖА'ЦЦА *зак.* Затрымацца. *Мне можна було задержа́цца дні на тры.* Карпаўка.// *перан.* Пражыць. *Томачка, хоць бы я на мінутачку да задержа́лась ешчэ на етым свеці.* Дзяражычы.

ЗАДЛІ'ЦЦА *зак.* Затрымацца. *Калі задля́цца у хаці, дак дае гудкі ей.* Дзяражычы.

ЗАДУ'ХА, ЗАДЫ'ХА *ж.* Дыхавіца, задышка. *Заду́ха душыць, на двор зімой не магу выйці.* Чаплін.

ЗАДУ'ЦЬ *зак.* 1. Задзьмуць. *Толькі шчас вецер як задуе, аж вокна зазвінелі.* Дзяражычы. 2. Замесці (снегам). *Нас скора заду́е тут, не вылезем з хаты, будуць аткапаваць.* Дзяражычы.

ЗАДУШЫ'ЦЬ *зак. перан.* Забіць. *Дак ена аднаго кабана задушы́ла да здала, а двое ужэ сабе.* Дзяражычы.

ЗАЕ'ДНЫ *прым.* Прагны. *Ета заедны вучыцель, Суржык, багата хоча.* Ручаёўка.

ЗАЁМ: *у заём.* Пра запас. *Да от так як пойде малако у заём, дак і масла е, а хочыш, дак пастаў гладышачку на творог.* Бывалькі. *Як пойде у заём, у запас, кожан день ганяім молоко на сепаратары: і сметана е, і сліўкі, а пустое молочко вуллем кабанчыку.* Дзяражычы.

ЗАЖУ'РАНЫ *прым.* Засмучаны. *Прышоў з роботы зажу́раны.* Дзяражычы.

ЗАЖЫ'ЦЦА *зак.* 1. Зажыцца, доўга пражыць. *Зажы́ўся я ужэ на етым свеці: скора девяноста годоў буде.* Казярогі. 2. Разжыцца. *Ён так зажы́ўся поўнаделам.* Дзяражычы.

ЗАЗА'ЎТРА *прысл.* 1. За заўтрашні дзень. *Оцета зазáўтра сегодні усе паделала.* Дзяражычы. 2. За адзін дзень. *Уцета зазáўтра такіе ногі пасталі: із ног у рукі пошло, ногі пааттухалі.* Дзяражычы.

ЗАЗІМАВА'ЦЬ *зак.* 1. Зазімаваць. *Сколькі кортопляў зазімавáла той год у полі.* Казярогі. 2. Замерзнуць. *Буў хвест, пашлі на хвест, а ён напіўся да пошоў у лес і зазімавáў — на трэйці день нашлі.* Ручаёўка.

ЗАІКА'ЦЬ *незак.* Заікацца. *Заікáе его так, шчо не дагаваруе слоў.* Дзяражычы.

ЗАЙГРА'ЦЬ *зак.* 1. Зайграць. *Як зайгрáе увечары гармоня, дак век не уседіш дома.* Чаплін. *Старая, а люблю хто у гармоню заігрáе.* Дзяражычы. 2. *перан.* Моцна зажадаць. *От зайгрáў — бляхі, бляхі, шчэ ж хата не цечэ.* Ручаёўка.

ЗАЙМАЦЬ *незак.* 1. Займаць. *Прыехаў новы вучыцель, дак увесь дом займáе.* Бывалькі. 2. Закранаць. *Оцета ле мене жыве мая небога, а я ее ніколі не займáю, такая ена урэдная.* Вулкан. *Я не буду, мая маці, нікога займаці* (З нар. песні). Карпаўка. 3. Заганяць (пра хатніх жывёл). *Шчэ толькі з кійком пошоў займаць худобу.* Карпаўка. *У чэ́раду пастухі не займáюць.* Дзяражычы.

ЗАЙСЦІ' *зак.* 1. Зайсці. *Еслі б ты ка мне зайшлá, дак твой Володя рада буў.* Дзяражычы. *Зайді за мной, як пойдеш у ягады.* Чаплін. 2. Выйсці замуж. *Як зайшлá, дак век гарую.* Дзяражычы. *Ена калісь як зайшлá к ім, дак пражыла, як молое діця.* Первамайск.

ЗАКАМЯЛІ'СТЫ *прым.* З тоўстым камлём (пра дрэва). *Закамелістае дерава нестройнае і унізу дак тоўстае.* Ручаёўка.

ЗАКАНУ'РАК *м.* Глухое месца. *Ета толькі у нас тут, у етым заканýрку, плетні плетуць, а далей нема плетнёў.* Дзяражычы.

ЗАКАРАГО'ДЗІЦЦА *зак.* 1. *перан.* Затрымацца. *Ета бач як закарагóдіўся з етымі бабамі, скора сцемнее.* Дзяражычы. 2. Засаромецца. *Ну, чо ты закарагóділась, праходь, тут усе свае.* Чаплін.

ЗАКА'Т *м.* Зашчытак. *Е хаты з закатáм і без закáту.* Пярэдзелка.

ЗАКА'ТНА, ЗАКО'ТНА *прысл.* Шмат. *Ён тожа тут закáтна піў. Цепер і бабы наўчыліс піць; Прося так закóтна п'е.* Дзяражычы.

ЗА'КАЎБЕНЬ *м.* Затока, завадзь. *За́каўбень — зарожак вады.* Бывалькі. *За́каўбень — завадь, вугал ракі, ціхае месца.* Дзяражычы.

ЗАКІДА'ЦЬ *незак.* 1. Закідаць. *Нашто табе было закіда́ць ее цацку.* Бывалькі. 2. Падкідаць дровы ў печ.— *Мо шчэ закіда́ць будеш? — Мо і нада закіда́ць, не знаю, а мо і так зварыцца.* Дзяражычы. 3. Апрацоўваць (пра грады). *Буду грады закідаць.* Дзяражычы.

ЗАКЛА'ДКА *ж.* Складка. *У саку па две закла́дкі делаюць.* Дзяражычы. *Пашый, шоб тут закла́дак болей було.* Крупейкі. *Памянш.* закла́дачка. *Па две закла́дачкі дала на соро́чку.* Ручаёўка.

ЗАКЛА'СЦІ [1] *зак.* 1. Закласці. *Закла́ла увесь хлеў пукамі.* Дзяражычы. 2. Пакласці. *А грошы у казачыну закла́ла дай забылася.* Дзяражычы.

ЗАКЛА'СЦІ [2] *зак.* Захварэць (вачамі). *А господь бог асадіў мене ачамі: закла́ла міне вочачкі, восемдесят годоў бачыла, а цепер такое гора.* Дзяражычы.

ЗАКО'Н *м.* 1. Закон. *Цепер зоко́н добры, старым толькі жыць, гасударства плоціць пенсаю.* Бывалькі. *Етая земля зоко́нная, ена па зоко́ну мая.* Ручаёўка. 2. Звычай. *Старая спраўляе деды ле зоко́ну.* Дзяражычы.

ЗАКО'ТА *ж.* Закот. *Зако́тай закрываецца крыша, лабок з шалёўкі забіваецца.* Рудня Марымонава. 2. Прыстасаванне для лоўлі рыбы. *Ле возера стаўлеюць плот— ета зако́та.* Чаплін. *Закачуюць зако́ту да рыбу ловяць: з дошчачак тоненькіх зобо́р рэденькі ставяць, де рыба; вада працекае, а рыба астаецца.* Пярэдзелка.

ЗА'КРУТКА *ж.* Закрутка. *За́крутка — дераўяная круцёлка.* Пярэдзелка. *За́крутка бачыш екая: екая доля, такая і лёля.* Дзяражычы. *Шкахвік закрый закруткай.* Первамайск. *Памянш.* за́крутачка. *За́крутачку зделай: дверы адчыняюцца.* Дзяражычы.

ЗАКРУЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Закруціць. *Закруці крант, вада уся выцечэ.* Бывалькі. *Шалік вазьмі, шыю закру́ціш.* Дзяражычы. 2. Забіць (пра птушак). *Петуха і куру закру́цяць.* Дзяражычы. *Як сталі банбіць, дак і тые гусі прапалі, і я не закруціла іх. Летась у мене вуткі булі, дак я шэсць закруціла да у падушку.* Ручаёўка.

ЗАКУБРАВА'ЦЬ *зак.* 1. Закрыць. *Ён тры пасылкі закубрава́ў да паслаў за лета.* Дзяражычы. 2. Закруціць. *Я прынесла чарніц поўнае ведро, перацерла, ужэ і закубрава́ла.* Ручаёўка.

ЗАКУСІ'ЦЬ *зак.* Закусіць. *Выпіць е, а закусіць нечым.* Первамайск. 2. Пакарміць, дагледзець. *Ена ж прытулюе племяннікаў, што б було каму даць закусіць у старасці.* Дзяражычы.

ЗАКУ'ТАНЫ *дзеепрым.* Зачынены, замураваны. *Уроді я у цюрме заку́таная.* Дзяражычы.

ЗАКУТА'ЦЦА *незак.* Запірацца, зачыняцца. *Трэба закута́цца на нач: зладеі ходяць.* Первамайск.

ЗАКУ'ТАЦЬ *зак.* 1. Зачыніць. *Заку́тай хлеў, шоб не вышлі козы.* Дзяражычы. *Заку́таю діця у хаці дай пайду у магазін.* Казярогі. *Немцы людей заку́талі у хлеў да чуць не папалілі.* Крупейкі. 2. *перан.* Прымусіць. *Як прыеде Маша, дак заку́таем на костагыз хадіць.* Дзяражычы. *Тавар закуталі пасці, дак не здолее.* Ручаёўка. 3. Захутаць. *Заку́тай добра діця, бо іде на мороз.* Бывалькі.

ЗАКУТА'ЦЬ *незак.* 1. Заганяць. *Чо ён кабылу буде закута́ць, нехай ходіць на городі.* Дзяражычы. *Я свінню не закута́ў.* Первамайск. 2. Загараджваць. *Мне трэба буде закута́ць зобо́р.* Карпаўка. *Сегодні закута́ў свой двор.* Первамайск.

ЗАКУ'ТКА *ж.* Закрутка. *Не адчыніў хаты: туга була заку́тка.* Дзяражычы.

ЗА'КУЦЬ *ж.* Закутак. *Цепер у за́куці куры седяць, а мае по волі ходяць.* Ручаёўка.

ЗАЛА'ІЦЦА *зак.* Пакрыцца суцэльным слоем металу (пра напільнік або брусок). *Зала́іўся брусок, хоць вукідай.* Пярэдзелка.

ЗАЛАТЫ': *залатыя рукі.* Пра ўмелыя рукі. *А ена ж такая хібетная — залаты́е рукі.* Дзяражычы. *Залато́е кары́та.* Што-небудзь нерэальнае, немагчымае. *Знаіця, золото́е карыта да рыбку, так і нашаму нашынцу.* Дзяражычы. *Залато́е крыле́чка.* Назва вазона. *Залато́е крылечка — цветочкі такіе, ены цвітуць кіціцаю, розавым цветам.* Ручаёўка.

ЗА'ЛЕЖ *ж.* Аблога. *Пад лесам у той бок у нас зале́жы. За́леж — калі некалькі годоў не пахана.* Ручаёўка.

ЗАЛЁТЫ: *у залёты бегаць.* Заляцацца. *У залёты бегае Турык.* Ручаёўка.

ЗАЛІ'ВА *ж.* Лівень. *Заліва — забойны такі дошч, шо можа усе пазаліваць.* Дзяражычы. *У нас леташні год прайшла два разы заліва, дак кордоплі цегалі з землі.* Первамайск.

ЗАЛІ'ЦЬ *незак.* Жлукціць. *Чого ты да етага часу*

*белле не золіш?* Дзяражычы. *Сегодні плацце будам заліць.* Казярогі.

ЗАЛЮ'М *м.* Пераход стога з цыліндрычнай формы ў конусную. *Ён такі работнік, што і да вечара стог не пойде у залóм.* Пярэдзелка.

ЗАЛЯ'ГА *ж.* Занесеная снегам дарога. *Машыны як пазалегаюць у ету залягу, дак чыркаюць, чыркаюць і рады не дадуць.* Ручаёўка.

ЗАЛЯЦЕ'ЦЬ *зак.* 1. Заляцець. *Сінічка залецéла прама у хату.* Вулкан. 2. Забегчы. *Галя пашла з Серожам у школу, а ты чого залецéла сюды?* Дзяражычы.

ЗАМАНІ' *мн.* Прымакі. *Замані — што заманіла жонка. Хто ж замані?— Наш Іван замані.* Ручаёўка.

ЗАМАНУ'ЦЦА *зак.* Захацецца. *А есць — хоць бы заманулася.* Дзяражычы. *Заманулася ему еечак вараных.* Чаплін.

ЗАМАТА'ЦЬ *зак.* 1. Заматаць. *Заматáй веройку луччай, а то упадеш.* Вулкан. 2. *перан.* Прысвоіць, украсці. *Заматáла восем тысяч, дак нехай ужэ прызнаецца.* Ручаёўка.

ЗАМА'ШКА *ж.* Звычка. *Дурная замáшка у его: робіць і робіць.* Дзяражычы.

ЗАМА'ШКІ *мн.* Каноплі без семені. *Два імі е: плоскані і замашкі.* Ручаёўка.

ЗАМЁТ *м.* Агароджа з бярвення. *Зам'ёт— плот з берменняў.* Карпаўка. *Гумно у зам'ётах.* Первамайск.

ЗА'МІ'СЬ *прысл.* 1. Знарок. *Ты з мужам устрэцісся, дак зáмісь скажы ему: я ж расціла дачку, а цепер ты памагай.* Бывалькі. *Чужые прэседацелі булі, дак несе баба і кордоплі, і проса — зáмісь абойде і не бачыць.* Бывалькі. 2. Быццам. *Замісь бацька е, а той бацька не гледіць на ее.* Дзяражычы. 3. Для віду. *Хоць і выйде, дак не хóча рабіць: пойде замісь, абы не ругалі.* Бывалькі.

ЗАМЛЕ'ЦЬ *зак.* Самлець. *Нехаця замлéеш, калі на рэмень глянеш.* Чаплін.

ЗАМО'К *м.* 1. Замок. *Нават замкá не було раней, не було чым хату закрыць.* Ручаёўка. 2. Зрошчванне бярвенняў. *Зрошчваць паленні у замóк нада умець ешчэ.* Ручаёўка. *Не кожны сумее зделаць замóк, у нас Петро Маркаў добра стачае паленні.* Чаплін.

ЗАМУРЧА'ЦЬ *незак.* Падаць голас. *Я кабанчыку не давала пісн*у*ць: як толькі замурчы́ць, дак я его і пагадую, і паллю водой.* Дзяражычы.

ЗАМУРЫ'ЦЦА *зак.* Зажмурыцца. *Ты замурысь, а я захаваюсь.* Первамайск.

ЗАМЯЧА'ЦЬ *зак.* Прыкмячаць. *З етых слоў ты адно-две замечаéш.* Дзяражычы.

ЗАНЕЖЫВЕ'ЦЬ *зак.* Самлець. *Баганін узяў дай упаў там, занежывéў.* Бывалькі. *Надя занежывéла да падае.* Дзяражычы.

ЗАНІМА'ЦЦА *незак.* Займацца. *Я ж не занімáлась з мужчынамі, што б мене хто невечыў.* Дзяражычы. *Я жыву без хазяіна і пусцечай не занімáюсь.* Вулкан.

ЗАНЯЗДО'ЛЕЦЬ *зак.* Занядужыць, захварэць. *Занездóлею, дак дадуць таблетку, а у больніцы не була.* Дзяражычы. *Мархва занездóлела: серца як пачне роботаць, дак як не вускачыць, апірацыю, кажуць, делалі.* Бывалькі.

ЗАНЯКВО'ЛІЦЦА *зак.* Занядужыць. *Пане Іван, Вулляна там шчось занеквóлілась.* Дзяражычы.

ЗАНЯ'ЦЦА [1] *зак.* Зацяжарыць. *Була занелáсь, да було склізка, дак ена аступілась да упала — і скінула.* Дзяражычы. *Ена ж у молочнай занелáсь ад хлопца цесноўськага.* Карпаўка.

ЗАНЯ'ЦЦА [2] *зак.* Заняцца работай. *Мая унука занелáсь тожа сціркаю.* Ручаёўка.

ЗАНЯ'ЦЦА [3] *зак.* Світаць, развідняцца. *На зару занелóся, будам уставаць да збірацца у дорогу.* Казярогі.

ЗА'ПАЛАЧ *ж.* Ніткі для вышывання. *Ена кохты, платкі накупляе і зáпалачы прынесе. Красная зáпалач, чорная зáпалач — ніткі у мотóчках* Дзяражычы. *Зáпалач трэба купіць, сорóчку вышыць.* Ручаёўка.

ЗАПА'ЛКІ *мн.* Запалкі. *Дайце запалак.* Ручаёўка. *Запáлкі пакладі на брыж.* Чаплін.

ЗАПАНЕ'ЦЬ *зак.* Зазнацца. *Ты ужэ запанéла і знацца з намі не хочыш.* Чаплін.

ЗА'ПАНКА *ж.* Фартух. *Зáпанка — хвартух без брыжоў.* Чаплін. *Сегодні я забылася завезаць зáпанку, дак хоць бы спадніцу не загадіць.* Карпаўка.

ЗАПАРВА'ЦЬ *зак.* Захапіць. *Де я той хваробы бегом запарвáла?* Дзяражычы.

ЗА'ПЕЧАК *м.* Запечак. *Матка екіх гарэлікаў кіне нам у зáпечак.* Первамайск. *Такіе булі сем'і велікіе, што і лаўкі, і зáпечкі булі занятые — усюды спалі.* Дзяражычы.

ЗАПЕ'ЧЧА *н.* Запечак. *Пакладі там на запе́чча.* Ручаёўка.

ЗАПІ'НКА *ж.* Фартух. *Запінкай запніся, а то плацце вымажаш.* Крупейкі.

ЗАПІ'Р *м.* Франтон. *Ат вуліцы у крышы запір.* Чаплін.

ЗАПІРУВА'ННЕ *н.* Франтон. *Запірува́нне соло́май делаюць, шэлёўкай — запір.* Рудня Марымонава.

ЗАПНУ'ЦЬ *зак.* 1. Завесіць. *Матку его негадяшчую хавала ат немцаў: запнў на печы, ена і седіць, а сама усе рабіла.* Дзяражычы. *Сабаку пчолы кусаюць, дак Лена казала, можа б чым-небудь запну́лі.* Карпаўка. 2. Заслаць (пра пасцель). *Я то от латкаю запну́ла пасцель дай пашла.* Дзяражычы.

ЗАПО'МНІЦЬ[1] *зак.* Запомніць. *Я добра запо́мніла ее, хоць ена толькі раз була у нас.* Дзяражычы.

ЗАПО'МНІЦЬ[2] *зак.* Забыць. *З Лоева у Магілёў ці куды, ай не атправілі ее, я запо́мніла, куды атправілі.* Дзяражычы. *Запо́мніў я, як ее завуць — ні то Дуня, ні то Маня — не уздумаю.* Первамайск.

ЗАПО'НКА *ж.* Фартух. *Запо́нка — палатняны хвартух. У мене вось ён, пагледі.* Бывалькі. *На буден день запо́нкі шылі з свойго́ палатна.* Пярэдзелка.

ЗАПРАПА'СЦІЦЬ *зак.* Заваліць, загадзіць. *Да запрапа́сцяць двор скра́жкамі, ваніць, мне не можна дыхаць, а му не носім іх.* Дзяражычы.

ЗАПРАСА'ЛІЦЦА *зак.* Закінуцца, згубіцца. *Запраса́ліліся мае чобаты.* Пярэдзелка.

ЗАПРАСО'РЫЦЬ *зак.* Запраторыць. *І куды ты запрасо́рыла мой плото́к, шчо я шукаю, шукаю і не найду ніяк.* Ручаёўка. *Его ж кудысь далечэнна запрасо́рылі, мо на край свету.* Дзяражычы.

ЗАПРАТА'ЦЬ *зак.* Згубіць. *Хіця б ваш ножык не запрата́лі.* Ручаёўка.

ЗАПУ'КАВАЦЬ *незак.* Утойваць, скрываць. *Невестка кажа: мне не трэба твае грошы і ты. Ета не запу́кує, а у вочы кажа.* Дзяражычы.

ЗАПУСЦІ'ЦЬ[1] *зак.* Запусціць. *Тады дрошчы трэба буде запусціць.* Дзяражычы. *Паехалі рыбакі на возера лавіць рыбу невадам, запусцілі невад пад лёд і вуцеглі деда наверх.* Первамайск.

ЗАПУСЦІ'ЦЬ[2] *зак.* Закінуць, занядбаць. *За восень так запусціла сваю хату, што не улезці ад гразі.* Карпаўка.

ЗАПХНУ'ЦЦА *зак.* Затхнуцца. *А ну іх, тых дроў, запхнуцца трэба там — ні ветру німа, нічога.* Ручаёўка.

ЗАПЯ'ТЫ *прым.* Завешаны. *У первай хаці зап'ята казачынай.* Дзяражычы.

ЗАПЯ'ЦЦА *зак.* Завесіцца. *Я зап'ялася, легла да лежу на етай сваей койкі.* Ручаёўка.

ЗАРА'ЗНЫ *прым.* Пракляты. *Заразная вайна ізбіла, ніяк на ногі не станеш.* Первамайск. *Такіе заразные деці сталі: ніяк не паважаюць старых.* Чаплін.

ЗАРА'НЕ *прысл.* Загадзя. *Заране стаю ле машыны, баюся прапусціць.* Бывалькі. *Ена ему мо заране сказала.* Казярогі.

ЗАРЗА'ЦЬ *зак.* Заржаць. *Ой, зарзалі сівые коні у полі* (З нар. песні). Пярэдзелка.

ЗАРО'ЖАК *м.* Завадзь. *Зарожак — завадь, вугал ракі, ціхае места.* Дзяражычы. *У зарожку рыба добра ловіцца.* Пярэдзелка.

ЗАРЫ'СКАЦЦА *зак.* Заляпацца, запэцкацца. *Зарыскалась па вушы, ці на дварэ так гразна?* Дзяражычы.

ЗА'САВЕНЬ *м.* Засаўка. *Засавень — унутраны замок.* Пярэдзелка. *Засавень — у вушняку дірка і ключ, абы екі — дераўяны ці жалезны.* Чаплін. *Засаўнем замукаюцца дверы.* Первамайск.

ЗА'САЎНЯ *ж.* Засаўка. *Засаўня атмыкаецца дераўяным ці жалезным ключом.* Пярэдзелка.

ЗАСВАРЫ'ЦЦА *зак.* Пасварыцца. *Мы засварыліс з матушкай.* Ручаёўка. *Калі засварыцца, усе деліцца і деліцца.* Чаплін.

ЗАСВА'ТАЦЦА *зак.* Дамовіцца аб шлюбе. *Як засватаюцца, то ужэ маладыі маладая.* Дзяражычы.

ЗАСКА'ЛІЦЦА *зак.* Прыжмурыцца. *Чого ты заскаліўся, вочы баляць ці што?* Ручаёўка.

ЗАСМА'КА *ж.* Заправа. *Наварылі цэлы чыгун крышанёў, а тады туды засмаку паўкідалі.* Ручаёўка.

ЗАСМА'ЧЫЦЬ *зак.* Заскварыць. *Наварыла кашы, засмачыла — не есць.* Дзяражычы. *Чым вы хочаце засмачыць?* Первамайск.

ЗАСНУ'ЦЬ *зак.* 1. Заснуць. *Я нача засну і прачынаюся ураз.* Дзяражычы. 2. Усыпіць. *Рэжце, толькі засніце мене, шоб я не чула нічога.* Дзяражычы.

ЗА'СПА *ж.* Прызба. *Сеў на заспу і седіць.* Пярэдзелка.

ЗАСТА'ВІЦЬ *зак.* 1. Прымусіць. *Ён там пошоў шу-*

*мецьдаот і нашумеў, дак ены его і заста́вілі ажэніцца.* Дзяражычы. 2. Уставіць у печ. *Стой, мамка, я чыгун заста́ўлю.* Ручаёўка.

ЗАСТАНАВІ'ЦЬ *зак.* Спыніць. *Вашы девачкі мене застанавілі да усе путаюцца і путаюцца.* Ручаёўка.

ЗАСТАРО'Н *м.* Застаронак. *У серэдіні ток, абапал снапы — застаро́н.* Бывалькі. *У гумне па краям застаро́ны.* Пярэдзелка. *Палена пакладуць і говораць: «Ета застаро́н, а ета ток».* Чаплін.

ЗА'СТАЎ *м.* Запруда. *Калі вада цечэ і трэба запрудіць, кажуць: паставіць за́стаў.* Крупейкі.

ЗАСТО'ЯЦЬ *зак.* Затрымацца. *У вочараді я вам засто́яць не дам, я скора прыду і зменю вас.* Дзяражычы.

ЗАСТРЭ'ШНІК *м.* 1. Застрэшак. *Застрэ́шнікі робяцца кругом хлева, а потым делаецца крыша.* Ручаёўка. 2. Сноп саломы для застрэшка. *Застрэ́шнік — снапок на базары два рублі.* Ручаёўка.

ЗА'СТУП *м.* Рыдлёўка, лапата. *Вазьмі за́ступ да выкапай маленькую канаўку, шчоб вада сцекала.* Бывалькі. *Агарод араем, а грады за́ступам уручную можна ускапаць.* Ручаёўка. *Памянш.* за́ступец. *Вазьмі за́ступец і выкапай яму.* Дзяражычы. *За́ступец еты мо новы возьмеш?* Казярогі.

ЗАСТЫ'ЧЫЦЬ *зак.* Даручыць. *Трэба Любку децям застычыць, штоб гуляла, а тады іці проса везаць.* Пярэдзелка.

ЗАСЦІГА'ЦЬ *незак.* Заставаць, захопліваць. *У тухліках толькі, а зіма засціга́е.* Первамайск.

ЗАСЦЯКЛІ'ЦЬ *зак.* Зашкліць. *Сама слабая, дак суседа прашу ці акно засцекліць, ці што другое зделаць.* Чаплін.

ЗАСЯВА'ННЕ *н.* Падарунак, які даюць на шчадруху ці на Новы год. *Я ёй засева́ння не давала.* Дзяражычы.

ЗАСЯВА'ЦЬ *незак.* 1. Засяваць. *У етам гаду трэба засева́ць усю тую землю ле болота.* Карпаўка. 2. Сыпаць зерне ў хаце ў час віншавання з Новым годам. *На Новы год засеваюць.* Ручаёўка.

ЗАТАРАБА'НІЦЬ *зак.* 1. Забарабаніць. *У двінаццаць часоў ночы як затараба́нілі у акно!* Первамайск. 2. *перан.* Зацягнуць. *Куды ты той кош затараба́ніла?* Ручаёўка.

ЗАТА'ХАЦЦА, ЗАТО'ХАЦЦА *зак.* Закалаціцца. *Пой-*

*дам сена грэбці, дак затахаецца серца. Так затохаецца серца, дак хоць ты памірай.* Дзяражычы.

ЗА'ТКАЛА *н.* 1. Заткала. *За́ткала вуцегні да затапі грубу.* Крупейкі. 2. *перан.* Неахайная асоба. *От за́ткала, такая гразная ходіць.* Дзяражычы.

ЗАТРО'ГАЦЬ *зак.* Пакрыўдзіць. *За нішто затро́гала ее — і пашла руганіна.* Дзяражычы.

ЗАТУЛІ'ЦЬ *зак.* Прытуліць. *Падушкаю вокно затулі́ла, штоб не пекла на казака сонца* (З нар. песні). Карпаўка.

ЗАТЫ'ЛАК *м.* Патыліца. *А што ж заехаў бы па ты́лку пару раз, штоб не лез болей.* Пярэдзелка.

ЗАЎГО'ДНА: *ко́лькі заўго́дна.* Колькі хочаш. *Того сенакосу накосім ко́лькі заўго́дна.* Дзяражычы.

ЗАЎЛЁТКА *ж.* Любімы (любімая). *Ні аццa, ні заўлёткі німа.* Ручаёўка. *У Сталінградзі на вакзалі я стучала па дратам: атпусціце год трыццаты, бо заўлётка мая там* (Частушка). Чаплін.

ЗАЎЛЯКО'ВАНЫ *дзеепрым.* Заваблены. *Мілы Коля, мілы Коля, вашы коні на ўсі ногі кованы, мілы Коля, вашы глазы мною заўлеко́ваны* (Частушка). Вулкан.

ЗАЎСЯГДА' *прысл.* Заўсёды. *Рабі так, шчоб було заўсегда́ добра.* Дзяражычы. *У новуй хаці заўсегда́ луччай.* Ручаёўка.

ЗА'ЎТРІ *прысл.* Заўтра. *Ты сегодні начальнік, а за́ўтрі падаўчарнік.* Дзяражычы.

ЗА'ЎТРЫКАЦЬ *незак.* Снедаць. *Сейчас будам за́ўтрыкаць.* Дзяражычы.

ЗАХАВА'ЦЦА *зак.* Схавацца. *У шылег захава́ецца і ешчэ цветы вушые.* Дзяражычы.

ЗАХАВА'ЦЬ *зак.* 1. Захаваць. *Ена захава́ла грошы у казачыну.* Дзяражычы. 2. Пахаваць. *Его захава́лі, прышлі з могілак, а і ена памерла.* Дзяражычы. *Его добра захава́лі да добрую дамавіну зделалі.* Казярогі.

ЗАХАДЖА'ЛЫ: *захаджа́лы двор.* Заезны двор. *Варкіна хата — захаджа́лы двор.* Бывалькі.

ЗАХАДЗІ'ЦЦА *зак.* Усхадзіцца. *Захаділася такая завіру́ха, што света не відна.* Бывалькі. *Хлопцы паехалі, а тут захаділась хвіле́піца етая, нічога не відна.* Дзяражычы.

ЗАХАЛО'ДАЦЬ *зак.* Прастудзіць. *Десь захоло́дала ногі, ена ж усе лецечка кволіцца.* Дзяражычы.

ЗАХАЛО'ДУЦЦА *зак.* 1. Пахаладаць (аб надвор'і).

*Захолодулась рана.* Бывалькі. *К вечару, мабыць, захолодуецца.* Дзяражычы. 2. Ахаладзіцца. *То на дварэ начавала, дак захолодулась молоко.* Вулкан. 3. Прастудзіцца. *Девачка умерла: захолодулась на дварэ, дай умерла.* Дзяражычы. *Діця хаділа ужэ, захолодулась і трэйці год не паднімаецца.* Казярогі.

ЗАХАРАНІ'ЦЬ *зак.* Пахаваць. *Шчэ ж я памру, дак можа і іх прыдецца папрасіць захараніць мене.* Дзяражычы. *Да на весёленькім месці захаранілі мого чалавека да пасаділі там вішні, слівы.* Вулкан.

ЗАХВАЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Захапіць. *Трохі далі сенакосу, а трохі де захвацілі на пусташы.* Дзяражычы. 2. Застаць. *Я старыннага не захваціў.* Ручаёўка.

ЗАХВО'СЛІВЫ *прым.* З тонкай верхавінай (пра дрэва). *Захвосліваe дрэва, дак у его унізу можа быць і п'яць метраў, а уверху і метры не буде.* Ручаёўка.

ЗАХІРЛІ'ЦЬ *зак.* Захірэць. *Вунь ты, як пуленя, захірліў.* Бывалькі.

ЗАХІХЛЯ'ЦЬ *незак.* Расплятаць (пра касу). *Захіхляла мене дядіна, чорная гадіна, ена коскі падпаліла, слезы не ўраніла* (З нар. песні). Ручаёўка.

ЗАХЛУПІ'ЦЦА *зак.* Захлынуцца, захліпнуцца. *Ох, покуль пакладеш етае сена на гору, дак захлупіцца можна ад пылу.* Ручаёўка. *Хіба у екую пельку увапхалі да захлупіўся у ваде.* Ручаёўка.

ЗАХЛУПЛЯ'ЦЬ *незак.* Задыхацца. *Мая баба була, девяноста годоў, пражыла, ні розочак не хварэла. А цяпер мне захлупляе і сказаць нельга нічога.* Ручаёўка.

ЗАХО'ЖУВАЦЬ *незак.* Заходзіць. *Даўно ужэ я к табе захожуваў.* Чаплін.

ЗАХРАСА'ЦЬ *незак.* Перасыхаць у роце ад смагі. *Пойде на поле да смагаю рот і захрасае.* Дзяражычы. *Улетку грэбуць сена, дак рот аж захрасае.* Бывалькі.

ЗАХРАСНУ'ЦЦА *зак.* Задыхнуцца, задушыцца. *Я ацуралась усего і пашла, думаю: захрэсніцесь вы са ўсім сваім.* Дзяражычы.

ЗАЦЯРПЕ'ЦЦА *зак.* Нацярпецца. *Вы не еўшы зацерпелісь.* Чаплін.

ЗАЧАПІ'ЦЬ *зак.* 1. Зачапіць. *Атыйді убок, а то паленам зачэпіць.* Вулкан. 2. Прывязаць. *Нашто ты ведро зачэпіла, ено ж цяжкае, пацегай цэлы день перад перадам да па ягадіні накідай у его.* Казярогі. 3. *перан.* Закра-

ну́ць (у гутарцы). *Як ён мене не зачэ́піць, я ніколі з ім не загавару.* Чаплін.

ЗАЧАРЭ'ПАЦЬ *зак.* Зачэрпаць. *Мужчына як зачарэ́пае, дак багата скражак вуцягне.* Дзяражычы.

ЗАЧУ'ЦЬ *зак.* Пачуць. *Ой, зарзалі сівые коні й у полі, зачу́ла деўка Маруська ў коморы* (З нар. песні). Ручаёўка.

ЗАЧЫНА'ЦЦА *незак.* Пачынаць бойку. *Тые, што добра п'юць, самі зачына́юцца.* Бывалькі.

ЗАШАПАВА'ЛІЦЬ *зак.* Палезці па садах, агародах. *Нема каму гледець за децьмі, дак ены і зашапава́лілі: моркву абарвуць і у яблакі залезуць.* Пярэдзелка.

ЗАША'РХНУЦЬ *зак.* Пакрыцца тонкім лёдам. *Вада зашархла толькі, камень кінь, дак праб'еш.* Пярэдзелка.

ЗАШКА'БІЦЬ *зак.* Зачапіць, закрануць словам. *Як его зашка́біш, дак ён можа задавіць і рука не здрыгнецца.* Чаплін.

ЗА'ШМАРГАМ *прысл.* Моцным вузлом. *Я бачу, шо ена нача за́шмаргам заўязана.* Дзяражычы.

ЗАШЧАДРАВА'ЦЬ *зак.* Атрымаць пры шчадраванні. *Му берОм сала, м'яса, муку, каўбасы, тады наймаем скрыпача. Шчо зашчадру́ем, тады день гуляем.* Ручаёўка.

ЗАШЧАПНУ'ЦЦА *зак.* 1. Зачыніць дзверы на зашчапку. *Мам, зашчапніся, я пайду на херму.* Бывалькі. 2. Зашпіліцца. *Коля, зашчапніся, не іді так на вуліцу, бач, екі вецер.* Дзяражычы.

ЗАШЧЫ'ТА *ж.* Засцярога. *Трэба абвезаць яблані, добрая буде зашчы́та ад зайцоў.* Ручаёўка.

ЗАШЧЭ'НТЛІВЫ *прым.* Сарамлівы. *Зашчэ́нтлівая такая, ніхто к ёй не подойде.* Дзяражычы.

ЗАЮ'РАВАЦЬ *незак.* Заскварваць. *Солонікі скора буду заю́раваць.* Бывалькі.

ЗА'ЯЦ: *зайца скака́ць.* Пра цеснату. *У сенцах етых нача за́йца скака́ць — цесната.* Пярэдзелка.

ЗБА'БІЦЦА *зак.* Заседзецца ў дзеўках. *Запісалась, дак ужэ не зба́білась: з девак вышла.* Дзяражычы.

ЗБЕРАЖЫ'ЦЬ *зак.* Зберагчы. *Ты зберажы́ла здороўе? От і я не зберажы́ла.* Дзяражычы.

ЗБІРА'НЫ *дзеепрым.* Сабраны. *Там люді збіра́ные, то і настаўніцы цяжка вучыць децей.* Карпаўка.

ЗБІ'ЦЦА *зак.* Узбіцца, выйсці. *Пабраділа, папагала-*

*сіла, не знаю, у екі бок кінуцца: тады на дорожачку збілася.* Бывалькі.

ЗБІЦЬ *зак.* 1. Пабіць. *Хто цебе збіў так?* Чаплін. 2. Знішчыць. *Тутака було селішча, клены булі, ліпы бальшушчые, а цепер нема: вайна усе збіла, зглуміла.* Дзяражычы. 3. Зрабіць. *Трэба печ на зіму збіць.* Бывалькі. *Му булі збілі печку за тые грошы.* Дзяражычы. 4. *перан.* Звесці з правільнага шляху. *Ета міне Александрайна збіла: я ж пажылая, а без рукавоў пашыла кохтачку.* Дзяражычы. △ *Збіць з панталыку.* Збянтэжыць, заблытаць. *Хіба ж той Віця не саб'е ее с панталыку?* Казярогі.

ЗБЛА'ГАСЦІЦЬ *зак.* 1. Выманіць. *Зблáгасціла да і не аддаеш, захавала ее цацку.* Дзяражычы. 2. Выбавіць, адправіць супроць волі. *Ее у ночы схваціла, а ена ее зблáгасціла у больніцу.* Дзяражычы.

ЗБОК *прысл.* Збоку. *Толькі сцежачкі тудою збок і тудою збок.* Ручаёўка.

ЗБРЫСЦІ' *зак.* Сысці з двара. *Ета ж кошка не дае ему ссаць, дак уцекае, десь збрыдé кошка.* Дзяражычы.

ЗБЫТ: *не даць збыту.* Не даць спакою. *Табе б збыту не дала, калі б ена не була у хаці.* Первамайск.

ЗБЫЦЬ *зак.* Спáсці (пра ваду). *Мо вада збýде, тады будуць прынімаць.* Дзяражычы.

ЗВА'ЛАШЫЦЬ *зак.* Скастрыраваць. *Звáлашыць ане сцысціць барана ане казла — усероўна.* Дзяражычы. *Я свойго козліка звáлашыла — буду рэзаць.* Крупейкі.

ЗВАЦЬ *незак.* Клікаць. *Малаціць, дак его не заві, абу толькі му восець наставілі.* Дзяражычы. *Усеадно па ім'ю завýць.* Казярогі. *Раней звáлі весну.* Бывалькі.

ЗВЕРАДЗІ'ЦЦА, ЗВЯРЭ'ДЗІЦЦА *зак.* Натрудзіцца. *Дак ужэ не звераділася тая унучка, што памыла мост. Не зверэ́дісся ты, як прыжоніш корову.* Ручаёўка.

ЗВЕ'СІЦЬ *зак.* Зважыць. *Звéсілі: шэсць пудоў було у той капе.* Первамайск.

ЗВЕ'СЦЕ *н.* Вестка. *Пагіб без звéсця.* Первамайск.

ЗВО'ДЧЫНА *ж.* Зводныя дзеці. *У мене немашака чужой сем'і — звóдчыны, а свая сем'я.* Дзяражычы.

ЗВО'ЛІЦЬ *зак.* Пажадаць. *Не звóліла поўдесятка еечак даць.* Ручаёўка.

ЗВО'ШЧЫК *м.* Рамізнік. *Звóшчык, паедам скарэй.* Мохаў.

ЗВУЧЫ'ЦЬ *зак.* Навучыць. *А екі ж наш езык, ніхто нас не звýчыць па-другому.* Ручаёўка.

ЗВЯЗЬ *ж.* Сувязь. *З кім Міхалка імея звязь?* Чаплін.

ЗВЯРНУ'ЦЬ *зак.* Зваліць. *Ён сам сказаў, а звернýў на мене.* Дзяражычы.

ЗГА'ДА: *удвох рада, а трэццяя не згада.* Пра лішняга. *Девачка, нема чого табе з імі хадіць: удвох рада, а трэццяя не згада.* Дзяражычы.

ЗГА'МТАЦЬ *зак.* Скласці. *Згáмтай акуратненька мешок і прынесі мне.* Пярэдзелка.

ЗГА'РАНЫ *дзеепрым.* Згарэлы. *Послі вайны у мене усё згáрана.* Ручаёўка.

ЗГАША'ЦЬ *незак.* Змяншацца, разыходзіцца. *Ужэ хмара падымаецца, ена не згашáе тая хмара: кожды день іде дошч.* Ручаёўка.

ЗГЕ'ДЗАЦЦА *зак.* Занатурыцца і ўцячы з пашы. *Корова згéдзалась, дак стаіць ў хлеве.* Бывалькі. *Коровы згéдзаліcь і пабеглі.* Дзяражычы.

ЗГІ'БНУЦЬ *зак.* Загінуць, памерці. *Двое пажыло две неделі да згíбла.* Ручаёўка.

ЗГНЮ'ПІЦЦА *зак.* Сагнуцца, згорбіцца. *Чого ты згнюпіўся? Десяць градусаў не холад.* Пярэдзелка.

ЗГНЯЦА'ЙКУ *прысл.* Моцна, з усёй сілы. *Згнецáйку ударылі хлопца, увесь лоб рассеклі.* Пярэдзелка.

ЗГУЛЯ'ЦЬ *зак.* Прагуляць. *Пара способная: і ён такі, шчо не згуляе.* Дзяражычы.

ЗДАВА'ЦЬ *незак.* 1. Здаваць. *Здавáлі сегодні хімію.* Бывалькі. 2. Выдаваць. *Ена век людей здавáла.* Дзяражычы.

ЗДАРАВЕ'ННЫ *прым.* Вялікі. *А ён здаравéнны, перарос свае гады.* Бывалькі. *Здаравéнные нецелі ходяць, як коровы.* Дзяражычы. *Здаравéнная такая цётка — мо два метры буде.* Казярогі.

ЗДАРО'ЎКАЦЦА *незак.* Вітацца. *Здорóўкацца — па-прасцейшаму ета.* Ручаёўка. *Ена ж у вочы не пагледае і не здорóўкаецца, а о так прасунецца, як сом.* Чаплін.

ЗДАРО'ЎШЫ *прым.* Здаравейшы. *Хто здорóўшы булі, дак прывозіў дроў.* Дзяражычы.

ЗДЗЕ'ЛАЦЬ *зак.* Зрабіць. *Я ніколі децей не улічувала, што ены шкоду здéлалі.* Дзяражычы. *Каму ні плаціць, дак плаціць, а луччай свайму, дак ён па-чэснасці здéлае.* Казярогі.

ЗДЗЕ'РЖЫЦЬ *зак.* 1. Вытрымаць. *Буде настаўніцаю,*

*абы галава ее здёржыла.* Дзяражычы. 2. Стрымаць. *Як на сваём езыку не здёржыш, дак на чужом век не.* Первамайск.

ЗДЗЕ'ЧНЫ *прым.* Тутэйшы. *Ён наш здёчны, а робóтаў у Нікалаеві.* Дзяражычы. *Здёчные вучні на канікулы пойдуць.* Чаплін.

ЗДЗЯРЖА'ЦЬ *незак.* Вытрымліваць. *Не здержáе земля іх, ужэ не держыць земля.* Дзяражычы.

ЗДО'ЛЕЦЬ *незак.* 1. Змагчы, здолець. *Я тады, як здóлела, дак не мучылась, а цепер мучусь.* Дзяражычы. *Я не здóлею хадіць, а другіе бегаюць шчэ.* Бывалькі. *Да ена ж годіць, а не здóлее, дак начорта і жыць.* Дзяражычы. *На бо вукруці, сама ужэ не здóлею: сілы нема.* Ручаёўка. 2. Хварэць. *Діця не здóлее: заклала у горлі.* Бывалькі. *Навум дома: не здóлее ён, печань баліць.* Казярогі. *Ці ета ты чого не здолееш? Што у цебе баліць?* Чаплін.

ЗДРОК *м.* Сляпень. *А діцятачка, ета цебе, наверна, на лузі здракі паабгрызувалі.* Казярогі.

ЗДРЫКАВА'ЦЬ *незак.* Гізаваць. *Еслі коровы здрыкуюць, іх не удержыш.* Чаплін.

ЗЕЛЯЗЕ'НЬ *м.* Качар. *Усе му кажам зелезéнь.* Ручаёўка.

ЗЕЛЯЗЁНКА *ж.* Селязёнка. *Ена говорыць, што у ее племенніка зелезёнка баліць.* Ручаёўка.

ЗЕЛЯЗЯ'НКА *ж.* 1. Металічны прадмет. *Адкуль ты прыпер етую зелезянку?* Бывалькі. *Зелезянкай адбіў Паўлік пальцы наназе.* Казярогі. 2. *перан.* Здаравяка. *Матка шчэ жыве, зелезянка такая. Зелезянка — як зелеза крэпкая, багата жыве.* Дзяражычы.

ЗЕЛЯНКІ' *мн.* Недаспелыя галінкі лёну. *Зеленкі пракідаюцца у лену.* Казярогі.

ЗЕ'РНЕ *н.* Зярняты сланечніку. *Насыпала поўны рукаўчык семечак і зéрня.* Дзяражычы.

ЗЕ'РНЕТЫ *мн.* Зярняты гарбузоў. *Летась булі зéрнеты, дак ена натаўчэ да есць, а сёлета пагарэлі гарбузы дажа на пні.* Дзяражычы. *Насадзім гарбузоў, зéрнеты пасушым, дак Есіп паесць.* Казярогі.

ЗЕЎ *м.* Прамежак паміж ніткамі асновы, праз які праходзіць чаўнок. *Спачатку зеў буў малаваты, а послі паладілась усе.* Дзяражычы. *Чогось паганые зёвы у аснове, плутаецца што-та.* Пярэдзелка.

ЗЖАЛЯЗНЕ'ЦЬ *зак.* Адубець. *Зжалезнéў увесь і седіць на морозі, іді у хату.* Пярэдзелка.

ЗІМАВЫ′ *прым.* Перазімаваўшы (пра жывёлу). *Две свінні добрые булі, зімавы́е. Купяць у восень да перазімуюць — то зімавы́е.* Ручаёўка.

ЗІ′МНІК *м.* Зімнік. *Сцепан паехаў на галы серэдняй дорогай, а мой хазяін зімнікам.* Пярэдзелка.

ЗІПЕ′ЦЬ *незак.* Быць расчыненым (пра дзверы, вароты, вокны). *Закрый дверы, чого ены зіпе́юць.* Дзяражычы. △ *Чуць зіпе́ць.* Ледзь трымацца. *Чуць зіпіць твой плот.* Пярэдзелка.

ЗІ′ХАЦЬ *незак.* Уздыхаць. *Діця стане засыпаць, а тады зіхае, зіхае так, аж страшка́.* Пярэдзелка.

ЗІХЦЕ′ЦЬ *незак.* Зіхацець. *Як пачынаюць зоркі зіхце́ць, я ужэ сплю.* Чаплін.

ЗЛА′ГАДНА *прысл.* Згодна, дружна. *От сем'я такая абаюдная, дружная, жывуць зла́гадна.* Дзяражычы. *У цебе і у мене деда нема, давай не сварыцца, давай зла́гадна жыць.* Ручаёўка.

ЗЛАДЗЕ′ЙКА [1] *ж.* Зладзейка. *Калі матка зладе́йка, дак і деці краденае несуць у ха́ту.* Бывалькі. *Сільные пчолы — зладе́йкі лецяць к слабым і крадуць мёд.* Ручаёўка.

ЗЛАДЗЕ′ЙКА [2] *ж.* Месца ў печы, куды кладуць запалкі. *Ямка — жарніца — месца, куды заграбаюць жар: уверсі робяць полачку для спічак, маленькага горшчыка, табакі — зладе́йка называецца.* Первамайск. *Полож спічкі на зладе́йку.* Пярэдзелка.

ЗЛАЎРЭДНЫ *прым.* Шкодны. *Злаўрэ́дны чалавек з кождым пасварыцца.* Дзяражычы.

ЗЛЕЗЦІ *зак.* Узлезці. *Я злез на машыну.* Вулкан. *Тацяна злёзла на стог, а два мужыкі падавалі.* Ручаёўка.

ЗЛІВА′ЦЦА *незак.* 1. Зліванца. *Усё молоко злі́вaецца у адін бітон.* Дзяражычы. 2. *перан.* Сыходзіцца ў адказах. *Нача я вулічу быстрэй, мая задача вуйде, а его не. Оцета у нас не злі́ваецца, я падказую.* Бывалькі.

ЗЛУПІ′ЦЬ *зак.* Абчысціць. *Трэба злупіць кортоплі.* Бывалькі.

ЗЛЫ′ГАЦЦА *незак.* Звязацца, спецца. *Которые паяўляліся додому, а чаплінські злы́гайся з чужымі і робо́тае цепер десь.* Чаплін.

ЗЛЫГА′ЦЬ *зак.* Аб'яднаць. *Соткі адбіралі, хацелі нас з маткаю у кучу злыга́ць — 40 сотак давалі, а 40 забіралі.* Чаплін.

ЗЛЮБІ'ЦЬ *зак.* Палюбіць, пакахаць. *Трактарыст Машу злюбіў, дак кожды вечар падвазіў у Деражні.* Дзяражычы. *Галубца убіў, галубку злюбіў* (З нар. песні). Чаплін.

ЗЛЮ'ЧЫ *прым.* Вельмі злы. *Іч, екая злю́чая: не давай, дак не буде лезці.* Бывалькі.

ЗЛЯК *м.* Спалох. *Ена захварэла, калі сабака укусіў, бо зляк у ее палучыўся. Чого мне цепер спеваць, калі дачка мая ат зляка памерла, другу ціх забраў.* Ручаёўка.

ЗЛЯКА'НЫ *прым.* Спалоханы. *Дедок кажа: то ено злека́нае, ено саспіць і ачунее.* Дзяражычы.

ЗЛЯКА'ЦЦА *зак.* Спалохацца. *Чого ты так етай коровы злека́лася? Ена ж не колецца.* Карпаўка.

ЗЛЯКА'ЦЬ *зак.* Спалохаць. *Бабы кажуць: хіця ідí да злека́й ее.* Первамайск. *Злека́лі хлопчыка, недарэчлівы саўсім стаў.* Ручаёўка.

ЗЛЯПІ'ЦЬ *зак.* Скласці, зрабіць. *Чарано злепіў, дак ены хочуць, што б і комін.* Первамайск. *Злепілі грубку.* Ручаёўка.

ЗМА'ЛЕЧКУ *прысл.* Змалку. *У есля́х дак ено зма́лечку і панімае.* Дзяражычы. *Я ж зма́лечку, помню, усе рабіла.* Пярэдзелка.

ЗМУЗКНУ'ЦЦА *зак.* Выслізнуць. *Шабля змузкну́лась з рукі.* Первамайск.

ЗМЫ'КАНЫ *дзеепрым.* Пачасаны і скручаны ў скрутак. *Коноплі абадраные, ены змы́каные, зделаные на кудельку, адеюцца на прасніцу.* Дзяражычы.

ЗМЫЦЬ *зак.* Вымыць. *Я думала увечары змыць пол, аж вы палёгку зрабілі, цепер гуляць к бабам пойдам.* Дзяражычы.

ЗМЯЯ' *ж.* 1. Змяя. *На гадюк і вужоў кажуць зме́і.* Бывалькі. 2. *перан.* Жанчына-вядзьмарка. *Жэншчына — то змея́. Калісь бувала на Корчомцы бабу булі, зме́і, шо молоко адбіраюць — ото шо гром убіў.* Ручаёўка.

ЗНАЙДЗЁН *м.* Пазашлюбнае дзіця. *У Каці расце знайдён, хорошы хлопчык.* Дзяражычы. *Знайдёны ці байструкі — ета усеадно.* Крупейкі.

ЗНАКО'МІЦЦА *незак.* Знаёміцца. *Ву са ўсімі нашымі знако́міцесь.* Первамайск. *Прышоў к нам чалавек, знако́міцца.* Ручаёўка.

ЗНАКО'МКА *ж.* Знаёмая. *Вера-знако́мка, як прыде, дак просіць у мене хлеба ане так чого́.* Дзяражычы.

ЗНАРО'ЧАЙ *прысл.* Знарок, наўмысна. *Я знорóчай кажу: я пайду, я баюсь бацькі.* Ручаёўка. *То паганая маладіца, ёй не трэба памагаць: ена людей тапіла — ета ж знорóчай ей деўкі не памагаюць.* Дзяражычы.

ЗНАСІ'ЛЬНІЧАЦЬ *зак.* Згвалціць. *Віця паехаў з ею у лес, а брат за ею да кажа: ты нашто ее знасільнічаў? Знасільнічаў, дак беры! Не па волі запісаўся, а па неволі.* Дзяражычы.

ЗНАХО'РСТВА *н.* Знахарства. *Калісь бралі след у людей, етае знахóрства е на Украіні.* Бывалькі. *У Грохаў небогі перадала свае знахóрства, а ена папісала.* Ручаёўка.

ЗНА'ЦЦА *незак.* Знацца, мець сувязі. *От е которые з естым гадам знáліся. У нас чалавечык з ваўкамі знáўся.* Ручаёўка. *Жонку кідае да з ею знáецца.* Дзяражычы. *Ена тады ічэ з ім не знáлася.* Ручаёўка.

ЗНЕЛЮБІ'ЦЬ *зак.* Неўзлюбіць. *Ета мачыха зделала сваю паччарку ваўкалакам, знелюбіла ее, значыцца.* Крупейкі.

ЗНІМА'ЦЬ *незак.* Запісваць. *Што ні говорыш, ена усе зніmae, на учот бере.* Дзяражычы.

ЗНІСТО'ЖЫЦЬ *зак.* Знішчыць. *Оцета мене зністожылі.* Бывалькі.

ЗНУШЧА'ЦЬ *незак.* Збіваць, прымушаць. *Свекар да свекруха, сколькі жывом, знушчáюць мойгó чалавека.* Чаплін.

ЗНУШЧА'ЦЦА *зак.* Здзеквацца. *Ён з ее не знушчáецца, харашэ жывуць.* Дзяражычы.

ЗНЯВЕ'ЧЫЦЬ *зак.* Пахудзець, змяніць выгляд. *Ён хорошы буў, хорошы, як ат нас паехаў, а ета там себе зневéчыў: ён не перэкаіцца сваю жызнь, шо ажэніўся.* Дзяражычы.

ЗОК *м.* 1. Баязлівец. *Ета Сeрожа, як зок, усего баіцца.* Дзяражычы. 2. Лепшы з лепшых. *Дваццаць п'яць лет роботала на первы зок. На первы зок— перадавічка.* Дзяражычы.

ЗО'РКА *прысл.* Ясна, выразна. *Усе бачу, да не зóрка, а так, як туман у вачах.* Дзяражычы.

ЗРА'ЗУ *прысл.* 1. Адразу. *Я летась не насіла малака, зрáзу атрубам зделала.* Дзяражычы. 2. Спярша, спачатку. *З веку правеку тут жылі, сем хат було зрáзу.* Рудня Марымонава.

ЗРА'ДЗІЦЬ *зак.* Здрадзіць. *Я на ракету не сабіраюсь, бо ракета можа зрáдіць.* Дзяражычы.

ЗРЫ'ВАЧАК *м.* Абрывачак. *Зры́вачак — парваные вожкі ці екі-небудь канец. Падай мне той зры́вачак, увезаць чамайдан.* Рудня Марымонава.

ЗУБ *м.* 1. Зуб (у чалавека). *Як худенька без зубóў жыць.* Карпаўка. 2. Зуб (у граблях). *Гледі зуб не паламай, тут многа палак, грабі ціхенька.* Ручаёўка. 3. Зубок, долька часнаку. *Я ніколі не шчытала, колькі у голоўцы зубóў.* Ручаёўка. 4. Ніжняя частка карункаў. *Пакажы мне, як ты звезала еты зуб.* Пярэдзелка. *З зубáмі каронкі везала.* Ручаёўка. *Памянш.* зубóчак. *Два зубóчкі е, пенькі, па бокох пенькі е.* Дзяражычы. *У катлеты зубóчак патаўчы і то, як пахне.* Казярогі.

ЗУ'БКАМІ *прысл.* З хітрынкай, каварна. *Ён прыдумае на цебе шчо-небудь, да зýбкамі, да смешкамі, а ты плачаш.* Дзяражычы.

ЗУ'БЛЕНКА *ж.* Вялікая цыгарка. *Вечна ты з зýбленкай хóдіш, ужэ задыміў усе у хаце.* Ручаёўка.

ЗЫК *м.* Нагавор. *Людечкі у зык пусцяць.* Бывалькі. *У зык, у крык людi возьмуць.* Дзяражычы.

ЗЮЗЮ'КАЦЦА *незак.* Размаўляць. *Чого вы там шушукаіцесь, зюзю́каіцесь?* Чаплін.

ЗЯВА'ЦЬ *незак.* Рыкаць. *Ото мая корова, рожкі прамые, іде ужэ, зевáе—далека чутна, аж на том канцэ чутна.* Ручаёўка. *Наша корова іде да зевáе.* Чаплін.

ЗЯЗЮ'ЛЬНІК *м.* Лясная расліна. *Зезю́льнік расце у лесі, зелёненькіе цветочкі маленькіе.* Ручаёўка.

ЗЯЛЕ'ЗА *н.* Жалеза. *Шчэ ж Віціна усе тутака: і плацце, і сорочкі, і штаны, і чобаты, і зелёза поўны двор.* Дзяражычы. *Крышу соломай крыюць або зелёзам, або шыхверам.* Ручаёўка.

ЗЯЛЕ'ЗНЫ *прым.* Жалезны. *Сашнікі зелёзные.* Пярэдзелка. *Будуць зелёзные па небу летаць, казалі калісь.* Ручаёўка.

ЗЯЛЁНЫ *прым.* 1. Зялёны. *Зелёных нітак прывезла з Лоева, буду ушываць скацерку.* Бывалькі. 2. Недаспелы. *У нас ле ігрушы зелёнае жыта ешчэ.* Ручаёўка. 3. *перан.* Слабы, кволы. *Ены, деці, зелёные такіе, дак не ганяюцца за едой: день не едяць і не попрóсяць.* Дзяражычы.

ЗЯРКА'ТЫ *прым.* Балбатлівы. *Сам ён спакойны, а жонка зеркáтая.* Дзяражычы.

ЗЯ'ТНІ *прым.* Зяцеў. *Тут була зятняя хата, ён выехаў у Сібір з калгаса.* Первамайск.

ЗЯЦЬКО' *н.* Зяцёк. *Мой зяцько перайшоў у хату.* Ручаёўка.

# І

І'ВЕРАНЬ *м.* Камяк зямлі. *Наварочаў трактар івернямі землю.* Пярэдзелка.

ІГІ' *часц.* Ага, але.—*Пойдам заўтра у ягады?— Ігі, пойдам.* Міхалёўка.

ІГЛІ'ЦА *ж.* 1. Ігліца, хваінкі. *Добра гарыць ігліца.* Казярогі. 2. Брусок, якім замацоўваюцца дошкі ў дзвярах. *Доскі у дверах ігліца крэпіць.* Чаплін.

ІГРА'ЦЬ [1] *незак.* 1. Іграць. *Колю купілі баян, вучыцца іграць.* Пярэдзелка. *Нашы музыканты усе іграюць добра.* Чаплін. 2. *перан.* Дурэць, сваволіць. *Сядь, не іграй, не лазь.* Казярогі. *Не іграйце, хлопцы, хваціць, адін аднаму рукі павыкручуеце.* Ручаёўка. *То ж парасёнак так іграе у сенцах.* Чаплін. // Буяніць, бушаваць. *Як калі іграе мой дед, дак думаю: нехай памрэ, а як не іграе, дак шкода.* Ручаёўка. 3. Хадзіць узад і ўперад. *Сцепан туды-сюды іграе: пройде к рацэ, а тады назад.* Дзяражычы. // Ездзіць. *Чым жа ей заняцца? Толькі і делае, што іграе з Рэчыцы да додому.* Ручаёўка. 4. Быць рухавым, пільным, уважлівым. *Два класы настаўніца вучыць, дак ты во так даўжна іграць па класу.* Дзяражычы. 5. Зіхацець, блішчэць. *Эх, а вочачкі у кошкі іграюць, як на камені.* Дзяражычы.

ІГРА'ЦЬ [2] *незак.* Знаходзіцца ў стане цечкі (пра жывёлу). *Свіння іграе.* Дзяражычы. *Як которая свіння, дак і два годы не іграе.* Чаплін. *Учорі бык за маею коровою прышоў, ена усе лета іграла.* Ручаёўка.

ІДЗЕ'СЬ *прысл.* Дзесьці. *Сыны ідесь парасходілісь да й п'юць.* Ручаёўка.

ІЗ *прыназ.* 1. З. *Ніткі із воўны.* Дзяражычы. *Дед із бабаю сварацца.* Ручаёўка. 2. Ад. *Первы хазяін умер із ціху.* Дзяражычы.

ІЗБІРА'ЦЬ *незак.* Збіраць. *Ізбіраем сыр, вуганшчыну даем.* Ручаёўка.

ІЗБІ'ЦЬ *зак.* 1. Зрабіць, пабудаваць. *Дед Есіп землянку ізбіў — так, як хатачка: і мост, і стол, і печачка.*

Дзяражычы. 2. Скласці. *У мене буў чалавек з-за ракі, добрую печачку ізбіў мне.* Бывалькі.

ІЗБЛІ'ЗА *прысл.* Зблізку, блізка. *Ізбліза відна добра у ачкох.* Дзяражычы.

ІЗВАРЫ'ЦЬ *зак.* Зварыць. *Ізвáру кусочкамі шчучку.* Бывалькі.

ІЗВЕКУ *прысл.* Спрадвеку, адвеку. *У мене ж шчасце: і свекруха добрая, і невестка, і хазяін — міне шчасце ізвéку.* Дзяражычы. *Я ізвéку роботаю.* Рудня Марымонава.

ІЗВЕ'СЦІ *зак.* Збіць з правільнага жыццёвага шляху. *Ізвёў з пуцця, а сам вуехаў да ажаніўся.* Ручаёўка.

ІЗВЯСЦІ'ЦЬ *зак.* Паведаміць. *Ка мне Проня прышла і ізвесціла: у сітку еечкі.* Ручаёўка.

ІЗГАНЯ'ЦЬ *незак.* Зганяць. *Нападаюць вороны на кіехі, пойдам ізганяці.* Ручаёўка.

ІЗГО'РКНУЦЦА *зак.* Прагоркнуць. *Мука да сіх пор буде лежаць, дак ена ізгóркнецца.* Дзяражычы.

ІЗДАВА'ЦЬ *незак.* Здаваць. *Іздаём молоко, а калі сабе трэба пастанавіць гладышачкі две.* Казярогі.

ІЗДА'ЦЬ *зак.* 1. Здаць. *Мне ключ іздáсць ат клуба.* Крупейкі. 2. Закончыць. *Пецька сеголета десяць класаў іздáў.* Ручаёўка.

ІЗДО'Р *м.* Здор. *Іздóр той беленечкі, чысценечачкі.* Дзяражычы.

ІЗДУ'МАЦЬ *зак.* Успомніць. *Забулася, а тады іздýмала: Парашчына скацерка.* Чаплін. *Яйца лежаць, матка іздýмае — іде па яйца, жарыць яешню.* Вулкан. *От молодому добра, як іздýмаеш.* Пярэдзелка.

ІЗДУМЛЯ'ЦЬ *незак.* Успамінаць. *Старые забабоны іздумляюць, дак не нада пісаць.* Ручаёўка.

ІЗДУРАВА'ЦЬ *зак.* Зрабіць глупства, дапусціць памылку. *Ён іздураваў: кінуў роботаць на трактары.* Казярогі.

ІЗДЗЕ'ЛАЦЬ *зак.* Зрабіць. *Іструб іздéлалі.* Бывалькі. *Ізвару кусочкамі да іздéлаю начыначку.* Дзяражычы.

ІЗ'ЁМКА *ж.* Здымак (рэнтгенаўскі). *Прыежджае ён і прывозіць із'ёмку: рана, як рыбеччае вочка.* Чаплін.

ІЗЖЫ'ЦЬ *зак.* Пражыць. *Век іжжыла мая матка, а ні з кім не пасварылася.* Карпаўка.

ІЗЛЕ'ГЦІСЯ *зак.* Злюбіцца. *Ена, галубка, як ізлéглася з ім, дак і сем'і ацуралася.* Дзяражычы.

ІЗЛІВА'ЦЬ *незак.* 1. Зліваць. *Два дні ізлівáю молоко у адін кушынок — столькі цепер дае корова.* Бывалькі.

2. *перан.* Аб'ядноўваць. *Колхозы будуць ізліва́ці уместа.* Казярогі.

ІЗЛУПІ'ЦЬ *зак.* Садраць. *Ізлуплю́ шкурку із шчукі, да пасеку м'ясца, да туды перчыку.* Дзяражычы.

ІЗЛЯПЕ'ЧЫЦЬ *зак.* Сапсаваць. *Трэба ж табе такі хлеб ізлепе́чыць, папорціла тольві муку.* Дзяражычы.

ІЗМАКРЭ'ЦЬ *незак.* Стаць мокрай. *Млосць такая, ізмакрэ́ю уся чысценечка.* Дзяражычы.

ІЗМА'ЛКУ *прысл.* Змалку. *Тутака ена з ім ізма́лку гуляла.* Бывалькі.

ІЗМАЛО'ЦЬ *зак.* Змалоць. *Як ізме́лям, хіця трошкі возьмеш.* Ручаёўка.

ІЗМ'ЕРЦІ *зак.* Вымерці. *Увесь род ізме́р, ніводнага чалавека не асталося.* Дзяражычы.

ІЗНЕЛЮБІ'ЦЬ *зак.* Зненавідзець. *Мы ізнелюбілі его з-за Пашы.* Дзяражычы.

ІЗНІ'ЗУ *прысл.* Унізе. *Ізнізу не збірай яблакі, а на шчыт узлезь.* Дзяражычы.

ІЗНЯВЕ'РЫЦЦА *зак.* Разупэўніцца, зняверыцца. *Ён Полі брахаў адно, а Пашы другое: я ізневе́рылась.* Дзяражычы.

ІЗРА' *прысл.* Дарма, дарэмна. *Я на чалавека не скажу нічога як ізра́.* Дзяражычы. *Ізра́ бацька не ударыць.* Ручаёўка.

ІЗРАДКА' *прысл.* Зрэдку. *Блізнята у нас ізрадка́ говораць.* Ручаёўка.

ІЗРА'ЗУ *прысл.* 1. Адразу. *Я б ізра́зу расказала казку.* Карпаўка. *Што ты хацела, штоб ізра́зу було інцерэсна?* Чаплін. 2. Спачатку, спярша. *Сям'я его невечыла невестку ізра́зу.* Дзяражычы. *Мая дачка ізра́зу пашла за літоўца, а тады сышлася з нашым хлопцам.* Ручаёўка.

ІЗРЭ'ЗАЦЬ *зак.* 1. Зрэзаць. *Учора ізрэ́зала цветы да вукапала карэнне.* Вулкан. 2. Зменшыць. *У нас некоторым ізрэ́залі пенсаю, я палучала сорак шэсць, а цепер васімнаццаць.* Ручаёўка.

ІК *прыназ.* К, да. *Сюды прыў'ёз ік прэсу.* Ручаёўка. *Ік маццы учорі хаділа.* Чаплін.

І'КЛЫ *мн.* Іколы, клыкі. *Іклы і клыкі бываюць толькі у жывёл, у чалавека так не называюць.* Ручаёўка. *І́клы у дікага кабана па баках бальшые.* Чаплін.

І'МАЛА *ж.* Від расліны. *І́мала — сена нападобіе чорота, крупнае з імалы сена.* Пярэдзелка.

ІМЕ'ЦЬ *незак.* Мець. *Ой, я веры не йму.* Дзяражычы.

*Што ты ймеш ка мне?* Крупейкі. *Што ты імéў за тые кралы?* Казярогі.

ІМЯ′ *ж.* Імя. *Ці ено е такая імя́, ці зменяюці? Імя́ далі, як нелюдi. Кажу, што імя́ Артула прыхадней. Імя́ інцілігенцкая, нежная.* Бывалькі.

І′НАК *прысл.* Іначай. *Ена не месная, дак говорыць íнак.* Ручаёўка.

ІНА′ЧАЙ *прысл.* Інакш. *Іна́чай нада сказаць.* Ручаёўка.

ІНБА′Р *м.* Свіран. *У інба́ры лежала зерне.* Мохаў. *Напаша того хлеба калісь, дак інба́р буў.* Ручаёўка.

ІНЧ *прысл.* Інакш. *Ідзі скарэй, інч я табе дам.* Ручаёўка.

І′НЧЫ *займ.* Іншы. *Што й ад інчай і да другой гасцінцы несеш, а да мене маладой дак і так не зайдеш* (З нар. песні). Крупейкі.

ІСКАЁЧЫЦЬ *зак.* Сагнуць. *Его іскаёчыла у крук.* Дзяражычы.

ІСКРО′ЗЬ *прысл.* Заўсёды, заўжды. *Іскро́зь хаділа сюды.* Дзяражычы. *Тавар пасе іскро́зь.* Ручаёўка.

ІСКУ′ЧЫЦЬ *зак.* Засумаваць, занудзіцца. *Іску́чыла па Ірцы, хочу паехаць у Гомель.* Пярэдзелка. *Казала: «Мамачка, так іску́чыла па вас, не даждуся вотпуску».* Чаплін.

ІСПАЛО′ЦЬ *зак.* Спалоць. *Грэду исполо́ла.* Дзяражычы. *Сегодні багата проса исполо́лі.* Крупейкі.

ІСПІСА′ЦЬ *зак.* 1. Спісаць. *Усю цетрадь іспіса́ла, а у магазіне нема іх.* Вулкан. 2. Перапісаць, перавесці. *Іспіса́ла тые грашаняткі на Валю.* Дзяражычы.

ІСТА′РЫЦЬ *зак.* Садраць бульбы. *Я іста́ру: там, де большые кортоплі, вубірай.* Чаплін.

ІСТАШЧА′ЦЬ *зак.* Схуднець. *Ён ее не карміў, тую сучку, дак ена исташча́ла і пабрыла куды у свет.* Крупейкі.

ІСЦІ′ *незак.* 1. Ісці. *А ні назад іці́, а ні у дерэўню іці́; ну, атважылісь у дерэ́ўню іці́.* Крупейкі. 2. Падыходзіць. *Серпарэзніка натаплю, да раннік прынесла, натапіла, да ему дала, аж не йде: я тады рэхт.* Чаплін. 3. Цячы. *Ета у цебе з носа кроў ідé.* Вулкан. *Пласцелінам харашэ вокна мазаць: вада ідé, скачуецца.* Дзяражычы. 4. Ляцець. *Закрый дверы, паледі, як мухі іду́ць.* Дзяражычы. *Пабеглі к рацэ, а немецкі самалёт ішо́ў нізка, нізка.* Крупейкі. 5. Набліжацца. *От жа троіца іде; деды на троіцу.*

Дзяражычы. 6. Дзьмуць. *Так скваэняк ідзе: я прызбу адгрэбла.* Дзяражычы. 7. Расці, прарастаць. *Утыркну парастак, ён і ідзе.* Ручаёўка. 8. Быць. *Без зобот жыву, тады зоботы ішлі, а цепер нема зобот.* Дзяражычы. 9. Выходзіць замуж. *За такіх басякоў іці нельзя.* Ручаёўка. *Не йдзі, деўка, за старога, бо барадой коле* (З нар. песні). Бывалькі. △ *Ідзе і мілае за пастылае.* Пра безвыходнасць. *Ат такой жысці ідзе і мілае за пастылае.* Дзяражычы. *Не ішло, не ехала.* Пра абыякавасць. Бывалькі. *Серца ідзе пад лёд.* Аб адчуванні страху. *Як калі поздоровіцца, дак добра, як не хворая, а калі хворая, дак серца ідзе пад лёд, думаеш: оцета і канец табе буде.* Дзяражычы.

І'СЦІК *м.* Пугаўё. *Выламай добрага дубца — ісцік трэба зделаць.* Пярэдзелка.

ІСЧЫ'СЦІЦЬ *зак.* Паламаць, пассякаць. *Адін год град буў, так ішчысціў, іссёк усе, дык нічога не було на городе.* Ручаёўка.

ІСШЫВА'ЦЦА *незак.* Сохнуць. *Рот ішшываецца: вады хоча. Не кажуць сохне у році, а ішшываецца у мене рот.* Дзяражычы.

І'ХРА *ж.* Палоска з аўчыны, якая служыць пракладкай пры сшыванні аўчын. *Кажух без іхры не шшыеш.* Дзяражычы.

І'ЦЬВІНА *ж.* Звязка ў галоўках палазоў. *Іцвіна делаецца з вяза ане іншага гнуткага дерава, ена не дае разагнуцца полазу.* Пярэдзелка.

ІЧ *выкл.* Бач. *Іч, екая злючая.* Дзяражычы. *Гледі, гледі, іч, екі рэцівы.* Ручаёўка.

ІШ *выкл.* Бач. *Іш, як конь іржэ.* Ручаёўка.

# К

КАБАНЕ'Ц *м.* Кабан. *Мар'і Бондаравай корову згубілі і кабанец збег.* Ручаёўка.

КАБА'НЧЫК *м.* Парася. *А ён такі хорошы кабанчык прыдаўся.* Дзяражычы. *Вучысціла кабанчыка, будам расціць на сала.* Бывалькі.

КАБЫ'ЛА [1] *ж.* Кабыла. *А тая кабыла такая ужэ добрая.* Пярэдзелка.

КАБЫ'ЛА [2] *ж.* Скляпенне ў печы. *Неба і кабыла — ета адно і тое ж.* Пярэдзелка.

КАВА'ЦЬ *незак.* Кукаваць. *Табе, мілы, зезюлечка штоб рана кава́ла* (З нар. песні). Пярэдзелка. *Чуеш, як зезюля куе́.* Чаплін.

КАВЯНЯ' *ж.* Качарга. *Вазьмі, Грышачка, кавеню́, выграбі жар з печы.* Карпаўка. *Кавенёй як трахнула па назе.* Чаплін.

КАГА'Л *м.* Група людзей. *Іде кага́л на машыну кабана класці.* Ручаёўка. *Нас увесь кага́л астаўся.* Пярэдзелка.

КАДА' *злучн.* Калі. *Када хлопчык узяўся, дак от папапілі гарэлкі, аткрыта хрысцілі.* Ручаёўка.

КАДА'СЬ *прысл.* 1. Калі-небудзь. *Я када́сь забегу к вам.* Ручаёўка. 2. Калісьці. *Када́сь памешчыкі уладалі усім.* Первамайск. *Сейчас усе машыны, а када́сь собою делалі усе: і малацілі, і талачылі, і валачылі.* Ручаёўка. *Када́сь роботалі, ой, роботалі.* Чаплін.

КА'ЖАН, КА'ЖЫН *займ.* Кожны. *Шо ж ена папахаділа, ка́жын божын вечар хаділа, давала уколы.* Дзяражычы. *Ка́жан хоча жыць.* Карпаўка. *Шукае ка́жная пітання.* Ручаёўка.

КА'ЖДЫ, КА'ЖНЫ *займ.* Кожны. *У ка́жнай соро́цы була калісь ластаўка.* Пярэдзелка. *На ка́жду машыну чалавека саджалі.* Чаплін.

КАЗА': *вадзі́ць казу́.* Калядаваць. *У нас калісь ваділі козу: з песнямі хаділі па хатах, адін хлопец надеецца козою, танцуе, усе пеюць спецыяльные песні.* Ручаёўка.

КАЗА'Н *м.* Кацёл. *Моткі красім у тых казано́х.* Дзяражычы. *Каза́н — здоровы кацёл. Каза́н меду набралі.* Пярэдзелка. *Раней такіе булі вісокіе, нача чыгуны з дужкамі — казаны́.* Чаплін.

КАЗАНЕ'Ц *м.* Кацялок. *Наліла малака казане́ц да дала кіслага.* Дзяражычы.

КАЗА'ЦЬ *незак.* 1. Казаць. *Я кагу́ ему: беры ее, ена дейка хорошая.* Бывалькі. *Тое ка́га: у колхозі добра жыць, той — на праізводсцві.* Дзяражычы. *Ена ка́а мне скрозь: прыяжджай.* Крупейкі. *Я ку: у мене дум поўная галава. Ты чуеш, шо ён ка́а.* Ручаёўка. 2. Лаяць. *Ты стоіш на ее так каза́ць, ты можыш на матку каза́ць? Неўстыдная ты, бессовесная, Саня столькі жыла — нічога не каза́ла.* Дзяражычы.

КАЗАЧЫ'НА *ж.* Доўгі кажух. *Казачы́на — кажух с авечак, тут ззаду зоборы, такая, як ото юпкі калісь бабы*

*шылі. Ена захавала грошы у казачыну у карман і не найде трынаццаць рублей.* Дзяражычы.

КАЗЁЛ [1] *м.* Казёл. *Казёл увесь сад пазгрызае.* Чаплін.

КАЗЁЛ [2] *м.* Мерка для абмервання плошчы. *Казёл — шо брыгадір мерае.* Дзяражычы.

КАЗЁЛ [3] *м.* Прыстасаванне для распілоўкі дроў. *Вазьмі казла́, распілім дроў печы на две.* Ручаёўка.

КАЗІ'НЕЦ *м.* Падагра. *Наверна, казі́нец у нагах: пальцы папухалі, на ногі не стане.* Чаплін.

КАЗЫ'РКА *ж.* Картуз. *Казы́рку ад сонца надень.* Казярогі.

КАЗЫРО'К *м.* 1. Картуз. *Ён надеў казыро́к.* Казярогі. 2. Верхняя частка шапкі. *Купіў карту́з з бліскучым казырком.* Ручаёўка. 3. *перан.* Навес над дзвярамі. *Хату кончылі, а сенцы не зделалі, дак прыделалі казыро́к, шчоб дошч не біў у дверы.* Казярогі.

КАЗЯНЯ' *н.* Казляня. *Етые казеня́ты такіе уедные, лезуць куда папала.* Ручаёўка. *Нема казеня́ці, аддала Сашы.* Чаплін. *Памянш.* казяня́тка. *Нема мойго казеня́ткі тут со мною.* Чаплін.

КА'ІЦЦА *незак.* Раскайвацца. *Баба ж не вучылася, дак нехай цепер не ка́іцца, і я ж ее прасіла — вучысь, а ена кінула.* Дзяражычы. *Я не буду ка́іцца, шо кінула его.* Ручаёўка.

КА'ЙСТРА *ж.* Торба. *Поўну ка́йстру хлеба назбіралі старцы.* Чаплін. *У ка́йстры шчэ каты паедяць сала.* Карпаўка. *Онь Пілекава іде у школу: ка́йстра цегаецца па земле.* Дзяражычы. *У ка́йстру кніжкі паклала.* Казярогі. *Памянш.* ка́йстрачка, ка́йсцерка. *Дай малую ка́йстрачку.* Пярэдзелка. *Насыпала Сашы две ка́йсцеркі проса.* Дзяражычы. *Калісь валы паслі, ка́йсцеркі насілі, хлебец туды положым дай носім цэлы день.* Казярогі.

КАЙСТРЫ'ВЫ *прым.* Які мае шмат кастрыцы. *Кайстры́вы лён — багата кайстрыцы.* Пярэдзелка. *Патрэпкі тожа кайстры́вые да лучные.* Чаплін.

КАЙСТРЫ'ЦА *ж.* Кастрыца. *Кайстры́ца не гадіцца нікуды: вукідаем мы ее.* Казярогі. *У лену бувае багата кайстры́цы.* Пярэдзелка.

КАЙСЦЕ'Р *м.* Кастрыца. *Калісь кайсцеру́ мешок прынесеш да мерзлекоў прынесеш.* Чаплін.

КАКУРА'Т *прысл.* Якраз. *Немцы доту капалі, дак какура́т угадіў снарад у тую яму.* Крупейкі. *Нову хату*

*построілі, дак какура́т найпроцій.* Ручаёўка. *Какура́т хлопец у школі буў.* Чаплін.

КАЛА'ДДЗЕ *н.* Калоды. *Увесь Вулкан нада сабіраць кала́дде атваліваць.* Дзяражычы.

КАЛАТНЯ' *ж.* Страва, прыгатаваная з крухмалу, вады і тлушчу. *Калатню раней на хрэсьбіны делалі.* Первамайск.

КАЛДУ'Н *м.* Варэнік з цёртай бульбы з мясам. *Мучны варэнік з м'ясам, дак ета пільмені, а еслі тараные кортоплі з м'ясам, дак ета калду́н.* Первамайск. *Калдуны́ я не делаю, бо ніхто не любіць.* Рудня Марымонава.

КАЛДЫБА'ЦЦА *незак.* Хістацца, калыхацца. *Плыве човен, калдыба́ецца, повен вады набіраецца* (З нар. песні). Бывалькі.

КАЛЕ'КІ *мн.* Плечы. *Садісь ка мне на кале́кі. Ох, папанасіла на кале́ках уцетых во пацаноў.* Пярэдзелка. *Ён ужэ утаміўся: вазьмі его на кале́кі.* Первамайск. *Баба мех на кале́ках несе.* Бывалькі. *Дак ты ездіш на кале́ках у бабы?* Казярогі.

КАЛЕ'НА *н.* Род. *У нас дед тут буў у парцізанах, з беднага кале́на буў.* Дзяражычы.

КАЛЁЎКА *ж.* Рубанак для выбірання ўзораў на налічніках. *Нападобіе як рубанак, ена вузенькая, калёўка етая. Разные узоры делаюць ею.* Ручаёўка.

КАЛІ *прысл.* Часам, іншы раз. *Сны калі ізвешчаюць.* Дзяражычы.

КА'ЛІВА *н.* Корч, куст (гародніны). *Я учорі адно ка́ліва абабрала, а сегодні две.* Первамайск. *Вурвеш ка́ліва, а там во такенная картошына.* Ручаёўка. *Парацапаць кортоплі ле ка́ліва трэба.* Дзяражычы. *Ка́ліў шэзьдесят було, і памідораў багата.* Первамайск. *Прыді вурву ка́ліў десяць бурака.* Карпаўка. *Пазыч ты мне хіця ка́ліў п'яць капусты.* Чаплін.

КАЛІ'СНІ *прым.* Колішні. *Песні калісніе, старынные не пеюць.* Крупейкі. *Плашч прамок, дак я ету калісняю світку надела.* Ручаёўка.

КА'ЛІЎЕ *н.* Каліўе. *Ка́ліўе высокае поросло́, бач, екіе стаяць кортоплі.* Ручаёўка. *Сегодні прапалі буракі, па пальчыку тонкіе, ка́ліўе павупірала.* Чаплін.

КАЛО'ДКА *ж.* 1. Невялікі кусок берввяна. *Параска, цегні коло́дку.* Бывалькі. 2. Від вулля. *Коло́дка — вуллё холоднае.* Ручаёўка. *Да і зделана цікава вулле у коло́дках.* Пярэдзелка. 3. Частка рубанка. *Делаецца коло́дка*

*с ігрушы, яблані ці граба, толькі з цвёрдага дерава.* Ручаёўка. 4. *перан.* Няўмека. *Седіць, як коло́дка, рукі нічога не умеюць рабіць.* Ручаёўка.//Невуч. *Цепер усе вучацца, а мая баба коло́дка, маладая шчэ, а вучыцца не хоча.* Ручаёўка.

КАЛО′К *м.* Колік. *Ні лесіначкі, ні калка́ не було. Вокна пазабіватые калка́мі.* Дзяражычы.

КАЛУ′ЖЫНА *ж.* Калюга. *Калу́жына вады стаіць.* Пярэдзелка. *Хоць бы дошч калу́жыну наліў.* Чаплін.

КАЛЫ′СКА *ж.* Калыска, якая падвешваецца на вяроўках. *Калы́ска вісячая, люлька — што стаіць.* Дзяражычы. *Калы́ска — на вероўках, ночоўкі. У калы́сцы діця качаюць.* Чаплін. *Діцятка з калы́скі падала.* Ручаёўка.

КАЛЭ′МУТ: *падняць калэмут.* Расшумецца, разбегацца. *Як падымуць калэ́мут, дак хата ходарам ходіць.* Дзяражычы.

КАЛЮ′ЧКА *ж.* Колікі. *У абодва бакі коле, такіе калю́чкі, дыхаць нельга.* Дзяражычы.

КАЛЯ′КАЦЬ *незак.* Размаўляць. *Лаўка закрыецца, а я буду тут каля́каць з вамі.* Чаплін.

КАЛЯСО′ *н.* 1. Кола. *Калісь калесо́ зламалася у возе.* Бывалькі. *Ой, ляньце, у ваде калёса.* Чаплін. 2. Галоўка ў сланечніку. *Як мне калеса́ зрэзаў, дак другое дела.* Карпаўка. *Учора пашлі мы з ім калёса зразаць.* Ручаёўка. *На калёса напалі вераб'і, дак так ужэ надаела ганяць.* Чаплін.

КАМАРНЕ′ЧА *ж.* Камары. *Пасе кароў цёмначы: такая камарне́ча да мошкі, дак цёмначы вуганяе.* Дзяражычы.

КАМА′ШКА *ж.* Мурашка. *Дзіця тако́е маленькае, да як кама́шка старатнае.* Дзяражычы. *Памянш.* кама́шачка. *Вунь пагледі, екога жука цягне кама́шачка.* Дзяражычы. *Надька твая, як кама́шачка, нема ей росту.* Дзяражычы.

КАМЕ′ДНА *прысл.* Смешна. *Ён так каме́дна расказуваў.* Ручаёўка.

КАМЕ′ДНЫ *прым.* Смешны. *Жывот баліць ат смеху, так насмешыла Прося, каме́дная маладіца.* Ручаёўка.

КАМЕ′НЬЧЫК *м.* 1. Каменьчык. *Каме́ньчыкамі дорогу усцілала.* Бывалькі. 2. Костачка ў вішні, сліве. *Не накідай додо́лу каме́нчыкаў, у руку плюй, тады вукінеш.* Дзяражычы. *Ета ж як варыла варэнне, дак надаела мне каме́нчыкі вукідаць со сліў.* Ручаёўка.

КАМЕ'ШНІК *м.* Куток каля печы, дзе стаяць вілкі. *Ну і вуметаеш жа ты, а у камéшніку хто за цебе вумеце?* Ручаёўка.

КАМУ'ЛКА *ж.* Карова без рог. *Камýлка була у адной суседкі, рог саўсім не було.* Чаплін.

КАМЫ' *мн.* Бульбяная каша. *Тапчані сейчас говораць, калісь гаварылі камý на тоўчóную кортóплю.* Дзяражычы. *Камý увечары будуць — прыходце.* Ручаёўка. *Було раз з етымі камáмі: у гораді ж пюрэ кажуць, а я думаю на невестку, што сама пюрэ з'есць, а мне камóў натаўкла.* Первамайск.

КАМЯННЫ' *прым.* Каменны. *Девяць децей пахараніць — каменнóе нада серца.* Пярэдзелка. *Робóтаць трэба каменнóе серца.* Ручаёўка.

КАМЯНЯ'ЧЧА *н. зб.* Каменне. *Каменя́чча панакідалі пад ногі, пасабірайце з дорогі.* Ручаёўка.

КАНАПЛЯ'НІК *м.* Верабей. *Канапля́нік жыве у стрэхах, ета шкодная пціца.* Карпаўка. *Канапля́нікі, чэрці, усе проса паклевалі.* Пярэдзелка.

КАНАПЛЯ'НКА *ж.* Хустка з льняной тканіны. *Канапля́нка — плоток, на голову апінаюць.* Пярэдзелка. *Завежы канаплянку, а то голаву прастудіш.* Дзяражычы. *Канапля́нка — хустка, ее на голаву і на плечы напінаюць.* Казярогі. *Ці мне браць, ці не браць з собой канапля́нку — не вельмі ж холадна на дварэ.* Ручаёўка.

КАНЕ'Ц *м.* 1. Канец. *Чуць вуцеглі з ямы: падалі палку, дак ён ухапіўся за канéц, два мужчыны цеглі.* Дзяражычы. 2. Нізка. *Канéц — у нас нізка азначае. Хлопцы прынеслі канцóў мо два грыбоў.* Ручаёўка.

КАНЕ'ШНЯ *прысл.* Канечне, вядома. *Канéшня, усе бабушкі такіе.* Ручаёўка. *Канéшня, прыедам к вам на каляды.* Чаплін.

КАНУ'Н *м.* Сыта. *Ета канýн, што на похараны делаюць.* Первамайск.

КАНХВЕ'ТА *ж.* Цукерка. *У бабі у кішэні канхвéта е.* Бывалькі. *Дай жа хоць адну канхвéту цёці.* Чаплін.

КАНЯ'ЧКА *ж.* Конь. *Ні разу ні далі каня́чкі.* Дзяражычы.

КАПА' *ж.* 1. Капа. *Трэба було накрыць тые тры капы́ сена, а то дошч змочыць.* Чаплін. *Екую б кóпу сена прыцёг.* Ручаёўка. 2. Адзінка лічэння, шэсцьдзесят снапоў жыта, ячменю і г. д. *Трэба кóпу змалаціць.* Ручаёўка. *Калісь нажыналі па две капы́ у день нашы бабу.* Вулкан.

3. *перан.* Непаваротлівая, тоўстая жанчына. *Хіба тая капа́ паднімецца, седіць сіднем цэлы день.* Дзяражычы.

КАПАНІ'ЦА *ж.* Матыка. *У мене небальшая капаніца: каму екая наравіцца.* Ручаёўка. *Купіла сабе капаніцу на ярмалку, а ена не склепаная добра.* Первамайск. *І капаюць, і акучуюць капаніцаю.* Чаплін.

КАПАНІ'ЧЫЦЬ *незак.* Акопваць бульбу капаніцай. *Куды ты? А капанічыць хто буде?* Ручаёўка. *Стары капанічыў сегодні кортóплі.* Первамайск.

КАПА'ННІЦА *ж.* Капальніца. *Я нанела п'яць капа́нніц на неделю.* Чаплін. *Ці я са сваімі капа́нніцамі спраўлюся?* Ручаёўка.

КА'ПАНЫ: *ка́паная сарóчка.* Сарочка з вышытымі рукавамі. *Па рукавох вушытые цветы — ка́паная сорóчка.* Пярэдзелка.

КАПА'ЧКА *ж.* Капальніца. *Де капа́чкі капалі, там і денежкі прапалі.* Дзяражычы.

КА'ПЕЛЕЧАК *м.* Капелька. *На, вупі хаця па ка́пелечку.* Дзяражычы.

КА'ПІЦА *ж.* Частка цэпа, зробленая з рэмня. *У цэпу цапілна, біч, две ка́піцы на ём: адна на бічу, другая на цапілні, ены рэмнем прыўязўюцца.* Ручаёўка.

КАПІ'ЦА *ж.* Капа (сена, саломы). *Я табе капіцу сена накасіў. У капіцы начавала з діцём.* Дзяражычы.

КА'ПКА *ж.* Капля. *У людей болоты, тамака німа вады ні ка́пкі.* Дзяражычы. *Беліла дома, і ка́пка ізвесці у вока папала.* Первамайск.

КАПЛЫ'К *м.* Башлык. *Пашыў сабе калісь бурку з каплыкóм.* Ручаёўка.

КАПУ'СТАЧКА *ж.* 1. Кісліца. *Ото такая капу́стачка зайчыкавая ат нерваў; сушыць нада на хаці, парыць і піць ее. Як павушанае даўленне, капу́стачка памагае.* Ручаёўка. 2. Вазон. *У ее цвет зелёны, таму ена капу́стачка завецца. У Мані на акне капу́стачка.* Дзяражычы.

КАПУ'СЦІНА *ж.* Капусны ліст. *Парэж капу́сціны кóровам, нехай едяць.* Казярогі.

КАПЫ'Л *м.* 1. Капыл. *Мне вобуль толькі на капы́л трэба шыць.* Пярэдзелка. 2. Прылада для высякання начовак. *Етым капылóм нічога не выдаўбеш.* Первамайск.

КАПЯЛІ'НАЧКА *ж.* Капелька. *Хоць капелі́начку того зелля дай.* Бывалькі.

КАРАВА'ЦЬ, КАРВА'ЦЬ *ж.* Ложак. *Карава́ць зацеглі туды.* Первамайск. *У мене две карва́ці: адна трохі луч-

*чай, як сыны прыедуць, дак спяць, а на другой я сама.* Чаплін.

ҚАРА'ВАЧНІҚ, ҚАРА'ВАШНІҚ *м.* Зборшчык старых рэчаў, анучак. *У кара́вачніка купіла хустачку.* Қазярогі. *Аж еде кара́вашнік з сынам. Бабы-плутаркі, несіце караўкі,— так крычаў кара́вашнік.* Чаплін.

ҚАРАДЗІ'ЦЦА *незак.* 1. Прытварацца. *Хіба я б караділася, калі б магла рабіць.* Дзяражычы. 2. Крыўляцца. *Перастань карадіцца, а то схопіш кухталя.* Вулкан.

ҚАРАДЫ' *мн.* Крыўлянне. *Кінь карады́ свае, бальшая девачка ужэ, стыдна так делаць.* Дзяражычы.

ҚАРАНАВА'ТЫ *прым.* Нізкі і галінасты. *Сад твой каранава́ты.* Чаплін.

ҚАРА'ЎНІҚ *м.* Зборшчык старых рэчаў, анучак. *Бувала, кара́ўнікі ездяць, возяць жычкі.* Дзяражычы. *Кара́ўнікаў цепер німа, не возяць нічога.* Қазярогі.

ҚАРА'ЦЬ *незак.* 1. Қараць. *Хто его кара́е? Ходіць на свободе.* Пярэдзелка. 2. Лаяць, выгаворваць. *Девяць децей пахараніць, каменное серца нада, а мужык п'е, паследняга пахараніла, назаўтра устала, кара́ла, кара́ла его.* Пярэдзелка.

ҚАРДАПЛЯ'НІШЧА *н.* Бульбянішча. *Қардапля́нішча буду араць.* Қазярогі.

ҚАРДАПЛЯ'ННЕ *н.* Бульбянік, бацвінне бульбы. *Қардапля́нне пасцягуваў да узараў.* Қазярогі.

ҚАРДО'ШҚА *ж.* Бульба. *Склалі сена, і кордо́шка ешчэ увойде.* Дзяражычы.

ҚАРЛІ'ВЫ *прым.* Паслухмяны. *Қолькі ні усяка́й, ены пойдуць: ены карлівые.* Ручаёўка.

ҚАРМІ'ЛЬНІЦА *ж.* Қарміліца. *Пагана буде без коровы, ена ж кармі́льніца наша.* Дзяражычы.

ҚАРО'ВЯЧЧЫ *прым.* Қаровін. *Қоро́веччы гной вывозім.* Дзяражычы.

ҚАРО'МІСЕЛ *м.* 1. Қаромысел.— *Чо ты на коро́міслі воду носіш? — А я не умею без коро́місла: рукі баляць.* Дзяражычы. *Екіе далека жывуць, дак на коро́міслі носім воду.* Ручаёўка. 2. Мера (два вядры). *Пайду под гору, да прынесу вады, да коро́місел уваллю у капусту.* Дзяражычы.

ҚАРО'МЫСЛІҚ *м.* Вага. *Қоро́мыслік — ета весы з кантарам. Дай мне свойго́ коро́мысліка звесіць муку.* Пярэдзелка.

КАРО'МЫСЛЫ *мн.* Вясёлка. *Глянь, коромыслы павіслі.* Пярэдзелка.

КАРО'НКІ *мн.* Карункі. *Мар'я красівенна коронкі в'яжа.* Дзяражычы. *Навучылася красівенныя коронкі везаць.* Бывалькі. *Раней кружавы коронкамі называлі.* Ручаёўка.

КАРО'СЛІВЫ *прым.* 1. Карослівы. *Цеперакі рэдка корослівые деці бываюць.* Вулкан. 2. Чарвівы (пра бульбу). *Ета кортошка корослівая і заражоная.* Ручаёўка.

КАРО'ЎЧЫНА *ж.* Кароўка. *Як у кого короўчына хорошая, дак есць і молоко, і масла.* Чаплін. *Памянш.* кароўчыначка. *Короўчыначка була да прадалі.* Карпаўка.

КАРСЭ'Т *м.* Гарсэт. *Карсэт — без рукавоў, на сем ці на девяць кліноў іззаду, корочай плацця, адеецца як бы халат.* Бывалькі. *У цэркві бачыла бабу у карсэце.* Пярэдзелка.

КАРТАПЛЯ'НЫ *прым.* Бульбяны. *Давай напеком бецаў картапляных.* Дзяражычы.

КАРТО'ПЕЛЬ *м.* Бульба. *Прыехалі, дак у ее шчо,— адін кортопель, дай годі.* Дзяражычы. *Еты ужэ пастарэў кортопель, трэба его свінням аддаць.* Ручаёўка.

КАРТО'ПЛІ, КАРДО'ПЛІ *мн.* Бульба. *Хазяйка укіне поўхунта м'яса у кортоплі ане у боршч.* Дзяражычы. *На усадьбі неважные кордоплі.* Первамайск. *Іді кордоплі вубірай.* Чаплін.

КАРТО'ПЛЯ *ж.* Бульба. *Усю кортоплю акапаў.* Первамайск. *Нема сеголета кортоплі — не буде і сала.* Чаплін.

КАРУ'ЗЛЫ *прым.* 1. Закарэлы. *Усе трапкі карузлые.* Бывалькі. 2. Шурпаты (пра бульбу). *То чарвівые, то карузлые кордоплі.* Дзяражычы.

КАРЦЕ'ЦЬ *незак.* Непакоіць, хацецца. *Карціць ему зделаць што-небудь.* Ручаёўка. *Як бы не умеў, дак і не карцела б.* Дзяражычы.

КАРЫВО'Д *м.* Карагод. *Паўёў деўку па вуліцы карывод вадіць.* Пярэдзелка.

КАРЫ'СНІЦА *ж.* Той, хто прыносіць карысць. *Пайду даіць сваю карысніцу.* Дзяражычы.

КАРЫ'ЦЦА *незак.* Пакарацца. *Калі б здороўе було, дак нікому не карыўся б.* Дзяражычы. *Татулечка родны, я табе карўся. Карысе ты, діця мае, чужой чужыне* (З нар. песні). Пярэдзелка.

КАРЭ'НЯЧЧА *н. зб.* Карэнне. *Карэ́нячча прыбіла водою.* Дзеражычы.

КАРЭ'Ц *м.* Карэц. *Калісь булі кружкі медяные, дык ета карэ́ц.* Крупейкі.// Кружка з гільзы. *Карэ́ц — медны з гільзы у войну делалі.* Бывалькі.

КАСАНУ'ЦЬ *зак.* 1. Пакасіць. *Дай мне касану́ць разы са два. Бывалькі. Ты б касану́ў корові травы.* Дзяражычы. 2. *перан. груб.* Ударыць, выцяць. *Мене па морді касану́ў.* Пярэдзелка.

КАСАПЛЁТКА *ж.* Стужка. *Косу заплецеш да туда і латачку — касаплётку.* Дзяражычы. *Такіе красівенные касаплёткі прывезлі у лайку.* Бывалькі.

КАСА'Р *м.* Касец. *Сколькі каса́р вукашуе у день? Ежалі б усе касары́ касілі так.* Ручаёўка.

КАСІ'НКА *ж.* Касынка. *Давай касі́нку апрану.* Бывалькі. *Я свайму деду і на смерць надела жылетку і касі́нку шоўко́вую на шыю.* Дзяражычы. *Касінкі носяць як вот цёпла, зімой жа іх не заўяжаш.* Ручаёўка.

КАСТАЛО'М *м.* Балотная трава. *Бач, сын, о тут кастало́м расце.* Пярэдзелка. *Трэба кастало́му прынесці да насушыць.* Чаплін.

КАСТЫ'ЛЬ *м.* 1. Мыліца. *На кастылёх хадіў.* Пярэдзелка. 2. Верхняя ручка ў падоўжанай піле. *Вершняк — ета чалавек, екі стаіць наверху і держыцца за касты́ль, цегае пілу за касты́ль.* Ручаёўка.

КАСЦЁР *м.* Кастрыца. *Касцёр пасеялі, касцёр і палучылі.* Казярогі.

КАСЫ'РНАСЦЬ *ж.* Незычлівасць, зласлівасць. *Выйду замуж — мне не палегшае, а пахужае: ён маім децям не буде прыяць, а касы́рнасць буде.* Пярэдзелка.

КАСЯЧО'К *м.* Стол у куце (трохвугольны). *Салхвету купілі на касячо́к. Касячо́к — ета столік на куце, прыбіваюць его.* Ручаёўка.

КАТО'РЫ *займ.* Некаторы. *Трэціны, девяціны, сарачыны — кото́ры правіць, кото́ры не правіць.* Дзяражычы. *Кото́рые з ляку с ума тронуліся, кото́рые паяўляліся додому.* Чаплін.

КАТРЫ' *займ.* 1. Які, каторы. *Мо там буў катры?* Ручаёўка. *Дейкі, катра́я з вас брала цёскі?* Дзяражычы. 2. Некаторы. *Іде котро́е і плача. Катры́е кажуць вуткі, катры́е — вутвы.* Дзяражычы. *Мы ужэ домоў пашлі: катры́е раней, катры́е пазней.* Ручаёўка.

КАТРЫ'ЙСЯ *займ.* Якісь, якісьці. *Катрыйся з вас з рагаткі страляў?* Чаплін.

КА'ЎКАЦЬ *незак.* Мяўкаць. *Кошачка каўкае, калі толькі есць хоча.* Чаплін. *Сегодні цэлую ноч не спала: каты усё урэм'я каўкалі на гарэ.* Ручаёўка.

КАЎРА'Х *м.* Замерзлы гной. *Замерзнуць у нас каўрахі у хлеве.* Дзяражычы.

КАЎРЫ'ГА *ж.* Кавалак зямлі, снегу. *Адламаў ломам каўрыгу — і на сані.* Пярэдзелка.

КАЎРЫ'ЖЖА *н. зб.* Кавалкі зямлі, снегу. *Такое каўрыжжа у хлеве, коро́ві легці нельга.* Пярэдзелка.

КАЎТАНУ'ЦЬ *зак.* Глынуць. *Дай каўтану́ць вады.* Пярэдзелка. *Як каўтане́ сала, дак его памукае ірваць.* Чаплін. *Вады каўтану́ла, холо́днае зайшло, дак зуб забалеў.* Мохаў.

КАЎТО'Б *м.* Глыбокая яма, запоўненая вадой. *Там ле возера шчэ каўто́б е.* Бывалькі. — *А де Петро? — Пошоў з хлопцамі у каўто́б рыбу муціць.* Пярэдзелка. *Там каўто́бы такіе. Ніякіх каўто́баў там німа, крыніцы, дай усе.* Дзяражычы.

КАЎТО'К *м.* Глыток. *Ну хоць каўто́к малака вазьмі.* Ручаёўка. *Аставіў у бутылцы на каўто́к вады.* Пярэдзелка.

КАЎТУ'Н *м.* 1. Каўтун. *У ее на галаве каўту́н, ён з ляку бывае і з таскі.* Чаплін. 2. Зблытаныя валасы. *І не стыдна табе, ты ж велікая девачка, а галавы не рашчэшаш — каўту́н на галаве.* Дзяражычы. 3. *перан. іран.* Від жаночай прычоскі. *Пасаділа каўтун екі на галаву, ён табе не прылічна.* Чаплін.

КАЦЭ'-КАЦЭ' *выкл.* Выгук для падзывання ката. *Кацэ́-кацэ́, кацэсечка мой, хаді уваллю малачка.* Ручаёўка.

КАЦЭ'СЯ *ж.* Кошка. *Баба спаймала кацэ́сю.* Ручаёўка.

КАЦЭ'СЯ-КАЦЭ'СЯ *выкл.* Выгук для падзывання ката. *Кацэ́ся-кацэ́ся, куды ён збег, две ночы не жджы его.* Ручаёўка.

КАЦЮ'ШКА *ж.* Шпулька. *Бачыце, екое палаценца: кацю́шкі беруць і снуюць, а тады сваю пражу, і таею, і таею уперамежку ткуць.* Ручаёўка.

КАЦЮ'ШНЫ *прым.* Шпулькавы. *Нітак кацю́шных узела да ткала.* Ручаёўка.

КАЦЯНЯ'ТКА *н.* Кацяня. *За каценя́тка і на гору его*

*цягне кошачка.* Вулкан. *Каценятак ена ета во де паскідала.* Дзяражычы.

КАЧАТЫ′ *мн.* Уключыны. *У качаты́ закладаецца апачына.* Пярэдзелка. *З качато́ў выслізнулася апачына.* Чаплін.

КАЧО′ЛКА *ж.* Качалка. *На круглаю кочо́лку беллё наматваюць, а той рубчастай кочо́лкой зверху пакачаеш.* Чаплін. *Беллё кочо́лкой качанае хорошае.* Пярэдзелка.

КАЧУ′ЛКА *ж.* Прадаўгаватыя брускі, на якіх падвешваюцца ніты. *Ніты роботаюць на качу́лках. Ены з дірачкамі, качаюцца.* Дзяражычы.

КА′ЧУР *м.* Качар. *У нас вуткі і ка́чур.* Дзяражычы. *Ка́чур такі красівы вурас.* Бывалькі.

КАША′РА *ж.* 1. Кашара. *Каша́ра у нас за рэкой.* Карпаўка. *Канешне ж, і авечак у нас заганяюць у каша́ру.* Ручаёўка. 2. Вялікі кошык, у які кладуць зімой карове сена. *Вытрусі сена з каша́ры.*//Кош. *Воцета вот карзіна, што носяць яблакі,— каша́ра.* Чаплін. *Памянш.* каша́рка. *Усып пацерухі у каша́рку.* Пярэдзелка.

КАШЛЯ′ЦЬ *незак.* Ка́шляць. *Уранні такі кашаль душыць, так кашля́ю, у горлі дерэ.* Ручаёўка. *Як кашля́е, дак цяжка дыхаць.* Чаплін.

КАШЫ′ЦА *ж.* Крупнік. *Каша — крутая з любых круп варым, а кашы́ца — жыдкі суп.* Дзяражычы. *Коля мой баршча не есць, сыровадкі не есць і кашы́цы не есць.* Пярэдзелка. *Кашы́ца пахне козлом.* Ручаёўка.

КВАСО′ЛЕВЫ *прым.* Фасолевы. *Суп квасолевы прыставілі варыць на абед.* Пярэдзелка.

КВАСО′ЎКА *ж.* 1. Крупнік з ягадамі ці яблыкамі. *Сыплюць пшоно́, а тады дабаўляюць компо́т з сахарам от і квосо́ўка.* Бывалькі. *От люблю квосо́ўку з вішнямі, да з сахарам.* Вулкан. *Квасо́ўка — суп з любых круп, звараны з квасам і сушанымі вішнямі, яблакамі, ігрушамі.* Дзяражычы. *Па трыццаць рублей беруць, а квосо́ўкаю кормяць.* Пярэдзелка. *Як сала пад'есі, дак і квосо́ўкі можна з'есці.* Ручаёўка. 2. Квашаная капуста, агуркі, буракі. *Хіця ле екой квосоўкі пограб ізделаем.* Дзяражычы.

КВАСУ′ЛІ *мн.* Фасоля. *З квасу́лямі, з ігрушамі тоўчанымі делаюць пірагі.* Пярэдзелка. *Алеся, пацегай квасу́лі і пад стрэху пастаў.* Казярогі.

КВАСУ′ЛЯ *ж.* Фасоля. *Квасу́ля кожды год родіць у мене.* Дзяражычы. *Пасеяла цэлую граду квасу́лі, а ена не*

*павілася да там і прапала уся.* Ручаёўка. *І у стручках варацъ квасýлю — укусна.* Чаплін.

КВАТЭ'РКА *ж.* Фортачка. *З Масквы перадавалі, шоб не завешувалі і шоб кватэ́рка була аткрытая.* Дзяражычы. *Аткрыйце кватэ́рку, а то дыхаць нечым.* Казярогі.

КВЕТ *м.* Кветка. *Суконны плоток з кветáмі.* Казярогі.

КВЕ'ЦАЦЬ *незак.* Мазаць, пэцкаць. *Шчо ты тут квéцаеш?* Дзяражычы.

КВО'ЛІЦЦА *незак.* Быць хворым. *Ена ж усё лецечка квóліцца.* Дзяражычы.

КВО'ЛЫ *прым.* Слабы, хваравіты. *Чым-небудзь бальны, слабенькі — квóлы.* Казярогі. *Можа пацерпеці да прытвараецца трохі — вот і квóлы.* Бывалькі. *Вот екі ён квóлы, за его не вазьміся; я тожа квóлая: як трохі забалею, дак і прытвараюся.* Вулкан.

КЕ'ГАЦЬ *незак.* Крычаць (пра гусей). *Гусь кéгае.* Бывалькі.

КІДА'ЦЬ *незак.* 1. Кідаць. *Жонку кідáе да з ею знаецца.* Дзяражычы. *Шухля — бальшая лапата, кідáюць ею песок і усе такое.* Ручаёўка. 2. *перан.* Садзіць бульбу. *Некаторые садяць, некаторые кідáюць. Кідáюць — коробку берэш і кідáеш. А садім, дак з кошыка ці з ведра па адной.* Пярэдзелка.

КІЁК *м.* Кій. *Матка за кіёк, пашла, разагнала заручыны. Бувала цэбер цэлы наллем малака у хлеве да на кіёк і несом.* Дзяражычы. *У Гомлі худенькая, як еты кіёк, стала.* Чаплін.

КІЙКІ' *мн.* Кукуруза. *Найшла дзе знесцісь курыца — у кійкáх.* Казярогі. *Мая жонка добра умее варыць кійкí.* Карпаўка. *Дубовая каша з кійкóў.* Пярэдзелка.

КІ'ПЕТАК *м.* Кіпень, вар. *Кіпетак — ета гарачая вада.* Ручаёўка. *Ллём кіпетак у белле.* Чаплін.

КІПЕ'ЦЬ *незак.* 1. Кіпець. *Кіпіць борич у печы.* Ручаёўка.// Жадаць, быць узбуджаным. *Параска тая за ім кіпéла, дай паехала у чужые сёла даіць коровы, а ён ажаніўся.* Дзяражычы. 2. Гніць, псавацца. *Дым паднімаецца з бурта — кіпіць кортошка, сеяць ею нельга, ена була перададена крухмальнаму заводу.* Первамайск.

КІРЗА'ТЫ *прым.* Кірпаты. *Такая кірзáтая, як цацка.* Дзяражычы. *Нос кірзáты.* Бывалькі. *Памянш.* кірзáценькі. *Кірзáценькая, як лялька, носіка саўсім не відна.* Дзяражычы.

КІРСА′ *ж.* Апілкі. *Ета ж кірса́ лежыць. Сходіце прынесіце кірсы́ у сарай.* Ручаёўка.

КІРШЭ′НЬ *ж.* Карак. *Адін аднаго укволіць, дак кажуць: а ты б узяў его за кіршэ́нь да аб землю.* Пярэдзелка. *Дай ему добра у кіршэ́нь, дак не буде лезці.* Ручаёўка.

КІСЕ′ЙКА *ж.* Паркалёвая хустка. *У магазін прывезлі кісе́йкі.* Карпаўка. *Купіла сабе две беленькіе кісе́йкі, улетку добра буде насіць.* Первамайск.

КІСЛЯ′К *м.* Сыракваша. *Кісля́к вазьмі на стале у гладышцы.* Бывалькі. *Деўкі, запівайце кіслеко́м.* Дзяражычы.

КІТА′ЙКА *ж.* Стужка. *Іді купі сабе кіта́йкі у лаўцы, будеш заплетаць у косы.* Пярэдзелка.

КІЎ *м.*Ківок. *Хорошае діця дак і ківу баіцца.* Дзяражычы.

КІ′ЦІЦА *ж.* Кутас у поясе. *Плетуць із розных нітак паесы, а із кіціц банцікі заўяжуць.* Ручаёўка. *Акрайкі булі лучковые с кіціцамі.* Дзяражычы.

КІ′ЦІЦЫ *мн.* Махры. *Прыўёз мне калісь мужык плоток з кіціцамі, дак ён і зараз шчэ жыве.* Карпаўка.

КІ′ЧКА *ж.* 1. Куча. *Седяць жукі кічкамі — кучаю такою, па чатыры умесці, адін на адном лежаць.* Ручаёўка. 2. Корч. *Кічкі капаць — кусты раскарчоўваць, карчы капаць.* Казярогі.

КІ′ШКІ *мн.* 1. Кішкі. *У майго унука летась буў заварат кішо́к, зелені багата наеўся.* Ручаёўка. 2. *перан.* Мякаць у гарбузах. *Вубераш гарбузы, кішкі коровам пакідай.* Казярогі. *У красных гарбузах і кішак меней і смачнейшыя ены.* Дзяражычы.

КІШЭ′НЯ *ж.* Кішэнь. *Кішэ́ня цепер старые говораць, а маладые — карман.* Ручаёўка. *Кішэ́ня у старых баб напераді.* Дзяражычы. *Кішэ́ні у баб у спадніцы, у мужчын — карман.* Первамайск.

КІЯ′НКА *ж.* Драўляны малаток. *Кія́нка — дераўяны молоток, екім загінаюць жэсць.* Пярэдзелка.

КІЯХІ′ *мн.* 1. Кукуруза. *Кіехі дабрэнные параслі, на кожнай кіяшыне па тры штукі кіехо́ў.* Дзяражычы. *Раней з кіехо́ў хлеб рабілі.* Ручаёўка. 2. Рагоз. *Па-ручаёўску называецца кіехі, рагаза называецца: у болоці вісокая расце, ліст шырокі, а наверсі во етые кіехі.* Ручаёўка.

КІЯ′ШНІК *м.* Сцябло кукурузы з лісцямі. *Іді наламай кія́шніку.* Ручаёўка. *Кія́шнік векікі поро́с.* Чаплін.

КЛА'ДКА *ж.* Кладка. *Кла́дка була гнілой і правалілась, дак чуць вуцеглі хлопца.* Ручаёўка. *Ідзі чэраз кла́дку да цікава, не упадзі.* Дзяражычы.//Дошка, на якой мыюць бялізну на рэчцы. *Можа б я у вас кла́дкі разжылась, а то нема на чом плацце праць.* Дзяражычы.

КЛАПО'ЎНІК *м.* Багун. *Багон — его клапо́ўнік у нас дражнуць.* Ручаёўка.

КЛА'СЦІ *незак.* Класці. *Калісь сена на гору кла́лі, а еты год нема чого кла́сці.* Карпаўка. // Засольваць. *Ета ж кладе́ш у дежкі — дак ета варыва.* Дзяражычы.

КЛА'СЦІСЯ *незак.* 1. Класціся. *Ці скора ты будеш кла́сціся спаць? Тушы свет.* Бывалькі. *Рэзаные кортоплі кладу́цца скрылікі у чыгунок да у печ.* Дзяражычы. 2. *перан.* Раўняцца. *Ты ж не кладзі́ся са мной, ты можаш літру гарэлкі вупіць.* Дзяражычы.

КЛЕ'ПНІ *мн. груб.* Ногі. *Раскідаў клёпні, не прайці.* Дзяражычы.

КЛЕ'СЦІ *незак.* Клясці. *Ена его так клене́. Дак я кажу: ці доўга ты его будеш кле́сці, ты его душу праклела.* Дзяражычы. 2. Лаяць. *Цэлы день невестку клене́.* Бывалькі. *Калісь і мене свекруха клела́, а як стала сама слабая, дак ні разу не пасварылася.* Бывалькі.

КЛЕ'СЦІСЯ *незак.* 1. Клясціся. *Ох, ты клёўся, ты бажыўся* (З нар. песні). Пярэдзелка. 2. Лаяцца, сварыцца. *Вот кляне́цца Насця, толькі ее і чутна.* Бывалькі. *Дед клене́цца на мене.* Ручаёўка.

КЛЁК [1] *м.* 1. Розум. *Нема у цебе клёку у галаве.* Карпаўка. 2. Сіла. *А мой, думаеце, добры, сколькі з моладасці клёку вуцег — п'яць раз кідаў.* Ручаёўка.

КЛЁК [2]: *у клёка гуляць.* Удзельнічаць у дзіцячай гульні. *У клёка мы весной гуляем.* Карпаўка.

КЛЁЎ *м.* Клёў рыбы. *Клёў за разденцам быў сённі неплахі.* Карпаўка.

КЛЁЦКА *ж.* Клёцка, мучная або бульбяная галушка. *Клёцкі у нас не любяць, луччай локшына.* Бывалькі. *Дранікі сілна качаюць, аджымаюць і ў молоко кідаюць — клёцкі.* Пярэдзелка. *Клёцкі з корто́шкі і робяць.* Первамайск.

КЛІ'КАЦЬ: *клікаць вясну́.* Сустракаць вясну. *Пачынаюць рабіць у городе і весну́ клікаюць тады.* Ручаёўка.

КЛІ'ННЕ *н. зб.* Трохкутны кусок тканіны, устаўка ў сукенку. *Ззаду кління багата, можна дзіця уверцець.* Дзяражычы. *Клінне у плацце устаў, шырэй буде.* Казярогі.

КЛІ'ШАВЫ: *клішавыя ногі*. Крывыя ногі. *А ногі у его клішавые*. Дзяражычы.

КЛО'ПАТ [1] *м*. Клопат. *Стольki клóпату було з естым парасям: цэлы день шукалі*. Бывалькі.

КЛО'ПАТ [2] *м*. Усё роўна, абыякава. *От табе клóпат, калі хто поеде*. Пярэдзелка. *Мне клóпат, абы я ні голóдная была да ні голая*. Рудня Марымонава. *Мне клóпату: як хоча, так нехай делае*. Ручаёўка.

КЛО'ПАТ [3] *часц*. Няхай. *Грышачка карандаш у рот берэ.— Клóпат. Дак у рот берэ.— Клóпат*. Бывалькі. *Я не так заслала пасцель? — Да клопат, паладім тады ужо*. Дзяражычы. *Клóпат, ены ж маладые, дак нехай ужэ робяць, што хочуць*. Ручаёўка.

КЛУНЯ'ГА, КЛУМЯ'ГА *ж*. Клунак. *Ён везе клунягі конём*. Дзяражычы. *Прынесуць деці два клумягі мукі, я трынаццаць-чатырнаццаць буханак спеку*. Чаплін.

КЛЮЧ [1] *м*. Ключ. *Замкні там дверы, а ключ пакладі пад чыгун*. Бывалькі.

КЛЮЧ [2] *м*. Натоўп, гурт (людзей).— *Што такое ключ? — Стаіць вочарадь, дак кажуць: «Цэлы ключ народу». З Германії, як нашы аслабанілі, ключ народу прыехаў*. Дзяражычы.

КЛЮЧО'М *прысл*. Разам, сумесна, узяўшысь адзін за аднаго. *Пад рукі беруцца деўкі, такім ключом і пеюць*. Бывалькі. *Калісь деўкі і хлопцы беруцца ключóм да і гуляюць і пеюць*. Дзяражычы.

КЛЮША'ЦЦА *незак*. Важдацца. *Не клюшайся доўга з мужыком, кідай, не жыві*. Дзяражычы.

КЛЯВА'ЦЬ *незак*. 1. Клявáць. *У деда не клюе, то ён стары, дак его абегаюць плотачкі*. Дзяражычы. 2. *перан*. Калоць. *Ён буде клевáць дрова*. Дзяражычы.

КЛЯ'ДЗЬБА: *кля́дзьба кла́сці (пакласці)*. Клясціся. *У п'яценку светую плашчаніцу светую уносяці, усякіе кля́дьбы клалі*. Ручаёўка. *Паклáла клядьбу на его*. Чаплін.

КЛЯПЕ'Ц *м*. Плотка. *Кляпéц — плотачка, кругленькая, тоўсценькая*. Бывалькі. *Ну і налавіў! Кляпцá дохлага*. Пярэдзелка.

КЛЯ'ТЫ *прым*. Пракляты. *Душа кля́тая то найдецца. Е такіе кля́тые душы*. Дзяражычы.

КМЁТКІ *прым*. Кемлівы, цямлівы. *Ходóрына Валя— кмёткая деўка. Кмёткая — старанная, паметлівая*. Ручаёўка.

КНЫ'ПЕЛЬ *м.* Друк. *Было Улляні узяць кныпель добры да па ём і па ёй. Схвацілі кныпеля?* Дзяражычы.

КНЯ'ЖЫ *прым.* Дружка маладога. *Вашаму княжо́му ўзялі чуба дай урэзалі, на воротах дай павесілі, хто йде, дай пытае, чый чуб ета летае* (З нар. песні). Крупейкі.

КО'ДЛА *н.* Род, племя. *Мае кодла з Магілёўшчыны.* Первамайск. *Ко́дла — ета уся мая прырода, родічы.* Ручаёўка.

КО'ЖА *ж.* Скура. *Аж мороз па ко́жы сыпле, так працїйна збіраць каларадаў.* Ручаёўка.

КО'ЖДЫ *займ.* Ко́жны. *Узела у Гены красных кордопляў да у ко́ждую бораздy накідала.* Дзяражычы. *Абсудяць, а тады прыбегуць, а ена ко́ждаму на, на.* Дзяражычы. *Ена к ко́ждаму подойде і ко́ждага падведе.* Первамайск.

КО'ЖЫН *займ.* Кожны. *Ко́жын себе стоіць: гуляка себе стоіць, роботнік себе стоіць.* Дзяражычы. *Ко́жын чалавек кабанчыка б'е.* Ручаёўка.

КО'ЗЛІКІ *мн.* Заплеценыя валасы. *Ты доўга будеш хадіць незаплеценай, ідї, заплецїся у ко́злікі.* Бывалькі. *Ко́злікі заплецеш, а тады трапачкі туды.* Дзяражычы. *А мая девачка тая — у ко́зліках косы.* Бывалькі. *У ко́злікі косы заплетаюць.* Дзяражычы.

КО'ЗНАЯ *прым.* Котная (пра казу). *Каза ко́зная, скора акоціцца.* Дзяражычы. *Ко́зная каза па девяць месяцаў ходіць.* Чаплін.

КОЙ *займ.* Сёе-тое. *У нас на квацеры вучыцелка, а цеперакі паехала здаваць у Мінск. Шчэ кой лежыць у нас: і кнігі, і валенцы.* Ручаёўка.

КОЙ-ДЗІ *прысл.* Сям-там, дзе-нідзе. *Ена кой-ді, кой-ді муха тая летае.* Дзяражычы.

КОЙ-СКО'ЛЬКІ *прысл.* Крыху, некалькі. *Карто́пляў засталося кой-ско́лькі, скаціні ужэ не даём.* Ручаёўка.

КОЙ-Я'К *прысл.* Як-небудзь, так-сяк. *Дед узяў кабылу да склалі воз да кой-я́к і ездзілі.* Ручаёўка.

КО'КА *н.* Яечка (у размове з дзецьмі). *Варацца ко́кі, ціха, ціха, зараз дам.* Бывалькі.

КО'ЛАС *м.* Колас. *Снапы ставілі каласа́мі уверх.* Бывалькі.// Збожжа. *Ко́лас я додому прынесла, дак паўпуда було.* Дзяражычы.

КО'ЛЬКІ [1] *ліч.* Некалькі. *Унесе павесам ко́лькі.* Ручаёўка.

КО'ЛЬКІ [2] *прысл.* Колькі. *У мене ко́лькі було на ква-*

*церы*. Ручаёўка. △ *Ко́лькі заўго́дна*. Шмат. *Сенакосу накосім ко́лькі заўго́дна*. Дзяражычы.

КОМ *м*. Камяк. *Ко́мамі пустацвет у гурках*. Ручаёўка.

КО'МЕЛЬ *м*. Дзяркач. *Матка мая увыйшла, да за ко́мель, да давай чысціць нас*. Бывалькі. *Ідзі, бо зараз ко́млем па спіне дам*. Дзяражычы.

КО'МІНАК *м*. Выступ у печы. *Падай спічкі, там на ко́мінку лежаць*. Первамайск.

КО'МЛАТА *ж*. 1. Пакой. *Я вас пераберу у тую ко́млату*. Дзяражычы. *У іх добрые ко́млаты, велікіе*. Ручаёўка. 2. Гарадскі дом. *У Веры у хаце, як у ко́млаці, а у цебе шчо, адна гразь*. Дзяражычы.//Хата. *Ён прышоў, а ена з хаты уцекла. А ён: «Люба Дзмітраўна, ідзі у ко́млату»*. Ручаёўка.

КОН *м*. Гульня ў мяч.— *А де ж хлопцы? — Пайшлі у кон гуляць*. Пярэдзелка. *Кон — гульня у мяч. Адводяць поле, паделяюцца на две парцеі, беруць мяч і кідаюць. У ко́го папаў, той выходзіць*. Первамайск.

КО'НІК[1] *м*. Цвыркун. *На траву вунь сколькі ко́нікаў прыгае*. Чаплін.

КО'НІК[2] *м*. Чарка. *Ко́нік — ета калісь чарка*. Дзяражычы.

КО'НІК[3] *м*. Варэнік. *Заўтра будам з вішань ко́нікі делаць. Ко́нікі маленькіе, лепяцца кулачкамі*. Дзяражычы. *Два ко́нікі прынёс, шо пекуць із сырам*. Казярогі.

КО'НІКІ *мн*. Жарты. *Пару ко́нікаў выдумаем*. Чаплін. △ *Ко́нікі вытвара́ць*. Капрызіць. *Ко́нікі вытвара́е у хаці*. Пярэдзелка.

КО'РШАК, КО'РШЫК *м*. Каршун. *Ко́ршак усіх курэй табе перацегае*. Пярэдзелка. *Ко́ршык хваць і несе к старыку. Ахотнікі будуць гнаць вутку, а я зделаюсь ко́ршыкам*. Крупейкі.

КО'СТУР *м*. Мыліца. *Як не с ко́стурам іду, дак я валяюся. Хадня з ко́стурам не хадня*. Бывалькі. *Страшна, ужэ гады тры з ко́стурам хаджу*. Дзяражычы. *Пііп на кастуро́х, ножка его не становіцца*. Первамайск.

КО'СЫ *мн*. 1. Валасы. *Абстрыжы хлопца, а то ко́сы ужэ велікіе*. Дзяражычы. *У цебе ко́сы густые*. Ручаёўка. 2. Вусікі ў кукурузным пачатку. *Кіехі ужэ ко́сы папускалі*. Ручаёўка. *Ко́сы пачарнелі, трэба напарыць кіехоў*. Чаплін.

КО́СЯ-КО́СЯ *выкл.* Выгук для падзывання коней. *Я ему ко́ся-ко́ся, а ён бежыць ат мене.* Ручаёўка.

КОТ[1]: *ката́ пець.* Калыханку спяваць. *Так спіцца у ценьку да гомоняць, як ката́ пяю́ць.* Ручаёўка. *Кату́ па пяту́.* Маларослы. *Куды ён годны, кату́ на пету́, а шчэ лезе наперад.* Казярогі.

КОТ[2]: *ко́там скаціцца.* Адубеўшы, скарчанеўшы скаціцца. *Баба скацілася ко́там з воза, мерзляком.* Пярэдзелка.

КО́ТЛІШЧА *н.* Выкачанае месца.— *Ко́тлішча — ета калі коні ці коровы па пасевам ці па траве пакачаліс. Во пакачаліс, ко́тлішча пастаянная зрабілі.* Ручаёўка.

КО́ЎБІК, КО́ЎБАК *м.* Страўнік жывёлы. *Усё нутро сабака выцег: і чэпец, і ко́ўбік, і сала тое, і кішкі. Мы ко́ўбік начынім легкавушкаю, дак смачны, смачны.* Дзяражычы. *Вывернулі ко́ўбак, а там і гвазды, і сцекло. Вот і здохла корова.* Первамайск. *Памянш.* ко́ўбічак. *Ена ж ко́ўбічак як начыніць, да перчыку пакладе, да цыбулькі, да спечэ.* Дзяражычы.

КО́ХТА *ж.* 1. Кофта. *Ко́хту без рукавоў пашыла на лета.* Дзяражычы. *Пашыю ко́хту па модзі.* Чаплін. 2. Верхняя жаночая вопратка доўгага памеру. *Ко́хта доўгая, ніжэй кален, цёплая такая.* Дзяражычы. *Кухвайка коротхкая, а даўжэйшая — ко́хта на ваці. Кажуць: доўгая кохта.* Пярэдзелка. *Памянш.* ко́хтачка. *У нас кажуць ко́хта, ко́хтачка, а екіе у горадзі жывуць, дак гаво́раць блузка. З мацераі ко́хтачка.* Дзяражычы. *Зашморгні ко́хтачку.* Ручаёўка.

КОЦ *м.* 1. Радно. *Коц завецца посцілка з тоўстай пражы. Радны белые, а кацы́ красяць.* Дзяражычы. *Коц — посцілка з трапак.* Карпаўка. *Коц — его ткуць, накідаюць чэраз трэсціну, трапкі рвуць да закладаюць — ета коц.* Пярэдзелка. 2. Палавік. *Новы коц вуткала, цепер надоўга хваціць засцілаць мост.* Бывалькі.

КО́ШКА[1] *ж.* Кошка. *Ко́шку трэба куды-небудь занесці, такая шкадлівая стала.* Бывалькі.

КО́ШКА[2] *ж.* Прылада для выцягвання затануўшых рэчаў: *Ко́шкай боўталі, боўталі, а ведра нема.* Пярэдзелка.

КРА́ДЗЕЖКА *ж.* Крадзёж. *Жонка без кра́дежкі не растранецца.* Ручаёўка.

КРАЙ[1] *м.* Край. *З далёкага кра́ю ён прыехаў.* Вулкан.

КРАЙ² *прыназ.* Каля. *Ой, седела Машачка край акéнца* (З нар. песні). Дзяражычы.

КРА'Й-НА-КРА'Й *прысл.* Далёка-далёка. *Ена цеперакі вучыцца, еде крáй-на-крáй, да пісьма нема, а маццы гора.* Чаплін.

КРАЛІ'ХА *ж.* Труска. *Кралíха коціцца і па чэцвера.* Чаплін.

КРАЛІ'ЦА *ж.* Труска. *Кралíца крольная.* Дзяражычы.

КРАМ *м.* Крамніна. *Калісь разношчыкі насілі крам.* Дзяражычы. *Крáму выслала маццы.* Ручаёўка. *Раней жа мы увесь маціp'ял крáмам называлі. Люда, екісці там крам лежыць на лаўцы, заберы его.* Чаплін.

КРАМНІНА' *ж.* Крамніна. *Крамнінá — атрэзаў багата.* Ручаёўка. *Ена баба баіцца, штоб не умерла, як стане вувешуваць, дак аднае крамніны́ веровак пяць.* Дзяражычы.

КРАМНЫ' *прым.* Кра́мны. *Крамнóе палатно не то, што саматканае.* Казярогі.

КРАМСА'ЛА *н.* Красала. *Я узяў крэмсáла да як стукнуў аб крэмень.* Ручаёўка.

КРАМЯ' *прыназ.* Акрамя. *Калісь крамя́ палатнянага нічога не пабачыш.* Пярэдзелка.

КРАПІ'ВІЦА *ж.* Крапіва. *Крапівіцу паламала круга горóда.* Ручаёўка.

КРАПІ'ЎКА *ж.* Хатняя кветка. *У крапíўцы лісце зелёнае з краснымі полосамі.* Ручаёўка.

КРАПІ'ЦЦА *незак.* Мацавацца. *Дорожка крэ́піцца на шнуру, а рыба хватае.* Пярэдзелка.

КРАПІ'ЦЬ¹ *незак.* Мацаваць. *Ужэ як мене господь крэ́піць на етам свеці — девеноста годоў мне, я его слаўлю день і ноч.* Чаплін.

КРАПІ'ЦЬ² *незак.* Латаць. *Учора увесь день адежу крэпіла.* Ручаёўка. *Я крэпіла сегодні, латак стolькі напрылеплівала.* Крупейкі.

КРАПУ'ЗНЫ *прым.* Моцны. *Такіе крапýзные мешкі, што десяць годоў будуць жыць.* Пярэдзелка.

КРАПЧАЛЕ'ННЫ *прым.* Моцны. *Крапчалéнная веройка — і бык не атарве.* Пярэдзелка.

КРАПЧУ'ШЧЫ *прым.* Вельмі моцны. *Екі ён крапчýшчы, нічым его не вуведеш.* Ручаёўка.

КРАПЧЭ'ННА *прысл.* Вельмі моцна. *Нага крапчэ́нна балела.* Пярэдзелка.

КРАСАВІ'К *м.* Жучок на коласе ў час красавання злакаў. *Жучкі будуць красавікі.* Дзяражычы. *Красавікі — красненькіе жучкі.* Казярогі.

КРАСАТА' *ж.* Прыгажосць. *Пагледі, екі хорошы — і на красату́, і на усё.* Чаплін.

КРАСІ'ВА *прысл.* 1. Прыгожа, хараша. *Вон ворыва харашэ прысцілаецца, як красіва гледець.* Бывалькі. *Красіва говорать у Радулі, міне радульская гово́рка болей наравіцца, чым украінськая.* Дзяражычы. *Красіва ены жывуць — над саменькай рэкой.* Дзяражычы. *Мы над Днепром жывом — красіва, красіва.* Чаплін. 2. Хораша. *Е такіе духі, што красіва пахнуць, адна бутылачка мо сто рублей стоіць.* Дзяражычы.

КРАСІВЕ'ННА *прысл.* Вельмі прыгожа. *На весне красіве́нна.* Пярэдзелка.

КРАСІВЕ'ННЫ прым. Вельмі прыгожы. *Красіве́нныя хаты.* Бывалькі. *Ото ж душа уродіцца прыгожая, да міленная, да красіве́нная.* Дзяражычы.

КРАСІ'ВЫ *прым.* 1. Прыгожы. *А чалавек хорошы, хорошы, і красівы, і удачлівы.* Дзяражычы. *Его не було тры месяцы, дак ена расправілася, хорошая стала такая, красівая.* Крупейкі. 2. Прыемны. *У духах запах красівы.* Дзяражычы. 3. Цікавы. *Ну, як кніга? Красівая? — Красівая, за адну ноч прачытаў.* Пярэдзелка. *Памянш.* красівенькі. *Гледіце, красівенькі хлопчык стаў.* Дзяражычы.

КРА'СКА[1] *ж.* Фарба. *Кра́скі розные бером: і красные, і сініе — усякіе.* Ручаёўка.

КРА'СКА[2] *ж.* Кветка. *Той год у мене такіе кра́скі раслі.* Дзяражычы. *А кра́сак у сені колькі!* Казярогі.

КРАСНАПЕ'РКА *ж.* Чырвонапёрка. *Краснапе́рка на мух добра клюе.* Карпаўка. *Кінь ты іх туды, краснапе́рак етых.* Пярэдзелка.

КРА'СНАЯ *прым.* Гатунак бульбы, морквы і інш. *Узела у Гены кра́сных да у кождую бораздy пакідала.* Дзяражычы. *А кра́сная лупіцца так дабрэнная.* Ручаёўка. *Кра́сная морква саладейшая і за белую і за жоўтую.* Дзяражычы.

КРА'СНЫ *прым.* Чырвоны. *Што ета вы кра́снае есце у місцы? — Квасоўку.* Бывалькі. *Пецьмінкі на децях такіе кра́сные ат клопоў.* Дзяражычы.

КРАЧ *м.* Крачка, балотная птушка, падобная да чайкі. *Асушылі болота, і крача́м нема де жыць.* Пярэдзелка.

КРА'ШШЫ *прым.* Прыгажэйшы. *Шчэ крашшые булі.* Ручаёўка.

- КРОЛЬ *м.* Трус. *Ён кралі берэ і здайе.* Дзяражычы. *Пошоў к бабам, а ены навоз вукідаюць.— З чого новоз.— З кролікаў, і кролёў.— О-о, нада болей разводіць, штоб болей было новозу.* Казярогі. *Калісь у мене тожа кралі булі, багата було.* Чаплін.

КРО'ЛЬНАЯ *прым.* Цяжарная (пра трусіху). *Краліца крольная.* Дзяражычы.

КРО'СНА *мн.* Кросны. *Ты ж тут ляпала кро́сна.* Дзяражычы. *У мене стаялі кро́сна.* Карпаўка. *Памянш.* кро́сенцы. *Я сабрала клубочкаў, хацела вуткаць, а кро́сенец нема.* Дзяражычы.

КРУГА [1] *прысл.* Вакол, навокал. *Машына лежыць, і шохвір ходіць круга́.* Дзяражычы. *Круга́ которые паехалі, скора будуць тут.* Чаплін.

КРУГА [2] *прыназ.* Вакол. *Коўбік, а круга́ его сала тое брыжамі, як чэпец, дак і кажуць чэпец.* Дзяражычы. *Попо́ў круга́ цэрквы харанілі.* Карпаўка. *Гадюка закруцілась круга́ палкі.* Чаплін.

КРУГА'К *м.* Фасоля, якая ўецца.— *Де тычкі для кругаку́ беру? — У лесі, арэшнік секу.* Дзяражычы.

КРУ'ГЛЫ: *кру́глы ву́гал.* Від вугла ў залежнасці ад спосабу рубкі. *Ву́гал бувае просты, калі абрэзаецца, і кру́глы, калі не абрэзаецца.* Ручаёўка. △ *Кру́глая кача́лка.* Качалка, на якую накручваюць бялізну пры качанні. *На кру́глую кача́лку наматваюць там ручнікі, сорочкі — усе і качаюць.* Ручаёўка. *Кру́глая паду́шка.* Падушка чатырохвугольнай (квадратнай) формы. *Кру́глых паду́шак калісь не було, а доўгіе, чэраз увесь пол пакладе дай спяць чалавек пяць-шэсць.* Пярэдзелка. *Цепер тольки кру́глые паду́шкі делаюць.* Чаплін. *Кру́глая цыбу́ля.* Гатунак цыбулі. *А я ж кру́глую цыбу́лю папрадавала на базары па руб дваццаць.* Казярогі. *Памянш.* кру́гленечкі. *Кру́гленечкі учорі буў* (месяц), *ужэ рушыла.* Ручаёўка.

КРУГЛЯ'К *м.* Гатунак сена. *Круглае сена і у серодкі нападобіе пробкі, м'якхае — кругля́к.* Пярэдзелка.

КРУГЛЯКА' *прысл.* Кругам. *Да пажылі мы там з тыджань, чыгуняку наварым кортопляў, высыплем на мешок, пасядам круглека́ да з'едім.* Дзяражычы.

КРУ'ЖАВА, КРУ'ЖАВЯ *н.* Карункі. *Трэба ета мне кру́жава чырвачкай звезаць.* Дзяражычы. *А пасерэдіне*

*настольніцы кру́жава ушывалі, було вельмі красіва.* Ручаёўка. *Кру́жавы прышываюцца к набожніку.* Чаплін. *У нас вяжуць кру́жавя зубцамі і без зубоў.* Карпаўка. *Падзорнікі абшываюцца кру́жавямі.* Дзяражычы.

КРУЖАЎНЫ′ *прым.* Карункавы. *Бачыла красівую просціну, абшыта кружаўны́м узорам.* Карпаўка. *Кружаўны́ — ета калі вяза́ные з узорам.* Первамайск.

КРУПЯ′НКА *ж.* Крывянка. *Кроў і крупу уліваюць у шырокіе кішкі, запекаюць — круп'я́нка.* Пярэдзелка. *Мы скрозь делаем круп'я́нкі, як б'ём кабана.* Чаплін.

КРУЦЁЛКА[1] *ж.* 1. Закрутка. *Круцёлка у сенцах зламалася.* Бывалькі. 2. *перан.* Жвавая, рухавая дзяўчына. *От, круцёлка, перад зеркалам толькі круціцца.* Дзяражычы.

КРУЦЁЛКА[2] *ж.* Кудзеля. *Тады круцяць у круцёлку, у куделю, дай прадуць.* Пярэдзелка.

КРУЦІ′ЦЬ *незак.* 1. Круціць. *Рукі баляць круціць тое калесо.* Бывалькі. *Аттуль такіе выдмы: вецер выдымае такую яму, кру́ціць і кру́ціць.* Дзяражычы. 2. *перан.* Хлусіць. *Ён круціў, круціў, як сабака, а тады пошо́ў саўсім ад децей.* Пярэдзелка. 3. Свідраваць. *Ены булі у тае арганізацыі, де землю круцілі.* Ручаёўка. 4. Забіваць. *Увосень будем петушкоў круціць.* Дзяражычы. *Шкадую круціць — маленькае ешчэ вуценятка.* Пярэдзелка.

КРУЦЯНІ′ *мн.* Ежа з цыбулі і шчаўя. *І пышкі пеклі, і круцені круцілі.* Дзяражычы.

КРУЧА′К *м.* Фасоля, якая ўецца. *Пасеела кручаку́ пяць радкоў.* Казярогі. *Кручак высокі уецца, круціцца, нема знаку колькі.* Ручаёўка.

КРУ′ЧАНКА *ж.* Безразважная асоба. *Чого ты бегаеш, як тая кру́чанка.* Дзяражычы.

КРУ′ЧАНЫ *прым.* 1. Шалёны. *Сабака кру́чаны бег учора, дак так страшка: слюна бежыць із рота, хвост апушчаны.* Бывалькі. 2. *перан.* Безразважны. *Шохвір жа кру́чаны: ён жа еде безабразна.* Дзяражычы. *Што з ім гаварыць: ён жа кру́чаны, як нап'еццa, так і пачынае сварыцца.* Ручаёўка. 3. Жвавы, рухавы. *От такі шалёны, кру́чаны парасёнак, як метла, не пастаіць на месці.* Дзяражычы. 4. Прыбытковы. *Тут жа у Ручаёўцы так жывуць: ягады дурные, грыб дурны, планы кру́чаные, корова е, свінне е — от ены і п'юць.* Ручаёўка.

КРУЧО′К *м.* 1. Кручок. *У нас пруткамі меней в'яжуць, а усе больш кручко́м.* Бывалькі. *Два разы на кру-*

*чо́к берэш.* Дзяражычы. 2. *перан.* Згорблены, сагнуты чалавек. *Жыву кручо́к стала, а була дейка, як дейка, як медведь.* Ручаёўка.

КРЫВАВА'ЦЬ *незак.* Зайздросціць. *Еслі будеш жыць хараше, болей будуць крывава́ць.* Пярэдзелка.

КРЫВА'ВЕЦ *м.* Крываўнік. *Крыва́вец даюць коровам, еслі мочыцца кроўю.* Пярэдзелка.

КРЫ'ГА [1] *ж.* Крыга, ільдзіна. *Кры́га іде, а ён за брэдень.* Чаплін. *От ета снег долоў, шчэ кры́га лежыць, а я іду у рэчку.* Ручаёўка.

КРЫ'ГА [2] *ж.* Браднік. *Кры́гай добра лавіць у ціхую погоду.* Карпаўка. *Кры́гу робяць з палазоў і поло́цен.* Ручаёўка.

КРЫЖ *м.* Ніжняя частка хрыбетніка. *Азадак цегае кабан, хтось па крыжу́ ударыў.* Бывалькі. *Крыж — ета ззаду у кабана ці каровы.* Ручаёўка. 2. Бядро, клуб. *Ена весной прыехала, дак була луччай, тут крыжы́ такіе булі.* Дзяражычы. 3. Акарак. *У намесніка крыж от такі во, аж некрасіва, шыі не відна.* Ручаёўка.

КРЫЖА'ХА *ж.* Крыжанка, дзікая качка. *Крыжа́ху застрэліў Іван.* Пярэдзелка.

КРЫКЛІ'ЎКА *ж.* Крыкуха, крыкса. *Ну і крыкліўка!* Дзяражычы. *І малая була крыклівая і цепер крыкліўка.* Первамайск.

КРЫ'НДЖАЛЫ *мн.* Сані для вывазкі лесу, калод. *Цепер кры́нджалаў ужэ не делаюць.* Пярэдзелка. *Кры́нджаламі калісь вывозілі лес зімой.* Чаплін.

КРЫНІ'ЦА *ж.* Крыніца. *Ніякіх каўтобаў там німа, крыніцы дай усе.* Дзяражычы.

КРЫ'НКА *ж.* Гладыш. *Я натапіла две кры́нкі малака.* Казярогі. *Я надаіла кры́нку малака.* Карпаўка.

КРЫ'ПЛЫ *прым.* Посны (пра мяса). *Асталося трохі кры́плага м'яса.* Пярэдзелка.

КРЫ'СА *ж.* Пацук. *Хвост у кры́сы, як вероўка.* Чаплін.

КРЫЎЯ'НКА *ж.* Каўбаса з крыві. *Кроў і мука да уліваюць у шырокіе кішкі — крыўя́нка.* Пярэдзелка.

КРЫЧА'ЦЬ *незак.* 1. Крычаць. *Ета не люді, а жабаеды: едяць і крыча́ць.* Дзяражычы. *Свінне крыча́ць, корова раве, дроў нема.* Ручаёўка. *Крыча́ць гусі на лузе, аж тут чутна.* Чаплін. 2. Пець, спяваць. *Ён з маладых, што крыча́ць увечары. Люблю слухаць, як крыча́ць, такіе красівые песні.* Казярогі.

КРЫШАНІ′ *мн.* Суп з бульбы. *Крышэні толькі і варацъ.* Бывалькі. *Наварыла крышанёў з рыбаю да напекла драчоў са сметанаю.* Дзяражычы. *Вечарам асобенна крышэні смашныя, як на вуліцы варыш.* Первамайск. *Парасятам свекруха варыла усю зімачку крышэні.* Ручаёўка.

КРЭ′МЗАЦЬ *незак.* Рэзаць. *Крэ́мзайце ножыкам усе.* Пярэдзелка.

КРЭ′ПКА *прысл.* Моцна. *Ты не валнуйся аб етам крэ́пка.* Бывалькі. *Пенсая нам не крэ́пка інцерэсна.* Дзяражычы. *Я утамілася крэ́пка.* Казярогі. *Галава мая крэ́пка баліць.* Карпаўка. *У мене і тое радіва крэпка так гаварыла.* Дзяражычы.

КРЭ′ПКІ *прым.* 1. Дужы, здаровы, моцны. *Даўніе люді крэ́пкіе. То ж ена крэ́пкая була: ат язвы атлечылі.* Ручаёўка. *Чуць крэ́пкая еечка, кажуць мацак.* Дзяражычы. *Дошч ішоў у лесі такі крэ́пкі.* Ручаёўка. *Перацеглі труднасці крэ́пкіе, перацеглі.* Вулкан. 2. Цвёрды. *Крэ́пкі снег—ідеш, не правальваецца.* Пярэдзелка. *Адін крэ́пкі качан расце, тугі, а другі м'яккі, той шуляк.* Ручаёўка.

КРЭ′ПША *прысл.* Мацней. *Крэ́пша жывуць у Рудні Марымонавай.* Первамайск.

КРЭ′СЛА *н.* Устаўка ў штанах. *Ну екіе ж штаны без крэсла.* Ручаёўка. *У штанах крэ́сла е, а то шаг ступіш і парвецца.* Чаплін.

КРЭ′ЎНЫ *прым.* Кроўны, родны. *Кроў ва сне — крэ́ўнага когóсьці пабачыш.* Дзяражычы.

КУ′БЕЛ *м.* Бочка з векам для сховы адзежы ці сала. *Кýбел — дежка з вушкамі і засаўка, накрываецца кружок такі — века.* Ручаёўка. *У кýбел сала складаем.* Пярэдзелка. *Кýблы булі круглые із верхам.* Бывалькі. *На Юр'я старая устала, вунесла з кýбла постóлікі.* Дзяражычы. *Кýбел мёду Дятлы накачалі.* Ручаёўка. *Памянш.* кýблік. *Вялікі — кубел, малы — кýблік.* Пярэдзелка. *Кýблік сала наклалі, а засталося паўкубліка.* Ручаёўка.

КУ′БЛІЦЦА *незак.* Марудна рабіць. *Мая нявестка як метла була, а твая кýбліцца.* Дзяражычы.

КУБЛО′ *н.* 1. Гняздо. *Забраў верабеек з кублá.* Бывалькі. *Учора деці хаділі у лес, дак казалі, бачылі варонінае кублó.* Ручаёўка. *Не знайшла зразу кублá, а куры нанасілі стольі еечак да ужэ і папорціліся.* Чаплін. 2. *перан.* Шапка. *Васілёва шапка — то ж кублó!* Ручаёўка.

3. *перан.* Валасы. *Ці астрыжэш ты сваё кубло́, а то я абстрыгу нажніцамі, як авечку.* Чаплін.

КУ'ГА *ж.* Вяха. *Ку́гі ставіць паехаў.* Пярэдзелка. *І сын такі жадны: на ку́гах роботае, працай зарабляе багата, а старца век не подо́рыць.* Дзяражычы.

КУ'ГАЧНІК *м.* Бакеншчык. *Ку́гашнік — тое, шо малевы, шо ставіць кугі.* Пярэдзелка. *Ку́гачнікі, што хванеры паляць.* Дзяражычы. *Праехала лаўка, дак толькі тым, ку́гачнікам везлі, шчо на кугах.* Первамайск.

КУДА'КТАЦЬ *незак.* Кудахтаць. *Мо де і курыца загубілась: ото ж ена кудáкча.* Дзяражычы. *Бач, куры кудактаюць, нехта напужаў.* Ручаёўка.

КУДА'СЬ *прысл.* Кудысь, кудысьці. *Ужэ кудáсь пло- то́к запрасарыла.* Дзяражычы.

КУДЗЕ'ЛІЦЬ *зак.* Пыліць. *Весной цэлы день кудéліць і кудéліць на полі, то ж там трактарысты араюць.* Пярэдзелка.

КУДЛА'ТЫ *прым.* Калматы, кучаравы. *Не хадзі такім кудлáтым.* Ручаёўка. *Вунь баба з кудлáтымі валасамі пашла — такіе красівыя валасы.* Ручаёўка.

КУ'ДЛЫ *мн. неадабр.* Валасы. *Сколькі я его знаю, дак ніколі ку́длы свае не прычэша.* Вулкан. *Рашчашы свае чорные ку́длы.* Ручаёўка. *Бач, якіе ку́длы на галаве, як баранчык.* Чаплін.

КУДРАВЕ'Ц *м.* Аксамітка. *Адных кудраўцо́ў насеяла у гаро́дчыку.* Казярогі.

КУДЫ' *прысл.* 1. Куды. *Куды́ тая Верачка гадіцца?* Дзяражычы. *Лён, кажуць, сабіраць, а куды́ ж его сабіраць, калі ён жары, як сабака.* Дзяражычы. 2. Кудынебудзь. *Нада мне куды́ атлучыцца, дак я атлучусь. Я б учора і тронулася куды́ гуляць, дак баба не хоча пускаць.* Дзяражычы. *Шчаслівенька, мо по дорозі куды́ паедіце.* Первамайск.

КУ'ЗІК *м.* Гузік. *Зашпулі мне ку́зік.* Пярэдзелка. *Делалі ку́зікі з нітак.* Ручаёўка. *Ку́зікі атарваліся, прышыць нада.* Чаплін.

КУКАВА'ЦЬ *незак.* 1. Кукаваць. *Учорі чула: кукавáла кукушка у лесі.* Вулкан. 2. *перан.* Плакаць, бедаваць. *Братоў не стала з вайны — усе кукавáлі.* Чаплін.

КУ'КЛА[1] *ж.* Лялька. *Пабач ека у нас ку́кла, Марынцы прывезлі з Гомля.* Ручаёўка.

КУ'КЛА[2] *ж.* 1. Жаночая прычоска. *Тацяна усю жысць у ку́клу круціць косы.* Первамайск. 2. Звязка па-

чэсанага лёну. *Закручваюць лён, як на галаве валасы, вот ета называецца ку́кла.* Ручаёўка.

КУЛА'ГА *ж.* Саладуха. *Кула́га — кісель з грэцкай мукі.* Дзяражычы. *Жытная мука нада і грэцкая: з тае сладасць, з тае кіслата. Запарыць жытную, а потым грэцкую, палучаецца кісла-сладкая кула́га.* Пярэдзелка. *Кула́га з трох мук: жытная, ячная, грэцкая.* Ручаёўка.

КУЛА'К *м.* 1. Кулак. *Часта трос кулако́м пад носам, як п'яны прыдзе, а усё ж такі не біўся.* Пярэдзелка. 2. *перан.* Маленькі гаршчок. *Сабе вот екі маленькі кула́к зварыць, дроў трохі падкіне, дак і хата не награваецца.* Карпаўка.

КУЛА'НДАРКА *ж.* Лялька. *Хаця б мама кула́ндарцы ногу прышыла. Б'е кула́ндарку Галька.* Бывалькі.

КУЛЁК [1] *м.* Саматканая світка. *Кулёк — суконная, саматканая світка мужчынская.* Дзяражычы. *Кулькі калісь ткалі самі і насілі.* Первамайск.

КУЛЁК [2] *м.* Звязка лёну. *Две павесмы — кулёк, дваццаць жменек.* Первамайск. *Вязачка лёну — павесма; у нас хто кажа кулёк, хто — две павесмы.* Пярэдзелка.

КУЛІДА'ХА *ж.* Булка хлеба. *У нас лежыць на увесь стол куліда́ха.* Бывалькі. *Куліда́ху ем неделю.* Первамайск.

КУЛІ'ДКА *ж.* Булка хлеба. *Кулідкі не за шчо купіць.* Дзяражычы. *Я маленькімі кулідкамі не пекла.* Казярогі. *Купі адну кулідку хлеба.* Карпаўка.

КУЛЬ *м.* 1. Вялікі сноп. *Кулі трэба скласці у копу, а то пойде дошч і намочыць.* Ручаёўка. 2. Сноп адборнай саломы для накрыцця хаты. *Я сейчас за грошы купіла куле́й і накрыла хату.* Дзяражычы. *Сноп еты, што крыюць, кулём называецца.* Ручаёўка.

КУ'ЛЬКА *ж.* Верхняя жаночая вопратка доўгага памеру. *Калісь ку́лькі нашы бабы насілі.* Бывалькі. *Ку́лька даўжэй ватніцы, на хлоп'і.* Дзяражычы.

КУЛЬМЕ'НЬ *м.* Куль у рыбалоўнай прыладзе. *Кульме́нь — аканечная частка невада ці брэдня.* Пярэдзелка.

КУ'ЛЬТА *ж.* Кукса. *Як не завежу ку́льты, дак не дайду нікуды.* Дзяражычы.

КУЛЯ'МІ *прысл.* Кумільгам. *Прышла: падай жа, мая Алесечка, да я пайду хуценечка. Дак як я і бачу — куля́мі і пакаціла, пакаціла.* Ручаёўка.

КУМЕ'Ц *м.* Кум. *Куме́ц, уціралі му свойго́ сем'яніна: умер на той неделі наш бацька.* Ручаёўка.

КУМІ'ЦА *ж.* Кума. *Ім ена буде іменна куміца.* Дзяражычы. *Куміца мая прынесла.* Ручаёўка.

КУ'МКАЦЬ *незак.* Падаваць гукі кум-кум (пра жаб). *Дашчу німа, а жабы кýмкаюць.* Дзяражычы.

КУНЕ'ЖЫЦЦА *незак.* Песціцца. *Кволы — ета здорóвы, да кунéжыцца больна.* Ручаёўка.

КУ'П'Е *н.* Куп'ё. *Па кýп'ю добрые журавіны.* Бывалькі. *Трава да екоесь кýп'е — пырай.* Дзяражычы.

КУ'ПІСТЫ *прым.* Купісты. *Болóта — кýпістае места.* Пярэдзелка.

КУ'РА *ж.* Курыца. *Рабая кýра добра несецца.* Ручаёўка. *Кýры німа тае, шо ваділа.* Чаплін. *Робóтала і на целятах, і на курах, і на свіннях.* Бывалькі.

КУРА'КТАЦЬ *незак.* Кудахтаць. *Кура курáкча — знесла ейцо.* Казярогі. *Кура перастала курáктаць.* Пярэдзелка.

КУРАНЕ'Ц *м.* Курэнь, часовае жыллё. *Хат не було, усе було разбурана, люді жылі у курэнцóх.* Первамайск.

КУРА'ТНІК *м.* 1. Куратнік. *Курáтнік добры зделалі у калгасі.* Вулкан. 2. Мужчына, які даглядае курэй. *Буў курáтнік, да пошóў у горад робóтаць.* Ручаёўка.

КУРА'ТНІЦА *ж.* Жанчына, якая даглядае курэй. *Курáтніцу ніяк не найці, не хочуць робóтаць, а мая Прося і курáтніцай була.* Ручаёўка.

КУРДА' *ж* і *м.* Чалавек малога росту. *Петро маленькі мужчына, дак курдá і курдá, і жонка его такая — курдá.* Пярэдзелка.

КУРНІ'ЦА *ж.* Маленькая хатка. *У сей курніцы нема чогó і беліць, пабеліш — і знаку нема.* Ручаёўка.

КУРНУ'ЦЬ *зак.* Хутка пабегчы. *Як курнýлі, дак толькі пяткі мелькаюць.* Дзяражычы.

КУРО'ДЫМ *м.* Густы дым. *З торху курóдым іде.* Дзяражычы. *Накладі курóдыму, штоб мошкі не лецелі.* Пярэдзелка.

КУСТ *м.* 1. Куст, хмызняк. *Саўсім у етых кустáх запуталась.* Ручаёўка. 2. Куст цыбулі, памідораў і г. д. *Усякую саділа: і тую, екая кустáмі расце, і тую екая цыбулінай велікай.* Дзяражычы. *Калі куст памідор бальшы, высокі, то абезаценлна нада падвязаць.* Ручаёўка. 3. *перан.* Жыллё, дом. *Із старога кустá неахота выбіраццi.* Дзяражычы.

КУСЮ'ЛЯ-КУСЮ'ЛЯ *выкл.* Выгук для падзывання жарабят. *Кусю́ля-кусю́ля — маняць лашонка.* Ручаёўка.

КУТ *м.* Вугал, кут. *Кут толькі адін у хаце — де іконы, а то усе куткі.* Карпаўка. *У нас скрозь на куцё стаіць столік і віконы вісяць.* Папоўка.

КУ'ТАЦЬ *незак.* 1. Агароджваць. *Кўтаць город трэба.* Карпаўка. 2. Укручваць. *Бач, як Манька сваю ляльку кўтае.* Дзяражычы.

КУТО'К *м.* Куток (у хаце, на дварэ, у вёсцы, у полі). *Замеці смецце у кутóк.* Ручаёўка. *Ена б здолела, пабегла б да аббегала б увесь кутóк, дак ена не бачыць. У две стаді ганяюць короў, той кутóк асобенна.* Дзяражычы. *Адно діця у мене, як ужэ вужаня, дак ні у які кутóк нельзя іці.* Дзяражычы.

КУ'ТНІ *прым.* Карэнны (пра зуб). *У мене ужэ два кўтніх нема.* Ручаёўка. *Калі паследніе зубы, то кўтніе, ці проці вока.* Чаплін.

КУ'ХЛІК *м.* Кубак. *У кўхлік молоко наліваюць, чай п'юць.* Пярэдзелка. *О-о, у мене вада е у кўхліку.* Дзяражычы.

КУХТА'ЛЬ *м.* Грымак, кухталь. *Нехай бы бацьку кухталя́ поднёс.* Дзяражычы. *Надаваў кухталёў і пабег.* Пярэдзелка.

КУЦАПЕ'ТКА *ж.* Нізкарослы чалавек. *Волька такая маленечкая — куцапéтка у нас кажуць.* Дзяражычы.

КУЦЦЯ' *ж.* 1. Куцця, абрадавая вячэра. *Тры куцці у каляды: две посных, а пасерэдіні багатая — шчадруха.* Дзяражычы. 2. Каша. *Деўкам у школу нанач варыла куццю́; ечмéню натаўчэш і зварыш кашу густую — куццю́.* Ручаёўка. △ *Пóсная куцця́, пéршая куцця́.* Абрадавая вячэра перад калядамі. *На пóсную куццю́ вараць посны боршч, кашу, узвар.* Чаплін. *На пéршую куццю́ варым жа куццю́ — кашу такую ячнаю ці грэцкаю.* Ручаёўка. *Бага́тая куцця́.* Абрадавая вячэра перад Новым годам. *Бага́тая куцця́ проці Новага году, тады скаромнае можна есці.* Чаплін. *Трэ́ццяя куцця́.* Абрадавая вячэра перад вадохрышчам. *На трэ́цяю куццю́ поснічаюць, ходяць у цэркву.* Чаплін.

КУ'ЦЫ *прым.* 1. Малараслы. *Жэншчына кўцая, таўстая.* Бывалькі. *Кўцы, дак выдумалі дўпель, куцэйшы за бабу.* Дзяражычы. 2. Кароткі. *Пінжачок кўцы стаў.* Вулкан.

КУ'ЧА *ж.* 1. Куча. *Гной скідаў у кўчу.* Дзяражычы. *Склаў у кўчу вілы, граблі.* Карпаўка. 2. *перан.* Гурт, натоўп. *Калісь я іду у Ліпнекі, а кўча стаіць мужчын.* Дзя-

ражычы. *Баба Мар'я вушла да сабрала баб ку́чу да расказала.* Ручаёўка.

КУЧАРА'ЎКА *ж.* Жоўтая вяргіня. *Як геаргіны, да толькі жоўтые — па-нашему кучэра́ўкі.* Дзяражычы.

КУЧАРЫ' *мн.* Ку́чары. *Да кучары́ у етага, шо на сестрэ жэнаты.* Дзяражычы.

КУ'ЧКА *ж.* 1. Кучка. *Я не награбаю бальшые ку́чкі на корто́плі.* Ручаёўка. 2. Натоўп, гурт. *Ідi — ку́чка там і там стаіць, а пад ігрушаю седяць.* Ручаёўка. *Бабка, чого у цебе больша ку́чка вуценят, а у нас малая?* Чаплін.

# Л

ЛАБАДА' *ж.* Лебяда. *Лабады́ нарву.* Бывалькі. *Ла-баду́ добра есць кабанчык.* Дзяражычы.

ЛАБЕ'ТЫ: *узя́ць у лабе́ты.* Абмяжоўваць свабоду дзеянняў. *Віцю того узя́лі у лабе́ты, дак і пускаць баяцца.* Дзяражычы.

ЛАБО'К *м.* Франтон. *Лобо́к з шалёўкі забіваецца, ета стрэшка унізе франтона.* Казярогі.

ЛА'ВА *ж.* Залеж, аблога. *Ла́ва — пустая земля пад жыта, пасуць скот. У нас пад жыта ла́ва пустуе.* Пярэдзелка. *Гані у тую ла́ву, у Пугачы.* Чаплін.

ЛАВА'ЦЬ *незак.* Лавіць. *Ена усе нашы словы лава́е да запісуе.* Ручаёўка.

ЛАВІ'ЦЬ: *лавіць акуні.* Драмаць. *Чо ты там акуні ло́віш? Ідi спаць.* Карпаўка. *Лавіць ха́йкі.* Зяваць. *Як толькі вечар, так наш Павел і ло́віць ха́йкі.* Пярэдзелка.

ЛАД: *у ладу́.* У добрых адносінах. *Ена век была у ладу́ з невесткамі.* Бывалькі.

ЛА'ДЗІЦЦА *незак.* 1. Дага́ворвацца. *Девачкі велікіе, дак нехай ла́дяцца удвох да спяць.* Дзяражычы. 2. Будавацца. *Шчэ ла́дяцца? Калі ужэ будуць уходіны?* Дзяражычы.

ЛА'ДЗІЦЬ *незак.* 1. Папраўляць, рамантаваць. — *Де твой бацька? — Колля павырывалі, пошоў ла́діць.* Бывалькі. *Усе і ла́діць, і ла́діць того трактара.* Вулкан. *Зімою масты ла́ділі, адбіў палец, доўга лежаў.* Дзяражычы. 2. Жыць у згодзе. *Децей багата, а ла́дяць добра.* Ручаёўка. 3. Прыводзіць у парадак што-небудзь. *У Вулляны кабана білі, дак я кішкі ла́діла.* Дзяражычы. *Быў*

*на чардаку, сена ла́дій.* Ручаёўка.— *Паставілі дежку? — Не, цётка шчэ ла́діць капусту.* Чаплін.

ЛА'ДКА *ж.* Аладка. *Асталіся тые ла́дкі, азяблі і ніхто не хоча есці. Прохолодалі тые ла́дкі.* Ручаёўка.

ЛА'ДНАГА *прысл.* Досыць многа. *Жыта ла́днага і ячменю ла́днага, дак ены укормяць кабана.* Чаплін.

ЛА'ДНЫ *прым.* 1. Ладны, досыць вялікі. *О-о, як атступалі палякі, дак я ужэ деўка ла́дная была.* Дзяражычы. *За лета мае парасята ла́дные павырасталі.* Ручаёўка. 2. Добры. *Ла́дная песня, душэўная, так бы і слухаў.* Чаплін.

ЛАДО'НЯ *ж.* Далонь. *Ладонь — то па-навучнаму, а ета ладо́ня.* Ручаёўка.

ЛАЖЫ'ЦЦА *незак.* Наставаць. *Да і зіма лажы́цца, сухая зіма буде.* Дзяражычы.

ЛАЗ *м.* Лаза. *Загадае перэвітак наламаць з сухога ла́зу і паліць завіць.* Дзяражычы.

ЛА'ЗЫ *мн.* Лесвіца. *Ла́зы — ета такая длінная лесніца.* Чаплін.

ЛАЗЯ'НКА *ж.* Будынак з лазы. *У хаці-лазя́нцы жыве.* Дзяражычы. *Лазя́нкі трэба строіць для короў, свіней, дерава у нас нема.* Ручаёўка.

ЛАЗЯНЫ' *прым.* Зроблены з лазы. *Лазены́ сараї, там німа ні діркі, нічога.* Казярогі.

ЛА'ЙБА *ж.* Баржа. *Ла́йба па рэцэ плавае.* Дзяражычы. *Ехаў да у ла́йбу стукнуў дравамі — лодкай, і патануў.* Пярэдзелка.

ЛАЙНО' *н.* Посцілка. *Загарні діця шчэ у лайно́, штоб цеплей було.* Дзяражычы.

ЛАМА'ЧЧА *н. зб.* 1. Ламачча. *Мар'я пойде у ламá́чча, а я кабана пагадую, ламá́чча унесу, чыгуны паналіваю.* Дзяражычы. *Панасцягувалі ламá́чча, трэба вукідаць, а ены пастаўлялі у хаці.* Ручаёўка. 2. *перан.* Стары, хворы чалавек. *Як такому ламá́ччу жыць, дак луччай умерці.* Дзяражычы.

ЛАПАТА'ХА *ж.* Балбатуха. *Ета сваха — лапатáха, толькі ее і чуеш, так ены робяць і у брыгаді.* Дзяражычы.

ЛАПАТА'ЦЬ *незак.* Бурчаць, сварыцца. *Хоць ён і добры, а ена на его лапо́ча і лапо́ча.* Ручаёўка.

ЛАПАТУ'ХА[1] *ж.* Карабатае месца на лязе касы. *О-о, дай нагнаў ты лапату́хі, касіць не будеш.* Пярэдзелка.

ЛАПАТУ'ХА[2] *ж.* Балбатуха. *Згаварысь с Надінай лапату́хаю.* Дзяражычы.

ЛА'ПАЦЬ *незак.* Капаць. *Дошч ла́пае і ла́пае, я стаю жду, а таварыша нема.* Ручаёўка.

ЛАПЕ'ЧКА *ж.* Лапік. *Лапе́чку цыбулі і лапе́чку чэснаку пасаділа.* Ручаёўка. *Дай ты мне етые лапе́чкі, ены у цебе усероўна валяюцца.* Дзяражычы.

ЛА'САЧКА *ж.* Ласкавая жанчына. *Матка кажа: «Нашто ты ему дулю дала, ён жа вупіў, ты б ле его ла́сачкай, а ты ему дулю».* Дзяражычы. *Ена такая ла́сачка, усе ее любяць.* Бывалькі.

ЛАСКАВІ'К *м.* Мяшочак для сыру. *З двух гладышак — ласкаві́к сыру.* Бывалькі. *Ласкаві́к — сумка для сыру.* Казярогі. *Падай мне ласкаві́к, сыр адкіну.* Пярэдзелка.

ЛАСКАТА'ЦЬ *незак.* Казытаць. *Чаго ты ласко́чыш мене?* Дзяражычы.

ЛАСКА'ЦЬ *незак.* Запрашаць. *Даўно нас деці ужэ ласка́юць к сабе.* Ручаёўка.

ЛА'СТАЎКА *ж.* 1. Ластаўка. *Сегодні ла́стаўкі нізка летаюць.* Бывалькі. 2. Клін, устаўка ў сарочку пад пахамі. *Пад рукавы устаўлялі ла́стаўкі, каб раскошна було.* Ручаёўка. *Тады ж раней соро́чкі шылі не так, як цепер, а з ла́стаўкамі. Січас ета мода вышла.* Чаплін. *Памянш.* ла́ставачка. 1. *Ла́ставачкі летаюць перад дажджом.* Дзяражычы. 2. *Ла́ставачка сюды прышываецца, штоб буў шыршы рукаў.* Дзяражычы.

ЛАТА'К *м.* Коўш. *Лата́к — коўш, што сыпляцца ўдабрэнне з самалёта.* Казярогі.

ЛА'ТАНЫ *прым.* Латаны (пра адзенне). *Бабы прыдуць да надеusername такіе ла́таные кухвайкі, а жывуць луччай мене. А я надену не ла́таную кухвайку, а цэлую, дак кажуць: ена багатая.* Дзяражычы.

ЛАТА'ЦЬ *незак.* Латаць. *Я лата́ю свекру кухвайку, а ена несе мне діцяці.* Ручаёўка.

ЛАТАЧО'К *м.* Латак. *Па латачку́ іде адгон, дак ён сівенькі, сівенькі.* Дзяражычы.

ЛА'ТКА *ж.* 1. Лапік, латка, кавалак тканіны. *Налапіла штаны ці кажух ла́ткаю.* Пярэдзелка. *Ла́так панаслала на спадніцу.* Ручаёўка. *У ла́ццы там у мене цэмент.* Дзяражычы. *Папашукалі, а ено лежыць у скрыні, у ла́ццы.* Бывалькі. *За мой город вуганяюць, на той ла́цци і таўкуцца каровы.* Чаплін. 2. Кішэня. *У казачыні ла́тка, а ў етай ла́цциы трынаццаць рублёў.* Дзяражычы.

3. *перан.* Лапіна, прагаліна. *У мене проса ла́ткамі паў-сходіла.* Казярогі.

ЛАТЫ′ЗЗЕ *н. зб.* Рызманы, рыззё. *Рванае называюць рыззе, латы́ззе.* Дзяражычы.

ЛА′ЎКА[1] *ж.* Лава. *Лаўка длінная, услончык короценькі.* Казярогі. *Ла́ўку на усю хату делаюць.* Ручаёўка.

ЛА′ЎКА[2] *ж.* Магазін, крама. *Ле ла́ўкіноро́ду, норо́ду.* Дзяражычы. *Нада і сабе пайці у ла́ўку.* Казярогі.

ЛАХА′НЯ *ж.* Вялікая міска. *Паскі пеклі у лаха́ні. Дай бо мне лаха́ні паску пасадіць.* Пярэдзелка.

ЛАХМО′ТКА *ж.* 1. Невялікі кавалак матэрыялу. *Адному наберэ січчыку ці байкі лахмо́тку да другому лахмо́тку.* Дзяражычы. 2. Лахманы. *Лахмо́ткі я не сабіраю, аддай усе сваe Варцы.* Дзяражычы.

ЛА′ЦІНА *ж.* Лата. *Две ла́ціны вурвала і застрэшнік — ото як бура була.* Ручаёўка.

ЛАША′ *н.* Жарабя. *Лаша́ці німа з кабылай.* Дзяражычы. *Лаша́ — по́драстак.* Первамайск.

ЛАШО′НАК *м.* Жарабя ва ўзросце да аднаго году. *Лашо́нка да трох год кормяць, а тады абучаюць і запрагаюць.* Чаплін.

ЛАШЧЫ′ЦА *ж.* 1. Маладая кабыла, жаробка. *Лаша, алі лашы́ца — по́драсткі.* Первамайск. 2. Кабыла. *Лашы́ца ажэрэбілася.* Дзяражычы. *Памянш.* лашычка. *Лашы́чка можа буде добрая кабыла.* Казярогі.

ЛЕ′ГАР *м.* Вага. *Ле́гарам мы падважуем колоды.* Пярэдзелка.

ЛЕ′ГЧАЙ *прысл.* Лягчэй. *Ле́гчай, багата ле́гчай жыці у колхозі.* Чаплін.

ЛЕ′ГША *прысл.* Лягчэй. *Сеццю ле́гша усего лавіць рыбу.* Чаплін.

ЛЕ′ГШАЙ *прысл.* Лягчэй. *Ле́гшай хлопцу там купіць кордопляў, чым павезці.* Первамайск. *Ёй ле́гшай: умесці вучацца.* Дзяражычы.

ЛЕ′ЖАНЬ *м.* 1. Гультай, абібок. *Сын такі лодыр, ле́жань, на роботу не ходіць.* Казярогі. 2. Птушка. *Ле́жань ні гнезда не ў'е, нічога, а лежыць і лежыць.* Ручаёўка.

ЛЕ′ЗЦІ: *із шку́ры ле́зці.* 1. Моцна крычаць. *Такая урэдная дейка: крычыць — із шку́ры ле́зе.* Вулкан. 2. Старанна рабіць. *Як набукроіць ее, дак ена із шку́ры ле́зе, так усе доводіць.* Дзяражычы.

ЛЕМЕХАВА'ТЫ *прым.* Дурнаваты. *Лемехаваты чалавек.* Ручаёўка.

ЛЕНІ'ШЧА *н.* Ільнішча. *На ленішча мы ганялі целят.* Первамайск.

ЛЕ'ПНІ *мн.* Варэнікі. *Я ж лёпней налепіла, іх трэба есці са сметанаю.* Чаплін.

ЛЕПЯСТА'ЦЬ *незак.* Хлюпаць, булькаць. *Так лепестáла усю дорогу у его усерэдіні: на вороцях і кончыўсь у дварэ.* Ручаёўка.

ЛЕПЯЦЁХАЦЬ *незак.* Булькаць. *Суп лепяцёхае — булькоча: зварыўся.* Пярэдзелка.

ЛЕ'СКА *ж.* 1. Лесвіца. *Лёска ото у нас стаіць, шчо лазяць па ёй.* Дзяражычы. *Лёску падставіла да лезь, кажу, на яблыню.* Дзяражычы. 2. Дробныя пруткі для агарожы. *Лёскаю заплетаюць зобóр.* Ручаёўка.//Палка, дошчачка. *Іде, укінула нам лёску у сенцы падпаліваць печ.* Дзяражычы. 3. Доўгая тонкая жэрдка. *Паставіў дед лёску, падпер ею неба* (З казкі). Пярэдзелка. *Памянш.* лёсачка. *Узела лёсачку да пазатыкае діркі — ужэ не к цеплу ідецца, а к холаду. У лубкі, у лёсачкі, узялі: ото ено і страдала.* Дзяражычы.

ЛЕТА: *лёта лёцкае.* На працягу ўсяго лета. *Трэплецца лёта лёцкае.* Казярогі. *Корміць кабаны лёта лёцкае.* Дзяражычы.

ЛЕ'ТАСЬ *прысл.* Летась. *Лётась палучалі харашэ.* Пярэдзелка. *То было лётась.* Ручаёўка.

ЛЕ'ТНІК[1] *м.* Летнік, лёгкі пінжак. *Надень лётнік, шчоб цеплей було.* Дзяражычы. *Я думала ету кохтачку прыгладіць, а ена пад лётнікам добра буде.* Бывалькі. *У лётніку пабегла, а кухвайкі не надела.* Чаплін. *Памянш.* лётнічак. *І кухвайкі не надела, голая і пабегла, у лётнічку, а кухвайка як вісела, так і вісіць.* Дзяражычы.

ЛЕ'ТНІК[2] *м.* Летняе стойла. *У полі ле канавы на летніку доім.* Дзяражычы.

ЛЕ'ЧАЯ *ж.* Адтуліна ў жорнах, куды сыплецца зерне. *Лёчая забілася, трэба прачысціць.* Ручаёўка.

ЛЕ'Я *ж.* Моцны дождж. *Да рэкі дайшлі, аж як пашла лёя, заліва тая, дак вумачыла усіх, усе папóрціла, што на нас було.* Дзяражычы.

ЛЁГАМ: *лёгам ляжáць.* Ляжаць доўга. *Легла і лежыць лёгам.* Дзяражычы. *Уся пшэніца лёгам лежыць, расце зелень па ёй — вотмаладь.* Чаплін.

ЛЁГКАЯ *прым.* Лёгкае. *Куды тая Верачка гадіцца,*

*бок ухлупшы, вунелі адну лёгкую, дак вунімаюць і рабрыны.* Дзяражычы.

ЛЁГКІ *прым.* 1. Лёгкі. *Такі лёгкі мой сыночак стаў, як пушынка.* Бывалькі. *Летась зіма была лёгкая і весна ранняя, таго і сена хваціла.* Дзяражычы. 2. Негарачы. *Я пастаўлю у лёгкі дух уцеты кушын.* Дзяражычы.

ЛЁД: *ад лёду і да лёду.* Круглы год. *Ад лёду і да лёду з городчыка будуць маць.* Ручаёўка.

ЛЁЖКІ *прым.* Які добра захоўваецца (пра гародніну). *Капуста і морква лёжкіе, буракі і картоплі тожа.* Цесны.

ЛЁЗА *ж.* Лязо. *Папрасіла Івана, штоб натачыў мне нажы у кузні, дак ён так натачыў, што за лёза нельга узяцца.* Ручаёўка.

ЛЁПНУЦЬ *зак.* Упасці. *Додо́лу лёпну — ногі не держаць.* Ручаёўка.

ЛЁЎШАЙ *прысл.* Лягчэй, зручней. *Ему над головой лёўшай несці.* Ручаёўка.

ЛІЛЕ'Й *м.* Лілея. *Ліле́й той у Зубахаў расце у городе.* Ручаёўка.

ЛІМЕ'НІЦЬ *незак.* Ісці (пра моцны дождж). *І такі ліме́ніць дошч, што не устоіш на дварэ.* Пярэдзелка.

ЛІН *м.* Рыба лінь. *Сённі з Іванам таптушыў, дак сем ліно́ў паймаў.* Чаплін.

ЛІНІ'ЛА *ж.* Злінялая скура вужа ці гадзюкі. *Лініла — злінак вужа. Кабану даюць вужовае лініла.* Ручаёўка.

ЛІ'ПІНА *ж.* Ліпавае лыка. *Збелеў, як ліпіна.* Дзяражычы.

ЛІ'ПСКІ: *ліпская хуста.* Хустка чырвонага колеру. *Ліпскіе хусты насілі велікіе і малые — красные.* Пярэдзелка.

ЛІСА'ВЫ *прым.* 1. Ласкавы. *Хто ліса́вы, дак кажуць газнічочак.* Дзяражычы. *Татачка — казалі которые ліса́вые.* Пярэдзелка. 2. Ліслівы. *Ена ліса́вая деўка, на ее будеш сварыцца, а ена маўчыць, шчэ пасміхуецца. Ета ліса́вая деўка к кождаму подойде.* Дзяражычы.

ЛІСЁНКА *ж.* Невялікая палатняная сумка. *Калі хаділі у школу, то кніжкі у лісёнку клалі.* Дзяражычы. *Лісёнку шчайўю прынесла.* Ручаёўка. *Памянш.* лісёначка. *Мама, пашый мне лісёначку, бо тую парваў.* Бывалькі.

ЛІСТ: *лістам слаць.* 1. Дагаджаць, гадзіць. *Я ле цебе буду лістам слаць.* Дзяражычы. 2. Красамоўна гаварыць.

*Баба ехідная, а пагаварылі б з ею, дак лістам сцėле.* Ручаёўка.

ЛІ'ТЫ *прым.* Гумавы. *Стары купіў сабе літые сапагі — хлопец прышоў забраў.* Ручаёўка.

ЛІХАЛЕ'ЦЦЕ *н.* Ліха, бяда. *Што вы тут седіце і гледіце, а ліхалėцце у дерэўню коціць. А вы, деўкі, берыцесь за друкі да ганіце ліхалėцце з дерэўні. Ены гумно запалілі, штоб згарэла ліхалėцце* (З нар. казкі). Первамайск.

ЛІ'ХВІК *м.* Жаночая вопратка без рукавоў. *У ліхвіку тры пасачкі былі. Калісь у баб былі ліхвікі з брыжыкамі. Шнуровачка па-вашаму ліхвік, а па-нашаму шнуровачка.* Бывалькі.

ЛІХІ' *прым.* 1. Хворы. *Цепер усе жывуць: і ліхіе, і здоровые, а калісь багата децей умірала.* Ручаёўка. 2. Худы. *Ён такі ліхі стаў, як з ею сышоўся: усё вісіць на ём.* Дзяражычы. *Памянш.* ліхėнечкі. *Хоць ена екая буде ліхėнечкая, дак я ее не кіну.* Дзяражычы.△ *З ліхою няволі.* З лаянкай. *Я прыду, а ена на мене з ліхою невóлі.* Ручаёўка. *Ліхáя гадзіна.* Нядобры час. *Ніхто не прыгарне пры ліхóй гадіне* (З нар. песні). Пярэдзелка.

ЛІЦО' *н.* Твар. *Ліцó паклёвана воспай.* Ручаёўка. *Памянш.* лічанька. *Жыта жала, утамілася, да з лічанька зменілася* (З нар. песні). Пярэдзелка. *Спішу лічанька на бумажцы, прыб'ю к той сцене, де лажыцца мне* (З нар. песні). Бывалькі.

ЛІ'ЧБА *ж.* Падлік. *Лічба — ета лічаць грошы ці што другое.* Ручаёўка.

ЛІЧМА'Н *м.* 1. Ордэн. *Палучыў білет і лічман той.* Дзяражычы. *Ён такі бравы прышоў с арміі, усе груді у лічманáх.* Бывалькі. 2. Медальён. *Лічмáн на шыі блішчыць.* Дзяражычы.

ЛІ'ЧНЫ *прым.* Прывабны, статны. *Ён жа удалы, хорошы, лічны.* Дзяражычы.

ЛІШАТА' *ж.* Лішняе, непатрэбнае. *У іх столькі лішаты́ на городе.* Дзяражычы.

ЛІША'ЦЦА *незак.* Пазбаўляцца. *Із жаднасці ума лішáецца.* Дзяражычы.

ЛІШТВА' *ж.* Ліштва. *Юпку шые, тады падкладе знізу — і ліштвóй называецца.* Ручаёўка. *Падрубі ліштвý, абарвалася.* Чаплін.

ЛОГ *м.* Лагчына з хмызняком. *У лесу мелкае сена, па лагáх буйнейшае.* Пярэдзелка.

ЛО'ДАР *м.* Лежань, лайдак. *Лóдар на абед іде.* Ручаёўка.

ЛО'ЖА *н.* Пасцель, месца для сну. *Мае й лóжа на печы.* Бывалькі.

ЛО'ЖКА *ж.* Лыжка. *Лóжкі новые купілі.* Ручаёўка. *Лóжку з дерава робяць, з ліпы.* Чаплін. *Памянш.* лóжачка. *Усе маленькіе лóжачкі пагнулі.* Казярогі.

ЛО'ЙТРА *ж. зняваж.* Гультай. *Ах ты, лóйтра, лежыш увесь день.* Бывалькі.

ЛО'КАЦЬ *м.* 1. Локаць, частка рукі. *Лóкаць трохі абадрала.* Дзяражычы. *Ударыў лóкаць больна.* Бывалькі.//Частка рукава. *Усе лóкці папрарываў, не успееш загиыць.* Пярэдзелка. 2. Мера даўжыні. *Лóкаць — ат пальчаў да ключыцы, да самай ямачкі.* Дзяражычы.— *Екіе тваe губкі? — Па п'яць лóкцеў, па девяць, па дванаццаць локцеў.* Бывалькі. *Калісь полотно вумеравалі лóкцямі. Па шэсць локóт ткалі.* Ручаёўка. *Сем локóт — хата.* Чаплін.

ЛО'КША *ж.* Локшына. *Наварыла лóкшы, натаўкла маку, спекла конікаў і паставіла крывенькай — ото ж такая добрая була мачыха.* Дзяражычы. *Я ужэ варыла сегодні лóкшу із крухмалу.* Ручаёўка.

ЛО'КШЫНА *ж.* Локшына з крухмалу. *Лóкшына кордóпельная.* Казярогі. *Лóкшына — ета лапша з кордóпельной мукі, з бліноў.* Пярэдзелка. *Лóкшына—лапша з крухмалу.* Чаплін.

ЛО'ПШЫНА *ж.* Локшына. *Лóпшыны наварыла на абед.* Ручаёўка. *Трэба лóпшыны накачаць.* Пярэдзелка.

ЛОСК: *як лоск.* Упокат. *Лежаць, як лоск, столькі іх тады пабілі.* Дзяражычы.

ЛО'СКАТ *м.* Казытанне. *Я баюсь лóскату.* Дзяражычы.

ЛО'ТКА *ж.* Лодка. *Учора і лóтак было хватала, а столькі люду па рацэ ехала.* Дзяражычы.

ЛО'ЎКА *прысл.* Добра. *Чустую себе так спраўна і лóўка.* Дзяражычы.

ЛУ'БКА *ж.* Лубянка (бочачка). *І мед буў, лýбка патакі стаіць.* Дзяражычы. *Поўную лýбку меду накаталі.* Казярогі.//Салянка з кары ліпы. *Насып солі у лýбку. П'яць лýбак солі разышлося.* Ручаёўка.

ЛУБЯ'НКА *ж.* Вялікая бочка, у якую ссыпалі зерне. *Зразу прывезлі зерно і высыпалі у чатыры луб'янкі. Калісь зерно ссыпалі у луб'янкі.* Дзяражычы.

ЛУЗАНУ'ЦЬ *зак.* 1. Сцебануць. *Етага каня калі б толькі лузанўў добра, дак можа б тады пабег.* Ручаёўка. 2. Пайсці (пра дождж). *Я толькі выйшла за прыгорак, а дошч як лузане́, дак я скарэй дамой.* Дзяражычы.

ЛУЗА'ЦЬ *незак.* 1. Лушчыць гарох, фасоль. *Дзеці, вечарам закончым луза́ць карзіну з квасулямі.* Казярогі. 2. Чысціць. *Дубцы луза́лі і кашы плелі.* Дзяражычы.

ЛУЗКА'ЦЬ *незак.* Лузгаць. *Сядь о тутачка да ў жменю лузка́й.* Дзяражычы.

ЛУНІ'ЧКА *ж.* Клубнічка. *Дейкі, ідіце у город, мо де знойдеце луні́чку.* Ручаёўка.

ЛУ'ННА *прысл.* Месячна. *Лу́нна на вуліцы, красіва так.* Чаплін.

ЛУПА' *ж.* Астаткі пасля прасейвання мукі. *Калі прасееш муку, то лупа́ астаецца.* Ручаёўка.

ЛУПА'СІЦЬ *незак. груб.* Лупцаваць. *Ена як пачала его деркачом лупа́сіць.* Дзяражычы.

ЛУПЕ'ШЫЦЬ *незак.* Лупцаваць. *Матка каб куды паехала, хоць бы мене не лупе́шыла.* Дзяражычы.

ЛУПІ'ЦЬ: *зу́бы лупіць.* 1. Смяяцца без прычыны. *Чого ты зу́бы лу́піш? Што ты не бачыла андарака?* Ручаёўка. 2. Гультайнічаць. *Отэта ж цепер добра старым: седім да зу́бы лу́пім.* Чаплін.

ЛУ'ПКА *ж.* Лупцоўка. *Буде табе сегодні лу́пка.* Бывалькі.△ *Даць лу́пкі.* Адлупцаваць. *Еж, бо я табе лу́пкі дам.* Дзяражычы. *Му ему дадім лу́пкі.* Ручаёўка.

ЛУТ: *як лут.* Таўстун. *Іч, выбухайся, як лут. Хорошы такі, як лут, вуп'е усе молоко.* Дзяражычы.

ЛУХТА'Н *м.* Лодар, гультай. *Ідзі, лухта́н, здоровы, сыйдзі з маіх вачэй, праседеў да абеда і проса не стоўк.* Пярэдзелка.

ЛУ'ЦІЦА *ж.* 1. Лаза. *Лу́ціца — такая лаза добрая.* Дзяражычы. 2. *перан.* Драўніна без сучкоў. *Лу́ціца — такая чысценечкая хвоя, шо ніде сучочка німа, аж блішчыць.*//Дошкі. *Ены, дошкі, такіе цікавенечкіе, лу́ціца такая.* Дзяражычы.

ЛУ'ЦЦЕ *н. зб.* Ліпавыя лыкі. *Лу́цце у нас е — лаза на пасталы; трэба надраць луцця.* Дзяражычы.

ЛУЧА'ЦІ *незак.* Страляць з лука. *Буду страляці, буду луча́ці з-пад зелёнага дуба* (З нар. песні). Першамайск.

ЛУ'ЧКІ *мн.* Ніткі. *Лу́чкі бралі і ткалі. Лу́чкі — такіе*

*м'яккіе ніткі, ета сучоные ніткі, с авечак, з воўны.* Дзяражычы.

ЛУЧКО'ВЫ *прым.* Вытканы з нітак. *Акрайкі булі лучко́выe с кіціцамі.* Дзяражычы.

ЛУ'ЧЧА *прысл.* Лепей, лепш. *Паеду я лу́чча заўтра самаходкай у Лоеў.* Дзяражычы. *У новуй хаці заўсегда лучча.* Ручаёўка.

ЛУ'ЧЧАЙ *прысл.* 1. Лепш. *Я б лу́ччай папарадкавала усе да наварыла есці.* Бывалькі. *Лу́ччай бурак здаць, чым картошыну.* Дзяражычы. *Мая дачка хаділа замуж, да кінула, да кажа: «Лу́ччай адной, чым так замужам».* Ручаёўка. 2. Больш. *Настрашаць: не іді, смерць іде у хату — мы шчэ лу́ччай баімся.* Дзяражычы.

ЛУ'ЧЧЫ *прысл.* Лепш. *У горадi жыць лу́ччы.* Бывалькі. *У дерэўні хворс лу́ччы падаюць.* Дзяражычы.

ЛУЧЫ'НА *ж.* 1. Лучына. *Падкінь лучы́ны, нікога не відна.* Мохаў. *Лучы́на для падпалкі.* Ручаёўка. 2. Трэскі. *У Вулкані на трэскі кажуць лучы́на. Рубалі хату, дак столькі лучы́н накідалі.* Вулкан.

ЛУ'ШНІК *м.* Лучнік, прыстасаванне для асвятлення хаты. *У паталку кружок, калпак, а там гарыць лучына— лу́шнік.* Пярэдзелка. *Вісіць мешок у хаці, скавародка ці тарэлка і там агонь — ета лу́шнікі. Свеціліcь так.* Вулкан.

ЛУШЧЭ'ННЕ *н.* Лузанне. *Рукамі лушчылі, а то у мешок сабірала да пранікам па ём наб'ю—вот і лушчэ́нне.* Ручаёўка.

ЛЫГНУ'ЦЬ *зак.* Прагна выпіць. *Два стаканы лыгну́ў, наеўся і падаўся.* Дзяражычы.

ЛЫ'СІКІ *мн.* Бульба ў мундзірах. *Толькі носічак трохі зразаюць, соляць і вараць — ета лы́сікі; зразаюць, штоб соль заходіла.* Пярэдзелка. *Лы́сікі — раба картошка, тады посоляць, ена нача укусна.* Ручаёўка. *Лы́сікаў наварыла сегодні.* Чаплін.

ЛЫ'СЫ: *да й не лы́са.* Пра бестурботнасць. *Набрала кайстру мукі, да й не лы́са — не аддае.* Дзяражычы.

ЛЫ'ТКАЦЬ *незак. зняваж.* Хадзіць з хаты ў хату. *Пашла ужэ лы́ткаць па селу.* Дзяражычы.

ЛЫ'ЧАК *м.* Лыч. *Зарабіў свінны лы́чак.* Пярэдзелка. *Свіння рыла лычако́м землю.* Чаплін.

ЛЮБАТА' *ж.* Раскоша, хараство. *Ён у чыстаце і у любаце́ жыў. Вы б нанялі прыслугу да жылі у чыстаце і любаце́.* Дзяражычы.

ЛЮБІ′СЦІК *м.* Любіста. *Рвалі арамонак, усякую траву да купалі унучку, у любісціку купалі. Любісцік трава, лісце так пахне.* Ручаёўка.

ЛЮБІ′ЦЕЛЬКА *ж.* Аматарка. *Прося любіцелка була пець і гулять.* Дзяражычы. *Я була любіцелка рабіць.* Пярэдзелка.

ЛЮД *м.* Людзі, люд. *Столькі лю́ду па рацэ ехала.* Дзяражычы. *Памянш.* лю́дзечкі, лю́дзькі. *Думаю, пайду пабачу екіесь лю́деечкі. Прыдуць лю́деечкі.* Бывалькі. *Усе б лю́деечкі узрадзелі, каб сказалі мір, мір ва усім свету.* Дзяражычы. *А вот, лю́дькі, што ено значыць?* Бывалькі. *Да беда, лю́дькі, не успеў атскочыць, дак задавіла.* Казярогі.

ЛЮДЗІ′НА *ж.* Чалавек. *Хатя б табе людіна папалась, што б цебе трохі гледела.* Пярэдзелка. *Як чужы, кажуць: там адна людіна ходіць, я не угадаў.* Ручаёўка.

ЛЮ′ДНЫ *прым.* Таварыскі. *Ены лю́дные, у іх скрозь люді булі.* Дзяражычы. *Ена век лю́дная: з цэрквы бацька прыведе тры сталы, дак ена прывеціць усіх і панагадоўвае.* Дзяражычы.

ЛЮ′ЛЬКА *ж.* Калыска. *У кого стаячая, дак кажуць лю́лька.* Ручаёўка.

ЛЮЛЯ′ЦЬ *незак.* Калыхаць. *У люльцы діцяці люля́е, а каліcь казалі калыша. Люля́ю — не спіць.* Дзяражычы.

ЛЯ *прыназ.* 1. Для. *Далі ему кваце́ру і ле сем'і. О-о, етага аселенца хваціць ле мене.* Дзяражычы. *Будка ле сабакі.* Казярогі. *У бацькі жыла — любавалася: ле ее комлата була.* Ручаёўка. *Летась купіў сена ле короўкі, сеголета німа за што купляць.* Вулкан. 2. Каля. *Ён сваіх родічаў паўмазваў ле себе.* Бывалькі. *Адін робо́тае ле Рэчыцы.* Вулкан. *Ле капу паставіў вілкі, граблі.* Ручаёўка. *Ена мо ле месяца жаліцца.* Дзяражычы.

ЛЯ′БЕХ *м.* Гультай. *Што за ля́бехі — лежаць цэлы день на сонцы.* Пярэдзелка.

ЛЯ′ГАМ: *ля́гам зацяць.* Залажыць (горла). *Уцета ля́гам за́цела і дыхаць нельга.* Дзяражычы.

ЛЯГКУ′ШКА *ж.* Лёгкае. *Мы ж коўбік начынім легку́шкаю, дак смачны, смачны.* Дзяражычы.

ЛЯДА′ЧЫ *прым.* Лядашчы. *Луччай буду у моры рыбку есці, як на куце мне з леда́чым сесці* (З нар. песні). Пярэдзелка. *Набіла мужа, прагнала з хаты: іді, леда́чы, ганца шукаці* (З нар. песні). Чаплін.

ЛЯДЗЯ′Ш *м.* 1. Кавалак лёду. *Два ледешы́ хорошые*

*узела*. Ручаёўка. 2. Крыга. *Па рацэ ідуць ледешы́*. Ручаёўка.

ЛЯЖА'ЦЬ[1] *незак*. 1. Ляжаць. *Паклалі, дак нехай лежы́ць, не трогай*. Вулкан. 2. Знаходзіцца. *Як молоко у банцы лежы́ць, а ты не хочыш его есці, дак ета ты не голодная*. Дзяражычы. 3. Захоўвацца. *Як уб'еш да холадна, дак сала добра лежы́ць*. Чаплін.

ЛЯЖА'ЦЬ[2] *незак*. Хварэць. *Мой чалавек так доўга лежа́ў, месяцы два, а тады падняўся*. Бывалькі. *Не буў у школі: лежа́ў жыватом. Потам сыйду, я знаю, як лежа́ла малярыяй*. Дзяражычы.

ЛЯЗКО'ЎКА *ж*. Маленькі гаршчок. *Купі бо там маленькую лезко́ўку*. Пярэдзелка. *Памянш*. лязко́вачка. *Абедалі у столовай, дак у лезко́вачках м'яса жаранае давалі*. Пярэдзелка.

ЛЯК *м*. Спалох. *Як найшла хмара, дак я у лозу да у корч.— Мо ты, сваха, так із ля́ку?* Ручаёўка. *У ее на галаве каўтун, ён з ля́ку бувае і з таскі*. Чаплін.

ЛЯКА'ЦЦА *незак*. Палохацца. *Усе й коровы лека́юцца етай шапкі*. Ручаёўка.

ЛЯКА'ЦЬ *незак*. Палохаць. *Лежыць, як корова Шкарубава, і века́лі ее, а ена лежыць*. Ручаёўка.

ЛЯЛЯ'К: *сядзець як ляля́к*. Гультайнічаць. *Тая баба седе́ла як леля́к, а мая Прося гарушчая, усе гаруе і гаруе*. Дзяражычы.

ЛЯПЁШКА *ж. перан*. Неўдалая булка хлеба. *Такі бабы і хлеб пекуць: ізлепеча лепёшку на тарху*. Дзяражычы.

ЛЯ'ПНУЦЬ *зак*. 1. Ляпнуць, стукнуць. *Ах ты, мерзява, головой ля́пні*. Первамайск. 2. *перан*. Зрабіць нешта лёгкае. *Хто ля́пне і раз, дак трэба заплаціць*. Дзяражычы.

ЛЯСІ'НА *ж*. Бервяно. *Выкапае нору, лесінамі абкладе і ставіць дежкі*. Казярогі.

ЛЯ'СКАЦЬ *незак*. 1. Ляскаць, прыбіваць нітку (пры тканні). *Як полотно́ не па берду, дак хоць дваццаць раз ля́скай, а ено буде рэдкае*. Дзяражычы. 2. *перан*. Крычаць. *Чого ж ты так ля́скаеш, што я не чую, ніяк ты не угомоніссяǃ* Крупейкі.

ЛЯСКО'ВАЧКА[1] *ж*. Маленькі гаршчок. *Прыставіла сёдні баршчу адну леско́вачку: ніхто его цепер і есці не хоча*. Пярэдзелка.

ЛЯСКО'ВАЧКА[2] *ж.* Дзіцячая гульня. *Хадзі гуляць у лескóвачку.* Ручаёўка.

ЛЯЎЦЕ'ЦЬ[1] *незак.* Дрыжаць (ад сытасці, тлушчу). *Мішка як пас, дак коні прама леўцéлі.* Ручаёўка.

ЛЯЎЦЕ'ЦЬ[2] *незак.* Торгаць. *Кругом пальцаў так апухла і леўціць.* Дзяражычы.

ЛЯЧО'БА *ж.* Лячэнне. *Там жа ніякай лечóбы не було, а ваўка такая страшная.* Дзяражычы.

# М

МАГА' *ж.* Моц. *Сколькі у его е магі, бежыць у дерэўню.* Первамайск.

МАГАЗІ'НШЧЫЦА *ж.* Прадаўшчыца. *Магазіншчыцы нема, а ены ужэ стаяць.* Дзяражычы. *Ждала, ждала, покуль тая магазіншчыца прыде, а ее нема і нема.* Ручаёўка.

МАДЗЕ'ЦЬ *незак.* Гібець, марнець. *Ужэ так буду мадéць, не пайду к урачу.* Дзяражычы.

МАЗКАВА'ЦЬ *незак.* Разважáць, меркаваць. *Не памагай ёй, хай сама мазкýе, хоць трохі дай рэшыць.* Пярэдзелка.

МАЗКІ' *мн.* Мазгі. *Што у цебе мазкі павысыхалі ці што.* Ручаёўка. *І мазкі ему не павысыхалі, хто етые колоды сюды пазакочуваў.* Пярэдзелка.

МАЙ *м.* 1. Май (месяц). *Мае деці у мáі раділіся.* Бывалькі. 2. Зелень для ўпрыгожвання хаты і акон на тройцу. *Заўтра трэба ставіць май, послізаўтра тройца.* Дзяражычы. *Папрасіла ужэ децей, штоб і мне мáю наламалі, а то хіба я палезу сама на тую ліпу, а ле зокону трэба ж паставіць.* Ручаёўка.

МА'ЙНУЦЬ *зак.* Кінуцца. *Майнулі хлопцы, аж шапкі пагублялі.* Пярэдзелка. *Мáйнуў туды купляць парасята.* Чаплін.

МАКАВІ'ННЕ *н.* Сцяблы маку. *Макавінне вубрасуем на двор, а як я на Украіні була, там жа нема дроў, дак макавінне паляць.* Ручаёўка.

МАКАВЕЦ: *даць макаўцá.* Пстрыкнуць. *Як даў макаўцá у лоб, дак аж гуз ускочыў.* Ручаёўка.

МА'КАЎКА *ж.* 1. Верхняя частка галавы. *На самую мáкаўку бант прычапіла.* Ручаёўка. 2. Лілея. *У нас на белаю лілію кажуць мáкаўка.* Карпаўка.

МАКО'ТРА *ж.* Макацер. *У макотры сметану держаць.* Карпаўка. *Макóтра — глыбокая міска з гліны.* Ручаёўка.

МАКО'ЎНІК *м.* Пірог з макам. *Я вельмі уважаю макóўнікі.* Ручаёўка.

МАКО'ЦЕР *м.* Макацёр. *Назбірала у макóцер сыру.* Казярогі. *Купіла тры гладышкі, адну міску і макóцер.* Дзяражычы.

МАКРЫ'ЗЗЕ *н.* Мокрае рыззё, адзенне, рэчыва. *Не торх, а макрызе. Такі торх нада ануліраваць.* Бывалькі. *Не прасохла за ноч, як етае макрызе надеваць!* Крупейкі.

МАЛАДЖБА' *ж.* Малацьба. *Маладжбы калісь багата було.* Дзяражычы. *Хіба ета маладжбá — адна памалаціла.* Ручаёўка.

МАЛАДЫ' *прым.* 1. Малады. *Ена маладáя, а раз гады свае перарасла, дак гуляць хоча, хоць і маладáя.* Дзяражычы. 2. Рэдкі (аб цесце, хлебе). *Мо молодóе ета цеста? Рэдкаватае цеста — молодóе.* Дзяражычы. *Малады хлеб луччы.* Карпаўка. 3. Нізкай якасці. *Ой, екое у цебе молодóе полотнó, наверна не па берду. Як полотнó не па берду, дак хоць дваццаць раз ляскай, а ено буде молодóе, рэдкае.* Дзяражычы. *Памянш.* маладзéнькі. *Маладéнькіх курачак аставіла, а старых парэзала.* Казярогі.— *Шчэ мукі падсыпаць? — Хваціць, маладéнькае цеста нехай.* Дзяражычы.

МАЛА'Й *м.* 1. Недапечаны хлеб. *Не хлеб у цебе сёдні, баба, а малáй.* Казярогі. *Спёк малáя — так называюць хлеб, які не удаўся.* Пярэдзелка. 2. Хлеб з грэцкай мукі. *Малáй — хлеб з грэцкай мукі.* Дзяражычы. *Малáю, малáю, я цебе ні б'ю, ні лаю, да толькі за хлеб не пачытаю* (З нар. песні). Бывалькі.

МАЛАЛЕ'ТНІ *прым.* 1. Малалетні. *Сам стары, а деці шчэ малалéтніе.* Ручаёўка. 2. Малады. *Летам булі студэнты, многа такіх малалéтніх з Мінська було.* Пярэдзелка.

МАЛАРО'СЕЯ *ж.* Сарочка вышываная. *Сорóчкі насілі ушываные, называлісь маларóсея. Калісь маларóсея була у модзі, а цепер маладёж ее не носіць.* Дзяражычы.

МАЛАСЫ'ТКІ *прым.* Непрагны.— *О-о, ты маласыткая.— А неўжэ ж такая, як ты — ненасыткая. Такая ты маласыткая — трыма трэскамі вутапіш.* Дзяражычы.

МАЛАТА'РКА *ж.* Малатарня. *Учора цэлы дзень малацілі малата́ркаю.* Пярэдзелка.

МАЛВА' *ж.* Чутка, пагалоска. *Такую пусцілі малву́ пра Пашу, а мая девачка не позо́рная.* Дзяражычы.

МАЛЕ'НЕЧАЧКІ *прым.* Вельмі малы. *Мале́нечачкіе еечкі, дай то адно, два.* Дзяражычы.

МАЛЕ'НЬКА *прысл.* Крыху, трохі. *Учора сцірала мале́нька.* Дзяражычы. *Мяса учора стушыла мале́нька, дак его ніхто не есць.* Крупейкі.

МАЛЕ'ПЕНЕЧАЧКІ *прым.* Вельмі маленькі. *Мале́пенечачкае дзіця, а поўзае.* Ручаёўка.

МАЛЕ'СЕНЕЧКІ *прым.* Вельмі маленькі. *Ее мале́сенечкіе пучочкі такіе.* Дзяражычы.

МАЛІТО'ЎНЫ *прым.* Веруючы. *О-о тут жылі людзі, такіе бабы булі маліто́ўные.* Ручаёўка.

МАЛО'ДЖАЙ *прым.* Маладзей. *Ты на чатыры гады моло́джай мене.* Пярэдзелка.

МАЛО'ЗІВА *н.* Малодзіва. *Моло́зіва аттапляюць у печы і едяць.* Ручаёўка. *Дейкі, ідзіце моло́зіва есці.* Чаплін.

МАЛО'ННЯ *ж.* Маланка. *Без грому зіхае: моло́ння арахі усе паз'едае.* Карпаўка. *Моло́ння без гразы вечарам паліць грэчку і арэхі.* Первамайск.

МАЛО'ЧНІКІ *мн.* Малочныя зубы. *У его моло́чнікі позна вураслі.* Ручаёўка. *Ці не моло́чнікі там у его прарэзаюцца, штось палец у рот цягне.* Пярэдзелка.

МАЛЬВА' *ж.* Маляўкі. *Нічога не буде: адна мальва́ ідзе.* Казярогі.

МАЛЯВЫ' *прым.* Бакеншчык. *Малевы́ паліць агні.* Первамайск. *Будка малево́га стаіць ля ракі.* Пярэдзелка.

МАЛЯ'С *м.* Патака. *То ж делаюць маляс — такі мед з буракоў; юшкі нацэдзяць да на сковородкі наварыць — маля́с. Калісь маля́су накупляем да едзім.* Дзяражычы.

МАМІ'НАЧКА *ж.* Ласкавы зварот да любой жанчыны, дзяўчыны. *На, мамі́начка, сюды кладзі. Еслі б, мамі́начка, жалілась ена калі на шчо.* Бывалькі.

МАНА' *ж.* 1. Мана, падман, хлусня. *Дурой бы, мано́й бы век пражыла.* Ручаёўка. 2. Чары, насланне. *От прышлі раз п'яць да от нача екую ману́ на мене напусцілі.* Ручаёўка.

МАНА'РКА *ж.* Музыкальны інструмент. *Прышоў жа манаршчык, манаршчык малады, іздзглаў мана́рку з ее дробных касцей, наводзіў жа струны з ее русай касы, і*

*ставіў манáрку працi царскіх врат* (З нар. песні). Чаплін.

МАНА'Х *м.* Бутля ад 3 да 6 літраў. *Цэлы манáх масла ружэйнага наліў.* Ручаёўка. *Деўкі дасталі маю настойку у манáсі і усю вупілі — цэлых п'яць літраў.* Дзяражычы.

МАНА'ЦЦЕ *н.* Лахманы. *Ну, кага, угадуй, а сама вочы ему закрыла рукамі да за манáцце его держыць.* Крупейкі.

МАНЕ'РКА *ж.* Высокая банка з носікам. *Манéрку бінзыну абернуў да запаліў на весне уцета, дак згарэла тры хаты.* Дзяражычы.

МА'НІЯ *ж.* Здань, прывід. *Седжу дома, як мáнія.* Дзяражычы.

МАНТА'ШКА *ж.* Мянташка. *Мантáшкай манташаць.* Чаплін.

МАНУ'ЦЬ *незак.* 1. Завабліваць. *Ено плавала, танула, к сабе девачку манýла* (З нар. песні). Ручаёўка. 2. Маніць, хлусіць. *Не мані ты, мамка мая, а скажы праўду, куды пашлі хлопцы.* Чаплін.

МАРАВІ'ЦА *ж.* 1. Скула. *І маравíца мне не села.* Карпаўка. 2. Нешта нязначнае.— *Ены ж нагналі гарэлкі? — Эге, нагналі ены маравíцу.* Дзяражычы.

МАРАВЫ': *маравáя скулá.* Карбункул. *Маравáя скула падхапілась пад бородой і памерла. Маравáя — крэпка ніцая.* Ручаёўка.

МАРА' *ж.* Нячысцік. *Думаеш: вот ззаду марá екая схваціць, а цепер ні мары́ німа, нічога.* Ручаёўка. *Калісь казалі, што марá клубком каціласъ за чалавекам.* Ручаёўка.

МАРА'КА *ж.* Дробны дождж. *Сёдні марáка іде.* Дзяражычы.

МАРГАВІ'ЦА *ж.* Маланка. *Маргавíца бліскае увесь вечар.* Бывалькі.

МАРГУ'ЛЯ *ж.* Газоўка. *Стаіць, гарыць маргýля, я куделю праду — загарэлась куделя.* Дзяражычы. *Памянш.* маргýлька. *Баба прала кудельку пад маргýлькаю.* Дзяражычы.

МАРДЗЕ'ЛІК *м.* Корж. *Мардéлікі — коржыкі пшанічныя і жытныя.* Бывалькі.

МАРДЗЕ'ЛЬ *м. груб.* Таўстун. *Мачыха сваіх децей марделёў панагадоўвае, а Есіпавы бегаюці к цёткам. Такі буў мардэ́ль — шчок не відна.* Дзяражычы.

МАРКА'ЛЬ, МАРХА'ЛЬ *м.* Маркач. *Зарэзаў дядька маркалю́.* Пярэдзелка. *Мархалёў я ніколі не держала.* Чаплін.

МА'РНЕ *прысл.* Марна. *Я у чужом краю ма́рне прападаю.* Карпаўка. *Бадай жа вы, гусі, да й ма́рне прапалі* (З нар. песні). Пярэдзелка.

МАРШЧАКІ' *мн.* 1. Маршчыны. *Скольki маршчакóў у цебе на морді.* Дзяражычы. 2. *перан.* Абутак з сукна, палатна. *А мы паўшчуляем маршчакі екіе дай седім у запечку.* Дзяражычы. *Хуценька палатна атрэзала да маршчакі пашыла.* Бывалькі.

МА'РЫЦЬ *незак.* Марыць, зморваць. *Мне сон мóрыць спаць.* Ручаёўка. *Дошч буде, так ма́рыць спаць.* Чаплін.

МАСЛЕ'НІК *м.* Масляк. *Багата е масле́нікаў, мы ужэ наелісь сеголета.* Бывалькі. *Вечарам нажару масле́нікаў з цыбулей.* Казярогі.

МАСЛЮ'К *м.* Масляк. *Маслюкі носяць.* Бывалькі. *Маслюкóў паджарыла две скавародкі.* Карпаўка.

МАСЛЮ'НАВЫ: *маслю́навая хустка.* Шоўкавая хустка. *Булі калісь маслю́навые хусты — велікіе, шаўковые, красівые.* Пярэдзелка.

МАСЛЯ'К *м.* Плявок. *Слюны наберэ да масляка́ дасць, дак аж ірваць верне.* Ручаёўка.

МАСЛЯ'НКА *ж.* Маслёнка. *Ён любіць масля́нку з картоплямі.* Казярогі. *На вечэру солóнікаў з масля́нкай наварым.* Ручаёўка.

МАСО'Л *м.* Маслак. *Трэба пазбіраць маслы́ да на двор свінням павыкідаць.* Пярэдзелка.

МАСТАВІ'НА *ж.* Дошка ў мосце. *Мосціць, мосціць маставіну проці мілага двара. Маставіна праламалась, дружок Ванька патануў* (З нар. песні). Карпаўка.

МАТКІ' *мн.* Каноплі-насеннікі. *Маткі — каноплі з сем'ям.* Бывалькі. *Увосень называюцца маткі — з канаплямі, з зернем.* Вулкан.

МАТЛУ'ЗЗЕ *н.* Мэтлахі, карэнне. *Не кордоплі, а адно матлу́ззе.* Казярогі.

МАТО'РНЫ *прым.* Спрытны, жвавы. *Ена баба мотóрная, усюды паспее.* Ручаёўка.

МАТУЗО'К *м.* Матуз. *Падай мне той матузóк — мешок завезаць.* Казярогі.

МА'ТЧЫНСКІ *прым.* Матчын. *Карсет бабу нашы на-*

*сілі, я мáтчынскі знасіла молóю.* Дзяражычы. *Ета у мене мáччынськая скрыня.* Ручаёўка.

МАТЫ'ЛІЧЫЦЬ *незак.* Кружыцца. *Вой, матылічыць мая галава. А мая не матылічыць.* Бывалькі. *Ён вуп'е да канхветам закусіць, а нада, шоб крапчэйша було, шоб у галаве не матылічыла.* Ручаёўка.

МАЎЧАЦЬ: *маўчáць мóўчыкі.* Быць маўклівым. *Маўчыць мóўчыкі цэлы день.* Ручаёўка.

МАЎЧЛІ'ВЫ *прым.* Маўклівы. *Маўчлівы сын, ат его слова не даб'еcся.* Ручаёўка.

МАХА'ЦЦА *незак.* Матляцца, целяпацца. *Заплела косы, а шчо я буду, шчоб ены махáлісь туды-сюды.* Дзяражычы.

МАХНУ'ЦЬ *зак.* 1. Махнуць. *Махнýла касінкай і паехала.* Вулкан. 2. Паехаць жвава, хутка. *Давай махнóм заўтра у Рэчыцу.* Пярэдзелка. *Пабула баба замужам, да не так, дак махнýла назад.* Ручаёўка. 3. Бліснуць. *Як махнé молнія, дак хвіранку і паверне.* Ручаёўка.

МАХО'ТКА *ж.* 1. Маленькі гаршчок. *Вот у мене екая махóтка. Децям варыла у ёй.* Ручаёўка. 2. Макацёр. *На свята пеком, дак мак тром у махóтцы.* Ручаёўка.

МАХРЫ' *мн.* 1. Махры. *Купіла хустку з махрáмі.* Крупейкі. *Махры з нітак робяць на скацерках і на рушніках.* Чаплін. 2. *перан.* Карэнні на моркве. *Пассекай ножом тые махры на моркве.* Казярогі.

МАЦАВА'ЦЬ *незак.* Трымацца, мацавацца. *Баба там трохі мацýе.* Дзяражычы. *Як вы там мацýеце на печы?* Бывалькі.

МАЦА'К *м.* Яйка з моцнай шкарлупінай. *На паску еечкі красілі, чуць крэпкае, кажуць — мацáк.* Дзяражычы.

МАЦЬ *незак.* Мець. *Ці багата я мáла калісь, от цепер добра жыці!* Дзяражычы.

МАЦЯРЫ'НКА *ж.* Мацярдушка. *Мацерынка — трава, екой чай запарваюць.* Бывалькі.

МАЧА'ННЕ *н.* Страва з сыру і смятаны. *Адкінеш сыр, ён сцечэ, а тады разатрэш, сметаны укінеш, малачком разведеш — і мачáнне.* Ручаёўка. *На абед пекла аладкі, а з чого рабіць мачáнне — не знаю: ці з павідла, ці са сметаны.* Ручаёўка.

МАЧЛІ'ВЫ *прым.* Мокры, багаты на вільгаць, макрату. *Весна мачлівая.* Казярогі. *Мачлівае лета, дашчы кожны день.* Ручаёўка. *Де болота — мачлівае места, а*

*беражок называецца поплаў*. Дзяражычы. *Город у нас мачлівы, дак нічога не расце*. Ручаёўка.

МА'ЦЫНА *ж*. Зерне мака. *Ах, як багата у макаўцы ма́чын*. Казярогі. *Памянш*. ма́чынка. *Ну, як жа его назваць, адно зернятка макавае.— Ма́чынка*. Ручаёўка.

МА'ЧЧЫНСКІ *прым*. Матчын. *Я ма́ччынскі карсет знасіла молою*. Ручаёўка. *Вухрысцілася, ма́ччынськае празванне далі*. Ручаёўка.

МА'ЯЦЬ *незак*. Кідацца. *На палку надеў планшэткі і гоніць каня, ены ма́юць туды-сюды*. Ручаёўка.

МЕД *м*. Мёд. *Водачку пілі, меды елі — ена, баба, роскошная була*. Ручаёўка. *П'яць вуллеў у нас, дак стольկі ме́ду сей год вукачалі*. Дзяражычы.

МЕ'ЖДЫ *прыназ*. Паміж. *Ена ме́жды кортошкі стаіць*. Ручаёўка.

МЕ'КНУЦЦА *зак*. Упасці раптоўна. *Як ме́кнулася, нача екі цельпех*. Ручаёўка.

МЕ'КШАНЫ *прым*. Біты. *Ме́кшаны яблык смашны. Ме́кшана любоў крэпкая*. Ручаёўка.

МЕЛ *м*. 1. Крэйда. *Нада ме́лу купіць да пабеліць хату*. Чаплін. 2. Гліна. *Жоўтага ме́лу прынесла печ замазаць*. Дзяражычы.

МЕ'ЛЬНІЦА *ж*. 1. Млын. *У нас була велікая ме́льніца, зерно молола*. Ручаёўка. 2. Жорны. *Хіба сваіх ме́льніцаў няма?* Ручаёўка.

МЕ'НЕЦЬ *незак*. Змяншацца ў колькасці. *Лета було жаркае і вады у колодежы усё ме́нела і ме́нела*. Ручаёўка.

МЕ'НТУХ *м. абразл*. Гультай. *Іді, ме́нтух здоровы, штоб мае вочы цебе не бачылі*. Пярэдзелка.

МЕ'НЦІЦЬ *незак*. Мянціць. *Ме́нці касу, а то рэзаць не буде*. Ручаёўка.

МЕ'НЧАНЬКІ *прым*. Меншанькі. *Голоўка у девачкі ме́нчанькая*. Дзяражычы.

МЕ'НЧЫ *прым*. Меншы. *Е гільзы бальшые і ме́нчые*. Бывалькі. *Не ме́нчая ж ты, ты ж з большых*. Дзяражычы. *Вулляна большая, а я ужэ ме́нчая*. Дзяражычы.

МЕНЬ *м*. Мянтуз, мянёк. *Аберні корч, там даўжны мені быць*. Карпаўка. *Аднаго, бач, ме́ня укінулі у камсу*. Пярэдзелка.

МЕ'РЛЫ *прым*. Памершы. *Не бачыла нікога ме́рлага, усе жывые*. Дзяражычы.

МЕ'СНАСЦЬ *ж.* Мясцовасць. *У адну мёснасць усім хіба пападе?* Пярэдзелка.

МЕ'СЯЧКА *м.* і *ж.* 1. Месяц. *Ужэ мéсячка не абуты, заўтра погóда буде.* Вулкан. *Як цеперакі — дастаюць і мéсячкі, летаюць на ракетах.* Ручаёўка. 2. Радыска. *Наделай, мама, халадцу з мéсячкі.* Казярогі. *А выгадна мéсячку саджаць: месяц парасце — і вызрэла.* Мохаў.

МЕСЯЧНА *прысл.* Штомесячна. *Табе мéсяшна іде, хоць ты і не роботаіш.* Ручаёўка.

МЕ'ТАР *м.* Метр. *Зараз вам мéтарам адмераю і будеце збіраць.* Ручаёўка.

МЕ'ТРА *ж.* Метр. *Мéтру узяў на плотóчык.* Бывалькі. *Думала, шчо тая лента малая, аж ена чуць не цэлая мéтра.* Ручаёўка. *Памянш.* мéцерка. *Дала две мéцеркі сіццу на кохтачку.* Казярогі.

МЕХ: *кóжа мéхам.* Абавязкова. *Тады ж было: кóжа мéхам, а аддай і м'яса, і яйца, а цепер ужэ добра.* Дзяражычы.

МЕХАНО'ША *м.* і *ж.* Непаседа. *Ну і дейка, ну і механоша. Цэлы день як метла бегае.* Пярэдзелка.

МЕ'ШАНЬ *м.* Помесь. *Наш езык мéшань.* Дзяражычы. *Народ у Баршчоўцы — мéшань.* Ручаёўка.

МЖА *ж.* Імгла. *Надаела ета мжа, пошóў бы екі дошч добры.* Казярогі.

МЖАК *м.* Імжа. *Мжак іде, туманам аседае, такая холóдная погода.* Ручаёўка.

МІ'ЖДА *прыназ.* Паміж. *Цечэ у міне дежачка міжда абручоў. Уторы міжда абручоў.* Дзяражычы.

МІЗІ'НЕЦ *м.* Мезенец. *Мізінец вувіхнула.* Ручаёўка.

МІ'КАЦЬ *незак.* Мукаць (пра жывёлу). *Корова мікае, нача не хоча выходіць.* Дзяражычы.

МІЛАСЕ'РДНЫ *прым.* Літасцівы. *Мне на его тожа абідна, я на его не міласердна, бо ён адбіў Пашу, а сам не думаў жэніцца.* Дзяражычы.

МІ'ЛАСЛІВЫ *прым.* Міласцівы, ласкавы. *Хорошы дед буў: ні спорыў, ні сварыўсь — такі міласлівы, усіх жалеў. Міласлівы быў да ўсіх.* Казярогі.

МІЛЁР *м.* Вугаль для кузні. *Бабы не зделаюць мілёра.* Ручаёўка. *Адін круга мілёра ходіць дай говорыць: як ета ены запалілі, што ніде діркі нема.* Казярогі.

МІНУ'ХА *ж.* Агрэх. *Чогó ж мінух столькі зрабілі. Пагледі, адны сцежкі.* Пярэдзелка.

МІНУЦІ'НАЧКА *ж.* Хвілінка. *Мінуцінaчку і пойдам.*

Дзяражычы. *На мінуціначку пастаўлю кордóплі і готóва.* Бывалькі.

МІНЧАВА'ЦЦА *незак.* Хваляваца, трывожыцца. *Ідзі бо радзі бога, душа мінчýецца, бы коні у цыгана.* Ручаёўка.

МІР *м.* Народ. *Увесь мір ужэ сее.* Бывалькі. *Простóела дак не адна — а там столькі міру.* Крупейкі. *Міру тут було — земле важка.* Первамайск. *Столькі міру сабралася, як мураўя.* Ручаёўка.

МІРАВА'ЦЬ *незак.* Прэміраваць. *За шчо его будуць міравáць? Ён ніколі нормы не выпалніў.* Ручаёўка.

МІРО'ВАНЫ: *адны́м мірам міро́ваны.* Падобны адзін да другога. *Адны́м мірам міро́ваны — усе цепер адінакавые.* Ручаёўка.

МІРСКІ': *мірскія збóры.* Зборы з грамады. *Сем рублей за землю адверналі, а шэсць — мірскіе збóры.* Бывалькі.

МІ'СА *ж.* Міска. *У сенцах міса стаіць, берыце.* Ручаёўка.

МІ'СКА *ж.* 1. Міска. *Што вы краснае есце у місцы?* Дзяражычы. *Бабі сто годоў, дак ена возьме бутылачку віна, налле у міску, накрышыць хлеба і есць.* Ручаёўка. 2. Таз. *Пойдіш у баню, дак вазьмі большую міску.* Чаплін. *То у місцы лісты да храпы лежаць, пачысці храпы децям, заберы корові лісце і храпы.* Дзяражычы.

МІ'ТАЛЕМ *прысл.* Хутка. *Міталем вырас сасоннік.* Пярэдзелка.

МІ'ТАРСТВА *н.* Пакута, мука. *Ена як пашла па мітарству послі вайны.* Ручаёўка.

МЛІН *м.* Млын. *Трэба було б у млін завезці, да казаў Міхалка, завозу багата, дак нехай пазней.* Ручаёўка.

МЛІНЕ'Ц *м.* Блінец. *То ж ена муку кінула на млінцы́ да будам есці с салам ці сметанаю.* Бывалькі. *Ена млінцá не спечэ харашэ, а так абу як.* Вулкан. *Прынёс мой бацька млінцóў мне дай кажа свату: «Свотóчык мой, яварка, несі Ходóры».* Дзяражычы.

МЛЯ'ВА *прысл.* Мляўка. *Нездорóва на вуліцы сегодні — млява, сонца цэлы день не відна.* Бывалькі.

МО *пабочн. сл.* Можа, можа быць. *Мо табе трэба шчо?* Дзяражычы. *Ена, мо, хоча, штоб ішоў у прымы.* Бывалькі. *Вам, мо, к абеду малачка паставіць у печ?* Карпаўка.

МО'ГА *пабочн. сл.* Можа. *Мо́га другой пуцёй пошоў.* Бывалькі. *Мо́га ена учора знеслася.* Дзяражычы.

МО'ДЛА *н.* Размер, шаблон. *Зрабіў бочкі пад адно мо́дла.* Пярэдзелка.

МО'ЗАК *м.* Мозг. *Мо́зак курыны у цебе.* Дзяражычы.

МО'ЗКІ *мн.* Мазгі. *Пыкала, пыкала і не сказала нічога, у мозко́х штось перавернулась.* Дзяражычы.

МО'ЛНІЯ *ж.* Маланка. *Баюсь мо́лніі.* Бывалькі. *Як махне мо́лнія, дак хвіранку і паверне.* Ручаёўка. *Такая мо́лнія — чэраз усё неба.* Чаплін.

МО'ЛЬКА *ж.* Малёк, маленькая рыбка. *Мой дед век дома не седіць: хоць за мо́лькаю, хоць за вуткаю да паеде.—А што ета за молька?—Ета такая малая рыбка.* Дзяражычы.

МО'ЛЬКІ: *скла́сці мо́лькі.* Пачаць лайдачыць. *Ты чаго скла́ла мо́лькі і седіш, як светая?* Карпаўка.

МОСТ *м.* 1. Мост. *Цішэй едь, мост упераді.* Бывалькі. 2. Падлога. *Мост такі халаднючы, што нельга стаць ного́й.* Карпаўка.*Не іді туды: деўкі мост памылі.* Ручаёўка.

МО'ТАК *м.* Маток. *Сначала с аднoручка наматваюць у мо́так, а з мо́тка у пачынак.* Дзяражычы. *Мо́ткі матаюць юрком на клубок.* Ручаёўка.

МО'ЎЧЫКІ *прысл.* Моўчкі. *Я назбірала еечак мо́ўчыкі да пахавала.* Дзяражычы. *Як сталі ехаць, дак мы мо́ўчыкі пабеглі уцекаць.* Первамайск.

МРАК *м.* Імжа. *Іде дошч? Не, не іде, а мрачыць. Не дошч, а дробненькі мрак.* Ручаёўка.

МРА'КА *ж.* Імжа. *От, екі мрачыць дошч; мра́ка іде— нехорошая погода.* Вулкан. *Я не буду насеваць удабрэнне, бо куры подо́хнуць; як пойде мра́ка, тады я насею. А тут на Акцябрыну снег пойде ці мра́ка.* Дзяражычы.

МРА'ЧНЫ *прым.* Дажджлівы. *А ноч была мра́чная і вельмі цёмная, а немцы дежурылі ле ворот.* Крупейкі.

МРА'ЧЫЦЬ *незак.* Імжыць. *От, екі мра́чыць дошч. Мра́чыць — туман аседае.* Вулкан. *Марасіць дошч і мра́чыць дошч. Як мра́чыць дошч, тады я пасею удабрэнне.* Дзяражычы.

МУДРЫ'ЦЬ *незак.* Мудрагеліць. *Етая баба трохі мудры́ла, ена лёгка пражыла за сваім хазяінам.* Ручаёўка.

МУЖЫ'К *м.* 1. Муж. *Тая вучыцельніца вужаруя, вусмажуе да мужыка́ корміць.* Бывалькі. *Як жонка забалее — мужы́к на грашах, як мужы́к забалее — жонка на*

*грашах*. Дзяражычы. 2. Мужчына. *Мужыкі сабіраюцца у Ганны і цэлы вечар рэжуць у карты*. Чаплін.

МУЖЫ'ЧЧА *н. зб.* Мужчыны. *Мужы́чча сабралась, толькі маскалі горнуць*. Ручаёўка.

МУЗАВЕ'Р *м.* Дармаед. *Такі ужо музаве́р, нічога не хоча рабіць*. Дзяражычы.

МУЗДЗЕ'ЧКА *ж.* Вуздэчка. *Которою на жарабцоў надеюць — муздéчка з груздiламі*. Крупейкі.

МУЗЫКА'РСТВА *н.* Заняткі музыкай. *Музыка́рства і було его хлебам*. Чаплін.

МУЗЬ *выкл.* Шмыг. *Ены мне пад рукі музь, музь і паўцекалі*. Ручаёўка.

МУЛАВЫ' *прым.* Ілісты. *Пескі мулавы́е, як мука, ета нонóсная земля. У нас земля мулавáя*. Карпаўка.

МУ'ЛКІ *прым.* Мулкі. *Ноч паначаваць — не век векаваць: можна і на мýлкам паспаць*. Ручаёўка.

МУЛЬТБА'ЙКА *ж.* Мультан. *Добра було б з мультбáйкі халат пашыць*. Ручаёўка.

МУЛЯЯ' *ж.* Ніткі мулінэ. *Мулеі купіла, буду вушываць*. Дзяражычы.

МУР *м.* Мурава. *А ета ж такое месцечка хорошае, адін мур*. Ручаёўка.

МУ'РАМКА *ж.* Схованкі. *Давайце у мýрамку гуляць*. Первамайск. *Деці гулялі у мýрамку*. Пярэдзелка.

МУРАЎЁ *н. зб.* Мурашнік. *Мураўё — ета кругленькі варашок такі, нача хто складае ім*. Ручаёўка.

МУРАЎЁВЫ *прым.* Мурашыны. *Мураўёвы спірт мне нада, вуцірать рукі і ногі*. Дзяражычы.

МУРДА'СНА *прысл.* Брудна. *У нас мурдáсна у хаці, мост не мецены*. Дзяражычы.

МУРЛА'ТЫ *мн.* Бэлькі. *Мурлáты кладуць у верхнім венку*. Ручаёўка. *На мурлáтах хата і з закотам хата*. Первамайск. *Па-вашаму балкі, а па-нашаму мурлáты*. Крупейкі.

МУРЛА'ЦІНА *ж.* Бэлька. *Мурлáціна ложыцца на паследні венок хаты*. Ручаёўка.

МУРО'Г *м.* 1. Мурог. *Мурóг — траўка такая зеленéнька*. Ручаёўка. *Нарві, донька, мурагý кралям*. Казярогі. 2. Трава вострыца. *Мурóг цвіце красівы, красненькі*. Казярогі.

МУРСО'ЎКА *ж.* Зацірка з мукі, вады і алею. *Зубоў нема, дак мурсóўку звары і еж*. Дзяражычы.

МУРЧА'ЦЬ *незак.* Муркаць. *Кошка каўкае, мурчыць, мяўкае.* Ручаёўка.

МУРЫ'ЦЦА *незак.* Жмурыцца. *Коля, мурысь. Хто буде мурыцца?* Дзяражычы. *Адны мўрацца, а астальные хаваюцца.* Первамайск.

МУЦІ'ЦЬ *незак.* Каламуціць. *Не муці вады, я не напілась.* Бывалькі. △ *Муціць рыбу.* Рабіць ваду мутнай і лавіць рыбу. *Муціць рыбу — у крыніцы ці ў каўтобі узнімаюць нагамі гразь, пакуль рыба не пачне хапаць паветра і высоўвацца наверх. Пашлі з хлопцамі у каўтоб рыбу муціць.* Пярэдзелка.

МУ'ЧАНЬ *м.* Мучыцель. *Ета не вучань, а мўчань.* Ручаёўка.

МЫЗЬ *выкл.* Шмыг. *Як загрыміць, дак ена мызь пад каравацъ.* Дзяражычы.

МЫ'КАЦЬ *незак.* Часаць лён ці пяньку на прадзіва. *Удень мыкаеш мычкі, а увечары прадеш.* Дзяражычы.

МЫХА: *пад мыху.* Пад паху. *Кнігу пад мыху, дай пошоў.* Дзяражычы.

МЫ'ЧКА *ж.* 1. Жменя кудзелі. *Мычка — конóплі абадраные, ены змыканые, зделаные, надеюцца на грэбень, адна жменечка — ета мычачка, мычка. Бабы говорацъ: ой, намыкала мычак да навезала у плецёнку, як жа мне ее спрасці.* Дзяражычы. 2. Трава. *У лесу мычка расце, дробнае сена па лазáх — мычка.* Пярэдзелка.

МЫША'ЧЧЫ *прым.* Мышыны. *А у мене кашуля — мышáччая шкура* (З нар. песні). Пярэдзелка.

МЯДЗВЕ'ДЧЫ *прым.* Мядзведжы. *Ена его пасылае: то прынесі мне такой вады, то прынесі шарсці медвéдчай, то воўчай* (З казкі). Крупейкі.

МЯ'КЕЦЬ *ж.* Мякаць. *О-о тутака етая мякецъ баліць.* Дзяражычы.

МЯ'ККІ *прым.* 1. Мяккі. *М'яккі хлеб прывезлі у магазін.* Бывалькі. *З м'яккай мукі, як сала було, смачные бліны.* Ручаёўка. 2. Лёгкі. *Робóта его такая м'яккая; робіць, а спору нема, дак кажуць: ото ж робóта такая м'якенькая, нікуда не гадіцца. У ее невесткі была дужа м'якка робота: робіць і ўсе на адной меры.* Дзяражычы. 3. Добры. *Не можа з людьмі: м'яккі харакцер.* Ручаёўка.

МЯ'КНУЦЦА *зак.* Упасці (раптоўна). *Падушкі пападалі, і кот як мякнецца!* Чаплін.

МЯ'ЛА *н.* Лупцоўка. *Я ёй м'яла дала.* Первамайск.

МЯЛЬКА'ЦЬ *незак.* Мільгаць. *Як курнулі, дак толькі пяткі мелькáюць.* Дзяражычы.

МЯРЗЛЯ'К *м.* Лядзяк. *Летась мороз ударыў, дак мерзлекі капáлі да на спіртзавод здавалі.* Ручаёўка.

МЯРЗЯ'ВА *ж., м. груб.* Нягоднік, паганец. *Дам, мерзя́ва, іш ты ее. Ох, ты, мерзя́ва ты, сматры ты, бо я натаўкаю цебе.* Чаплін.

МЯРЦВЕ'Ц *м.* Мярцвяк. *Глежу: мерцвецá несуць на нарах.* Чаплін.

МЯ'СА *н.* 1. Мяса. *М'я́са не беруць.* Ручаёўка. 2. Мякаць гарбуза. *Калі краснае м'я́са, то і гарбуза смачнейшая.* Казярогі.

МЯСЦІ'ЦЦА: *не мéсціцца ў шкýры.* Неспакойны, непаседлівы. *Шчо за хлопец. Проста у шкýры не мéсціцца.* Дзяражычы. *Як не па его скажа, аж у шкýры не мéсціцца.* Крупейкі.

МЯТЛІК *м.* Мятліца. *На высокіх узгорках луга расце мя́тлік.* Пярэдзелка. *Мя́тлік у нас есцека.* Ручаёўка.

МЯТЛЯ'ЦЦА *незак.* Боўтацца, матляцца. *Кіціцы метля́юцца.* Ручаёўка.

МЯЦЬ *незак. груб.* Есці. *Беру такі кусок хлеба, іду і мну его.* Ручаёўка.

МЯША'НКА[1] *ж.* Тоўчаная бульба, пюрэ. *У нас мешáнку делаюць.* Дзяражычы. *Наварыла мешáнкі да затаўкла салам — ежце.* Казярогі. *Вам солóнікаў наварыць ці мешáнкі зделаць?* Чаплін.

МЯША'НКА[2] *ж.* Вялікая драўляная лыжка, якой мяшаюць у гаршку. *Мешáнку памый, а то засохне.* Пярэдзелка.

# Н

НАБАЛА'КАЦЬ *зак.* Нагаварыць. *Старые мо болей чого набалáкаюць вам.* Дзяражычы.

НАБЕ'ГЦІ *зак.* Прыбавіцца. *На полчаса за суткі набегýць быстрэй.* Дзяражычы.

НАБІВА'ЦЦА *незак.* Моцна напрошвацца. *Каравашнік набівáўся содаю.* Ручаёўка.

НА'БІЛКІ *мн.* Набіліцы. *Нáбілкі павесілі пасля.* Пярэдзелка. *Пабег, як чорт з нáбілак.* Дзяражычы.

НАБО'ГА *прысл.* Навошта. *Можа ены хорошые, набóга ены нам.* Дзяражычы.

НАБО'ЖНІК *м.* Вышываны ручнік, які вешаюць на абразы. *У бабкі на абразах скрозь набóжнікі вісяць.* Ручаёўка.

НАБО'Й *м.* Сухі мазоль. *Пабач, екі у мене набóй на руцэ. Набой — калі вёдра нашу на хвермі, ета не музолі, ены цвердейшые.* Ручаёўка.

НАБРА'ЦЦА *зак.* Увайсці ў сілу. *Харашэ узышло жыта, там на гарэ рэдкаватае, да ено к весне наберэ́цца.* Дзяражычы.

НАБРО'ДА *ж.* Чужынец. *Толькі екога-небудь набрóду нада шукаць. Набрóда — чужое, ці улучыцца ці чалавек адкуль, кажуць — набрóда на его.* Дзяражычы.

НАБРЭ'ІЦЬ *зак.* Накрасці. *Навучылася красці: прывезуць яблак, дак ена набрэ́іць іх да насмажыць дежкі.* Ручаёўка.

НАБУКЛА'ІЦЬ *зак.* Падбухторыць. *Ена ее набуклаіла: падай у суд на невестку.* Дзяражычы. 2. Нагаворваць, напаклёпнічаць. *Як набуклáіць ее, дак ена аж із шкуры лезе.* Дзяражычы.

НАБУРА'ХТАЦЬ *зак.* Нагаварыць, напляткарыць. *Родные набурáхталі, што не беры ее, а ена девачка хорошая.* Бывалькі.

НАБЫ'ЦЦА *зак.* Нагуляцца, насядзецца. *Прыді у хату, набýдся і пайді, а ена і не знае.* Дзяражычы.

НАБЯГА'ЦЬ *незак.* Наязджаць, находзіць. *У Лоеў з деравень набегáюць да набіраюць усего.* Ручаёўка.

НАВАДЗІ'ЦЬ *незак.* Нараджаць, напладзіць. *Дед не хацеў, шоб децей наваділі змоладу.* Дзяражычы.

НАВА'ЛАМ *прысл.* Без парадку, кучай. *Паскідалі усе на кравацць навáлам.* Бывалькі. *Усего там навáлам.* Дзяражычы.

НАВАЛАКЦІ'СЬ *зак.* Пакрыць, закрыць. *Ат тае траву шкурка навалаклáсь, і так скоранька ранка закрылась.* Ручаёўка.

НА'ВАЛКА *ж.* Навалачка. *Я сама шыю нáвалкі, а другіе купляюць.* Ручаёўка. *У мене етых нáвалак багата.* Чаплін.

НАВАЛО'КА *ж.* Чужынец, прыезджы. *Де хто екі навалóка, дак там у тых хатах жыве.* Ручаёўка.

НАВАРА'ЧВАЦЬ *незак.* Схіляцца ў гаворцы. *Маладые больш па-руську говорацць, а мы усёроўна па-свойму наварáчваем.* Дзяражычы.

НАВАСЯЛЯ'НЕ *мн.* Навасёлы. *Хаткі — новаселя́не, єны годоў восімдісят як сталі жыць тут.* Казярогі.

НАВЕ'РХ *прысл.* 1. Наверх. *Палажы сала наве́рх.* Ручаёўка. 2. Звыш усяго. *Доччына унука убілі на вайне, два сыны убілі да й деда наве́рх.* Дзяражычы. *У мене было шэссот трудадней, дак палучыла тону і кабана наве́рх і десяць пудоў хлеба.* Крупейкі. 3. Угору. *Пагледі наве́рх, скolькі ластавачак лётае.* Чаплін.

НАВЕ'СЦІ [1] *зак.* Нараджаць, напладзіць. *Наведі децей, дак не будеш халасцяцкіе плаціць.* Ручаёўка.

НАВЕ'СЦІ [2] *зак.* Наставіць. *Е такіе, што наведу́ць на пуць, а е такіе, шо зведуць з пуця.* Ручаёўка.

НАВЕ'СЦІСЯ *зак.* Напладзіцца. *Жукоў наведе́цца там.* Ручаёўка.

НАВІ'ДЗЕЦЬ *незак.* Любіць, паважаць. *Ці ты навідіш зяця, ці не, а трэба гаварыць.* Карпаўка.

НА'ВІДЗЬ *ж.* Заслона. *Пайду па ягады і бачу, як скрозь на́відь, тую дорогу.* Ручаёўка.

НАВІ'ЛЬНІК *м.* Вілы з доўгім вілачнікам. *Навільнік — стагі кідаць, велікіе вілкі.* Ручаёўка.

НАВІ'РНА *прысл.* Напэўна. *А діцятачка, ета цебе, навірна, на лузі здракі паабгрызувалі.* Казярогі.

НА'ВІСЦЬ *ж.* Нянавісць. *Навісць такая напала на старых, не любяць старых.* Ручаёўка.

НАВО'ДКІ *мн.* Няготкі. *Наво́дкі жоўценечкіе, вельмі пахучые.* Ручаёўка. *Наво́дкі жоўтые, у мене у городі растуць.* Чаплін.

НАВО'ЙКА *ж.* Частка ткацкага станка, на якую наматваецца палатно. *Ново́йка — што на ёй полотно круціцца.* Пярэдзелка. *Ново́йку устаўляюць у ставы.* Чаплін. *Памянш.* наво́йчык. *Табе, мамка, усе ново́йчыкі, а мне, мамка, усе сувойчыкі* (З нар. песні). Карпаўка.

НАВО'ТЛІВА *прысл.* Наводмаш. *Ударыў наво́тліва не па жывату, а па сцене.* Пярэдзелка.

НАВЫ'ЛЕТ *прысл.* 1. Наскрозь. *Уся старана навы́лет баліць.* Дзяражычы.//Па-сапраўднаму. *О-о, ета чыста руські езык навы́лет.* Ручаёўка. 2. Знізу даверху. *Я зашпыляю навы́лет скрозь.* Казярогі.

НАВЯРНА'ЦЬ *незак.* Схіляцца ў гаворцы. *Невестка тожа наверна́е па-радульскі.* Ручаёўка.

НАВЯРНУ'ЦЬ *зак. перан.* Аблаяць. *Ён нападае на цебе і усякімі словамі наве́рне.* Ручаёўка.

НАВЯРСТА'ЦЦА *зак. экспр.* Знайсціся. *Дед стары*

*наверста́ўся, дак матка і пашла замуж пад старасць.* Дзяражычы.

НАГА′ *ж.* Нага. *Но́гі баляць, далёка не пойдеш.* Вулкан. △ *Адна́ нага́ тут, друга́я там.* Вельмі хутка (збегаць). *Ты хуценька злетай у магазін, каб адна́ нага́ тут, друга́я — там.* Казярогі. *На адно́й назе́.* Вельмі хутка. *Як бежыць быстра, то значыць на адно́й назе́.* Ручаёўка. *Нагамі жа́ліцца.* Мець захворванне ног. *Нага́мі жа́ліцца Прося.* Дзяражычы.

НАГАВІ′ЦЫ *мн.* Штаны. *Верхніе штаны нагавіцы калісь называлі.* Пярэдзелка.

НАГАДАВА′ЦЬ *зак.* Накарміць. *Ена нагаду́е его чым папала.* Дзяражычы. *Прыедь, нагаду́й вуценят і зноў абратна едь.* Ручаёўка.

НА′ГАЛАДЗЬ *прысл.* Галодна. *На́галадь жылі пры немцах.* Чаплін.

НАГАЛО′ *прысл.* 1. Нагала. *Астрыглі наголо́ нашых хлопцаў.* Казярогі. 2. Усё чыста, усё да ніткі. *Нас жа паліцэі аграбілі з ног да галавы, наголо́ аграбілі і касцюмы усе пазабіралі.* Первамайск.

НАГАЛО′ВІЧ *м.* 1. Частка аброці. *Аброць састаіць: нагало́віч, уздечка, паводы.* Карпаўка. 2. Перакладзіна, якая трымае вушакі зверху. *Убіраецца у вушнеку паз пасерэдіне, уверху кладецца нагало́віч — держыць вушнякі.* Пярэдзелка. *Падушачка, кругом улуткі і нагало́віч зверху. А ета нагало́віч. Его робяць аддельна і устаўляюць.* Ручаёўка.

НАГАМАНІ′ЦЬ *зак.* Нагаварыць. *К ёй пайді, дак нагамо́ніць столькі, што і за неделю не разберэсся.* Ручаёўка.

НАГДЫ′СЬ *прысл.* Нядаўна. *А я нагды́сь была у цебе дома.* Казярогі.

НАГЛЕ′ДЗЕЦЬ *незак.* Пабачыць. *Сході, наглёдь гусей.* Дзяражычы.

НА′ГЛУХА *прысл.* Зусім. *Два разы чалавек уміраў, а трэці раз умер на́глуха.* Ручаёўка.

НА′ГЛЫ *прым.* 1. Жвавы, непаседлівы. *От токо́е на́глае, токо́е таўкушчае діцяці.* Ручаёўка. 2. Крыклівы. *Уцетаво діця да токо́е наглае, такая беда: крычыць день і ноч.* Ручаёўка.

НА′ГЛЯДАМ *прысл.* Следам, не спускаючы з вачэй. *Самі у ягады ідуць, а мене не беруць, дак я на́гледам*

*за імі.* Ручаёўка. *Пабег, а я іду на́гледам, на́гледам: пошоў на могілкі, пастаяў — і назад.* Чаплін.

НАГО'ЛЕНАК *м.* Частка шарсцяной шкарпэткі. *Носок з нагóленка пачынаюць везаць.* Карпаўка.

НАГРУ'ДНІК *м.* 1. Фартух, які закрывае грудзі. *Нагру́днік цёплы і нецёплы.* Пярэдзелка. *Хвартух з нагру́днікам — як у столовай бегаюць.* Ручаёўка. 2. Стан, ліф у кашулі. *К нагру́дніку прышываецца падол.* Дзяражычы.

НАГРУЗІ'ЦЦА *зак. перан.* Пад'есці. *Ена рыбы нагрузілась, дак піць хоча.* Дзяражычы.

НАД *прыназ.* Больш за. *Як ее радня, дак добра, над ее радней нема.* Дзяражычы. *Ужэ старая, дак старэйшай і у Ручаёўцы німа над ею.* Ручаёўка.

НА'ДА *прысл.* 1. Трэба. *Усё на свеце на́да умець делаць.* Ручаёўка. 2. Можна. *Згарэць на́да у хаці, такое жарышча.* Дзяражычы.

НА'ДАБНАСЦЬ *ж.* Патрэба. *Абы дед буў да матка, а баба без на́дабнасці, без анцірэсу.* Бывалькі.

НАДАГА'Д *прысл.* Наўздагад. *Такая паслушная, хорошая, надага́д знае, шчо рабіць.* Дзяражычы.

НАДАЕ'ДНЫ *прым.* Дакучны. *Надаедна жызнь такая.* Дзяражычы.//Назойлівы, надакучлівы. *Васіль мой надаéдны чалавек.* Дзяражычы.

НАДАЛЫ'ЗЛІВЫ *прым.* Дакучны. *Екая ты надалы́злівая: лезіш і лезіш ка мне.* Крупейкі.

НАДАЛЫЗО'НЫ *прым.* Дакучны. *Такі ужэ надалызóны: прыстане — не адчэпісся. Вот надалызóны чалавек.* Дзяражычы.

НАДВО'Р'Е *н.* Двор, панадворак. *Я увыйшла з надвóр'я,дак цёмна.* Ручаёўка.

НАДЗЕ'ЛАЦЬ *зак.* 1. Нарабіць. *Надéлалі рулёў.* Бывалькі. 2. Нагадзіць, напаскудзіць. *Кошачка такая цікавенькая: не надéлае ніколі у хаці.* Дзяражычы.

НАДЗЕ'ЯЦЦА *незак.* Спадзявацца. *Мы на ее мала надéемся.* Ручаёўка.

НАДЗЁЖНІК *м.* Рачная губка, бадзяга. *Па мешку надёжніку нарвалі і у Лоеў.* Дзяражычы.

НАДО'ВЕЧЫ *прысл.* Надоечы, днямі. *Надóвечы прышлі, бабушка, дай денег, а у мене деньгі на кніжцы.* Ручаёўка. *Надóвечы була у мене суседка, дак казала, што у наш колхоз прышлюць новага прэдседацеля.* Чаплін.

НАДО'ЕЧЫ *прысл.* 1. Надоечы. *Надóечы адін дядь-*

*ка паеў еечак да памёр.* Чаплін. 2. Сягоння раніцай. *Надоечы, шчэ я спала, шось ена ему кажа. Мая аборвала парэчкі надоечы, дак я адразу скруціла да прысыпала сахарам.* Ручаёўка.

НАДСА'ДНЫ *прым.* Сумны. *Надсадна жысць такая.* Дзяражычы.

НАДУ'МАЦЦА *зак.* Успомніць. *Надумалася пра Володю, цэлы день праплакала.* Чаплін.

НАДУ'ЦЬ *зак.* Расперці. *Ён пагнаў да напаіў тые валы, дак о-о ета табе надуло его, біўся і прапаў вол.* Ручаёўка.

НАДЫ'СЬ *прысл.* Нядаўна, надоечы. *Надысь прышла ка мне Прося з Радуля.* Рудня Марымонава. *Я надысь іду і сама сабе думаю.* Ручаёўка.

НАЖА'ЛАВАЦЦА *зак.* Паскардзіцца. *Паеду нажалуюсь, нехай дадуць ему прып'ёку.* Ручаёўка.

НАЖЛУ'КЦІЦЦА *зак. груб.* Напіцца. *Нажлукціўся б ты смалы!* Пярэдзелка.

НАЖНІ'ЧКІ *мн.* Нажніцы. *Нажнічкамі падкраівалі каўнерок, карманы.* Карпаўка.

НАЖЫ'ЦЬ *зак.* Прыдбаць, набыць. *Прыехаў да ужэ і сем'ю нажыў: прыжыў дачку і кінуў.* Дзяражычы.

НАЖЫ'ЧКІ *мн.* Нажніцы. *Дед узяў нажычкі, абстрыг бабі галаву.* Чаплін.

НАЗАКУТА'ЦЬ *зак.* Зачыніць. *Стары, дак я не думаў хавацца, небяражна хадіў, а нас немцы назакуталі чалавек семдесят, і размаўляем там, што нам буде: той говорыць, што нас тут іспаляць, а той говорыць: нас парастрэлююць.* Крупейкі.

НАЗАТЫ'ЧКУ *прысл.* Пад канец. *А тая прыбегла назатычку к таму Васю, дай позна було.* Ручаёўка.

НАЗА'ЎТРАГА *прысл.* Назаўтра. *Назаўтрага такіе сінекі панаходілі, воч не відна у бабы.* Дзяражычы. *Назаўтрага год акурат, як памерла дачка.* Ручаёўка.

НАЗА'ЎТРАЕ *прысл.* Назаўтра. *Назаўтрае бабка блінчыка іспекла.* Дзяражычы. *Сёдні со мною, назаўтрае з другой.* Пярэдзелка. *Корова як занатурыцца, дак назаўтрае подоіш.* Ручаёўка.

НАЗДАГА'Д *прысл.* Наўгад. *Усе наздагад ён знае.* Ручаёўка.

НАЗНАРО'ЧАЙ *прысл.* Знарок, наўмысна. *Вучням даже назнарочай ставяць: ім не трэба, а ены ставяць.*

Бывалькі. *А я назнорóчай запела етую песню. Смеёмся назнорóчай, шо б ена злавала.* Дзяражычы.

НАЗЫ'КАЦЦА *зак. асудж.* Напіцца. *Так назыкаўся гарэлкі, што аж попоўз.* Чаплін.

НА'ЙБАЛЕЙ *прысл.* Найбольш. *Нáйбалей у нас кажуць хросная.* Дзяражычы.

НА'ЙБАЛЬШ *прысл.* Найбольш. *У нас нáйбальш чэрэпіцаю крыюць.* Дзяражычы.

НА'ЙДА *ж. зняваж.* Пляткарка. *Ета такая езычніца, шчо на ее кажуць нáйда: у брыгадзі ніхто так не брэша, як ена.* Дзяражычы.

НАЙМІТА' *ж., м.* Найміт. *Наймітá роботала усе, ета баба не роботала.* Бывалькі. *У его усе наймітá рабіла: две паласы сполюць кортопляў за день.* Вулкан. *Усе у ее наймітá і наймітá.* Дзяражычы.

НАЙСЦІ'СЯ *зак.* 1. Знайсціся. *Целяці найшлóся у Манькінам дварэ.* Ручаёўка. 2. *перан.* Нарадзіцца. *Найшлóся у ее трое децей.* Чаплін. 3. Адшукацца. *Ей найшóўся хлопец красівы, дак ены і пажаніліся.* Дзяражычы.

НАКАЗА'ЦЬ *зак.* 1. Нагаварыць. *Я б вам цэлую біблію казак наказáў.* Бывалькі. 2. Паведаміць. *Трэба наказáць сестрэ, штоб прышла да памагла капаць кортоплі.* Ручаёўка. 3. Перадаць. *Я свайму мілёначку прывет накажý.* Бывалькі.

НАКАЛЕ'КАХ *прысл.* На плячах.— *Як ты ее дапер?* — *А накалéках.* Чаплін. *Ох, папанасіла я накалéках уцетых во пацаноў.* Пярэдзелка.

НАКАЛЕ'КІ *прысл.* На плечы (спіну). *Пасадіў діця накалéкі і панёсся.* Пярэдзелка. *Садісь ка мне накалéкі.* Первамайск.

НАКАНАВА'ЦЬ *зак.* Назначыць, прадпісаць. *Ужэ як наканóвана чалавеку, стολькі і жыў бы.* Чаплін.

НАКА'Т *м.* Кветка. *Накáт — ета цветы такіе е у нас.* Ручаёўка.

НАКАЎТА'ЦЦА *зак.* Наглытацца. *Корова, мабыць, кортопляў накаўтáлася і усю ноч стагнала.* Ручаёўка.

НАКА'ЧУВАЦЬ *незак.* Навальваць. *Стог соломай абкладаюць і накáчуюць землі.* Дзяражычы.

НАКВЕ'ЦАЦЦА *зак. неадабр.* Намазацца. *Онь устала, сейчас наквéцаецца дай пойде.* Дзяражычы.

НАКІ'ДАЦЬ *зак.* 1. Накласці. *На тарэлку накідаў*

*варэння*. Чаплін. 2. Наліць. *Поўную банку накідаў малака*. Дзяражычы.

НАКЛАДА'ЦЬ: *накладáць цанý*. Ацэньваць. *Як пойдеш к ёй малака, дак ена цэны́ не накладáе*. Чаплін.

НАКЛО'НІСТЫ *прым*. Нахілены. *За маім планам канава наклóністая, а далей упадае у рэчку*. Пярэдзелка.

НАКРАПІ'ЦЬ *зак*. Налатаць. *Накрапіць штаны трэба*. Вулкан. *Накрэпі латку да нехай надее сорóчку*. Первамайск.

НАКРЫВА'ЛКА *ж*. Пакрывала. *Красівую накрывáлку вушыла, мы засцілаем ее на стол толькі на празнікі*. Ручаёўка.

НАКРЫ'ТКА *ж*. Накідка. *Накры́ткі делаем на падушкі*. Ручаёўка.

НАЛЕ'ЦЦЕ: *к налéццю*. К будучаму году. *Оце, мой сыночак, шчоб і к налéццю було*. Дзяражычы. *Прэдседацель говорыць, штоб аставілі к налéццю*. Казярогі. *Сеголета пасаділа, дак к налéццю буде*. Карпаўка.

НАЛЁТНЫ *прым*. Залётны. *Нічога б не хацела — налётнай пташкай быць*. Ручаёўка. *Налётная пташачка да сізакрылы й арол, да седеў мальчык за рашоткай, парынь маладой* (З нар. песні). Чаплін.

НАЛЫГА'ЦЦА *зак*. *неадабр*. Напіцца (гарэлкі). *Есіп з бабаю налыгáліся ужэ, чуць ідуць*. Дзяражычы.

НАМАРСКА'ЦЬ *зак*. Вышыць. *То ена сама так намарскáла ручнік*. Дзяражычы.

НАМАЧА'ЦЦА *зак*. Наесціся. *Белая мука була, дак я бліноў напеку да намачáюся із мёдам*. Дзяражычы.

НАМЕ'ТКА *ж*. Марля. *Як бы нача намéткі купіць да мене заўяжуць на голову і намéткаю абведуць, дак трэба метраў чатыры намéткі купіць*. Дзяражычы. *Мама, устань да тую дейку вужані з хаты, ена у намéццы, дак я баюся ее*. Ручаёўка.

НАМЕ'ЦЦА *зак*. Назапасіцца. *Хіба ж етым децям намéісся чыстых сорочак: толькі надень — зразу як караўка*. Ручаёўка.

НАМІ'СНІК *м*. Наместнік. *Намíснік колхозу*. Дзяражычы. *Петро работае у Хвайніках намíснікам*. Карпаўка.

НАМНО'ЖЫЦЦА *зак*. Напладзіцца. *Намнóжылася людей багата*. Дзяражычы.

НАМУ'ЛІЦЬ *зак*. Намýляць, нацерці. *Калі ногу намýліш, дак памажыш маззю і проходіць*. Ручаёўка.

НАПАВЯЗА'ЦЬ *зак.* Навязаць. *Столькі жыта папажнеш да снопоў напаўяжыш.* Дзяражычы.

НА'ПАДЗЬ *ж.* Напасць. *Адно вока етае засталося, дак і тое налегаюць, отэта такая на́падь.* Дзяражычы.

НАПА'РЫЧ *м.* Напарнік. *Прышла на выбары і стаю: нема у мене напа́рыча.* Дзяражычы.

НАПА'СЦІ *зак.* 1. Напасці. *Як нападе́ хто, дак будеш біцца.* Казярогі. 2. Раптоўна накінуцца (пра фізічны стан). *Чого́ ты голая ходіш, пака заляжа ці то чох нападе́.* Дзяражычы. *Напала на ее хворо́ба, ніяк не аблегчаць.* Карпаўка. 3. Натрапіць. *Так напа́ла ягад, як раса вісіць.* Чаплін. *Месціну мы напа́лі добрую, дай буйные ягады.* Ручаёўка.

НАПАСТЫ'ЦЬ *зак.* Абрыднуць, апрыкраць. *Ужэ настыла ты мне, гледець на цебе не хочу.* Вулкан.

НАПАХА'ЦЬ *зак.* 1. Наараць.— *Ці багата сегодні напаха́лі?—Пад лесам усё тое поле узаралі.* Бывалькі. 2. Сабраць ураджай. *А лёну напа́шуць, дак тры восеці наставяць да як панатыкаюць тых раден, палацён. Напа́ша того хлеба, дак інбар буў.* Ручаёўка. *Напа́шам свае пшаніцы.* Чаплін.

НАПА'ЧАЙ *прысл.* Асабліва. *І цепер не ашыбайся, куды зайці на нач, напа́чай у горадзі.* Ручаёўка. *А напа́чай міне, дак і саўсім плоха.* Чаплін.

НАПЕ'РАД *прысл.* 1. Наперад. *Напе́рад зайде да так у вочы угледаецца.* Бывалькі. 2. Спачатку, спярша. *Ена пажыла да Саў і да Варвар, дак напе́рад Савы былі, а на Варвары удень сканала.* Дзяражычы.

НАПЕРАХРЭ'СТ *прысл.* Крыж-накрыж. *Сватоў абвязуюць наперахрэ́ст.* Ручаёўка.

НАПЕ'РНІЧ *м.* Насыпка. *Еты напе́рніч саўсім рваны.* Ручаёўка. *Пер'е у напе́рніч ссыпаюць.* Казярогі.

НАПЕ'РСНІК *м.* Кальцо. *Екі неперснік красівенькі, мо ужо хлопец екі падарыў?* Ручаёўка.

НАПЕ'РСТАК *м.* Напарстак. *Згубіла десь я свой напе́рстак, а вышываць без его пагана: коле іголка.* Карпаўка. *З напе́рсткам лепш шыць, ахватней, іголка не коле.* Ручаёўка.

НАПЕ'РЦІ *зак.* Распухнуць. *За ліцо укусіць пчэла, дак о-о так напрэ́.* Ручаёўка.

НАПІНА'НКА *ж.* Вялікая хустка. *Напіна́нка — плото́к на плечы.* Крупейкі. *Купіла сваім деўкам напіна́нкі.* Казярогі.

НАПІНА'ХА *ж.* Вялікая хустка. *Напінáха — велікі платок, на плечы напінаюць.* Пярэдзелка.

НАПІСА'ЦЬ *зак.* 1. Напісаць. *Напішы ты мне пісьмо.* Дзяражычы. 2. Намаляваць. *Лялек напісáў красівых, маццы пакажаш.* Бывалькі.

НАПІ'ТУВАЦЦА *незак.* Насычацца. *Верэня напітуецца сахарам, ено загусае і стаіць доўга.* Чаплін.

НАПІ'ЎКА *ж.* Наліўка. *На той вуліцы веселле, дак ловяць, хто іде ці еде, напіўку наліваюць і угосцяць.* Ручаёўка.

НАПЛЯВУ'ЗГАЦЬ *зак. груб.* Нагаварыць глупстваў. *Етые бабы вечна абы-чаго наплевýзгаюць, а ты седі да перажывай.* Ручаёўка.

НАПНУ'ЦЬ *зак.* Настаяць. *С тобой іці туды, дак ты напнéш — додому, і не пагуляем.* Ручаёўка. // Навучыць. *Ее Соня як напнé, дак і з свекрухай гаварыла харашэ.* Дзяражычы.

НАПРАНУ'ЦЬ *зак.* Надзець. *Напрані світку, не лета ж ужэ.* Рудня Марымонава.

НАПРАПАЛУ' *прысл.* Гульня ў мяч. *Адводяць поле, адін еліць, а другі б'е — ета гуляць напрапалý.* Пярэдзелка.

НАПРЫЯ'ЦЬ *зак.* Пасадзейнічаць. *Ета Васіль так напрыяў мне.* Дзяражычы.

НАПУЦІ'ЦЬ *зак.* Навучыць, накіраваць на правільны шлях. *Напуціла его і дачку, і атправіла на курсы трактарыстаў.* Казярогі.

НАПУЧА'ЦЬ *незак.* Навучаць, накіроўваць на правільны шлях. *Ходіць да маіх девак напучáе, навучае.* Ручаёўка.

НАРА' *ж.* 1. Нара. *Крот такіе нóры паделаў на градах.* Пярэдзелка. 2. Яма. *Выкапае нóру, лесінамі абкладе і ставіць дежкі.* Казярогі.

НАРА'ВІЦЦА *незак.* Падабацца. *Красіва говораць у Радулі, міне радульская говорка нарáвіцца.* Дзяражычы. *Я кагу: мая дачка, мне твой жэніх не нарáвіцца — спыльчавы.* Ручаёўка.

НАРАДЖА'ЦЬ [1] *незак.* Нараджаць. *Нараджáла децей поўну хату і кінула маццы.* Вулкан.

НАРАДЖА'ЦЬ [2] *незак.* Прызначаць (у нарад), пасылаць. *Па лён нараджáў брыгадір ехаць да захварэў штосьці я.* Бывалькі.

НАРА'ЗНА *прысл.* Па-рознаму. *О-о бачыце, усе і нарáзна называюцца.* Ручаёўка.

НА'РАСЦЕНЬ *м.* Нараст. *Ета у маёй свахі нáрасцень такі — горбік.* Дзяражычы. *Целя упала, ногу вуламала, ужэ нáрасні нарастаюць: калеку трудна папраўляцца.* Ручаёўка.

НА'РАЧНА *прысл.* Знарок, наўмысна. *У молóчнаю нáрачна не заходжу.* Дзяражычы.

НАРВА'ЦЬ *зак.* 1. Нарваць. *Нарві траву свінне.* Бывалькі. 2. Нагнаць. *Нарвé вецер дашчу.* Ручаёўка.

НАРО'ЖНІК *м.* Падстрэшак. *Нарóжнік — соломай напускаюць, франтон — шалёўкай.* Карпаўка.

НАРО'Ў *м.* Нораў. *У усякага свой нарóў: хто робіць так, хто так.* Ручаёўка.

НАРО'ШНЕ *прысл.* Знарок. *Ены кажуць: мы ета загубілі, не нарóшне паклалі. А самі ж ены нарóшне паклалі.* Карпаўка. *Нема пісем, дак ён норóшне паехаў шукаць ее у Лоеў.* Ручаёўка.

НАРУ'ЖАК *прысл.* Вонкі. *Нарýжак выходіць.* Дзяражычы.

НАРУЛІ'ЦЬ: *нарулíць рулёў.* Зрабіць цуру. *Солі насыплем да вады наллем, да рулёў нарýлім і едім.* Ручаёўка. *Я рулёў нарулю солодкіх да і ем.* Дзяражычы.

НА'РЫ *мн.* Насілкі. *Глежу: мерквеца несуць на нáрах.* Дзяражычы.

НАРЫ'ЦА *ж.* Шкоднік. *Не трогай ножніц, нарыца.* Казярогі.

НАРЭ'ЗАЦЦА *зак. груб.* Напіцца. *Ён нап'ецца, дай кажа скрозь: «Нарэзайся, дак галава баліць, трэба пахмеліцца».* Ручаёўка.

НАСАВІ'К *м.* Насавая хустачка. *Памыю чэпец сабе і насавік абмыю.* Дзяражычы. *Палажы ему у карман насавік.* Ручаёўка.

НАСАДЗІ'ЦЬ *зак.* Насадзіць. *У городчыку насадíла усякіх цветоў.* Вулкан. // Накласці. *Як насáдіць торху у грубу, дак у хаце жарка, нельга здержацца.* Дзяражычы.

НАСЕ'ДЗЕЦЦА *зак.* 1. Насядзецца. *Я ужэ насéделась у вас, пара додому.* Бывалькі. 2. Нажыцца. *Я насéделась у дейках.* Казярогі.

НАСЕ'ННІКІ *мн.* Насенная бульба (агуркі, буракі). *Багата було кортóплі, а цепер толькі насéннікі асталіся.* Дзяражычы. *Парабіраем кордóплі: насéннікі асобенна, дробную свінням.* Пярэдзелка. *Насенне гуркоў не купля-*

*ем: сваіх штук два насе́ннікі аставім і хваціць.* Рудня Марымонава.

НАСЕ'ПАЦЦА *зак.* Утаміцца, змарыцца. *Як насе́паюся за цэлы день, дак лягу і лежу.* Ручаёўка.

НА'СКАЧ *м.* Гуз, шышка. *У грудзі ударыў, дак на́скач такі усхапіўся.* Ручаёўка.

НАСКІДА'ЦЬ *зак.* 1. Наскідаць. *Я наскіда́ю сена, а ты занесі коро́вам.* Бывалькі. 2. Зняць вяршок. *Ена наскіда́е у бойку сметану да глыжкамі масла наб'е.* Дзяражычы.

НАСКРО'ЗЬ *прыназ.* Праз. *Каб другая, дак наскро́зь ночы пашла б.* Дзяражычы.

НАСМА'ЖЫЦЬ *зак.* 1. Насмажыць. *Насма́жыла на абед м'яса.* Ручаёўка. 2. Напячы. *Прывезуць яблак, дак ена набрэіць іх да насма́жыць.* Ручаёўка.

НАСО'ВЫ *мн.* Адзенне. *Як надену на себе семнаццаць насо́ваў, дак і мороз не даберэцца.* Карпаўка.

НАСО'К *м.* Посуд для алею, гарэлкі і інш. *Носо́к — дераўяная бочачка, у екую наліваюць гарэлку.* Ручаёўка. *Міліцыянер даў мне носо́к — несі, а сам пошо́ў у канцылярыю, дак я наліла з наска поўны кушын гарэлкі, а у носо́к вады наліла.* Крупейкі. *Калісь самі білі алей да у наскі налівалі.* Казярогі.

НАСТА'ЦЬ *зак.* Наступіць. *Труднае урэмя наста́ла: хаджу з костурам.* Первамайск. *А мне ужэ шэісяты год наста́ў.* Рудня Марымонава.

НАСТА'ВІЦЬ *зак.* 1. Наставіць. *Наста́віла поўны пограб верэння.* Бывалькі. 2. Запоўніць снапамі. *Малаціць дак его не заві, абы толькі мы восець наста́вілі.* Вулкан. 3. Назначыць. *Жэўжыкаў наста́вілі, дак нічога і не буде: нема вопутнага чалавека.* Дзяражычы.

НАСТО'ЕНКА *ж.* Настойка. *Насто́енка — ягады засыпаны сахарам.* Бывалькі. *Мы насто́енкі зделалі для его.* Дзяражычы. *Ена насто́енкі панастаўляе, да масла, да сыру.* Казярогі.

НАСТО'ЙЧЛІВЫ *прым.* Настойлівы, упарты. *Нада быць насто́йчлівай, тады усе слухаць будуць.* Дзяражычы.

НАСТО'ЛЬНІЦА *ж.* Настольнік. *Заслала новую насто́льніцу.* Дзяражычы. *Калісь гразна було у хатах, стол без насто́льніцы, дейкі андаракі насілі — не так, як цепер у нас, у горадзі.* Карпаўка.

НАСТО'РКА *ж.* Настурка. *Насто́ркі — цветы надворніе. Ужэ насто́ркі зацвілі.* Казярогі.

НАСТО'РЧ *прысл.* 1. Старчма. *Блін як возьмеш мачаць, дак на адін бок і на другі, і насто́рч.* Ручаёўка. 2. Наперакор. *Ты шчо ему ні кажы, а ён усё насто́рч.* Дзяражычы.

НАСТО'ЯЦЬ *зак.* Настаяць, дамагчыся. *Я насто́ела, ні дапусціла, штоб вёў.* Чаплін. *Насто́ялі усераўно узяць Параску.* Первамайск.

НАСТРА'МАК *м.* Невялікі воз (сена, канюшыны, саломы). *Прывезі настра́мак клеверу.* Казярогі. *У вас там було тры настра́мкі сена.* Пярэдзелка. *Ого! То насадіў настра́мак.* Чаплін. *Памянш.* настра́мачак. *Два настра́мачкі — поўвоза, пудоў петнаццаць.* Ручаёўка.

НАСТРАХА'ЦЦА *зак.* Напужацца. *Я пайду да як настраха́юсь з діцям.* Дзяражычы.

НАСТУ'ЛЬКА *ж.* Настурка. *Такіе пахучые насту́лькі — жоўценькіе, буранькіе, красные.* Ручаёўка.

НАСТУ'ЧЫЦЬ *зак.* Настаяць. *Насту́чыў дед, штоб перапало́лі кордо́плі.* Бывалькі. *Як насту́чыла Проня летам, дак две пасылкі паслаў.* Дзяражычы. *Насту́чыць — настояць так, штоб па-мойму було.* Ручаёўка.

НАСЦА'К *м.* Выспятак. *Ён насцако́м ловіць пад вока.* Ручаёўка. *Насцако́м костку ударыў.* Чаплін. *Прыде урэмя, дак і нас будуць насцака́мі штурхаць деці.* Дзяражычы. *Пабіў насцака́мі па грудях, дак і памерла.* Бывалькі.

НАСЫ'ПАЦЬ *зак.* 1. Насыпаць. *Дед ему і зернят насы́пле, і арэхаў.* Дзяражычы. 2. *перан.* Наліць. *Насы́п баршчу.* Дзяражычы. *У нас — налівай боршч, а е — насы́п боршч.* Бывалькі.

НА'СЫРАВА *прысл.* Начыста, зусім. *З его душа вулазіць на́сырава. Як несе непасільна, дак кажуць: душа вулазіць на́сырава, вупірае на́сырава душа.* Ручаёўка.

НАСЫ'ЦІЦЬ: *насы́ціць сыты́.* Падсаладзіць мёдам ваду. *Я насы́чу сыты́, пастаўлю: нехай ідуць мае радіцелі-деды, едяць, п'юць.* Дзяражычы.

НА'СЬКІ *займ.* Таварыскі. *Ета на́ські хлопец.* Пярэдзелка.

НАТАПІ'ЦЬ *зак.* 1. Напаліць. *Там узяў атсечак, дак і грубу можна натапіць.* Дзяражычы. 2. Спарыць. *Я натапіла две крынкі малака.* Казярогі.

НАТАПЫ'РЫЦЦА *зак.* Пакрыўдзіцца, надзьмуцца.

*Чуць што скажы не так, так і натапырыцца, цэлы день буде маўчаць.* Дзяражычы.

НАТА'РЫЦЬ *зак.* Надраць. *Заўтра бабкі натáрым на абед.* Дзяражычы. *Там, де большые кордóплі, вубірай, я натáру.* Чаплін.

НАТЫКА'НКА *ж.* Посцілка. *Маці натыкáнку выткала.* Казярогі.

НАЎБІРА'ЦЬ *зак.* Назбіраць. *Корóбку наўбірáем ягад — пашлі на усю ноч на Лоеў, ідом, гомонім, рана прыдам — распрададом.* Ручаёўка.

НА'ЎГАДЫ *прысл.* Наўздагад. *Пісаць можна нáўгады, а чытаць — не прачытаіш.* Ручаёўка.

НАЎГА'ШЧУВАЦЬ *зак.* Пачаставаць. *Вы нас наўгáшчувалі, спасіба, пойдам ужэ додóму.* Ручаёўка.

НАЎЗАДЗЁР *прысл.* Наперакор. *Пошóў усім наўзадёр і усероўна не перамог.* Дзяражычы.

НАЎЗДАВА'ЦЬ *зак.* Набіць. *Не лезь к ему, а то наўздаé і пойдеш с плачом.* Ручаёўка.

НА'ЎЗНАЧ *прысл.* Дагары. *Як упала нáўзнач, дак два месяцы лежала ў пасцелі.* Ручаёўка.

НАЎМЫ'СНЕ *прысл.* Наўмысна. *Я наўмысне пачала его падражніваць, вельмі ж смешна, як п'яны злуецца.* Ручаёўка.

НАЎПЕРАГО'НКІ *прысл.* Навыперадкі. *Давайце наўперагóнкі бегці.* Бывалькі.

НАЎПРАМКА' *прысл.* Напрасткі. *Наўпрамкá п'яць вёрст буде, а па Мохаву верстоў девяць.* Казярогі.

НАЎПРАМКІ' *прысл.* Прама, проста. *Хто закручуе, а хто ножом парэжа наўпрамкі — от і хрушчыкі.* Ручаёўка.

НАЎПРАМУ'Ю *прысл.* Напрасткі. *Наўпрамýю ідіце сюдой, вам бліжэй буде.* Казярогі.

НАЎПРО'КІ *мн.* Папрокі. *На мене і свекруха нічога не сказала, наўпрóкі не давала.* Дзяражычы.

НАЎПРО'ЦІ *прыназ.* Насупраць. *У вулачку туды — ото наўпрóці нас.* Дзяражычы.

НАЎПРО'ЦІЎ[1] *прысл.* Насупраць. *Мае деці жывуць наўпрóцію.* Крупейкі.

НАЎПРО'ЦІЎ[2] *прыназ.* Насупроць. *А наўпрóціў, базара буў такі красненькі маленькі лорочак пострóен.* Крупейкі. *Наўпрóціў сваіх корóў каждая у хлеве абделае: замажа, заткне діркі.* Дзяражычы.

НА'ЎРЫШЧА *н.* Напасць. *Шчо ета токóе за нáўры-*

*шча на мене! Нагаварылі абы чаго — на вуліцу стыдна паказацца*. Первамайск.

НАЎСКАСЯ'КІ *прысл*. Наўскасяк. *Дачка ее наўскасякі жыве*. Чаплін.

НА'ЎСКАЧАК *прысл*. Наўскач. *Сегодні Балашоў гнаў, дак на́ўскачак гнаў коро́ву*. Ручаёўка.

НА'ЎСКАЧКІ *прысл*. Наўскач. *Усю дорогу на́ўскачкі ехалі*. Пярэдзелка.

НА'ЎСКАЧЫ *прысл*. Наўскач. *Сюды стогнучы, адтуль на́ўскачы*. Дзяражычы. *Я села летась на каня да як дала чосу, на́ўскачы дала*. Ручаёўка.

НАЎСКІДА'ЦЬ *зак*. Набіць. *Перастань крычаць, а то зараз добра наўскіда́ю*. Ручаёўка.

НА'ЎСЦЕЖ *прысл*. Насцеж. *Дверы на́ўсцеж, дак жарка не буде*. Дзяражычы.

НА'ЎХРАСЦЬ *прысл*. Накрыж. *На́ўхрасць хаты стаяць*. Рудня Марымонава. *Кольцы вілі з лазы на́ўхрасць*. Первамайск.

НАЎЧЫ'ЦЦА *зак*. Вывучыцца. *Адна наўчы́лася за сестру, ужэ п'яць годо́ў робо́тае*. Ручаёўка.

НАХА'БА [1] *ж. неадабр*. Нахаба, пляткарка. *Ета Маруся, такая наха́ба, прыехала, усіх девак нашых абгаварыла*. Дзяражычы.

НАХА'БА [2] *ж*. Абуза. *Прывёз сын дачку сваю на лета, а мне ета цэлая наха́ба, не слухае мене ні грама*. Ручаёўка.

НАХВАЦІ'ЦЦА *зак*. 1. З'явіцца знянацку. *Як бы мая Прося не нахвацілась, дак спаліў бы*. Дзяражычы. 2. Раптоўна пачацца. *Нахвацілась вайна*. Первамайск.

НА'ХРАП *прысл*. Блізка. *Хлопец і на́храп не пускае нікога, спіць адін і ні деўкі, нікога не берэ к сабе*. Дзяражычы.

НАХРА'ПАМ *прысл*. Нахабна. *Нахра́пам лезуць, без вочараді, трэба у вочарадь*. Ручаёўка.

НАХРА'ПНІК *м. перан*. Зацяжны дождж. *Вот ужэ дождж, такі нахра́пнік, погно́іць усе*. Бывалькі.

НАХРАПУ'ДЗІЦЦА *зак. груб*. Надзьмуцца. *Нахрапу́дзіўся на мене, а чого — і сама не знаю*. Пярэдзелка.

НА'ЦАЯ *ж*. 1. Нацыя. *У клубі буде усякай на́цаі, к нам з-за ракі ходяць і з другіх деравень прыежджаюць*. Крупейкі. 2. Мова. *У горадзі нада другую на́цаю гаварыць*. Бывалькі. 3. Вёска. *Так хоць і скажа хто, дак з другой*

*екой нацаі: у Баришчоўцы ці у Зарэзаві не так говорацъ, як у нашай дерэўні*. Крупейкі.

НАЦІ'КНУЦЬ *зак*. Напомніць, нагадаць. *Каб хто націкнуў мне учора, я б даўно сабрала усе*. Ручаёўка.

НАЦІ'НА *ж*. Сцябло агуркоў. *Націна голая, адкуль жа гуркам быць*. Казярогі. *Шукай гуркі, не памні націну*. Пярэдзелка.

НАЦЫ'КАЦЬ *зак. перан*. Нагаварыць. *Ён так і не прыдумаў бы, а ему нацыкаюць, дак ён і говорыць тады*. Первамайск.

НАЦЯГНУ'ЦЬ *зак*. Узяць, дабіцца. *Хоць де і прашквапіцца, дак нацягне свае*. Дзяражычы.

НА'ЧА 1. *злучн*. Быццам, нібы. *У Хоўры луччая вада, нача халадней і чысцей*. Бывалькі. *Галава сілна баліць, нача скрозь у тумані*. Первамайск. 2. *часц*. Хіба. *Нача ты паедіш?* Ручаёўка. *Нача я ведаю, што ена за деўка*. Чаплін.

НА'ЧАЙ *злучн*. Быццам, нібы. *Мне сказалі, дак начай солі мне хто у вочы насыпаў*. Дзяражычы. *Каб холоднае молоко, дак начай луччай*. Карпаўка.

НАЧА'КАЦЬ *зак*. Паказаць час (пра гадзіннік). *Там багата начакала?— Да ужэ скора чатыры буде*. Дзяражычы.

НАЧАКЕ'НІЦЦА *зак*. Прыбрацца. *Ена як начэкеніцца, дак свекруха маладейшая за невесткі*. Дзяражычы.

НАЧНІ'ЦЫ *мн. арх*. Начныя здані. *Калі деці спяць, дак кажуць, што на іх начніцы нападаюць. Трэба тады песні пець*. Ручаёўка.

НАЧУМІ'ЦЦА *зак*. Наесціся занадта. *Начуміліся коровы кійкоў*. Пярэдзелка.

НАЧЫНА'НКА *ж*. Фаршырованая рыба. *А я рыбы навару, начыню начынанку і назаву сеўкоўцаў*. Дзяражычы.

НАЧЫНА'НЫ *дзеепрым*. Пачаты. *Суп стаяў не начынаны*. Пярэдзелка.

НАЧЫ'НЕНКА *ж*. Фаршырованая рыба. *Ізлуплю шкурку із шчукі, да пасеку м'яса, да туды перчыку, ізделаю начыненку, да ізвару кусочкамі, дак хоць ты губамі еж*. Дзяражычы.

НАЧЫНЯ'НКА *ж*. Фаршырованая рыба. *Пашкрэбу рыбу, налуплю і зделаю начынянку*. Дзяражычы.

НАЧЫРЫ'ЦЬ *зак*. Начарціць. *Покуль начырыш тое чарчэнне, дак нема калі другіе урокі вучыць*. Ручаёўка.

НАШАТКАВА'ЦЦА *зак.* Насыходзіцца, набіцца. *К ёй набіраецца поўная хата, іх петнаццаць ці шэснаццаць як нашэткуецца баб.* Дзяражычы.

НАШЧЫКА'ЦЬ *зак.* Нашчыпаць. *Ідзі нашчыкáй цыбулі.* Ручаёўка. *Нашчыкáла перак у цыбулі.* Чаплін.

НА'ШЫНА *ж.* Мясцовае асяроддзе. *У нáшыну пайці, дак там такіе разговоры.* Пярэдзелка.

НА'ШЫНЕЦ *м.* Чалавек з мясцовага асяроддзя. *У Лоеві у клубі нáшынцаў бачылі.* Дзяражычы. *Куды ужэ нáшынцу з імі раўняцца! У нас усе па-наськi: самі тком і в'яжам.* Дзяражычы.

НАШЫ'ПКАЦЦА *зак.* Набіцца, назбірацца. *Нашыпкалася поўная хата.* Дзяражычы.

НАЯ' *часц.* А як жа, так. *Ная́, не ходіць к бацьку другі год.* Карпаўка.

НЕ *прыназ.* Каля. *Адну ноч не Пашы седелі.* Карпаўка. *Сёдні увечары не вакна доўга пелі.* Первамайск.

НЕАЦАНО'ВАНЫ *прым.* Бясплатны. *Молочкó неацанóванае, піце, сколькі захочацца.* Дзяражычы.

НЕ'БА *н.* 1. Неба. *Екое сегодні чыстае нéба.* Чаплін. 2. Паднябенне. *Баліць нéба у роце.* Пярэдзелка. *Я учора нéба косткай уколола.* Ручаёўка. 3. Скляпенне ў печы. *Нéба, кабыла — адно і тое ж.* Пярэдзелка. *Кірпіч выпаў з нéба.* Ручаёўка.

НЕБАГА'ЦЬКА *прысл.* 1. Нямнога, мала. *Небагáцька, поўзогóна толькі землі було.* Ручаёўка. *Небагáцька проса у нас е.* Чаплін. 2. Недалёка, блізка. *Небагáцька да Украіны: переадь чэраз рэку, стрэнь чалавека — і другі разговóр, там говóрацъ па-укрáінські.* Дзяражычы. *Памянш.* небагáцечка. *Небагáцечка да Украіны.* Дзяражычы.

НЕБАЖА'ТА *мн.* Унукі. *Жніце, жніце, небажáта, у нас жыцечка небагата* (З нар. песні). Чаплін.

НЕБЕСПРЫМЕ'ННА *прысл.* Бясспрэчна. *Як легла, небеспрымéнна лежала месяцаў два.* Ручаёўка.

НЕ'БУДЗЬ: *нéбудзь бярэ́.* Зло ахоплівае. *Ніколі у мене у хаці так не було, такога кваце'рянты наделалі, мене нéбудь берэ́, не магу гледець, я не магу перажыць.* Дзяражычы. *Нéбудзь узялá.* Хвароба напала. *Штоб цебе ужэ нéбудь узелá.* Дзяражычы.

НЕВІДЗЯ'ШЧЫ *прым.* Сляпы. *У его невідя́шчая матка була.* Дзяражычы.

НЕГАДЗЯ'Й *м. груб.* Нягоднік, паганец. *Негадзей напіліся гарэлкі з новага ураджаю.* Ручаёўка.

НЕГАДЗЯ'ШЧЫ *прым.* 1. Няздатны. *Негадяшчая, а другое шчэ негаднейшае, нічога не хочуць делаць.* Дзяражычы. 2. Непрывабны. *Не хоча бусі з такой негадяшчай бабай дай усе. Я думаю, такую негадяшчую цалуе.* Бывалькі. 3. Непрыгодны. *Во тут колодезь буў, да такая вада негадяшчая.* Ручаёўка. 4. Нядобры, паганы. *Як з етага кутка хлопцы прыдуць, дак мы гуляем з імі і зернят дадім, а як з того прыдуць негадяшчые, дак вуганім.* Дзяражычы. // Дрэнны, кепскі. *Летась целя упладілась токое негадяшча.* Ручаёўка. *Такая земля негадяшчая: як узораш, дак глыжак тых поўна, б'еш, б'еш, дай годі скажаш.* Бывалькі.

НЕГІЛЮ'ЗНЫ *прым.* Непрыглядны. *Як ена негілюзная да можа паганая, дак шкода хлопца.* Дзяражычы.

НЕГУЛЯ'ШЧАЯ *прым.* Цяжарная. *Негуляшчая, а ее забралі: скора буде раджаць.* Рудня Марымонава.

НЕДАБІ'РКІ *мн.* Рэшткі, астача. *Пашла у лаўку, хацела мацераї екой узяць, а там толькі недабіркі метраў па два.* Ручаёўка.

НЕДАКА'РАК *м.* Акурак. *Ішоў бацька, вот его прысмаліла, а лежыць недакарак, ён узяў, скурыў той недакарак, схваціўся прышчык на губах, а тады рак зделаўся.* Ручаёўка.

НЕДАЛЕ'КА *прысл.* Недалёка. *Не, лес у нас недалека.* Ручаёўка.

НЕДАЛЕ'ЧЫ *прысл.* Недалёка. *Недалечы жыла з чалавекам, і деці булі з намі.* Ручаёўка.

НЕДАЛУ'ГІ *прым.* Хваравіты, слабы. *Ён буў тожа недалугі: ему нельзя було есці ржанога хлеба, у его зделалася у жываце зацверденне.* Дзяражычы.

НЕДАПРА'ДКІ *мн.* Недапрадзеная кудзеля. *Ена прала куделю і недапрадкі затыкала у вуглік.* Пярэдзелка.

НЕДАРО'СТАК *м.* 1. Недаростак. *Аддала мене матка за недоростка.* Крупейкі. *Прывезала недоростка к сасне касіма, на Дунай ачыма* (З нар. песні). Первамайск. 2. Малалетак. *Недоросткаў збіраюць саджаць у печ каравай.* Ручаёўка.

НЕДАРЭ'КІ *прым.* 1. Неразумны, бесталковы. *Ужэ як шыгіравая да недарэкая, дак начорта тая жонка.* Дзяражычы. 2. Картавы, заікасты. *Недарэкі у мене унук, і маццы гора: плоха говорыць.* Ручаёўка.

НЕДАРЭ'ЧЛІВЫ *прым.* Картавы, заікасты. *Злекалі хлопчыка: недарэ́члівы саўсім стаў.* Ручаёўка.

НЕДАСЕ'КІ *мн.* Заганы ў палатне. *Недасе́кі бываюць, калі уток хорошо́ не прыбіваеш бёрдам.* Ручаёўка.

НЕ'ЕДЗЬ *ж.* Ежа. *Хіба ета гуляка пойде капаць, ена умрэ без не́еді.* Дзяражычы. *Цэлая буде, не умрэ без не́еді.* Ручаёўка.

НЕ'ЖАНЬ *м.* Эпілепсія, прыпадак. *Его не́жань б'е.* Крупейкі.

НЕЗДАЛЯ'ШЧЫ *прым.* Слабы здароўем, кволы. *Вы нездаля́шчые, дак вам нельга работаць у колхо́зі.* Дзяражычы. *Іван такі нездаля́шчы: мешка не падніме.* Крупейкі. *Я маладая папахаділа па тых доро́жках, а цепер нездаля́шчая стала.* Ручаёўка.

НЕ'КАЛЬСТВА *н.* Адсутнасць, недахоп вольнага часу. *От, галубка, екое не́кальства.* Дзяражычы. *Ета, мамачка мая, так чэраз не́кальства.* Чаплін. *За не́кальствам і свету не бачым.* Карпаўка.

НЕ'КАСЬ *ж.* Сенажаць дрэннай якасці. *Касіў не́кась сеголета, дак на коро́ву не хваціць на зіму.* Пярэдзелка.

НЕЛАДО'М *прысл.* Не ў лад, бязладна. *Неладо́м іде, дак нема чаго успамінаць.* Ручаёўка.

НЕЛЮДЗЯ'ЧЫ *прым.* 1. Нягодны. *Адін ціліхвон далі, да й той нелюдя́чы.* Дзяражычы. 2. Непрыгожы. *Я думаю: такую нелюдя́чую цалуе.* Бывалькі. 3. Слабы, хворы. *Матку его нелюдя́чую, слепую хавала ад немцаў на печы.* Дзяражычы.

НЕМАЗНА'ЦЬ *прысл.* Немаведама. *Было парадкам, а цепер немазна́ць што там робяць.* Пярэдзелка.

НЕ'МАЧ *ж.* 1. Бяссілле, слабасць. *А бацьку твайму не́мач.* Дзяражычы. *А я думаю: калі б табе не́мач.* Казярогі. 2. Няшчасце, бяда. *Ты мне не помач, а не́мач: толькі і знаіш хварэць.* Вулкан. *Атагналі не́мач, выгналі немцаў з нашай зямлі.* Пярэдзелка. △ *Дажда́цца во́ўчай не́мачы.* Не дачакацца нічога. *Ты тут дажджэ́сся во́ўчай не́мачы.* Дзяражычы.

НЕ'МКА *ж.* Нямая. *Ена не попро́сіць, ена, як не́мка, не аброціцца ні к кому.* Дзяражычы.

НЕ'МЦЫ : *у не́мцы.* На нямеччыну. *Маю дачку у не́мцы угналі.* Бывалькі.

НЕ'МЧЫК *м.* Нямы. *Той дед ета добра ведае, толькі ён не́мчык, не гово́рыць.* Ручаёўка.

НЕНАДАЕ'ДНЫ *прым.* Ненадакучлівы. *Васіль мой ненадае́дны чалавек.* Дзяражычы.

НЕНАСЫ'ТКІ *прым.* Ненасытны.— *О-о, ты маласыткая.— А неўжэ ж такая, як ты, ненасы́ткая.* Дзяражычы. *Такі ужэ ненасы́ткі чалавек: сена далі і на лугу, і сам касіў, а усеадно кажа, што мала.* Ручаёўка.

НЕНАЧЫНА'ТЫ *дзеепрым.* Непачаты. *Суп стаіць неначына́ты.* Пярэдзелка.

НЕПАВАРО'ТКІ *прым.* Непаваротлівы. *Ена такая непаваро́ткая.* Дзяражычы.

НЕПАСЯДЗЯ'ШЧЫ *прым.* Непаседлівы, працавіты. *Непаседя́шчы ён, рабацяга, не паседіць нікагда.* Ручаёўка.

НЕ'ПША *н.* Прымесь (у просе). *Насееў проса, змалаціў — адна не́пша.* Пярэдзелка.

НЕРАЗБІТНЫ' *прым.* Ціхі, спакойны. *Ена такая неразбітна́я.* Дзяражычы.

НЕРАЗБО'РНЫ *прым.* Непераборлівы, непатрабавальны. *Ну і, наверна, не дабачыў трохі, што ён такі неразбо́рны дед.* Крупейкі.

НЕРУШЫ'МЫ *дзеепрым.* 1. Некрануты. *Калісь лес буў, шчэ усе нерушы́мае було, пушча стаяла.* Первамайск. 2. Нерухомы. *У мене пака радіва не загово́рыць, дак я нерушы́ма: уранні я цемначы не устаю.* Дзяражычы.

НЕСАМАВІ'ТЫ *прым.* Дурнаваты. *Петро ходіць, як несамавіты.* Дзяражычы.

НЕСПАДЗЁВАНА *прысл.* Неспадзявана. *Згарэлі неспадёвана.* Чаплін.

НЕТ : *на не́т.* Зусім. *Аслабла свекруха на не́т, трэба ехаць к Марусі.* Бывалькі. *Узялі да ва усіх людей абсунулісь рукі, звелі усе на не́т.* Дзяражычы. *Дак ён зноў прынес два возы ламачча і спаліў на не́т Івана* (З казкі). Крупейкі.

НЕЎГАМУ'ШЧЫ *прым.* Неўгамонны, непаседлівы. *Целяты неўгаму́шчые.* Дзяражычы. *Дейкі такіе неўгаму́шчые.* Крупейкі.

НЕ'ЎДАЛЬ *м., ж.* Няўклюда, няўдаліца. *Папаўся мне не́ўдаль, пражыла за ім, як непраны мех.* Пярэдзелка.

НЕЎКАВЫ'РНЫ *прым.* Няветлівы, непаслухмяны. *Такі неўкавы́рны, прасунецца воўкам — і у сваю хату.* Дзяражычы.

НЕ'ЎМА: *не́ўма што (шчо).* Абы-што. *Не́ўма што го-*

*ворыць*. Дзяражычы. *Не нéўма што, а правільна*. Ручаёўка. *Нéўма дзе*. Немаведама дзе, далёка. *А ета не була нéўма де? Аж у Карэляю заехала*. Пярэдзелка. *Нéўма як*. Вельмі. *Нéўма як старалася усе прыбраць к Акцябрыні*. Бывалькі. *Нéўма які*. Вельмі. *Нада нéўма які добры характар мець*. Карпаўка.

НЕЦІКА'ВА *прысл*. Неахайна, брудна. *Ты ж, Маруся, гледі, я ж неграматная, і бачу, шчо у цебе нецікáва там у шшытку*. Дзяражычы.

НЕЦІКА'ВЫ *прым*. Неахайны, неакуратны. *Его ж вугналі з Любеча, ён ба і жыў, а его жонка такая нецікáвая, себе не абмые*. Первамайск.

НІБЫ'ЦЦАМ *часц*. Быццам. *Я ку, нібы́ццам парцізаны булі уночы у Абакумах*. Первамайск.

НІГА'ДКІ *прысл*. Добра. *Ты ужэ нігáдкі, агарод засеяла*. Дзяражычы. *Оцета ж вылупіла міску солóнікаў з гуркамі да і нігáдкі*. Казярогі.

НІГО'ДЗІН *займ*. Ніводны. *Усе раўно нема радачкі, нігóдін не помóжа*. Ручаёўка.

НІГО'ДНЫ *займ*. Ніводны. *Я сеяў, дак такой нігóднай не вырасла*. Рудня Марымонава.

НІЗВЕ'СНА *прысл*. Невядома. *Нізвéсна, де деўсь*. Ручаёўка.

НІ'ЗКІ: *нізкі на вóчы*. Хто дрэнна бачыць. *Ён жа не бачыць, нізкі на вóчы*. Ручаёўка.

НІЗНУ'ЦЬ *зак. перан*. Ударыць. *І так нізнýла, што корóва верóўку атарвала*. Пярэдзелка.

НІ'КАНЫ *мн*. Гультайства. *Светые ніканы сегодні*. Ручаёўка.

НІ'КАЦЬ *незак*. Хадзіць, выглядаць. *Як прышоў, так і давай нікаць, чогó з'есці*. Ручаёўка. *Чогó ты там нікаеш пад вокнамі, іді у хату*. Дзяражычы.

НІКІ'М: *нікім нікóга*. Зусім нікога. *Німа нікім нікóга*. Ручаёўка.

НІКУДЫ' *прысл*. Нікýды. *Без папытання нікуды́ не ідуць*. Дзяражычы. *Разговóр нікуды́ не подхóдіць: ні к каню, ні к кату, ні к плоту*. Ручаёўка.

НІКУДЫ'ЧНЫ *прым*. Слабы, стары. *Вуллян як лег, дак дайжа на вуліцу не вуйшаў — нікуды́чны стаў*. Ручаёўка.

НІКУДЫ'ШНІ *прым*. Слабы, стары, непатрэбны. *Прадаў мне нікуды́шніе чобаты*. Первамайск. *Ета дела нікуды́шняе*. Ручаёўка.

НІМАЗНА'ЦЬ ЯК *прысл.* Вельмі. *Папагаравалі німазна́ць як.* Пярэдзелка.

НІСКО'ЛЕЧКІ *прысл.* Ніколечкі. *У его вопута німа ніско́лечкі.* Дзяражычы.

НІЦАКА' *прысл.* Ніц. *Его ніцака́ паклалі.* Дзяражычы. *Діцяці ніцака́ паклаў у падушку, дак ено задыхнулася.* Бывалькі.

НІ'ЦЫ *прым.* Подлы, ганебны. *Такі чорт ніцы, што жыць з ім нельга.* Дзяражычы.

НІЧАГЕ'НЬКА *займ.* Нічога. *У іх нічаге́нька не було.* Крупейкі.

НІЧАГУ'СІ *займ.* Нічога. *Я не хочу ні грошай, нічагу́сі.* Дзяражычы.

НІЧО'ГА *займ.* 1. Нічога. *Як прышлі з лесу, дак нічо́га у хаці не було.* Бывалькі. 2. Нішто сабе. *На від нічо́га, а пагаманіць, дак шыгірае. нічым нічога не разабраць.* Дзяражычы. △ *Нічы́м нічо́га.* Зусім нічога. *Гуркі е, яблакі е, а як прыде зіма, дак нічы́м нічо́га не застанецца.* Казярогі. *Нічы́м нічо́га не чула і не бачыла.* Ручаёўка.

НІШКНУ'ЦЬ *незак.* Маўчаць. *Прыказалі, штоб нішкну́лі, што мы па шышкі хаділі.* Крупейкі.

НІШЧЫ'МНЫ *прым.* 1. Нішчымны. *Пабоўніна — суп нішчы́мны.* Казярогі. *Наварыла хоць і нішчы́мнага, абы што было есці.* Карпаўка. 2. Парожні, пусты. *Адін чалавек вазіў сваю жонку у больніцу і еде нішчы́мнай подво́дай назад.* Карпаўка.

НІЯ'КІ *займ.* 1. Ніякі. *Ніякай людям банечкі не постро́яць.* Ручаёўка. *У девачкі нема ніякага роду.* Чаплін. 2. Дрэнны, благі. *Ой, ена ж ніякая саўсім.* Дзяражычы. *Такіе уроділі буракі — засуха, дак ены ніякія.* Ручаёўка. *Ён ніякі, і ена ніякая — ніхто іх не любіць у нас.* Чаплін.

НО'ЖНІ *мн.* Ножны. *Дай мне но́жань падстрыгці Маню.* Дзяражычы.

НО'СЦЫК *м.* Выспятак. *Я ее на но́сцыках прыкачу додо́му, а біць не буду.* Дзяражычы. *Прышла — замкнутая землянка, я но́сцыкам як дала, дак дверы адчыніліся.* Ручаёўка.

НО'ША *ж.* Яечнікі ў курыцы. *Нема у мене куры: я купіла у Параскі, дак ена но́шу адбіла. Як удар куру па спіне, дак у ее тая но́ша паб'еціа і еечкі патруцца.* Дзяражычы.

НО'ШЫ *мн.* Насілкі. *Беры но́шы да несі.* Ручаёўка.

НУ'ДНА [1] *прысл.* Сумна. *А, пане Тамара, чужые, а*

*паедуць, дак і нýдна*. Дзяражычы. *Не ідіце, а то мне адной нýдна*. Карпаўка.

НУ′ДНА[2] *прысл*. Млосна. *Ей нýдна, што ены харашэ жывуць*. Дзяражычы.

НУ′ДНЫ *прым*. Нясмачны, брыдкі. *Конскі шчавель нýдны, недобры, а трэба піць*. Ручаёўка.

НУДЗЯ′ЧКА *ж*. Нязначнае. *Зарабіў екую нудя́чку, дак трэба аддаць сыну на вучэнне*. Бывалькі.

НУ′ЖА *ж*. Мухі (наогул насякомыя). *А гразі да нýжы у хаці о-е-ёй*. Дзяражычы.

НУЖДА′ *ж*. Бяда, цяжкае становішча. *Хіба ён тваю нуждý знае да твае гора: ён сеў на «Волгу» і паехаў*. Дзяражычы.

НУЗДО′ *н*. Вуздэчка. *Аброць з нуздóм, без нуздá — аркан*. Бывалькі. *У аброці е нуздó і аркан*. Дзяражычы.

НЯБО′ГА *ж*. Пляменніца. *Тры небóгі е, сестрыны деці*. Дзяражычы. *Небóга — дачка братняя*. Пярэдзелка. *Раней звалі небóга і небож, а цепер племенікі говóраць*. Ручаёўка.

НЯБО′Ж *м*. Пляменнік. *Небóж — ета братні сын*. Пярэдзелка. *Алеся була за маім небóжам, брат браў за свогó сына*. Дзяражычы.

НЯБО′ЖА *м*. Пляменнік. *Ета ж небóжа родны — сестрын сын — аддае дачку*. Дзяражычы. *Небóжа — братні сын у том, у начальніках*. Казярогі. *Ена ж ему довóдіцца небогаю, а ён небóжам*. Карпаўка. *Памянш*. нябóжка. *Небóжкі, бувала, прыдуць, помóгуць мне кортóплі скапаць*. Карпаўка.

НЯВА′ЖНІ *прым*. Няважны, не вельмі добры. *На усадьбі невáжніе кордóплі*. Дзяражычы. *Ён чалавек невáжні*. Ручаёўка.

НЯВА′ЛАШАНЫ *прым*. Некастрыраваны. *Невáлашаны кабанчык ходіць, трэба звалашыць*. Дзяражычы.

НЯВЕ′РА *ж*. Недаверлівы чалавек. *Я такіх невéраў не люблю*. Ручаёўка.

НЯВЕ′ХНА *ж*. Нявестка. *Невéхна свекруху даўно ужэ гледіць*. Чаплін.

НЯВЕ′ЧЫЦЬ *незак*. 1. Нявечыць, біць. *Вып'е, дак не ругайся, а не то, шоб цебе невéчыў*. Дзяражычы. 2. Абражаць, зневажаць. *Я ж не занімалася з мужчынамі, штоб мене хто невéчыў*. Дзяражычы. *Сем'я его невéчыла невестку ізразу*. Крупейкі. *Папа ругае маму, невечыць ее*. Ручаёўка.

НЯВО′ЛЯ *ж.* 1. Няволя. *У немецкай невóлі два гады булі.* Ручаёўка. 2. Цяжарнасць. *Луччай нема невóлі, як ета невóля — цэлых девяць месяцаў.* Казярогі. *Праклінаем землёй і небам Паўла: гуляў з Пашай да й аставіў ее у невóлі.* Карпаўка. *Зарэвела корóва й у полі, заплакала Маруся ў невóлі, зарэвела корóва з целяткам, заплакала Маруся з діцяткам* (З нар. песні). Крупейкі. *Дейка ужэ тры месяцы у невóлі.* Первамайск.

НЯГО′ДНІЦА *ж.* Непрыгодная. *Ета ж корóўка ужэ негóдніца, другую неделю не доім.* Ручаёўка.

НЯГО′ДНЫ *прым.* 1. Няздатны. *Чалавек мой негóдны ні к чому, толькі гарэлку піць.* Бывалькі. 2. Паганы. *Ну дак а неўжэ ж, негóдны, плоха з ім жыці.* Ручаёўка. 3. Непрыгодны да ўжывання. *У мене нема негóднай карзіны, усе толькі летась купіла.* Казярогі.

НЯДА′РАМ *прысл.* Дарма. *От ету беры, недáрам, шо ена распусканка.* Дзяражычы.

НЯДА′ЎНЕЧКА *прысл.* Нядаўна. *Мы ж оде купілі недáўнечка кабана.* Дзяражычы. *Недáўнечка Быкаў тут.* Казярогі.

НЯДО′ЙКА *ж.* Ялаўка. *Недóйка, нецель, целіца — адно і тое ж.* Дзяражычы. *Здаравенные недóйкі ходяць, як корóвы. Недóйка-гуляка, ні разу не целілася.* Ручаёўка.

НЯЗДЕ′ЧНЫ, НЯЗДЗЕ′ШНЫ *прым.* Нетутэйшы. *Ён нездéчны, робóтаў у Нікалаеві.* Дзяражычы. *Невестка тожа нездéшная, дак ена тожа навернае па-радульскі.* Ручаёўка.

НЯЗДО′ЛЕЦЬ *незак.* Быць слабым, хварэць. *Хто ета думаў, што будеш нездóлець да балець.* Дзяражычы. *Саўсім я нездóлею, не магу нічога делаць.* Крупейкі. *Ена баба, як метла; тады я паеду, кажа, к сыну, як нездóлею.* Чаплін.

НЯЗНА′ТНЫ *прым.* Незнаёмы, невядомы раней. *З кім гуляеш, за того ніколі не пойдеш, мене тожа незнáтны узяў.* Ручаёўка.

НЯЙНА′ЧА *часц.* Няўжо. *Нейнáча не усеадно?* Бывалькі.

НЯКМЕ′ТНЫ *прым.* Непрыкметны. *Сыны заметные, а я малая, некмéтная.* Пярэдзелка.

НЯЛЬГА′, НЯЛЬЗЯ′ *прысл.* Нельга. *Ему, мае деткі, верыць нельгá.* Бывалькі. *Мая баба була, ні розóчык не хварэла, а цепер мне захлупляе і сказаць нельгá.* Руча-

ёўка. *Нельзя́ іздевацца, што ж я не душа.* Дзяражычы. *Хіба нельзя́ було менкоў пару прынесці.* Чаплін.

НЯЛЮДЗЯ́ШЧЫ *прым.* Няздатны, хворы. *Матку его нелюдя́шчу хавала ат немцаў.* Дзяражычы.

НЯМА́: *няма́ знаць ко́лькі.* Вельмі многа. *Людей сабралося нема́ знаць ко́лькі.* Дзяражычы.

НЯМА́ШАКА, НЯМА́ШАКІ *адм.* Няма. *У мене нема́шака чужой сем'і — зводчыны, а свая сем'я.* Дзяражычы. *Ён децей хацеў, а у ее нема́шакі.* Ручаёўка. *Як не у цебе, дак ніде у свеці нема́шакі.* Чаплін.

НЯМЫ́ТЫ: *немы́ты язы́к. асудж.* Балбатлівы, залішне гаваркі. *Што ты мелеш сваім немы́тым езыко́м!* Дзяражычы.

НЯНА́СЦЕ *н.* Нягода, дрэннае надвор'е. *Кожны день дошч, такое ужэ нена́сце, што і з хаты не вулазь.* Чаплін.

НЯРА́ХА *м., ж.* Няўклюда, неахайны чалавек. *Такая ужэ нера́ха, вечна ходіць як заткала.* Дзяражычы.

НЯРО́ЗДАЎБЕНЬ *м. абразл.* Тупіца. *Неро́здаўбень екійся, п'яць раз прачытае, а нічога не запомніць.* Дзяражычы.

НЯЎДО́БШЧЫНА *ж.* Няўдобіца. *Хапае у нас і неўдо́бшчыны, ета поле мы не сеем.* Ручаёўка.

НЯЎДО́СТАЛЬ *прысл.* Недастаткова. *От малака як неўдосталь, дак і плоха.* Дзяражычы.

НЯЎЖЭ́ *часц.* Няўжо. *Неўжэ́-та хлопчык іде займаць целя.* Ручаёўка.

НЯЎЗО́РА *м., ж.* Нелюдзь. *Што за чалавек. Неўзо́ра екаясь.* Пярэдзелка.

НЯЎЗО́РЫСТЫ *прым.* Нелюдзімы. *Ні з кім не загово́рыць, усе адін і адін, такі неўзоры́сты.* Пярэдзелка.

НЯЎЛЮ́ДНЫ *прым.* Нелюдзімы. *Штосьці такая неўлю́дная, ні з кім не разгаваруе.* Бывалькі.

НЯЎПРО́ЦІЎ *прысл.* Не супраць. *Ены ему неўпро́ціў, нехай жэніцца.* Дзяражычы.

НЯЎСТЫ́ДНЫ *прым.* Бессаромны. *Неўсты́дная, як ёй не грэх такое гаварыць.* Бывалькі. *Неўсты́дная ты, кажа, бессовесная, ёй не на уме свет, ена горам убітая, а ты на ее токо́е кажыш.* Дзяражычы.

НЯЎСЦІ́ВЫ *прым.* Бессаромны. *Такая ужэ неўсцівая жэншчына, лезе напралом.* Пярэдзелка.

НЯХА́ЙНЫ *прым.* Неахайны. *Ох, екая неха́йная, запэцкала усё плацце.* Крупейкі.

НЯХО́ХА *м., ж.* Чалавек, абыякавы да ўсяго. *Ён у*

*нас нехо́ха такі, не хоча нічога делаць, і штоб его не чапалі.* Пярэдзелка.

НЯЧЫ́ШЧАНІКІ *мн.* Нячышчаная вараная бульба. *На вечэру усегда нечы́шчанікі варылі.* Дзяражычы.

НЯШЧА́СНІК *м.* Нешчаслівы чалавек. *А такіе нешча́снікі пагіблі.* Чаплін.

НЯШЧЫ́ННЫ *прым.* Нішчымны. *Хоць нешчы́нные кортопплі, а пад'еж.* Дзяражычы.

# О

О 1. *часц.* Вось. *О була сестрына дачка. О у мене вада е у кухліку.* Дзяражычы. 2. *выкл.* Выказвае здзіўленне. *О, вырасла, ужэ цэлая невеста і пад венец.* Дзяражычы.

ОДЗЕКАВО́ *часц.* Вось тут. *Одекаво́ стаяць ночо́ўкі.* Карпаўка.

ОГО́ 1. *выкл.* Го. *Ого́, сколькі гасцей наехала к Сурожыку.* Ручаёўка. 2. Вось. *Цепер у іх ого́ прыборы у домо́х.* Дзяражычы.

О́КАРАК *м.* Шынка. *У гуменцы о́карак пачаты вісіць.* Ручаёўка.

О́НАКІ *часц.* Вунь. *Онакі бацька іде ат лаўкі.* Дзяражычы.

О́НДЕ *часц.* Вунь. *О́нде ідуць ужэ школьнікі.* Дзяражычы.

ОНЬ *часц.* Вунь. *Онь дровы ён прыцягне чоўнікам, дак я наперад — мене назад: рукі не робо́таюць, глазы не бачаць.* Чаплін. *Онь абірае парасяці.* Ручаёўка. *І у маладых онь нема зуб.* Бывалькі.

ОСЬ *часц.* Вось. *Ось у нас, у етуй, у лоеўськай старане.* Ручаёўка.

ОТ *часц.* Вось. *Ён там пошо́ў шумець да от і нашумеў, дак ены і заставілі ажэніцца.* Дзяражычы. *От такая жаждая, галубка, усё ёй мала.* Крупейкі.

О́ТВЕДЫ *мн.* Водведы. *Бабы хаділі ў о́тведы к Марусі, ена толькі заўчора раділа.* Ручаёўка.

ОТО́ЛЕЧКІ *прысл.* Толькі што. *Антобус пошо́ў ото́лечкі.* Дзяражычы.

ОТО́ТА ДА *часц.* Вот іменна. *Ото́та да, шо палучылі послі вайны.* Карпаўка.

ОТЭТАВО́ *часц.* Вось гэта. *Отэтаво́ соценку атнёс*

*секлетару*. Казярогі. *Отэтаво́ сліўкі, беры забелюй*. Дзяражычы.

ОУ′Х *выкл*. Ох. *Оўх, матка его і лёну давала, і ігруш сушаных*. Бывалькі. *Оўх, абое такіе скупучые, рошчо́тные*.. Дзяражычы.

ОЦЕ′ *часц*. Вось. *Оцė чуць ее не задушылі*. Дзяражычы. *Ён і нам оцė паделаў рамы*. Крупейкі.

ОЦЕ′КА *прысл*. Вось тут. *Пасьці трыццаць восім годоў оце́ка жыву*. Пярэдзелка.

ОЦЕ′ТА [1] *прысл*. Вось тут. *Оце́та между Цесноў буў памешчык*. Дзяражычы. *Оце́та лежалі коло́ды*. Пярэдзелка. *Ты, Насця, оце́тта сядь*. Казярогі.

ОЦЕ′ТА [2] *часц*. Вось. *Оце́та вып'ем, скачам, пеём*. Дзяражычы. *Оце́та ее забралі і павезлі*. Крупейкі. *Сегодні оце́та толькі дошч пошо́ў*. Ручаёўка.

ОЦЕ′ТА Ж *часц*. Вось жа. *Оце́та ж мене знiстожылі*. Бывалькі.

ОЦЕ′ТЫ *займ*. Вось гэты. *У Ленінграде оце́тай весной бачыла я Івана*. Дзяражычы.

ОЦЮДО′Ю *прысл*. Вось сюдой. *Оцюдо́ю далей іді*. Карпаўка.

О′ЧЫ *мн*. Вочы. *На ачах хазяйкі пагібла*. Ручаёўка.

# П

ПА *прыназ*. 1. У. *Як не прыде с арміі па весне, дак прыде увосень*. Чаплін. *Па восені сколькі мухамораў*. Ручаёўка. *Мікола у Піліпаўку і па весне есцека*. Карпаўка. *Ена па ражаству раділась*. Первамайск. *Па стражах ніхто не жыў*. Пярэдзелка. 2. З-за. *Хіба усе па старасці уміраюць, па балезні болей*. Дзяражычы. *Мене па годо́х на етую во́йну не узялі*. Первамайск.

ПААБЯРА′ЧУВАЦЬ *зак*. Абярнуць усё, многае. *Хацяб я етымі вілкамі чыгуны не паабера́чувала*. Ручаёўка. *Калісь сусед гнаў гарэлку, а міліцыянер прышоў усе павулівау, паабера́чуваў*. Чаплін.

ПААДТУХА′ЦЬ *зак*. Пайсці на змяншэнне (пра пухліну). *Такое гора було: ногі булі, як коло́ды, а тады з ног у рукі пошло́ — ногі паатуха́лі*. Бывалькі. *Паапухалі ногі у ступенях, можа, пааттуха́юць: доктарка дала лекарства*. Дзяражычы.

ПААДЦІРА'ЦЬ *зак.* Адцерці. *Беллё паадціраць нада, бо вельмі ужо гразнае.* Чаплін. *Стольки ужэ назбірала лахманоў, дак дома паадцірáю у гарачай ваде, а тады пайду на Днепр павумуваю.* Пярэдзелка.

ПААЗАЛО'ЧУВАЦЦА *зак.* Разбагацець. *Котóрые паазалóчуваліс скражкамі.* Дзяражычы.

ПААКУТА'ЦЬ *зак.* Загарадзіць. *Пабралі планы да паакутáлі іх.* Казярогі. *Іван паламаў увесь поплёт, дак нехай цепер і паакутáе.* Дзяражычы.

ПААСЕ'ННЕЦЬ *зак.* Надысці (пра восень). *Як пиасéннее, дак будам прынімаць м'яса.* Дзяражычы. *Такі здорóвы кабан ходіць, будам біць туды далей, як паасéннее.* Крупейкі.

ПАБАРАБА'НІЦЬ *зак. перан.* Нагаварыць, напляткарыць. *Пабегіць — там пабарабáніць, там пабарабáніць.* Ручаёўка.

ПАБЕ'ГАЦЦА *зак.* Пакрыцца (пра жывёл). *Недаўна шчэ пабéгалась коровá.* Дзяражычы. *Мо скора пабéгаецца свіння, дак будуць парасята к зіме.* Чаплін.

ПАБЕ'ГЦІ *зак.* 1. Пабегчы. *Пабéгла Варка целяці атвернуць.* Бывалькі. *Іді на шашу, Таня пабéгла горóдамі.* Дзяражычы. 2. Пайсці хутка, спяшаючыся. *Пабéгла на нарад, а нам не на памінку аткрыць тую трубу, дак столькі чаду найшло.* Дзяражычы. *Пабéглі даяркі на поле на працэнты полóць кортóшку.* Вулкан. *Свекруха пабéгла учорі у Сеўкі.* Бывалькі. // Наведаць суседзяў. *Пабéгла па дварах, як найда.* Дзяражычы. 3. *перан.* Адчыніцца. *Вецер як задуé, дак дверы пабéглі, і карасін упаў.* Ручаёўка.

ПАБЕРАЖЫ'ЦЦА *зак.* Паберагчыся. *Ена не паберажылася да скінула діця.* Дзяражычы. *Ото з бані тае да не паберажылася і хварэе.* Бывалькі. *Як сама не паберажэсся, дак ніхто, пане Тамарка, не пагледіць.* Пярэдзелка.

ПАБІРА'ХА *ж.* Жанчына, якая любіць пазычаць у суседзяў. *Пабірáха такая — свойгó нічога нема, да брахачка.* Дзяражычы.

ПАБІ'ЦЬ *зак.* 1. Забіць многіх. *Сыны пабіла на вайне. Тых двох вайна пабіла.* Дзяражычы. // Знішчыць, пашкодзіць. *Завезь була добрая, дак град пабіў.* Ручаёўка. 2. Павыразаць, зрабіць паглыбленне. *Вада пабіла кайтобы такіе, кайтабані павуразала.* Дзяражычы.

ПАБЛАГАДАРЫ'ЦЬ *зак.* Падзякаваць. *Паблагада-*

*рыла ему.* Бывалькі. *Цётка такая скупучая да ненавісная, захварэла, дак ніхто пра ее не уздумае і не паблагадарыць ні за што.* Дзяражычы.

ПАБО'ЖКАЦЬ *зак.* Памаліцца. *Прынесуць блінцы, кашу, пакладуць, пабожкаюць над ёй і пойдуць.* Крупейкі.

ПАБО'ЛЬША *прысл.* Болей. *Побольша пастой тут, а целя па градах ходіць.* Бывалькі. *Побольша, побольша наберы гуркоў.* Дзяражычы.

ПАБО'ЎЦІНА *ж.* Нішчымны і рэдкі суп ці боршч. *Прышоў прымак да побоўціны з'еж.* Дзяражычы. *Дадуць побоўціны да і еж, дак ён паеў месяц да паехаў на рэнгент.* Крупейкі.

ПАБО'ЧЫНА *ж.* Цвёрдае бакавое сала ці мяса. *Што ета за м'яса ты мне укінула, што я еў, еў і рады не даў: ці ета екая побочына, ці я сам не прыдумаю.* Крупейкі.

ПАБРА'ЦЦА *зак.* Пажаніцца. *Іван з Мар'ей пабраліся, так харашэ жывуць.* Ручаёўка. *Умесці гулялі у адной дерэўні і пабраліся.* Чаплін.

ПАБРА'ЦЬ *зак.* 1. Пабраць. *Тые небожы, што пабралі ее добро, дак і ейца не пакачаюць ей і скацеркі не засцелюць на магілцы.* Дзяражычы. // Выйсці замуж. *Маіх і девак быстра маладых пабралі: не успее узнікнуць, як і паберуць. Такіе, галубка, хлопцы пабралі, як мілы день.* Дзяражычы. 2. Павырываць лён, каноплі. *Ужэ пабралі лён і паслалі ле копанкі.* Пярэдзелка. *Як паберуць лён, тады абіваюць.* Пярэдзелка.

ПАБРЫ'ЗКАЦЬ *зак.* Папырскаць. *Трэба пабрызкаць кортошку ад жукоў, а то от бічымсь, бічымсь з етымі жукамі — кожды день аббіраем.* Дзяражычы.

ПАБУРА'ЦЬ *зак.* Пабурыць, раскідаць. *Стаўлеем хату там, етую точна пабураем.* Пярэдзелка. *Хлеў трэба буде пабураць, ён ужэ нікуды не годны.* Бывалькі.

ПА-БЫ'СТРАМУ *прысл.* Хутка. *Цепер рэкета пабыстраму довозіць у Гомель.* Дзяражычы. *Па-быстраму мне трэба з'ездіць у Гомель.* Пярэдзелка.

ПАБЫ'ЦЬ *зак.* 1. Пабыць. *Дома толькі тры дні пабыў. Ён тыжджань пабуде да у сыботу — гура туды — і паехаў, а табе дулю дасць.* Дзяражычы. *Год пабыў, як колхоз зарганізаваўся, а тады у Карэлію паехаў.* Ручаёўка. 2. Пражыць. *А ён прышоў з вайны, пабыў тры гады дай умер.* Ручаёўка. △ *Пабыць за хазяінам.* Пажыць за-

мужам. *За трыма хазяінамі пабула́ і ішчэ маладая.* Чаплін.

ПАВАДЗЕ'Ц *м.* Повад, павадок, наогул вяроўка. *Вазьмі павадёц да прыгані каня.* Первамайск. *Ена прышла по по́вада: павадёц ее у нас.* Дзяражычы. *Павадёц — невелікая веровачка.* Первамайск.

ПАВА'ЖНА *прысл.* Павольна. *Еслі сын гово́рыць пава́жна, дак паняць можна.* Бывалькі.

ПАВАЛАЧЫ'ЦЦА *зак.* Пабадзяцца, пацягацца. *Усюды павалачы́лася да й прышла назад.* Первамайск. *Де толькі ена не була, павалачы́лася па усему свету.* Чаплін.

ПАВАЛАЧЫ'ЦЬ *зак.* Пабаранаваць. *Ён табе каня запражэ да помо́жа павалачы́ць.* Бывалькі.

ПАВА'ЛАШЫЦЬ *зак.* Спакладаць. *Кабанчыкаў пава́лашылі, уколы давалі.* Ручаёўка. *Я сама скрозь пава́лашу кабанчыкаў.* Чаплін.

ПАВАРО'ЗКА *ж.* 1. Матузок, які ўшываецца ў каўнер кашулі ці ў штаны замест гузікаў. *Ушый паваро́зкі, ямчэй буде.* Казярогі. *Паваро́зкі завяжы, а то штаны спадуць.* Пярэдзелка. 2. Кавалак вяровачкі. *Вазьмі паваро́зку екую да і завежы мешок.* Ручаёўка.

ПАВЕ'ЗКАЦЬ *зак.* 1. Запэцкаць. *Ён сваімі рукамі павёзкае, а ты еж.* Ручаёўка. 2. Памыць сяк-так. *Павёзкалі, да і добра: высахне — буде белае.* Дзяражычы.

ПАВЕКАВА'ЦЬ *зак.* Доўга пражыць на адным месцы. *Тутака на етум месці му павекава́лі.* Ручаёўка.

ПАВЕ'СМА *ж.* 1. Дзесяць жменек ільновалакна. *Десяць жменек, дак павёсма. Две павёсмы — кулёк. Колькі ты абадрала павёсмаў? — Столькі і столькі! Хто скажа кулёк, а хто — две павёсмы.* Пярэдзелка. 2. Пучок лёну. *В'язачка — павёсма.* Пярэдзелка. *В'язку ці павёсму возьмуць дай труць.* Пярэдзелка.

ПАВЕ'Т: *свет і павёт.* 1. Усюды, усё навокал. *Абышоў свет і павёт, а каня не знайшоў.* Пярэдзелка. 2. Шмат якія, усе. *Як Прося знае, дак буде знаць свет і павёт.* Дзяражычы.

ПАВО'ДЗІЦЦА *незак.* Быць у наяўнасці, існаваць. *У нас скацеркі; салхветы — такіх мала пово́діцца.* Ручаёўка. *Каліcь багата грыбоў усякіх було, а цепер мала пово́діцца: лес зарастае травою.* Чаплін.

ПАВУЧО'К *м.* 1. Маленькі павук. *Павучо́к спусціўся — буде пісьмо.* Карпаўка. *Відно, госці будуць: серы*

*павучо́к спусціўся.* Казярогі. 2. Від вышыўкі. *Павучка́мі вушыла на вокна занавескі.* Карпаўка.

ПАВЫГАЛА'ДЖУВАЦЦА *зак.* Прагаладацца. *То ж ены бегаюць, бегаюць, а тады павыгала́джуваюцца да хрэшчыка просяць — хлеба хочуць.* Дзяражычы.

ПАВЫКО'ЧВАЦЦА *зак. перан.* Запэцкацца. *Дзеці адны гуляюць, дак павыко́чваюцца, толькі вочы відна.* Дзяражычы.

ПАВЫЛУПЛЯ'ЦІ *зак.* Вытарашчыць. *Вочы павылупля́ці вам трэба на ее?* Ручаёўка.

ПАВЫМА'ЦЬ: *павыма́ць во́чы.* Аслепнуць. *Каб ты на спіцы во́чы павыма́ў.* Чаплін.

ПАВЫ'МЕРХАЦЦА *зак.* Прагаладацца. *Трохі павы́мерхуемся, дак луччай паедім.* Первамайск.

ПАВЫРО'ШЧУВАЦЬ *зак.* Вырасціць, выхаваць. *Як я іх павыро́шчувала — ніхто не знае: я і гледела, і абмывала, і вуцірала.* Дзяражычы.

ПАВЯДЗЕ'ННЕ *ж.* Звычай. *У нас такая паведе́нне пад вокно́м пець.* Бывалькі.

ПАВЯДЗЁНКА *ж.* Звычай. *То ж такая паведёнка: ставяць дедо́м еду.* Дзяражычы.

ПАВЯРНА'ЦЦА *незак.* 1. Паварочвацца. *Ена то так, то так паверна́ецца перад ім.* Дзяражычы. 2. Вяртацца назад. *Добра ж, шо вернуўся, а нашы не паверна́лісь: унук і два зеці, і два сыны не прышлі з вайны.* Дзяражычы. *Чэраз год паверна́лісь з Германіі — служылі там.* Крупейкі.

ПАВЯРНА'ЦЬ *незак.* Паварочваць. *Нада на тую вуліцу сходіць, за паваротам — туды паверна́е вуліца.* Дзяражычы.

ПАВЯРО'ЧАЦЬ *зак.* Паварочаць. *Сена паверо́чала сегодні усе.* Ручаёўка. *Што ты у сундуку усе паверо́чала?* Чаплін.

ПАВЯСНІ'ЦА *ж.* Пояс у штанах. *Прышыла ужэ у штаны павесніцу.* Пярэдзелка. *У нас цепер каўнер кажуць, а павесніца па-калісьнему.* Чаплін.

ПАГАДАВА'ЦЬ *зак.* 1. Пагадаваць. *Пагадаваць такіх хлопцаў, а іх паклалі на вайне.* Дзяражычы. 2. Пакарміць. *Мар'я пойде у ламачча, а я кабана пагаду́ю, ламачча унесу, чыгуны паналіваю.* Дзяражычы. *Коро́ўку пагаду́й, дак ена табе дасць.* Крупейкі. *Вось, дачка мая, іді пагадуй вуценят.* Ручаёўка. *Сплю, тады выйду пагаду́ю. Учора елі-елі да ешчэ і парасят пагадава́лі.* Чаплін.

ПАГАМАНЕ'ЦЬ *зак.* 1. Пагаманіць. *Братавая з Ручаёўкі і пагаварыць, і пагаманéць, і парагатаць була.* Ручаёўка. 2. Загаварыць (ад хваробы). *Калісь баба Ходора пагаманéла да спаліла майму деду рожу — трохі палуччала.* Ручаёўка.

ПАГА'НА *прысл.* Кепска, дрэнна. *Дак ёй жа пагáна шукаць адной, п'яць раз ходіць у хату — і не найде.* Дзяражычы. *Пагáна, як не умееш нічога рабіць.* Ручаёўка.

ПА-ГАНА'ЦКІ *прысл.* Не па-тутэйшаму, інакш. *Ены гаварылі па-ганáцкі: прыехалі з-пад Мінська.* Ручаёўка.

ПАГАНЕ'ННА *прысл.* Вельмі пагана. *Паганéнна сіраціне жыць.* Бывалькі. *Падплётку паганéнна так плесці.* Дзяражычы. *Што й казаць: паганéнна було калісь бабам.* Чаплін. *Его паганéнна так плесці.* Пярэдзелка.

ПАГАНЕ'ННЫ *прым.* Вельмі паганы. *Я ж табе кажу: паганéнны ён, не хаді з ім.* Дзяражычы. *Паганéнная матка була: такая скупучая.* Казярогі.

ПАГА'НЫ *прым.* 1. Паганы, кепскі. *Як ена пагáная да, можа, негілюзная, дак шкода хлопца.* Дзяражычы. *То пагáная маладіца, ей не трэба памагаць.* Крупейкі. *Мост чэраз канаву такі пагáны, што па ём страшка хадіць, а не то што ездіць.* Ручаёўка. // Неўрадлівы (пра зямлю). *Такая пагáная усадьба ета. З етай усадьбы нема нічога.* Дзяражычы. 2. Дажджлівы. *Што такая погóда пагáная. Трэйці день іде дошч.* Карпаўка. *Пагáная погода — дажджлівая.* Первамайск. 3. Дробны. *Такіе пагáные кордóплі ураділі: не спечэш драчоў.* Бывалькі.

ПА-ГАТО'ВАМУ *прысл.* На ўсім гатовым. *Ужэ міне не рабіць: апастыла і атрабіла, па-готóваму толькі жыву.* Дзяражычы.

ПАГНА'ЦЬ *зак.* 1. Пагнаць. *Вадалазнікаў пагнáлі шукаць его.* Пярэдзелка. *Матка пагнáла пасць короў да пераброділа рэку.* Дзяражычы. 2. Павезці на чаўне, баржай. *Мы пагнáлі кортóплі у Гомель.— І ён гнаў.—І ён пагнáў і там здаваў* Дзяражычы.

ПАГО'ІЦЬ *зак.* Вылячыць. *Сухіе мазалі булі на нагах да такіе балючые, дак я погóіла іх салам з жоўчу.* Дзяражычы.

ПАГО'Н [1] *м.* Пагоня. *І кінуліся усе у погóн, да не дагналі.* Ручаёўка.

ПАГО'Н [2] *м.* Палоска зямлі. *На выдуі там давай беднекі селіцца. Паставілі хаткі — на погóнах тых. Погóны етые к саснеку булі.* Дзяражычы.

ПАГО′РШНІК *м.* Ганчар. *Погóршнікі прывезлі гаршчкі.* Пярэдзелка. *У нас погóршнікаў нема, ніхто не лепіць горшчыкі.* Чаплін.

ПАГРАБЕ′Ц *м.* Пограб. *Пагрэбéц екі у мене.* Дзяражычы. *Ото тая дошчачка на паграбцэ́, дак там буде пад таей дошчачкаю.* Ручаёўка.

ПАГРАБНІ′ШЧА *н.* Маленькі будыначак над пограбам. *У нас дак на паграбнішчы нічога не лежыць.* Пярэдзелка.

ПАГУ′ДЗІЦЬ *зак.* Асудзіць, зганіць. *Багата с кім разгаваруваў: ніхто мае Каці не пагýдіў.* Дзяражычы. *Ці ж я табе вараных конікаў папуділа, ці ж я табе деўку Галечку пагýділа* (З нар. песні). Пярэдзелка.

ПАГУЖАВЕ′ЦЬ *зак.* Страціць смак. *Ужэ даўно на сталe усё пагужавéла, а ты ходіш десь.* Пярэдзелка.

ПАГУЛЯ′ЎШАЯ [1] *дзеепрым.* Зямля, якая была нейкі час пад парам. *Хлеба палучылі сеголета побóлей: земля пагуляўшая, луччай ураділа.* Казярогі.

ПАГУЛЯ′ЎШАЯ [2] *дзеепрым.* Пакрытая (пра карову). *Мая корóва пагуляўшая, у маі буде целіцца.* Дзяражычы.

ПАГУЛЯ′ЦЬ *зак.* 1. Пагуляць. *З малым пашла пагуляць.* Бывалькі *Пагуляй трохі у мене, тады разам пойдам.* Вулкан. 2. Апладніць (пра жывёл). *Учора ваділа к быку, пагуляла мая карóва, прынесе бычка мо.* Дзяражычы. 3. Пачакаць. *Пагуляй мене, я хлеба атрэжу.* Дзяражычы. *Пагуляйце не дыктуйце, я шчэ чысло не запісаў.* Бывалькі. *Пагуляй ты, што я табе скажу.* Первамайск. △ *Пагуляй святы́.* Свабодны ад працы дзень. *Ета сегодні пагуляй светы́, шчо ты нічога не делаеш?* Ручаёўка. // Лодарнічанне. *Дакуль ён у цебе буде — пагуляй светы?* Чаплін.

ПАДАБРА′ЦЦА *зак.* Навесці парадак, прыбрацца. *Ена устала, падабрáлась, пашла к машыні і паехала.* Дзяражычы.

ПАДАВА′ЦЦА *незак.* Здавацца. *Лі, лі, падаéцца, блізка дно.* Ручаёўка.

ПАДАВА′ЦЬ *незак.* 1. Падаваць. *Падавáла нам другіе квіткі, дак грошы палучаем першага.* Дзяражычы. *На Юр'я, шоб було сена і у дурня, а на Міколу падавай, дай і вілы пахавай.* Крупейкі. 2. Паказваць. *У дерэўні хворс луччы падаюць.* Дзяражычы.

ПАДАРАЖЭ′ЦЬ *зак.* Падаражаць. *Ужэ падаражэ́ў мёд на два рублі.* Пярэдзелка.

ПАДАРО'ЖЖАЦЬ *зак.* Падаражаць. *Уцеты мацер'ял ён буў да нікалаеўськай вайны сорак капеек аршын, а у войну плаціла тры рублі — ужэ падорóжжаў.* Дзяражычы.

ПАДАРЫ'ЦЬ *зак.* Даць міласціну. *Алеся і цепер старца не подóрыць, а другая невестка прасцейшая. І сын такі: на кугах робóтае, дак старца век не подóрыць.* Дзяражычы.

ПАДА'ЎНІНА *ж.* Даўніна. *Пра падáўніну уздумалі.* Дзяражычы. *Цепер прыежджаюць з Мінска і з Гомеля да пра падáўніну пытаюць.* Крупейкі.

ПАДАЎЧА'РНІК *м.* Падпасак. *Ты сегодні начальнік, а заўтры падаўчáрнік.* Дзяражычы. *Я калісь малы скрозь падаўчáрнікам буў.* Ручаёўка.

ПАДА'ЦЦА [1] *незак.* Здацца, паказацца. *Нача што гарыць. Дак і мне падалóся у Васіля.* Дзяражычы. *Ета сабака так вам падáўся бальшы!* Ручаёўка.

ПАДАЦЦА [2] *зак.* Пайсці. *Ена там нап'ецца, наесца, песні запела і падалáсь.* Дзяражычы. *Я сваю робóту парабіла і падалáсь.* Бывалькі. *Узяў мешок і падáўсь у лес.* Вулкан. // Паехаць, накіравацца. *Падáлісь нашы деўкі на Украіну грошы зарабляць сабе на адежу.* Ручаёўка.

ПА'ДАЦЬ *незак.* 1. Падаць. *Надя занежывела да пáдае.* Дзяражычы. *Ужэ два разы пáдала с калыскі девачка.* Пярэдзелка. 2. Паміраць. *Так не буде, як ото у голóдны год пáдалі люді.* Дзяражычы.

ПАДАШВА' *ж.* Падэшва. *Падашвá атарвалася, пака дайшоў додóму.* Вулкан. *Гразі начапляў на падóшвы.* Ручаёўка. *У падашвý буде колóць, абуйся.* Чаплін.

ПАДБО'ЙКА *ж.* 1. Ніжняя частка страхі. *Падбóйка — каб дошч па ёй сцекаў, а не па хаце.* Ручаёўка. 2. Набойка. *Табе ужэ нада падбóйкі набіць на каблукі.* Ручаёўка.

ПАДВАКО'ННІЦА *ж.* Вянок, які знаходзіцца пад вокнамі. *Ішчэ адін венок, і можна падвакóнніцу лажыць.* Пярэдзелка. *Падвакóнніца згніла, заменіць нада.* Чаплін.

ПАДВА'ЛІНЫ *мн.* Ніжні вянок зруба. *На падвáліны пашло тры добрые дубы.* Карпаўка. *Нада падважыць увесь дом, а потым падвáліны зменіць, падлажыць спод.* Ручаёўка.

ПАДВАРО'ТНІЦА *ж.* 1. Падваротня. *Хоць ба ты падварóтніцу зделаў, а то курэй ніяк у дварэ не закутаеш, вулазяць на вуліцу.* Ручаёўка. *Во булі етые дашчы,*

*дак на дварэ гразь і гразь. Я ужэ і падворо́тніцу атлажыла, бо згніе шчэ.* Чаплін. 2. Дошка, якая кладецца паміж зямлёй і парканам. *Ложым палку ці доску такую — падваро́тніцу, штоб зобо́р і воро́та не гнілі.* Ручаёўка.

ПАДВО'ДЖАНКА *ж.* Невялікая баваўняная хустка ў кветкі. *Подво́джанка — прасты плото́к з цветамі.* Дзяражычы. *Подво́джанкі на загатоўку прывезлі.* Карпаўка. *То ж на тваю подво́джанку так завідуюць.* Пярэдзелка. *Подво́джанка — партны плото́к, падведены пад шарсцяны.* Ручаёўка.

ПАДВО'ДЗІЦЬ *незак.* 1. Падводзіць. *Падведі девачку да школы.* Крупейкі. 2. *перан.* Падмануць. *От падвела́: падмелась і не прышла.* Дзяражычы. 3. Падмалёўваць. *Дачка скрозь накрасіцца і губы подво́діць.* Казярогі. 4. Падпяваць. *Запеём: я буду подво́діць тонкі́м голасам, а ты грубым.* Дзяражычы.

ПАДВО'ЙНЫ *прым.* Здвоены. *Падво́йные вокна— ета такіе, шчо вынімаюць на лета.* Ручаёўка. *На зіму падво́йные вокна устаўляюць.* Чаплін.

ПАДВО'СЕЦЬ *ж.* Ямка ў восеці, у гумне, дзе кладуць агонь. *У серэдіні восеці ямка, у ямі агонь гарыць. Яма называецца подво́сець.* Пярэдзелка. *Пасерод гумна у падо́сеці раскладувалі агонь.* Дзяражычы.

ПАДВЫ'ША *прысл.* Вышэй. *Мая Таня будзе падвы́ша твойго́ Колі.* Первамайск.

ПАДГАДАВА'ЦЬ *зак.* Накарміць. *Бувала, де екі́ старац, дак я его падгаду́ю, соро́чку дам.* Дзяражычы.

ПАДГАЛЬМАВА'ЦЬ: *падгальмаваць воз.* Павярнуць калёсы так, каб можна было абярнуць воз. *Іван, паможы бо падгальмава́ць воз.* Пярэдзелка.

ПАДГАТАВА'ЦЬ *зак.* 1. Падрыхтаваць. *Вазьму сабе зелёнкі, да гліны падгату́ю, да зімой буду беліць.* Дзяражычы. 2. Зрабіць. *Лозу носім, каб падгатава́ць луччы плот.* Карпаўка.

ПАДГЛЕ'ДЗЕЦЬ *зак.* 1. Агледзець з мэтай азнаямлення. *Хочу падгле́дець у вакно, шчо ета Прося там ушывае.* Дзяражычы. *Я падгле́дела каліва, ой буйные, буйные кorто́плі.* Пярэдзелка. 2. Часткова выбраць бульбу з карча. *Падгле́дела кортоплі, дак сегодні навару молодо́й.* Дзяражычы. *Корто́шкі не жалка: можна пайці дай падгле́дець трошкі, дак на вечэру буде.* Пярэдзелка. △ *Падгле́дзець пчо́лы.* Дастаць мёд. *Трэба падгле́дець*

*пчолы.* Дзяражычы. *Пайду падглéджу пчолы, дак сёдні будам з медам.* Пярэдзелка.

ПАДДЗЁЎКА *ж.* 1. Цёплая безрукаўка. *Паддёўку надень, холадна на дварэ.* Казярогі. 2. Сподняя спадніца. *Паддёўка пада дно надееццa, а тады верхняя спадніца.* Дзяражычы. *Як ніжняя спадніца, дак паддёўка у нас кажуць.* Чаплін. *Памянш.* паддзёвачка. *Па-нашаму паддёвачка — ніжняя спадніца.* Дзяражычы. *Паддёвачку надень, цеплей буде, а то спадніца саўсім вунасілась.* Ручаёўка.

ПАДДЗЯВА'НКА *ж.* Сподняя спадніца. *Пад спадніцу надеюць паддевáнку.* Ручаёўка.

ПАДДУБАВІ'К *м.* Грыб. *Паддубавікі растуць у лесе, падобны да груздоў, растуць кучкамі. Мы бером паддубавікі.* Казярогі.

ПАДДУ'БНІК *м.* Белы грыб. *Паддубнікі — грыбы, екіе растуць пад дубам, абыкнавенные белые грыбы.* Казярогі.

ПАДЖАНІ'ШНІК *м.* Дружка з боку жаніха. *У нас кажуць паджэнішнік, а у Ліпнякох — шафір.* Бывалькі.

ПАДЖЫВО'ТНІЦА *ж.* Гарэлка, настоеная на травах, ужываецца ад хвароб жывата. *Найді бо там трохі паджывóтніцы.* Пярэдзелка.

ПАДЖЫГА'ЦЬ *зак.* Папячы (крапівай). *Куды ты палезла. Ногі паджыгáеш, бач, скольні крапівы.* Ручаёўка.

ПАДЗЮ'БАЦЬ *зак.* Пастукаць ціхенька. *Ён жа б'е так, штоб вакна не разбіць, а падю́бае толькі.* Дзяражычы.

ПАДЗЯЛЕ'НЬКІ *мн.* Зялёнкі. *Падзялéнькаў багата було сёлета да не чарвівые.* Вулкан.

ПАДЗЯШЭ'ВЕЦЬ *зак.* Патаннець. *Падешэ́велі і у Брагіні свінне.* Бывалькі.

ПАДКА'СУВАЦЬ: *падкáсуваць лы́ткі.* Рыхтавацца да работы. *Му падкáсуем лы́ткі — і пашлі на цэлы день у поле.* Дзяражычы.

ПАДКЛА'СЦІ *зак.* 1. Падкласці. *Падкладі падушку вышай, а то галава забаліць.* Пярэдзелка. *Я сама ужэ падклáла у печ.* Дзяражычы. // *перан.* Прыбавіць стараннасці, умельства. *Трэба шоб твае діця само вучылася, настаўніца ж не падкладé сама.* Дзяражычы. 2. Падлажыць. *Чогó ж я не падклáла мацер'яліну сюды!* Дзяражычы.

ПАДКО'СНІК *м.* 1. Чапец. *Му старые кажам падкóснік, а маладейшые — чэпец.* Бывалькі. 2. Стужка. *Заплеці подкóснікі, шо учорі прывезлі.* Дзяражычы.

ПАДКРАПІ'ЦЬ *зак.* Падлатаць. *У нас часцей кажуць падкрэпіць ці залатаць.* Карпаўка. *Трэба падкрэпіць бацьку плечы у сорóццы.* Чаплін.

ПАДЛА'ДЗІЦЦА *зак.* Выбраць зручны час, падкрасціся. *І пра ваўка знаді людзі; воўк як падлáдіцца, дак абідіць можа і чалавека.* Ручаёўка.

ПАДЛЕ'ШЧАЎКА *ж.* Лешч. *Паймалі сем падлéшчавак.* Пярэдзелка.

ПАДЛО' *н.* Подласць. *Ты пабач, сабака екая, такое падлó ей ізделаў.* Дзяражычы.

ПАДЛО'БІСТЫ *прым.* Які глядзіць спадылба. *Бацька, увесь подлóбісты бацька.* Ручаёўка.

ПАДЛО'ЖНІК *м.* Паклёпнік. *Віноўніка найдуць, хто ета такі віноўнік, подлóжніка найдуць.* Дзяражычы.

ПАДМАГЦІ' *зак.* Дапамагчы. *Аденьцесь, абуйцесь і нам падмажы́це.* Ручаёўка. *Калісь, як була маладая, дак кождаму падмагу́.* Чаплін.

ПАДМА'НКА *ж.* Хустка малога памеру. *Падмáнка— маленькі плотóк.* Бывалькі. *Падмáнка — партны плотóк, тое ж, шчо подводжанка.* Дзяражычы. *Памянш.* падманачка. *У магазіні прадавалі красівые падмáначкі.* Бывалькі.

ПАДМЕ'ЦЦА *зак.* Паабяцаць. *Ён жа падмéўся Беранацкаму прыці.* Бывалькі. *Я дагаварылась, штоб міне колодкі парэзалі: Іван падмéўся.* Дзяражычы. *Деўкі падмéліся звезаць плотóк.* Ручаёўка.

ПАДМО'ВІЦЬ *зак.* Падгаварыць. *Большая меншаю падмóвіла гуляць.* Ручаёўка.

ПАДМО'СНІКІ *мн.* Лагі. *Мост кладецца на падмóсніках.* Вулкан. *Разграшыце танцаваць, разграшыце топнуць, а неўжэ ж пада мной падмóснікі лопнуць* (Прыпеўка). Карпаўка. *А падмóснікі у вас добрые.* Чаплін.

ПАДМО'СТ *ж.* Падполле, падвал. *Увесь подмóст засыпала кордóплямі.* Крупейкі.

ПАДМЯ'ЦЬ *зак.* Патаўчы. *Картоплік аблупіла б, зварыла, падм'яла б, а ног нема, хадіць трудна без ног, хаджу з костурам, а з костурам хадня не хадня.* Бывалькі.

ПАДНАВЕ'С *м.* Навес. *Я улезла у яму, паднавéс такі над ямай вісеў.* Пярэдзелка.

ПАДНАРА'Ў *прысл.* Даспадобы. *Шось не паднараў, не узела есці корова, можа жыр екі уліли у пойла.* Ручаёўка.

ПАДНЯВІ'ДЗІЦЬ *зак.* Падгаварыць. *Ён падневідіў, і я пабег з ім на раку ставіць нерат, дак вот було ат маткі.* Дзяражычы.

ПАДНЯ'ЦЦА *зак.* 1. Устаць на ногі. *Седела, седела і чуць паднелась с прызбы.* Вулкан. // Устаць з пасцелі. *Такі хлопец урэдны, паднімецца у поўнач і не спіць.* Дзяражычы. 2. Падрасці. *Я ж ужэ паднелась, була девачкай, а матка памерла, дак мне столькі белля трэба папраць.* Дзяражычы. *Мае хлопцы седелі, седелі, а тады ураз паднеліcь.* Ручаёўка. *Як я падняўся, сталі плугамі араць.* Чаплін.

ПАДО'ЛАК *м.* Сподняя вышытая частка жаночай сарочкі. *Подолак е у сороццы, у спадніцы нема подолка.* Пярэдзелка.

ПАДО'НКІ *мн.* Знятае малако. *Як скінеш вершок, дак тады ужэ подонкі астаюцца.* Первамайск.

ПАДПАВЕ'ТНІЧАК *м.* Верабей. *Малюсенькая птушачка — падпаветнічак.* Бывалькі.

ПАДПА'ЛКА *ж.* Скавароднік. *Падпалкі на скавараду пакладу, нехай пекуцца. Падпалкі у галкі скручу да у печ.* Ручаёўка.

ПАДПА'Р *м.* Драўніна, пачарнеўшая ад вільгаці. *Доўга стаяць у цёплай ваде дерэўя да пачарнеюць — вот падпар.* Ручаёўка.

ПАДПАРА'ДАК *прысл.* Падрад, запар. *Падпарадак станам пець — уздумаем усе песні.* Чаплін.

ПАДПА'СКА *ж.* 1. Памочнік пастуха. *Падпаскам буў мой Іваня цэлае лета.* Ручаёўка. 2. Дапамога. *Мне не трэба ваша падпаска, сама грошы зарабляю: буду жыць сваей сем'ёй.* Карпаўка.

ПАДПЛЁТКА[1] *ж.* Рамонт плеценай агарожы. *Трэба падплесці плот, шчоб не упаў. Ено як скразны плот, дак ено іде правілна, а падплётку паганенна плесці. Ета не плецень, а падплётка.* Дзяражычы.

ПАДПЛЁТКА[2] *ж.* Завостраная палачка для пляцення пасталоў. *Падплётка—ета палачка такая, падплеталі ею лапці.* Ручаёўка. *Цепер не плетуць пасталы, дак і падплётак не делаюць.* Чаплін.

ПАДПО'Л *м.* Месца пад полам (палацямі). *Он лезь*

*у падпо́л, вуцяні бахі́лы, а то гразна на дварэ.* Бывалькі. *Падпо́л у нас буў шырокі, як і пол.* Дзяражычы.

ПАДПО'ЎНЕ *н.* Фаза поўнага месяца. *У тую неделю сама падпо́ўне будзе.* Ручаёўка.

ПАДПРА'ЖНЫ: *падпра́жная наво́йка.* Навой у кроснах. *Велікая ново́йка — падпра́жная, а малая — палатняная.* Дзяражычы.

ПАДПРЫ'ПЕК *м.* Прыпек, прыпечак. *Гаршкі ставім, збанкі на падпры́пек.* Ручаёўка. *Усе мае банкі стаяць пад-пры́пекам, трэба памыць да варэння скласці.* Пярэдзелка.

ПАДПРЫ'ПЕЧАК *м.* Прыпечак. *У нас на падпры́печак толькі скавародкі ставяць.* Первамайск.

ПАДПУ'ЗІЧ *м.* Папруга. *Седёлка з падпу́зічам.* Пярэдзелка. *Падцегні падпу́зіч, а то конь распражэцца.* Чаплін.

ПАДРА'ЖНЮВАЦЬ *незак.* Дражніць. *Велікіе деці да падра́жнююць і настаўніцу.* Дзяражычы. *Хлопцы падра́жнююць деда: дед, аддай грошы.* Казярогі.

ПАДРАШО'ТНІК *м.* Грыб. *Нашто табе тые падрашо́тнікі, грыбоў табе нема.* Казярогі.

ПАДСА'КА *ж.* Сачок. *Падса́ка — сачок, што падхватуюць рыбу.* Пярэдзелка. *Там без падса́кі не абойдішся.* Карпаўка.

ПАДСАСЁНАК *м.* Сасна маладая. *Кучаравы падсасёнак, кучаравая сасна, кучаравы мой мілёнак, кучарава я сама* (Прыпеўка). Вулкан.

ПАДСЛЁПКАВАТЫ *прым.* Падслепаваты. *Ена падслёпкаватая, а ён слепы.* Ручаёўка. *Я хоць не красівая, да не слепая, а так падслёпкаватая.* Дзяражычы.

ПАДСО'БА *ж.* Дапамога. *Хіця б мне екая падсо́ба, була, я ж ужэ старая, а децей нема.* Бывалькі. *Памянш.* падсо́бачка. *Подсо́бачкі німа ат кого ждаць.* Бывалькі.

ПАДСЦІ'Л *м.* Подсціл, падсцілка. *Буў падсціл у хлеве.* Бывалькі. *Пайду скіну падсцілу коро́ві падаслаці.* Ручаёўка.

ПАДСЯВА'ХА *ж.* 1. Сейбітка. *Падсева́ха умешалася, дак і не кончылі сеяць.* Дзяражычы. 2. *перан.* Спрытная, хуткая жанчына. *Прося бегае, як падсева́ха.* Карпаўка.

ПАДТРА'ІЦЬ *зак.* Узараць перад пасевам другі раз. *Нада падтра́іць, а тады сеяць. Як бы падтра́іць, дак і луччая была б земля.* Дзяражычы. *Мо вуходіць, тры разы ворацца — ета падтра́іць.* Казярогі.

ПАДУ'СТ *м.* Подуст. *Не люблю падустаў чарнамазых.* Карпаўка. *На падустаў прынаду варым.* Пярэдзелка.

ПАДУХА'НІЦЦА *зак.* Надушыцца. *Дзеўчата, сейчас давайце падуханімся, я купіла духі.* Дзяражычы.

ПАДУ'ШКА *ж.* 1. Падушка. *Матка Пашы падушкі хорошые справіла, адіяла шоўкавае купіла.* Ручаёўка. *Летась у мене вуткі булі, дак я шэсць закруціла да у падушку.* Чаплін. 2. Пярына. *Цяпер перына, а тады падушка доўгая була. Круглых не було, а доўгіе, чэраз увесь пол пакладе, дай спяць чалавек п'яць-шэсць.* Пярэдзелка. 3. *перан.* Падаконнік. *Падаконнік іначай называюць падушкай.* Ручаёўка.

ПАДХЛЯ'БІСТЫ *прым.* Хударлявы. *Такая корова падхлябістая, як шчука,— тонкая, пуза молое.* Дзяражычы.

ПАДХЛЯ'БЛЕНЫ *прым.* Сухарлявы, тонкі. *Іч, седіць падхляблены, ніде ні капеліначкі сала нема.* Бывалькі.

ПАДХО'ЖЫ *прым.* Падобны. *Сібелі — рыба подхожа пад акунёў.* Крупейкі.

ПАДЧАРАНЯ' *н.* Дзіця малое, няроднае. *У мене падчараняты добрые.* Ручаёўка. *Падчараня такое маленькае, як камашачка.* Дзяражычы.

ПАДЧЫНЯ'ЦЦА *незак.* Слухацца, падпарадкоўвацца. *Той таму не хоча падчыняцца, а той таму — вот і сварка.* Бывалькі. *Адін аднаго не падчыняецца.* Дзяражычы.

ПАДШТУПО'ЎКА *ж.* Шво ўнізе плацця, спадніцы. *Па тры ніткі беры і калі — ета падштупоўка.* Пярэдзелка.

ПАДШЧЫТО'ЎВАЦЬ *незак.* Падлічваць. *Мы шчэ не падшчытоўвалі, сколькі надаілі малака.* Дзяражычы.

ПАДШЫБА'ЙЛА *м.* Лодар, гультай. *У нас німа падшыбайлаў — усе чорнарабочые.* Дзяражычы.

ПАДШЫВА'НЧЫК *м.* Падлетак, падростак. *Так быстра павырасталі Маніны хлопчыкі, недаўна саўсім маленькіе булі, а цепер пабач, якіе падшыванчыкі бегаюць.* Казярогі.

ПАДЫМА'ЦЬ *незак.* 1. Падымаць. *Ты падымаеш пука, дак табе не урэдна.* Бывалькі. *Як вылежыцца лён, тады его падымаюць.* Ручаёўка. 2. Весці песню першым голасам. *У нас Анюта так добра падымае, запеюць, дак ее голас чутны па усей дерэўні.* Казярогі. *Песню заводяць: тая падымае, а другіе басуюць.* Ручаёўка.

ПАДЫМА'ЦЦА *незак.* 1. Падымацца, лезці. *Падшы-*

*ва́нчыкі куды падыма́юцца, на самы шчыт яблыні.* Казярогі. 2. Распачынаць зборы, падрыхтоўку да чаго-небудзь. *Як прыедуць, дак будам гуляць веселле, а як матка і бацька не прыеде, дак я і падыма́цца не буду.* Дзяражычы.

ПАДЫМЕ'ННІК *м.* Трава, якая ўжываецца пры лячэнні жывата. *Нарвала падыме́нніку за боло́там.* Пярэдзелка.

ПАЖА'ЛЕЦЬ *зак.* Пажаўцець ад гарачага прадмета. *Не гладь зразу, а то плацце пажа́лее.* Барэц. *Ну шчо ж ты наделала, спорціла накры́ванку: уся пажа́лела ад уцюга.* Пярэдзелка.

ПАЖЫ'ЛЫ *прым.* Пажылы́, у гадах. *Ён ужэ стары, той хлопец, і дейка пажы́лая, а прынела его і жывуць добра.* Бывалькі. *Ён ужэ пажы́лы буў, як ена за его замуж вышла.* Ручаёўка. *Ена, Александраўна, міне збіла: я ж пажы́лая, а без рукавоў пашыла кохтачку.* Дзяражычы.

ПАЗАБО'РСАЦЬ *зак.* Забарсаць. *Калісь пашые чуракі, да пазабо́рсае іх, да белые анучы закруціць — ото такое прыбіранне було.* Дзяражычы.

ПАЗАВЯРНА'ЦЬ *зак.* Перакасіць, скрывіць. *Захварэла, дак пазаверна́ла ей вочы, твар, доўга лечылі дахтары.* Бывалькі.

ПАЗА'ДУ *прысл.* 1. Ззаду. *Іду, а ён усю доро́гу поза́ду бежыць за мной.* Вулкан. 2. У апошнюю чаргу, пасля ўсіх. *Паза́ду пабралі маладёж на во́йну.* Дзяражычы.

ПАЗАЙМА'ТЫ *дзеепрым.* Заняты. *В'ёдра пазайма́тые.* Казярогі. *Усе дахтары пазайматые.* Чаплін *Пакуль мы прышлі, дак усе сталы былі пазайматые.* Пярэдзелка.

ПАЗАКУТА'ЦЬ *зак.* Пазаганяць. *Многа акціву було, кото́рые паўцекалі, а усе-такі немцы пазакута́лі кото́рых. Там нас пазакута́лі чалавек семдесят.* Крупейкі. *Пазакута́ла курэй у катух, каб жыта не грэблі.* Дзяражычы.

ПАЗАЛЯГА'ЦЬ *зак.* Пазакладаць, пра хваравітае адчуванне. *Прыехалі да у Днепр кінулісь купацца, дак пазалега́лі глоткі.* Дзяражычы.

ПАЗАНІМА'ЦЬ *зак.* 1. Пазаймаць. *Пазаніма́лі усе двары.* Казярогі. *Студенты прыехалі, дак пазаніма́лі усе класы.* Первамайск. 2. *перан.* Паадбіваць, прывабіць да сябе. *Вы бабы хоро́шые, да чужых мужыкоў пазаніма́лі.* Дзяражычы.

ПАЗАПІНА'ЦЬ *зак.* Пазавешваць. *Мужчыны спяць,*

*пазапіна́ем іх, дак ены доўга лежаць.* Дзяражычы. *Вокна пазапіна́юць і чытаюць.* Ручаёўка.

ПАЗАСТУ'СУВАЦЬ *зак.* Пабіць. *Кулакамі пазасту́сує маладіцу мо кожды день.* Дзяражычы.

ПАЗАСТЫЧА'ЦЬ *зак.* Забраць назад, вярнуць. *Ён пазастыча́ў сваe усе: там табурэтку, там карваць.* Дзяражычы.

ПАЗАСТЫ'ЧУВАЦЬ *зак.* Прымусіць працаваць. *Маладёж забралі немцы, парабкамі пазасты́чувалі.* Дзяражычы.

ПАЗАЎЧО'РІ *прысл.* Пазаўчора. *Пазаўчорі сказала, шо адкулясь прыехала жэншчына.* Дзяражычы. *Пазаўчо́рі згулялі веселле, паехалі маладые к его бацьку.* Ручаёўка.

ПАЗАЯДА'ЦЬ *зак.* Змучыць папрокамі. *У Івана було чэцвера децей, дак ена була іх пазаеда́ла, несправедлівая була жэншчына.* Казярогі.

ПАЗВЯРНА'ЦЬ *зак.* 1. Паскручваць. *Матка голавы пазверна́е вуткам, да м'яса едім усю восень, а пер'е у падушку.* Дзяражычы. 2. Збіць. *Васіль як нап'ецца, дак гледі, штоб стаўбы не пазверна́ў.* Пярэдзелка.

ПАЗДАРО'ВІЦЦА *незак.* Адчуваць сябе добра. *Як калі поздоро́віцца, дак добра, як нехворая, а калі хворая, дак серца і іде пад лёд, думаіш: оцета і канец тебе буде.* Дзяражычы.

ПАЗДРА'ВІЦЦА *зак.* Паведаміць аб чым-небудзь. *Напішы да паздра́йся, шо ты ажаніўся.* Дзяражычы.

ПАЗІРНУ'ЦЬ *зак.* Зірнуць, глянуць. *На воду пазірні, вада велікая.* Бывалькі.

ПАЗМІРА'ЦЬ *зак.* Паўміраць. *Тые ужэ пазміра́лі, шчо со мною беседувалі.* Дзяражычы. *Му пазміра́ем, астанецца Чаплін без людей.* Чаплін.

ПАЗНЕ'ННА *прысл.* Вельмі позна. *Пазне́нна учорі палеглі.* Пярэдзелка. *Пазне́нна прышлі с поля, ужэ коро́вы булі дома.* Чаплін.

ПАЗНО'СІЦЬ *зак.* 1. Пазносіць. *З усего кутка позно́сілі к Просі посуд.* Бывалькі. 2. Садраць, здзерці. *Тым торхам позно́сіла пальцы.* Дзяражычы.

ПАЗО'РАНЫ *прым.* 1. Зняслаўлены, аганьбаваны. *Ты Каці не ваді: мая девачка не позо́раная.* Дзяражычы. 2. Схільны ўзяць чужое, украсці. *Ена позо́раная жэншчына: фляжку прыўяжа і несе молоко з хермы.* Дзяражычы.

ПАЗЫ'КА *ж.* Пастаўка. *Давай мы ахормім ета дела: перахормелі кортошку як у пазыку.* Первамайск.

ПАЙКА *ж.* Частка, доля. *Луг шчытаюць агульным, а паделюць і называюць твая і мая пайка.* Чаплін. *Нехай сваю пайку ладіць, а я о де сестрэ пайку кашу.* Дзяражычы. *Сцепанаўна! Там табе далі пайку.* Ручаёўка.

ПАЙМАЦЬ *зак.* 1. Злавіць. *Пуды два паймалі рыбы і па калена не браділі.* Дзяражычы. 2. Ажаніць на сабе. *І паймáе хлопца, галубка, усероўна паймáе, от гразь.* Дзяражычы.

ПАЙЦІ' *зак.* 1. Пайсці. *Галя пашлá з Серожам у школу, а ты чогó залецела сюды?* Дзяражычы. *Грубы не зачыніла, а з печы дух пошóў.* Первамайск. 2. Стаць, зрабіцца. *Буў грыб, пошлó аслажненне.* Дзяражычы. 3. Уступіць. *Калі маладая була, я пашлá у камсамол, і шчэ адна пашлá у камсамол.* Ручаёўка. 4. Быць падобным (на каго-небудзь). *Ена па мацџы пашлá.* Дзяражычы. △ *Пайці на дзéці.* Выйсці замуж за ўдаўца. *Я пахваталась, пабыла два месяцы удовóю і пашлá на дéці.* Дзяражычы. *Пайці у заём (у запас).* Зрабіць запас, прызапасіць. *Ганяць молокó добра, да от так як пóйде у заём, дак і масла е, а хочыш, дак пастаў гладышачку на твораг.* Дзяражычы. *Як пóйде у запáс, кожан день ганяім молоко.* Дзяражычы.

ПАК *м.* Скрыня (для мукі, збожжа). *У нас заўсёды мука у пакáх стаіць.* Пярэдзелка.

ПАКАВА'ЦЬ *незак.* Афармляць пасылку для адпраўкі. *Ты шчэ не пакавáла, Аннушка, маю пасылку?* Дзяражычы.

ПАКАРА'ВЕЦЬ *зак.* Збрудніць. *Хоць ба вы пашлі пакупаліcь, бо пакарáвелі.* Дзяражычы.

ПАКАРБАВА'ЦЬ *зак.* Сапсаваць. *Як зіхнула, дак толькі дяжка пашла с акна да трохі мост пакарбавáла.* Дзяражычы.

ПАКАРО'ЗІЦЬ *зак.* Патрэскацца. *Дерава пакарóзіла, мо ты пабеліў ба калі его.* Чаплін.

ПАКА'ХАЦЬ: *пакáхаць рóгі.* Жыць бесклапотна, бестурботна. *Ена за ім рóгі пакáхае, галубка: ена буде камандаваць, а ён усе делаць.* Дзяражычы.

ПАКАЦЁЛ *м.* Брусок, на які падвешваецца ніт. *Чатыры пакацёлы вешаюцца, як прадуць у чатыры ніты.* Бывалькі.

ПАКАЦЁЛКА *ж.* Брусок, на які падвешваецца ніт.

*Пакацёлкі катаюцца, і ніты хо̆дяць; пакацёлкі, штоб не рэзаўся шнурок*. Пярэдзелка. *Прынесеш мне ат Машы пакацёлкі*. Ручаёўка.

ПАКАЦІ′НЕЦ: *да пакацінцу*. Да знямогі. *Я не магу: ірве мене да пакацінцу*. Дзяражычы.

ПАКАЧА′ЦЬ *зак*. 1. Пакачаць, паваліць на зямлю. *Пашла даіць коро́вы, а там бык да пакача́ў ее, дак досюль хво̆арэе*. Бывалькі. 2. Зрабіць. *Я маленькімі кулідкамі пекла: пакача́ю, пакача́ю маленькімі*. Дзяражычы. △ *Пакача́ць яйцо (яечка)*. Прыгадаць памершага, прыйсці на могілкі з ядой. *Тые небожы, што пабралі ее добро, дак і ейца не пакача́юць і скацеркі не засцелюць. Ніколі на могілкі не прыде пакача́ць еечка*. Дзяражычы.

ПАКЕ′ШКАЦЬ *зак*. Памяшаць, пакалупаць. *Паке́шкаў, паке́шкаў ды і не есі*. Карпаўка.

ПАКІСЛІ′ЦЬ *зак*. Зрабіць кіслым. *Парэчкі пакіслілі усе у році*. Дзяражычы.

ПАКЛА′СЦІ *зак*. 1. Пакласці. *Невестка пакладе́ хлеб на стол да хуценька с хаты. Нехай пакладе́: не паедім, дак на мір аддадім*. Дзяражычы. 2. *перан*. Забіць, замучыць. *З мае сем'і п'яць душ пакла́лі*. Пярэдзелка. *Зараза тая, прыехаў немец: і рукі пап'ёк і людей нашых пакла́ў лежаць*. Ручаёўка. 3. Пахаваць. *Я думаю, як памру, штоб мене ле деда пакла́лі, там е ешчэ места*. Чаплін. △ *Пакла́сці здаро́ўе (нервы, нермы)*. Страціць сілы, здароўе. *Здоро́ўе свае пакла́ла, каждае жніва на краснай дасцэ була*. Карпаўка. *Пакла́ла не́рвы на людей: сколькі у ее хаці перабувала*. Чаплін. *Я не магу пераносіць сваю невестку, такая урэдная, я усе не́рмы пакла́ла на ее*. Пярэдзелка.

ПАКЛЁВАНЫ *дзеепрым*. 1. Пакляваны. *Ці ета курыца на стол узлецела: увесь хлеб паклёваны*. Бывалькі. 2. *перан*. Пабіты. *Усё ліцо поклёвана воспай*. Ручаёўка.

ПАКО′РНЕНЬКА *прысл*. Вельмі пакорна. *Ты нізенька да поко́рненька укланіся* (З нар. песні). Ручаёўка.

ПАКРА′ШАЙ *прысл*. Прыгажэй. *Не бойся, деўчына, я ў сваты не пайду, аб'еду Расею, пакра́шай найду. Аб'ехаў Расею, шчэ й тры гарада, не найшоў пакра́шай, як ты сірата* (З нар. песні). Вулкан.

ПАКРУЦІ′ЦЦА *зак*. 1. Пакруціцца, скруціцца. *Пакруцілісь усе лісточкі*. Вулкан. 2. Пабыць, прабыць нядоўга. *Заходіла ка мне Мархва, пакруцілась і пашла*.

Бывалькі. 3. *перан.* Звар'яцець. *Нача пакруцілісь каты.* Дзяражычы.

ПАКРЫВА'ЛА *н.* 1. Пакрывала. *Калісь коцы булі, а цепер пакрывáламі да капамі засцілаюць пасцель.* Ручаёўка. 2. Палатно, якім накрывалі памершага. *Пакрылі му мого пакрывáлам, калі памер; у мене ета палатно лежала гадóў двáццаць.* Ручаёўка.

ПАКРЫ'ВА'НКА ж. Вялікая хустка, якой абкрываюць плечы. *Пакрываанка — то ужэ вельмі бальшы плотóк.* Бывалькі. *Пакрывáнка — плечэвы плотóк.* Дзяражычы. *Бальшые партные платкі — пакрыванкі, ены усякага цвету е: і красные, і чорные, і зелёные, і розавые.* Пярэдзелка.

ПАКРЫ'ВАНЫ: *пакрываны платóк.* Вялікая хустка. *Бальшы плотóк на плечы — пакрываны плотóк, нітка партная і суконная.* Дзяражычы.

ПАКРЫ'ШКА *ж.* Пакрывала на падушкі. *Пакрышкі есціка вушываные, мерэжаные, цюлевые — усякіе есціка.* Ручаёўка. *Чогó ты падушкі пакрышкамі не накрыла?* Чаплін. *Учора у магазіне дужа красівенные пакрышкі давалі.* Пярэдзелка.

ПАКРЭПІ'ЦЦА *зак.* 1. Падсілкавацца, падмацавацца ядой. *Ена там пакрэпіцца. Прыде голóдная.* Дзяражычы. *Я трохі пакрэпілася у Дуні, цепер можна далей іці.* Крупейкі. 2. Здабыць што-небудзь. *Була у Гомлі, дак добра пакрэпілася у децей: далі і каўбасы, і вутачку.* Бывалькі.

ПА'КУЛЬ *м.* Пакулле. *Б'еш жменьку лёну, тое, што леціць, атыходіць — пáкуль.* Пярэдзелка. *А пáкулем у нас вон сцены паклёваны.* Ручаёўка.

ПАКУЛЯ' *злуч.* Пакуль. *Пакуля ён насаджае, му паабедаем.* Карпаўка. *Паседі, пакуля тавар прыде.* Ручаёўка. *Як запею екую песню, дак цегну, цегну, пакуля духу хапае.* Чаплін. *Ой, донька, пакуля хаділа десь, дак і бацька умер.* Пярэдзелка.

ПАЛАВІ'НКІ *мн.* 1. Разрэзаная бульба. *Хадем есці, матка атвернула палавінкі.* Дзяражычы. 2. Ягадзіцы. *Штаны сітавые, палавінкі свецяцца.* Дзяражычы.

ПАЛАВІ'НЧЫК *м.* Паўшарсцяная хустка. *Уток шэрсцяны, а аснова партная, без мохрыкаў, дак ета палавінчык.* Дзяражычы.

ПАЛАВЫ' *прым.* 1. Сівы (масць). *Палавáя корóва — сераватай масці, нача воўк.* Дзяражычы. 2. Светла-рыжы. *На Украіні палавые ці рабые корóвы.* Ручаёўка. *Ой, гэй,*

*ой, гэй, быкі палавые, прайшлі мае гады маладые* (З нар. песні). Карпаўка.

ПАЛА́ДЗІЦЦА *зак.* 1. Памірыцца. *Пасварыліся, дак скора і пала́дяцца.* Бывалькі. 2. Прывесці ў парадак, давесці да ладу. *Кабанчык мо сёдні пала́діцца.* Бывалькі. *От і капуста пала́ділася: усе на свеці нада умець делаць, нада умець і капусту скласці.* Дзяражычы. // Падлячыць. *Не без того́, усе хварэюць: пала́діцца і галава, і нага пала́діцца Просіна.* Бывалькі.

ПАЛА́ДЗІЦЬ *зак.* 1. Памірыцца. *Іван пала́діў з ею.* Бывалькі. *Пасварылісь, пабілісь да й пала́ділі.* Дзяражычы. 2. Адрамантаваць. *Сергей, пала́дь бо ты мост.* Бывалькі. *Трэба було прыёмнік пала́діць.* Вулкан. *А чота Валька не йде грубу лепіць? Да пала́діў бы во етые дверцы.* Дзяражычы. *Трэба буде пала́діць лампу.* Казярогі. 3. Паправіць. *Другі б сказаў: пала́дь мне пасцель.* Крупейкі. 4. Падлячыць. *Его паранілі у но́гу, шэсць месяцаў лежаў, дак красные трохі пала́ділі.* Ручаёўка. 5. Дагледзіць, навесці парадак. *Мая Прося і пала́діць кабана, і пап'ечэ́ ладкі.* Дзяражычы. *Я пала́діла ее курэй.* Бывалькі. 6. Выпаліць у печы, наварыць есці, прыбраць у пакоі. *Я упоралася, пала́діла усе.* Бывалькі. *У мене діця: можна пала́діць усе дома да зноў капаць сваe кордо́плі.* Дзяражычы. *Калі б вы капусту унеслі, дак я б убрала попел да пала́діла у печы.* Карпаўка. *У хаці пала́діць трэба.* Ручаёўка. *Пайду пала́джу у пограбі.* Вулкан. *Ужэ пала́джу горо́д, тады паеду вурву корань, а то не магу есці.* Дзяражычы. 7. Вырасціць. *Свекар кажа: памру скора, хоць бы ты децей маіх пала́діла.* Бывалькі.

ПА́ЛАЖО́К *м.* Шацёрчык. *Нацягне палажо́к на таган, дак і спіць діця у люльцы і мухі не чапаюць.* Пярэдзелка.

ПАЛАНЯ́ *ж.* Палонка. *У паланю́ воду піць целята пабеглі.* Дзяражычы.

ПАЛА́ПІЦЬ *зак.* Адрамантаваць. *Толькі пала́піла штаны, а ты зноў падраў.* Казярогі. *Пала́пілі крышу.* Пярэдзелка.

ПАЛАЦЕ́НЕЦ *м.* Ручнік. *Я ж вазьму палаце́нец да коро́ву абцеру, ена у мене ні разу не ляжа, штоб урабіла дойкі.* Дзяражычы. *Сашка! Ты де узяў палаце́нец?* Пярэдзелка.

ПАЛЕ′ *выкл.* Бач, глянь. *Палé, братка, хто іде.* Первамайск.

ПА′ЛЕР: *пáлер падня́ць.* Закрычаць, зашумець. *О-о, чогó вы такі пáлер падня́лі?* Бывалькі. *Ціха, пáлер падня́лі.* Дзяражычы.

ПАЛІВА′ЛКА *ж.* Палівачка. *Калісь ведром діравым палівалі, а цепер і палівáлку прыспасобілі.* Дзяражычы.

ПАЛІВА′ЛЬНІК *м.* Палівачка. *Палівáльнік нада, а у нас его нема, кружкай беру і паліваю.* Ручаёўка.

ПАЛІВА′НЫ *дзеепрым.* Паліваны. *Палівáны глёк для вады, для поснага масла.* Бывалькі.

ПАЛІ′К *м.* Верхняя частка рукава. *Палікі калісь ушывалі, прырамкі ушывалі.* Ручаёўка.

ПАЛІПЕ′ЦЬ *зак.* Пратрымацца як-небудзь, праіснаваць. *Да восені паліпéю, можа, саберу шо-небудь, а далей што бог дасць.* Дзяражычы.

ПАЛІТУ′РКІ *мн.* Вокладкі. *У маёй цітрадзі атарваліся палітýркі.* Дзяражычы.

ПАЛІ′ЧЧА *н.* Пер'е (буйное, сечанае). *Пер'е парубаюць, есцека большóе пер'е з палачкамі — палíчча. Палíчча — пер'е токóе, нача палкі.* Пярэдзелка.

ПАЛО′ЙКА *ж.* Паўкачана квашанай капусты. *Мачылі капусту шаткаваную, а маленькіе качанчыкі папалам рэзалі, ета і былі полóйкі.* Бывалькі. *Мама, кортоплі будем есці з полóйкай?* Казярогі. *Полóек туды у дежку у гуркі — і так накладом дежачку.* Пярэдзелка. *Мы як капусту шаткуем, дак полóйкі кладом у бочку, а тады дажа улетку едім. О-о, екіе у мене удачные полóйкі у гурках!* Чаплін.

ПАЛО′ННЯ *ж.* Палонка. *Зімой булі полóнні.* Бывалькі. *Пераўёў чэраз полóнню.* Дзяражычы.

ПАЛО′ПАЦЦА *зак.* 1. Палопацца, патрэскацца. *Полóпалісь стручкі квасулі.* Дзяражычы. *Луччай ногі мый: полóпаюцца п'яты.* Ручаёўка. 2. *перан.* Надарвацца. *За два дні памалацілі жыта, былі полóпалісь молóчачы.* Дзяражычы.

ПАЛУГО′ДКІ *мн.* Поўгода. *Девяціны, сарачыны, палугóдкі і годкі — у етые дні памінаюць покóйніка.* Дзяражычы.

ПАЛУ′КАПАК *м.* Капа з трыццаці снапоў. *Складалі жыта у бабкі па десяць снапоў, а тады у палýкапкі — па трыццаць, а капа була — шэздесят снапоў.* Дзяражычы.

ПАЛУ'МІСАК *м.* Невялікая міска. *Купіла сабе у Лоеві две міскі і палýмісак.* Пярэдзелка.

ПАЛУ'ЧЧАЦЬ *зак.* Палепшыцца (пра стан здароўя). *Трохі палýччала ему.* Дзяражычы. *Я учорі нача бальная була, а сёдні палýччала.* Крупейкі.

ПАЛШУ'БАК *м.* Кажушок. *Кажух — не пацягнуты мацерыяй, а палшýбак — пацягнуты мацерыяй.* Вулкан. *Надень палшýбак, морóз сільны.* Казярогі.

ПАЛЬЗІ'ЦЕЛЬНЫ *прым.* Карысны. *Молокó казінае пальзіцельнае.* Карпаўка.

ПАЛЯДНІ'ЦА *ж.* Паляндвіца. *Паўз спіну выразаюць м'яса — паледніцы.* Пярэдзелка.

ПАЛЯКА'ЦЦА *зак.* Спалохацца. *Аж палекáлісь хлопцы, як убачылі столькі грошай.* Дзяражычы. *Усе корóвы палекáліся: можа де воўк хадіў.* Казярогі.

ПАЛЯНІ'ЦА *ж.* 1. Булка хлеба. *З того цеста аж тры палeніцы выйшла.* Казярогі. 2. Галоўка мелу. *Я купіла десяць паленіц, буду беліць хату.* Карпаўка.

ПАЛЯНЯ'КА *ж.* Палка. *Каб узяў паленяку екую да добра етых гусей паганяў.* Ручаёўка.

ПАМАДЗЕ'ЦЬ *зак.* Пражыць, праіснаваць хварэючы. *Ён шчэ памадéе ета лета.* Дзяражычы. *Каця памадéла восень да зімой умерла.* Крупейкі.

ПАМАЖЧЫ'ЦЬ *зак.* Разбіць. *Голаву трохі памажчыў.* Ручаёўка. *Два пеўні да так б'юцца, пагледі, як памажчылі сабе голавы.* Дзяражычы.

ПАМА'ЗАЦЬ *зак.* Памазаць. *Памáж сабе хлебца маслам.* Бывалькі. *Болей, болей памáж блінчыка.* Ручаёўка. // Запэцкаць. *Вот памáзала плацце, як марá екая.* Дзяражычы. *На капейку зробіць, да памáжа усе.* Чаплін.

ПАМАЛЕ'НЬКУ *прысл.* Помаленьку. *Шчэ сама пака себе памалéньку гледжу.* Бывалькі. *Ена не хваталась, памалéньку рабіла.* Дзяражычы. *Расходуйся, мамка, памалéньку.* Бывалькі.

ПА'МАРАКІ: *пáмаракі адбіць.* Пабоямі пашкодзіць разумовую дзейнасць. *Так біць, дак можна і памаракі адбіць.* Ручаёўка. *Пáмаракі павялі (водзяць).* Пра стан галавакружэння. *Устала с пасцелі, хацела выйці на двор, дак мене так пáмаракі павелі.* Бывалькі. *Я і маладая була, як нагнуся, дак мене пáмаракі вóдяць.* Дзяражычы. *Пáмаракі высыхáюць.* Аб частковай страце памяці. *Ужэ пáмаракі высыхáюць: прыду за чым-небудь, стаю, думаю — і не уздумаю, чогó прышла.* Дзяражычы.

ПАМАЧНІКІ′ *мн.* Лямкі. *Памачнікі парваные, трэба прышыць, а то Сцёпка заўтры паеде у Лоеў.* Бывалькі.

ПАМАЧЫ′ЦЬ: *памачыць руку ў грошы.* Пра несумленны прыбытак. *Добра памачыў руку у грошы, за шчо б ён постро́іўся.* Бывалькі. *Ён трохі памачыў руку у гро́шы, а его скора і схапілі.* Дзяражычы.

ПАМЕ′ЦЦА *зак.* Паабяцаць. *Памеўся купіць кохту і спадніцу — і прыўёз.* Дзяражычы. *Еслі шохвір паме́еца да паеде по ло́зу, дак і мы паедем.* Крупейкі. *Паме́лась ка мне прыці капаць кортоплі.* Первамайск.

ПАМІ′НАК: *не на памі́нку.* Не ў памяці. *Пабегла на нарад, закрыла трубу, а нам не на памі́нку аткрыць тую трубу, дак столькі чаду найшло.* Дзяражычы. *Лёгкі на памі́нак.* Хто з'явіўся ў той момант, калі гавораць аб ім. *Лёгкі ву на памі́нак, толькі пра вас гаварылі, а ву тут.* Карпаўка.

ПАМКІ′: *не памкі.* Не дадумацца, не ўспомніць. *На высадкі пасаділа, і не памкі, шчо аб'едаць будуць турнэпс.* Дзяражычы.

ПА-МО′ЙСКІ *прысл.* Па-мойму. *Ізделаў па-мо́йскі, як я хацела. Тожа па-мойскі вышла: я ж столькі пабачыла, папарабіла, папагаварыла.* Дзяражычы.

ПАМПУ′ШКА *ж.* Чарот. *Пампу́шка у нас на ета говорац, а камыш не гово́раць.* Ручаёўка.

ПАМРАЧЭ′ННЕ *н.* Галавакружэнне. *Стала забувацца: памрачэнне галавы.* Бывалькі. *Як паседіш, дак міне токо́е памрачэ́нне берэ, шо падаць трэба.* Дзяражычы.

ПА′МЯТНЫ *прым.* Памятлівы. *На глаза паўліяла, а на голаву буде па́метны.* Ручаёўка.

ПАМЯТНЫ′: *памятно́га ўкла́сці.* Пасадзіць гузак. *Калі б табе паметно́га укла́ў.* Ручаёўка.

ПА′МЯЦЬ: *за на́шай па́мяццю, пры маёй па́мяці.* Не так даўно, пры нас. *За на́шай па́меццю было: жыў тут памешчык, мы хаділі на робо́ту у панскі двор.* Бывалькі. *Пры маёй па́меці лесы тут стаялі несхаді́мые.* Вулкан.

ПАНАГАДО′ЎВАЦЬ *зак.* Накарміць. *З цэрквы бацька прыведе тры сталы, дак ена прывеціць усіх і панагадо́ўвае.* Дзяражычы. *Трэба панагадо́вуваць усіх — і курэй, і свіней, і децей.* Ручаёўка.

ПАНАДО′БІЦЦА *зак.* Спатрэбіцца. *Можа ёй панадо́біцца жлукта, занесі.* Ручаёўка. *Варачка, не магу даць табе: заўтра мне самой панадо́бяцца грошы.* Чаплін.

ПАНАЖЫРО′ЎВАЦЦА *зак.* Наесціся ўволю. *Деці па-*

*забегаюць да так едяць молоко, так панаедаюцца, паныжыро́ўваюцца.* Дзяражычы.

ПАНАКЛЁВАЦЦА *зак.* Наесціся (пра курэй). *Падажджы, я ім насыплю жыта, панаклёваюцца, дак мо нікуды не пойдуць.* Дзяражычы. *Трэба панаклёвацца усім.* Бывалькі.

ПАНАРА'ВІЦЦА *зак.* Спадабацца. *Бувае панара́віцца дейка хлопцу, дак не атойде ні на шаг.* Дзяражычы. *Так ён мне панара́віўся, да душы палюбіла, прыятны чалавек.* Ручаёўка. *Работа там ёй не панаравілась, у другое места пераехала.* Чаплін.

ПАНАРА'Д *м.* Прылады, неабходныя для ткання. *Кросны — еслі навітые ніткі, а пусты — панара́д. От кажыш суседцы: «Дай свой панара́д, кросны ткаць буду».* Ручаёўка. *Нада мне знесць свой панара́д, бо буду навіваць кросна: ставы і навойкі у адной, берда — у другой маладіцы.* Дзяражычы. *Устанаві панара́д во тут.* Чаплін.

ПАНАСІ'ЦЦА [1] *зак.* Знасіцца, парвацца. *Усе плацці скора поно́сяцца.* Бывалькі.

ПАНАСІ'ЦЦА [2] *незак.* Ганарыцца. *Нехай ужэ Поля так не поно́сіцца.* Дзяражычы.

ПА-НА'СЬКІ *прысл.* Па-нашаму. *Па-на́ські Варка, а па-гарадскому Вара, Варвара.* Бывалькі. *Па-на́ські гово́рацъ, хоць з горада прыехалі.* Дзяражычы. *Як геаргіны, да толькі жоўтые, па-на́ські кучараўкі.* Ручаёўка.

ПАНАХО'ДЗІЦЬ *зак.* 1. Пазнаходзіць. *Куды ні схавай зерняты, усюды панахо́діць.* Пярэдзелка. 2. *перан.* З'явіцца. *Назаўтрага такіе сінекі панахо́ділі у бабы, воч не відна.* Дзяражычы. 3. Нарадзіць. *Двое децей панахо́діла Паша.* Ручаёўка.

ПАНЕВЯРА'ЦЬ *незак.* Лаяць, зневажаць. *Міходіха паневера́е сваю невестку.* Бывалькі. *А шчо ж ена буде паневера́ць цебе так? Саня столькі жыла, а нічога не казала. Буде мене паневера́ць усякімі словамі, дак луччай я буду адна.* Дзяражычы. *Паневера́е мене такімі словамі.* Ручаёўка.

ПА'НІКА: *па́ніку пане́сці.* Разнесці чуткі. *Ён хацеў прыехаць, да не прыехаў, а ета ж так ены па́ніку пане́слі.* Дзяражычы.

ПАНІЧЫ' *мн.* Кветка бярозка. *Тые красівые цветы, што ле вакна уюцца, называюцца у нас панічы́.* Ручаёўка.

ПАНО'С *м. адз.* Працяканне цяжарнасці. *Бабы ка-*

*жуць: ета у цебе понóс такі, дак пецьміны на морді.* Дзяражычы.

ПАНЯМЕ'ЦЬ *зак.* Знямець, здранцвець. *Як пхнуў, панемéла усе, упала наўзнач.* Ручаёўка.

ПАПАБРАДЗІ'ЦЬ *зак.* Пахадзіць шмат, паблукаць. *Папабраділа, папагаласіла, не знаю, у екі бок кінуцца; тады на дорóжачку збілася.* Бывалькі.

ПАПАБУ'ХАЦЬ *зак.* Пабіць крэпка, шмат. *Паехалі, дак ён папабýхаў так ее добра і прыехаў сюды, а ее кінуў.* Бывалькі. *Ена гарушчая деўка: багата робóтае і роботае, а як буў мужык, дак папабýхаў ее.* Дзяражычы.

ПАПАВЯРНА'ЦЬ *зак.* Папераварочваць. *Дежкі папавернáлі і пакацілі.* Дзяражычы. *Деці усе папавернáлі у хаці.* Ручаёўка.

ПА-ПАД *прыназ.* Пад. *Іде па-пад крышаю дым.* Ручаёўка.

ПАПАДБІРА'ЦЦА *зак.* Управіцца (з гаспадаркай). *Пака пападбірáесся дома, натомісся.* Бывалькі.

ПАПА'ДУВАЦЦА *незак.* Пападацца. *Уцета ж не папáдуйсь вам.* Бывалькі. *Папáдуваліcь рыжыкі, падасінавічкі.* Чаплін.

ПАПАДЧЫНЯ'ЦЬ *зак.* Адрамантаваць, паправіць. *Хросны буў, вазы пападчыняў.* Казярогі. *На той неделі мае хлопцы усе пападчынялі.* Пярэдзелка.

ПАПАЛА'ДЗІЦЬ *зак.* Прывесці ў парадак. *Саша ужэ папалáділа усе: усе чысценечкае.* Дзяражычы.

ПАПАПЛУ'ЖЫЦЬ *зак.* Пабіць неаднаразова. *Я его папаплýжу, а ены заступаюцца.* Ручаёўка.

ПАПАПРО'ДАЦЬ *зак.* Прадаць. *Нашы мужыкі папапрóдаюць да папрапіваюць, на базар нельга пасылаць.* Ручаёўка.

ПАПАРАДКАВА'ЦЬ *зак.* Папарáдкаваць. *Я б луччай папарадкавáла усе.* Дзяражычы.

ПАПА'СЦІ *зак.* Трапіць. *Трэба ж папасці у самае вока.* Бывалькі. *Ой, не папáла сабе бойкі купіць.* Дзяражычы.

ПА-ПАЎЗ *прыназ.* Паўз. *Па-паўз самые вокна ходяць машыны.* Бывалькі. *Жыта було па-паўз рэку.* Дзяражычы.

ПАПАШАТЫ'РЫЦЬ *зак.* Пашараваць. *Возьму ночóўкі да папашатыру кортóплі.* Дзяражычы.

ПАПАЯКАТА'ЦЬ *зак.* Паплакаць, пакрычаць. *Не чапай асы, а то укусіць, дак вот папаекóчыш.* Дзяражычы.

ПАПЕ′КЦІ *зак.* 1. Папячы. *Папечэш каклеты, да у чыгунчык, да прыллеш тукам.* Дзяражычы. *Папе́кці трэба коніі.* Первамайск. 2. Апячы (пякучым, едкім). *У хлеў крэпіву тыркалі, змея-жэншчына буде іці, адчыніць і рукі папечэ́.* Ручаёўка.

ПАПЕ′РАД *прысл.* 1. Спераду. *Ён сам возьме папе́рад, а тые удвох ззаду.* Бывалькі. *Папе́рад іде ротны, а за ім уся рота.* Пярэдзелка. 2. Загадзя. *У нас ідуць так папе́рад к магазіну, з цёмнага ідуць: магазіншчыцы німа, а ены ужэ стаяць.* Дзяражычы. // Раней. *Прыехаў з маткаю быў папе́рад.* Дзяражычы.

ПАПЕРАРАСТА′ЦЬ *зак.* Перарасці (у разумовых адносінах). *Деці цепер паперараста́лі матак і бацькоў, ены цепер разумнейшые за матак і бацькоў.* Дзяражычы.

ПАПЕ′РНЯ *ж.* Папяровая фабрыка. *На папе́рні робо́талі, бумагу делалі.* Карпаўка. *Бераг прарэзала паўз самую папе́рню.* Крупейкі.

ПА-ПЕ′СКІ *прысл.* Не па-людску. *Я ж думала, шчо ён па чэсці зделае, а ён не па чэсці, а па-пе́скі.* Дзяражычы.

ПАПЛАДЗІ′ЦЬ *зак.* Нарадзіць. *Тая, кото́рая папладіла деці, тая дужэйшая.* Карпаўка.

ПАПЛЁТ *м.* 1. Жэрдкі, латы. *Закуталі нас немцы у хлеў. Я пагледаю угору на поплёт, де рэдка, шоб можна було пралезці. І за́відней нагледелі рэдкі поплёт. Калі сцемнела, я пошо́ў на тую дірку, де рэдкі поплёт, прадраў солому і вылез на крышу наверх.* Крупейкі. 2. Пляцень. *Поплёт — лаза, лозо́вы поплёт. От мне трэба падплесці поплёт.* Дзяражычы. // Пруты для замацавання саломы пры крыцці саламянай страхі. *Поплёт робіцца з лазы. Лату прыплетаюць поплётам, соло́му поплётам пераўязуюць.* Ручаёўка.

ПАПЛІ′СКА *ж.* Пуга. *Пацегні папліскай, дак мо пабежыць твой конік. Папліскай падганяюць каня у возе.* Пярэдзелка.

ПАПЛУГА′НІЦЦА *зак.* Пацягнуцца. *Паплуга́нілася коро́ва у корто́плі.* Бывалькі.

ПАПЛУ′ЖЫЦЬ *зак.* Пашанцаваць. *Не паплу́жыць ему за доро́гу, дак усе ему убытак.* Пярэдзелка.

ПАПО′ЗЖАЙ *прысл.* Пазней. *У родо́к косы насілі, а попо́жжай, як вурасце девачка, угору косы, у козлы заплецецца да чэпік наверх.* Дзяражычы.

ПАПО′МНІЦЬ *зак.* Успомніць. *Ужэ попо́мніце ву мае*

*словы*. Бывалькі. *Пагадзі, мая галубка, пастарэіш, попóмніш матку: ета цежолая робóта быць даяркай, на старасці і рукі, і ногі будуць балець*. Дзяражычы.

ПАПО'РАЦЦА *зак*. Навесці парадак у хатняй гаспадарцы. *Мне трэба па хазяйству попóраца, а тады ужэ с тобóй збегаем к мацци*. Дзяражычы. *Попóраюсь, тады і раскажу*. Крупейкі.

ПАПРАЖЫВА'ЦЬ *зак*. Пражыць. *У нас бабы папражывáлі харашэ, з маладых годóў булі са сваімі хазяінáмі*. Дзяражычы.

ПАПРАШЧА'ЦЦА *зак*. Развітацца. *Мая баба калісь папрашчáлась з децямі і унукамі і умерла*. Бывалькі.

ПАПРУ'ЧКАЦЦА *зак*. Папрацаваць. *Чуць папрýчкаюсь, дак мокрая станаўлюсь*. Дзяражычы. *Папрýчкалась я на сваём веку багата, шчэ і цепер у хаці усе дагледжу*. Крупейкі.

ПАПРЫКРЫВА'ЦЦА *зак*. Забараніць. *А там царквя шчэ не папракрывáлісь?* Казярогі. *У нас на сходе сказалі, штоб папрыкрывалі цэркви*. Чаплін.

ПАПРЫСЫ'ПАНЫ *дзеепрым*. Панасыпаны. *Улетку папрысыпаные дежкі: і жыта, і проса, і ячмень*. Першамайск.

ПАПУСЦІ'ЦЬ: *папусціць гýбы*. Расплакацца. *Ена пашла мо де на горóд да гýбы папусціла*. Дзяражычы.

ПАПЫТА'ННЕ *н*. Пытанне. *Без папытáння нікуды не ідуць*. Дзяражычы. *Доўга вы будеце папытáнні даваць?* Чаплін.

ПАПЯЛЕ'Ц *м*. 1. Попел. *Выграбі папелéц з печы*. Бывалькі. 2. *перан*. Пустое месца. *Сцёбка асталась, а усё змелі немцы — толькі папелéц*. Ручаёўка.

ПАПЯ'ЦЦА *зак*. 1. Напружыцца. *Усім децям памагаем, нам і трудна пап'яцца*. Ручаёўка. 2. Выкручвацца. *Той год послі вайны грамачкі не палучылі, нічога не уроділа, от і трэба чалавеку пап'яцца: деці малые, а грошай німа*. Дзяражычы.

ПАР *м*. Папар. *Налета подóймуць, дак называюць пар*. Казярогі. *Аставілі етае поле пад пар*. Пярэдзелка.

ПАРАБІ'ЦЬ *зак*. Запэцкаць. *Де ты рукі так парабіла? Іді мый скарэй*. Бывалькі.

ПАРАБО'К *м*. Парабак. *Нема парабкóў чэраду пасці, трэба самім ганяць корóў у поле да адбываць сваю вочарадь*. Вулкан.

ПАРА'ДАЧНА *прысл.* Шмат. *У нас такіх старыкоў сабралася парáдачна.* Крупейкі.

ПАРА'ДАЧНЫ *прым.* Вялікі, значны па велічыні. *Ці велікі твой сын вырас? — Ужэ парáдачны вырас, хорóшы хлопчык.* Дзяражычы.

ПАРАДЗІ'ЦЦА *зак.* Радзіць. *Як парадíлася ена, дак токóе діця хорóшае.* Бывалькі. *Як Валя парадíлася, дак я паехала у Гомель, узела шэсць пляшак, да каўбас, да сцегно.* Дзяражычы. *Мо Маня порóдіцца, дак хай детак заберэ і прыеде к нам на лета.* Крупейкі.

ПАРА'ЛІЧ: *парáліч парайшóў.* Аб стане паралізавання. *Парáліч парайшоў, дак гаманіць не гомóніць, а так знае усё.* Дзяражычы.

ПАРАНЕ'Й *прысл.* Раней, як найраней. *Заўтра паранéй прыдзі.* Дзяражычы.

ПАРАНЕ'НЬКУ *прысл.* Вельмі рана. *А у недельку паранéньку солнышка ўзыйдéць, зірну, гляну я — на моры карабель плывець* (З нар. песні). Чаплін.

ПА'РАНІКІ *мн.* Смажаная бульба. *Прыстаўлю на абед пáранікаў.* Казярогі. *Ена так любіць пáранікі, хоць кожды день жар кортóплі.* Крупейкі.

ПА'РАНКА *ж.* Смажаная бульба. *Хлопцам трэба пáранкі зварыць — тушонай кортóшкі.* Бывалькі.

ПАРАСКАРЧО'ВУВАЦЬ *зак.* 1. Параскарчоўваць. *Заўтрі трэба параскарчóвуваць той участак, што адвелі пад проса.* Вулкан. 2. *перан.* Раскулачыць. *Бальшавікі прышлі, дак багатых тых да кулакоў усіх параскарчóвувалі — тых, хто нічогенка ніколі не рабіў.* Дзяражычы.

ПАРАСЧАСТО'ВУВАЦЬ *зак.* Пачаставаць. *Ена Іванаву гарэлку парасчастóвувала.* Дзяражычы.

ПАРАХЛЯ'ВЫ *прым.* Парахнявы, трухлявы. *Буў парахлявы фундáмент, дак ены его разварсалі да паўцекалі.* Казярогі.

ПАРО'ЗЕНЬ *м.* Кут, у якім стаяць вілкі. *Отовó стаяць вілачнікі у порóзне.* Дзяражычы.

ПАРПЛІ'ЦА *ж.* Жалезны шворан у жорнах. *Парпліцу рабілі зелезнаю, на ёй круціцца верхні камень.* Ручаёўка.

ПАРТАБА'К *м.* Партсігар. *Твой партабáк красівейшы за мой, дак ён жа, наверна, і даражэйшы.* Ручаёўка.

ПАРТНІЧО'К *м.* Хустка з бавоўны. *Партнíчок — тое, шчо подвóджанка, плотóчык з порту.* Пярэдзелка.

ПАРТНЫ' *прым.* Баваўняны. *То парцяначка партная.*

*Падманачка — партны́ плото́к.* Дзяражычы. *Партна́я посцілка — ета значыць з ільна.* Ручаёўка.

ПАРУШЫ'НА: *да парушы́ны.* Да апошняга. *Немцы пааткапувалі ямкі, усе да парушы́ны пазабіралі, асталіся голые і босые.* Карпаўка. *Памянш.* парушы́начка. *Парушы́начкі не асталося пасля вайны.* Первамайск.

ПАРЦЯ'НКА *ж.* Хустка з порту. *Парця́нкі усякага цвету е. У мене була парця́нка сіненькая і беленькая.* Дзяражычы. *Памянш.* парця́начка. *Ото у мене на галаве парця́начка партная. Партны плото́чак — парця́начка.* Бывалькі.

ПА'РЫЦЬ *незак.* 1. Парыць. *Ну і па́рыць жа сегодні.* Чаплін. 2. *перан.* Біць. *Іван Царэвіч па́рыў, па́рыў змею, аж дранка зламалася* (З казкі). Пярэдзелка.

ПАРЭ'КУЛІ *мн.* Від ткання. *У клетачку ткуць посцілкі, у віленкі, у цветы, парэ́кулі.* Дзяражычы.

ПАСАБІРА'ЦЬ *зак.* Пазбіраць. *Замерзнуць у нас каўрахі у хлеве, а парасёнак да каўрашка пасабіра́е.* Дзяражычы.

ПАСАБІ'ЦЬ *зак.* Дапамагчы. *Хочу пасабіць кідаць стог.* Вулкан. *Добра, шчо бацька памагае: пошоў і пасабі́ў.* Дзяражычы.

ПАСАБЛЯ'ЦЬ *незак.* Дапамагаць. *Паліцэйськіе пасабля́лі немцам.* Бывалькі. *Мне деці пасабля́юць скрозь вукапаць корто́плі.* Казярогі.

ПАСАДЗІ'ЦЬ *зак.* 1. Пасадзіць. *Гуркі пасаділа, да насенне, мабыць, пустое: узышлі пагана.* Бывалькі. *Цыбулю ці часнок пасадіць нада, а гуркі, маркву пасеець нада.* Ручаёўка. 2. *перан.* Прышыць. *Гузік пасаділа, як латка, ці ты не магла меншага знайці.* Бывалькі. 3. Пазбавіць (зроку). *А шчо ж я вінавата, шчо мене бог так пасаді́ў: я ж нічога не бачу. Калі б бачыла, дак і цікавая була, усе б парабіла.* Дзяражычы.

ПАСА'ДКІ *мн.* Саджанцы. *У етую неделю узела на базары п'яць паса́дак памідор.* Казярогі. // Дрэвы. *Ее добра захавалі, да добрую дамавіну зделалі, да на весёленькім месці захаранілі, да паса́дкі там — вішні, слівы.* Дзяражычы.

ПА'САКА *ж.* Кроў. *Як дадуць пад зубы ці па ноздрам, дак і паплыве па́сака.* Дзяражычы.

ПАСВА'ТАЦЬ *зак. перан.* Палезці. *Дейкі пасва́талі у агарод па моркву.* Бывалькі.

ПАСЕ'КЦІ *зак.* Пасячы, параніць. *Ігнаціха так ногу*

*пасекла, як дрова рубала. Трэба ж так пасекці.* Ручаёўка. 2. *перан.* Пастраляць. *Седім у стозе, думаем: прыдуць немцы, пасекуць нас у стозе да аднаго — пастраляюць усіх.* Дзяражычы.

ПАСІРО'ШЧЫЦЬ *зак.* Пасіраціць. *Іх семера було, цепер двое асталося, і бацька пагіб, вайна пасірошчыла децей.* Карпаўка.

ПА'СКА [1] *ж.* Надточаная частка падолу ў кашулі ці спадніцы. *Пашыла спадніцу, ена збеглася, дак я прышыла сабе паску.* Дзяражычы. *Для паскі нада браць другую мацераю.* Ручаёўка. // Расшыты вузкімі стужкамі падол спадніцы ці сукенкі. *Спадніцы с паскай насілі толькі на празнік, а тады ужэ і на кожды день.* Ручаёўка.

ПА'СКА [2] *ж.* Вялікдзень. *Калі паска, тады ужэ еечкі красюць.* Чаплін. △ *Паску перапаскуваць.* Пабыць у час свята. *Два дні толькі пабуў, паску перапаскуваў у нас і паехаў бедны.* Дзяражычы.

ПАСКАСЫ'РАВАЦЬ *незак.* Касавурыцца, пазіраць скоса. *Ляньце, чого ена паскасыравала.* Бывалькі. *Паскасырує на мене, а шчо я ей зрабіла.* Дзяражычы.

ПАСКІДА'ЦЬ *зак.* Абарціраваць. *Каценят ена ета во де паскідала.* Бывалькі.

ПАСКЛАДА'ЦЦА *зак.* 1. Злажыцца, скласціся. *Паскладаліся нашы бабы па п'яць рублей да устроілі гулянку.* Чаплін. 2. *перан.* Памерці. *Да, паскладалісь, а маладыя шчэ булі, жыць бы дай жыць.* Дзяражычы.

ПАСКЛАДА'ЦЬ: *паскладаць рукі.* Гультайнічаць, лодарнічаць. *Гульма гуляюць, рукі паскладаюць — ці ета буде толк с тых хлопцаў.* Казярогі.

ПАСКРО'БАК *м.* Паскрэбак. *Дай ему паскробак, нехай есць.* Пярэдзелка.

ПАСЛЕ'ДНЕЙШЫ *прым.* Апошні, малодшы. *Люба у нас паследнейшая ужэ, болей детак не було.* Ручаёўка.

ПАСЛЕ'ДНІ *прым.* Апошні. *Да паследнега денёчычка будуць жаніцца і селіцца.* Дзяражычы. *Паследні год тут пасу, буду ганяць туды.* Ручаёўка. △ *Паследняя сіраціна.* Гаротнік. *Сын такі лодыр, лежань, на роботу не ходіць, а пошоў к паследней сіраціне да прыжыў діця. А матка казала: у Деражычах нет для мойго сына деўкі, а ён к паследней сіраціне.* Дзяражычы.

ПАСЛЕ'ПКАВЫ *прым.* Падслепаваты. *Калі не бачыць далека, дак у нас кажуць паслепкавы.* Ручаёўка.

ПАСЛО'ЕНКА *ж.* Ягады, перацёртыя з сахарам. *Ена*

*послóенкі панастаўляла на стол, да масла, да сыру.* Дзяражычы.

ПАСЛУШНЫ′ *прым.* Паслухмяны. *Сергей такі паслушны́.* Бывалькі. *Такая паслушна́я, хорóшая девачка, надагад знае, шчо рабіць.* Дзяражычы.

ПА′СМА *ж.* 1. Пасма, пучок. *Две ці тры пáсмы захвачу і хуценька перайясла кручу.* Ручаёўка. 2. Пэўная колькасць нітак у аснове. *Пáсма састаўляецца з чысленак: па тры нітачкі десяць раз — пáсма. У пáсме десяць чысленак.* Дзяражычы. // Пэўная колькасць нітак наогул. *Кросна калісці булі, дык пралі му пражу, пáсмы захвацім і матаем.* Ручаёўка. 3. Мера палатна ўшырыню. *А пáсмы па рашчоту берда: ат шасці да дванаццаці пáсам.* Дзяражычы. *У дванаццаць пáсам полотнó, дак ета хорóшае, тонкае.* Ручаёўка. *Тоненькае полотнó у деўятку, у деўяць пáсам.* Чаплін.

ПАСМІ′ХУВАЦЦА *незак.* Пасмейвацца. *Ці доўга ты будеш пасміхувацца?* Бывалькі. *На ее будуць сварыцца, а ена маўчыць, шчэ пасміхуецца.* Дзяражычы.

ПА′СМУРНА *прысл.* Пахмурна. *Пáсмурна як сегодні.* Чаплін.

ПАСПАСІ′БАВАЦЬ *зак.* Падзякаваць. *Напішы Брэжневу да паспасібуй, шо нам так добра жыць да шоб вайны не було.* Ручаёўка.

ПАСПРО′БАВАЦЬ *зак.* Паспрабаваць. *Паспрóбуй буць хорóшаму і цікаваму: цэлу зіму торхам топім.* Дзяражычы.

ПАСТАВЕ′Ц *м.* Драўляны посуд для алею. *У пост налівалі алею поўны паставéц.* Казярогі.

ПАСТА′ВІЦЬ *зак.* 1. Паставіць. *Я пастáўлю у лёгенькі дух уцеты кушын.* Дзяражычы. *Пастáвіла судно за торхам, дак туды курыца еечкі наклала.* Первамайск. 2. Пабудаваць. *Ены дом пастáвілі сабе, дай жывуць тут.* Карпаўка. 3. Уладкаваць на работу. *Ён пастáвіў сваю жонку цехнічкай, а сам у нас ділектарам.* Бывалькі.

ПАСТАНАВІ′ЦЬ[1] *зак.* Вырашыць. *Пастанавілі на сабранні: атразаць планы, у кого больш за сорак сотак.* Бывалькі.

ПАСТАНАВІ′ЦЬ[2] *зак.* Паставіць. *Вады несу, несу, петнаццаць раз пастанаўлю́, так міне нельзя важка рабіць, а есці — ем.* Дзяражычы. *Ізбаём молокó, а калі трэба сабе пастанавіць гладышачкі две.* Ручаёўка. *Гарачае було, дак пастанавіла у сенцах.* Чаплін.

ПАСТА'ЎЛЯЦЬ *зак.* Уставіць. *Скора будуць уходіны: мы вокна пастáўлялі ужэ да печку збілі.* Дзяражычы.

ПАСТАЯ'НКА *ж.* Пастаянная работа. *На пастаянцы була гады тры у Сеўкох — брыгадірам була.* Ручаёўка.

ПАСТО'ЛІ *мн.* Пасталы. *Калісь постóлі насілі, з лазы плелі.* Дзяражычы. *Цепер вы і не знаеце, шо токóе постóлі, а мы калісь іх насілі.* Пярэдзелка. *Везалі чулкі да у постóлях танцавалі.* Ручаёўка. *Пошóў у постóлях на сена.* Чаплін.

ПАСТРО'ІЦЬ *зак.* Палатаць. *За день багата чогó постóіла: сабе кохту і спадніцу, мужыку — штаны.* Дзяражычы. *От, постóіла сабе кохту.* Ручаёўка.

ПАСТРО'ЙКА *ж.* Будынак. *Дерэўня наша строіцца, вунь скольці новых пострóек.* Ручаёўка. *Школа, клуб, етые тры дамы — ета усе мае пострóйкі, мая робóта.* Чаплін.

ПАСТЫ'ЛЫ *прым.* Абрыдлы. *Ат такой жысці іде і мілае за пастылае.* Дзяражычы.

ПАСУ'ДНІК *м.* 1. Шафа для пасуды. *Зделаць пасýднік нада: некуды посуд ставіць.* Пярэдзелка. 2. Уціральнік (кухонны). *Павесь пасýднік на кручок, нехай высахне.* Пярэдзелка.

ПАСХО'ДЗІЦЬ *зак.* Паўзыходзіць. *Недаўна пасеела, а цёпла, дак бурачкі ужэ пасхóділі.* Ручаёўка.

ПАСІЦЕ'ЛЬНІК *м.* Насціл у возе. *Пасцéльнік буў діравы, і дядька згубіў здор.* Пярэдзелка.

ПАСЦЕРАЖАВА'ЦЬ *зак.* Пасцерагчы. *А вы паседіце, пасцеражýйце, пака я збегаю у магазін.* Дзяражычы.

ПАСЦІРА'ЦЬ *зак.* Памыць (пра падлогу). *Пасцірáй ты ужэ мост.* Бывалькі. *Мост пасцірáла, не так грязна буде у хаці.* Дзяражычы. *Томка за трапку, масты пасцірáе.* Крупейкі.

ПАСЦІ'ЦЬ: *пасціць тáйніцу.* Пасціцца. *Каб мая донька добра жыла, я пасціла тайніцу, цепер у ее такі добры мужык.* Ручаёўка. *А ена усё пасціла тáйніцу, дак чуць не памерла з голаду.* Чаплін.

ПАСЦЯБА'ЦЬ *зак.* Пастрачыць. *Машынаю пасцебáю кухвайку.* Дзяражычы.

ПАСЫЛА'ЦЬ: *па смéрць пасылáць.* Пра таго, хто павольна выконвае даручэнні. *Цебе толькі па смéрць пасылáць: у печы вугарує, а ты так воду несеш.* Вулкан.

ПА'СЫНАК *м.* 1. Няродны сын. *Пáсынкаў у мене не*

*було, толькі пачарка адна.* Ручаёўка. 2. *перан.* Бакавы адростак сланечніку. *Калёса пазразалі, а асталіся пáсынкі.* Бывалькі. *Пайду скручу два пáсынкі. Год мачлівы, дак пáсынкі поўные.* Ручаёўка.

ПАСЯВА'ЦЬ *зак.* Сеяць (доўга). *Я як пошóў да пасевáў, дак чуць прышоў.* Рудня Марымонава. // Раскідваць. *Я не буду пасевáць адабрэння, бо куры подóхнуць.* Дзяражычы.

ПАСЯДЗЕ'ЦЬ *зак.* 1. Пасядзець. *Паседі трошкі, умесці пойдам.* Вулкан. *Я ужэ паседжý, трохі ачомкаюсь.* Дзяражычы. 2. *перан.* Пажыць. *Шоб мае хлопцы жыва булі, дак я б у тога паседéла і у тога.* Дзяражычы. △ *Пасядзéць у сярэ́дзіне і вы́ляцець чы́стым.* Быць хітрым, спрактыкаваным. *То баба такая: паседіць у серэ́діне і вы́леціць чы́стай; ніхто ее ні у чым не паймае.* Дзяражычы.

ПАСЯРО'ДКІ [1] *прысл.* Пасярэдзіне. *Грубу пастаў пасерóдкі.* Пярэдзелка.

ПАСЯРОДКІ [2] *прыназ.* Сярод, пасярэдзіне. *Пасерóдкі вуліцы бальшы дом.* Чаплін.

ПАТА'Й *м.* Дзірка ў завесах (для варот). *Такі бальшы патáй, што і шурупы не гадяцца, нада купіць больших.* Пярэдзелка.

ПАТАЙНІ'К *м.* Карман унутраны. *Патайнікá німа у цебе у летніку? У новум касцюмі аж два патайнікі.* Пярэдзелка.

ПАТАЛО'К *м.* 1. Столь. *Калі паклаў потолóк, засыпаю там песком, мохам, а тады кладем чорную столь.* Ручаёўка. 2. Гара, памяшканне паміж столлю і крышай. *Закінь яблакі на потолóк.* Бывалькі. *На паталкý столькі барахла, трэба павукідаць.* Дзяражычы.

ПАТАПА'ЦЬ *незак.* Тануць. *Трэйці кажа: дейка патапáе* (З нар. песні). Первамайск.

ПАТАЎСЦЕ'ЙШЫ *прым.* Таўсцейшы. *Да патаўсцéйшыя дрова, дак ён рубаў.* Ручаёўка.

ПАТВО'РАЦЬ *незак.* Капрызнічаць. *Мала потвóрае, як гуляе со мной.* Первамайск.

ПАТВО'РНЫ *прым.* Капрызны. *Потвóрны вельмі хлопчык, такі разбалаваны.* Бывалькі.

ПАТО'Е *нязм. слова, ужыв. замест дзеяслова. Я ж зімой ніяк не сплю, качаюсь, качаюсь. Ужэ цеперакі трошкі потóе, дай заснеш. Прышла, дай потóе, чогó я к табе прышла.* Дзяражычы.

ПАТО′ПКІ *мн.* Абутак стары, стаптаны. *Вукінь ты сваe потóпкі, дакуля ты іх будеш цегаць, аж п'яты відна.* Вулкан.

ПАТРАПА′ШКА *ж.* Мянташка. *Калі не патрапашыш патрапáшкай, касіць не будіш.* Первамайск.

ПАТРА′ЎКА *ж.* Верашчака. *Патрáўка — мука размінаецца і туды кладецца м'яса. Трэ було патрáўку к солóнікам зрабіць.* Ручаёўка.

ПАТРА′ХНУЦЬ *зак.* Згніць, спарахнець. *А дроў, дроў да торху у дварэ, дак патрáхлі. Патрáхлі — пералежалі, пагнілі.* Дзяражычы.

ПАТРЭПКІ *мн.* Адыходы пры трапанні льну. *Патрэ́пкі тожа кайстрывые да луччые.* Пярэдзелка. *Там шчэ десь было трохі патрэ́пак, дак вазьмі да зві повад.* Ручаёўка. *Адыходы етые патрэ́пкі называюцца.* Чаплін.

ПАУТА′СКУВАЦЬ *зак.* Павыцягваць. *Паутáскувала, паукорчувала — саджае абратна.* Ручаёўка.

ПАЎБАЦІ′НКІ *мн.* Чаравікі (з кароткімі халяўкамі). *Зяць мой купіў паўбацінкі, а ены ему велікіе, дак ён зноў у магазін іх аддаў.* Ручаёўка.

ПАЎЗУНЦЫ′ *мн.* 1. Вазон, дэкаратыўная пакаёвая расліна. *Паўзунцы уніз паўзуць, са стулляў, з вокан звешваюцца.* Ручаёўка. 2. Паўзункі. *Раней ніякіх паўзунцóў не було у діцей.* Чаплін.

ПАЎЛІ′ТАРКА *ж.* Паўлітра. *Ік неделі дак прынесуць хоць па паўлітарцы.* Карпаўка.

ПАЎЛІЯ′ЦЬ *зак.* Паўплываць, аказаць уплыў. *Жыва асталась, да на глазы паўліяла.* Казярогі. *На глаза паўліяла, а на голаву буде паметны.* Ручаёўка.

ПАЎМА′ЗВАЦЬ *зак. перан.* Уладкаваць. *Ён сваіх родзічаў паўмáзуваў ле себе.* Бывалькі.

ПАЎНАТА′ *ж.* Поўня. *Месешна було — прама паўнатá.* Казярогі.

ПАЎНІГО′ДНЫ *прым.* Ніводны. *Паўнігóднага яблака не прынесла.* Бывалькі.

ПАЎПІРА′ЦЬ *зак.* Парасці (вялікім). *Паўпірáла тое каліўе, парасло да чорта.* Ручаёўка.

ПАЎПРЫ′ЦА *ж.* 1. Жалезны шворан, на якім кру ціцца верхні камень у жорнах. *Етую паўпры́цу уделувалі паміж етымі камнямі.* Ручаёўка. 2. Шпень. *У паўпры́цу устаўляецца цэўка.* Ручаёўка.

ПАЎСТОЛЕЧКІ *прысл.* Крышачку. *Хоць бы ён міне поўстóлечкі гледеў, як я его.* Ручаёўка.

ПАЎЧАХА'ЦЬ *зак.* Ачахнуць. *Хадіце, деўкі, бо паўчахае ваша снеданне.* Ручаёўка.

ПАЎЧЫ'ХУРАВАЦЦА *зак.* Прагаладацца. *Мы паўчыхураваліся, што хоць рамні грызі.* Ручаёўка.

ПАЎШАРСЦЯ'НКА *ж.* Хустка паўшарсцяная. *Паўшарсцянкі прывезлі ў магазін.* Ручаёўка.

ПАЎШЧУЎЛЯ'ЦЬ *зак.* Абуць. *А мы паўшчуўляем маршчакі екія на ногі, дай седім у запечку.* Первамайск.

ПАЎШЫ'БУВАЦЬ *зак.* Выгнаць. *Прыде да паўшыбуе з хаты і ее, і децей.* Ручаёўка. *Лезуць і лезуць етые куры, ніяк не паўшыбуеш іх з сенец.* Чаплін.

ПАХ: *пах, да не ў зубах.* Пра немагчымасць ажыццявіць жадаемае. *Такая девачка хорошая вурасла у Таціяны, як цацка, усе хлопцы пагледаюць, а Пецька болей за усіх, а нічога не зделае: пах, да не ў зубах.* Бывалькі.

ПАХАДЗІ'ЦЬ *зак.* 1. Пахадзіць. *Столькі я пахадзіла у Лоеў еты год.* Казярогі. 2. Даглядаць. *Я десяць годоў целятніцай, дак ужэ пахадзіла за целяцьмі.* Бывалькі. 3. Пажыць. *Хаця б деці у роскошы пахадзілі.* Дзяражычы.

ПАХАДНЫ' *прым.* Зручны, неабходны. *Свекруха цікавенечкая такая: у ее чысты і посуд буў. Порграб у ее пахадны буў, у порграб усе пастаўлее.* Дзяражычы.

ПАХАРАНЕ'ННЕ *н.* Пахаванне. *Дядька і на свадьбу, і на пахараненне дае грошы.* Бывалькі. *О-о ета на пахараненне деда, а ета даццэ і сыну. Деду нада было даць на пахараненне пяцьсот рублей, ён добрую пенсаю палучае.* Дзяражычы.

ПАХВАТА'ЦЦА *зак.* Паспяшацца. *Я пахваталась: пабыла два месяцы удовою і пашла на деці.* Дзяражычы. *Пахватаўся мой сын ажаніцца, нехай бы цебе узяў.* Ручаёўка.

ПАХВАТНЫ' *прым.* Зручны. *Такі пахватны горшычак буў у мене, оцета курыца разбіла.* Дзяражычы. *А ручка у лапаце пахватная.* Пярэдзелка.

ПА'ХІ *мн.* Выемка ў дошках. *Дужа вузкіе пахі у дверах, шпонка дажа не заходзіць.* Пярэдзелка.

ПАХІТА'ЦЦА *зак.* перан. Пахадзіць, пагуляць. *Калі пашла куды пахіталася, а калі і дома.* Дзяражычы.

ПАХЛЯСТА'ЦЬ *зак.* Пахлябтаць. *Нехай пахлешча еты адгон.* Дзяражычы. *Ліса прыбегла, пахлестала.* Казярогі.

ПАХМА'РВАЦЬ *незак.* Зацягваць хмарамі. *На вуліцы хмарыць.— Што? Пахма́рвае.* Ручаёўка.

ПАХО'ДЖЫ *прым.* Падобны. *На Мікалайшына Грышу похо́дж.* Дзяражычы. *Ета рыба, а не пахо́джа на рыбу.* Первамайск. *Ён не похо́джа на етых Бубноў, а на род бацькаў похо́дж.* Ручаёўка.

ПАЦЕ'ШЫЦЬ *зак.* Выкарміць. *Нема корто́шкі, як браць парасяці, хоць бы кабана як паце́шыць.* Пярэдзелка.

ПАЦЁКІ *мн.* Падцёкі. *Зімой, калі вокна цекуць, дак усе шыбкі у пацёках.* Чаплін.

ПАЦО'ПАНЫ: *мяшко́м пацо́паны.* Дурнаваты. *Ена, шануючы вас, мешко́м поцо́паная, говорыць абы-што.* Дзяражычы.

ПАЦЫ'РКАЦЬ *зак.* Падаіць. *А вот коро́вы ужэ прышлі, пайду пацы́ркаю сваю.* Казярогі. *Падажджы трохі, я пацы́ркаю корову, дак молоко́м напаю.* Ручаёўка.

ПАЦЯГА'НКА *ж.* Кажух, пакрыты зверху тканінай. *Надень пацега́нку, на дварэ снег сыпле.* Казярогі. *Кажухі у нас е, зверху сукно. Етые кажухі мы называем пацега́нкамі.* Ручаёўка.

ПАЦЯГНУ'ЦЬ *зак.* 1. Пацягнуць. *Пацёг сабака коўбік і німа ніде: не удавіўся і не ухлупіўся.* Дзяражычы. 2. Заступіцца. *Райано не паце́гла за Марусею, а паце́гла за Александраўнай.* Дзяражычы. 3. *перан.* Зацягнуць. *Хмару було паце́гла, я думала: о-о дошч буде на турнэпс, а ее разагнала.* Бывалькі.

ПАЦЯЛЁМКАЦЦА *зак.* Павалачыся, паплесціся. *І куды ена пацелёмкалась?* Дзяражычы. *Такая урэдная коро́ва, усе прыдуць з пашы, а ена пацелёмкалась на горо́ды.* Ручаёўка.

ПАЧАРЭ'ЖНА *прысл.* Па чарзе. *Нашы ж пачарэ́жна ганяюць коро́ў.* Дзяражычы. *Нам шчо день, шчо ноч, пачарэ́жна будам робо́таць.* Ручаёўка. *Пачарэ́жна нада хадіць у больніцу.* Чаплін.

ПАЧА'ХНУЦЬ *зак.* Ачахнуць. *Дейкі, ежце драчы, а то пача́хнуць скора.* Дзяражычы.

ПАЧО'К *м.* Пачак. *Пачо́к сахару купіла децям.* Дзяражычы. *Два пачкі драждж эй ссушыла.* Ручаёўка. *Де та Сеня давала пачо́к перцу.* Пярэдзелка.

ПАЧО'ПКА *ж.* Лямка. *Пачо́пкі у сумцы, у коро́бцы.* Пярэдзелка.

ПАЧО'СКІ *мн.* Адыходы пры апрацоўцы льну на

шчотцы. *Што чэшуць — почо́скі. Шчоткаю абчэсуюць, почо́скі адкідаюць.* Пярэдзелка.

ПАЧО'СТКА *ж.* Павага. *Тым і децям такая почо́стка.* Дзяражычы. *Мы маму усе любілі, велікая почо́стка ей була у нас.* Вулкан.

ПАЧО'ТЛІВЫ *прым.* Паважаны. *У ее такіе сёстры почо́тлівые.* Дзяражычы.

ПАЧО'ТНЫ *прым.* Паважаны. *Прыходіць п'яны і палкай па галаве. Ета ж почо́тны чалавек, табе нада паказаць прымер жыць, а ён так.* Карпаўка.

ПАЧЫГУ'ННЕЦЬ *зак.* Пасіверацъ. *Морозы, дак рукі пачыгунне́юць, чорные, як чыгун.* Дзяражычы.

ПАЧЫ'НАК *м.* Верацяно нітак. *Прышла з вечорак, малы пачы́нак прынесла — матка пачы́нкам.* Бывалькі. *Па пачы́нку трэба было напрасці. Пойде Прося да такі пачы́нак прынесе!* Дзяражычы. *На пачы́нак матаюць ніткі.* Чаплін. *Аднаручак — еслі намотаюць на адно верацено, а на велікае — пачынак.* Ручаёўка. *Памянш.* пачы́начак. *А ужэ мае пачы́начкі у куточку, а ужэ мае гулянейка на шнурочку* (З нар. песні). Вулкан.

ПАЧЫНІ'ЦЬ *зак.* Адрамантаваць. *Як нада чобаты ці тухлі екіе пачыніць, дак усе ідуць к ему.* Ручаёўка. *Учора бура була велікая, палаткі параскідала, парвала, а сегодні ужэ пачынілі.* Казярогі.

ПАШАТЫ'РЫЦЬ *зак.* Пацерці, памыць. *Пашатыр бо ты пол.* Дзяражычы. *Пашаты́ру усе лаўкі, услон, пачышчу самавар, тады схаджу на пошту.* Крупейкі.

ПАШКРА'БАЦЬ *зак.* Пачухаць. *Пашкра́бай галаву бацька дай спраўляй спраўкі деўцы.* Первамайск. *Пашкра́бай за вухам, дак зразу ляжа кабанчык і толькі рохкаць буде.* Рудня Марымонава.

ПАШНЯ' *ж.* Збожжа, рассыпанае для прасушкі. *Пашня́ — сушыцца жыта ці шчо помоло́чанае.* Ручаёўка.

ПАШЧАЛЯ'ЦЬ: *зу́бы пашчаля́ць.* Павыбіваць. *Падыйді, я табе зу́бы пашчаля́ю.* Пярэдзелка.

ПАШЧЫТА'ЦЬ *зак.* 1. Палічыць. *Пашчыта́й, сколькі асталося да Акцябра.* Вулкан. 2. Вырашыць. *І вот ены пашчыта́лі: нада выкарміць пакутніцу.* Крупейкі.

ПЕ'ВЕНЬ: *убіцца ў пе́ўня.* Змарыцца. *На той рабоце уб'ешся у пе́ўня.* Пярэдзелка.

ПЕ'КАЛЬНІЦА *ж.* Дзежка, дзяжа. *А хлеб рашчыняюць у пе́кальніцы.* Казярогі. *Мая пе́кальніца чуцьчуць ліпіць, скора рассыпіцца.* Ручаёўка.

ПЕ'КНУЦЬ *зак.* Моцна выцяць. *Пéкну, дай готова, не будеш болей лезці ка мне.* Вулкан. *Немец атвернуўся, дак ён его пéкнуў лапатай па галаве, а сам наўцёкі.* Дзяражычы.//Стукнуць. *Я сейчас пéкну каменем у акно.* Первамайск.

ПЕ'ЛЬКА *ж.* Палонка. *На рэчцы прабілі пéльку, дак ена зноў замерзла.* Казярогі. *Такое мне гора було, хоць у пéльку головóй, а трэба ж усе перанесці.* Ручаёўка.

ПЕНЬ *м.* 1. Пень. *У том лесі адны пні старчаць.* Ручаёўка. 2. Корань (зуба). *Зубы плахіе, мо чатыры пні трэба рваць.* Дзяражычы. *Памянш.* пянёк. *Два зубочкі е, пенькі, па бокóх е пенькі.* Бывалькі. 3. *перан.* Корань (расліны). *Сёлета пагарэлі гарбузы даже на пні.* Дзяражычы. △ *Як за пнём.* Спакойна, без турбот. *Ёй за Сцепанам, як за пнём, галубка мая.* Дзяражычы.

ПЕРАБАРШЧЫ'ЦЬ *зак.* Зрабіць што-небудзь зверх нормы. *Каб жа хаця не перабаршчы́ць усыпаць круп, а то ложкай не укалупнеш кашы.* Пярэдзелка.

ПЕРАБІВА'ЦЬ *зак.* Перарабляць, перакладаць (пра печ). *Ега вы ап'яць печ перабівáлі?* Дзяражычы. *Іван перабівáў мне печ.* Пярэдзелка. *Ены ж печ сёдні перабівáюць.* Чаплін.

ПЕРАБЛАГАВА'ЦЬ *зак.* Пакінуць зямлю пад аблогу. *Земля пераблагýе, еслі ее не сеяць; тады луччай буде родіць.* Первамайск.

ПЕРАБЛЁХАЦЦА *зак.* Перабоўтацца. *У бітонах пастаіць молокó да пераблёхаецца, дак шчо то за молокó.* Дзяражычы.

ПЕРАБО'ЙКА *ж.* Перагародка. *Разбі парабóйку, і буде шэсць вокóн.* Дзяражычы. *Парабóйкі нема, павукідаў парабóйкі з хаты.* Крупейкі. *У нас две хаці з парабóйкамі.* Ручаёўка. *Памянш.* перабóечка. *Нада парабіць парабóечкі у сенцах.* Ручаёўка.

ПЕРАБО'РКА *ж.* Ачыстка і сартыроўка цыбулі. *Са сваёй цыбулей уладілась, перабóрку зрабіла.* Казярогі. *Перабóрку ж трэба зделаць: большую у адін венок сплесці, а меншую — у другі.* Цясны.

ПЕРАБРА'ЦЬ [1] *зак.* 1. Адсартыраваць. *Перабрáць жа трэба цыбулю: гразную павуціраеш, паабчышчаеш, а тады ужэ плецеш.* Дзяражычы. *Му усе кордóплі парабрáлі.* Вулкан. 2. *перан.* Перапіць. *Трошкі перабрáў, то і сегодні плоха.* Карпаўка.

ПЕРАБРАЦЬ [2] *зак.* Перавесці. *Буў у Бывальках, а*

*тады у Сеўкі перабра́лі.* Дзяражычы. *Падаждыце, я вас пераберу́ у тую комлату, а тут мост памую.* Ручаёўка. *Іван мо сестру пераберэ́ к сабе у хату.* Пярэдзелка.

ПЕРАБРО'ДЗІЦЬ *зак.* Перайсці, перабрысці. *Мне можна тут перабро́дзіць чэраз еты раўчачок.* Бывалькі. *Дак вы перабродзілі возера учорі.* Ручаёўка.

ПЕРАВА'ЖЫЦЬ *зак.* Зменшыцца, спасці. *Ены пісалі, што машынамі прыедуць.— Не прыедуць: крэпкі моро́з.— А мо шчэ і прыедуць: моро́з перава́жыць і прыедуць.* Дзяражычы.

ПЕРАВА'РАНЫ *дзеепрым.* 1. Пераварaны. *Адцэжуй корто́плі, а то перава́раные несмашные.* Казярогі. 2. Кіпячоны. *Табе послі балезні сырой вады піць нельзя, дак онь у чыгуночку перава́раная стаіць.* Ручаёўка.

ПЕРАВЯРНА'ЦЦА *незак.* Перабываць. *У вас людей кожны день столькі перавернáецца.* Дзяражычы.

ПЕРАВЯРНУ'ЦЦА: *у мазко́х перавярну́цца.* Пазбавіцца магчымасці гаварыць. *А была кніжка, дак не сказала де; пыкала, пыкала і не сказала: у мозко́х штось переверну́лась, так бабіны грошы і не знайшлі.* Дзяражычы.

ПЕРАВЯСЁЛКА *ж.* Вясёлка. *Глянь, перавесёлка на небі.* Вулкан.

ПЕРАВЯСЛО' *н.* Перавясла. *Перавесло́м звяжуць сноп і ставяць. Перавесло́ круцяць з соло́мы.* Ручаёўка. *Пераўесло́ шчэ у снапах е.* Чаплін. *Жыта жнуцці ці пшэнічку і пераўясло́ круцяць.* Карпаўка.

ПЕРАГАВО'РКА *ж.* Абгавор, плётка. *Перагаво́рак многа, а деўка нічым не вінавата.* Казярогі. *Ці чула ты тую перагаво́рку, што пра Анюту казалі?* Крупейкі.

ПЕРАГАРЦАВА'ЦЬ *зак.* Перамяшаць. *Трэба перагарцава́ць цэмент з песком.* Бывалькі.

ПЕРАГУЛЯ'ЦЬ *зак. перан.* Пабыць незасеяным (аб полі). *Кінулі тую землю, шчоб перагуля́ла лета, тады на зяб араць будуць.* Дзяражычы.

ПЕРАД: *перад пе́радам.* Перад сабой. *Уздумаць, як немцы перад пе́радам гналі наро́д, за раку гналі: і маладых, і децей гналі ў Германію.* Карпаўка.

ПЕРАДЗЕ'ЦЬ *зак.* Пераадзець. *Толькі успелі парцізана передéць, аж прыходяць паліцэйскіе.* Дзяражычы. *Давай грэць чай да его абагравацць да парадéла его.* Бывалькі. *У войну парадéць децей не ў шчо було.* Крупейкі.

ПЕРАЕ'ЗЛІВЫ *прым.* Шкодны. *Ена такая пераéзлі-*

*вая, што сахрані бог.* Крупейкі. *Варкіны дзеці пераёзлівые: усю моркву павуцягвалі.* Ручаёўка.

ПЕРАЕСЦІ: *кішкі пераёсці.* Змучыць. *Ены мае кішкі параёлі: такіх урэдных хлопцаў мо ніде німа.* Ручаёўка.

ПЕРАЖА'БЕЦЬ *зак.* Перастаяць у печы. *Сыр так пераж́абеў, што і есці его не хочацца.* Карпаўка.

ПЕРАЙСЦІ' *зак.* Перажыць крызіс (пра хваробу). *Як перайшло́, дак можа пажыве.* Дзяражычы. *Два дні назад перайшло́, цепер ужэ пагледае на людей.* Крупейкі.

ПЕРАКА'ЯЦЦА *зак.* Не даравáць сабе. *Цеперакі не перакáюся, што не пашла замуж.* Дзяражычы. *Не магу перакáяцца, што дзецей атпусціла у Карэляю.* Бывалькі.

ПЕРАКІДА'ЦЦА *незак.* Перабівацца. *Мне небога прывезла чарніц, дак я так і перакідáюся: то малака, то чаю завару.* Дзяражычы.

ПЕРАКРО'СТАК *м.* Перакрыжаванне. *Астаноўка на перакро́стку у нас. Адна дорога к нам іде, а другая у Лоеў.* Пярэдзелка.

ПЕРАЛА'ДЖУВАЦЬ *незак.* Перабудоўваць. *Перал́аджуваць мне хату сілы німашака.* Казярогі.

ПЕРАЛА'З *м.* Плот з жэрдак. *Перал́аз — еслі паўбіваць колікі, кладуць жэрткі і плетуць лозо́й, штоб ены держаліся.* Крупейкі. *Убіваюць колы, як делаюць перал́аз ці плецень.* Бывалькі.

ПЕРАЛЕ'КАНЫ *дзеепрым.* Перапалоханы. *Перале́канае дзіця.* Дзяражычы.

ПЕРАЛЕ'КУВАНЫ *дзеепрым.* Перапалоханы. *Ены перале́куваные, гтые дзеці.* Пярэдзелка. *Пры немцах мы такіе перале́куваные усе булі.* Чаплін.

ПЕРАЛЮ'БНЫ *прым.* 1. Найлепшы. *Калі б ено було да раней так жыць добра: ужэ і адежу екую пералю́бную адевай. У кожнага цепер пераменнае, пералю́бнае.* Дзяражычы. // Прыгожы. *Лажысся спаць — пералю́бные песні пеюць.* Ручаёўка. 2. Любы, усякі. *У магазінах цепер пералю́бная мука: і вышшы сорт, і для ладак.* Чаплін.

ПЕРАМАГА'ЦЬ *незак.* Пераганяць, апярэджваць. *Ена цэлку напраде, а я меней, ена мене перамагáе.* Дзяражычы.

ПЕРАМАНТА'ЧЫЦЬ *зак.* Зрасходаваць. *Нема Вулляны, ена б его грошы усе перамантáчыла.* Дзяражычы.

ПЕРАМА'РЧЫЦЬ *зак.* 1. Зрасходаваць без разліку.

*Ён паеде да перамáрчыць тые грошы з маткаю і прыеде. Хату да корóву прадала, а грошы перамáрчыла: абы на што аддала.* Дзяражычы. 2. *перан.* Замучыць, давесці да згубы, загубіць. *От перамáрчыла мужыка, а такі чалавек буў.* Бывалькі. 3. Сапсаваць. *Узялі брэдень, казалі аддадім — і не аддалі: перамáрчылі брэдень, усё лета лавілі рыбу.* Дзяражычы.

ПЕРАМЕ'НА *ж.* Змена. *Ву не знаіце, а к нам столькі ужэ парамéн прыходіла купляць кортóшку: адна толькі пойде, а гледіш: ужэ іде другая.* Ручаёўка.

ПЕРАМЕ'НКА *ж.* Змена. *Чэраду пасе, папробуй без перамéнкі.* Дзяражычы. *Дачка прыехала, дак мне перамéнка буде: калі за мене у колхóз на робóту сходіць.* Ручаёўка.

ПЕРАМЁТ *м.* Памылка пры снаванні красён. *Учоры зрабіла перамёт у кроснах.* Карпаўка. *Гледі, снавала, снавала да перам'ёты наклала.* Дзяражычы. *Перамёты — не на той колóк пакладе, ніткі будуць хадіць усяк, адна з другой путацца.* Ручаёўка.

ПЕ'РАНЬ *м.* Пярун, гром. *Шоб цебе пéрань асмаліў.* Ручаёўка. *Учорі у нас такі добры дошч ліў да пéрань як грохне, дак запаліў Мар'ін хлеў.* Чаплін.

ПЕРАПЕ'ЧКА ж. 1. Хлябок. *Пеклі калісь перапéчкі, да рэдка, старалісь астаўляць толькі на закваску.* Первамайск. *Маруся, ты не забудься выняць хлеб з печы, а то перапéчка перасєдіць.* Карпаўка. 2. Праснак. *Напечы перапéчак к абеду з пшанічнай мукі.* Пярэдзелка.

ПЕРАПІСА'ЦЬ *зак.* Завяшчаць. *Ена свае грошы перапісáла на деўку, на дачку.* Ручаёўка. *Бралі за сына, нехай перапісуюць хату на мене.* Чаплін.

ПЕРАПЛА'Ў *м.* Параход. *Былі раней перапла́вы, а цепер параходы ходяць.* Дзяражычы.

ПЕРАПЛЫ'ГНУЦЬ *зак.* Пераскочыць. *Хто етую яму перапльігне, той палучыць канхвету.* Казярогі. *Як плыгне, дак плот вышай галавы, не можа перапльігнуць.* Мохаў.

ПЕРАПО'ЛЫ: *перапóлае поле.* Поле, якое ніколі не апрацоўвалася. *У етым годе і перапóлае поле пойде у лад, дужа усе кінуліся за робóту.* Пярэдзелка.

ПЕРЕПУ'ЦЦЕ *н.* Гора, бяда. *Сколькі було парапу́ццей — і жыў астаўся.* Дзяражычы.

ПЕРАРВА'ЦЬ *зак. перан.* Аглушыць. *Кошка занелась*

*зноў з катамі, гуляе, дак булі парарвáлі хату крычучы.* Бывалькі.

ПЕРАСАКЕ'РЫЦЬ *зак.* Перахітрыць. *Паша перасакéрыла і не дала тую дісятку даццэ.* Дзяражычы.

ПЕРАСЕ'КЦІ *зак.* Перакрыць (дарогу). *Я гавару сваім рэбятам: оцета каб с адной і з другой стараны парцізаны, оцета б немцаў можна было перасéкці і акружыць.* Крупейкі.

ПЕРАСКІ'КНУЦЬ *зак.* Пераскочыць. *Ена плот пераскікнула і пашла у кортóплі.* Ручаёўка.

ПЕРАСПРАДЗЕ'ЛЮВАЦЬ *зак.* Размеркаваць. *Кажуць, с Украіны нам параспрэдéлююць гатнікаў.* Дзяражычы.

ПЕРАТРУ'ЖУВАЦЦА *незак.*填填 Пературджвацца. *Урачы сказалі, шоб і дома неператрýжувалась.* Дзяражычы.

ПЕРАХВА'ТКА: *перахвáтку здзéлаць.* Перакусіць. *Маленьку перахвáтку здéлай — цепер можна ехаць.* Казярогі.

ПЕРАХРЭ'СНІЦА *ж.* Торба, кайстра з двюма лямкамі. *У войну сыноў пазабіралі у армію, мужыка убіла на вайне, а я адна старая, а кругом немцы, дак хоць сумку-перахрэ́сніцу беры.* Бывалькі.

ПЕРАЦА'ПАЦЬ *зак.* 1. Перамацаць. *Парацáпае усе рукамі: аж есці гідка.* Бывалькі. 2. Акучыць бульбу матыкай. *Кожнае каліва трэба парацáпаць. Парацáпала летась усе кортóплі, дак і було на усю зіму і сабе, і кабану.* Дзяражычы.

ПЕРАЦЯЖЭ'ЛІЦЦА *зак.* Перапрацавацца. *Мне робóта важкая урэдная: абы я перацежэ́лілась, дак усе баліць.* Дзяражычы. *Так галава балела: ці учора вецер буў ці перацежэ́лілась, ці што са мной зделалась.* Ручаёўка.

ПЕ'РКА *ж.* Зялёны ліст цыбулі. *Пайду у горóд за пéркамі, а вы, дейкі, кортóшку берыце.* Пярэдзелка. *Тань, іді на город нашчыплі пéрак, халадец зробім.* Казярогі.

ПЕ'РКАЛЬ *м.* Паркаль. *Пашыла хвартух с пéркалю.* Казярогі. *Седяць усе за столóм, а пан пéркаль несе.* Ручаёўка.

ПЕ'СЕЛЬНІК *м.* Спеўнік. *Несі пéсельнік сюды, будам пець.* Крупейкі.

ПЕСКАВЫ' *прым.* Пясчаны. *Ой, хіба я пескавáя, штоб я рассыпалась.* Бывалькі. △ *Пескавы́ платóк.* Шарсцяная хустка (пясочнага колеру). *Пескавы́ пло-*

*то́к — жаўтавацянькі з белым берагам, ён шэрсцяны тожа.* Дзяражычы.

ПЕ′ТАВАЦЦА *незак.* Жыць у нястачы. *Ох, і пе́таваліся мы пры немцах: ні надець нечага, ні абуць.* Ручаёўка.

ПЕ′ЎНЕ *мадальн. слова.* Напэўна, мабыць. *Хадзі сюды баржэй, пе́ўне, бацька уміраe.* Ручаёўка.

ПЕ′ЦЬМІНА *ж.* Пляма. *Сорочка уся з пе́цмінамі, не адмыеш.* Казярогі. *Ох, екая пе́цьміна, абадрала руку.* Дзяражычы. *Памянш.* пецьмінка, пецьміначка. *Пе́цьмінкі на децях такіе красные.* Дзяражычы. *У мае Валі чысценечкая морда, хоць бы де пе́цьміначка була.* Дзяражычы.

ПЕЦЯРНЯ′ *ж.* Пяцёра. *Пецерню́ кінуў, а другую узяў.* Ручаёўка.

ПЕЦЯРЫ′К *м.* Пяць пудоў. *Добра гора на лаўку класць, як пецеры́к хлеба стаіць. Можа за целёнка узяў екі пецеры́к, дак буде жыць.* Дзяражычы.

ПЕ′ЧАК *м.* Фундамент (печы). *Трэба было пе́чак мацнейшым делаць.* Ручаёўка.

ПЕЧУРЫ′ЧКА *ж.* Ластаўка берагавая. *А то чые норкі? — Печуры́чак.* Пярэдзелка. *Ле школы бераг вісокі, дак печуры́чкі столькі гнёздаў наделалі.* Чаплін.

ПЕ′ЧЧАЙКА *н.* Печ. *Пад пе́ччайкам на ламаччайку белые куры седяць* (Загадка). Вулкан.

ПЕ′ЧЫВА *н.* Выпечка хлеба за адзін раз. *Уце пеком ужэ трэйцее пе́чыва хлеба.* Дзяражычы.

ПЕ′ШКАМ *прысл.* Пехатой. *Я пе́шкам к ім хаділа — сем верст туды і назад.* Дзяражычы. *Пры немцах му толькі пешкам усюды хадзілі, ніякіх машын не було, толькі немецкіе.* Ручаёўка.

ПІВА′К *м.* П'яніца. *Любіла я мужа півака́: ён дела не робіць да ўсё п'е* (З нар. песні). Карпаўка.

ПІК *м.* Смала, вар. *Пік — смалены раствор нападобіе асфальта, не паддаецца жары.* Пярэдзелка. *Ка́б жа ты пікам дежку заліла.* Дзяражычы.

ПІ′КА *ж.* Смала вараная. *Нада смоло́ю, пікаю, залепіць дежку.— Де ж тая піка? Трэба шукаць, на страіцельстве буде піка.* Дзяражычы.

ПІ′ЛЬНЕНЕЧКА *прысл.* Уважліва. *Любіць музыку, так пільненечка гледзіць, як пальцам хто водзіць.* Дзяражычы.

ПІР: *ні ў пір, ні ў мір.* Нікуды не варты. *Папрасіла*

*Толіка, штоб зделаў мне засланку, а ён так зделаў, што ні ў пір, ні ў мір — велікая.* Ручаёўка.

ПІ'САНЫ *прым.* Прыгожы. *Девачка ты мая пісаная.* Чаплін.

ПІ'САРКА *ж.* Жонка пісара. *Ена глыжкамі масла наб'е, а тады прадаць панесе матушцы ці пісарцы.* Дзяражычы.

ПІСА'ЦЦА *незак.* Рэгістравацца. *Матка кажа: «Мой сыночак, ты ж не пішыся да армяі, хоць жаніся, да не пішыся». А ён: «Мама, не сталкуй мене на вузкую дорóгу».* Дзяражычы. △ *Пісáцца на спісак.* Падабраць удала выраз. *Дед Склема калісь як скажа, дак прама на спісак пішацца, ён сам умеў сціхі пісаць.* Пярэдзелка.

ПІТАВА'ЦЦА *незак.* Харчавацца. *Тады пітавáліcь не так, як цепер: цепер у кожнай дерэўні у магазіне і хлеб, і алей, і крупы е.* Первамайск.

ПІТА'ННЕ *н.* Ежа. *Жалка ж вутак сюды гнаць: там ім пітáнне добрае е.* Ручаёўка.

ПІТЛЯВА'НЫ *прым.* Пытляваны. *З пітлевáнай мукі бліны смачные і хлеб добры.* Ручаёўка.

ПЛАДЖА'ЦЦА *незак.* Пладзіцца. *Усе свінне і свінне пладжáюцца, кабанчыкаў мала бувае.* Чаплін.

ПЛАДЗІ'ЦЬ *незак.* Раджаць. *Ена завідуе таварышкам, што у іх і невесткі, і зеці, а чогó ты не пладіла децей?* Дзяражычы.

ПЛА'ЗМАМ *прысл.* Плазам. *Так упаў плáзмам, што неделю за голаву нельзя было узяцца.* Пярэдзелка.

ПЛАН *м.* Сядзіба, план. *Увесь план у дварэ, а у нас план у полі.* Дзяражычы. *У нас сорак сотак плáну: п'яць пад хатай і хлевамі, а то пад бульбай, градкамі.* Пярэдзелка. *У мене план бальшы, цепер старая, дак не пад сілу усе дагледаць: бачыце кортóпля не поланая і грады не дагледжаные.* Чаплін.

ПЛАТНІНА' *ж.* Дзябёласць, моц, сіла. *Хлопец мой прышоў на восім дней с арміі, дак вышына да платнінá!* Дзяражычы.

ПЛАТО'К *м.* Хустка. *Усім платкóм булі названня: то подвóджанка, то плотóк шоўкóвы, то расцегáнка руськая.* Дзяражычы. *Купіў Есіп два платкі шэленовые, хорóшые.* Бывалькі. *Хорóшы такі плотóк, у Лоеві не купіш, а там тожа на расхват булі.* Ручаёўка. *Памянш.*

платóчак. *У празнік — гарусавы плотóчак заўяжаш.* Пярэдзелка.

ПЛА'ЎНЫ *мн.* Бакены. *А вунь і пла́ўны мігаюць.* Первамайск. *Паехаў пла́ўны запальваць.* Пярэдзелка.

ПЛА'ХІ *мн.* Від жаночай спадніцы, плахта. *Такіе панатыкаюць пла́хі, на себе папрыўязуюць, праўда, ушываные.* Ручаёўка. *Пла́хі старынные — юбкі не шываные, кусочкамі, у две полкі. У нас не було, а оцета за рэкой насілі.* Рудня Марымонава.

ПЛАХІ' *прым.* Дрэнны. *Хорóшая ці плаха́я, а у землю пашла і усе прапала.* Чаплін. 2. Слабы. *Ой, ена ж ніякая саўсім, плаха́я — хілая.* Дзяражычы.

ПЛА'ЦЦЕ *н.* 1. Бялізна. *Я мыла на рацэ пла́цце.* Ручаёўка. *Ена пла́цце прозóліць.* Дзяражычы. 2. Плацце, суκенка. *Пла́ццi раней жа не насілі, ета толькі цепер.* Ручаёўка. *Две пла́цці можна пашыць з етай мацераі.* Чаплін. *Памянш.* пла́цейка. *Ена надела сегодні пла́цейка сваё.* Крупейкі.

ПЛАЦЁЖ *м.* Налог. *Жысць була не вельмі смашная: і нолóгі булі, і штрахоўкі. Плацёж каждае гасударства знае.* Карпаўка.

ПЛАШЧАВІ'НА *ж.* Плошча. *Лесы булі, була дубіна несхадімая, несчыслёная. Стаяла град чатыры дубіны. Ено градамі лес було: града лесу, а плашчавіна пасбішча.* Дзяражычы.

ПЛАШЭЙШЫ. *прым.* Горшы. *Узяў плашэ́йшую пшэнічку аддаў, а луччую сабе кінуў.* Первамайск.

ПЛЕ'ЦЕНЫ *прым.* 1. Плецены. *У нас плéценая сетка шчэ новая.* Дзяражычы. 2. Вязаны. *Плéцены плотóк — велікі плотóк, у холад носяць, в'язаны з вoйны.* Казярогі.

ПЛЕЦЬ *ж.* Вяроўка. *Плець — вероўка, у восім часцей сплецена, і ета лазілі па етам дераву.* Вулкан. *По лóзу паехаў дед: плéці плетом з лазы.* Карпаўка.

ПЛЕ'ЧЫ *мн.* 1. Верхняя частка спіны. *На плеча́х серпок несе.* Пярэдзелка. 2. Задняя частка вопраткі (паміж двума рукавамі). *Плéчы правільна зашый, а то выраз крывы буде.* Казярогі. *Дай абчышчу табе плéчы.* Пярэдзелка. // Задняя частка чаго-небудзь. *Хатка, хатка, стань ка мне вачам, а к ветру плеча́м.* Ручаёўка. △ *Закрыцца ачыма-плячы́ма.* Устраніцца, адвярнуцца. *О-о, децей мне кінулі, а самі закрылісь ачыма-плечы́ма.* Дзяражычы.

ПЛЕ'ШКА *ж.* Частка цыбуліны, зрэзаная зверху. *Гледі ж харашэ атразай плешкі знізу і саді галоўку уверх атрэзаным.* Казярогі.

ПЛЕ'ШЧАЦЦА: *не куецца, а плешчацца.* Атрымліваецца не так, як хочацца. *У цебе, мабыць, усё не куецца, а плешчацца.* Дзяражычы.

ПЛО'ЖАЦЬ *незак.* Пладзіцца. *Не, у цебе свінне плóжаць і будуць плóжаць.* Чаплін.

ПЛО'СКУНЬ *ж.* Маніцы. *Сначала урываюць с канапель плóскунь, а конóплі аберуць пазней.* Ручаёўка.

ПЛО'ТНЫ *прым.* Тоўсты, дзябёлы. *Ена ж была такая дохлая, а ён хлопец плóтны.* Дзяражычы.

ПЛО'ХА *прысл.* Дрэнна, кепска. *От малака як неўдосталь, дак і плóха.* Дзяражычы. *Вот і плóха: як буде прасцекаць, дак буде сухая капуста.* Ручаёўка.

ПЛО'ХІ *прым.* 1. Дрэнны. *Чым Анця плóхая баба: чыстая, хорóшая, прыстойная жэншчына.* Ручаёўка. *Калісь і русалкі булі, і паказуваліся ішчэ людзі плóхіе.* Дзяражычы. *Бук наш плóхі: децей коле.* Чаплін. 2. Разбэшчаны. *Каця плóхая дейка: когó толькі ена не прымала к сабе.* Дзяражычы.

ПЛО'ША *прысл.* Горш. *Ішло сорак мышэй, неслі сорак грашэй, две мышкі плóша неслі па два гроша* (Загадка). Чаплін.

ПЛУГА'ТАР *м.* Араты. *Плугáтарам робóтае, палучыў пшэніцы.* Дзяражычы. *Два плугі, тры плугáтары булі.* Казярогі.

ПЛЫ'ГАМ: *плы́гам ляцéць.* Хутка ісці. *Ены самі плы́гам лецéлі, не узялі ні хлеба, нічога.* Ручаёўка.

ПЛЫ'ГАЦЬ *незак.* Скакаць. *Будеш вучыцца лёччыцаю: не баісся плы́гаць.* Бывалькі. *Ее лаві, а ена плы́гае на цебе.* Дзяражычы.

ПЛЫ'ГНУЦЬ *зак.* Скокнуць. *Ён плы́гнуў на тое вокнó.* Бывалькі. *П'яны як плы́гнуў, як семнаццаць годóў.* Дзяражычы. *Свіння як плы́гнула, так прама у яму.* Казярогі. *Кто первы плы́гне?* Ручаёўка.

ПЛЮ'СА *ж.* Грыб, падобны на сыраежку. *Мы берым плю́сы, ета такіе грыбы.* Бывалькі.

ПЛЮСНА' *ж.* Ступня. *Я пасекла усю плюснý секерай.* Дзяражычы.

ПЛЮШО'ЎКІ *мн.* Дробныя грыбы, падобныя да зялёнак, па колеру цёмна-чарнільныя. *Плюшóўкі растуць уво-*

*сень, ены такіе, як і зялёнкі, толькі цёмненькіе.* Казярогі.

ПЛЯЦЁНКА *ж.* 1. Вянок сплеценай цыбулі. *Цалюсенькую плецёнку цыбулі продала, а грошай небагацька.* Ручаёўка. 2. Звязаны кручком ланцужок. *Звяжаш плецёнку, а тады стоўбікі делаеш на ёй.* Чаплін.

ПЛЯША'НКА *ж.* Каністра для газы. *Вазьмі плеша́нку да прынесі карасіну.* Дзяражычы.

ПЛЯ'ШКА *ж.* 1. Бутэлька. *Пустые яшчыкі з пустымі пля́шкамі.* Вулкан. *Узела шэсць пля́шак, да каўбас, да сцягно.* Дзяражычы. 2. Шкло да лямпы. *Пачысці пля́шку да надень на лампу.* Мохаў. *Запалі лампу.— Де тая пля́шка, шчо учора купіла?* Дзяражычы. *Памянш.* пля́шачка. *Пля́шачку віна возьме.* Первамайск. *Дам табе пля́шачку гарэлкі і іді.* Ручаёўка.

ПЛЯШЫ'НА *ж.* Плеш. *Насенне узела у падчарыцы, пасеелі, дак узышло пагана: плешы́н багата, мо жыта прыпрэла.* Дзяражычы.

ПНУ'ЦЦА *незак.* Сердаваць, злавацца. *Матка падала блінцы і кажа: еж, мой сынок, з богам, а ён злуе на матку да пнёцца: мне сомо́му мала.* Дзяражычы.

ПНУЦЬ *зак.* Пхнуць, штурхнуць. *Я й цебе пну, чого́ ты ка мне лезеш.* Пярэдзелка.

ПО'БАЦНА *ж.* Ніжняя частка драбін. *По́бацну трэба паладіць, а то усё пагубляеш, што на возе.* Пярэдзелка.

ПО'ДБІЎКА *ж.* 1. Падкладка. *Перыны — як адіялы шыюць, а не — сусім з сукна выччэ, да пашые удвое, унізе по́дбійка, да так і укута́лісь.* Дзяражычы. 2. Вузкая істужка, што падкладаецца ўнізе спадніцы, плаццяя. *По́дбійка, падкладка — ета усерайно: такая падкладаецца тоненькая поло́ска.* Пярэдзелка. *Рубец у свіці, а по́дбійка падкладаецца другім.* Чаплін.

ПО'ДКІПЕНЬ *м.* Памылка пры снаванні красён. *По́дкіпень — блізна́ такая. Не так укіне у берда, не дабачае, вот ён іде по́дкіпень той.* Ручаёўка.

ПО'ДКЛАДНЯ *ж.* Падваротніца. *По́дкладню мы кладем пад воро́ты, каб куры не збеглі.* Пярэдзелка.

ПО'ДМУР *м.* Фундамент. *Пад хату по́дмур давалі. Мы ужэ падвелі по́дмур пад хлеў.* Дзяражычы. *А цепер у дамох кладуць кірпічны по́дмур.* Чаплін.

ПО'ДСВІНАК *м.* Падсвінак. *Моло́е называецца парася, а большы — по́дсвінак.* Дзяражычы.

ПОД'ТРУС *м.* Трусяня, малы трусік. *Лена з пóдтрусам бегае.* Ручаёўка.

ПО'ДТЫЧКА *ж.* Надточная частка падала з іншага матэрыялу ў кашулі. *Пóдтычку прышывала крапчэйшую за верх, а ужэ падралась.* Чаплін.

ПО'ЗНА: *не рáна-пóзна.* Калі-небудзь, але абавязкова. *Не рана-позна она к вам прыде.* Ручаёўка.

ПО'ЗНЕНЬКА *прысл.* Вельмі позна. *Ты сама себе у славу уводіш, што пóзненька да не раненька па вечорках гуляць ходіш* (З нар. песні). Дзяражычы. *У гаёчку пóзненька гуляла.* Карпаўка.

ПО'КРЫЎКА *ж.* Накрыўка. *Накрый пóкрыўкай кайструлю.* Ручаёўка.

ПО'КРЫШКА *ж.* Накрыўка. *Накрываюць пóкрышкай горшчóк. Пóкрышкі нача брылькі.* Пярэдзелка.

ПО'КУЛЯ *прысл.* Пакуль. *Пóкуля прыстроюсь, кончу струб, тады буду аддыхаць.* Карпаўка. *Цебе ждаць, пóкуля ты прыдеш, дак можна самой тры разы схадіць.* Чаплін.

ПОЛ *м.* 1. Падлога. *Прышла пол мыць.* Бывалькі. *Я сам пол наклаў шчэ у сорак восьмам гаду.* Ручаёўка. 2. Палок з дошак, на якім спалі ў сялянскай хаце. *Калісь пол буў з дошчак, там усе спалі: і деці, і бацька, і матка.* Дзяражычы. *Калісь булі палы́. Услон паўз сцену паставіць, а тады другі, а наверх доскі — во ета пол.* Пярэдзелка.

ПО'ЛАГ *м.* 1. Рэдкае даматканае палатно, якім накрываюць люльку з дзіцем ад мух. *Апусці пóлаг, а то ужэ мухі лётаюць, разбудяць хлопчыка.* Пярэдзелка. 2. Шырокае палатно. *Мая баба, шчэ як жывая була, наткала пóлагу, дак і мне і маім децям хопіць на век.* Гарадок.

ПО'ЛІЎКА: *у пóліўку.* Палітая чым-небудзь ежа. *Каша ў поліўку — каша з малаком. Давайце мы кашу накалупаем у міску, наллём малака і будам есць у пóліўку.* Дзяражычы.

ПО'ЛКА[1] *ж.* 1. Полка. *Пашыла спадніцу с трох пóлак.* Бывалькі. *Андарак калісь шылі у чатыры пóлкі.* Первамайск. 2. Пялёнка. *Пóлкі делаюць з байкі, ены тады такіе м'якенькіе.* Ручаёўка. 3. Посцілка, коўдра саматканая. *Адінарнае роднó — пóлка, а две пóлкі шшыць — перына.* Пярэдзелка. *Вон пасцель, там сцелі пасцель, там роднó, падушкі лежаць, пóлка. Пóлкаю*

*закрый пасцель.* Дзяражычы. *Полкі у нас цепер не ткуць а у Мохаві ткуць іх ешчэ і цепер.* Пярэдзелка.

ПО'ЛКА[2] *ж.* 1. Палок у лазні. *Лезь на полку парыцца.* Ручаёўка. *Залазь на полку да венікам біцца будем.* Чаплін. 2. Насціл, на якім сушаць віку, гарох і інш. *Вунь у мене полкі прама на вуліцы, штоб на сонцы сушылісь.* Чаплін.

ПО'ЛКА[3] *ж.* Праполка. *Добра, што для полкі кортопель небагата, штоб я рабіла адна.* Дзяражычы.

ПО'МАЧ *ж.* Дапамога. *Кого толькі матка ні звала, не було помачы.* Дзяражычы.//Пенсія. *Цепер старым луччай жыць стала: помач даюць.* Ручаёўка.

ПО'ПАЎЗКІ *прысл.* Паўзком. *Попаўзкі і паўцекалі усе.* Дзяражычы. *Мы падкапалі ў хлеве да попаўзкі, попаўзкі у жыта да лежалі да самага вечара, а тады у лес.* Ручаёўка.

ПО'ПЛАЎ *м.* Смецце, нанесенае паводкай. *Вада прывае, а потым атходіць, астаўляе палкі, смецце, дак кажуць: ета поплаў напрыбівала.* Крупейкі.

ПО'РАННЕ *н.* Работа на гаспадарцы. *Запонка у нас ле порання, а хвартух — на светы день.* Казярогі. *Не знае ні хлеба спекці, ніякага порання.* Ручаёўка.

ПО'РАЦЦА *незак.* Займацца хатняй гаспадаркай. *Ужэ трэба у лес бегці, а я ешчэ не поралась.* Ручаёўка. *Пораемся, а жыта на печы ссохла.* Чаплін. *Ішчэ сегодні не поралась, трэба скарэй додому іці.* Ручаёўка.

ПО'РГАБ *м.* Пограб, склеп. *У поргаб усе пастаўлееш.* Дзяражычы. *Ета у іх там порграб, над порграбам сарай. Пайду у порграб, наберу гуркоў.* Карпаўка. *Па лесвіцы у порграб спусціішся, а там у мене холадна, харашэ усе храніць.* Чаплін. *Як у Казіміраўцы жылі, дак і порграб буў, а як сюды пераехалі, дак нема.* Пярэдзелка.

ПО'РКАЦЦА *незак.* Ухаджацца (па гаспадарцы). *У дерэўні ж так: поркаесся, поркаесся, а работы менш не становіцца.* Пярэдзелка.

ПО'РСТКІ *прым.* Жвавы, быстры, рэзвы. *Наш кабанчык жа такі порсткі.* Дзяражычы.

ПО'РЧАНЫ *прым.* Сапсаваны. *А хто ж порчаным насеннем сее: што пасееш, то і пажнеш.* Дзяражычы.

ПОСЛІ *прыназ.* Пасля. *Послі лоеўськага нашага ручаёўськага паспутайце.* Ручаёўка. *Послі вайны замуж пашла.* Чаплін.

ПО'СНЫ *прым.* 1. Посны. *Надаеў той посны борщ,*

*гаршчок ужэ грыбамі ваніць.* Карпаўка. 2. *перан.* Худы. *На ее вудумалі пóсна Ходора.* Ручаёўка.

ПО'СЮЛЬ *прысл.* Дасюль. *Уцета пóсюль рукі баляць.* Первамайск. *Давай пóсюль скосім, а заўтра кончым увесь.* Ручаёўка.

ПОТ: *пóтам сыйці.* Пацець у час хваробы. *Я знаю, як я лежала малерыяй, бувала пóтам сыйду, так пот лле, а тады палуччала.* Дзяражычы.

ПО'ТАПТАМ *прысл.* Нацянькі, па шкодзе. *Пайшлі коні пóтаптам.* Пярэдзелка. *Пабегла пóтаптам за целём.* Чаплін.

ПО'ТЫЧ *прысл.* Потырч. *Сковараду держала, а сама як упала пóтыч.* Дзяражычы. *А ена пóтыч упала, дак разбіла і нос і губы.* Бывалькі.

ПО'ЎЗА *ж.* Карысць. *Як паеде ат мене, тады міне ніякай пóўзы не буде, нехай луччай жыве у мене.* Чаплін.

ПО'ЎЗІКАМ *прысл.* Паўзком. *Пóўзікам поўз, да прышоў к сем'е домóў.* Бывалькі.

ПО'ЎНАЧЫ *прысл.* У цемры. *Нехай ена сама унесе, я пóўначы у чулане не бачу.* Дзяражычы. *Пóўначы не відна нічога.* Мохаў.

ПО'ЎНІГО'ДНЫ *прым.* Ніводны. *Пóўнігóднага грыба не узела.* Бывалькі.

ПО'ЎНЫ *прым.* 1. Поўны, напоўнены да берагоў. *Насыпала поўны рукайчык семечак і зерня.* Дзяражычы. *Девачка мая, напаі каня з рубленага колóдезя з пóўнага ведра* (3 нар. песні). Первамайск. *Я наліла пóўны кушын гарэлкі.* Ручаёўка.//Які ўмясціў у сябе шмат чаго-небудзь. *Шчэ ж его усе тутака: і плацце, і сорóчкі, і штаны, і чобаты, і зелеза пóўны двор.* Дзяражычы. *К ёй сабіраецца пóўная хата, па семнаццаць ці па шаснаццаць як нашаткуецца баб.* Пярэдзелка. *Заўчора уся пóўная стада хаділа па кортóшкі.* Ручаёўка. *Памянш.* пóўненечкі. *Нарабіў сморадy пóўненечкі двор.* Дзяражычы. 2. Поўны, тоўсты. *Я чыстая да расправілась да пóўная, дак прышла даіць коровы, дак як ото зеркала: такая хорóшая стала. Деўкаю була тоненькая, а цепер такая хорóшая, пóўная.* Дзяражычы. *Ён прыехаў худенечкі, а цепер каб вы зірнулі — хорóшы мужчына, хто сюда не прыеде, хорóшы зделаецца, пóўны.* Чаплін.//Добраякасны (аб насенні). *Шчэ летась узела у лайцы насення, а ено добрае, удалося пóўнае.* Казярогі. *Мо сорт такі: унутры*

*пусты гурок, а насенне по́ўнае.* Ручаёўка. *Еслі ено вузрала, то по́ўнае.* Чаплін. *Памянш.* по́ўненечачкі, по́ўненькі. *Девачка такая по́ўненечичкая стала.* Бывалькі. *Вецер жа краску абганяе, як бы ціхенька, дак добра, було б зерно добрае, по́ўненькае.* Дзяражычы.

ПО'ЎНЯЕ: *пад по́ўняе.* Поўня, поўная фаза месяца. *У тое васкрасенне сама пад поўняе.* Ручаёўка. *Пад по́ўняе сеюць жыта.* Чаплін.

ПО'ЎРАЗКА *ж.* Завязка ў хвартусе. *Хвартух заўязуецца трапачкамі, старэйшые казалі — по́ўразкі.* Пярэдзелка.

ПО'ЎРАЗЫ *мн.* Петлі для гузікаў. *А у нас етые петлі і по́ўразамі називаюць.* Ручаёўка.

ПО'ЎТАРКА *ж.* Кусок матэрыялу, які ўшываецца ў рукаў. *У рукаў ушываецца пад ніз по́ўтарка, штоб буў шыршы рукаў.* Пярэдзелка.

ПО'ХМЕЛКІ *мн.* Пахмелка. *На другі день хрэзьбін тады ужэ по́хмелкі, пахмеляюцца, гарэлку п'юць.* Ручаёўка.

ПО'ЦІТАК *м.* Рэшата. *Еечкі берыце у по́цітку. По́цітак — ета рэшата.* Ручаёўка.

ПО'ЧАПАК *м.* Почапка. *І цягне кайстру з по́чапкам.* Дзяражычы.

ПОЧКІ[1] *мн.* Ныркі. *Не дай бог застудіш по́чкі, дак усю жысць будеш мучыцца.* Пярэдзелка. *Ага, по́чкі, а ныркі не гово́раць.* Ручаёўка.

ПО'ЧКІ[2] *мн.* Сорт бульбы. *Раньша булі по́чкі — корто́плі, ены белые, гладкіе, длінные, ні адной ні ямачкі, нічога.* Первамайск.

ПО'ШВА *ж.* Від шва. *Шыеш по́шваю.* Пярэдзелка. *По́шву падшыеш да й пошо́ў.* Чаплін.

ПО'ШЫБЕНЬ *м.* Палка, кій. *Я вот табе пакажу, кінь по́шыбень, а то зачэпіш Надьку.* Дзяражычы.

ПРА'БАБА, ПРАБА'БА *ж.* Прабабка. *Ена бо мне пра́баба — дедава матка.* Пярэдзелка. *Вот ужэ калі у нашай Галкі деці будуць, то я буду праба́бай, а Стась — прадедам.* Ручаёўка. *Пра́бабу му называем бабай.* Чаплін.

ПРАБЕ'ГЦІ *зак.* 1. Прабегчы. *Можна было б луччай прабе́гці нашым хлопцам.* Бывалькі. 2. Хутка мінуць. *Там русалная неделя да ужэ й Петроўка, дай лета прабе́гла.* Дзяражычы. *Прабе́г май — і не пабачылі его.* Пярэдзелка.

ПРАБРО́ДЗІЦЬ *зак.* Перайсці брод. *Цяжка іці у сапагах, а прабро́діць жа нада.* Дзяражычы.

ПРАБЫВА́ЦЬ *незак.* Пражываць. *Апанасіха у Лоеві прабува́е, у дачкі жыве, я ніколі ее не бачу.* Бывалькі.

ПРАВЕ́ДЫВАЦЬ *незак.* Даведвацца. *Я бачыла аленя. Ён подхо́дій к хлевам, праве́дувай, мо тут лес.* Дзяражычы.

ПРА́ВЕК: *з ве́ку пра́веку.* Спрадвечна, заўсёды. *З ве́ку пра́веку тут жылі: і деды нашы, і прадеды.* Чаплін.

ПРА́ВІЦЦА [1] *незак.* Адпраўляць службу (у царкве). *Там у Любечы у хаці пра́вяцца.— Хто пра́віць?— Мо бацюшка, ці хто, не ведаем.* Дзяражычы.

ПРА́ВІЦЦА [2] *незак.* Спраўджвацца. *У неделю сон толькі да абеда пра́віцца.* Дзяражычы.

ПРА́ВІЦЬ [1] *незак.* 1. Правіць, кіраваць. *Нашы правіцелі добра пра́вяць.* Бывалькі. 2. Папраўляць, выпраўляць памылкі. *Ці ж я табе магу пра́віць, што ты напісала, я сама толькі буквы знаю.* Чаплін. 3. Святкаваць, адзначаць святы. *Хіба ж у вас празнікі не пра́вяць?* Ручаёўка. *Цепер нічога не пра́вяць, едяць і сала і м'яса круглы год.* Дзяражычы. *Міхайлу у нас не пра́вяць.* Чаплін. 4. Спраўляць памінкі. *А жонка ужэ пахароны пра́віла.* Дзяражычы. *Саракавіны буду пра́віці.* Ручаёўка. 5. Служыць, адпраўляць. *Була вутрань і вечэрня, бацюшка пра́вій.* Бывалькі.

ПРА́ВІЦЬ [2] *незак.* Спаганяць, збіраць (налог). *Мне цепер уміраць не трэба: ноло́гу не пра́вяць, выйду, выцегнуся на сонейку дай лежу.* Бывалькі.

ПРАВІ́ШЧЛІВЫ *прым.* Віскл іvы, пранізлівы. *Кабан такі правішчлівы буй, пака вучысціла.* Дзяражычы. *Тваё свінне скрозь правішчлівые.* Бывалькі.

ПРАВЯЛІ́КІ *прым.* Найвялікшы. *Гора правелікае у мене случылась.* Дзяражычы.

ПРАВЯРНА́ЦЦА *незак.* Бываць, праходзіць. *У вас столькі кожды день праверна́ецца!* Дзяражычы.

ПРА́ГА *ж.* Спражка. *Пра́га на папругі.* Бывалькі. *Я купій рэмень с такой красівай пра́гай, машына на ёй.* Пярэдзелка.

ПРАГАНЯ́ЦЬ *незак.* 1. Праганяць. *Сегодні прагна́ла сваю коро́ву у поле.* Чаплін. 2. Запіваць. *Налі малака, у сенцах на стале стаіць, да прагання́й кашу.* Ручаёўка. *Я скрозь ці водо́й ці молоко́м праганяю кашу.* Чаплін.

ПРАДАБРЭ́ННЫ *прым.* Вельмі добры. *Коро́вы булі*

*прадабрэнные*. Дзяражычы. *Прадабрэнны хлопец*. Ручаёўка.

ПРАДЗЕ'ЛКІ: *прадзёлкі прадзёлуваць*. Махлярнічаць. *Ён жа багата прадёлкі прадёлуваў, калі роботаў у магазіне*. Чаплін.

ПРАДО'ЎГА *прысл*. Вельмі доўга. *Я забудусь, дак прадоўга думаю ім'я: далі, як нелюді,— Артул*. Бывалькі.

ПРАДУКТ: *хадзіць ля прадуктаў*. Працаваць у прадмагу. *Ена ле прадуктаў ходіць, дак кожды день сабе можа усе купіць*. Ручаёўка.

ПРАЖА'ЛКА *прысл*. Гаротна. *Да пражалка так вучылісь, да гарують, да нехай бы пажылі, детачкі*. Дзяражычы.

ПРАЖАНУ'ЦЬ *зак*. Прагнаць (смагу, голад). *Дадуць хлеба, пражаніце смагу*. Дзяражычы. *Ідом з ягад, дак так доўга п'ем воду, пака пражанам смагу*. Крупейкі.

ПРАЖА'ТЫ *дзеепрым*. Зжаты. *У іх ужэ пражатае поле*. Бывалькі.

ПРА'ЖКА *ж*. Спражка. *Іш, як пражка бліщчыць*. Ручаёўка. *Красівая у цебе пражка*. Чаплін.

ПРА'ЖНЫ: *пражная навойка*. Навой, на які навіваюць ніткі асновы. *На пражную новойку накачуюць і скачуюць пражу*. Дзяражычы.

ПРАЖО'РНЫ *прым*. Пражэрлівы. *У мене два кабаны, дак большы такі прожорны*. Ручаёўка.

ПРАЗАЛІ'ЦЬ *зак*. Пажлукціць (бялізну). *Ена плацце прозоліць, мост сатрэ*. Дзяражычы. *На той неделі сабіраюсь плацце празаліць*. Крупейкі.

ПРАЗАРЫ'ТЫ *прым*. Вельмі разумны. *Екая ена празарытая*. Дзяражычы. *У Просі девачкі такіе празарытые*. Цясны.

ПРАЙЦІ *зак*. 1. Прайсці. *Лазы, вады было — нельга прайці*. Вулкан. *У нас леташні год прайшла два разы заліва, дак картоплі цегалі з гразі*. Дзяражычы. 2. Мінуць. *Вучылася я у цехнікуме, аж тут мая матка памерла, так і прайшла мая вучоба*. Пярэдзелка. *Касацая пройде, дак прыде*. Ручаёўка. 3. Зменшыцца, кончыцца. *Ужэ молоко прайшло, улетку молоко, а цепер нічога нема*. Дзяражычы. △ *Прайці ручку*. Зрабіць пракос, пракасіць. *Я ужэ ручку прайшоў: покос атышоў адін, а ты другі іді*. Пярэдзелка.

ПРАК: *ад пракy веку*. Здаўна, спрадвечна. *Ат праку веку на бычку нельзя удержацца*. Дзяражычы.

ПРАКАВЕ'ТАШНІ *прым.* Стары, даўні. *Прынеслі той лён трапаць, а ён пракавѐташні.* Пярэдзелка. *Пракавѐташные ігрушы у подо́лі.* Ручаёўка.

ПРАКАЎТНУ'ЦЬ *зак.* Праглынуць. *Божачка мой, кабан цэлага каменя пракаўтнуў.* Ручаёўка. *Пракаўтну́ў і чуць не падавіўся.* Пярэдзелка.

ПРАКРАСІВЫ *прым.* Вельмі красівы. *Мае сёстры луччые булі за мене: такіе ўдалые — красівые, пракрасівые, а я не такая ўдалая, я і маладая була неўдалая.* Дзяражычы.

ПРА́МА [1] *прысл.* Прама. *Пойдеш пра́ма да самай доро́жачкі, а тады звернеш направа, там ягаднік і буде.* Карпаўка. *Во де ле маста, пра́ма, іді.* Чаплін.

ПРА́МА [2] *часц.* Проста. *Другі раз рукі заколо́цяцца, пра́ма абамлеваю.* Дзяражычы. *У грудях хлепешча, хлепешча, пра́ма хванталам іде кроў.* Ручаёўка. *Пра́ма умірала, спаць хацела.* Чаплін.

ПРАМО'ЧКА *ж.* Прамакатка. *Падай мне тую прамо́чку.* Дзяражычы. *Прамо́чка —-ета у нас на прамакашку гово́раць.* Бывалькі.

ПРА'НІК [1] *м.* Пранік. *Пра́нік у нас кажуць, ён такі дераўяны з ручкай.* Ручаёўка. *Пра́нікам б'юць па голо́ўках лёну, і сем'я высыпаецца.* Чаплін.

ПРА'НІК [2] *м.* Пернік. *Спечы пра́нікаў з медам заўтра.* Ручаёўка. *Томка, спасіба табе, стольні пра́нікаў ты мне прывезла.* Пярэдзелка.

ПРАНО'ЗАВАТЫ *прым.* 1. Праворны. *Уедная, проно́заватая Таніна меншая деўка.* Дзяражычы. 2. Пранырлівы. *Такі ён проно́заваты: усюды усего даб'ецца.* Дзяражычы. *Яе бацька буў проно́заваты, і ена такая: ужэ у Гомлі жыве, палучыла кварціру.* Карпаўка.

ПРАНЦАВА'ТЫ *прым.* Непаслухмяны, шкодны. *А корова́ мая була пранцава́тая: усе горо́ды аббегае, ведро выб'е, як доіш.* Пярэдзелка.

ПРАПЫ'ШНЫ *прым.* Вельмі пышны. *Ой, гордая да прапы́шная свашачка мая* (З нар. песні). Пярэдзелка.

ПРА'РАЗКА *ж.* Прарэзка. *Матка паделала пра́разкі у штанах такімі малымі, што не зашпыліць гузікаў.* Пярэдзелка.

ПРАРАЗУ'МНЫ *прым.* Вельмі разумны. *Матка була разумная праразу́мная.* Ручаёўка.

ПРАРА'МАК *м.* 1. Вузкая палоска лесу, зямлі. *А тут кінам прара́мак паміж дамамі.* Пярэдзелка. *У том пра-*

*ра́мку найшла п'яць грыбоў.* Ручаёўка. 2. Правал. *Пра́рамак — правал у глыб землі.* Пярэдзелка. *На лугу ле ракі прара́мкі пабіла.* Бывалькі.

ПРАРУМЯ'НІЦЬ *зак.* Працерці, прачысціць. *О трохі вокна прарумя́ніла.* Ручаёўка. *Прарумя́ніць можна чобаты. Прарумя́ніць, працерці — усеадно.* Дзяражычы.

ПРАСВЕ'ТЛАСЦЬ *ж.* Радасць, уцеха. *Я за ім не бачыла прасве́тласці, усе сама рабіла: і касіла, і арала, і сеела.* Дзяражычы.

ПРАСІ'ЦЬ: *прасіць про́зьбай.* Вельмі прасіць. *У мене старые коро́вы, дак про́зьбай прашу́, усяк угаварую, дак можна падаіць, стаяць.* Дзяражычы.

ПРАСЛА'ЦЬ *зак.* Пракласці. *Рад прасла́ў кірпічоў, толі палажыў.* Дзяражычы.

ПРАСО'Л *м.* Засол. *Гром убіў кабана, дак его абсмалілі. Думала Варка, шчо хто возьме, а ніхто не узяў, дак ена сала пасаліла, а м'яса у просо́л.* Ручаёўка.

ПРАСТАВАЛО'СЫ *прым.* Без галаўнога ўбору, з распушчанымі валасамі. *Цепер усе ходяць праставало́сые: і маладые, і старые.* Бывалькі. *Магарыч буде і кусок сала, бо у мае жынкі чапца не стала, і кусок сала, і мерка проса, бо ходіць жынка праставало́са.* Карпаўка.

ПРАСТА'К *м.* 1. Дурань. *Праста́к ты, нада было іці зімнікам.* Пярэдзелка. 2. Неахайны. *Ена уэела у сестры перадецца, а ён хадіў такі гразны — праста́к, дай годі.* Ручаёўка.

ПРАСТАКАВА'ТЫ *прым.* Праставаты, ніякаваты. *Не гадіцца ён туды, на тую работу — прастакава́ты.* Пярэдзелка.

ПРАСТАРЧА'КА *ж.* Корч, карчажына. *Повен лес прастарча́к, усе ногі пазбівай.* Пярэдзелка.

ПРАСТАРЭ'ЛЫ *прым.* Састарэлы, стары. *У нас такіх прастарэ́лых, як я, ужэ саўсім небагацька.* Дзяражычы. *Як ты прастарэ́лы, дак цяжка хадіць, пагана.* Крупейкі. △ *Прастарэ́лы дом.* Дом для прэстарэлых. *Як пастарэю, дак пайду у прастарэ́лы дом дай буду век дажываць.* Бывалькі.

ПРАСТО'ЯЦЬ *зак.* Прастаяць. *Просто́ела, дак не адна, а там скольki міру.* Дзяражычы. *Два дні трактар просто́еў.* Рудня Марымонава.

ПРАСТРА'НАК *м.* Адлегласць. *Такі дожч ліў: увесь простра́нак між да Лоева і Мохава пазалівай, паналівай крыніцы.* Пярэдзелка.

ПРАСТРО'ЧЫЦЬ *зак.* Пратэрмінаваць. *Прострóчылі аддаць грошы, дак нарасла пенія.* Пярэдзелка.

ПРАСЦЕ'ЙШЫ *прым.* Непрагны, нескупы. *Алеся і цепер старца не подóрыць, а другая невестка прасцéйшая: пойде у Мілажын, прынесе ад бацька і маткі яблачак ці чогó і дасць свекру і свекрусі.* Дзяражычы. *Вот екая ена жадная, а Каця трошкі луччая, прасцéйшая: моўчкі ат ее дасць.* Крупейкі.

ПРАСЦЭ' *н.* Проса. *Змалачу прасцэ заўтра.* Ручаёўка. *Прасцэ добрае уроділа на навіне.* Чаплін.

ПРАСЦЯ'К *м.* Просты, шчыры чалавек. *Пагаварыў з намі, такі ён прасцяк, хорóшы чалавек.* Пярэдзелка.

ПРАСЦЯКА'ЦЬ *зак.* Працякаць, цячы. *Вот і плоха: буде прасцекáць дежка, дак буде сухая капуста.* Дзяражычы.

ПРАСЯ'НКА *ж.* Прасяная салома. *Прасянку трэба на гору пакласці, а то у стагу мышы паедяць.* Ручаёўка.

ПРАТЫРЧА'КА *ж.* Палка, якая тырчыць з зямлі. *Капалі кортóплі, дак Алеся на пратырчáку ногу прабіла.* Ручаёўка.

ПРАЎДАЛЕ'ННЫ *прым.* Вельмі ўдалы. *Такіе ж деці праўдалéнные, да хорóшые, да разумные.* Дзяражычы.

ПРАЎДА'ЛЫ *прым.* Удалы. *Праўдáлы молóдчык, нема праўдачкі у цебе* (З нар. песні). Пярэдзелка.

ПРА'ЎНУКА *ж.* Праўнучка. *Сеголета у мене раділася прáўнука — Людачка.* Ручаёўка.

ПРАЎРА'ЖЫ *прым.* Нядобразычлівы, злаславы. *Гаварылі праўрáжые людзі: іді, деўка, замуж, добра табе буде* (З нар. песні). Дзяражычы.

ПРАЎЦА'К: *на праўцакá браць.* Пра стан непрытомнасці. *І вада була блізка, а его на праўцакá берэ.* Ручаёўка.

ПРАЎЦАКО'М *прысл.* Стаяком. *От ногі пасталі праўцакóм, а хаділа я калісь хуценька.* Мохаў.

ПРАХ *м.* Гніллё. *Хата—то усе прах, ена чуць стаіць.* Пярэдзелка.

ПРАХАДЗІ'ЦЬ *зак.* Правучыцца. *Чараз войну мы ее і не давучылі, девяць годóў ена прахаділа, і пачалася вайна.* Карпаўка.

ПРАХАЛАДА'ЦЬ *зак.* Астыць, ахаладзець. *Я паскідала усю адежу, шчоб чорóн трохі прахаладáў.* Дзяражычы.

ПРАХАРАШЭ′ *прысл*. Вельмі добра. *Пеюць прахарашэ́, так бы век і слухаў*. Бывалькі.

ПРАХЛА′ДНЕЙ *прысл*. Халаднавата. *Адчыні вакно, хоць прахла́дней буде*. Дзяражычы.

ПРАХУ′ТКА *прысл*. Вельмі хутка. *Калі ж ему усе некалі і некалі, а калі забежыць, дак так прахýтка хватаіцца*. Дзяражычы.

ПРАЦЕ′ГЦІСЯ *зак*. 1. Працягнуцца, прадоўжыцца. *Ета неделя мне так працёглася, чуць даждалася выхадного*. Ручаёўка. 2. *перан*. Правучыцца як-небудзь. *Ён ото десяць класаў працёгся кой-як, а цепер ніде не вучыцца*. Ручаёўка.

ПРАЦІВАГА′ЗІЯ *ж*. Імунітэт. *У етых старых парасят працівага́зія паеўляецца, дак ены не хварэюць*. Дзяражычы.

ПРАЦІ′ЎНА *прысл*. Агідна, брыдка. *Аж моро́з па кожы сыпле, так праціўна абіраць жукоў*. Ручаёўка.

ПРАЧ *м*. Пранік. *У нас кажуць і прач, і пранік*. Казярогі.

ПРАЧУХА′НЕЦ: *усыпаць прачуха́нца*. Пабіць крэпка. *Ой, усыпала мне матка добрага прачуха́нца*. Дзяражычы.

ПРАЧЫ′НЕТЫ *дзеепрым*. Адчынены. *Сенцы прачы́нетые, дверы прачы́нетые хатніе, усе куры у хату убеглі*. Бывалькі.

ПРАШКВА′ПІЦЦА *зак*. Прапусціць, упусціць. *Хоць де і прашква́піцца, дак усероўна потым нацягне свае*. Дзяражычы. *Прашква́пілась я, можна було такіе моткі купіць*. Крупейкі.

ПРАШТУ′КЛІВЫ *прым*. Жартаўлівы, здольны на выдумкі. *Матка ее була праштýклівая, смешная да паразумная*. Ручаёўка.

ПРАЯ′СЛІВЫ *прым*. Абжорлівы. *Буў хлопец, не усе дома у галаве, да сільна прая́слівы, усе паедаў*. Пярэдзелка.

ПРОБ *м*. Проба. *З пшэнічнай мукі на проб спеклі блінчыкаў, хоро́шая мука*. Ручаёўка.

ПРО′ДАЦЦА *незак*. Прадавацца. *У нашым магазіне про́даліcь багата плашчоў*. Дзяражычы. *У Чапліне про́даюцца такіе смашные яблакі, трэба було купіць пуды два*. Пярэдзелка.

ПРО′ДАЦЬ *незак*. Прадаваць. *Мы не про́даем, не купляем, а так і жывом*. Дзяражычы. *У етага тры вуллі*

*ці две — еты не прóдае.* Пярэдзелка. *Не прóдаць трэба масла, да літраў чатыры натапіці.* Ручаёўка.

ПРО'РАЗКА *ж.* Прарэзка. *Прóразкі трэба абкідаць да і готóва сорочка.* Ручаёўка. *Прóразкі цяжка рабіць, не каждая можа зделаць.* Мохаў. *Две прóразкі прарэжуцца, зацягуецца шнурок — ета зáсцеганка.* Дзяражычы.

ПРО'РАСТ *м.* Прарошчанае збожжа. *А ты саберы на печы прóраст, нада змолóць.* Казярогі.

ПРО'РВА[1] *ж.* Новае рэчышча, прамытае ракой. *Прóрва — де праpве новае русло, то называецца прóрва, старое тады называюць старык.* Пярэдзелка. *Ле школы такая прóрва велікая. Там парк стаіць, дак ена ужэ не адну алею з'ела.* Пярэдзелка.

ПРО'РВА[2] *ж.* Мноства. *У мене децей прóрва цэлая.* Пярэдзелка. *Па п'яць кабаноў карміць, ета ж трэба накарміць такую прóрву.* Пярэдзелка.

ПРО'СЕСЦЬ *ж.* Палатно, сатканае за адзін прыём. *За неделю саткала усего две прóсесці палатна — і некалі.* Пярэдзелка.

ПРО'СТКА *ж.* Месца, прамытае і залітае вадой. *Рэка прарэзала раўчак, а тады зделалась як возера — прóстка.* Дзяражычы. *Каліcь була прóстка, а цепер ее ужэ засыпала.* Крупейкі.

ПРО'ЦІ *прыназ.* 1. Супраць. *Прóці нас ждала машына.* Бывалькі. *Бачу, стаіць прóці мене сабака.* Карпаўка. 2. Перад. *Заўтра прóці неделі буде болей людей на машыну.* Дзяражычы.

ПРЫБА'ННІК *м.* Прылазнік. *Баня бальшая, больши і прыбáннік. Ета як да бані.* Ручаёўка. *Раздевайсь у прыбáнніку да іді у баню. Прыделачак такі е каля бані, дак прыбáннік называецца.* Чаплін.

ПРЫБАНТЫ'ЖЫЦЬ *зак. груб.* Прыцегці, прынесці. *Сама прышла, шчэ й діця прыбантыжыла на свадьбу.* Дзяражычы.

ПРЫБЕ'ГАЦЬ: *прыбéгаць нóгі.* Стаміцца бегаючы. *У Юлікавай Валі узела кордóпляў, дак ена нóгі прыбéгала, скарэй хацела, каб я аддала.* Дзяражычы. *Была нóгі прыбéгала, пакуль у лесніцтве вупісалі лесу.* Ручаёўка.

ПРЫБЕРАЖЫ'ЦЬ *зак.* Прыберагчы, захаваць. *Я паглееела на солóму да і кажу: як бы ее к весне прыбережыў, дак было б корóві на весну.* Дзяражычы.

ПРЫБЛУДЗІ'ЦЦА *зак.* 1. Прыблудзіцца (пра жывёлу). *У нашу чэраду прыблудiлáсь с тогó канца цёлка.* Бывалькі. 2. *перан.* Прыйсці, натрапіць. *Цэлы день хадiла у лесу, а тады усё-такі прыблудiлась я к бітаму шляшку дай вышла аж к Мáлажыну.* Вулкан.

ПРЫБО'РЫ *мн.* 1. Уборы, адзеванне. *Адна деўка вышай усіх, на прыбóры крашай ўсіх* (З прыпеўкі). Чаплін. 2. Абсталяванне, мэбля. *Цепер у дерэўні у усіх прыбóры у домóх.* Дзяражычы.

ПРЫБРА'НАСЦІ *мн.* Убранне. *Хадiце ка мне да несiце свае прыбрáнасцi.* Ручаёўка.

ПРЫ'БЫЛЬ *ж.* 1. Прыбытак. *О-о, я баба вушлая: тые еечкi да прыхаранiла, дак так добра цепер. Еечка — ета ж прыбуль.* Дзяражычы. *Нема прыбулi, адiн убутак.* Вулкан. 2. Паводка, разводдзе. *Прыбуль — разлiўная вада. Возера з ракi выходзiць на прыбуль.* Дзяражычы. *Па велiкай прыбулi рыбы налавiлi.* Бывалькі.

ПРЫБЫЛЬНЫ': *прыбыльнáя вадá.* Паводка. *Адiн раз такая була прыбыльнáя вадá: да самых пескоў усе затапiла.* Дзяражычы.

ПРЫБЫЎНЫ': *прыбыўнáя вада.* Паводка. *Вадá прыбыўнáя була весною.* Дзяражычы.

ПРЫВАЛАЧЫ'ЦЦА *зак. зневаж.* Прывалачыцца, прыйсці. *Адкуль прывалачыўся да к нам, да такi урэдны чалавек.* Ручаёўка. *Прыблуда прывалачыўся, а ена прынела его, дак цепер не перакаiцца.* Карпаўка.

ПРЫВА'РАК *м.* Заправа. *Што мне рабiць, нема нiякага прывáрку — баршчу i то нема з чым зварыць: адны кордóплi да капуста.* Ручаёўка.

ПРЫВЕ'ТНЫ *прым.* Ветлівы. *Ена прывéтная, прыветлiвая, с усiмi поговóрыць.* Дзяражычы. *Такiе людi прывéтные да гаманкiе.* Ручаёўка. *Дак i баба ее прывéтная.* Казярогі.

ПРЫВЕ'ЦІЦЬ *зак.* Лагодна сустрэць, даць прытулак. *Матка да бацька скупые: нi разу нi прывéцяць, нi абгомóняць. Каб прывéцiлi, можа б i запiсалiсь.* Дзяражычы. *Я ж iх усiх прывéчу, як прыедуць ка мне.* Чаплін.

ПРЫ'ВЯЗКА *ж.* Прычапка. *Ты на прыказкi, як чорт на прывязкi.* Вулкан.

ПРЫГАЛАСІ'ЦЬ *зак.* Пагаласіць. *Хто умрэ, дак ена прытужыць да прыголóсiць. Ена прыголóсiць, калi i не свой памрэ.* Дзяражычы.

ПРЫ'ГАРШНІ *мн.* Прыгаршчы. *Кольки нi пi, а пры-*

*гаршнямі вады не nan'ecся.* Чаплін. *Набраў поўные прыгаршні вады.* Ручаёўка.

ПРЫ'ГАРШЧ *ж.* Прыгаршчы. *Прыгаршч у кожнага чалавека свая: у кого большая, у кого меншая.* Дзяражычы. *Што ты прыгаршч падставіла, я багата сыпаць не буду.* Пярэдзелка.

ПРЫГЛА'ДЗІЦЬ *зак.* Папрасаваць. *Я думала ету кохтачку прыгла́діць, а ена пад летнікам добра буде.* Дзяражычы.

ПРЫГЛЯДА'ЦЦА *незак.* 1. Прыглядацца. *Доўга Коля прыгледа́ўся к Наді, покуль-такі узяў.* Вулкан. 2. Звяртаць увагу. *Хоць і воўна, абы кішка поўна — не прыгледа́йся, што не смашна, паеў абы-што.* Дзяражычы.

ПРЫГЛЯ'ДНЫ *прым.* Прывабны. *Прыберэцца, дак нача і девачка прыгля́дная.* Дзяражычы.

ПРЫГО'ДА *ж.* 1. Няшчасце. *Штоб ее прыго́да паймала.* Дзяражычы. *Шоб вас прыго́да пабрала.* Бывалькі. *Нехай іх прыго́да паберэ: нішчаі — ета п'яніцы.* Казярогі. 2. Ужыв. у знач. неазн. займ. *Уздумайце ешчэ екую песню.— Прыго́да его і паўздумоўвае.* Дзяражычы.— *Де ваш аграном?— Прыго́да его знае, не знаю.* Бывалькі.

ПРЫГРЫМЕ'ЦЬ *зак. неадабр.* Прыехаць. *Мо заўтра ён прыгрыміць.* Дзяражычы.

ПРЫГРЭ'БНІК *м.* Склеп. *Сарай его загарэўся, а тут прыгрэбнік буў пад акном, агонь перакінуўся на его.* Бывалькі.

ПРЫГРЭ'БНЯ *ж.* Насціл над склепам. *Прыгрэ́бню зделай, штоб у порга̀б не лілася вада.* Казярогі.

ПРЫ'ДАНАЕ *н.* Пасаг. *Берэ шкахву, чатыры падушкі, пакрывала, рушнікі — і ета прыданае.* Казярогі. *Цепер і без прыданага беруць, а раней жа дачка толькі раділась, а ёй ужэ прыданае гатуюць.* Ручаёўка.

ПРЫДА'ЦЦА *зак.* Удацца. *А ён такі хоро́шы кабанчык прыда́ўся.* Бывалькі. *Штоб прыдала́ся капуста, дак было б добра.— Як харашэ зробіш, дак і прыда́сца харашэ.* Дзяражычы.

ПРЫДЗЕ'ЛАК *м.* Прыбудова (да хаты, хлява). *У нас цесные хлеву, нада прыдёлак ізделаць.* Ручаёўка. *Памянш.* прыдзе́лачак. *Сенечкі — маленькі прыде́лачак.* Пярэдзелка.

ПРЫДЗЕ'ЛАЧКА *ж.* Прыбудова. *А мы так ужэ: де прыде́лачку прыделаем, а то у хлеву ставім пчол на зіму.* Ручаёўка.

ПРЫДЖГА'ЦЬ *зак.* Прыйсці хутка, прыбегчы. *Не паспелі мы павернуцца, як ены прыджгáлі з лесу.* Дзяражычы.

ПРЫДО'БСТВА *н.* Зручнасць, выгада. *Чаму ж не жыць: усе прыдóбства зараз.* Ручаёўка.

ПРЫДО'ХНУЦЦА *зак.* Прытухнуць. *Прыдóхнулася м'яса, трэба скарэй расходуваць, заванела.* Дзяражычы. *Вот закрыла банку, дак ена і прыдóхнецца.* Бывалькі.

ПРЫДУМО'ЎВАЦЬ *незак.* Прыдумваць. *Людзі жывые, дак прыдумóўваюць што-небудь, да зубкамі, да смешкамі.* Дзяражычы.

ПРЫДУ'ХА *ж.* Незамерзлае месца на рацэ, куды збіраецца рыба. *Нема часу, у лузе прыдýха, трэба скарэй бегці лавіць рыбу.* Казярогі. *Летась була прыдýха, дак столькі рыбы нацегалі.* Пярэдзелка.

ПРЫДУШКА'ЦЬ *зак.* Захутаць усяго. *Я цебе так прыдушкáю, як ты свогó дзіцяці — не паверніссся.* Дзяражычы.

ПРЫЁМ *м.* Прыстанішча, прыстанак. *То мая родная маці прылецела ік прыёму сына выручаці.— Вы пусціце мойгó сына з прыёма додóму* (З нар. песні). Чаплін.

ПРЫЁМНЫ *прым.* 1. Ветлівы. *У мене вучыцель на кваццеры да такі просты, прыёмны.* Дзяражычы. 2. Удзячны. *Ета Прося прыёмная такая, ена ж вас хоча бачыць, вы ж ее так прывецілі у Гомлі.* Дзяражычы.

ПРЫЖАНУ'ЦЬ *зак.* Прыгнаць. *Не зверэ́дісся ты, як прыжóніш корóву.* Ручаёўка.

ПРЫЖУРЫ'ЦЦА *зак.* Зажурыцца, засмуціцца. *Ты ж маладая, а я старая, да не здолею, да прыжурылась па етых хлопцах, да хазяін умер і дачка памерла.* Дзяражычы.

ПРЫЖУРЫ'ЦЬ *зак.* Прымусіць засумаваць. *То так ее прыжурыла дачка.* Бывалькі.

ПРЫЖУ'ЧЫЦЬ *зак.* Пакараць. *Паймалі хлопца у яблаках — і прыжýчылі.* Пярэдзелка.

ПРЫЗАБЫ'ЦЬ *зак.* Пазабываць. *З чужой поговóрыш — усе прызабýдеш* (З нар. песні). Ручаёўка.

ПРЫ'ЗАЎ *м.* Прызыў (у армію). *Брат ажаніўся да прызаву.* Бывалькі.

ПРЫ'ЗВА *ж.* Прызба. *Нада прызвы паабкідаць нанава, а то за лета паабсорувалі.* Ручаёўка.

ПРЫЗВА'ЦЬ *зак.* Выклікаць, запатрабаваць да сябе.

*А гора ее ведае, нашто ена іх прызва́ла, там бы ены жылі пад первае.* Дзяражычы.

ПРЫЗЕ'ЛЛІЦЬ *зак.* Напаіць зеллем, зачараваць. *Мо чарадейка, дак прызе́лліла, не буде і трогаць і біцца: зеллем напаіла.* Дзяражычы.

ПРЫЗНУШЧА'ЦЬ *незак.* Прымушаць. *Свекруха мая хоро́шая була, дак ена мене не прызнушча́ла к етай робо́ці: мы удвох і ткалі, і пралі.* Дзяражычы. *Мая матка і сыноў і дачок прызнушча́ла к робо́ці, дак усе умеюць делаці.* Крупейкі.

ПРЫІСТО'БАШНІК *м.* Прыбудова да істопкі. *У нас у істобку не набіваецца: мы зделалі прыісто́башнік.* Ручаёўка.

ПРЫКА'Л *м.* Прыкол. *На прыка́л беруць целя.* Пярэдзелка. *Коро́ва атарвалась с прыка́ла.* Ручаёўка. *Лета просто́ела на поваді на прыка́лі.* Дзяражычы.

ПРЫКАРА'СКАЦЦА *зак.* Прыстаць, прычапіцца. *Чого́ ты прыкара́скалась к ему?* Бывалькі. *Ены прыкара́скаліcь, шчо ета за чалавек.* Дзяражычы.

ПРЫКАРЫ'ЦЦА *зак.* Пакарыцца. *Усюды павалачылася, да прышла назад, да й прыкары́лася ім, а цепер жывуць добра.* Дзяражычы.

ПРЫКАСЦЮ'МІЦЦА *зак.* Прыадзецца, прыбрацца. *Прыкасцю́міўся трохі, як параб҆отаў у соўхо́зі.* Бывалькі.

ПРЫКІДА'ЦЦА *зак.* 1. Трапляцца, пападацца. *Усякіе грыбу прыкіда́юцца у нашым лесі.* Ручаёўка. 2. Прызнаваць сваяцкія сувязі, роднасць. *Як хоро́шая тая жонка его, да буде прыкіда́цца к нам, да робо́тацць, дак хай і жывуць.* Дзяражычы. *Хіба б небогі ка мне прыкіда́ліся, калі б я не давала: і мукі, і корто́плі, і сала — усе давала.* Ручаёўка. 3. Спрыяць, ставіцца з прыхільнасцю. *Е такіе людзі, шчо ена і не пее, і не гомоніць, і не прыкіда́ецца ні к кому.* Дзяражычы. *Усе людзі к ему прыкіда́ліcь: па весне хлеба не було — к ему прыходілі.* Казярогі. *Девачка ка мне прыкіда́ецца, дак я дам ей і хлеба, і малака.* Чаплін.

ПРЫКІ'НУЦЬ *зак.* 1. Падкінуць. *Прыкінула дачушка діцятка, дак я усю восень праседела з ім.* Казярогі. 2. Прыараць, прырэзаць. *Прыкінам зого́нчык к етай баразне.* Дзяражычы.

ПРЫКЛАДА'ЦЬ *незак.* 1. Прыкладаць. *Леташні год мучылась, чым не прыклада́ла к назе.* Ручаёўка. 2. Пры-

ціскаць, прыгнятаць. *Каменем не прыкладáюць капусту сперва: хай жа горасць вуходіць.* Дзяражычы.

ПРЫКЛЕ'ТНІК *м.* Прыбудова. *Прыклéтнік у мене бальшы буў, там і дрова лежалі.* Чаплін.

ПРЫ'КЛЮЧКА *ж.* Прыгода. *Ліха прыключкі шукае* (Прыказка). Бывалькі.

ПРЫКЛЮЧЫ'ЦЦА *зак.* Здарыцца. *Хорóшаму чалавеку трэба прыключыцца балезні.* Дзяражычы.

ПРЫКРА'ЦЦА *зак.* Падкрасціся. *Прыкрáўся да брызк на морду.* Дзяражычы. *Калі прыкрáдецца да лясь па галаве.* Крупейкі. *Трэба ж ему так прыкрáцца — нічога не чула.* Бывалькі.

ПРЫКРЫ'К *м.* Крык, лямант: *Я давай с прыкрыкам на его, дак ён чуць не у слёзы.* Дзяражычы.

ПРЫКРЫ'ЦЬ *зак.* Апрануць, адзець. *А послі ж вайны німа нічога ні прыкрыці, ні абапнуці. Сын адтуль-адсюль і прыкрыў мене: рубашачку даў.* Бывалькі.

ПРЫКУКО'БІЦЬ *зак.* Прыбраць, прывесці ў парадак. *Прыкукóбіла усе у хаці, дак к ёй і прышла невестка.* Дзяражычы.

ПРЫКУСІ'ЦЬ *зак.* 1. Паесці. *Васіль, ты ж прыкýсуй сала.* Дзяражычы. *Пагуляй, нехай прыкýсіць, тады пойдам.* Казярогі. 2. Закусіць. *Я дам ему вупіць і прыкусíць. Ты ж, Машка, прыкусі да шчэ вупі.* Дзяражычы.

ПРЫКУ'СЫ *мн.* Пярэднія зубы. *Ты прыкýсамі кусай.* Ручаёўка.

ПРЫКУ'ТАЦЬ *зак.* 1. Закрыць. *Сахар прыкýтаем, шоб дошч не замачыў.* Дзяражычы. *Я вазьму да ту дірку прыкýтаю.* Ручаёўка.//Загарадзіць. *Я вазьму да прыкýтаю горóдчык.* Ручаёўка. 2. Прымусіць. *Калі прыкýталі его, дак ён: мы будем асваівацъ зэмлю.* Дзяражычы.

ПРЫЛАБУ'НІЦЦА *зак.* Прысуседзіцца, прысесці. *Цесна за столом, а шчэ і я к вам прылабýнілась.* Бывалькі.

ПРЫЛАМАЦЬ: *прыламáць языкá.* Навучыцца гаварыць. *Як бы жыў ле гóрада да езыкá прыламáў, дак і гаварыў бы не так, як у Деражычах.* Дзяражычы.

ПРЫЛІВА'ЦЬ *незак.* Настойваць. *Ён прылівáе сабе такіе буталі ностóйкі.* Пярэдзелка.

ПРЫЛІ'ВАЧКА *ж.* Падліўка. *Па-гарадскому называюць пюро шчэ з прылíвачкай.* Вулкан.

ПРЫЛІ'ТЫ *деепрым.* Заліты. *То ж блін лежыць такі смашны, ён сметанай прылíты.* Бывалькі.

ПРЫЛІ'ЦЬ *зак.* Заліць. *Пап'ячэш каклеты, да у чугунчык, да прыллёш тукам.* Дзяражычы.

ПРЫЛІ'ЧНЫ *прым.* 1. Прыстойны. *Анця — красівая, прылічная жэншчына.* Ручаёўка. 2. Дзябёлы, мажны. *Прылічны чалавек — такі круглы, тоўсты.* Дзяражычы.

ПРЫМА'НКА *ж.* 1. Прынада. *На прыманку рыба добра берэцца.* Карпаўка. *Прыманку з сахару делаюць і кормяць пчол.* Чаплін. 2. Прыстасаванне для ўтрымання рою. *Прыманка у нас говорацъ на етую шапку, што я павешу на дерава. Ручаёўка.*

ПРЫ'МАЎКА *ж.* Нагавор, заклінанне. *Забалеў чалавек: ох, мо прымайка е, чого ж ён захварэў.* Дзяражычы. *Калісь як прымайка, дак баба поговорыць і бытта поможа.* Ручаёўка.

ПРЫМА'ЦЬ *незак.* Браць мужа ў сям'ю жонкі. *Мая дачка на мене жалкуе: чэраз цебе, чэраз цебе я баялась прымаць, а цепер адной трэба буде жыць.* Дзяражычы.

ПРЫМЕ'ТА *ж.* Прыкмета. *Ластаўкі летаюць нізка над землею — прымета к дажджу.* Ручаёўка.

ПРЫМУСО'ЎКА *ж.* 1. Пакаранне. *Віця прымусоўку адбывае, на два годы асуділі его.* Дзяражычы. 2. Месца, куды ссылаюць. *Хіба ж ета дерэўня, ета ж прымусоўка: у нашу дерэўню можна пасылаць тых, хто правініўся. Пагледіце, екіе дерэўні кругом — любата адна!* Ручаёўка.

ПРЫ'МУХІ *мн.* 1. Прымхі. *Іді, цётка, прымухі пашэпчы.* Дзяражычы. 2. Жарты. *Вудумуюць, да прымухі говорацъ, да вішчаць.* Чаплін.

ПРЫМЯНЯ'ЦЦА *незак.* 1. Прымяняцца. *Применяюцца новые машыны.* Ручаёўка. 2. Прыцэньвацца.— *Почом у вас сала?— Як да сала: і тры рублі, і два піісят. Я і у Лоеві прыменялася, дак так.* Дзяражычы. 3. Улічваць. *За грошы будуць даваць, ну будуць жа прыменяцца к трудадням.* Дзяражычы.

ПРЫНА'ДЗІЦЦА *зак.* Унадзіцца. *Прынаділіся сорокі — адбою нема, усю крышу павыцягувалі.* Ручаёўка.

ПРЫНЕВАЛЬНЯ'ЦЬ *незак.* Прымушаць. *Калісь усіх прыневальнялі богу маліцца.* Казярогі. *Матка і бацька прыневальнялі мене вучыцца, дак цепер так добра мне.* Мохаў.

ПРЫНУ'ДЗІЦЬ [1] *зак.* Прымусіць. *Еслі прынудіць, то і знай, што што-та палучыцца.* Первамайск.

ПРЫНУ'ДЗІЦЬ [2] *зак.* Занудзіцца, зажурыцца. *Шча-*

*вель ірву, на усю голаву па Івану плачу, так міне прынýділа.* Дзяражычы.

ПРЫНЯ'ЦЦА *зак.* 1. Прыняцца, прыжыцца (аб раслінах). *Капусту перасаділа, бачыце, добра прынелáся.* Цясны. *Мая уся расида прынелáсь.* Чаплін. 2. Пайсці ў прымы. *Ото тамака небож мой прыняўсь к ее дацэ.* Крупейкі. *А еты хлопец прыняўся да нашай настаўніцы.* Ручаёўка.

ПРЫПА'Р *м.* Папар. *Прыпáр — на зяб іли на пар воруць: на зіму воруць — на зяб, а у Петроўку воруць на жыта — пад пар. Усе ета прыпáр.* Бывалькі.

ПРЫПЕ'РЦІ *зак. груб.* Прынесці. *Стары чэраду пасе, дак цыганшчыны прыпрэ́ кайстры тры-чатыры кабаном.* Дзяражычы.

ПРЫ'ПЕЧАК *м.* 1. Прыпек. *Скавародка на прыпечку, беры, калі ена табе трэба.* Пярэдзелка. *На прыпечку стаіць малако у гаршку, дак як захочаш ссці, дак беры да еж.* Ручаёўка. *Атставіш тады суп на прыпечак, як закіпіць.* Чаплін. 2. Выступ. *Калісь капалі колóдезі глыбока, глыбока, делалі прыпечкаў чатыры. Дарма, як атваліцца адін прыпечак, дак тры астануцца. Як ле печы прыпечак, дак і там астаўляюць.* Дзяражычы.

ПРЫПЛА'НАК *м.* Дадатак да прысядзібнага ўчастка, які размешчан воддаль. *Пойдам на прыплáнак, там картóшка уся зарасла, не пройдеш па ёй.* Пярэдзелка.

ПРЫПО'РАЦЦА *зак.* Управіцца з гаспадаркай. *Я ужэ прыпóралась.* Дзяражычы. *Вот я зараз прыпóраюсь, тады сходім у магазін.* Карпаўка.

ПРЫПУЦІ'ЦЬ *зак.* Уладкаваць. *Прыпуціла сваю дачку, у Лоеві робóтае кушэркаю.* Бывалькі.//Забраць, прыбраць да рук. *Нехай ему толькі пападецца шчо чужое, дак ён скора прыпýціць.* Дзяражычы.

ПРЫПУ'ШЧУВАЦЬ *незак.* Дапускаць. *Трэба буде целяці прыпýшчуваць к корóві.* Ручаёўка. *Колецца корóва, не прыпýшчуе нікога.* Чаплін.

ПРЫПЯВА'ЙКА *ж.* Прыпеўка. *Ены скачуць да прывáйкі пеюць.* Дзяражычы.

ПРЫРАДЖЭ'НЕЦ *м.* Ураджэнец. *Ены жылі у Кіеві, а самі прырраджэ́нцы етай дерэўні.* Дзяражычы.

ПРЫРА'ІЦЬ *зак.* Параіць. *Ешчэ к таму прырáілі люді: іді замуж, добра табе буде* (З нар. песні). Ручаёўка.

ПРЫРА'МКІ *мн.* Палоскі, накладкі на плячах муж-

чынскай кашулі. *Прыра́мкі — на тум і на тум плечэ полóскі на рубашках. А у мужчын — нача цепер ходяць із погóнамі, а таᵈы прыра́мкі булі.* Ручаёўка.

ПРЫРО'ДНІЦА *ж.* Павітуха. *Сегодні ёй заказалі роды: іді, кажа дачка, гукні бабку-прырóдніцу. От тая прырóдніца прыишла, і ена скоранька раділа две дочары.* Казярогі.

ПРЫРО'ДНЫ *прым.* Мясцовы. *Умесці з ею з Дроздоў, му прырóдные.* Ручаёўка.

ПРЫСАДЗІ'БНЫ *прым.* Прысядзібны. *Прысадібны участак — дак ета ж у кожнага е, толькі я аᵈна — у мене меншы, у другіх — большы.* Чаплін.

ПРЫ'СКАЦЬ *незак.* Пырскаць, паліваць. *То ты ему не пры́скала молокóм, кабану, дак не узяўсь есць.* Дзяражычы. *Пры́скай да скарэй, сходім с тобой у грыбы.* Крупейкі.

ПРЫ'СКРАНЕК *м.* Прыскры́нак. *Там, у пры́скраньку, лежыць ключ ат шкахвы, дак вазьмі да аᵈчыні.* Ручаёўка.

ПРЫСМАЛІ'ЦЦА *зак.* Захацецца, зажадацца. *От усім прысмалілася вады.* Дзяражычы.

ПРЫСТА'ВІЦЬ *зак.* Паставіць у печ, зварыць. *На снеданне наварыць мне асобенна, у маленькім чыгунчыку прыста́віць — дак от екая була невестка.* Дзяражычы. *Я сегоднi прыста́віла кулеш з молокóм.* Ручаёўка.

ПРЫ'СТАЎКА *ж. перан.* Надакучлівы чалавек. *І тая пры́стаўка малая бежыць за імі.* Ручаёўка.

ПРЫСТАЎЛЯ'ЦЦА *незак.* Прыкідвацца, строіць з сябе п'янага. *Прыстаўля́ецца усе дед, хоча, каб его павелі.* Карпаўка.

ПРЫСТАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Варыць ежу. *Солóнікі на снеданне, а на абед шо прыстаўля́ць?* Дзяражычы.

ПРЫСТО'ЙНЫ *прым.* Добры, няпрагны. *Тая жонка була удаленная да пристóйная, а ета скупучая.* Дзяражычы.

ПРЫСТОЛЕ'НЫ *прым.* Застолены. *Чулан замкнуць да прыстóлены чулан, а ён усероўна украде з его. Прыстóлены — ета чулан са столлю.* Дзяражычы.

ПРЫСТО'НЬ *ж.* Прывязь. *Стаяць коні на прыстóні, не п'юць, не едяць, усе весела гледяць* (Загадка). Вулкан.

ПРЫСТО'ПНІК *м.* Кладоўка. *Вазьмі ведро там у*

*прыстóпніку, палі агарод.* Пярэдзелка. *Тамака у прыстóпніку стаіць карзіна, нарві трусам травы.* Чаплін.

ПРЫСТЫРКНУ'ЦЬ *зак.* Прымацаваць. *Палкай прыстыркнéш — і готóва.* Дзяражычы. *Прыстыркні ты хіця брыж, а то саўсім атарвеш.* Бывалькі.

ПРЫСЦІЛА'ЦЦА *незак.* Лажыцца пласт у пласт. *Вот ворыва харашэ прысцілáецца, як красіва гледець.* Дзяражычы.

ПРЫСЫ'ПАЦЬ: *усыпаць да прысыпаць.* Насварыцца. *Я ему так добра усыпаў да прысыпаў, што ён мо і сегодні шчэ помніць.* Чаплін.

ПРЫСЯГА'ЦЬ *незак.* Абяцаць. *Тая ж, кажуць, прысегáла Ганні, што на кваццеру зноў прыдзе.* Бывалькі.

ПРЫ'ТАЛАКА *ж.* Перакладзіна паміж вушакамі дзвярэй. *Прыталаку вельмі нізка у калідоры зрабіў, усе будуць іці і головóй стукацца.* Пярэдзелка.

ПРЫТАНО'ЖЫЦЬ *зак.* 1. Змарыць, стаміць. *От мене прытонóжылі тые деці. Ены ее прытонóжылі — деці ж: ена весной прыехала, дак була лучная.* Дзяражычы. 2. Надакучыць, абрыдзець. *Ты мене прытонóжыла са сваімі уборамі.* Бывалькі.

ПРЫТВО'РУВАЦЬ *незак.* Прытварацца. *Ена як конь здорóвая, то ена прытвóрує: невестка прыеде, дак ена рукі абверне латкамі і нічога не буде рабіць.* Дзяражычы.

ПРЫТУ'ГА *ж.* Гора, бяда. *Сыночак, мо табе екая прытýга буде.* Бывалькі. *Добрая прытýга прыйшла, шчо ён не мінуў мене.* Дзяражычы.

ПРЫТУЖЫ'ЦЬ *зак.* Пагараваць, патужыць. *Хто умрэ, дак ена прытýжыць да прыголосіць.* Дзяражычы.

ПРЫТУ'ЛА *м.* Прымак. *У прытýлы пошóў: свае бросіў большóе, а пошóў у маленькае.* Казярогі. *Прымака шчэ у нас прытýлам называюць.* Ручаёўка.

ПРЫТУЛІ'ЦЬ *зак.* Прычыніць, зачыніць. *Давайце бо прытуліце двер, а я зашчэплю.* Дзяражычы.

ПРЫТУ'ЛІШЧА *н.* Прытулак. *Прытýлішча саўсім не было б, еслі б ні сын.* Пярэдзелка.

ПРЫХА'ТАК *м.* Памяшканне, прыбудаванае к дому (трысцен). *Перва дом паставіў, а тады ужэ прыхáтак рабіў.* Ручаёўка.

ПРЫ'ЦЕМКУ *прысл.* Прыцемкам. *Па селу ходзяць, і ён пошóў прыцемку.* Ручаёўка. *Вельмі пагана хадзіць прыцемку: ні дорогі не відна, нічога.* Чаплін.

ПРЫЦІ′: *не даждáў ён прыці.* Нядобрае пажаданне ў адрас таго, каго чакаюць і губляюць надзею дачакацца. *Не даждáў ён прыці, штоб я усю ноч его ждала.* Бывалькі.

ПРЫЦЫБУ′ЛІЦЬ *зак. груб.* Выцяць. *Прыцыбýліў ёй бацька палкаю па рэбрах.* Дзяражычы.

ПРЫ′ЦЯЖКА *ж.* Клямка. *Дверы прыцяжкай закрываюць ці клямкай. Каму кажаш клямка, дак ены не знаюць, а от прыцяжка, дак знаюць.* Ручаёўка.

ПРЫЧА′ДЗЕЦЬ *зак.* Учадзець. *Трохі прычáдела, я грубы не зачыняла, а з печы дух пошóў.* Дзяражычы.

ПРЫЧО′ЛАК *м.* Закот (з саломы, дошак, шыферу). *З солóмы спускаецца прычóлак.* Бывалькі. *Прычóлак — крыша на вуліцу.* Казярогі.

ПРЫ′ЧТА *ж.* Прытча, дзіва. *Я скажу табе такую прычту, ты паслухай.* Бывалькі.

ПРЫЧХА′ЦЬ *зак.* Ледзь прыйсці. *Прычхáлі мы толькі вечарам у Радуль.* Ручаёўка.

ПРЫЧЫ′НА *ж.* 1. Прычына. *Выдумаюць прычыну і не возьмуць замуж.* Дзяражычы. 2. Няшчасце, бяда. *Ці чуў тую прычыну? Галькіна Маня ногу пакалечыла.* Первамайск. 3. Падучая хвароба. *Што б цебе прычына папам'яла.* Бывалькі. *Шоб цебе прычына паймала.* Дзяражычы//Пажаданне нядобрага. *Такога снегу, нехай его прычына возьме, вельмі ж багата.* Дзяражычы. *Нехай цебе прычына пачуе.* Чаплін.

ПРЫЧЫ′НЯТЫ *дзеепрым.* Зачынены. *Булі сенцы чуць прычынеты, дак сабака і вуцег коўбік.* Дзяражычы.

ПРЫЧЫ′РКВАЦЦА *незак.* Дакранацца. *Вон баба пайшла і к земле не прычырквaецца.* Дзяражычы.

ПРЫШТО′ПАЦЬ *зак.* Зацыраваць. *Трэба сесць вечарам да прыштóпаці.* Дзяражычы. *Учора усе сваe рыззе прыштóпала.* Бывалькі.

ПРЭГЦЬ *незак.* Смажыць. *А на чым ты кордóплі будеш прэгць?* Ручаёўка.

ПРЭ′ДКІ *мн.* Продкі. *А девачкі, я пра сваіх прэдкаў ужэ нічога і не ведаю.* Ручаёўка.

ПРЭ′ЖАНКА *ж.* Смажаная бульба. *Чыя то прэжанка стаіць? Хто ее прынес?* Первамайск. *Прэжанка са свежым м'ясам вельмі смачная.* Пярэдзелка.

ПРЭ′ЙДА *ж.* Прайдзісвет. *І што за хлопец расце, прэйда екаясь.* Пярэдзелка.

ПРЭ′НДАВАЦЬ *незак.* Паважаць. *Ета моладь ніко-*

*га цепер не прэндуе.* Дзяражычы. *Девачка нікога не прэндуе, хто ж ее буде любіць.* Ручаёўка.

ПРЫЮ'Т *м.* Дзіцячы дом. *Діцятка скітаецца, дак забралі у прыют.* Бывалькі. *У прыюці булі две девачкі нашы, бацька і матка памерлі, дак забралі у прыют.* Крупейкі.

ПРЫЮ'ТНЫ *прым.* Ветлівы. *Ото ж душа уродіцца: прыютная, да міленная, да красівенная.* Дзяражычы.

ПРЫЯВІ'ЦЦА *зак.* Спадабацца. *Плача грэшны чалавек, што короткі его век, плача а рыдае, што з грахамі паміpae: ні спасіўся, ні маліўся, чым я богу праявіўся* (З нар. песні). Бывалькі.

ПРЫЯ'ЦЬ *незак.* Спрыяць. *Ву міне усе хорошые, я ж вам роўна і прыяю. Кажу: штоб ты многа лет пражыў, я так ему прыяю.* Дзяражычы. *Ой ты, детачка, мне так не прыяеш, як Нінка.* Ручаёўка.

ПТАХ *м.* Птушка. *Лецеў птах чэраз дах, сеў на магілу: «Божа, мой божа, де мая сіла?»* (Загадка). Чаплін.

ПУ'ГА *ж.* 1. Пуга. *Сількані пугай, дак пабежыць быстрэй.* Чаплін. 2. Сцябло без лісцяў. *Де німа лісця, тые пугі зберы і спалі.* Казярогі.

ПУ'ДЛА: *даць пудла.* Моцна пабіць. *Ён як даў ей пудла, атлупашыў добра — набіў. Ой, біліся ены добра!* Дзяражычы.

ПУДО'ЎНЯ *ж.* Пуд. *Две пудоўні солі на сабе каліcь насіла.* Ручаёўка.

ПУЗЕ'НЬ *м. груб.* Жывот (вялікі). *Буде рэмень чэраз пузень.* Первамайск. *О-о такі пузень наеў за год.* Чаплін.

ПУК *м.* 1. Вязка лазы, дроў. *Прося насекла лазы п'яць пукоў, а я десяць.* Бывалькі. *Ты падымаеш пука, дак табе не урэдна.* Дзяражычы. *Звезала десяць пукоў дроў.— А велікіе пукі ты везала? — Да серэдніе, хорошые пукі. В'язанка у нас не говорацъ, а пукі.* Крупейкі. 2. Жменя зрэзанага пер'я цыбулі. *На траячку прадала цыбулі у неделю, було у мене двацацъ пукоў.* Казярогі.

ПУ'КАЦЬ *незак.* Іграць на скрыпцы, пальцамі перабіраючы струны. *Смычок адкіне і пукае.* Чаплін.

ПУЛЯНЁ *н.* Куранё. *Ужэ сёмае пуленё сорока украла.* Ручаёўка.

ПУЛЯНЁНАК *м.* Куранятка. *Накармі пуленят і загані у хлеў. Да гледі, адін пуленёнак астаецца скрозь.* Дзяражычы.

ПУЛЯНЯ′ *н.* Кураня. *Сорóкі у Цяснох усіх пуленя́т пакралі.* Дзяражычы. *Екоесь оцетае пуленя́ негодное: ні есць, ні п'е, дак, мабуць, скора здохне.* Ручаёўка. *У мене столькі пуленя́т навелось, шчо я не знаю, што і рабіць з імі. Тые ж пуленя́та начорта ены.* Чаплін.

ПУНТ *м.* Пункт. *На молочным пу́нці цоды узела.* Ручаёўка.

ПУ′НЬКА *ж.* Пуня. *Тачкі маленькіе у пу́ньцы паделаюць дай молóцяць.* Дзяражычы.*Хадіце у пу́ньку, я у ёй арэлю зделала.* Карпаўка. *У тые пу́нькі коні стаўлелі, у адной пу́ньцы буў каменны пол.* Крупейкі.

ПУ′ПАЛКА *ж.* Маленькі агурок, ад якога адпала кветка. *Ены ж етые гуркі пу́палкамі паелі. Ета ж деці.* Цясны.

ПУ′СТА *ж.* Нежылое памяшканне, пустата. *Там пуста і ваніць, мо і сегонні не тапіла печы.* Дзяражычы.

ПУСТАЛЬГА′ *ж.* Пусты, бязглузды чалавек. *Матка его пустальгá.* Дзяражычы.

ПУ′СТАШ *ж.* Пустка, незасеянае поле. *Трохі далі землі, а трохі де захвацілі на пу́сташы.* Дзяражычы. *У етым гаду усю пу́сташ пазасеелі.* Бывалькі.

ПУСТО′Е *у знач. наз.* Дрэннае ў паводзінах. *Слухалі свекрухі, скажа «Не іді» — і не йдеш; ена не хацела, шчоб ішлі у пустóе.* Дзяражычы.

ПУСТЫ′ *прым.* 1. Пусты, парожні. *Пусты́е яшчыкі с пусты́мі пляшкамі.* Дзяражычы.//Нішчымны. *Повен двор свіней було калісь — девяцера, а боршч пусты́, а цепер адно держыць і болей сала едяць.* Бывалькі. *Суп без сала значыць пусты́ суп.* Ручаёўка.//Нятлусты. *Летам па траве болей малака, дак яно пустóе, а цепер жырней.* Дзяражычы. *Молóчная корóва е і пустáя. У нас була корóва, дак усего два с палавінай процанты жырнасці.* Казярогі. 2. Неўрадлівы. *Пустóе поле, пустáя земля у нас. Калі б жа не пустая, дак мо рóділа б шчо.* Дзяражычы. 3. Нядобраякасны. *Пусты́м насеннем пасеяш — пустóе і буде.* Казярогі. *Калі не вузраюць гуркі, то насенне зелёнае, пустóе.* Ручаёўка. *Радіска пераседіць паложанае урэм'я — пустóю становіцца.* Цясны. 4. *перан.* Галодны. *Еты дед назаўтрага папаблеваў, бо ён жа пусты́ дед.* Дзяражычы. 5. *перан.* Легкадумны, беззмястоўны. *Прохаравіч самастаяцельны чалавек, а гэты пусты́, слухаць нема чогó.* Дзяражычы.

ПУСТЫ'НЯ *ж.* Неўрадліваe поле. *На пустыні нічогенька не расце, хоць убіся.* Ручаёўка.

ПУСЦЕ'ЧА *ж.* Распуста. *Я жыву без хазяіна і пусцёчай не занімаюсь.* Дзяражычы.

ПУСЦІ'ЦЦА *зак.* 1. Пабегчы (хутка). *Малое такое, а як пусцілася бегці, дак чуць дагнала.* Бывалькі. 2. Вырашыцца, адважыцца. *Каця не любіла гуляць деўкаю, а Паша пусцілася, дак нехай цепер слухае.* Дзяражычы.

ПУСЦІ'ЦЬ: *пусціць па сваёй галавé.* Падумаць. *От пусці па сваёй галавé ды разберыся толкам, тады і гавары.* Дзяражычы.

ПУСЦЯ'К: *на пусцякá.* Дарэмна. *Я горка так прарабіў усе лета і на пусцяка.* Дзяражычы.

ПУТНЫ' *прым.* Талковы, разумны. *Еслі ено путнóе, хазяйліваe, дак ено і у горадзі, і у дерэўні жыве.* Дзяражычы.

ПУ'ТЦА *н.* Гафтачка. *Пýтца робіш, шчоб закрэпіць кручок.* Дзяражычы. *Пýтца парвалася, вазьмі хоць зашпылі шпылькай.* Ручаёўка.

ПУХА' *ж.* Тупы канец яйка. *Дак як жа ты б'еш, пухá, канешне, быстрэй разаб'ецца.* Ручаёўка. *Стары ударыў еечка пухóю, дак я і выйграў.* Казярогі.

ПУХА'ТЫ *прым.* Пушысты. *Іч, екіе у цебе косы пухáтые да красівые.* Ручаёўка.

ПУХЛІ'НКА *ж.* 1. Пухліна. *Была маленькая пухлінка, а тады прыкінулася рожа.* Крупейкі. 2. Няроўнасць. *Пухлінкі на палатне касы.* Казярогі.

ПУ'ХНУЦЬ *зак.* 1. Пухнуць. *Пачарнеў палец у діцяці, стаў пýхнуць.* Чаплін. 2. *асудж.* Спаць без просыпу. *Іді будзі девак, хопіць ім пýхнуць.* Дзяражычы.

ПУ'ЦА *ж.* Морда, пыса. *Пýцаю мене талкае да ліжа.* Дзяражычы. *Пабач, екая красівенькая пýца у кошачкі.* Крупейкі.

ПУЦЦЁ *н.* Толк, карысць. *Німа робóты і пуццá німа — дошч іде.* Ручаёўка.

ПУЦЬ *ж.* Дарога, шлях. *Другой пуцёй пашлі.* Бывалькі. *Я учора ішоў без пуці, нема добрай пуці.* Казярогі.

ПУЦЬ *м.* Толк, розум. *Ізвёў з пуцá, а сам ажаніўся.* Бывалькі. *Без пуцá жыве, без пуцá усё делае.* Дзяражычы. *Ета к пуцю говóрыць. У его пуцём вышла.* Крупейкі. *Ні к пуцю, ні к парадку не прыб'ецца.* Первамайск.

ПУЦЯ'ЧЧЫ *прым.* Добры. *У ее пуцяччай адежы*

*нема, шчоб прыбралася, а толькі шчо людi даюць. Во ена екая.* Дзяражычы.

ПУЧО'К *м.* 1. Невялікая звязка чаго-небудзь. *Я два дні секла, дак трыццаць пучкóў насекла.* Дзяражычы. *Лыка драли у пучкі, тады етые пучкі вешалі, шчоб сохлі.* Ручаёўка. 2. Маток. *Восім пучкóў гарусу. На ярмалак, бувала, іду, дак гарусу лежаць пучкі.* Ручаёўка.

ПУ'ЧЧА *н.* Сцябло шчаўя з пучком. *На лузі пýчча нарву — вот і насенне, пасею у горóді шчавель.* Дзяражычы. *Ты, Арына, у луг пойдеш, наламі мне там пýчча шчаўлёвага, весной пасею.* Казярогі. *У нас кажуць: пошóў шчавель увесь у пýчча.* Ручаёўка.

ПУ'ШАЧКА *ж.* Скрыначка. *Што такое пýшачка? Дак ета баначка маленькая.* Дзяражычы. *Пýшачку крэму купіла у Лоеві.* Бывалькі.

ПУШО'Н *прым.* З прымессю вотруб'я. *Госці, мае госці, чогó вы седіце ды хлеба з соллю не есьце? Ці хлеб мой пушóн? Ці хазяін невесёл? Калі хлеб мой пушóн, дак я выпалую, калі хазяін невесёл, праўду вýпутаю* (З нар. песні). Ручаёўка.

ПУ'ШКА *ж.* Скрынка для рознай дробязі. *Мама, дай мне тую пýшку, што була мазь.* Казярогі.

ПУШЧА'Й *часц.* Няхай. *Пушчáй народ скажа.* Первамайск. *Пушчáй ён поговóрыць.* Чаплін.

ПУ'ШЫЦЬ *незак.* Апухаць. *Начало кругом пýшыць, нача водóй наліваць.* Дзяражычы.

ПЧАЛЯ'РНЯ *ж.* Пчальнік. *Пчалярня — места, куды зносяць вуллі на зіму.* Пярэдзелка. *Пчалярня добрая у мене.* Чаплін.

ПШАНІ'ЧНІШЧА *н.* Поле, на якім расла пшаніца. *На пшанíчнішчы пасеялі кордóплі.* Ручаёўка. *Онь пшанíчнішча, там збірайце каласкі.* Чаплін.

ПШАНІ'ЧНЫ *прым.* 1. Пшанічны. *Пшанíчные крупы цепер мала вараць.* Бывалькі. *Я спеку бувала хлеб, дак як пшанíчны: бухоненечачкі да смачны.* Дзяражычы. *Дак ета ж тые самые пшанíчные ладкі.* Чаплін. 2. *пераносн.* Поўны, здаровы. *Волóдя прышоў домóў, дак такі пшанíчны стаў.* Пярэдзелка.

ПШАНІ'ЧЫШЧА *н.* Поле, на якім расла пшаніца. *Пшанíчышча — ета зжатае поле пасля пшаніцы.* Первамайск.

ПШАНЧА'НКА *ж.* Проса. *Пасеяла удава пшанчáнку, дак будзе зіму варыць кашу з пшана.* Чаплін.

ПЫ'ЖМА *ж.* Піжма. *На ямі расла пыжма, мы ее сарвалі. Пыжма — ета палевая трава ад глістоў.* Пярэдзелка.

ПЫ'КА *ж.* 1. Морда. *Пыка і у вала е, і у сабакі.* Дзяражычы. 2. *груб.* Твар. *Ты чого пыку завернаеш ад мене, харашэ не говорыш.* Дзяражычы.

ПЫ'КАЦЬ *незак.* Гаварыць невыразна. *Захварэла крэпка Каця. А была кніжка, дак не сказала де: пыкала, пыкала — і не сказала, у мозкох штось перавернулась.* Дзяражычы.

ПЫЛЬ: *даць пылі.* Зрабіць мала. *От ужэ адно вувела, дак дала пылі, е чым гардіцца.* Дзяражычы. *Девачкі прыехалі капаць кортоплі, дак адна пашла у перчатках, усе смеюцца — вот ужэ дасць пылі.* Пярэдзелка.

ПЫЛЯ'КА *ж.* Пыл, гразь. *На печы пылякі столькі. Хоць із большага саберу пыляку, покоўзаю дай усе.* Дзяражычы. *Пыляка тая буде сабірацца на вокнах, цілівізеры.* Карпаўка.

ПЫРЭ'Й *м.* Пырнік, метлюжок. *Пырэй у городі расце де папала, у нас его вурвуць да вукінуць.* Казярогі. *На маіх картоплях столькі пыр'ю, што не знаю, як і звесці его.* Ручаёўка. *На городі пырэй ёсць, калі картошку полюць, мы свінням рвем пырэй.* Чаплін.

ПЫ'СА *ж. 1.* Морда. *Уся пыса у крыві, пуленя задраў і з'еў.* Казярогі. *У етага лося уся пыса была мокрая ад вады.* Чаплін. 2. *груб.* Твар. *Бувае, лузне па пысі, па голаві Іваньку.* Ручаёўка.

ПЫ'ХНУЦЬ *зак.* Хутка ўзняцца. *Я грабанула, аж пыляка як пыхнула.* Дзяражычы.

ПЫ'ЦА *ж.* 1. Морда. *Сам белы наш Шарык, а пыца чорненькая.* Дзяражычы. 2. *груб.* Твар. *Як бы ёй у пыцу даў, дак не лезла б к табе, седела б і слухала.* Казярогі.

ПЫ'ЧКА *ж.* Дзюба. *Ястраб за пычку цап, разадраў і з'еў.* Дзяражычы.

ПЯДЗЬ *ж.* Пядзя. *Калісь пядямі мералі снопочкі.* Ручаёўка.

ПЯКО'ЛАК *м.* Прыпечак. *Пяколак — месца, куды попел вуграбаюць. На пеколак пастаў чыгунок, дак ён скора нагрэецца, там жа шчэ гарачы попел.* Ручаёўка.

ПЯКО'ТА *ж.* Спёка, сухмень. *Екая сегодні пекота, спаліць усе.* Дзяражычы. *Ужэ цэлы месяц стаіць такая пекота, шчо на сонца не паказуйся.* Крупейкі.

П'Я'ЛЫ *мн.* Пяльцы. *Е і п'ялы у мене, вушываю на*

*п'ялах.* Дзяражычы. *П'ялы годо́ў десяць назад купіла, дак і цепер жывуць, так добра вушываць на іх.* Крупейкі.

П'ЯНЕ'ННЫ *прым.* Вельмі п'яны. *Міхайла такі п'яне́нны, што чуць дайшоў дадо́му. П'яне́нные ехалі, дак машына цернула да нагі і нема.* Дзяражычы.

ПЯНЁК *м.* 1. Пянчук. *Столькі пенько́ў аста́лася на горо́дзі, пазразалі тые де́раўцы, што раслі у нас.* Бывалькі. 2. Корань зуба. *Два зубочкі спераду, а то пенькі́, па боко́х е пенькі́.* Дзяражычы.

П'ЯНЮ'ГА *м.* і *ж.* П'янчуга. *Усе мае сыны хоро́шые, а адін п'е — п'яню́га.* Дзяражычы.

ПЯНЯ'ГА *ж.* Кавалак скуры. *Пад заднік закладаецца меншы кусочык — пеня́га.* Дзяражычы.

ПЯНЯ'ЦЬ *незак.* Крыўдзіцца, скардзіцца. *Еты хлопец буў добры, на его нельзя пеня́ць.* Дзяражычы.

ПЯРВА'К *м.* Першы рой. *Перва́к — самы хоро́шы рой.* Чаплін.

ПЯРВА'ЧКА *ж.* Карова, якая першы раз ацялілася. *А мая коро́ва перва́чка.* Дзяражычы. *Калі купіш перва́чку, дак не буде ні малака, ні масла.* Крупейкі. *Даярка кажа: я вазьму перва́чак, як у мене здоро́ўе буде везці.* Цясны. *Памянш.* перва́чачка. *Перва́чачку на базу завела: первы раз ацелілася і не дала малака.* Ручаёўка.

ПЯРГА' *ж.* Падкормка для маладых пчол. *Перго́й падкармліваюць мала́дых пчол.* Ручаёўка. *Пчолы збіраюць пергу́ для кармлення деткі.* Казярогі.

ПЯРКА'ЛЬ *м.* Паркаль. *Трэба узяць пе́ркалю на хвартух, бо той ужэ падраўся.* Ручаёўка.

ПЯРЫ'НА *ж.* 1. Пярына. *Насыпаецца з пер'я, длінная і спяць на ёй — ета і е пеpы́на.* Ручаёўка. *Штоб самой такую пеpы́ну, во мякка спаць бы було.* Чаплін. 2. Суконная тканая коўдра. *Рэдно́, да посцілкі, да суконная пеpы́на, із сукна вуткала братавая да пашыла. Пеpы́ну як адіяла шыюць на подбіўцы на палатне, ане сусім з сукна вуччэ да пашые удвое — да так і укуталісь.* Дзяражычы. *Еслі з шэрсці — ткуць посцілку ілі пеpы́ну. Пеpы́на — две полкі суконные, сшытые.* Пярэдзелка. *Із сукна ткалі у две стараны — пеpы́на.* Барэц.

ПЯРЭ'ВІТАК *м.* Пярэвітка. *Пе́рэвітак — сухая лаза, шчо пералаз аплетаюць. Загадае пе́рэвітак наламаць з сухога лазу і паліць завіць.* Дзяражычы.

ПЯРЭ'ГАРАДКА *ж.* Перагародка. *У серэдіні брус*

*лежыць — перэ́гарадка.* Дзяражычы. *Есцека у Івана у хаці перэ́гарадкі. У кого́ у хаці тры перэ́гарадкі, у кого́ две перэ́гарадкі.* Пярэдзелка.

ПЯРЭ′ДАЙКА *ж.* Перадойка. *Ялаўка не целілась і не доіцца, а перэда́йка — не целілась і доіцца.* Дзяражычы. *Перэ́дайка у мене тожа була, а тады ацелілася.* Чаплін.

ПЯРЭ′ДНІК *м.* Фартух. *Каля печы хадіць — перэ́днік ці запонка, а па празніках — хвартух.* Дзяражычы.

ПЯРЭ′ДНІЦА *ж.* Вяроўка, якой абматваюць воз спераду. *Вероўкай абмотуюць воз, напераді вероўка — перэ́дніца.* Вулкан.

ПЯРЭ′ЗВЫ *мн.* Паслявясельны абрад. *Калі перэ́звы, дак с аднае хаты ідуць у другую гуляць веселле. Ены теразываюцца.* Ручаёўка.

ПЯРЭ′КУЛІ *мн.* Від ткання. *У віленцы чатыры ніты накідала, а у перэ́кулі ужэ трудней.* Ручаёўка.

ПЯСО′ЧНЫ *прым.* Пясчаны. *Усадьба песо́чная, дак ужэ купілі шаснаццаць пудоў корто́шкі.* Дзяражычы.

ПЯ′СЦЕ *н.* Пясць. *Во ета места на руцэ называюць пя́сце.* Ручаёўка.

ПЯТА′: *пята́мі адбіць.* Хутка зрабіць. *Таня усе зделае, як пета́мі атаб'е́.* Дзяражычы.

ПЯ′ТКА *ж.* 1. Частка шарсцяной шкарпэткі. *У насках часцей праціраецца пя́тка: не намеісся штопаць.* Пярэдзелка. 2. Абух у сякеры. *А ззаду тапара дак п'ятка — ета задняя часць тапара.* Ручаёўка.

ПЯТНА′ЦЦАЦЕРА *ліч.* Пятнаццаць. *Було ж п'ятна́ццацера куранят, дак чэцвера тхор із'еў.* Первамайск.

ПЯТУ′Х *м.* Певень. *Узела пуленят, дак багата вурасла петухо́ў.* Чаплін. △ *Разбіцца ў петуха́.* Вычарпаць усе магчымасці, але без вынікаў. *Я кажу, шчо ты зробіш: ты ж разбіся у петуха́, а нічога не зробіш.* Дзяражычы.

ПЯТУ′ХА *ж.* Пяць шурак дроў. *У школу пету́ху дроў прывезлі да усе настаўнікам.* Ручаёўка.

ПЯ′ЦЕНКА *ж.* Пятніца. *Кудельку зделаеш сем хунтаў да за тыжджань шоб ее і спрасць да п'я́ценкі.* Дзяражычы. *Му з ею у п'я́ценку пашлі у Лоеў.* Ручаёўка. *Памянш.* пя́ценачка. *П'я́ценачка пройде, а там адін день дай недель̨ка.* Казярогі.

ПЯЦІСЦЕ′НАК *м.* Пяцісценка. *Мой сын сабе пяцісцёнак постро́іў.* Чаплін.

ПЯЦЬМО′ *н.* Пляма. *Пасадіў пецьмо́ на штаны.* Пярэдзелка.

ПЯЧО′НІКІ *мн.* Печаная бульба. *Оде будем есць печо́нікі.* Дзяражычы. *Печо́нікаў наедімся з росо́лам, да панапіваемся, да пашлі.* Карпаўка. *Етага діцяці печо́нікамі вукарміла.* Крупейкі. *А за пазухай у чуйцы печо́нікі.* Ручаёўка.

ПЯЧО′НКА: *уе́сца ў го́ркія пячо́нкі.* Надакучыць. *Уе́ўся ты мне у го́ркіе печо́нкі.* Ручаёўка.

ПЯЧО′НКІ *мн.* Запечаная кроў. *Кроў як пойде із рота, печо́нкамі хлепешча, як утэта з кабана!* Дзяражычы.

ПЯЧО′РКА *ж.* 1. Пячурка. *Я учорі у печо́рку іх пазатыкала. Там у той печо́рцы, як на базары — усего е.* Дзяражычы. *Трэба пакласці у печо́рку, а то к заўтраму не высахне.* Ручаёўка. 2. Зямлянка. *Хадем на сваe места і вукапаем печо́рку. Му у печо́рках жылі послі вайны.* Дзяражычы.

ПЯЧУ′РАЧКА *ж.* 1. Ніша ў сцяне печы. *Палажы у печу́рачку мокрые носо́чкі.* Ручаёўка. 2. Птушка пеначка. *Печура́чкі робяць гнёзды, як печачкі.* Бывалькі. *Печу́рачкі е у нас. Ены у землі капаюць ямачкі.* Дзяражычы.

ПЯЧЭ′НЯ [1] *ж.* Бульба, вараная ў вадзе, але не працэджаная, засмажаная салам з цыбуляй. *Печэ́ня — соло́нікі з юшкай.* Бывалькі. *Печэ́ня — корто́плі з юшкай. Мама, зделай на абед печэ́ню.* Первамайск.

ПЯЧЭ′НЯ [2] *ж.* Пячэнне. *Я учора з'ела тваю астаннюю печэ́ню, дак Прося крычала на мене.* Дзяражычы. *Вуносіла нам печэ́ні і компо́т давала.* Казярогі.

ПЯЧЭ′ННЕ *н.* Згустак крыві. *Кашляў, нагнуўся: кроў іде з носа, кроў іде ротам. Дохтар пагледеў: печэ́ннем падала.* Ручаёўка.

ПЯЮ′ХА *ж.* Спявачка. *Не, дарагенькая, не пеюха я, ні танцавала, ні пела, я не знаю, де барыня, де шо.* Карпаўка. *Ні пеюха, ні скакуха: де шчо граюці, танцуюці — не знаю.* Пярэдзелка.

# Р

РАБАЦЯ′КА *ж.* Працаўнік. *Маладцы бабы: і гарэлку п'юць, і гуляюць, і рабацякі.* Дзяражычы.

РАБЁНАК *м.* Дзіця. *Вася, Вася, жалею рабёнка.* Карпаўка. *Адна рэбёнкам памерла даўно.* Пярэдзелка. *Памянш.* рабёначак. *Ужэ раб'ёначак у ее е.* Дзяражычы.

РАБІ'НАВЫ: *рабінавая ноч.* Навальнічная ноч у канцы лета. *Я табе зделаю рабінаваю ноч, будеш ты мне помніць доўга.* Пярэдзелка.

РАБІ'ЦЬ *незак.* Рабіць, працаваць. *Пагнуся, дак нача п'яная, дак я на палку апнуся і раблю.* Бывалькі. *Машка у колхозі рóбіць.* Дзяражычы. *Рабілі не рабілі, ліш ба лусту уцерабілі.* Ручаёўка.

РА'БКІ *мн.* Рабізна, лёгкае хваляванне (воднай паверхні). *Сегодні такіе рáбкі на Днепрэ.* Пярэдзелка.

РАБО'ТА *ж.* Праца. *От вужань ты его на робóту.* Дзяражычы. *Екая харч, такая робóта.* Ручаёўка. △ *Вéсці рабóту.* Умець працаваць. *Любую робóту ена можа вéсці.* Дзяражычы. *Рабóта гарыць.* Справа не робіцца. *Я два часікі праседела, а робóта гарыць дома.* Дзяражычы.

РАБО'ТАЦЬ *незак.* 1. Працаваць. *Ена усе быстра робóтае, як венком.* Дзяражычы. *Цепер жа старым можна не робóтаці, не то, што раней.* Карпаўка. *Еж — пацей, робóтай — мерзні.* Крупейкі. *Робóтаў на крухмальным зовóді.* Ручаёўка. 2. Рабіць. *Пчолы воск рабóтаюць.* Мохаў. 3. Даглядаць. *Я робóтала і на целятах, і на курах, і на свіннях.* Дзяражычы. 4. Біцца. *Давалі уколы да расціралі, тады серца пачало робóтаць.* Бывалькі.

РАБУ'ШКА *ж.* Клін у пярэднім навоі. *У новóйцы нацягіч і рэбýшка.* Мохаў. *Колóчак устаўляецца ў дірачку, а у колóчак — рабýшку, а рабýшку прыстыркуе шчэ адін колóчак.* Дзяражычы.

РА'БЧЫК *м.* 1. Рабчык. *Рáбчык — ета лесная птушка, ена рабенькая уся.* Карпаўка. 2. Клін у заднім навоі. *Рáбчык або нацягніч — як ложка з дірачкамі — устаўляецца у навойку.* Карпаўка.

РА'БЧЫКІ *мн.* Бульба, зрэзаная з аднаго боку, каб заходзіла соль. *Рáбчыкі, ены смашнейшые за солóнікаў, бо соль заходіць. Рáбчыкі для парасяці вараць. Начысціла парасяці рáбчыкаў.* Дзяражычы. // Дрэнна ачышчаная бульба. *Ета так мама не бачыць і кортóшкі начысціла — рáбчыкаў.* Дзяражычы.

РА'БЫ *прым.* Рабы. *У мене була корóва рáбая.* Карпаўка. *На Украіні корóвы палавые ці рáбые.* Чаплін. *Лысікі — рáба кортóшка.* Ручаёўка.

РАГАЗА' *ж.* Чарот. *Му прышлі з вакуацыі, дак з рагазы рвалі кіехі да делалі падушкі. Му рвом рагазý ды цыбулю плетом, у ее крэпкае лісце.* Ручаёўка.

РАГА'ТКА *ж.* 1. Рагатка. *Усе твае рага́ткі павукідала, шчэ вочы выпечыш.* Казярогі. 2. Прылада для вымярэння даўжыні. *Он брыгадір пошо́ў на поле з рага́ткай.* Бывалькі.

РАГА'Ч *м.* Дышаль. *Рага́ч — еслі запрагаюць валы, еслі лошдаі — перадок.* Дзяражычы.

РАГО'ЛІК *м.* 1. Варэнік. *Вазьміце тры рого́лікі у тарэлцы.* Дзяражычы. 2. Коржык з бульбы і мукі. *Як зрабіць рого́лікі? Патаўкці бульбу, перамешаць з пшанічнай мукой і нарэзаць ромбікамі, а тады спечы на скавараде.* Дзяражычы.

РАГУ'ЛІНА *ж.* Галіна. *Там у вас такіе кусты, адны рагу́ліны тырчаць.* Ручаёўка.

РАД [1] *м.* 1. Намер. *Не з тым ра́дам, діця мае, прыехалі, штоб без цебе, маладенькай, паехалі* (З нар. песні). Пярэдзелка. 2. Дапамога, толк. *Скажыце, і маладік, і рушае — і ра́ду німа, не іде дошч.* Ручаёўка. 3. Справа. *Цежало: адна я, дак і мужчынскі рад і бабські рад на мне.* Дзяражычы.

РАД [2] *прым.* Рады. *Хоць бы і рад, на чом жа я паеду.* Первамайск. *Ра́да, де дадуць кусок хлеба.* Дзяражычы.

РАД [3] *м.* Шарэнга, вуліца. *У п'яць родо́ў дерэўня седела.* Дзяражычы.

РА'ДА *ж.* 1. Парада. *На ра́ду хаділа к свайму сыну у Сеўкі.* Ручаёўка. 2. Дапамога. *Ра́ды не дадуць діцяці.* Дзяражычы. *Ены ездяць, пырскаюць, а ра́ды німа ат тых жукоў.* Чаплін. 3. Падрад, работа. *На другой ра́ді зараблю.* Пярэдзелка. *Памянш.* ра́дачка. *Усе ужэ на светачку даюць — і ра́дачкі німа.* Ручаёўка. *Сколькі тых пілюляк я папіла, а усё роўна нема ра́дачкі.* Чаплін.

РА'ДАВАЦЬ *незак.* Радавацца. *Нача ра́дуеш, шо петушок на корчо́мцы пее.* Ручаёўка.

РА'ДЗІ *прыназ.* З-за. *Сеголета хацела школу пусціць к сабе раді дроў.* Мохаў.

РАДЗІ'МЫ: *радзі́мае це́ла.* Непашкоджанае месца. *У его нема радімага цела, шчоб не було пулі.* Дзяражычы.

РАДЗІ'НА *ж.* 1. Радня, родзічы, сваякі. *Ой, слава богу, добра гадіна, шчо сабралася уся радіна* (З нар. песні). Карпаўка. 2. *перан.* Любы, каханы. *Есць у мене радіна, далёка ат мене, парайчую ад людей, цураецца мене* (З нар. песні). Карпаўка. *Памянш.* радзі́начка. *Есць у*

*мене радіначка.* Чаплін. *Не цурайся, радіначка, а я цебе не буду.* Карпаўка.

РАДЗІ'ЦЕЛІ *мн.* Бацькі. *Нашы радіцелі доўга пражылі.* Бывалькі. *Радіцелі ціліграм за ціліграмам б'юць.* Чаплін.

РАДЗІ'ЦЦА: *без тала́ну радзіцца.* Быць нешчаслівым. *А дачка мая без талану раділася.* Дзяражычы.

РАДЗЮ'ГА *ж.* Посцілка з грубай тоўстай тканіны. *Радю́гай мы усё лета накрываліся ноччу.* Пярэдзелка.

РАДКАВА'ТЫ *прым.* Рэдкі. *Рэдкава́ты боршч: за вуха вазьмі і сербай.* Казярогі.

РАДО'ЎКА *ж.* Чарга. *Радо́ўка — вочарадь па пасьбеската. Мая радо́ўка буде у неделю.* Ручаёўка.

РА'ДУЛЬНІЦА *ж.* Радаўніца. *На ра́дульніцу ходяць у вас на могілкі?* Дзяражычы.

РА'ДЧЫК *м.* Падрадчык. *У гасударстві ра́дчыкі булі.* Пярэдзелка.

РАДЧЭ'Й *прысл.* Радзей. *Нада радчэ́й, дак смачней, штоб нача не такая густая каша.* Дзяражычы.

РА'ЖЖА *н.* Дзёран. *Закрывае ра́жжам плоскані.* Казярогі. *Ён загадаў патапіць і закрыць ра́жжам.* Мохаў.

РА'ЖКА *ж.* 1. Ражка. *Ра́жка — маленькі цэбрык.* Вулкан. *Налі у ра́жку вады.* Дзяражычы. *Коро́ва лезе ап'яць у ра́жку.* Казярогі. 2. *перан. груб.* Твар. *Раз'еў ра́жку, аж вачэй не відна.* Карпаўка. // Галава. *Ну і ра́жка у цебе: шапка на патыліцы!* Ручаёўка.

РАЖО'К *м.* 1. Узорчаты край хусткі. *Ушывалі пло́ток і рожо́к абчаплялі махрамі.* Мохаў. 2. Маленькі мяшочак, кісет. *Дела па делам, суд па хормі, хлеб па мешкам, табак па ражка́м.* Бывалькі. 3. Соска (для кармлення дзяцей). *Рожок прыправіла да паіла цыцкай той — асталася ат маткі девачка.* Дзяражычы. *Памянш.* ражо́чык. *Рожо́чык прыправіла діцяці дай пашла сама коро́ву даіць.* Дзяражычы.

РАЗ: *раз у раз.* Сістэматычна, часта. *Саша раз у раз прыде да хлеба кулідку вазьме.* Дзяражычы. *Калісь раз у раз гулялі у нашай хаці.* Крупейкі.

РАЗАПСЕ'ЦЬ *зак.* Разлайдачыцца, разгуляцца, стаць непаслухмяным. *Разапсе́лі твае хлопцы: нічога не робяць.* Пярэдзелка. *Ого, у Майсея ні деўка, ні хлопцы не разапсе́юць: ён ім волі не дае.* Чаплін.

РАЗАП'Я'ЦЬ *зак.* Расцягнуць. *Родно́ разап'я́лі, дак той чорт бег да туды ускочыў.* Казярогі.

РАЗАРЭ'ННЕ *н.* Непакорнасць, непаслухмянасць. *Харашэ жылі, не було разарэ́ння ніякага, слухалі свекра.* Дзяражычы.

РАЗБА'ЛАВАЦЦА *зак.* Разбэсціцца. *Я. его сомо́га пабачу і скажу: не астаўляй ты деўкі дома, ена не буде вучыцца, ена ж ета так разба́луецца.* Ручаёўка.

РАЗБАРСА'ЦЦА *зак.* 1. Разуцца. *Разденусь, разбарса́юсь і тады шарую.* Дзяражычы. 2. Раздзецца. *Ну, давай, Сашок, разбарса́йся да лажысь спаць, я табе ужэ паслала пасцель.* Пярэдзелка. 3. *перан.* Стаць распушчаным, недысцыплінаваным. *Вы ж его васпітуйце, а то ён без мене зусім разбарса́ўся, деўкі.* Пярэдзелка.

РАЗБЯЗУ'ЛЕЦЬ *зак.* Разбэсціцца, стаць непаслухмяным. *Разбезу́лелі деці і не слухаюцца.* Пярэдзелка.

РАЗВАЖА'ЦЬ *незак.* 1. Разважаць. *Калі сядам удвох дай разважа́ем, де мы будам жыць у старасці.* Бывалькі. 2. Угаворваць. *А мой мілы п'е, гуляе, ён на мене не думае. Ой, як выйде за воро́ты, дак ён мене й асуджае, а як выйде у светліцу, ён мене разважа́е: па совесці, мая міла, разойдімася с тобо́й* (З нар. песні). Чаплін.

РАЗВАРСА'ЦЬ *зак.* Разабраць, раскідаць. *Буў парахлявы хундамент, дак якся деці его разварса́лі дай уцеклі.* Дзяражычы.

РАЗВІВА'ЦЬ *незак.* Абясшкоджваць прымхі. *Ена раздеецца і бежыць: і на лесі заўе, а то у нас на жыці заўе, а баба наша умела развіва́ць етые завіткі.* Ручаёўка.

РАЗВУЧЫ'ЦЦА *зак.* 1. Развучыцца. *Я ужэ саўсім развучы́лася пісаць і чытаць, нічога не бачу.* Казярогі. 2. Навучыцца. *Я сама па сабе развучы́лася грамаці, ніводнага класа не кончыла.* Бывалькі.

РАЗГАВО'Р *м.* 1. Размова. *Уб еде да аб той адежы і разгово́ру не нада весці.* Дзяражычы. 2. Гаворка. *Ета ены хапаюць наш разгово́р.* Крупейкі. *У усякум селе свой разгово́р.* Ручаёўка. *Разгово́р наш нікуды не подходіць: ні к каню, ні к плоту.* Чаплін.

РАЗГАВО'РЫСТЫ *прым.* Гаваркі. *Коля, Коля, колісты, екі ты разгово́рысты, калі б Коля не радня, палюбіла б я цебя* (Прыпеўка). Вулкан.

РАЗГРЭ'БІНЫ *мн.* Заканчэнне вяселля. *У сыботу гулялі, у неделю гулялі, а у панеделак — разгрэ́біны.* Ручаёўка.

РАЗДЗЯВА'ЦЦА *незак.* Распранацца. *Раздева́йцесь*

*да садіцесь есці.* Вулкан. *Ена раздеéцца і бежыць у лес.* Карпаўка. // Раздзявацца (перад сном). *Раздявáцца — як спаць лажыцца, распранацца, калі у хату увойдіш.* Первамайск. *Раздевáйцесь, я раскіну пасцель.* Чаплін.

РАЗ'Е'ЗД: *на раз'éздзе.* Адасоблена (жыць). *У ее ніводнага діцяці нема з ею, усе на раз'éзді.* Дзяражычы.

РАЗЖУ'ХАЦЦА *зак.* Пасварыцца. *Свахі як разжýхаюцца, што папала говóраць.* Бывалькі.

РАЗКА'ТЫ *прым.* Разгорнуты, распрастаны. *Я кортóшку гледела, лісце разкáтае, дак даўжна быць кортóшка.* Дзяражычы. *Лісце шырокае і разкáтае — ета ранняя кортóшка: і не цвіце і е кортóплі.* Ручаёўка.

РАЗЛАМА'ЦЬ *зак.* 1. Разламаць. *Разламáў сваё калесо, з чым ты будеш бегаць?* Бывалькі. 2. Адкрыць. *А ён разламáў пісьмо і давай гледець, аж там хватаграхвія.* Дзяражычы.

РАЗЛУ'ЗВАЦЦА *незак.* 1. Раскусваць. *Такіе крэпкіе арэхі, зубы полóмім, ены ніяк не разлýзуюцца.* Крупейкі. 2. Ачышчаць. *Ён не разлýзуецца, шчэ малады саўсім.* Казярогі.

РАЗМО'ТВАЦЬ *незак.* Знясільваць, абяссільваць. *Размóтуюць нашые нечыстую сілу — немцаў.* Ручаёўка.

РАЗМУЦІ'ЦЬ *зак.* Размяшаць. *Кабану размучý у воду мукі, галушкі завару, дак ён хлёпае іх, як кортóплі.* Дзяражычы.

РА'ЗНІЦА *ж.* Розніца. *Рáзніца у шыцці: хвартух з брыжамі, а запонка простая.* Дзяражычы.

РА'ЗНЫ *прым.* Розны. *У Любечы навалам, не то шчо, дак рáзнай вобуві.* Дзяражычы. *Там жа е рáзные ягады.* Казярогі.

РАЗНЯХА'ЯЦЬ *незак.* Стаць лянівым. *Разнехáяў штось: я нічога не хочу рабіць.* Пярэдзелка.

РАЗО'НТ: *узяць у разóнт.* Успрыняць довады, зразумець. *А ты і у разóнт не беры, сама знаеш, як жыць.* Карпаўка.

РАЗО'Р *м.* Разлад. *Так палучыўся у мене у жызні розóр.* Дзяражычы. *Як жонку ненавідіць, дак пойде жысць у розóр.* Пярэдзелка.

РАЗО'ЎКА *ж.* Сорт пшанічнай мукі. *Панабіралі люді розóўкі і аўсянкі.* Дзяражычы.

РАЗРАЖА'ЦЬ *незак.* Раздражняць. *Не разражáй ее, не дражні.* Дзяражычы.

РАЗУРА'ТНЫ *прым.* 1. Непаслухмяны. *Такіе деці у*

*мене разура́тные: што болей бегай, то болей буде путацца пад перадам.* Крупейкі. 2. Бойкі, разбітны. *Мая дачка такая разура́тная: к усім подо́йде.* Дзяражычы. 3. Распусны, разбэшчаны. *Невестка була разура́тная, гора мне з ею було.* Дзяражычы. *Е усякіе разура́тные, е і жанатые да п'юць.* Цясны.

РАЗЯВА'ТЫ *прым.* Някемлівы, нецямлівы. *Хлопцы усе разева́тые.* Бывалькі. *Хлопчыкі разева́тые, а девачкі вумнейшые.* Дзяражычы.

РАЗ'Я'СНІЦЦА *зак.* Раз'ясніцца. *Хмарыла, хмарыла, я думала, буде дошч, аж ено раз'я́снілася.* Ручаёўка.

РАЗ'Я'ШЧЫЦЬ *зак.* Расчыніць (пра дзверы). *Раз'я́шчыў дверы і мух напусціў.* Дзяражычы. *Хто ета квортку раз'я́шчыў?* Пярэдзелка.

РАЛЕ'ННЫ: *ралённы конь.* Карэнны, караннік. *То ралённы конь, а то падручны.* Дзяражычы.

РАМЕ'НЬ *м.* Рэмень. *Буде рэмёнь чэраз пузень.* Первамайск.

РА'НА *прысл.* 1. Рана. *Рана прыдам, распрададом.* Ручаёўка. 2. Уранку, раніцаю. *Ены ж мне нада кожны день: ра́на і увечары.* Дзяражычы. *Памянш.* ра́ненечачка, ра́ненечка. *Ра́ненечачка пашла на макавея свеціць цветы.* Ручаёўка. *Ра́ненечка пападу у Лоеў.* Пярэдзелка. *Ра́ненечка прыде да праседіць да абеда.* Ручаёўка.

РА'НЬШАЙ *прысл.* 1. Раней. *Ра́ньшай скучаў ізразу, па маццы скучаў.* Бывалькі. *Ра́ньшай да рэвалюцыі так жылі бедна, што і пальца нечым було абвіхнуць.* Дзяражычы. *Ён іздураваў ра́ньшай.* Казярогі. 2. Спярша. *Ра́ньшай путай у мене, а тады ужэ суседеў путай.* Казярогі. *Ра́ньшай умер дядька, а тады жонка его.* Ручаёўка.

РА'НЬШЫ *прысл.* Раней. *Ра́ньшы там у скрыні андаракі лежалі.* Дзяражычы. *Ра́ньшы ігрушы у нас булі такіе смачные.* Крупейкі.

РАПЕТАВА'ЦЬ *незак.* Крычаць, лямантаваць. *Рапету́е на усю вуліцу.* Дзяражычы. *Рэпетава́ла, рэпетава́ла, а я пошо́ў да нагуляўся сабе.* Крупейкі.

РАПЯ'ШНІК *м.* Расліна лопух. *У нас называюць ета во рап'я́шнік. Рап'я́шнік расце де пад платамі.* Ручаёўка.

РАСА': *як раса́ вісі́ць.* Вялікая колькасць, шмат. *Там напала ягад, як раса́ вісі́ць.* Ручаёўка. △ *Расы́ ня́ма на яго́.* Пажаданне няшчасця. *Такі хлопец урэдны, расы́ нема́ на его́.* Чаплін.

РАСА'ДЗІНА *ж.* Каліва расады. *Пагнаў валы, две*

*расадіны ухапілі — войт зубы павыбіваў.* Первамайск.

РАСІ'НА *ж.* Раса. *Уранні ні расіны не было на траве.* Дзяражычы. △ *Расіны у році не было.* Быць галодным. *Ат самага рання расіны у році не было.* Карпаўка.

РАСКА'ЛІНА *ж.* Бездарожжа, бездараж. *Было ета дела на раскаліне, а бабы ішлі у пасталах, пападмочуваліcь.* Крупейкі.

РАСКАЛІ'ЦЦА *зак.* Распаліцца. *Трэба так раскаліцца, такі смурод пашоў ад скаварады.* Ручаёўка. *Як раскаліцца, дак і тут, і тут гарачэнна.* Чаплін.

РАСКА'ЛЛЕ *н.* Зімні перыяд, калі дарогі пакрываюцца лёдам. *Паехаў кабылай на раскаллі у Лоеў, чуць кабылу не перав'ёў.* Пярэдзелка.

РАСКАПУ'СЦІЦЦА *зак. груб.* Рассесціся. *Раскапусцілася на усю лаўку, шчо не падступіцца.* Дзяражычы.

РАСКВА'СІЦЬ *зак.* Рассячы. *Шура, ты сакераю голаву мне расквасіш.* Карпаўка.

РАСКІ'НУЦЬ *зак.* 1. Раскінуць. *Машына чарпакамі нагружуе і везе, гной раскіне і зноў еде.* Чаплін. 2. Паслаць пасцель. *Раздевайся, я раскіну пасцелі.* Дзяражычы.

РАСКІРА'ЧЫЦЦА *зак.* 1. Раскарачыцца. *Чого ты раскірачылась, як старая баба.* Крупейкі. 2. *перан.* Пайсці ў разлад, уразброд. *Галава раскірачылась, не знаю, шчо прыдумаць.* Бывалькі.

РАСКО'ХАЦЦА *зак.* 1. Развохкацца, развойкацца. *От табе, раскохкалась, заўтрі ж трэба ехаць у Лоеў.* Казярогі. 2. Расквахтацца (пра курыцу). *Раскохалась, ніяк с кубла не згоніш.* Крупейкі.

РАСКО'ША *ж.* Роскаш, спакой. *У нас нема діцяці, дак роскоша Віцю була.* Дзяражычы.

РАСКО'ШКА: *у раскошку.* Удосталь. *Сэканом, не дай децям у роскошку з'есці, дак і купіш шчо.* Дзяражычы.

РАСКО'ШНЫ *прым.* Раскормлены, тоўсты. *Водачку пілі, меды елі, ена, баба, роскошная була.* Ручаёўка.

РАСКРУ'ТКА: *даваць раскрутку.* Прабіраць, выгаворваць. *У панеделак буде раскрутку даваць нам.* Дзяражычы.

РА'СНЫ *прым.* 1. Буйны. *А маліна була такая расная, як ігрушы.* Дзяражычы. 2. Ураджайны. *Жукоў багата на жыці? — Багата.— Дак буде раснае, ядранае.* Дзяражычы. 3. Пышны, густы. *Ой, ў агароді верба расна, там стаяла деўка красна* (З нар. песні). Дзяражычы.

РАСО'Л *м.* 1. Расол. *Зделала росо́лу да паклала сцегно засаліць.* Дзяражычы. 2. Расольнік. *Сегодні з гуркоў росо́л варыла.* Дзяражычы.

РАСПАНА'ХТАЦЬ *зак.* Разарваць (адзенне). *Де ты так спадніцу распанахтала?* Дзяражычы.

РАСПАРЭ'Х *м.* Разрэз. *Купіла сабе спадніцу з распарэ́хам.* Дзяражычы. *Во малы распарэ́х разрэзала.* Казярогі.

РАСПЕ'РЦІСЯ *зак.* Расцягнуцца, упасці. *Пошо́ў на лёд і распе́рся, чуць устаў.* Ручаёўка.

РАСПЕ'Ў *м.* Матыў. *Песня на вум не узыходіць, на распе́ў забулася.* Дзяражычы.

РАСПІСА'ЦЦА *зак.* 1. Распісацца. *Бо як не так распішацеся, дак ох!* Дзяражычы. 2. Зарэгістравацца. *Сегодні распіса́ліcь, а назаўтра паехалі к ей.* Крупейкі.

РАСПЛАША'ЦЦА *зак.* Распасцерціся, распластацца. *Расплаша́лася кошачка пад кравацццю і лежыць.* Дзяражычы.

РАСПО'ЎЗЦІСЯ *зак.* Раз'ехацца. *Раз'ехаліcь людзі, распо́ўзліся, у дерэўні цепер мала маладых, на празвосцві робо́тають.* Дзяражычы.

РАСПРА'ВІЦЦА *зак.* Паправіцца, патаўсцець. *Робо́та хоро́шая, дак бач, як ена расправілася.* Вулкан. *Его не було тут тры месяцы, дак ена распра́вілася, хоро́шая такая стала, красівая.* Дзяражычы.

РАСПРАШЧЭ'ННЕ *н.* Развітанне. *На распрашчэ́нне мы з деўкамі схватаграхвіраваліcь.* Дзяражычы.

РАСПУСКА'НЕЦ *м.* Мужчына, які развёўся з жонкай. *Эй, хіба ж то хлопец, то ж распуска́нец, десь кінуў трое децей.* Дзяражычы. *У цебе ж сем'я, калі б ты буў екі распуска́нец, дак ты б ажэніўся.* Ручаёўка.

РАСПУСКА'НКА *ж.* Жанчына, якая развялася з мужам. *От ету беры, недарам, шо ена распуска́нка, а як венок: усе у хаці паделала, свіней накарміла, кордо́плі накапала.* Дзяражычы.

РАСПУСЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Распусціць, раскідаць вязанне. *Етых плоткоў сем у міне, еслі распушчу́, багата нітак буде.* Дзяражычы. 2. Разрэзаць бервяно ў даўжыню. *Трэба мне лес распусціць, пака дома.* Дзяражычы.

РАСПУ'ЦІН *м.* Шалун, лайдак. *Пабач, де ее места, распу́цін. Куды ты лезеш?* Ручаёўка.

РАСПУШЫ'ЦЦА *зак.* Распусціцца (пра кветкі). *А ў*

*содóчку два цветочка рана распушы́ліся* (З нар. песні). Карпаўка.

РАСТАНЬКІ′ *мн.* Ростань, перакрыжаванне дарог. *На растанькáх у нас крэст стаіць.* Пярэдзелка.

РАСТАРО′ПЛЮВАЦЦА *незак.* Развідняць. *Уставайце, бо ужэ расторóплюецца.* Ручаёўка.

РАСТВАРО′НЫ *дзеепрым.* Расчынены. *У цэркві дверы растварóны* (З нар. песні). Карпаўка.

РАСТРАВА′ЦЦА *незак.* Расставацца. *Калі з мілым растравáлась, саўяў розавы букет* (Прыпеўка). Карпаўка. *Ой, падруга дарагая, раскажы мне свой секрэт, калі з мілым растравáлась, серца білась ілі нет* (Прыпеўка). Чаплін. *Растраéцца траўка з палыночкам, растраéцца дейка з парынёчкам* (З нар. песні). Ручаёўка.

РАСТРАЎЛЯ′ЦЦА *незак.* Расстройвацца. *З ціху деці памерлі, дак ён растраўля́ецца усю жысць.* Дзяражычы.

РАСТРА′ЦЦА *зак.* Расстацца. *Мой друг цебе любіць не буде, са мною не растрáніцца* (З нар. песні). Карпаўка.

РАСТРО′ЕНЫ *дзеепрым.* Разбураны. *Трудна шчас, послі вайны усе було растрóенае.* Ручаёўка.

РАСТРО′ЧКА *ж.* Растэрміноўка. *Не даюць у растрóчку мінськага халадільніка.* Дзяражычы.

РАСТРУХНУ′ЦЦА *зак.* Разыйсціся, раз'ехацца. *Раструхнýлісь мае деці да ніяк не сойдуцца.* Дзяражычы.

РАСТУ′РКАЦЬ *зак.* Разбудзіць. *Растýркалі мене, дак я ужэ устала.* Дзяражычы.

РАСХАРМІРАВА′ЦЬ *зак.* Распрадаць. *Я месяц падержу, а тады ужэ уцета парасят расхармірýю.* Чаплін.

РАСХО′ДУВАЦЬ *незак.* Расходаваць. *То я була узела, дак расхóдувала.* Дзяражычы. *Расхóдуй, мамка, памаленьку.* Казярогі.

РАСХО′ДУЦЦА *незак.* Расходжвацца (пра хадзьбу). *Вазьмі костур да расхóдуйся, мамка, памаленьку.* Дзяражычы.

РАСХРЫ′СТАНЫ *у знач. прым.* Расшпілены (пра адзенне). *Чогó бегаеш увесь расхры́станы? Зашпыліся зараз жа.* Пярэдзелка.

РАСЦЯГА′НКА *ж.* Шарсцяная хустка ў кветкі. *Усякім плотóчкам булі названня: то плотóк шоўкóвы, то поўшоўкóвы, а то расцеганкі руськіе. Пашлі гуляць у клуб, а девачка була у плотóчку, а наша падышла да: от екая красівая расцегáнка. Дак ена: екая я расцегáн-*

*ка. А у нас жа ета плото́чык так называецца.* Дзяражычы. *Спасіба, сыночку, прыўёз мне расцега́нку.* Карпаўка. *У ее расцега́нка е руськая, спадніца з лентамі бархатная.* Ручаёўка.

РАСЦЯПЛЕ'ЦЬ *зак.* Разагрэцца. *Расцеплéў ты, хлопец: на дварэ зіма, а ён дверы адкрывае.* Ручаёўка.

РАСЧАЛІ'ЦЦА *зак.* Разламацца, трэснуць. *У мене рашчэліўся зуб, дак узялі падрэзалі да коро́нку паставілі.* Дзяражычы.

РАСЧАПНУ'ЦЬ *зак.* Раскрыць, расчапіць. *Рашчапну́ла праву ручку.* Карпаўка.

РАСЧО'ТНЫ *прым.* Ашчадлівы. *Абое такіе скупые, рашчо́тные.* Дзяражычы.

РАСЧУГА'ЦЬ *зак.* Раскалыхаць. *Ены як рашчуга́лі тую калыску, а дiця як бразнецца.* Дзяражычы.

РАСЧЫТО'ВАЦЦА, РАСЧЫТОЎВАЦЦА *незак.* Разлічвацца. *Ён і так, і так рашчыто́вайся.* Дзяражычы. *Беры, да толькі рашчыто́ўвайся.* Чаплін.

РАСША'ТАНЫ *дзеепрым.* Расстроены. *Нермы ужэ упалі, рашша́таные нермы у мене.* Дзяражычы.

РАСШМУРАВА'ЦЬ *зак.* Распусціць, патраціць. *Занесі грошы Сашы, бо ты рашшмуру́еш туды-сюды.* Дзяражычы.

РАСШУРДЫ'КАЦЦА *зак.* Разгаварыцца (пра малых дзяцей). *Так малы мой рашшурды́кайся, што не суняць.* Ручаёўка.

РАСШЭ'ЎКА *ж.* Карунка, якую ўшываюць у сярэдзіну абруса. *У нас кажуць рошшэ́ўкі, кото́рые в'язалі і устаўлялі.* Бывалькі.

РАЎНА'ЦЬ *незак.* Раўнаваць, раўняць. *У Саўкі тры сыны: адін трактарыст, другі аграном, а трэйці так на баяні любіць іграць. Такая спосо́бная сем'я. От і праўду кажуць: нехай бог раўну́е — хто сее, а хто барануе.* Ручаёўка.

РАЎНЕ'НЕЧКІ *прым.* Роўненькі. *Раўненечкіе родо́чкі вуўязуе.* Бывалькі.

РАЎНІ'ЦЦА *зак.* Раўняцца. *Чо нам к Івану раўніцца: у его свае коні.* Дзяражычы.

РАЎНІ'ЦЬ *незак.* Раўнаваць. *Ён жа ее раўніў ка усім да самай старасці.* Ручаёўка.

РАЎЦІ': *ро́вам раўці.* 1. Вельмі моцна плакаць, крычаць. *Такая велікая девачка, а не аставіць дома адну: ро́вам раве́ на усю вуліцу.* Дзяражычы. 2. Залівіста бра-

хаць (пра сабак). *Сабакі ровам рэвуць, ніяк не заснеш.* Ручаёўка.

РАЎЧА'К *м.* 1. Рэчка. *Калісь раўчакі булі, лесы булі, була дубіна несхадімая, несчыслёная.* Вулкан. 2. Ручай, *Ім што б гарэлка раўчаком з крышы бегла, ены б і пілі ее.* Пярэдзелка.

РАХМА'НЫ *прым.* Ціхі, спакойны, сумленны. *Я прышла уранні у магазін, хлеб беруць, а я такая рахманая, не скажу: дай мне.* Ручаёўка.

РАЦІ'ВЫ *прым.* Шкодны, заўзяты. *Гледі, гледі, іч екі рэцівы — урэдны.* Ручаёўка.

РА'ЧКІ *прысл.* Ракам, рачком. *Полюць, а хто поўзае: хто рачкі, хто бокам.* Дзяражычы. *Рачкі поўзаюць старые.* Бывалькі.

РАЯВА'ЦЬ *незак.* Добра жыць. *Еслі б такая баба, як я, дак ты б раеваў за мной.* Дзяражычы.

РО'БКІ *прым.* Пужлівы. *Захарыха знаіш екая робкая, век увечары не выйде.* Дзяражычы.

РОГ [1] *м.* 1. Рог. *Коровы біліся, дак у маёй рог зламалі.* Бывалькі. △ *Рогі парастуць (параслі).* Аб разбэшчаным чалавеку. *Ото ж у роскашы жыве, то і рогі параслі у ее.* Дзяражычы. *Мамка, ена увесь век лёгка жыве, дак і рогі параслі у ее.* Бывалькі. 2. Кончык месяца. *Маладічок настаў, вон рогі кверху.* Ручаёўка.

РОГ [2] *м.* 1. Кут, край. *На рагу баба старая з Астравоў, не так гомоніць, як мы.* Ручаёўка. 2. Канец. *Ена іде уперад, вуўяжыцца, яксці ена заўязувала плоток рагамі наперад.* Ручаёўка.

РОД [1] *м.* 1. Сям'я. *У маём раду усе головы пагіблі. А у маём — восім чалавек.* Ручаёўка. *Худжай без детак, ены падрастуць, помогуць бацьку і маццы, а тая без роду асталася: памерлі ее деткі і чалавек.* Бывалькі. *Нельга мне к роду паказацца, радные гоняць із двара* (З нар. песні). Крупейкі. 2. Родзічы. *Ета рэдка такі род е, шчо друг друга не пакідае.* Дзяражычы. *Я пайду к маццы, к свайму роду: як ены міне пасаветуюць.* Вулкан. 3. Племя. *То пошоў па бацькавым роду: навучыўся красці, ета тожа навука.* Ручаёўка. *Усе такіе хорошые, красівые — як той, так і той род.* Дзяражычы. 4. Аднагодак. *Багата ж роду памерла, толькі я адна на усю дерэўню асталась девяноста годоў. Увесь род, як я, ізмер.* Дзяражычы.△ *Ва вечные роды.* Ніколі, нізавошта. *Я б его ва вечные роды не вешала токога ручніка.* Дзяражычы. *Ее,*

*можа, ва ве́чные ро́ды ніхто не бачыў у гразным платку, у гразным плацці.* Ручаёўка. *На вечныя роды.* На ўсё жыццё, назаўсёды. *Я кажу: закавалі на ве́чные ро́ды у кандалы* (пра жанатага хлопца). Дзяражычы. *Без ро́ду.* Адзінокі, без сям'і. *Астаўся без ро́ду бацька — і жонка, і деці пазміралі.* Бывалькі. *З ро́ду.* Ад веку, заўсёды. *Ено із ро́ду так: деці крадуць яблакі.* Ручаёўка.

РОД[2] *м.* Ураджай. *От род на лён сеголета і прасіць дашчу не нада.* Дзяражычы. *Ро́ду нема, не год: арахоў, грыбоў нема, местамі толькі булі арахі.* Ручаёўка.

РО'ДЗІЦЬ *незак.* Радзіць. *У етай дерэўні дарагая була земля: усе ро́діла.* Ручаёўка. *Тады ро́діла яксці, а цепер ле Днепра не ро́діць: перагарэла земля, пазасыпала усе песком.* Дзяражычы.

РО'ДЗІЧ *м.* Сваяк. *Ета вашы ро́дічы? — Не, чужчужынцы.* Ручаёўка. *Ён сваіх родічаў паўмазуваў ле себе.* Дзяражычы. *Мо родічы дадуць корто́плі.* Чаплін.

РО'ДЗІЧКА *ж.* Сваячка. *У мене ро́дічка жыве у Гомлі.* Бывалькі. *Даўёў ро́дічку етую да лесу, а сам пошо́ў назад.* Ручаёўка.

РО'ЖА *ж.* Ружа. *А свая жонка, як ро́жа садавая* (З нар. песні). Дзяражычы. *Вергіня, роза, ро́жа — ета усе цацкі.* Ручаёўка. *Пасею я ро́жу да пастаўлю сторо́жу, нехай вецер павевае да росу аббівае. Росу аббівае, ро́жа паспевае* (З нар. песні). Чаплін.

РО'СНА *прысл.* Мокра. *Як іці ро́сна капаць корто́плі, дак луччай так палягам.* Бывалькі.

РО'СПУСКІ *мн.* Воз, калёсы (для вывазкі лесу). *Ро́спускі стаяць на колхо́зным дварэ.* Пярэдзелка.

РОТ *м.* 1. Рот. *Я болей як п'яць годо́ў у ро́ці не держала гарэлкі.* Дзяражычы. 2. Губы. *Нашто ты абкрасіла рот?* Первамайск.

РО'ЎНА *прысл.* Аднолькава. *У нас роўна шо да Брагіня, шо да Лоева — двацщаць два кілометры.* Ручаёўка.

РО'ЎНЕНЕЧАЧКІ *прым.* Роўненькі. *Пабач, екіе ро́ўненечачкіе двайняткі.* Дзяражычы.

РО'ЎНЕНЕЧКІ *прым.* Роўненькі. *Ро́ўненечкіе чэравічкі панабіралі.* Дзяражычы.

РО'ХАЦЬ *незак.* Рохкаць. *Раз вышла з хаты і чую, штось ро́хае у граде, пагледела, а ета Лёксіна свіння аж сюды зайшла.* Пярэдзелка.

РО'ШЧА *ж.* 1. Рост. *Шчэ сваей ро́шчы не было сёле-*

*та у яблані*. Казярогі. 2. Прарослае збожжа. *Рóшчу трэба змолóць*. Ручаёўка.

РО'ШЧЫНА *ж*. Кавалачак цеста для закваскі. *Нада учыніць хлеб: рашчыніць рóшчыну*. Пярэдзелка.

РУБ *м*. Рубель. *То унука дасць траячку, то той дасць руб*. Чаплін.

РУБА'ЦЬ *незак*. 1. Сячы. *Асіннік да алешнік рубáла. Як ены рубáюць? Ці ены па вупісі, ці як?* Ручаёўка. 2. Будаваць. *Рубáлі хлевý, хаты*. Ручаёўка. △ *Рубáць пéсню*. Спяваць. *Леді ж, так рубáе пéсню*. Мохаў.

РУБА'ШКА *ж*. Кашуля, сарочка. *У мужчын верхніе рубашкі булі чмарые*. Дзяражычы. *Трэба надець сподню рубáшку*. Казярогі. *Калісь казалі сорóчка, споднíе сорóчкі булі, а цепер — рубáшка*. Пярэдзелка. *Рубáшку надене, да падперáжыцца і ходіць*. Ручаёўка.

РУБІ'ЦЬ[1] *незак*. Рубіць. *Назаўтра прышлі рубíць хлеў*. Бывалькі.

РУБІ'ЦЬ[2] *незак*. Падрубліваць. *Я не умею рубíць сорóчку, а трэба падрубíць*. Дзяражычы.

РУ'БЧЫК *м*. 1. Рубец, шво. *Рýбчык шыецца спададна*. Карпаўка. *Трэба зарубіць рýбчык у спадніцы, бо доўгая*. Казярогі. 2. Беражок. *Роўна з рýбчыкамі налі — літра малака*. Бывалькі.

РУГА'ННЕ *н*. Лаянка. *Ругáння не хочу*. Дзяражычы.

РУГА'ЦЦА *незак*. Лаяцца. *Дед калісь ругáўся: а ліхарадка, а маравіца*. Дзяражычы. *Еслі ругáцца начнеш, ена кажа: шоб цебе занеслі да мазы́рскіх*. Чаплін.

РУДЫ' *прым*. Рыжы. *Маленька рудáя була, косы аж ззяюць на сонцы*. Ручаёўка. △ *Мóкры, як рудáя мыш*. Вельмі мокры (ад дажджу). *Прышоў мóкры, як рудáя мыш*. Пярэдзелка.

РУКА' *ж*. Рука. *Рýкі, ногі баляць, а седі да лёпай*. Ручаёўка. *Ему ланцугамі такімі рýкі звезалі. Чаплін.*△ *Насíць на рукáх*. Быць уважлівым, клапатлівым. *Первая жонка скрозь душу кулаком грэла, а етую узяў, дак на рукáх насíў*. Дзяражычы. *Рукá былá*. Было выгадна, зручна. *Ёй рукá булá — ена за селом: і травы прынесе, і корóву вугане увечары*. Карпаўка. *Пад рýкі*. З прыбыткам, прыбыткова. *Ёй усе пад рýкі: хто прыде, той і дае*. Ручаёўка.

РУКАДЗЕ'ЛЛІВЫ *прым*. Які займаецца рукадзеллем. *Мае деці рукадéлліва усе: вушываюць і в'яжуць*. Пярэдзелка.

РУКАДЗЕ'ЛЬНІВЫ *прым.* Які займаецца рукадзеллем. *Ох, я була рукаде́льнівая, рукаде́льнівая, усе умела і вушываць, і звезаць.* Пярэдзелка.

РУКАДЗЕ'ННЕ *н.* Рукадзелле. *Чого́ ж мне не сказалі: і я б падарыла із свого́ рукаде́ння.* Дзяражычы. *Тое усе рукаде́нне па цілівізеру паказавалі.* Пярэдзелка. *Рукаде́ннем займаемся зімой, а улетку нема калі дыхнуць.* Ручаёўка. *Свае рукаде́нне екое було, а цепер нічым нічога не знаюць.* Чаплін.

РУКАМЫ'ЛЬНЯ *ж.* Рукамыйнік. *Рукамы́льня на дварэ вісіць, іді памыйся.* Пярэдзелка.

РУКАМЫ'Я *ж.* Рукамыйнік. *Прынесі-ка, унучак, вады у рукамы́ю.* Пярэдзелка.

РУКА'ЎЧЫК *м.* Невялікі мяшочак. *Насыпала поўны рука́ўчык семечак і зерня.* Дзяражычы.

РУЛІ' *мн.* Цура. *Му говóрам рулі́, а ена цуры.* Дзяражычы. *Зробім рулі на вечэру, калі нічога не зварылі.* Пярэдзелка. △ *Нарулíць рулёў.* Зрабіць цуру. *Я рулёў нарулю́ солóдкіх дай ем.* Дзяражычы. *Солі насыплем да вады наллем да рулёў нарулім і едім.* Ручаёўка. *Вуліў у міску віно да рулёў нарулíў і піў.* Чаплін.

РУЛЯВА'ЦЬ *незак.* Кіраваць. *Лейцамі так добра рулю́юць.* Пярэдзелка.

РУНА' *ж.* Руно. *У нас кажуць руна́ — ці увосень узышло жыта, ці весной.* Бывалькі. *Он руна́ екая зялёненькая.* Дзяражычы.

РУ'СЕНЬКІ *прым.* Русы. *Нехай детачкі ру́сенькіе будуць.* Дзяражычы.

РУСЯ'ВЫ *прым.* Русы. *Барыс чорны, я руся́ва, то, наверна, мая пара* (З нар. песні). Ручаёўка.

РУША'ННЕ *н.* Пачатак убывання месяца. *Не буде дашчу да руша́ння.* Дзяражычы.

РУША'ЦЬ *незак.* Пра ўбыванне месяца, сход. *У чэцвер буде руша́ці, тады, можа, усе паменяецца.* Ручаёўка. *Скажыце, і маладік, і руша́е — і раду німа.* Пярэдзелка.

РУ'ШЫЦЬ *зак.* Сходзіць (пра месяц). *Кругленькі учорі буў месяц, і ужэ ру́шыла.* Чаплін.

РЫБА'ЛІЦЬ *незак.* Рыбачыць. *Паехаў рыба́ліць з дедам рыбу.* Дзяражычы.

РЫБА'ЛКА *м.* Рыбак. *У старыну мала було рыба́лак, а бацька мой рыба́лка.* Дзяражычы. *У Деражычах багата рыба́лак, і дед мой буў рыба́лка.* Бывалькі. *Ён хорóшы рыба́лка і ахотнік хорошы.* Казярогі.

РЫБЕ'ЛЬ *н.* Маленькая рыбка. *Рыбак спаймаў рыбеля́, нічога не ловіцца.* Дзяражычы.

РЫ'БЕЧЧЫ *прым.* Рыбін. *Паехаў на рэгент, дак ранка — як ры́беччае вочка.* Чаплін.

РЫ'ЗЗЕ *н.* Дранае, старое адзенне. *Діравае, падранае мы называем ры́ззе.* Дзяражычы.//Адзенне. *Трохі ры́ззя хаділа мыць.* Вулкан.

РЫМ *м.* Дрыгва, топкае месца. *У боло́ці такі рым, нельзя парабраццa.* Бывалькі.

РЫМО'ННЕ *н.* Адзенне. *Унучачка усе зробіць чысценька, мае рымо́нне паскладуе.* Дзяражычы.

РЫСКАНУ'ЦЬ *зак.* Рызыкнуць. *Верына от рыскану́ла: паехала і паступіла.* Дзяражычы.

РЫСКО'ВЫ *прым.* Смелы, адважны. *А то девачка не рыско́вая.* Дзяражычы. *Е такіе бабы рыско́выe.* Чаплін.

РЫСЯКО'М *прысл.* Рыссю. *От лежыць сабака, складе лапы і пагледае, а як к поро́гу, дак ён рысеко́м.* Дзяражычы.

РЭ'ВАЛА *н.* Крыкуха. *Рэ́вала, перастань плакаць.* Казярогі.

РЭ'ГАЦЦА *незак.* Моцна брахаць. *На прыгрэбніку сяде, а сабакі ужэ рэ́гаюцца, сабакі ровам рэвуць.* Ручаёўка.

РЭ'ГНУЦЬ *зак.* Прагнуць, жадаць. *Як пого́да, дак ён рэгне, шоб усе зрабіць.* Ручаёўка.

РЭДЗЬ *ж.* Столка. *У мене у две рэ́ді абгоро́джаны план.* Вулкан.

РЭ'ДКІ *прым.* Рэдкі. *У мене е чорненькі плото́к, не рэденькі, а то рэ́дкі, як ото штапельны.* Бывалькі. *Памерла баба, дак дед прычытае: ты ж мая робо́тніца, ты ж мая кукобніца, ты ж у адном горшчо́чку умела тры кашы зварыць: зверху жыдка́, пасерэдіне радка́, а пад нізкам калупанька, ты ж мая галубанька, чого́ ж ты памерла?* Дзяражычы. *Як полотно́ не па берду, дак хоць дваццаць раз ляскай, а ено буде рэ́дкае.* Ручаёўка.

РЭ'ЖЧЫКІ *мн.* Бульбянік, аладка з варанай бульбы. *Рэ́жчыкаў напеку.* Бывалькі.

РЭ'ЗАЦЬ *незак.* 1. Рэзаць. *Када рэ́жаце качан, астаецца корань — храпа.* Дзяражычы. 2. Ампутаваць. *Дак не рэ́залі ему нагі?* Пярэдзелка. 3. *перан.* Дакараць. *Невестку цепер рэ́жа, не дае збыту.* Ручаёўка.

РЭ'ЗВІНЫ *мн.* Рэзгіны. *Калісь рэ́звіны былі, сычас ета ужэ павыводілась.* Ручаёўка.

РЭ'ЗКІ *прым.* Прарэзлівы. *Разговóр у его рэ́зкі.* Ручаёўка.

РЭ'МЧЫЦЬ *незак.* Бегчы хутка. *Бачу, рэ́мча мая свекруха, аж пыл леціць. Рэ́мчыць прама у ету сторану.* Дзяражычы.

РЭ'ПА: *як рэ́пу грызць.* Добра рабіць што-небудзь. *Ты б прышоў ле стала, як рэ́пу грыз, чытаў.* Дзяражычы.

РЭПЕТАВА'ЦЬ *незак.* Злавацца, сердаваць. *Рэпетава́ла, рэпетава́ла, а я пошóў да нагуляўся сабе.* Пярэдзелка.

РЭ'ПНУЦЬ *зак.* Лопнуць, трэснуць. *Ты ж рэ́пніш еўшы.* Первамайск.

РЭТУ'ШКА *ж.* Ракавіна. *А зараз будуць за рэку ездіць рэтýшкі лавіць да сеч лозу.* Дзяражычы.

РЭ'ЎЦІ *незак.* Раўці. *Будеш рэ́ўці доро́гаю.* Ручаёўка. *Ён пошóў у цэркву і пачаў рэ́ўці.* Казярогі.

РЭХТ *прысл.* Досыць, даволі. *Прынесла, напаіла, аж не йде. Я тады рэхт даваць ему.* Чаплін.

# С

САБГА'ТАЦЬ *зак.* Скамячыць. *Ён сабга́тае, сабга́тае ее. Усё у кучу сабга́тае.* Ручаёўка.

САБІРА'ЦЦА *незак.* Збірацца. *Ета мы тут удовы сабіра́емся.* Дзяражычы. *К ёй бабы сабіра́юцца — поўна хата.* Пярэдзелка.

САБІРА'ЦЬ *незак.* Збіраць. *Лён кажуць сабіра́ць, а куды ж его сабіра́ць.* Дзяражычы. *На той паляні адны деці грыбы сабіра́юць.* Пярэдзелка.

САБО'Ю *прысл.* На сабе. *Да пасля вайны строілісь собóй, да цегалі лес на себе, і новóз собóю вазілі.* Дзяражычы. *Послі вайны аралі сабóю, да валачылі сабóю, да нарыхтоўку сабóю здавалі.* Ручаёўка.

САВЕ'ТАВАЦЦА *незак.* Раіцца. *Саве́тавацца іці куды-небудь ці не?* Ручаёўка. *Пойдуць саве́тувацца і будуць шо-небудь делаць.* Дзяражычы.

САВЕ'ТУВАЦЬ *незак.* Раіць. *Ніхто не саве́туваў, а я думаю: к етуй рані прыкладу.* Ручаёўка.

САВІ'ЦЬ *зак.* Звіць. *У саду цветы рвала, да савіла́ венок.* Пярэдзелка.

САДАНУ'ЦЬ *зак.* Ударыць, выцяць. *Так садану́, што дыхаць займе.* Казярогі.

САДЗЯВА'ЦЦА *незак.* Апранацца. *Уперад садева́йся, а тагды пойдеш.* Ручаёўка.

САДЗЯВА'ЦЬ *незак.* Мець на ўтрыманні. *Я его садева́ла чатыры гады, а тады і умер.* Дзяражычы. *Сцепана убілі, а жонкі німа, діцятка скітаецца, забралі у прыют, садею́ць там.* Бывалькі.

САДРА'ЦЬ *зак.* Нацерці бульбы на тарцы. *Трэба драчы садра́ць на цертушку.* Дзяражычы.

САЖ *м.* Маленькі хлявок для парасят, які выгараджваецца ў хляве. *У хлеве адбіваюць хлеўчучок — саж. У сажэ́ седіць парася.* Ручаёўка. *Закутай парасят у саж да не выпускай.* Чаплін.

САЖА'ЦЬ [1] *зак.* Зжаць. *Жыта скольхі було сажа́ць?* Ручаёўка. *К абеду усе сажно́м.* Чаплін.

САЖА'ЦЬ [2] *зак.* Сціснуць. *То я сажа́ла нос крэпка, а ён баліць, дак так крычаў.* Ручаёўка.

САЖЭ'НЬ *м.* Адзінка меры (аб'ёму). *Ета паласа буде, наверна, десяць сажэ́няў.* Дзяражычы.

САЗНА'ЦЦА *зак.* Спазнацца. *Той бацька з другою сазна́йся, дак паіграў на нервах.* Дзяражычы.

САЙЦІ'СЯ *зак.* 1. Сысціся. *А мы во з ею сышлі́ся за Прагрэсам.* Пярэдзелка. 2. Пажаніцца. *Трэба такім сайціся: адін лапаць, другі посто́л.* Чаплін. 3. Састаяцца, адстояцца. *Нехай пастаяць сліўкі, буду бачыць, як со́йдуцца. Як со́йдуцца на сметану, дак буду біць.* Дзяражычы.

САК *м.* Верхняя жаночая вопратка кароткага памеру. *Шылі світы з палатна, называлісь сак, ззаду тые складкі.* Дзяражычы. *Сак — ета пашытая верхняя вопратка, да толькі з лентамі.* Крупейкі.

САКАТА'ЦЬ *незак.* 1. Сакатаць. *Сарока пад вакном сако́ча.* Крупейкі. *Кура сако́ча, несцісь буде.* Чаплін. 2. *перан.* Смяяцца. *Чаго ты сако́чыш без канца, ціха седі.* Ручаёўка.

САКЕ'РА *ж.* Сякера. *Мо б ты мне сакёру натачыў, а то тупая.* Ручаёўка. *Вон вазьмі сакёру пад шкахвай да атрубі палак п'яць дроў.* Чаплін.

САКО'ЛІЦЬ *незак.* Рубіць з упрыгожваннем. *Пробувала соко́ліць насавы плото́к уподо́біі Моцінага, да не палучылася.* Мохаў.

САКО'ЛКА *ж.* Мужчынская безрукаўка, камізэлька.

*Галя шые сокóлку свайму чалавеку, штоб цеплей було увосень.* Мохаў.

САЛАВЕ'ЙКАВЫ *прым.* Салаўіны. *Я паведу цебе па салавéйкавых сцежках.* Пярэдзелка.

САЛАГУ'БЫ *прым.* Губаты. *Салагýбы — ета такі з велікімі губамі.* Дзяражычы. *Памянш.* салагýбенькі. *З ею гуляў хорóшы, базарны хлопец, а выйшла замуж за маленькага, салагýбенькага.* Дзяражычы.

САЛАДУ'ХА *ж.* Саладуха, кулага. *Калісь у нас сушаць каліну, муку разбоўтаюць і туды сыплюць каліну, ігрушы кідаюць — саладýха.* Ручаёўка.

САЛАНІ' *мн.* Вараная бульба. *Салані можна зварыць на вечэру.* Бывалькі.

САЛАПА'ТЫ *прым.* Шапялявы. *Салапáты — говóрыць шэпелята, губы тоўстые, нехорошые. От найшла, вышла замуж за салапáтага.* Дзяражычы.

САЛДАНО'М: *жыць салданóм.* Адзінока. *А тая бездетуха салданóм жывé.* Ручаёўка.

САЛО'НІКІ *мн.* Вараная бульба. *Наварыла солóнікаў да наелася з гуркамі да з росóлам.* Дзяражычы. *Прышлі, аж тая бабка о-о такенны чыгун солóнікаў варыць.* Казярогі. *Дейкі, ідіце я вам солóнікаў паставіла.* Пярэдзелка. *Зварым мо заўтра на снеданне солóнікі.* Чаплін.

САЛО'НКА *ж.* Сальніца. *Солóнка разбілася, трэба новую купіць.* Казярогі. *Насып солі у солóнку.* Ручаёўка.

САЛО'НЫ *прым.* Салёны. *Усе солóнае любіў.* Дзяражычы. △ *Хадзіць як салóны.* Дрэнна сябе адчуваць. *Да ужэ забалела дней чатыры, дак я хажý як солóная.* Дзяражычы.

СА'ЛЬНЫ: *сáльны панядзéлак.* Дзень, у які можна есці скаромнае. *У сáльны панедéлак старые усё едяць: і сала, і м'яса.* Ручаёўка.

СА'МА *прысл.* Якраз. *А мы сáма уладілі: прыехаў дохтар і мы.* Дзяражычы.

САМАВА'ЛКІ *мн.* Самаробныя валёнкі. *Самавáлкі— кустарная робóта.* Дзяражычы. *Пры немцах у самавáлках хаділі.* Казярогі.

САМАВІ'ТЫ *прым.* 1. Самастойны. *Чалавек не самавіты. А можэ і самавіты, дак просценькі.* Бывалькі. *Ено ж ходіць, як не самавітае.* Дзяражычы. 2. Нездаровы. *Наш кабан сегодні не самавіты — уроді бальны.* Бывалькі.

САМАГНЁТ *м.* Гарэлка, самагон. *Не найдецца бутылачкі хіця б самагнёту?* Казярогі.

САМАДА'ЙКА *ж.* Шчодры чалавек. *Мая мама гаварыла: людзі не аб'едяць, людзі не абап'юць; ена ж такая у мене була самадáйка.* Дзяражычы.

САМАКА'ТКІ *мн.* Ручныя сані. *Самакáткі паделалі да так і вазілі і дрова, і сена, і усе.* Пярэдзелка.

САМАЛУ'К *м.* Лук. *Хлопцы паделалі сабе самалýкі.* Ручаёўка.

САМАЛЮ'БЕЦ *м.* Сябелюбец. *Самалю́бец такі, што я шчэ не бачыла.* Ручаёўка.

САМАПЫ'Х: *на самапы́х.* Самавольна. *Паехаў на самапы́х, дак нема на когó абіджацца.* Бывалькі. *На свой самапы́х робіць усе.* Дзяражычы.

САМАСТАЯ'ЦЕЛЬНЫ *прым.* Разумны, разважлівы. *Ена самастая́цельная, а ён шугайла.* Дзяражычы.

САМАТУ'ЖКІ *мн.* Маленькія санкі. *Вазьміце, деткі, саматýжкі, трэба прывезці муку з магазіна.* Дзяражычы. *Пацёг стары саматýжкамі сена на той бок ракі.* Пярэдзелка. △ *На саматýжкі.* Саматужна, прымітыўна. *На саматýжкі веде усё хазяйства.* Дзяражычы.

САМАХО'ДКА *ж.* Цеплаход. *Самахóдка іде з Лоева. Паеду я луччай заўтра самахóдкай у Лоеў.* Дзяражычы.

СА'МІЕ *займ.* Самі. *Сáміе едяць лысікі.* Ручаёўка.

САРАКА' *ж.* 1. Рэлігійнае свята ў пачатку сакавіка. *Саракá, бо сорак мучанікаў бросілі у возера.* Чаплін. 2. Памінкі (праз сорак дзён пасля смерці). *Му адправілі саракá, а як жа, ужэ сорак дней прабегла.* Чаплін.

САРАКАВІ'НЫ *мн.* Памінкі. *Саракаві́ны буду правіць.* Ручаёўка. *На саракаві́ны езділа к ёй.* Чаплін.

САРАКАГО'ДНЫ *прым.* Чалавек, якому споўнілася сорак год. *Саракагóдная дева, дак ніхто не браў, а інвалід падабраў.* Дзяражычы.

САРАКО'ЎКА *м.* Цвік даўжынёю ў сорак міліметраў. *Саракóўкі для мелкай робóты.* Ручаёўка.

САРАНА' *ж.* Дзятва. *Такой сараны́ у хаці — п'яць децей напладіла.* Чаплін.

САРАМЯ'Ж *м.* Сарамлівасць. *Што на цебе сарамя́ж напаў.* Бывалькі.

САРАМЯ'ЖЫ *прым.* Сарамяжлівы, сарамлівы. *Ён не сарамя́жы хлопец.* Дзяражычы.

САРАХВА'Н *м.* 1. Плацце без рукавоў. *Калісь плацеў не шылі: кохтачка да спадніца, да сарахвáн.* Пярэ-

дзелка. 2. Сарафан. *Мода пашла на сарахваны.* Чаплін.

САРАЧЫ'НЫ *мн.* Памінкі. *Наварылі на сарачыны усего, людзі благадарылі.* Бывалькі. *Девяціны, сарачыны, палугодкі і годкі — так памінаюць покойніка.* Дзяражычы.

САРТО'ВЫ *прым.* Добры па якасці. *Екіе не тканые, екіе не сортовые — усерайно скацерка.* Пярэдзелка.

САРЦАВІ'НА *ж.* Асяродак. *Згніла сарцавіна у ігрушы, а шчэ стаіць крэпка.* Казярогі.

САСНЯ'К *м.* Сасоннік. *Погоны кортоплі ото к саснеку булі.* Дзяражычы. *Хадем у сасняк, дак хоць грыбоў прынесем.* Пярэдзелка.

САСО'ХНУЦЬ *зак.* Вельмі пахудзець. *Матка сасохла на ее глядячы.* Бывалькі. *Бач жа сосох як, а то рукі гладкіе булі.* Дзяражычы. *Раней так була сосохла, аж кружэнне у галаве.* Ручаёўка.

САСТРО'ІЦЬ *зак.* Пабудаваць. *Шчо ены там состроілі? У етай пажывуць і тую строяць.* Дзяражычы.

САСУ'ЛЬКА *ж.* Лядзяш. *Сасулькі пацеклі, а сонца усё нема.* Пярэдзелка.

САТВАРЫ'ЦЬ *зак.* Зрабіць. *Ужэ пакупку сатварылі.* Дзяражычы.

САТКНУ'ЦЬ *зак.* Надзець (абутак). *Саткнула чобаты да пашла.* Ручаёўка.

САЎСІ'М *прысл.* Зусім. *Жыць добра і не саўсім.* Бывалькі. *Адін саўсім не роботае.* Вулкан. *А цепер саўсім другая жысць.* Казярогі.

САХА' *ж.* 1. Шула, слуп. *Сохі станавіць нада у гумне.* Пярэдзелка. 2. Стоўб калодзежа-жураўля. *У нас сохі делалі дубовые, а цепер ужэ калонкі паставілі.* Казярогі. *Саха у колодезя саўсім старая.* Ручаёўка.

СА'ХАРКА *ж.* Самагонка з сахару. *Да тут багата хто сахарку гоніць, толькі ніхто не прызнаецца.* Пярэдзелка. *Ой, деўкі, маг мужыкі пробуюць етую сахарку піць.* Чаплін.

САЦІ'НА *ж.* Сацін. *Сацíны чатыры метры прыслалі.* Ручаёўка. *Во у мене хвартух з сацíны.* Чаплін.

САШЫ'ЦЬ *зак.* Сшыць. *Сашыю полкі сегодні.* Казярогі.

САША' *ж.* Шаша. *Па сашэ, казаў шохвір, машына вельмі скора еде.* Ручаёўка.

СВАБО'ДНАЯ *прым. у знач. наз.* Нецяжарная. *Дак*

*Галка ішчэ свобóдная. А як буде діцятка, дак робóты буде болей.* Дзяражычы.

СВАІНА′ *ж.* Родзічы. *І сваіны́ нема у нас.* Дзяражычы. *Я думала, сваіна́ іде.* Бывалькі.

СВА′НЬКА *ж.* Свацця. *У маёй сва́ньві вашые деўкі тожа жывуць, ена узела аж чатырох.* Барэц. *От мая сва́нька добра пее да усе ж такіе любоўные песні знае.* Пярэдзелка.

СВАЯ′ЧЫНА *ж.* Сястра мужа. *Сва́чына напісала: строчна выеждж̃ай, дак квацера буде.* Дзяражычы. *У мене було две сваячыны, а цепер, як мой чалавек памер, адказаліся.* Ручаёўка.

СВЕ′КАР *м.* Свёкар. *А мой свéкар учора багата рыбы налавіў.* Ручаёўка. *Свекруха була спыльчывая, а свéкар такі хорóшы буў.* Чаплін.

СВЕ′РДЛІК *м.* Свярдзёлак. *Свéрдлікам прасверліш і колóчкамі дераўянымі заб'еш.* Пярэдзелка.

СВЕ′РДЗЕЛ *м.* 1. Свердзел. *Свéрдел новы купілі.* Бывалькі. 2. Свідравальшчык. *За свéрдела Таня пашла.* Дзяражычы. *Свéрдел — той, хто свердіць землю.* Казярогі.

СВЕ′РДЗІЦЬ *незак.* Муціць. *Грыб пракляты: стаіць у ее, ён і не выходіць, усе свéрдіць і свéрдіць.* Дзяражычы.

СВЕРХСТРО′ЧНА *прысл.* Звыштэрмінова. *Пойде да на карабле буде робóтаць сверхстрóчна.* Дзяражычы.

СВЕСЦЬ *ж.* Швагерка. *Свесць — жончына сестра.* Ручаёўка.

СВЕТ: *нічóга на свéці.* Зусім нічога. *Нічóга на свéці не панімаюць етые маладые.* Дзяражычы. *Абыйсці свет і павéт.* Пабываць у многіх месцах. *Абышóў свет і павéт, а каня не знайшоў.* Карпаўка.

СВІДЗІ′ЦЕЛЬ *м.* Сведка. *Былі свідіцелі, што ён больш праслужыў.* Карпаўка. *Свідіцелі булі, як ён біў ее.* Дзяражычы.

СВІНАКРО′П *м.* Драсён. *Свінакроп у просе больш расце.* Пярэдзелка. *Свінакрóп — ета трава така нізкая.* Ручаёўка.

СВІНА′РКА *ж.* Свінарнік. *Корóўнік у соўхóзе велікі, я там робóтала, і свіна́рка тожа е, там мая молóдшая робóтае.* Пярэдзелка. *Свінарка у нас цепер большая стала, і людей там багата робóтае ужэ.* Чаплін.

СВІНО'ШНІК *м.* Свінушнік. *У хаці дак што у свінóшніку.* Бывалькі.

СВІНЮ'ШНІК *м.* Свінарнік. *Два кабанчыкі прапалі прама у свінюшніку.* Чаплін.

СВІНЯ'ЎКА *ж.* Свінуха. *У нас свіня́ўкі не беруць, а прыежджые беруць. Каля дорóгі столькі ужэ свіня́вак.* Пярэдзелка.

СВО'ІЦЦА *незак.* Радніцца. *Бувае, шчо свой, да не хоча свóіцца. Цепер ужэ і свóіцца: здалеку прыехала і маццы на кохтачку прывезла.* Дзяражычы.

СВОЙ *м.* Сувой. *От палатно у свой трэба скруціць.* Ручаёўка. *Як деўка іде замуж, дак давалі девяць свóяў палатна.* Чаплін.

СВО'ЛАК *м.* Дрэва, якое кладзецца на сохі. *Две сахі у сараі, а у серэдіні свóлак.* Казярогі.

СВЯКРА' *ж.* Свякроў. *Ее свекрá недалечкі жыве.* Дзяражычы.

СВЯКРО'ЎКА *ж.* Свякроў. *Добра гадіць свекрóўкі, як у ее у грудях хрыпіць: ена ужэ негодная, старая, як е, так і добра.* Крупейкі.

СВЯРБЕ'ННЕ *н.* Сверб. *Рана гоіцца, дак свербéнне страшнае.* Пярэдзелка.

СВЯТНО'Е *прым. у знач. наз.* Святочнае. *На светы день у его светнóе е: штонікі, пінджачок.* Дзяражычы.

СВЯТО'К *м.* Свята. *Ад Петра — асенні светóк — ужэ і восень.* Бывалькі. *Корóва светкáмі ацеліцца.* Карпаўка.

СВЯ'ТЦЫ *мн.* Веруючы, багамольны. *Етые старэйшые бабы — свя́цццы самые — пашчыталі ее не сабакам, а ваўкалакам.* Крупейкі.

СВЯТЫ': *святы́я ніканы.* Лодарнічанне, гультайства. *Светы́е ніканы сегодні у мене: нічога не хочу делаць.* Ручаёўка.

СВЯЦІ'ЛКА *ж.* Дружка. *Свецілка свечы держыць, шахвір і шахвірка венцы носяць.* Пярэдзелка. *А звенчала мене шабля войстрая, а свецілкі былі еравые свечы* (З нар. песні). Чаплін.

СВЯЦІ'ЦЬ: *вóчы не свéцяць.* Аб дрэнным зроку. *Столькі папаплакала, як сыны не прышлі с хронту, дак ужэ і вóчы мае не свéцяць.* Дзяражычы.

СЕ *займ.* Гэта. *І се деўка ройная з ею, як ізрэзаные, а не то шчо.* Дзяражычы. *Андарак у нас не кажуць, се кажуць міншчане.* Ручаёўка.

СЕ'ВАЛКА *ж.* Сеялка. *Сéвалку палучылі.* Пярэдзелка.

СЕ'ДЗЕНЬ *м.* Фасоля, якая не ўецца. *Сéдень на розóрах сажала.* Казярогі. *Сéденя не було у мене сеголета.* Чаплін.

СЕ'Е *займ.* Гэта. *То тое, то сéе да і робіш.* Дзяражычы.

СЕЙ *займ.* Гэты. *Сей год ураділі грыбы.* Карпаўка. *У сём гаду еечак нема.* Дзяражычы. *Чогó ж ты да сегó дажыўся.* Крупейкі.

СЕ'ЙЧА'С *прысл.* Зараз. *Тапчані сейчáс говóраць, калісь гаварылі камы на тоўчóную картóшку.* Дзяражычы. *У мене шчэ і сейчáс юпка шэрсцяная калісьняя е.* Крупейкі. *Усе у адном колхóзі сейчáс.* Ручаёўка.

СЕ'КНУЦЦА *зак.* Ударыцца. *Лента* (маланка) *як сéкнулась, дак і гарыць хата.* Дзяражычы.

СЕ'КНУЦЬ *зак.* Парэзаць. *Руку сéкнула, кроў дзураём бежыць.* Ручаёўка.

СЕ'КЦІ *незак.* 1. Сячы. *Учорі прывезлі дроў, дак трэба сегодні сéкці.* Крупейкі. 2. *перан.* Страляць. *Як стаў сéкці з кулямёта, сек-сек, а тады кінуў.* Дзяражычы. 3. *перан.* Чытаць (хутка). *О-о сечэ́, аж слухаць добра і піша добра.* Чаплін.

•СЕ'ЛЕГ *м.* Качар. *Ена вутка, а ён сéлег.* Ручаёўка.

СЕ'ЛІШЧА *н.* Сельбішча. *Тутака ж було сéлішча: клёны булі, ліпы бальшушчыя, а цепер нема: вайна усе збіла, зглуміла.* Дзяражычы. *На Соніным сéлішчы і трава парасла ужэ.* Ручаёўка.

СЕ'ЛЕЗЕНЬ *м.* Качар. *Сéлезень хорóшы буў.* Чаплін.

СЕ'МКІ *мн.* Зярняты сланечніка. *З сéмак алей давяць.* Ручаёўка. *Сéмак набером і лускаем цэлы вечар. Раскалупуеш сéмкі ці с шалупайкамі жуеш.* Чаплін.

СЕМ'ЯНІ'Н *м.* Гаспадар. *Сем'яніна у хаці нема.* Карпаўка.

СЕМЯНО' *н.* Насенне. *На семенó захавала, а астачу памелем.* Бывалькі. *Навубірала зернят сабе на семенó.* Ручаёўка.

СЕМЯНУ'ШКА: *лук-семянýшка.* Цыбуля, прызначаная для насення. *На базары купляем лук-семенýшку.* Ручаёўка.

СЕНАТА' *ж.* Сена. *А сенатá тае далі, што страх глянуць.* Дзяражычы.

СЕНЦЯБРО′ *н.* Верасень. *Заўтра першае сенцебро́.* Ручаёўка.

СЕ′ПАЦЬ *незак.* 1. Торгаць. *Як начала костка на назе расці, дак так се́пала і се́пала.* Пярэдзелка. *Загнала скабку пад ногаць, дак так се́пае.* Ручаёўка. 2. Цяжка дыхаць. *Калі разыграецца целя, дак аж се́пае коро́ва.* Дзяражычы. 3. Размаўляць са злом, крыкам. *То хоро́шая маладіца: і раскажа, і пасаветуе, а не то, шо як другая: сепае.* Крупейкі. 4. Біць. *Коро́ва круць-круць, хвосто́м се́пае.* Дзяражычы.

СЕ′ПНУЦЬ *зак.* 1. Ударыць, выцяць. *Да руку се́пнула, аж пачарнела уся.* Ручаёўка. 2. Тузануць, шмаргануць. *О так се́пніце, дак ено і атчэпіцца.* Пярэдзелка. *Се́пніце за варатнік, дак ена і упаде.* Чаплін.

СЕРАДЗІ′ *прыназ.* Пасярод. *Серадi дорóжачкі сустрэўся с аццом* (З нар. песні). Первамайск.

СЕРАДО′ЛЬШЫ *прым.* Сярэдні. *Вольга большая, Таццяна серадо́льшая, а я меншая.* Дзяражычы. *Серадо́льшая летась у больніцы лежала.* Ручаёўка.

СЕРАПЕ′КА *ж.* Лодар, гультай. *Хоро́шая такая маладіца, толькі серапе́ка. Онь іде, дак нача серапе́ка, чуць цягнецца.* Дзяражычы.

СЕРПАРЭ′ЗНІК *м.* Крываўнік. *Атарві серпарэ́зніку да прыкладі, кроў і перастане.* Бывалькі. *Серпарэ́зніку натаплю і даю піць.* Чаплін.

СЕ′СЛА *ж.* Трохвугольная ўстаўка, клін (у штанах). *Ена пашыла штаны се́слам назад. Рыгор так се́слам трусіць, поле проса, аж кульман ходіць.* Дзяражычы. *Трэба ужэ табе на штаны се́сла паставіць.* Пярэдзелка. *Адразаецца полотно́, уподо́біі насавога платка, потым разразаецца на укосіну, ушываецца і палучаецца се́сла.* Рудня Марымонава. *Цепер з кліночкамі шыюць, а тады се́сла.* Чаплін.

СЕ′ЎБІТ *м.* Сейбіт. *Ета се́ўбіт прышоў полуднаваць.* Ручаёўка.

СЕ′ЧАНЬ *ж.* Сечка з буракоў, капусты, травы. *Прыгатовіць нада се́чані свінням.* Казярогі. *Насекла се́чані і накарміла кабана.* Ручаёўка.

СЁДНІ *прысл.* Сёння, сягоння. *Ены ж печ сёдні перабіваюць.* Дзяражычы. *Пішы, як учорі, так і сёдні, а ены сёдні не касілі саўсім.* Бывалькі.

С′ЁМАК *м.* Здымак. *Дак с′ёмак даў доктар, дак там дірачка такая, як рыбеччае вочка.* Дзяражычы.

СЁСТРА *ж.* Сястра. *Ета сёстра, а то матка.* Ручаёўка.

СІБЕ′ЛЬ *м.* Назва рыбы. *Сібéль — рыбка як селёдачка, точна камса.* Бывалькі. *Памянш.* сібялёк. *Што паймалі? — А сібелькóў трохі, нема рыбы.* Пярэдзелка.

СІВАКРА′КА *ж.* Сіваваронка. *У сівакрáкі галубое пер'е, красівае такое.* Ручаёўка.

СІВАКРА′ХА *ж.* Сіваваронка.— *Іду, а ена седіць на драту.— Хто? — Сівакраха.* Пярэдзелка. *Сеголета багата бачыла сівакрáх.* Чаплін.

СІ′ВЕНЕЧКІ *прым.* Сівенькі. *Сівенечкая була сама.* Пярэдзелка. *Маладая шчэ, а ужэ уся сівенечкая.* Чаплін.

СІ′ВЕР *м.* Халодны, моцны вецер. *Такі сівер на дварэ, з ног збівае.* Чаплін.

СІ′ВЕРКА *ж.* Намаразь. *Увосень ветрана, сіверка падае.* Ручаёўка.

СІ′ДАР *м.* Заплечны мяшок або наогул усё тое, што вязеш з сабой. *Ого, екога сідара табе наклалі.* Пярэдзелка. *Сам малы, а сідар па земле цягнецца.* Чаплін.

СІДЗЯ′ГА *ж., м.* Гультай, лодар. *Ніколі не буў сідягам, усе робóтаў і робóтаў, а сейчас вот пенсію шэздесят рублей палучаю.* Пярэдзелка.

СІЛАВА′ЦЬ *незак.* Сілком прымушаць рабіць. *Я іх ужэ і не сілавáла, жалела вельмі, сама усе делала.* Дзяражычы.

СІЛАМО′ЦЦЕМ *прысл.* Сілком. *Сіламóццем застаўлю лечыць зубы.* Пярэдзелка.

СІЛЕ′ННА *прысл.* Вельмі. *Сілéнна бальшая рана була.* Вулкан. *Сілéнна трудна вучыць іх.* Казярогі.

СІЛЕ′ННЫ *прым.* Вельмі вялікі, моцны. *Сілéнны нарыў буў у его.* Бывалькі. *Сілéнны вецер падхапіўся.* Дзяражычы. *Сілéнны шум у галаве, не чую нічога, такі шум.* Мохаў.

СІ′ЛЕЦЬ *незак.* Дужаць. *Ета сілее туго, ета так хлёстка б'ецца.* Дзяражычы.

СІ′ЛЬКАЦЬ *незак.* Шморгаць. *Глянь, як ён сількае вуду.* Дзяражычы.

СІЛЬКА′ЦЬ *незак.* 1. Біць. *Сількáе пугаю па ваде.* Бывалькі. 2. Хутка есці. *Глянь, як ён сількáе боршч.* Дзяражычы.

СІ′ЛЬНА *прысл.* Вельмі, дужа, надта. *Іванаўськае палатнó — не сілна тоўстае і не тонкае.* Бывалькі. *І спейце мне песеньку радную пра жысць, пра казацкаю сілна*

*худую. За дубовы стол садіўся, сілна зажурыўся* (З нар. песні). Чаплін.

СІ'НІ *прым.* 1. Сіні. *Сіні, такі васільковы плото́чак купіла сабе.* Вулкан. 2. *перан.* Цёмны. *Шырокіе доскі у тую у хату? — Ены шырокіе, да сініе.— З того́ боку не будуць сініе.* Казярогі.

СІ'НЧЫК *м.* Сініца. *Сінчык вельмі добрая птушка.* Карпаўка. *Сінчык так красіва пее.* Первамайск.

СІ'ТАВЫ *прым.* 1. Паношаны, працёрты. *Штаны сітавые, палавінкі свецяцца.* Дзяражычы. 2. Старая, непрыгодная драўніна. *Шашаль ее б'е, значыць, сітавая драўніна.* Ручаёўка.

СІ'ТНІЦА *ж.* Сітніца, хлеб з пшанічнай мукі. *Сітніцу мы пеклі калісь толькі па святах, а цепер булкі едім кожды день.* Пярэдзелка.

СІТНЯ'К *м.* Трава (лугавая). *Дарагое сена з сітнякý, не дакупіцца да его.* Пярэдзелка.

СІ'ЦЕЦ *м.* Паркаль. *Красівы сіцец прывезлі у лаўку.* Бывалькі. *Пашыла сабе два плото́чкі з сіццу.* Вулкан. *Памянш.* сіццайка. *Добранечкіе булі калісь плаццi з сіццайку да і сёдні луччай шыць з сіццу, здаравей.* Дзяражычы. *Две мецеркі сіццайку купіла.* Казярогі.

СКАЖЭ'ННЫ *прым.* Дурны, неразумны, шалёны. *Што ты, як скажэ́нны, носішся. Ногі паломіш.* Пярэдзелка.

СКАКУ'ХА *ж.* Танцорка. *Ні пеюха, ні скакуха я.* Карпаўка.

СКАЛАЗУ'БЫ *прым.* Чалавек, які часта шчэрыць зубы. *Жонка скалазýбая, усе смеецца.* Ручаёўка.

СКА'ЛІЦЦА *незак. груб.* Смяяцца. *Нечага ска́ліцца, а прышоў на робо́ту, дак рабі.* Ручаёўка.

СКА'ЛЛЯ *ж.* Пчаліная разведка. *Ска́лля леціць, шукае места, і тады выходіць рой.* Пярэдзелка.

СКАЛО'ЦЬ *зак.* 1. Пакалоць. *Маладая девачка у саду гуляла, сколо́ла ножачку, зделалась бальна* (З нар. песні). Карпаўка. 2. Забіць (пра жывёлу). *Мы учора парасятка сколо́лі.* Бывалькі.

СКАМ'І'ЦА *ж.* Лаўка, лавачка. *Дай ударылась ручкамі аб скам'іцу.* Пярэдзелка. *Онь скам'іца, садіцесь, деўкі.* Чаплін.

СКАНАЗО'БІЦЦА *зак.* Скрывіцца. *Чого́ ты так сканазо́білась?* Дзяражычы.

СКАРАДА' *ж.* 1. Усходы жыта ўвосень. *Скарада́ уво-*

*сень, а уруна весной.* Вулкан. *Скарадá кажуць, увосень жыта узойде.* Вулкан. 2. Усходы збажыны. *О-о, хорóшая скарада у мене на полóсі: так роўненечка узышла пшэніца.* Ручаёўка.

СКАРЭ'НЕЧКА *прысл.* Скоранька. *Выкінулі ката, а ён скарэ́нечка у хату.* Пярэдзелка. *Скарэ́нечка сталы усцілаюць.* Ручаёўка.

СКАРЭ'НЬКА *прысл.* Скоранька. *Гуляй, нехай сохне, а тады пойдеш да скарэ́нька пагрaбаеш.* Карпаўка.

СКАСЫ'РНЫ *прым.* Нядобразычлівы, незычлівы. *Е такіе скасы́рные на мене: усе як водóю л'юць на мене, калі б не еты прэдседацель, дак і не была б на етай робóці.* Дзяражычы. *Свекар мой ее не любіў, казаў: такая урэдная, скасы́рная, шчо наварыць, дак хаваецца да сама паесць.* Крупейкі.

СКАСЫ'РУВАЦЬ *незак.* 1. Крыўдаваць. *О так і скасы́руюць: а я кажу: «Чого на мене скасы́руваць, што я меней за вас раблю?»* Бывалькі. 2. Пляткарыць. *Ены скасы́руюць і кажуць: «О-то тая цётка жыве у Проні, дак Проні добра». Ены скасы́руюць на мене.* Дзяражычы.

СКА'ЦЕРКА *ж.* Абрус. *В'яжуць у нас скáцеркі.* Дзяражычы. *Даматканые е у мене скáцеркі, бачылі?* Казярогі. *Скáцерку звезала, на падушкі накідкі павезала, прыходілі купляць у ее скацерку.* Мохаў. *Екіе не тканые, екіе не сортóвые — усё роўна скáцеркі.* Пярэдзелка.

СКАЦІ'НА *ж.* Хатняя жывёла. *Ачуняла скаціна.* Дзяражычы. *Цепер скаціны багата не держым.* Казярогі.

СКАЧО'К *м.* Конік. *У нас называецца скачóк.* Казярогі.

СКА'ЧЫК *м.* Конік. *О-о, аж сюды скáчык ускочыў.* Ручаёўка.

СКВАЗНІ'К *м.* Скразняк. *Агата казала: сквазнік праняў, дак было крыві даўленне.* Дзяражычы. *Такі сказнік іде, я прызбу адгрэбла.* Бывалькі. *Не седі на сказнікý, бо прастудісся.* Ручаёўка.

СКВАРО'К *м.* Скварка. *Іжжарыць табе скварóк?* Пярэдзелка. *Матка скваркóў напрэгла цэлы чыгун.* Дзяражычы. *Дед мой з работы прышоў, дак я ему нажарыла скваркóў, наеўся з блінамі і лёг.* Пярэдзелка.

СКЕ'ПКА *ж.* Лучына, трэска, шчэпка. *Там, за комінам, вазьмі скéпку.* Бывалькі. *Жонка сосóхла на скéпку. Я ешчэ маленькая была, мы з бабай ішлі, а скéпка адлецела да прама ёй у вока, дак с тых пор ена нічога не*

*бачыць на адно вока.* Пярэдзелка. *Памянш.* скéпачка. *Скéпачку запалім сабе на комінку дай седім, в'яжам.* Ручаёўка.

СКІК *дзеясл. выкл.* Скок. *Калісь ехалі у гала, дак я скік із возу, а ён па кабылі.* Ручаёўка. *Па холаду бегла, а ена іде да скік, скік.* Чаплін.

СКІКА'ЦЬ *незак.* Скакаць. *А там столькі скачыкаў скікáе, аж страшна.* Ручаёўка.

СКІ'НУЦЦА *зак.* 1. Распрануцца. *Мне трэба скінуцца да корóві нажаць.* Дзяражычы. 2. Прыкінуцца. *Жэншчына скінулася авечкаю і ходіць по Корчóмцы.* Ручаёўка.

СКІ'НУЦЬ *зак.* 1. Скінуць. *Машына уночы загурчала — і скінулі дровы.* Дзяражычы. 2. Зняць з работы. *Ена робóтала у магазіне да праштрапілась, дак ее скінулі.* Рудня Марымонава. 3. Радзіць да тэрміну. *Ена не паберажылася да скінула діця, дак ено пажыло два дні і умерла.* Дзяражычы.

СКІ'РТА *ж.* 1. Вялікая ўкладка снапоў у полі, сціртa. *Скідаюць у скірту снапы.* Первамайск. *Скірты на обшчым месці делаем.* Пярэдзелка. *Тады скірду сена наклалі.* Дзяражычы. 2. Мера дроў, складзеных ва ўсю шырыню і вышыню папярочнай сцяны хлява або іншага будынка. *Так, я аж две скірды дроў наклаў на дварэ, на усю зіму хваціць паліць.* Дзяражычы.

СКІТА'ЦЦА *незак.* Блукаць, бадзяцца. *Чалавек скітáецца па свету, багаты калісь не скітáўся па свету, толькі бедные скітáлісь.* Дзяражычы.

СКІ'ТНІК *м.* 1. Бадзяга-бядняк. *Скітнік — чалавек няшчасны, ходіць ад села да села — абіжаны чалавек.* Дзяражычы. 2. Адзінокі чалавек. *Скітнік — ета калі чалавек астаецца адін у хаці і жыве адін усё урэм'я.* Дзяражычы. *Ото седіць тут баба, як скітнік.* Бывалькі. *Памянш.* скітнічак. *Хаділі му як скітнічкі.* Дзяражычы.

СКЛАДА'НЕЦ *м.* Постаць. *Такога складáнца, як у Танінай дачкі, ніде німа.* Ручаёўка.

СКЛАДО'ЧАК *м.* Невялікая паласа. *Картоплі склодóчак астаўся.* Ручаёўка.

СКЛА'СЦІСЯ *зак.* Памерці. *Уночы пошóў у невад, да налавіў рыбы, да ішоў додому і не дойшóў і склаўсь.* Дзяражычы.

СКЛІ'ЗКІ *прым.* 1. Слізкі, коўзкі. *Дай рукі буду вы-*

*ціраць, бо склізкіе.* Бывалькі. 2. *перан.* Вёрткі, коўзкі. *Склізкіе крупейцы — з рук выкоўзуюцца.* Карпаўка.

СКЛУ'БІЦЦА *зак.* Згорбіцца. *Сына ажэніла, узела невестку, ужэ і склу́білась.* Дзяражычы.

СКО'ЛАВАНЫ *прым.* Сшыты без вышыўкі. *Скóлаваные рукава — без чэхлоў, як цепер носяць.* Пярэдзелка.

СКО'ЛЬКІ *прысл.* Колькі. *Вам адну таблетку ілі скóлькі ад задышкі?* Бывалькі.

СКО'МЧЫЦЬ *зак.* Скамячыць. *Прышла додóму, хвартух скінула, скóмчыла да за сундук закінула.* Пярэдзелка.

СКО'РАНЕЧАЧКА *прысл.* Хуценька. *Скóранечачка бежы к бабі.* Дзяражычы.

СКО'РАНЕЧКА *прысл.* Хуценька. *Пойдам скóранечка додóму.* Карпаўка.

СКО'РЫ: *на скóрую.* У хуткім часе, адразу ж. *Бацька раз аж у Амісціцкім найшоў парася, бо на скóрую пошóў шукаць.* Дзяражычы.

СКОТ *м.* Хатняя жывёла. *Ету полóску, де завіць, зжыналі, але нікуда не упатрэблялі: ні сабе, ні скату́.* Дзяражычы.

СКРА'ЖКА *ж.* Ракавінка. *Му скрáжкі даставалі з рэкі да здавалі, дак Таня купалася да скрáжкай парэзала ногу.* Дзяражычы. *Я две тысечы за скрáжкі палучыла тымі грашамі. Бывалькі. Мужчына як зачарэпае, дак багата скрáжак вуцягне.* Пярэдзелка. *Мы не гадавалі кабана тым м'ясам, тымі скрáжкамі, а у нас багата хто карміў свіней скрáжкамі.* Чаплін.

СКРО'ЗНЫ *прым.* Скразны. *Скрóзная даска называлась лаўка, к сцене була прытуленая.* Пярэдзелка. *От тамака і отцета две ножкі і скрóзная даска — называецца лаўка.* Чаплін.

СКРО'ЗЬ [1] *прысл.* 1. Заўсёды. *Ён скрозь прыходіў ка мне.* Вулкан. *Ена скрозь нас вузваляла.* Дзяражычы. *Маша на дварэ гадуе свіней, а я у хлеві гадавала скрозь.* Крупейкі. *Первая жонка скрозь душу кулаком грэла, а етую узяў, дак на руках насіў.* Ручаёўка. 2. Усюды. *Нача скрозь, куды не пагляжу, мне туман.* Первамайск. *Да цепер так худа скрозь: ногі, рукі баляць, усё баліць.* Ручаёўка.

СКРОЗЬ [2] *прыназ.* 1. Праз. *Мне так цёмна, як скрозь полотнó гледжу дай годе.* Дзяражычы. 2. Супраць, супроць. *Скрозь ноч я б ні пашла нікуды.* Карпаўка.

СКРУЦІ'ЦЦА *зак.* 1. Пусціцца ў гулі. *Прышла да кажа, шчо баба цеснойськая скруцілася: гуляе з кім папала.* Дзяражычы. 2. Ашалець. *Быў, детачка, у мене сабака, такі чорны, здаровы, да тым летам скруціўся і здох.* Пярэдзелка.

СКРУЦІ'ЦЬ *зак.* Зарэзаць (пра хатнюю птушку). *Скручў вутку да з'ем.* Ручаёўка. *Сеголета мо десяць гусей скруціла.* Чаплін.

СКРЫГА'ЛЬ, СКРЫГЕ'ЛЬ *м.* 1. Кусок (сала). *Мы сала дадім ёй скрыгалі.* Дзяражычы. *Ён бачыш, екі скрыгель сала берэ.* Пярэдзелка. 2. Кавалачак. *Скрыгéль ёй нада абварыць, а не кусок, толькі скрыгéль.* Дзяражычы. *Памянш.* скрыгéлічак. *Скрыгéлічак сала з'ела і на увесь день, нічога не хочу есці.* Пярэдзелка.

СКРЫЖА'ЛІНА *ж.* Кавалак лёду, замёрзлай зямлі і інш. *Скрыжáліна упала і Ганні па галаве.* Пярэдзелка.

СКРЫПЕ'ЛЬ *м.* Нарост на дрэве. *Скрыпéль запаліць да на палку і к пчолам.* Пярэдзелка. *Скрыпéль еты на дераві расце.* Ручаёўка.

СКРЭ'МНІЧАЦЬ *незак.* Быць сціплым. *Гаравала усю жысць да усё скрэ́мнічаю, да усё баюся.* Дзяражычы.

СКУ'БЦІ *незак.* 1. Скубці. *Коні на лузе скубýць траву.* Дзяражычы. 2. Шчыпаць, пячы (пра мароз). *І сегодні мене оцета тут і скубé, ужэ нача і холадна.* Дзяражычы.

СКУГЛІ'ЦЬ *незак.* Ныць, скуголіць. *Чогó ты скугліш, ено ж не баліць.* Пярэдзелка.

СКУЛА': *хоць к скулé прылóж.* Аб спакойным, рахманым чалавеку. *Такі ужэ смірны хлопец, што хоць к скулé прылóж.* Дзяражычы. *Ліхáя скулá.* Аб злым, шкодным чалавеку. *Ена ж такая урэдная, што ліхáя скулá. Свекрухі той гаді, што ліхóй скулé. Ліхáя — самая плахая, што з свекрухай сраўніваюць.* Дзяражычы.

СКУПАВА'ЦЬ *незак.* Скупіцца. *Ены скупýюць, а нема у іх у хаці нічога добрага.* Дзяражычы.

СКУПУ'ЧЫ *прым.* Скупы, сквапны. *Тая жонка була удаленная да прыстойная, а ета скупýчая.* Дзяражычы. *Паганая була матка, такая скупýчая.* Бывалькі. *Абое такіе скупýчые, рошчóтные.* Крупейкі.

СКУПЯРДЗЯ'КА *м., ж.* Скнара, скупеча. *Скуперд́яка такі, што свет не бачыў.* Ручаёўка.

СКУСНЕ'Й *прым.* Смачней. *Молокó у етай корóвы було скуснéй, чым у первай.* Пярэдзелка.

СКУ'СНЫ *прым.* Смачны. *Такі скýсны боршч навaрыла, усё з'елі да капелькі.* Казярогі.

СКУЧА'ЦЬ *незак.* Сумаваць. *Когó нема у цебе, значыць, ты па ём скучáеш.* Ручаёўка.

СКУ'ЧНА *прысл.* Сумна, нудна. *Прайдіцесь, детачкі мае, шчоб вам ахвотней було, не скýчна.* Дзяражычы.

СЛА'БА *прысл.* 1. Дрэнна. *Я'кась слáба вучыўся.* Ручаёўка. 2. Мала. *Палучка нам слáба сеголета.* Дзяражычы.

СЛАБАНЕ'Й *прысл.* Вальней, свабадней. *Нача і слабанéй стала у хаці, як вунеслі караваць.* Казярогі.

СЛА'БЕНЬКА *прысл.* Цяжка. *Ён так лежыць слáбенька.* Ручаёўка.

СЛАБЫ' *прым.* Хворы. *Мой Іванька такі слабы́ стаў, наверна, скора памрэ.* Бывалькі. *Кажуць, Марына саўсім слабáя.* Дзяражычы. *Памянш.* слабéнечкі, слабéнькі. *Ена ужэ-то слабéнечкая у его, скора памрэ.* Дзяражычы. *Хлопчык радіўся пасля хронту слабéнькі, памер.* Бывалькі.

СЛА'ВА *ж.* Ганьба. *Да сватай мене, казачанька, да не ўводь, не ўводь мене у слáву. Ох, не я цебе у слáву увожу, ты сама себе у слáву уводіш, што позненька да не раненька па вечарах гуляць ходіш* (З нар. песні). Дзяражычы.

СЛАБО'ДА *ж.* 1. Свабода. *Нам як далі слобóду у семнаццатым гаду, і цепер жывом добра.* Бывалькі. 2. Незанятасць. *Нам слобóда е зайці пагуляць трохі у вас.* Дзяражычы.

•СЛА'БШЫ *прым.* Слабейшы. *Цехніка у японцаў слáбшая буде, чым у нас.* Крупейкі.

СЛАЖА'ЦЦА *незак.* Складацца. *Жызня вельмі сложна слажáецца.* Дзяражычы.

СЛАКАТА'ЦЬ *незак.* Шчыкатаць, казытаць. *І стаў Петро слакатáць.* Пярэдзелка.

СЛАСНЕ'Й *прысл.* Смачней. *Чаму ёй не сласнéй із'есці: і корóву імее, і усадьба е, і грошы палучае.* Дзяражычы.

СЛАТА' *ж.* Дакучлівы, назойлівы чалавек. *От слатá, надаела ты мне.* Дзяражычы. *Тая слатá Манька, як прыўяжыцца, дак не адчэпісся.* Пярэдзелка.

СЛА'ЎНА *прысл.* 1. Прыгожа. *А слáўна пеюць.* Ручаёўка. 2. Добра, шмат. *Як ён вычухаецца, дак так слáўна паесць, а не вычухаецца, дак есць і болбóча.* Дзяражычы.

*Дала парасятку, дак так сла́ўна узелося есці.* Пярэдзелка.

СЛЕП *прым.* Сляпы. *Не плакаў бы слеп, калі б бачыў свет.* Карпаўка.

СЛЕПАВО'КІ *прым.* Падслепаваты. *Я саўсім слепаво́кая стала, нічога не бачу, далёка бачу, а зблізку — нічога.* Пярэдзелка.

СЛІ'ЗЕНЬ *м.* Слізняк. *Слізні у лесі жывуць, на траве седяць.* Ручаёўка.

СЛІ'МЕНЬ *м.* 1. Слівень. *Слімень сільней вужа.* Пярэдзелка. 2. *перан.* Тоўсты, сыты (чалавек). *Первачка запускаецца, ходіць, шо на ёй вада акачуецца, вада не держыцца, ходіць, як слімень.* Дзяражычы.

СЛО'КАТ *м.* Шчыкотка, козыт. *Я сло́кату вельмі баюся.* Пярэдзелка. *У нас кажды баіцца сло́кату.* Чаплін.

СЛО'КАТКА *ж.* Шчыкотка, козыт. *Ой, не слакачы, я так сло́каткі баюсь.* Казярогі.

СЛО'КАТНА *прысл.* Шчыкотна. *Сло́катна у етай адежы.* Пярэдзелка.

СЛОН *м.* Услон. *Слон за стол пастаў.* Ручаёўка. *Он беры слон да садіся.* Чаплін.

СЛУ'ХАЦЬ: *слу́хаць як у ву́ха.* Быць паслухмяным. *Я баялась сваю матку, як у ву́ха слу́хала.* Дзяражычы.

СЛУЧА'Й *м.* Выпадак. *Случа́й шчэ адін буў.* Первамайск.

СЛУЧЫ'ЦЦА *зак.* 1. Здарыцца. *Можа, шчо случы́цца якраз пад той танец.* Дзяражычы. *Багата де случа́лася бываць.* Чаплін. 2. Натрапіцца. *Хто случы́цца, дак і нада угасціць чалавека.* Дзяражычы.

СЛЮ'НЬКА *м.* Ёрш. *Думаў, добрую паймаю, а тут слю́нька.* Бывалькі.

СЛЯПУ'ЮЧЫ *прысл.* Падслепавата. *Хоць слепу́ючы, да гледіш.* Дзяражычы.

СМАКТУ'Н *м.* 1. Смактун. *Кабанчык такі смакту́н папаўся, не папраўляіцца ніяк.* Дзяражычы. 2. Грузкая зямля. *Смакту́н — земля, екая грузне.* Дзяражычы. *Пасаділа капусту, дак і не расце на етам смактуне́.* Бывалькі.

СМАЛІНА' *ж.* Смаліна. *С аднае смаліны́ токо́й хоро́шай светла.* Ручаёўка.

СМАЛО'ВЫ *прым.* Сасновы. *Дровы смоло́вые, сырые.* Казярогі.

СМАЛЬЦ *м.* Шмалец. *Я вам кашу са сма́льцам зраблю.* Ручаёўка.

СМАРЧО'НАК *м.* Неслух. *Ах ты, смарчóнак, хадi сюды, я табе пакажу, як брацъ чужое. Каму я казала: не чапай, ета ўсё девачак, што у нас жывуць.* Пярэдзелка.

СМА'ШНЫ *прым.* 1. Смачны. *Табе тое не угодна, тое не смáшна — не угодiш.* Дзяражычы. *Хоць i воўна, абы кiшка поўна — не прыгледайся, шо не смáчнае, паеў абы што.* Дзяражычы. 2. Добры. *Жысць была не вельмi смáшная: i нолóгi булi, i штрахоўкi.* Карпаўка.

СМЕРЦЬ: *чэснаю смéрцю.* Сваёй смерцю. *У прэстарэлы дом пайду, дак чэснаю смерцю закапаюць i усе.* Дзяражычы. *Смерць прышлá.* Прышоў час памерцi. *Адна прасiла, дак смерць прышла, дак ена кажа, каб я шчэ пажыла.* Дзяражычы.

СМО'ЛКА *ж.* Малако каровы перад цяленнем. *Еслi смóлка паявiлася, то да целення мала асталась.* Першамайск. *Цепер корóва дае адну смóлку.* Ручаёўка.

·СМОЛЬ *ж.* Смалiна. *Трэба наколóць смóлi, бо без ее трудна запалiць у печы.* Пярэдзелка.

СМО'РАД *м.* Смурод. *Нарабiў смóраду поўненечкi двор.* Дзяражычы.

СМУ'ЦЕН *прым.* Смутны. *Салавей, солóвушка, смýцен, не весёл, голóвачку павесiў, зёрна не клюеш* (З нар. песнi). Карпаўка.

СМУ'ЧАНЫ *прым.* Хворы. *Корóва ходiць, не есць, нача смýчаная.* Дзяражычы.

СМЫК *м. перан.* Худы, галодны чалавек. *Наеўся як бык, перагнуўся як смык, а голóдны, як сабака.* Дзяражычы.

СМЯКНУ'ЦЬ *зак.* Сцямiць, падлiчыць, падумаць. *Да смекнi, колькi мужчын нiма: у мене два зецi паклалi, Сцепана убiлi, а жонкi нiма, дiцятка скiтаецца, забралi у прыют.* Бывалькi.

СМЯРЦЕ'ННЫ *прым.* Смяротны. *Я смерцéнная плацця забрала i панесла туды.* Дзяражычы.

СНАВА'ДЛА *н.* Прыстасаванне, пры дапамозе якога снуюць кросны. *Снавáдла — доска доўгая, дiрачкi е, туды забiваюць калкi i прыбiваюць к сцене.* Дзяражычы. *Оцета i буде тое снавáдла.* Казярогi.

СНАВА'КА *ж.* Жанчына, якая снуе кросны, снавальшчыца. *Калiсь я була добрай снавáкай.* Казярогi.

СНАВА'ХА *ж.* Снавальшчыца. *Мар'я аснавала кросна. Ена хорóшая снавáха.* Карпаўка. *I я умею снавацъ, а луччаю снавáхаю у нас Ганна Чавенкова була.* Цясны.

СНА'ЎДАЦЦА *незак.* Сноўдацца. *Як нап'ецца, дак і снáўдаецца па селу.* Казярогі. *Матка век дома не седіць, толькі і снáўдаецца па хатах.* Мохаў.

СО'ВЕСНЫ *прым.* 1. Сумленны. *Цепер багата сóвесных людей.* Ручаёўка. 2. Нявінны, цнатлівы (пра дзяўчыну). *Будь ты сóвесная ці не сóвесная, а павелі у хлеў спаць* (пасля абраду вянчання). *А еслі не сóвесная — хамут маццы адеваюць на шыю: дачка твая не сóвесная, а тады букеты чорные прышываюць.* Дзяражычы.

СО'ВЕСЦІЦЦА *незак.* Саромецца. *Чалавек прышоў у хату да сóвесціцца прайці далей.* Ручаёўка.

СОН [1] *м.* Сон. *Напаў сон, цэлы день хочу спаць.* Дзяражычы. △ *На сон клóніць.* Хочацца спаць. *Такая балезня, што толькі на сон клóніць.* Дзяражычы.

СОН [2] *м.* Сланечнік. *Сон буде цвісці, тады абразуецца калесо.* Дзяражычы.

СОН [3] *м.* Кветка сон. *На палянцы ужэ паказаўся сон, а кругом лежыць снег.* Пярэдзелка.

СО'НАЧНІК *м.* Сланечнік. *Сóначнік бальшы буў, курыца па сóначніку водіць.* Дзяражычы.

СО'ПКІ *прым.* Сопкі. *Кордóплі сóпкіе сёлета.* Дзяражычы. *Нашы свахі нéмы, нашы свахі нéмы, грэцкаю полóву елі, грэцкая полóва сóпка, дак пазалегала глотка* (З нар. песні). Дзяражычы.

СО'РАКІ *мн.* Памінкі. *На сóракі, кажуць, трэба сорак бліноў спекці да з'есці.* Ручаёўка.

СО'ТКА *ж.* 1. Сотка (1/100 гектара). *Ты мне дабаў шчэ адну сóтку горóда.* Чаплін. 2. Бутэлька, пляшка (100 грамаў гарэлкі). *Он прынесла сóтку, іді да выпі.* Пярэдзелка. *Сóткі рэдка цепер прадаюць, а болей паўлітры.* Чаплін.

СО'ША *ж.* Шаша. *Ле нас сóша прохóдіць, машыны ходяць.* Карпаўка.

СПАБЕ'КНУЦЬ *зак.* Надзівіцца. *Усе не спабéкнулі, як ены за ею плакалі.* Пярэдзелка.

СПАВІТО'К *м.* Спавівач. *Діця спавіваюць спавіткóм.* Дзяражычы. *Де еты спавітóк деўся?* Пярэдзелка. *Діця у спавіткý лежала: без спавіткý не можа заснуць: рукамі драпаецца і крычыць.* Ручаёўка.

СПАВЯСЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Наведаць. *Дайно ужэ не бачыла ее, як бы ета спавесціць ее.* Пярэдзелка. 2. Прадказаць. *Сон вот спавісціў, і усе збылося.* Дзяражычы.

СПАВЯШЧА'ЦЬ *незак.* Прадказваць. *Шчо вот ено*

*спавешчáе чалавеку. Як калі шчо прысніцца, дак збудецца.* Дзяражычы.

СПАГАНЯ'ЦЬ *незак.* 1. Спаганяць. *Дала, дак спаганяй цепер, праўду кажуць: дай рукамі — хадзі нагамі.* Дзяражычы. 2. Успамінаць. *Што було, того́ не спаганя́ць. Баба расказувала: пры панах давалі кужаль; як ету пражу даведеш добра, дак не палучыш розак, а як не даведеш — палучыш розак багата. А цепер мы людзі вольные, а того́, што було калісь, не дай божа, не трэба і спаганя́ць.* Бывалькі.

СПАДНЯ'К *м.* Ніжні камень у жорнах. *Шчэ у жорванах е спадня́к.* Ручаёўка.

СПАДО'БАЦЬ *зак.* Спадабаць, пакахаць. *Ее сподо́бaў салдат дай узяў.* Первамайск.

СПАЖЫВА'ЦЬ *незак.* Перажываць. *Усе мы спажыва́лі тое урэм'я цежолае, тую войну, шоб ена ніколі не вернулася, шоб нашы деці і унукі век ее не зналі.* Дзяражычы.

СПАКАЗА'ЦЦА *зак.* Паказацца. *Зрання нача дошч ішоў ці мне спаказа́лася.* Дзяражычы.

СПАКІ'НУЦЬ *зак.* Пакінуць. *Еслі б ты спакінуў да мене адну, а то спакінуў діцятачку малу* (З нар. песні). Чаплін.

СПАЛА'ХАЦЦА *зак.* Спалохацца. *Той Іван спала́хаўся.* Ручаёўка.

СПАЛЮБІ'ЦЬ *зак.* Палюбіць. *Нашто Анюту спалюбіў?* Ручаёўка.

СПАМЯНУ'ЦЬ *зак.* 1. Успомніць. *Мар'я ні спамене́ ніколі.* Ручаёўка. *Гора спамене́цца.* Чаплін. 2. Успомніць, дакараючы. *Адну перашыла, ніколі не спамену́ла, не сказала слова плохо́га.* Ручаёўка.

СПАРЫШЫ' *мн.* Два зрошчаныя дрэвы. *Етым спарыша́м годо́ў дваццаць буде.* Ручаёўка.

СПАРЭ'ННЕ *н.* Выпарэнне. *Токóе ж спарэ́нне, дыха́ць нечым.* Ручаёўка.

СПАС *м.* Уратаванне. *Коля ізноў паехаў у Лоеў, спа́су нема тым зубам.* Дзяражычы.

СПАСАБНЕ'Й *прысл.* Лепей. *З весны кой-чым было падражняць, дак спасабне́й, а цепер саўсім плоха, нема чым карміць кабана.* Дзяражычы.

СПА'САЎКА *ж.* Час двухтыднёвага посту. *У спа́саўку не елі скоро́мнага.* Ручаёўка. *Спа́саўка — ласаўка, петроўка — галадоўка.* Чаплін.

СПАСЕ'ННЫ *прым.* Рэлігійны, набожны. *Ены ужо такіе спасе́нные.* Ручаёўка.

СПАСІ'ЦЕЛЬ *м.* Рэлігійнае свята. *На гору на спасіцеля палезла, да упала і ногу паламала.* Ручаёўка.

СПАСІ'ЦЦА *незак.* Выкананне ўсіх абрадаў спаса. *Ні спасіўся, ні маліўся, чым я богу прыявіўся.* Первамайск.

СПАСО'БНЫ *прым.* 1. Здатны, здольны. *Коля мой спосо́бны к вучэнню.* Ручаёўка. 2. Працавіты. *Пара спосо́бная: і ён такі, шчо не згуляе, і ена усё за робо́таю.* Дзяражычы.

СПАСЦІ'СЯ *зак.* Выратавацца. *Пусціў немец вал вады — спасісь ад вады. Пацеры многа було.* Дзяражычы. *Можа, му спосо́мся.* Ручаёўка.

СПАТАРО'ЧЫЦЬ *зак.* Усхваляваць, узрушыць. *Прышла пол мыць, а тые деці так мене спатаро́чылі: у мене сваіх жа нема.* Дзяражычы.

СПЕ'КЦІ *зак.* Спячы, засмажыць. *Ена ж коўбічак як начыніць да перчыку накладе, да цыбулькі да спечэ́.* Дзяражычы. *Хаця б ты чого́ задумала да спекла.* Вулкан.

СПІЛЯ'ЦЬ *зак.* Спілаваць. *Высокую сасну спіля́лі.* Крупейкі.

СПІ'САВАЦЦА *незак.* Весці перапіску. *Му спісывалися пісьмамі.* Дзяражычы. *Таня доўга спісавалась са мной.* Казярогі.

СПІСАК: *на спісак пісаць.* Адзначаць, занатоўваць што-небудзь. *Брыгадзір піша на спісак.* Дзяражычы. *Ена прама на спісак піша.* Ручаёўка.

СПІ'ЦЦА *зак.* Спіцца. *З етай Просей век не сап'ешся.* Дзяражычы. *О-о, з ею нельзя спіцца, усеадно ее верх буде.* Цясны.

СПЛА'КАЦЦА *зак.* Выплакацца. *Ена так спла́калась, чуць паехала і усё вочы вуцірала.* Дзяражычы.

СПЛОЧ *прысл.* Скрозь, запар. *У нас наваднение не сплоч: на вышшым сеем, а нізіны косім.* Первамайск.

СПЛЮЧЫ' *дзеепрысл.* Лёгка, без напружання. *І сплючы́ свае вувучыла я.* Дзяражычы. *Уранні сплючы́ даю коро́ву.* Крупейкі.

СПО'ДНІЦА *ж.* Спадніца. *Спо́дніца доўгая у цебе, ты б трохі падшыла ее.* Бывалькі.

СПО'ЛЬГА *ж.* Спакой, спачынак. *Нада табе спо́льга.* Дзяражычы. *Калі б я спо́льгу давала назе, то б ена і вылечылась.* Дзяражычы.

СПО'МНІЦЬ *зак.* Успомніць. *Ён і ні спо́мніць ні адной песні.* Ручаёўка. *Спо́мні, як мы с тобо́ю любіліся.* Чаплін.

СПО'РКА *ж.* Сварка, лаянка. *Як чуць — у спо́рку, і нікога не слухае.* Бывалькі. *Самі з собо́й спо́рку заведуць.* Ручаёўка.

СПО'РЦІЦЦА *зак.* Сапсавацца. *Кніжкі чытаў непатрэбные, вочы спо́рціліся.* Вулкан. *Як не спо́рціцца, вўчыцца харашэ.* Ручаёўка.

СПО'РЦІЦЬ *зак.* Сапсаваць. *Спо́рціла мне цётка Ганна кохту.* Пярэдзелка. *Шыла соро́чку да саглуміла, спо́рціла. Калісь малую просціну спо́рціла: узор крыва вупісала, я не пагледела, а ена так і пашыла — усе спо́рціла.* Цясны.

СПРАВЕ'ТНЫ *прым.* Даўні, даўнейшы. *Удалёўка — старая дерэўня, справе́тная, шчэ калішняя.* Вулкан.

СПРА'ВІЦЬ *зак.* 1. Справіць, нажыць. *Спра́віла пальто, а тады куплю баціӈкі.* Дзяражычы. *Мне калісь мой жаніх нічога не справіў, а цепер спра́ўляюць невестам.* Мохаў. 2. Патрабаваць, браць. *У нас стараста спраўля́ў ноло́гі. Еслі не спра́віў, прыежджае старшына.* Бывалькі. *Я як каму даўжна о тры капейкі грошай, дак ены прыдуць да спра́вяць.* Дзяражычы.

СПРАДКА' *прысл.* Спрадвеку. *Старые як папала гово́раць спрадка́. Спрадка́ — ізначала жызні.* Ручаёўка.

СПРАКВАЛЯ' *прысл.* Павольна, спакойна. *Ідзі спракваля́, не упадзі.* Ручаёўка. *Як спракваля́ хто скажа, дак я усё разберу.* Цясны.

СПРА'КУ: *спра́ку ве́ку.* Спрадвечна. *Ены спра́ку ве́ку жывуць тут, і деды іх тут жылі.* Казярогі.

СПРАМАГА'ЦЦА *незак.* 1. Змагацца. *Ены за сваю праўду спрамага́ліся.* Вулкан. 2. Спрачацца. *Не знае, а спрамага́ецца, аж сепае.* Казярогі.

СПРАСТА'ЦЦА *зак.* Справіцца. *Ідзіце, я з вамі не спраста́юсь.* Дзяражычы. *З ім ніхто не спраста́ецца іці: як адін шаг зделае, дак метра.* Ручаёўка.

СПРАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* 1. Патрабаваць, сыскваць. *Я злекалась, думаю, што леташні ноло́г спраўля́юць.* Бывалькі. *Спраўля́ў о цеты молоко.* Чаплін. 2. Адзначаць. *Старая спраўляе деды па закону.* Пярэдзелка. △ *Спра́ўкі спраўля́ць.* 1. Шукаць, дабівацца чаго-н. *А гуляе десь, трэці год спраўляе спра́ўкі.* Дзяражычы. 2. Купляць

адзенне, вопратку. *Ім жа, дейкім, трэба жыць да спра́ўкі спраўля́ць*. Дзяражычы.

СПРА'ЎНЫ *прым*. Поўны, тоўсты. *Ена ж цепер такая спра́ўная стала, хорошая такая маладіца*. Дзяражычы. *Ён буў спра́ўны зімой, а цепер пахудаў*. Чаплін.

СПРА'ШУВАЦЬ *незак*. Пытацца. *Я у агранома спра́шуваў*. Казярогі. *Спра́шуваў у девак, куды ены пойдуць, дак не сказалі*. Мохаў.

СПРЫ'ЗБА *ж*. Прызба. *У нас век на спры́збі гуляюць*. Дзяражычы. *Спры́збу ужэ закідала, дак цеплей у хаці стала*. Крупейкі.

СПРЭ'ГЦІ *зак*. Спячы. *Я сёдні спрэ́гла еешню*. Дзяражычы. *От спрэ́гла вам на снеданне грыбок*. Ручаёўка.

СПУЖА'НЫ *прым*. Спу́жаны. *Хлопец ужэ спужа́ны*. Дзяражычы.

СПУ'СКУВАЦЦА *незак*. Слабець, хварэць. *Я як бы пад'ела грэцкага бліна з салам, дак і бачыла б, не спу́скуваліcь вочы*. Дзяражычы.

СПУ'СЦІК *м*. 1. Малы хлопчык, які ходіць спусціўшы штаны. *Бач, екіе спу́сцікі бегаюць*. Пярэдзелка. 2. Някемлівы чалавек. *Спу́сцікам расце ён у мене, нічога не панімае, а ужэ больш за дваццаць годо́ў*. Пярэдзелка.

СПЫ'ЛЬЧЫВЫ *прым*. Запальчывы. *Ена сама хоро́шая, а свекруха трохі спы́льчывая, і Мікалай спы́льчывы*. Дзяражычы. *Я кагу: мая дачка, мне твой жэніх не нара- віцца, спы́льчывы*. Ручаёўка.

СПЯ'ЧКА: *спя́чку наспа́ць*. Набыць схільнасць да спання. *Карп, уставай, ты спя́чку сабе наспіш, што ты робіш. Дак ён прачнуўся да каа: «Я сейчас пайду», а сам зноў спіць. Такая балезня, што толькі на сон клоніць*. Дзяражычы.

СРО'ДЦТВА *н*. 1. Родзічы. *Выбралі Андрэя: сро́дцтва закінула слова. Можа, у цебе у радімам краю есць сро́дцтва?* Дзяражычы. *Во як е сро́дцтва, дак цебе жалеюць, а мене ніхто не жалее*. Чаплін. 2. Роднасць. *Ішоў чалавек, а жалі жыта мужчына і жэншчына. Чалавек і гово́рыць: «Пamaжы божа вам жыта жаці, муж із жаной». А ены атвечаюць: «ні муж із жаной, ні брат із сестрой. Его матка да маёй маццы свекруха была». Екое сро́дства было? Хто з кім жаў?* Крупейкі.

ССЯДА'ЦЬ *незак*. Прысядаць (адпачыць). *Як устану досвіта, дак не сседа́ю да вечара*. Ручаёўка.

СТА'ВІЦЬ *незак*. 1. Рыхтаваць. *Нада ста́віць варыва.*

Дзяражычы. 2. Адзначаць. *Заўтра трэба стáвіць май.* Казярогі. *На тройцу май будуць стáвіць.* Чаплін.

СТАВЫ' *мн.* Ткацкі стан. *Нада збіць ставы́, будем навіваць кросна.* Дзяражычы. *Цета два бакі — устоі прыладім, і будуць ставы́.* Мохаў. *Он у Чавенковых ставы́ чуць не хату займаюць, а у Заступа невелікіе, паставіш — і места мала займаюць.* Цясны.

СТА'ДА *ж.* Статак, чарада. *Заўчора уся стáда хаділа на картóшкі.* Ручаёўка. *Выгналі цёлку у абагуленую стáду.* Чаплін.

СТА'ДНІК *м.* Бугай. *Стáдніка нема у стаді.* Карпаўка. *У нас у дерэўні два поро́дістых стáднікі.* Казярогі.

СТАДО'ЛА *н.* Вялікі будынак. *Хата усероўна як стодо́ла.* Дзяражычы.

СТАЙМА' *прысл.* Старчма. *Стаймá стаўлеюць доскі, каб папрасыхалі.* Карпаўка.

СТАЛАЎНІ'К *м.* Кватарант. *У іх то сталаўнікі, то другое, дак капейка усегда е.* Дзяражычы.

СТАЛЬВА'ГІ *мн.* Драўляныя ворчыкі. *Кручок цапляе за стальвáгі — ета такіе драўляные валькі.* Дзяражычы.

СТАЛЬНІ'ЦА *ж.* Сталяніца, дошка столі. *Стальніца гнецца, гліна сыплецца.* Казярогі. *Стальніцы рэжуць, скора столь можна буде слаць.* Пярэдзелка.

СТАЛЬНІ'ЧЫНА *ж.* Сталяніца, дошка столі. *Трэба многа гваздоў, штоб папрыбіваць стальнічыны да балак.* Пярэдзелка.

СТАН *м.* 1. Стан, фігура. *Пашый мне соро́чку, каб ена была у стан.* Казярогі. 2. Верхняя частка кашулі, плацця. *Ета я ужэ атрэзала сабе стан.* Первамайск. *Калі шыеш, папераду стан прышываеш, а потым рукава прышываеш.* Ручаёўка.

СТАПО'РШЧЫЦЬ *зак.* Пашыць абы як. *Так-сяк стопо́ршчыла світку да й добра.* Дзяражычы. *Ён як стопо́ршчыць што-небудь, дак ні сабе пагледець, ні другому паказаць.* Ручаёўка. *Нехай хто покро́іць, дак і сама б як стопо́ршчыла кохту.* Цясны.

СТАПТА'РКА *ж.* Грыбы, якія растуць на полі. *Калісь пойдеш, наберэш етых стаптáрак, а цепер ніхто іх не берэ.* Крупейкі.

СТАРАБУ'ТНЫ *прым.* Старадаўні. *Старабу́тные робо́ты — акрайкі, нобо́жнікі.* Ручаёўка. *Нашы бабы старабу́тные робо́ты делаюць.* Цясны.

СТА'РАДНЫ *прым.* Стары. *Інцерасней, штоб ад ста́радных етых людей пачуць.* Пярэдзелка.

СТАРАДРЭ'ЎНІ *прым.* Пажылы, у гадах. *Хлопец тожа на гацях робо́тае, ото той старадрэ́ўні — ужэ сорак годо́ў.* Дзяражычы.

СТАРАЖЫ' *мн.* Пчолы, якія пільнуюць вулей. *Station ражы́ етые нікуды не лётаюць.* Ручаёўка.

СТАРАНА' *м.* 1. Бок. *Козлічкі — делае две косачкі: адну на адну сто́рану, а другую — на другую.* Бывалькі. *Павело у сто́рану — памаракі водяць.* Дзяражычы. *Нашы цегаюць сеткі на етай стаpане́.* Казярогі. 2. Старана, палавіна гумна ад току да сцяны для ўкладкі збожжа. *Нашы кладуць снапы у ету сто́рану.* Крупейкі. 3. Старонка, мясцовасць. *Ні того́ я, мамачка, плачу, што чужая старана́, а того́ я, мамачка, плачу, прохо́діць моладасць мая* (З нар. песні). Карпаўка.

СТАРА'ТЛІВЫ *прым.* Стараниы. *Девачка такая стара́тлівая.* Дзяражычы.

СТАРА'ТНЫ *прым.* Старанны. *Діця такое маленькае да як камашка стара́тнае.* Дзяражычы.

СТАРА'ЦЦА *незак.* Клапаціцца. *Ніхто аб ёй не стара́еццa.* Дзяражычы.

СТАР'Ё *н.* Старызна, старое адзенне. *Етага стар'я́ у кожным вуглу хватае.* Дзяражычы. *Стар'ё мы здаем караващніку.* Казярогі.

СТАРУ'Н *м.* Мяцеліца, завіруха. *Стару́н — крэпкі вецер, буран.* Пярэдзелка.

СТАРУ'ЧЫ *прым.* Вельмі стары. *Такая ужэ стару́чая, мне мо сто годо́ў буде.* Дзяражычы. *Я ужэ баба стару́чая, стару́чая.* Ручаёўка.

СТАРЧАКА' *прысл.* Старчма. *Ішоў, ішоў і упаў старчака́.* Пярэдзелка.

СТАРЧАНЯ' *н.* Дзіця жабрака. *Калісь старчаня́та хаділі са старцам.* Дзяражычы.

СТАРЫ' *прым. у знач. наз.* 1. Стары. *Шчо стары́е гово́раць на глум, дак молодо́е беры на вум.* Дзяражычы. 2. Муж. *Я слухаю да кажу: лянь, як весела пее, а стары́ мой так танцуе, вубівае.* Бывалькі.

СТАРЫ': *у стару́ю гадзіну.* Некалі, у прошлыя часы. *Ета у стару́ю гадіну так вубіраюць і перабіраюць, а цепер самі дабіваюцца, каб замуж вуйці.* Дзяражычы.

СТАРЫ'К [1] *м.* Старыца. *Старое русло́ — его называюць стары́к.* Пярэдзелка. *Перабрыдом воду, а вада хаді-*

*ла па старыку́, а цепер ужэ не бродім, ужэ нельга, нельга.* Дзяражычы. *Ле школы рэка раней не так цекла, на старыку́ ужэ луг цепер.* Пярэдзелка. *На маёй памеці ужэ сколькі старыко́ў було на нашай рацэ.* Мохаў.

СТАРЫ′К[2] *м.* Поўня. *Маладік сходіць, а стары́к наступае.* Бывалькі.

СТАРЫНА′: *у старыну́ (у стары́нку).* Некалі, даўно. *У старыну́, мае деткі, жылі людi бальшымі сем'ямі. У старыну́ мала было рыбалак, а бацька мой—рыбалка.* Дзяражычы. *У стары́нку худобы багата було толькі у кулакоў, у бедных адна коро́ва, а то і саўсім нічога не було.* Бывалькі.

СТАРЫ′ННЫ *прым.* 1. Вельмі стары. *Калісь круга сядуць дай прэдуць — стары́нные прастарынные людi.* Ручаёўка. 2. Даўні, старадаўні. *Му новые песні знаем і стары́нные прастарынные пеём.* Казярогі. *Важыць — стары́ннае слова, казалі: ізваж мне, а цепер — весіць.* Ручаёўка.

СТА′РЫЦЬ *зак.* Здзерці. *Сегодні ста́рым таранікі.* Рудня Марымонава. *Ста́рыла кортоплі да напекла драчоў.* Чаплін.

СТАРЭ′Й *прым.* Старэйшы. *Еты чалавек старэ́й за мене.* Пярэдзелка.

СТАРЭ′НЕЧКІ *прым.* Вельмі стары. *Жылі у старэ́нечкай хацы.* Казярогі.

СТАЎБУ′НЧЫК *м.* Невялічкі гаршчок. *Баба, а ты толькі стаўбу́нчык баршчу наварыла?* Дзяражычы.

СТА′ЎЛЯЦЬ *незак.* 1. Ставіць. *Машыну ста́ўлею.* Ручаёўка. *А у вас ста́ўлеюць май на троіцу?* Дзяражычы. 2. Будаваць. *Прыехаў да пагледеў, як мне плотнікі хлеў ста́ўлелі.* Пярэдзелка. *Аддельна анбары, клеці ста́ўлелі.* Ручаёўка.

СТАЎПІ′ЦЦА *зак.* Стоўпіцца, сабрацца. *Чо вы стаўпілісь тут да не расходіцесь нікуды.* Дзяражычы.

СТАЦЬ *зак.* 1. Пачаць, пачацца. *Калісь баба завіла жыта на паласе, думала, пабаяцца жаць, а камсамольцы ста́лі тое жыта з завіццю жаць.* Дзяражычы. *Як вайна стала, мы сюды пераехалі.* Ручаёўка. 2. Рабіцца. *Вечарам паслалі кабыліцаю, прыўёз пакет, а кабыліца була рыжая, а ста́ла белая — пад пенай.* Дзяражычы.

СТАЯ′К *м.* Комін. *Цягне у печку плоха, трэ ужэ стая́к ат сажы вучышчаць.* Пярэдзелка.

СТАЯ′ЦЬ *незак.* 1. Стаяць. *Града дубіны стая́ла.* Дзя-

ражычы. *Доўга ты тут будеш стаяць пад вакном.* Крупейкі. 2. Жыць. *У когó ена стаіць? — Десь з Міхалёвай Евай удвох стаяць у бабы Ганны.* Рудня Марымонава.// Быць. *Захварэла, грыб пракляты стаіць у ее, ён і не выходіць, усе свердіць і свердіць.* Дзяражычы. 3. Служыць. *Петнаццаць лет я у Севастопалі перад войной стаяў.* Дзяражычы.

СТО'БКА *н.* Памяшканне для захавання городніны. *Іді бо у стóбку занесі гарачае вугалле.* Пярэдзелка. *З гарода усё у стóбку носяць.* Чаплін. *Раней хаты былі маленькіе, а цепер хаты бальшые, да шчэ трохсценкаў панастроілі, да стóбкі, ці варыўні, як у другіх называюць.* Пярэдзелка. *Памянш.* стóбачка. *Убеглі у стóбачку к брату, так хаваліcь ад бацькі.* Дзяражычы.

СТО'ІЦЬ *незак.* Магчы. *То стóіш на матку так казаць?* Пярэдзелка.

СТО'ЙКА *ж.* Прылада, пры дапамозе якой дзіця вучылася стаяць. *Мой меншы дак у восім месяцаў у стóйцы стаяў.* Пярэдзелка. *Делалі калісь стóйкі, пасерэдіні вуражуць ды становяць діця.* Ручаёўка.

СТО'ЛАК *м.* Услон. *Пастаў стóлак бліжай.* Пярэдзелка.

•СТО'ЎБІК *м.* Ланцужок, звязаны вочкамі. *Ета я вежу стóўбікам.* Казярогі. *Стóўбікі і вочкі лёгка везаць, а зубы ужэ важчэй.* Цясны.

СТОЛЬ [1] *ж.* Столь. *Столь не прадерыце.* Ручаёўка.

СТОЛЬ [2]: *па-за стóллю.* За сталом. *Па-за стóллю седяць.* Чаплін.

СТО'ЛЯР *м.* Цясляр. *Ото ж стóляр пошóў, дак ты папрасі, штоб памог табе.* Ручаёўка.

СТО'ПКІ *мн.* Плеценыя пасталы. *Як наплеце калісь бацька наш стóпкаў, дак мы і паехалі прадаваць іх.* Пярэдзелка.

СТО'СЫ: *у стóсы.* У поўнае падпарадкаванне, не даваць волі. *До тогó мене берэ у стóсы.* Ручаёўка. *Манька узела у стóсы свойго Івана, забыўся і на хлопцаў.* Цясны.

СТРАДА' *ж.* Пакута. *Не рад, што на свеці жывеш: таку страдý цеглі у войну.* Дзяражычы. *Колькі салдат нашых пабілі, як у Берлін прышлі, а усё ж тыкі нашы перамаглі. Ці лёгка було такую стрáду цегці.* Ручаёўка.

СТРАДА'ЦЬ *незак.* Пакутваць. *Схаваліcь у стозе, думаем: ідуць немцы, пасекуць нас у стозе, страдáем.* Дзяражычы.

СТРА'ДНІК *м.* Пакутнік. *Бедные вы деткі, стра́днікі ву мае, мучаць вас там, дак хоць тут пагуляйце.* Дзяражычы.

СТРАЖЭ'Й *прысл.* Больш строга. *У гораді стражэ́й говбраць.* Дзяражычы.

СТРАКА'ЦЬ *незак.* Сустракаць, спатыкаць. *Маць его страка́ла за селом.* Дзяражычы. *Маці дачку да у дарозі стрека́е* (3 нар. песні). Первамайск. *Дак страка́ць добра, а праважаць горка.* Ручаёўка.

СТРАМІ'ЦЬ *незак.* Сарамаціць. *Я ее страмлю́, страмлю́, чогб ты у такім гразным плацці ходіш!* Казярогі.

СТРА'МНА *прысл.* Сорамна. *Стра́мна було, як матка стала пры усіх крычаць на мене.* Бывалькі.

СТРАМНІ'К *м.* Сарамнік. *Ой жа, страмні́к, і не страмна табе перад людьмі, куды ты вышаў на вуліцу у такой кухвайцы, ее толькі закінуць трэба.* Пярэдзелка.

СТРАПІ'ЛІНА *ж.* Кроква. *Страпі́ліны у цебе, Хведос, неважные.* Казярогі.

СТРАСЦІ'ЦЬ *зак.* Ссукаць. *Як упраўлюся, дак шчэ і ніткі страшчу́.* Мохаў. *Оцета я стрысціла две ніткі.* Цясны.

СТРАХАВІ'К *м.* Дзіцячая гульня ў мяч, які кідаецца на дах. *А де Лёня? — Вон там, у страхаві́к гуляе.* Пярэдзелка.

СТРАХІ'ДЛА *н.* Страшыдла, страхоцце. *Ему спаказалась, шо ета такое страхі́дла, шо калі у дерэўню увойде, дерэўні не буде.* Первамайск.

СТРАЧА'ЦЬ *незак.* Сустракаць, спатыкаць. *Іду у магазін, страча́ю етага чалавека, пытаю: ці праўда ета, што ты едеш у Маскву?* Дзяражычы. *Страча́ць вас не буду.* Казярогі.

СТРА'ШКА *прысл.* Страшна. *Ему ужэ стра́шка жаніцца.* Дзяражычы. *Когб хорбняць да глыбока, глыбока закапаюць, дак стра́шка так.* Дзяражычы. *Я такая худая стала, дак стра́шка гледець.* Казярогі.

СТРАШКІ' *прым.* Страшны. *Бацька забалеў ракам, дак страшкі́, страшкі́ стаў.* Дзяражычы. *Вада да страшка́, ніколі не купаюся.* Крупейкі.

СТРО'ЕНЫ *дзеепрым.* Уцеплены, ацеплены. *Шчэ і мае дверы не стро́еные.* Дзяражычы.

СТРО'ІЦЬ *незак.* 1. Будаваць. *Сёлета кончылі стро́іць хлеў.* Ручаёўка. 2. Ладзіць, рамантаваць. *Узяўся*

*старык часы стро́іць*. Дзяражычы. 3. Спраўляць. *Тую долю Каці стусуюці: учора іззывалі, вечар стро́іла*. Ручаёўка.

СТРО'ІЦЦА *незак*. 1. Будавацца. *Стро́іліся мы у семнаццатым гаду*. Пярэдзелка. 2. Збірацца, намервацца. *Я усе стро́юсь гарэлку падаваць*. Ручаёўка.

СТРОЙ [1] *м*. Строй. *У страю ходяць*. Дзяражычы.

СТРОЙ [2] *м*. 1. Будоўля. *Шчэ хоро́шы кусок, у строй бы пошо́ў, а ён аткінуў*. Дзяражычы. 2. Драўніна для будоўлі. *З добрага стро́ю хата буде сто гадоў стаяць*. Ручаёўка.

СТРОК *м*. Тэрмін. *Браў у Колі, тысячу аддаў у строк*. Бывалькі. *Стро́кі, кажа, прохо́дяць, даўжны угадаць сына*. Крупейкі.

СТРО'НУЦЦА *зак*. Крануцца. *У его серца стро́нулася з места*. Чаплін.

СТРО'ЧКА *ж*. Стужка. *У косу стро́чку увязуюць*. Дзяражычы. *Дай бо мне стро́чку для кос*. Бывалькі. *Калісь каса у мене була, стро́чкі заплетала*. Ручаёўка.

СТРО'ЧНА *прысл*. Тэрмінова. *Сваяк сказаў: «Стро́чна выежджай, дак квацера буде»*. Дзяражычы.

СТРУМЕ'НТ *м*. Інструмент. *Сейчас жа мне гото́ўце струме́нт*. Дзяражычы.

СТРУЦЕНЕ'ЦЬ *зак*. Здохнуць (пра жывёлу). *Каб ты струцене́ла*. Казярогі.

СТРЫГУ'Н *м*. Конь двух год. *Бач, екі у Івана стрыгу́н бегае*. Дзяражычы.

СТРЫ'ЖАЧКА *ж*. Кароткавалосая дзяўчына. *Ох, деточкі, ох, стры́жачкі, вы мае, вы ж сваe косы шампунькаю мыеце, а мы нічым*. Дзяражычы.

СТРЫБУТНЕ'ЙШЫ *прым*. Здаравейшы, мацнейшы. *Мая матка слабенькая, а твая шчэ стрыбутне́йшая*. Дзяражычы. *Адін слабы чалавек, а другі стрыбутне́йшы*. Крупейкі.

СТРЭ'ЛКА *ж*. Сцябло цыбулі. *Пошо́ў лук у стрэ́лку — плахі*. Ручаёўка.

СТРЭ'ЦІЦЦА *зак*. Сустрэцца. *Пашлі по го́раду да са сваімі дейкамі стрэ́ціліс*ь. Дзяражычы. *Стрэ́ціліся з ім, пабеседавалі*. Ручаёўка.

СТРЭ'ЧАННЕ *н*. Рэлігійнае свята ў лютым. *Стрэ́чанне — стрэчаецца зіма з летам*. Чаплін. *Як на стрэ́чанне вол вады нап'ецца, дак буде цёпла*. Чаплін.

СТУГНУ'ЦЬ *зак.* Страляць. *Кацюша як стугне́, дак аж земля трасецца.* Дзяражычы.

СТУ'ЖКА *ж.* Абрэзак тканіны. *Адно плацце сшыла, а сту́жак кучу наклала.* Вулкан.

СТУЛІ'ЦЦА *зак.* Задрамаць, прыкархнуць. *А я хоць стулю́ся трохі, а тады ужэ будем абедаць.* Дзяражычы.

СТУПЕ'НЬ *ж., м.* 1. Ступня. *Екая у цебе ступе́нь шырокая.* Ручаёўка. 2. Частка шарсцяной шкарпэткі. *Абы ступе́нь цэлы буў, а тое накрэплю дай носіць, у чобо́цях не відна.* Цясны.

СТУ'ПКА *ж.* Пастка. *Калісь пашла у хлеў, а там сту́пкі ставілі лавіць кошак; бралі тады шкуркі.* Дзяражычы.

СТУСАНУ'ЦЬ *зак.* Пнуць, ударыць, выцяць. *А мая целная, ее ніхто не стусане́, не штурхане.* Ручаёўка.

СТЫ'ДНЫ *прым.* Бессаромны. *А гово́ркі у маладых екіх сты́дные.* Дзяражычы.

СТЫДУ'ЛЬКА *ж.* Сараматніца. *Екая ж ты стыду́лька, ходіш у такой спадніцы.* Дзяражычы.

СТЫКА'ЦЬ *незак.* Падбухторваць, падгаворваць. *Бабы хацелі, шчоб мы пасварыліся: — Сцепаніда! Твая завіца була на горо́ді.— А то і ее горо́д. Дак ены годі казаць ёй, стыка́ць ёй, шчоб ена сварылася.* Дзяражычы.

СТЫКА'ЦЦА *незак.* Вандраваць, бадзяцца, блукаць. *Ён не стыка́ецца дома.* Дзяражычы. *Вера мая не стыка́ецца: ад адной бабы к другой.* Карпаўка. *Як весна, ката нема, не стыка́ецца дома.* Пярэдзелка.

СТЫРЧА'ЦЬ *незак.* Тырчаць. *Там толькі адін зуб стырчы́ць.* Ручаёўка.

СУ'БАР *м.* Адходы жыта, проса, ячменю. *Су́бар худобі трэба аддаць.* Ручаёўка.

СУБО'Р *м.* Мука, атрыманая ад памолу сумесі ячменю і грэчкі. *Субо́р не кожды делаў калісь, а хто багацей буў.* Чаплін.

СУВО'ЙКА *ж.* Сувой. *Табе, мамка, да ново́йкі, а мне, мамка, да суво́йкі* (З нар. песні). Ручаёўка. *Уціранікаў две суво́йкі. Куда ена іх дела?* Цясны.

СУВО'ЙЧЫК *м.* Сувой. *Табе, мамка, усе ново́йчыкі, а міне усе суво́йчыкі* (З нар. песні). Карпаўка.

СУГЛО'БІСТЫ *прым.* Сутулы. *Лук'янік просты буў, толькі худы да сугло́бісты.* Ручаёўка.

СУДЗЬБА' *ж.* Лёс, доля. *Якая жытка, такая і судьба́ буде.* Дзяражычы. △ *Судзьба́ судзілась.* Аб абставі-

нах жыцця. *Прося такая хорóшая, толькі у ее судьба́ суділась такая нешчасная.* Дзяражычы.

СУДЛІ'ВЫ *прым.* Схільны да пляткарства, хлусні. *Маладые судлівые людi.* Дзяражычы. *Судлівые людi садылёўцы.* Карпаўка.

СУ'ДНІК *м.* Шафа для пасуды. *У сýднік пакладі стаканы.* Бывалькі. *Сýднікі прадавалі у Лоеві.* Ручаёўка.

СУДНО' *н.* Пасудзіна. *Паставіла суднó з торхам.* Дзяражычы.

СУ'ДНЯ *ж.* Скрыня для збожжа. *У сýдню ссыпалі проса.* Дзяражычы.

СУЗДРО'М *прысл.* 1. Зусім. *Наш Коля суздрóм ат рук адбіўся. Мая дачка кінула чалавека і суздрóм перайшла к нам жыць.* Казярогі. 2. Разам. *А пралі умесці асеродкі і абдіркі і казалі: мы суздрóм прадом усё.* Чаплін.

СУЗДРО'МНЫ: *суздрóмны лён.* Лён пасля апрацоўкі мяліцай. *Худшы, дак ета не суздрóмны лён, а абдіркі.* Ручаёўка. *Суздрóмные ніткі.* Ніткі без дадатковай апрацоўкі, нябеленыя. *З суздрóмных нітак тком посцілкі.* Чаплін.

СУКАВА'ТЫ *прым.* 1. Сукаваты. *Сукавáтые дрова прывезлі.* Дзяражычы. 2. *перан.* Нелюдзімы, дзіклівы. *Хіба мо ена сукавáтая, шчо не буде любіць і людей: е такіе людi, шчо ена і не пее, і не гомóніць, і не прыкідаецца ні к кому.* Дзяражычы.

СУКА'ЛА *н.* Прылада, на якой сукаюць цэўкі. *Цета сукáла: надееш на гвоздік і сучыш.* Мохаў. *У нас у кладоўцы неде шчэ і сукáлы е.* Первамайск. *Унучка мая любіла на сукáлі цэлкі сукаць.* Цясны.

СУКО'ННІК *м.* Жаночая вопратка з саматканага сукна. *Вуткала сукно і пашыла сукóннік сабе і дачцэ.* Казярогі. *Я сабе, Грыша, пашыла сукóннік.* Мохаў. *Мы раней насілі сукóннікі, деткі.* Ручаёўка.

СУКО'ННІКІ *мн.* Суконныя штаны. *Калісь сукóннікі шылі, красілі альховаю краскаю.* Дзяражычы.

СУ'КРУЦЕНЬ *м.* Сукаратка. *Прэдеш так крута, шчо у цебе адны сýкрутні на пражы. Крута круціць і круціць, дак ено збегаецца — сýкрутні.* Дзяражычы. 2. Скрутак рэчаў. *Уцета той паклала сýкрацень пад дверы, прыбіла планку — ужэ не дуé.* Дзяражычы.

СУЛАДЗЕ'ЦЬ *зак.* Саўладаць, управіцца. *Ніяк не-*

*льзя суладéць с хлопцам: ты ему гавары тое, а ён делае тое.* Дзяражычы.

СУЛІ'ЦЬ *незак.* 1. Абяцаць. *Сам суліў прыці, да ешчэ нема, не прышоў.* Чаплін. 2. Жадаць. *Не сулі ты мне плохóга.* Пярэдзелка.

СУМА'К *м.* Прасценак, міжаконне. *Сумáк зделалі вузкі, некрасіва якся.* Пярэдзелка.

СУМЛЯВА'ЦЦА *незак.* Сумнявацца. *Сумлевáўсь, ці ехаць ему.* Бывалькі. *Бабы сумлевáюцца, шчо у его жонка е.* Дзяражычы.

СУ'МКА-ПАРАХРЭ'СНІЦА *ж.* Торба з лямкамі крыж-накрыж. *Хоць сýмку-парахрэ́сніцу беры да ідi.* Бывалькі.

СУМЫ'СЛЯ *прысл.* Сумысна. *Я ж не сумы́сля ета зделаў.* Дзяражычы. *Сумы́сля пошóў з ею раз, а тады кожны вечар стаў прыходіць.* Крупейкі.

СУПРО'ЦІЎ *прыназ.* Супраць. *Супрóціў маслапрома ніхто не жыве.* Дзяражычы.

СУРАВЫ' *прым.* Суровы. *Суравы́ большы хлопец.* Ручаёўка.

СУРАДЖА'ЦЬ *незак.* Рыхтаваць, збіраць. *Сураджáй его, паеде сегодні у горад.* Дзяражычы.

СУРАМЯНІ'ЦЦА *зак.* Перамяніцца. *Як сураме́ніцца, дак добра будам жыць.* Бывалькі. *Мо ён сураме́ніцца, мо другі буде.* Дзяражычы.

СУРО'ДАВАЦЬ *зак.* Знявечыць, скалечыць. *Ены бросілі гранату, адну дейку, красівая такая, сурóдавалі.* Крупейкі.

СУРО'СЦІНА *ж.* Два зрошчаныя дрэвы. *Сурóсціна — ета калі два дрэвы зрастаюцца умесці.* Ручаёўка.

СУСЕ'ДЗЬ *м.* Сусед. *У сусе́дя розуму не пазычыш.* Чаплін.

СУХАВЕ'ТРАНЫ *прым.* Смярдзючы, з непрыемным пахам. *Я не хочу з того ведра есці: сухаве́траная тая уха.* Чаплін.

СУХАВІ'ЦКІ *прым.* Худы. *Ой, унучак ты мой, екі ты сухавіцкі.* Пярэдзелка.

СУХАПА'РНІКІ *мн.* Смажаная бульба. *Сухапáрнікі — тое, шчо і жаранікі.* Дзяражычы. *Зробім мо на абед сухапáрнікі.* Бывалькі. *Ежце, дейкі, сухапáрнікі, так добра ужарыліcь кортоплі.* Ручаёўка.

СУХАПУ'Т *м.* Худы, нязграбны, гультаяваты чала-

век. *Усе у нас на его кажуць сухапу́т, ён такі худы і бальшы гультай.* Пярэдзелка.

СУХАРЭ′БРЫ *прым.* Сухарлявы, хударлявы. *Ён жа сухарэ́бры, а так б'еца.* Дзяражычы. *Паехалі па-за грэблею кабылаю сухарэ́браю* (З нар. песні). Пярэдзелка.

СУХАТА′ *ж.* 1. Хвароба. *Прыклала сухату́ к жывату.* Чаплін. 2. Турбота, клопат. *Зноў буде сухата́ на шыі да дасада. Ужэ такая мне сухата́.* Дзяражычы.

СУХІ′ *прым.* 1. Сухі. *Сухіе трапкі пазнімай.* Дзяражычы. *Сухіе мазалі я пого́іла салам з жоўчу.* Ручаёўка. 2. Сухарлявы. *Багатае цела: не сухо́е цела, а тоўстае шчэ, хоць і старая.* Дзяражычы. 3. Цвёрды. *У касе суха́я дюбка. У касе е дюбка сушэ́й і цвердей.* Пярэдзелка. 4. Пусты. *Маня кажа: «То падружка твая». А Прося: «Не падружка, а саперніца». Трэцяя: «А то усе, скажы, дела сухо́е».* Дзяражычы. △ *Сухі чацве́р.* Чацвер траецкага тыдня. *У сухі чэцве́р белле вывешуюць, сушаць его. Еслі хто знае ета, то вывешуе у сухі чэцве́р.* Пярэдзелка.

СУХМА′РЫЧАК *м.* Невялікая хмара. *Сухма́рычак маленькі набежыць, і дошчык капае.* Ручаёўка.

СУХО′ТНЫ *прым.* Худы. *Такіе ж сухо́тные у ее ногі.* Ручаёўка.

СУХРА′П *м.* Сухар. *Хлеб як засохне, то ета і есць сухра́п.* Карпаўка.

СУЧАНЯ′ *н.* Шчаня, шчанюк. *Сучаня́ малое.* Дзяражычы.

СУ′ЧКА[1] *ж.* Сучка. *Су́чка пабегла па дварах.* Карпаўка.

СУ′ЧКА[2] *ж.* Буёк. *Вон там су́чкі паставілі, шукай там перамёт.* Пярэдзелка.

СУ′ШКА *ж.* 1. Сушка. *Ох, су́шка добрая сегодні: сонейка і вецер.* Ручаёўка. 2. Суш. *І сёлета су́шка стаіць: ні разу дошч не прайшоў.* Дзяражычы.

СХАЛАШЧА′ЦЬ *зак.* Скастрыраваць. *Мы ж его ужэ і схалашча́лі, ён ужэ хоро́шы.* Дзяражычы. *Вучысціла кабанчыка і схалашча́ла кабанчыка — адно і тое ж.* Ручаёўка.

СХАЦЕ′ЦЬ *зак.* Захацець. *Не схаце́ла Вулляна іці замуж за рэку, так у деўках і звекавала.* Дзяражычы.

СХВАЦІ′ЦЬ *зак.* Захварэць раптоўна. *Ее уночы*

*схваціла, а ена скарэй ее зблагасціла у больніцу.* Дзяражычы.

СХО′ДЖЫ, СХО′ЖЫ *прым.* Падобны. *На матку схо́джа.* Бывалькі. *На матку нача схо́жы, а такі споко́йны на харакцер.* Вулкан. *На его схож хлопчычак.* Дзяражычы.

СХО′ДЦЫ *мн.* Сходы, сходкі. *Схо́дцы прагнілі, паладіць трэба.* Дзяражычы.

СЦЕ′РЛІК *м.* Сцерлядзь. *Сцэ́рлікаў прынёс сегодні мой сын.* Крупейкі.

СЦЕ′РЦІ *зак.* 1. Выцерці. *Трэба сцэ́рці са стала да бегці на хверму.* Казярогі. 2. Памыць. *Я сейчас пол сатру́.* Бывалькі. *Сатру́ мост, дай пайду по во́ду.* Дзяражычы. *Пол сцэ́рці трэба у хаці і у сенцах.* Крупейкі. 2. Садраць. *Я трошкі картошкі сцэ́рла да напеку драчоў.* Дзяражычы.

СЦЕ′ХАЦЦА *зак.* Пахудзець. *Наталка так сцэ́халась, што стала нікуды.* Дзяражычы.

СЦЁБКА *м.* Варыўня. *У сцёбцы стаялі дежкі з капустаю.* Дзяражычы. *Вайна хаты папаліла, дак мы послі вайны у сцёбцы жылі, пакуль не постро́ілісь.* Ручаёўка. *Памянш.* сцёбачка. *Пограб, хлевок зделаны — ета сцёбачка, туды ставім капусту, гуркі, буракі.* Бывалькі.

СЦЁНЖАЧКА *ж.* Стужачка. *Завежы косы, мо екая сцёнжачка там у сталe лежыць.* Дзяражычы. *Аддеры там сцёнжачку.* Бывалькі.

СЦЁРАН *м.* Агульная назва зжатага поля. *Скот іде на сцёран.* Ручаёўка. *Он сажалі пшэніцу, дак целяты ходяць па сцёрану.* Чаплін.

СЦІНА′ЦЬ *незак.* Сціскаць (горла). *Сцело́ дыхаць і не пускае. У глоццы сціна́е.* Дзяражычы.

СЦІ′СКЛЫ *прым.* Эканомны. *А у Юрычыхі зяць — сціся́клы хлопец: ні капейкі не расходуе зра.* Пярэдзелка.

СЦІ′СЛЫ *прым.* Скупы, прагны. *Ее свекруха не любіла за то, шчо ена такая гмыра: шчо е у ее, век не пакажа і не дасць — ена такая сціслая.* Дзяражычы.

СЦЭ′ЛІЦЬ *зак.* Нацэліць. *Найме кого́, дак хто сцэ́ліць чэраз вакно і канец — я не хочу так жыць.* Дзяражычы.

СЦЮДЗЁНЫ *прым.* Вельмі халодны. *Усе апошніе зімы у нас булі сцюдёные, толькі етая выдалась цёплая.* Мохаў.

СЦЮ′ЖА *ж.* Моцны холад. *Калі сцю́жа на дварэ,*

*дак не хочацца і выходіць з хаты, лежаў бы на печы і гора не знаў, а трэба ж усе делаць.* Пярэдзелка.

СЦЯБЛО′ *н.* Рыбалоўная прылада. *Падай мне сцебло́, ено лежыць на хаце, пайду мо рыбкі злаўлю.* Дзяражычы.

СЦЯГНУ′ЦЦА *зак.* Паказацца доўгім (пра час). *Мамка, табе не сця́гнецца п'яць годо́ў, я ж буду пісьма слаць.* Дзяражычы.

СЦЯКА′ЦЬ *незак.* 1. Сцякаць. *Нехай сцечэ́, павесь на гвоздік.* Ручаёўка. 2. Праходзіць, адыходзіць. *Пого́да сцека́е, а сена багата ешчэ.* Ручаёўка.

СЦЯКЛЯ′НКА *ж.* 1. Шкло. *Сцекля́нкі кідаюць у канаву.* Пярэдзелка. 2. Шкляны слоік. *Улі сабе малака з сцеклянкі.* Дзяражычы.

СЦЯНА′: *бе́лы як сцяна́.* Сівы. *Стары ужэ, бе́лы, як ета сцена́.* Бывалькі.

СЦЯРА′ЦЦА *незак.* Загубіцца. *Була калісь дужая ды паехала у горад, я ж ніде, мамачка, не заблуділася, ні сцера́лася, а цепер старая, устаць з карваці не магу.* Дзяражычы.

СЧЫНІ′ЦЬ *зак.* Учыніць. *Як счыніла скандал, дак дом гарэў.* Дзяражычы.

СЧЫ′СЦІЦЬ *зак.* Скастрыраваць. *Я свойго́ козліка счы́сціла, буду рэзаць.* Дзяражычы.

СЫБО′ТА: *кра́сная сыбо́та.* Апошні дзень перад вялікаднем. *Перад паскай кра́сная сыбо́та, яечкі красяць.* Чаплін.

СЫГРА′ЦЬ *зак.* 1. Сыграць. *Сыгра́й польку.* Крупейкі. 2. Схадзіць, збегаць. *Ена сыгра́ла на той план, прынесла карзіну кортóплі.* Казярогі. *Так быстра сыгра́ў туды за дерэўню і назад.* Крупейкі.

СЫЙСЦІ′СЬ *зак.* 1. Сысціся. *Параска зноў сышла́ся са сваім.* Дзяражычы. 2. Аб'яднацца. *Калгасы уместа сышліся, улучшылась жысць.* Карпаўка. 3. Скіснуць (пра малако). *Сметану сабрала зверху, а молоко́ усе чыста не сышло́сь.* Дзяражычы. △ *Сыйцісь на нітачку.* Стаць вельмі худым. *У больніцы була шэсць недель, сышло́сь діця на нітачку.* Дзяражычы.

СЫЙЧА′С *прысл.* Зараз. *Ідi, сыйча́с прыду.* Вулкан. *Мілы мой, мілы мой, даражыла я тобой, я сыйча́с, мой дарагой, даражу да ні тобо́й* (Прыпеўка). Бывалькі.

СЫКУЛДЫ′ЖКА *ж.* Масол з шынкі. *Он глянь, екая*

*сыкулдыжка асталась, калісь буў óкарак, шчас з её баршча звару*. Пярэдзелка.

СЫ′ПАЦЦА *незак.* Сыпацца, ліцца. *Бацька его, девер і я — стаім ле его, Соня стаіць, а у его сыплюцца, як із бабра, слёзы*. Дзяражычы. *Свекар падпіраецца кіёчкам, а слёзы сыплюцца, кажа: нача міне і ножкі не несуць*. Ручаёўка.

СЫ′ННІ *прым.* Сынаў. *Сынні унук з намі. Сынні, кóрага німа, двое децей асталось*. Первамайск.

СЫНО′ЧЫК *м.* Сынок. *Сынóчык мой ужэ два годы служыць у армяі*. Вулкан. 2. Зварот да любога хлопца. *А мой сынóчык, де і як твае радіцелі жывуць?* Дзяражычы.

СЫРАВЫ′ *прым.* Суравы. *Сыравымі ніткамі абвертана. От токóе чмарае полотнó — то ено сыравóе*. Карпаўка. *Сыравымі ніткамі мы уручную шылі палатняные сорóчкі*. Цясны.

СЫРАПО′СНЫ: *сырапóсная нядзéля*. Апошні тыдзень перад вялікім пастом. *Тожа перад пóстам сырапóсная недéля*. Ручаёўка.

СЫ′РНІК *м.* Мяшочак, у якім адціскаюць сыр. *Памажы мне творóг вувернуць у сырнік*. Пярэдзелка.

СЫРО′ВАДКА *ж.* 1. Сыроватка. *Парасяці сырóвадкі не хоча уваліць*. Дзяражычы. 2. Суп з пшана, звараны на сыроватцы. *Сцепанаўна, наварыце сырóвадкі*. Дзяражычы. *Коля мой баршча не есць, сырóвадкі не есць і кашыцы не есць*. Пярэдзелка. *Сырóвадка — кіслы крупнік*. Чаплін.

СЫРО′ВАДНІК *м.* Суп, звараны на сыроватцы. *Кіслы варацьь — сырóваднік*. Пярэдзелка.

СЫРО′МЛЯ *ж.* Сырыя дровы. *Такой лазой я не магу тапіць — ета ж сырóмля*. Дзяражычы. *Сырóмлі я і сама нанашу, нашто мне тая сырóмля, мне трэба сухіе дрова*. Бывалькі.

СЫТА′ *ж.* 1. Салодкая вада, якую гатуюць на пахаванне, на памінкі. *Як хто умрэ, дак делаюць солóдкую воду на похорóны, кажуць — сытá*. Пярэдзелка. *Я сыты насычу, пастаўлю, нехай ідуць мае радіцелі едяць, п'юць — деды*. Дзеражычы. 2. Вада, засаладжаная мёдам. *Дед меду як прынесе, дак сыты наробім дай едім*. Пярэдзелка.

СЫЦЮ′ЧЫ *прым.* Вельмі сыты. *Куры такіе сыцю-*

*чые хаділі, а немцы усіх палавілі: кіпетку напараць, да тады туды курыцу.* Дзяражычы.

СЫЧА'С *прысл.* Зараз. *Сычáс картуз зніме.* Бывалькі.

СЫЧЫ' *мн.* Сорт бульбы, скараспелка. *Ідзі у стобку, наберы сычóў.— Де тые сычы́? — Не бачыш? У вуглу.* Пярэдзелка.

СЮДА' *прысл.* Сюды. *Хадзі сюдá баржэй.* Ручаёўка. *Сюдá шляху нема да Любеча.* Чаплін.

СЯГО'ДНІ *прысл.* 1. Сёння. *Сегóдні зварым уху.* Дзяражычы. *Сегóдні многа ганчакоў ходзіць.* Ручаёўка. 2. У гэтым годзе. *Бурачкі булі бо сегóдні добрые. На зіму хопіць.* Дзяражычы.

СЯДЗЕ'ЦЬ: *сядзéць на акáрку.* Быць на ўтрыманні. *Дваццаць гадóў ужэ, а седзіць на акáрку.* Дзяражычы. *Сядзéць дзёбам.* Быць аднолькавым, не расці. *Маньцы шаснаццаць годоў, а ена седзіць дёбам.* Чаплін.

СЯДНО' *прысл.* Усё роўна. *Седнó наварачуюць панашаму.* Дзяражычы. *Я так не хацела, каб ена на настаўніцу вучылась, а ена седнó пайшла, дужа ей наравіцца ета робота.* Пярэдзелка.

СЯДУ'Н *м.* Фасоля, якая не ўецца. *Пасадзіла седýн, дак добра, а на круцяк нема де тычак узяць.* Дзяражычы. *Седýн пасадзіла сеголета на агародзе, добра урадзіўся.* Крупейкі.

СЯДУ'ХА *ж. 1.* Фасоля, якая не ўецца. *У мене е тычная квасулька і седýха.* Дзяражычы. *Седýха — невысокая квасуля, кусцікам расце.* Ручаёўка. 2. Курыца, якая сядзіць на яйках. *Седýхі парасседаліcь, не сагнаць з седала.* Дзяражычы.

СЯЕ'НАЧЫ' *прысл.* Гэтай ноччу. *Сеѐначы́ пазасыналі ўдолі.* Дзяражычы. *Сеѐначы́ зарабіла граху, дак ні павезу, ні панесу.* Чаплін.

СЯЙЧА'С *прысл.* Зараз. *Тапчані сейчáс говóраць, калісь гаварылі камы на тоўчаную кортóплю.* Дзяражычы.

СЯКА'ЦЬ *незак.* Смаркаць. *Секáй, секáй, унучак, носік.* Бывалькі.

СЯКА'Ч: *даць секачóў.* Пакараць. *Я табе дам секачóў.* Ручаёўка.

СЯКРЭ'ТНА *прысл.* Сакрэтна. *Ены ж хоць бы секрэ́тна делалі, а то вочывідна, нікога не баяцца.* Дзяражычы.

СЯЛЬНІ'К *м.* 1. Сяннік. *Поўны сельнік сена натапталі, мо хваціць корові на зіму.* Ручаёўка. 2. Матрац, напханы саломай. *Натопчам у полку сена — у сельнік.* Мохаў. *Сельнік набіваем соломай, да радном, посцілкай засцелем.* Пярэдзелка.

СЯМ'І'ШЧА *м.* Сям'я (вялікая). *Прыехаў Васіль, а сем'ішчы, децвішчы — семера децей прыўёз.* Ручаёўка.

СЯНЯ'НКА *ж.* Сяннік. *Добра, як шчэ сенянку дадуць, а як не.* Ручаёўка. *Сенянкі расцілалі на мост і спалі.* Чаплін.

СЯРДЗЮ'ЧЫ *прым.* Злы. *У нашых суседей сабака сердючы, сердючы.* Пярэдзелка.

СЯРО'ЖКІ *мн.* Завушніцы. *Ета міне мой чалавек зрабіў такіе серожкі.* Мохаў.

СЯРЭ'ДЗІНА *ж.* Паясніца. *У мене радікуліт, серэдіна скрозь баліць.* Ручаёўка.

# Т

ТА *займ.* Гэта. *Хто та прышоў?* Бывалькі. *Хто та прынёс молоко?* Казярогі.

ТАБА'К *м.* Тытунь. *Он табак маленькі, кучачкаю седіць — мальтан называецца, а просты табак, дак то тады круглае лісце, бальшое.* Ручаёўка. *І табак саджалі раней, а цепер у магазіні поўна.* Цясны.

ТАБА'КА *ж.* Тытунь. *Пятро, сході вазьмі у деда табакі, нада пасадіць у городчыку.* Казярогі.

ТАБУРЭ'Т *м.* Табурэтка. *На табурэт сядь, а то на услоні места нема.* Казярогі. *Ета ж цепер стулля, а раней булі табурэты.* Чаплін.

ТАВА'Р *м.* 1. Статак. *Послезаўтра нам тавар пасці.* Крупейкі. *Трэба было папрасіць, каб ён пошоў к тавару.* Ручаёўка. 2. Скаціна. *Пара тавар вуганяць з двара у стаду, урэм'я падайшло.* Чаплін. *А што, тавар шчэ не прышоў?* Ручаёўка.

ТАГА'Н *м.* Падстаўка, трыножка. *Таган — тры палкі, на іх вешаюць калыску у полі.* Казярогі. *Несе діця у поле і таган для его.* Мохаў. *Калісь децей некуды было деці, дак бралі у поле, а там ставілі таган да люльку цаплялі.* Пярэдзелка.

ТАГДЫ *прысл.* 1. Тады. *Пагана буде на зіму, нечым буде карміць тагды.* Дзяражычы. *Гадюка цоп да укусі-*

*ла за ногу, як бы ён тагды́ кінуў волóў да у больніцу пошóў дак меней хварэў бы.* Казярогі. 2. Потым. *У сераду б була Мікола, а тагды́ ушэсце.* Дзяражычы. *Там пололі, а тагды́ дошч як пошóў.* Ручаёўка.

ТА'ЙКА *ж.* Зварот да жанчыны; таварышка. *Тáйка, памажы мне сегодні капаць кортоплі, а я табе заўтра.* Вулкан. *Ці дома твой Іван? — Не, мост, тáйка, ладіць.* Дзяражычы. *Памянш.* тáечка. *Ой, тáечка, то ж ірад стары.* Бывалькі. *Ці чула ты, тáечка, шчо прывезлі у магазін?* Дзяражычы.

ТА'ЙНЫ *прым.* Скрытны. *Ён такі тáйны хлопец, такі спокóйны.* Дзяражычы.

ТАІ'ЦЦА *незак.* Утойваць, скрываць. *Чогó ж ена буде таіцца, як ена загадае Еську напекці булак.* Дзяражычы. *Я ей заўсегда усё гавару, а ена тóіцца ад мене.* Пярэдзелка.

ТАКАВА'ЦЦА *незак.* Згаварвацца, дамаўляцца. *Такавáлісь да двінаццаці часоў, усе сваталі деўку.* Пярэдзелка.

ТАКЕ'НЕНЕЧКІ *займ.* Такі (малы). *Горóдіна ерунда у етум гаду: націнне вісокае, а самі такéненечкіе.* Ручаёўка.

ТАКЕ'ННЫ *займ.* Такі (вялікі). *Дак і барада ж — такéнная во.* Казярогі. *Такéнны ворах наскладае.* Ручаёўка.

ТАКІ' *займ.* 1. Такі. *Булі ж такіе годы, шчо к Петру жыта нажном, дак Петро з пірагом.* Дзяражычы. *Шчэ такéя скажу, шчо і слухаць не захочыш.* Мохаў. *Екая харч — такáя робота.* Крупейкі. *Е такіе, шо наведуць на пуць, а е такіе, шо зведуць з пуця.* Ручаёўка. 2. Гэтакі. *А шо б цебе галец вугаліў з токóй хваробай.* Дзяражычы. *Як жа ты будеш купацца у такýю стыль. Такáя беда, такáя стыль!* Ручаёўка.

ТАЛАВА'ЦЦА *зак.* Тоўпіцца. *Чого вы тут талýецеся, не прайці.* Дзяражычы.

ТАЛА'КА [1] *ж.* Поле пад папарам. *У адном месці не пасеяна рож — талáка.* Казярогі. *Талáка — некалькі годóў пустýе поле, талакуе.* Пярэдзелка.

ТАЛА'КА [2] *ж.* Праца грамадой за пачастунак. *Той узяў да чэцверць паставіў, дак сабралася талáка да жжала поласу.* Бывалькі. *Толокóю мне хлеў перавезлі.* Дзяражычы.

ТАЛАКАВА'ЦЬ *незак.* Пуставаць некалькі гадоў

(пра зямлю). *Скот ходіць, земля талакýе.* Бывалькі. *Талакýе — некалькі годóў пустуе.* Пярэдзелка.

ТАЛА′Н *м.* 1. Лёс, доля. *Тая деўка не знала, шо ён ее возьме, а от талáн: хадіў і узяў.* Дзяражычы. 2. Шчасце. *То ж нема долі, нема талáну, век свой і пражыве адна, бо з мужыком разышлася недаўна.* Ручаёўка.

ТАЛМА′ЧЫЦЦА *незак.* Тлумачыцца. *Тое слова талмáчыцца не роўна: у нас так, а у Мохаві інакш.* Казярогі.

ТАЛМА′ЧЫЦЬ *незак.* Тлумачыць. *Нада людям талмáчыць.* Карпаўка.

ТАЛПА′ *ж.* Натоўп. *За хлебам калісь такіе таўпы́ булі, а цепер беры, скольні хочыш.* Дзяражычы.

ТАЛЫ′СКАЦЬ *незак.* Штурхаць з боку ў бок. *Чогó вы его талы́скаеце.* Ручаёўка.

ТА′ЛЬКА *ж.* Жаночая вопратка кароткага памеру з саматканага сукна. *Тáлька — корóценькая світка, а доўгая — кохта.* Мохаў. *Цепер тáлькі не носяць, а купляюць польты.* Пярэдзелка.

ТА′МАКА *прысл.* Там. *У людей булі болóты, да іх асушылі, дак цепер тáмака у тых болóтах нема вады ні капкі.* Дзяражычы. *Тут ніде немашака, ета усе тáмака.* Казярогі. *Хіба я тáмака пракармлюсь?* Карпаўка. *Пабач тáмака у калідоры у красным бачку вада.* Пярэдзелка.

ТА′МАКІ *прысл.* Там. *Мы з мамаю тáмакі жылі.* Дзяражычы. *Мае унукі аж у Магадані робóтаюць, тáмакі хорóшая аплата.* Ручаёўка.

ТАМІ′ЦЦА *незак.* Мучыцца, знемагаць. *Я маладенькая тамлю́ся, нема мойгó міленькага* (З нар. песні). Дзяражычы.

ТА′НЕЦ: *пад той тáнец.* У той час. *Можа шчо случыцца пад той тáнец — пад тое урэм'я.* Дзяражычы.

ТАНІНА′ *ж.* Танчыня. *Бацька по лóзу ездіў, па палец танінá.* Дзяражычы.

ТАНКАНО′Г *м.* Від травы (расце на балотах). *Не хочуць есці танканóгу каровы.* Пярэдзелка.

ТАНО′ЖЫЦЬ *незак.* Таміць, утамляць. *Не тонóж ты мене. Хваціць вам нас тонóжыць.* Дзяражычы.

ТАНО′К *м.* Карагод. *Саўю венок, пайду ў тонóк* (З нар. песні). Пярэдзелка.

ТА′НЧЫК *м.* Танец. *Шчэ адін тáнчык сыграй.* Бывалькі.

ТАПІ'ЦЬ [1] *незак.* Паліць. *Ужэ позна, трэба тапіць печ.* Ручаёўка. *Ты баню будеш тапіць, дак я прынесу дроў.* Чаплін.

ТАПІ'ЦЬ [2] *незак.* 1. Тапіць. *Ці ты каценят несеш тапіць?* Бывалькі. 2. *перан.* Выдаваць. *То паганая маладіца, ёй не трэба памагаць: ена людей у войну тапіла.* Дзяражычы.

ТАПО'ЛЬ *м.* Таполя. *Topóль бальшушчы расце у нас пад вокнóм.* Дзяражычы.

ТАПТА'НЫ *прым.* Брудны. *Пайду ногі вумую, а то таптáны хаджу.* Ручаёўка.

ТАПЧАНІ' *мн.* Тоўчаная бульба. *Тапчанёў даць?* Бывалькі. *Таўкачкаю потóўкла солóнікі на тапчані.* Дзяражычы. *А шчэ з кортóплі робяць тапчані.* Крупейкі.

ТАРАБА'ЙКА *ж.* 1. Бразготка. *Возьмеш тарабáйку, ена і тарабаніць.* Ручаёўка. 2. *перан.* Лапатуха. *Такая тарабáйка: нічога не робіць, тольки гомóніць.* Дзяражычы.

ТАРАБА'НІЦЬ *незак.* 1. Бразкаць. *Не тарабáнь там, а то аж у вушах звініць.* Ручаёўка. 2. *перан.* Балабоніць. *Не тарабáнь езыком, слухаць не можна, шчо ты говóрыш.* Дзяражычы.

ТА'РАНІКІ *мн.* Аладкі з бульбы, дранікі. *Táранікі на скавародцы пекýць.* Пярэдзелка. *Полож тáранікаў старым.* Рудня Марымонава.

ТАРА'НІЦЬ *незак.* Вешаць для сушкі рыбу тарáнку. *Рыбу я учорі вешала, тарáніла.* Дзяражычы.

ТАРА'НЧЫЦЬ *незак.* Траціць. *Ты не думаеш, як жыць, е грошы, дак куды папала тарáнчыш.* Дзяражычы.

ТАРАПКІ' *прым.* Паспешлівы, жвавы. *Ее куды і пашлі, дак ена не тарапкáя.* Дзяражычы.

ТАРАП'Я' *прысл.* Спяшаючыся, у спешцы. *Не тарап'я́ думаў пацесаць дошкі, а заўтра палажыць.* Первамайск.

ТАРАРА'ХА *ж.* Балбатуха. *Матка тарарáха, ні сунімаецца увесь день, а ужэ восемдесят два гады.* Ручаёўка.

ТАРГІ' *мн.* 1. Торг. *Учорі добрые таргі булі у Лоеві, усе папрадавалі парасят.* Дзяражычы. 2. *перан.* Пакупнікі. *У мене другіе таргі, тває ка мне не ідуць.* Бывалькі.

ТАРНАВА'ЦЦА *незак.* Насіцца, бегаць. *Чогó ты тарнýешся? Паседі трохі.* Пярэдзелка.

ТАРШЫ́НКА *ж.* Брыкет торфу. *Магу дрывамі пратапіць, а то і таршы́нку прынесу.* Дзяражычы. *Памянш.* таршы́начка. *У мене асталося толькі п'яць таршы́начак, трэба шчэ прывезці.* Дзяражычы.

ТА́РЫЦЬ *незак.* Драць бульбу. *Та́рым таранікі кажды день.* Рудня Марымонава. *У войну та́рылі корто́плі толькі на самадельные таркі.* Пярэдзелка.

ТАРЭ́ЛКА *ж.* Талерка. *Деўкі, берыце на тарэ́лцы налісniкі.* Ручаёўка. *Тарэ́лкі даставай, будам абедаць.* Чаплін. △ *Тарэ́лкі павыяда́ць.* З'есці усё. *Шчоб я с сего места не устала: усе тарэ́лкі павуеда́ў.* Дзяражычы.

ТА́ТКА *м. ласк.* 1. Бацька. *Та́тка, дай капеек, я куплю канхвет.* Ручаёўка. 2. Ласкавы зварот не толькі да мужчын, але і жанчын. *Коля, та́тка, сході у больніцу.* Дзяражычы. *Знаеш, мой та́тка, уранні хмарна, дак я лягу, а ты б пашла сходіла к Сашы.* Ручаёўка.

ТАЎКА́ЧКА *ж.* Таўкач. *Беры таўка́чку да патаўчы корто́шку.* Пярэдзелка.

ТАЎКО́ТА *ж.* Таўкатня. *Нема нічога, а таўко́та да гарота. Такой таўко́ты па гаспадарцы: як устанеш з цёмнага, дак таўчэшся да ночы.* Дзяражычы. *Чо вы таўко́ту такую ізделалі, чо вы таўчэцесь тут.* Крупейкі.

ТАЎКЦІ́ *незак.* 1. Таўчы. *Ці скора ты будеш таўкці́ кортоплі, застынуць жа.* Казярогі. 2. Біць. *Не лыбся, усё роўна таўкці́ буду, як ката.* Пярэдзелка.

ТАЎКЦІ́СЯ *незак.* Таўчыся. *За мой горо́д вуганяюць, на той лаццы таўку́цца коровы.* Чаплін. *Ены будуць два часы таўкцíся на той латаццы.* Пярэдзелка.

ТАЎСТО́ЛКА *ж.* Верхняя мужчынская кашуля з даматканага палатна. *Калісь мужчыны насілі таўсто́лкі. У дерэўні самі пралі, ткалі і шылі етые таўсто́лкі.* Дзяражычы.

ТАЎСТЫ́ *прым.* Тоўсты. *Таўста́я такая деўка.* Бывалькі. *Багатае цела — не сухое цела, а таўстое, хоць і старая.* Дзяражычы. *Жэншчына куцая, таўста́я.* Казярогі.

ТАЎСЦЕ́ННЫ *прым.* Таўшчэзны. *В'яжуць рэж із таўсце́нных нітак.* Пярэдзелка. *Таўсце́нную палку узяў ат сабак.* Чаплін.

ТАЎЧО́НІКІ *мн.* Тоўчаная бульба. *Деці мае любяць тоўчо́нікі.* Крупейкі.

ТАЧА́НКА *ж.* Тачка. *Тача́нкаю гной везом і спеваем.* Ручаёўка. *Павезлі субар на тача́нкі.* Чаплін.

ТАЧЫ'ЦЦА *незак.* 1. Тачыцца. *Сколькі канькі будуць у цебе тачыцца?* Дзяражычы. 2. Працякаць. *Пад Любечам ручаёк точыцца.* Казярогі.

ТВАРЫ'ЦЬ *незак.* Вытвараць, выраблять. *Пабачыш, як цеперакі ены верадуюць, дак серца закаменее, каб жа ены по-хорошаму делалі, а то творацъ, шо папала.* Чаплін.

ТКА'ХА *ж.* Ткалля. *Етые кросны екая ткаха ужэ даўно вуткала б.* Дзяражычы. *Раней і прыказка была такая: добрая ткаха — добрай буде і жонкай.* Карпаўка.

ТКА'ЦЕЛЬНЫ *прым.* Тканы, саматробны. *У том, у клубі, усе ткацельнае вісіць на палачках.* Ручаёўка.

ТО *часц.* То. *То ён маладец, шчо его усе любяць.* Ручаёўка.

ТОЙ 1. *займ.* Той. *За мінутачку тых слоў не злічыць.* Дзяражычы. *Асталіся тые ладкі, азяблі і ніхто не хоча есці.* Ручаёўка. *Ото тое зелле, шо маж да бежы.* Чаплін. *Тады беруць сваю пражу і таею, і таею уперамежку ткуць.* Ручаёўка. *З тэй стараны прыехалі.* Бывалькі. *Канячкаю тэю трэба дрыўца прывезці.* Дзяражычы. 2. *Субст. займ.* Той. *Тая крычыць, што ён мене прыбівае, а той крычыць, што ена на мене кажа гуляка — і вот скандал.* Карпаўка. *У тога такі харакцер, а у тога такі.* Ручаёўка. *Тая шчупае тутакі, а тая ззаду.* Дзяражычы. 3. *часц.* *А белай тае мукі купіць.* Дзяражычы. *Я думаю, там тое діця цебе даскуліла, узела за руку, а ена: ой, мамачка, не беры за руку.* Крупейкі. *Там жа сколькі тых дроў прывезлі.* Казярогі. △ *Той год.* Летась. *Той год багата нанасіла чарніц, а сеголета нічога нема.* Ручаёўка. *Тую мінуту.* Адразу ж, хутка. *Ена падаіла і палежыць тую мінуту на печы.* Дзяражычы. *Донечка, ты толькі перадай кім-небудь, я ж тую мінуту прыбегу к табе.* Ручаёўка.

ТОК *м.* 1. Ток. *Усе нашы на таку молоцяць.* Пярэдзелка. *Жыта прыносяць на ток і молоцяць цэпам. Ета раней було, а цепер токоў нема, малатаркай молоцяць.* Ручаёўка. 2. Глінабітная падлога. *У іх ток у хаці буў калісь, цепер усе з достак делаюць масты.* Карпаўка.

ТО'ЛЕЧКІ *прысл.* Толькі што. *Антобус пошоў о-о толечкі.* Дзяражычы. *Памянш.* толечачкі. *Толечачкі докончыла.* Карпаўка.

ТОЛК *м.* 1. Розум, развага. *Була маладая, ета ж еслі б цеперашні толк.* Дзяражычы. 2. Толк. *О-о ета к*

*то́лку говорыць*. Бывалькі. △ *То́лку найці*. Дабіцца разумення. *З маткаю роднаю то́лку не на́йдеш, а то са свекрухаю*. Дзяражычы.

ТО́НЕНЬКІ *прым*. Вельмі тонкі. *Я набрала то́неньkіх цёсачак*. Дзяражычы. *Посцілкі ткуць з то́неньkай пражы, а еслі тоўстая пража — завецца коц, або радно*. Крупейкі. *Памянш*. то́ненечкі. *Націнне вісокае, а самі тоненечкіе*. Ручаёўка.

ТО́НКАСЦЬ: *то́нкасці дабіцца*. Дазнацца праўды. *Чого́ ж ты не разузнала добра, я б ужэ то́нкасці дабілась*. Дзяражычы.

ТО́ПКА *ж*. Паліва. *Сёлета то́пкі хваціць, бо торх вўсах*. Дзяражычы.

ТО́ПЛІВА *н*. Паліва. *Прывезлі торху, я седжу і думаю: усіх абеспечыла, а сама без то́пліва асталась*. Дзяражычы.

ТО́ПЛЯ *ж*. Грузкасць. *То́пля — месца на дорозе, якое весною набракае водо́ю*. Пярэдзелка. *У канцэ вуліцы то́пля пастаянная — ні прайці, ні праехаць*. Мохаў.

ТО́РБА *ж*. 1. Торба. *Рэптухаў нема цепер, е то́рбы. Ну і беруць субар еты у конскую то́рбу*. Ручаёўка. 2. Школьная сумка. *Іде у школу, а то́рба па земле цягнецца*. Дзяражычы. 3. Жаночая сумка. *У нашай Тэклі чатыры то́рбы: і беленькая, і жаўценькая, і зелёная, і красная*. Ручаёўка.

ТО́РГНУЦЬ *зак*. Пабегчы хутка. *Як то́ргнулі, дак толькі пяткі мелькаюць*. Дзяражычы.

ТО́РТАЎСКІ: *то́ртаўскі плато́к*. Суконная хустка. *То́ртаўські плото́к — хоро́шы плото́чак суконны, тоненькі*. Бывалькі.

ТО́ЎСТАЯ *прым*. Цяжарная. *Ена не раділа шчэ, хаділа такая то́ўстая*. Дзяражычы.

ТО́ЎСТЫ *прым*. Тоўсты, поўны. *Рукі то́ўстые, як заверты*. Дзяражычы. *Хоро́шая, поўная, то́ўстая — ета усеадно*. Ручаёўка.

ТО́ЧНА *прысл*. Дакладна. *Не, ета не вудумка, ета то́чна*. Дзяражычы. *То́чне так і було, як ён расказуе*. Крупейкі.

ТО́ЧЫЦЦА *незак*. Струменіцца. *Пад Любечам ручаёчак то́чыцца*. Казярогі.

ТРАВІ́ЦЬ *незак*. Атручваць. *Жукоў не травіць, дак не аберэсся*. Дзяражычы. △ *Травіць мо́шак (мо́шкі)*. Лодарнічаць, займацца балбатнёй. *Дейкі седяць мо два*

*часы ле кухні, трáвяць мóшак.* Бывалькі. *І учора седелі і сегодні седяць да мóшкі трáвяць.* Дзяражычы.

ТРАПА'ЦЦА *незак. перан.* Працаваць шмат. *Трэ́плецца лета лецкае, дома толькі начуе, дак і зарабляе ж добра.* Казярогі.

ТРАПА'ЦЬ [1] *незак.* Трапаць. *Тады беруць трапло такое і абіваюць лён — трэ́плюць, а потым грэбнем такім пачэша і патрэпкі етые тож.* Ручаёўка.

ТРАПА'ЦЬ [2] *незак.* 1. Бегчы. *Бач, як трапáе ад пчол.* Ручаёўка. 2. Ісці (пра дождж). *Дайшлі да моста, да трапáе дошч, дак назад вернулісь.* Ручаёўка.

ТРА'ПАЧКА *ж.* 1. Анучка. *Трáпачку берэш, да сціраеш пыл, шчоб чыста було.* Первамайск. 2. Матузок. *Ты мне корóткіе трáпачкі у хвартуху зделала.* Ручаёўка. 3. Вузкая палоска з аўчыны, якая служыць пракладкай пры сшыванні аўчын. *Устаўляюць трáпачку у шву, калі шыюць кажухі.* Ручаёўка.

ТРАПА'ШКА *ж.* Брусок. *Калі забудеш трапáшку, касіць не будеш.* Первамайск.

ТРАПА'ШЫЦЬ *незак.* Вастрыць касу. *Трапáшаць трапáшкаю косу.* Карпаўка.

ТРАПІ'НКА *ж.* Сцежка, сцяжынка. *Де малая трапінка, называюць сцежкай.* Мохаў. *Іді малой трапінкай па лесе.* Казярогі.

ТРА'ПКА *ж.* Ануча. *Трáпкаю беры, а то рукі папечэш.* Вулкан. *Трэба трáпку намуліваць і муць.* Ручаёўка. *Вустанавіць такую трáпку трэба! Закінь за печ.* Чаплін. △ *Стаць трáпкай.* Страціць волю. *Такі ліхі хлопец быў, а ажаніўся — трáпкай стаў.* Ручаёўка. *У трáпках пражы́ць.* Бедна пражыць. *Што ж мы у моладасці у трáпках пражылі, цепер мне восімдісят п'яць годóў, дак я і абутая, і адетая.* Ручаёўка.

ТРАПКА'Ч *м.* 1. Трапкач. *Трапкáч — ета паганейшы уціральнік. Дай мне трапкáч руку вуцерці.* Дзяражычы. *Лянь, на гвазду вісіць трапкáч, прынесі его сюды.* Ручаёўка. 2. Канцы нітак, якія адразаюць з палоскай палатна. *Калі ччэш рушнікі, дак кусочык астаецца — ета трапкáч. Насілі есць на поле у трапкачáх, децей білі трапкачáмі.* Дзяражычы. *Калі перарэжаш на навойцы — ета буде трапкáч.* Ручаёўка. *Шчэ і прымаўка такая е: трапкачóм па лыткам.* Карпаўка. // *перан.* Е'жа ў трапкачы́. *Занесі трапкáч на поле, ены там ёсці даўно захацелі.* Пярэдзелка.

ТРАПЯТА'ЦЦА *незак.* 1. Трапятацца. *Ой, як трапéчыцца серца, чуць не вускачыць.* Вулкан. 2. *перан.* Жыць, існаваць. *А матка трапéчацца трохі? — Да шчэ так памаленьку трапéчацца.* Дзяражычы.

ТРАСКО'ЎНІК *м.* Дробныя трэскі, смецце. *Набрала траскóўніку у корóбку.* Пярэдзелка.

ТРАСКУ'Н *м.* Тонкі лёд. *Траскýн держыць, але гнецца.* Мохаў. *Лёд, екі гнецца, трашчыць, а держыць — траскýн.* Пярэдзелка.

ТРАЎЛІ'ВЫ *прым.* Травяністы, заросшы травой. *Твае траўлівые ане чысценькіе кордóплі?* Чаплін.

ТРА'ХАЦЬ *незак.* 1. Стукаць. *Не трáхай так дверамі, аж вокна звіняць.* Ручаёўка. 2. *перан.* Балбатаць. *Па суседках трáхае увесь вечар.* Ручаёўка.

ТРАЦІ'НА *ж.* Трэцяя частка надзела зямлі. *Ей трэціну трэба було атпісаць.* Дзяражычы. *Ена дала трэціну поля да колёса.* Казярогі.

ТРАЦІ'НЫ *мн.* Памінкі на трэці дзень пасля пахавання. *Трэціны, девяціны, сарачыны, паўгода, год каторые правяць, а каторые не правяць.* Дзяражычы.

ТРАЦЯ'К *м.* Конь трох гадоў. *Траця́к — ета ужэ добры конь, на ём можна работаць.* Вулкан. *Трэцякá прывелі у лесні́частва.* Дзяражычы.

ТРАШЧА'ЦЬ: *галавá трашчы́ць.* Пра боль у галаве. *Вочы не падніму, так галавá трашчы́ць. Іхняя галавá усе трашчы́ць, што ім ад мене трэба.* Казярогі.

ТРО'ІЦА *ж.* Тройца. *Трóіца у канцэ сёмай неделі, а там русалная неделя, да ужэ й петроўка, дай лета прабегла.* Дзяражычы. *На трóіцу у нас калісь буў хвест: м'яса жарацъ, рыбу купляюць, гасцей завуць, гармонь іграе.* Ручаёўка.

ТРО'ЙДАЦЬ *незак.* Хадзіць, бадзяцца. *Як пойде, дак буде трóйдаць ат хаты да хаты.* Ручаёўка.

ТРО'НУЦЦА [1] *зак.* Пайсці, крануцца. *Я б учорі і трóнулася куды гуляць, дак баба не хоча пускаць.* Дзяражычы.

ТРО'НУЦЦА [2] *зак.* Звар'яцець. *Галіная маці тронулась ума* (З нар. песні). Дзяражычы. *Котóрые з ляку с ума тронуліся; адна так прасілася у немцаў, так малілася, а тады нача с ума трóнулася.* Чаплін.

ТРОХСЦЕ'НКА *ж.* Трысцен, прыбудова з трох сцен. *Трохсцéнкі не было. У трохсцéнцы печ нада ізделаць.* Казярогі.

ТРУБА′ *ж.* 1. Труба. *Былі і трўбы, аркестры з труб.* Чаплін. 2. Комін, дымаход. *Маленькая печ з трубамі — грубка.* Дзяражычы.

ТРУ′БКА *ж.* Сувой. *Трўбку, або сувой палатна замачуем у шчолаку, екі робім з попелу.* Карпаўка. *Пабеліла полотнó і у трўбку скаціла.* Ручаёўка.

ТРУДАЛЮБІ′МЫ *прым.* Працавіты. *Ена ж була такая трудалюбімая.* Дзяражычы. *Два умерлі, а два жыва: і трудалю́бімые, і к навукі спосо́бны.* Пярэдзелка. *Слухмяные, не балаўные, трудалюбімые — хоро́шые деці.* Чаплін.

ТРУДЗЯ′КА *м.* Працаўнік. *Мой не хітры буў, не брахлівы — такі трудяка.* Бывалькі. *Ой, ён такі трудяка, за робо́тай свету не бачыць.* Дзяражычы.

ТРУДЗЯ′ШЧЫ *прым.* Працавіты. *У бабы дед быў вельмі трудяшчы.* Дзяражычы. *Пчала трудяшчая: цегае мед, сцеражэ чужых.* Ручаёўка.

ТРУДЛІ′ВЫ *прым.* Працавіты. *Есць пчолы трудлівые, а есць усякіе.* Ручаёўка.

ТРУ′ДНАСЦЬ *ж.* Цяжкасць. *Перацягвалі у войну усе трўднасці, усе на сваём гарбу вынеслі.* Дзяражычы. *Перацеглі у войну трўднасці крэпка, перацеглі.* Ручаёўка.

ТРУДНЕ′ННА *прысл.* Вельмі цяжка. *Як рабіць я не буду, дак знаіце, як труднéнна.* Дзяражычы.

ТРУ′ЕНЫ *прым.* Тручаны, траўлены. *Хадіў увесь день як трўены.* Пярэдзелка.

ТРУІЗНА *ж.* Атрута. *Не вада, а екаясь труізна.* Дзяражычы.

ТРУПІ′ЗНІК *м.* Малы лясок, маладняк. *Ета ж не пад Гомелем, шчо чатыры берозы паваліў дай годі, а ета трупізнік: бач, колькі нарубаў мо сорак штук.* Ручаёўка.

ТРУСІ′ЦЦА *незак.* Дрыжаць. *Як пабачыць памідора, аж трўсіцца.* Ручаёўка.

ТРУСІ′ЦЬ *незак.* Трэсці. *Кабула була нізкая, м'якка на ёй було ездіць і не трўсіць.* Ручаёўка.

ТРУ′СКА *прысл.* Дрогка. *У мене трўска делаецца у галаве, і ногі затрасуцца, і рукі затрасуцца.* Чаплін.

ТРУХЛЯ′ВЫ *прым.* 1. Трухлявы. *Накідай трухлявага пня у дымар, будам пчол гледець.* Казярогі. 2. *перан.* Стары, лядашчы. *Ена ужэ шапацёлка, трухлявая: і га-*

*варыць не можа, і чуць ходіць. Як дерава трухля́вае шапаціць, так і ена.* Дзяражычы.

ТРУ'ШКІ *прысл.* Трушком. *Я стала крычаць да тру́шкі адтуль, а ему рукі немцы ланцугамі такімі звезалі.* Чаплін.

ТРЫ: *ні два́ ні тры́.* Абыякавы. *Людям ён ні два́ ні тры́, а у хаці паганенны.* Ручаёўка.

ТРЫ'БАМ: *ніякім трыбам.* Ніяк, ніякім спосабам. *Мая Маруся насіла соску на грудях, ніякім тры́бам нельга було атвучыць. Ну як к ему падыйсці? Ніякім тры́бам к ему не подо́йдіш.* Дзяражычы.

ТРЫВАЛЬНЕ'Й *прысл.* Мацней, дужэй. *Трывальне́й буде і здаравей, калі варанае есць буде.* Дзяражычы.

ТРЫМЦЕ'ЦЬ *незак.* 1. Дрыжаць, калаціцца. *Аж трымціць, так есці хоча.* Бывалькі. 2 *перан.* Заміраць ад страху. *Аж душа трымце́ла, так баялася немцаў.* Дзяражычы.

ТРЫ'НКАЦЬ *незак.* Пазваньваць. *Чого́-та тэлефон не тры́нкае.* Ручаёўка.

ТРЫСЦЕ'НАК *м.* Трысцен. *Жэніўсь мой Пеця, бацька і трысце́нак зрабіў, ліж ба добра і дружна жылі.* Пярэдзелка. *Трысце́нак называюць, калі к хаце прыделываюць другую хату.* Ручаёўка.

ТРЫСЦЁ *н.* Пласцінкі, з якіх зроблена бёрда. *Такое тоненькае трысцё, і его в'яжуць шнуркамі. Як посцілка тоненькая, то тоненькае трысцё, а на грубую — грубае. Трысцё з хоро́шага дерава робяць — з клёна.* Ручаёўка.

ТРЫСЦІ'НЫ *мн.* Пласцінкі, з якіх зроблена бёрда. *Трэсціны — тоненечкіе палачкі.* Пярэдзелка.

ТРЭ, ТРЭ'А *у знач. вык.* Трэба. *Трэ іці соло́нікі варыць.* Бывалькі. *Трэ, шоб копу змалацілі.* Ручаёўка. *Напазычаецца да трэ людям аддаць.* Чаплін. *Трэ́ латку прыкраіць.* Сяўкі.

ТРЭ'ЙЧЫ *прысл.* Тройчы. *Немец як хапіў за шыю, як кінуў, дак трэ́йчы паракацілася.* Карпаўка. *Трэ́йчы гарэлі за сваю жысць.* Первамайск.

ТРЭ'СНУЦЬ: *трэ́сне маро́з.* Аб надыходзе марознага надвор'я. *Шчэ як трэ́сне моро́з, дак усе памарозіць.* Дзяражычы.

ТУГІ' *прым.* 1. Тугі. *Нашто ты такі тугі варатні́чок пашыла?* Вулкан. 2. Цвёрды. *Белай дежачку стаўлеем, сваe тугіе качаны рэжам туды і с колхо́зу берем.* Цясны.

ТУ'КАЦЬ *незак. перан.* Гаварыць, заклікаць. *Ту́калі усе бабы на ее: уставай да ідзі прачуцісь.* Ручаёўка.

ТУЛІ'ЦЦА *незак.* Адхіляцца, адхінацца. *Як хочу пацалаваць, дак так ту́ліцца — не хоча.* Ручаёўка.

ТУЛЯ'ЦЦА *незак.* 1. Бадзяцца, блукаць. *Ён усё десь туля́ецца па гарадах.* Ручаёўка. 2. Хавацца. *Ох, ужэ туля́юся, туля́юся, да усеадно усе і пабачылі.* Дзяражычы. *Ён жа день туля́ецца па кустах.* Вулкан.

ТУНІ'КІ: *па-за туніках туля́цца.* Хавацца. *Мае сыны ваюють, пане сваха, а у яго па-за туніках туля́юцца.* Ручаёўка.

ТУПІ'ЦА *ж.* Сякера тупая. *Згубіў я сваю тупіцу у лесі.* Ручаёўка.

ТУПЫ' *прым.* 1. Тупы. *Нічога не знае, такі тупы́ хлопец, вучыцца не хоча.* Бывалькі. 2. Нячуйны (пра сабаку). *Тупы́ на ходу сабака.* Дзяражычы.

ТУРЧА'НКА *ж.* Сорт бульбы. *Мы два зого́нчыкі турча́нкі пасадзілі.* Первамайск.

ТУРЭ'ЦКІ: *турэ́цкія агуркі.* Сорт агуркоў. *То турэ́цкіе агуркі — бальшые і доўгіе, я такіх не сею, у мене простые.* Ручаёўка.

ТУ'ТАКА *прысл.* Тут. *У том гаду дак ту́така девачкі з Лоеўськага педвучылішча корто́плі капалі.* Ручаёўка. *Ту́така раділася і паміраць буду ту́така.* Чаплін.

ТУ'ТАКІ *прысл.* Тут. *Ту́такі у нас многа чого́ е, я вам пакажу.* Дзяражычы. *Тутакі у нас машыны ніколі не хадзілі.* Пярэдзелка.

ТУ'ЧА *ж.* Вялікая хмара. *О-о, хма́ры находяць. А як бальшая, дак кажуць: ту́ча найшла.* Чаплін.

ТУЧНЫ' *прым.* Тлусты, тоўсты. *Наша сала тучно́е.* Дзяражычы. *Я не люблю тучно́га сала і м'яса.* Ручаёўка.

ТУШО'НІКІ *мн.* Тушоная бульба. *У Цесно́х гово́раць тушо́нікі.* Дзяражычы. *Я тушо́нікаў на абед прыставіла.* Цясны.

ТХАРАНЯ' *н.* Тхараня. *Тхарыха з тхараня́тамі усе грады перакапала.* Чаплін.

ТЫ'БЛІ *мн.* Драўляныя шыпы. *Не на гвоздзі нада було браць, а на ты́блі браць.* Дзяражычы. *Дераўянные шыпы, а у нас ты́блі.* Бывалькі.

ТЫДЖАНЬ *м.* Тыдзень. *Тыджнёў два пройде — і корто́плі будуць гото́вы.* Дзяражычы. *З тыджань у коно́плях так пеў.* Ручаёўка.

ТЫ'ЖАНЬ *м.* Тыдзень. *На етым ты́жні паеду я у госці.* Дзяражычы. *Памянш.* ты́жнічак. *Хоць бы с ты́жнічак пастаяла пого́да.* Ручаёўка.

ТЫ'КВА *ж.* Посуд з гліны для алею. *Тыква — пасуда для алею.* Казярогі. *Алей б'юць і наліваюць у ты́кву.* Пярэдзелка.

ТЫН *м.* Агароджа з колікаў. *Тын — дубовые, шырокіе колікі закапуюцца.* Пярэдзелка. *Тыно́ў у нас на дерэ́ўні многа.* Чаплін.

ТЫ'РЛА *н.* Месца збору і адпачынку касцоў. *На ты́рла прывезлі вады, а то кажуць нельзя.* Пярэдзелка.

ТЫРПА'ЧЫЦЬ *незак.* Рэзаць, шаткаваць. *Нажом будеш тырпа́чыць.* Дзяражычы.

ТЫ'РСА *ж.* Апілкі. *Едь, кажа, пане Іван, на піламу, наберы там ты́рсы.* Ручаёўка.

ТЫ'ЧКА *ж.* 1. Тычка, вяха, указальнік фарватэра. *На Днепрэ ты́чкі паставілі.* Пярэдзелка. 2. Падпора для фасолі-вітушкі. *Стары, пастаў ты заўтра ты́чкі на квасулі.* Казярогі. *Ета ж тая самая вітуха, што на ее ставяць ты́чкі, падпоры.* Ручаёўка. 3. Палка, кол. *На ты́чку прыстроіць мешочык да яблакі зрывае.* Дзяражычы. *Вазьму ты́чку да добра адпаласую.* Ручаёўка. *А я сам, а я сам да усе той ты́чкай карпае.* Цясны. 4. *перан.* Высокі, худы чалавек. *Тая ваша деўка, што у штанах, настаяшчая ты́чка — ну і ну, де ена сабе хлопца найде такога высокага.* Пярэдзелка.

ТЫ'ЧКІ *мн.* Жэрдкі, якія кладуць паверх саломы на страсе. *Соло́маю крыюць, а зверху ты́чкі.* Ручаёўка.

ТЭ'ТЫ *займ.* Гэты. *У нашым у тэ́тым куточку дваццаць чалавек німа, усе пагіблі на вайне.* Бывалькі. *Тэ́ты горшчык трэ було вынець табе.* Казярогі.

# У

УБІВА'ЦЬ *незак.* Забіваць. *У Брагіне немцы людей куцабой убіва́лі.* Дзяражычы. △ *Убіва́ць бу́бна.* Працаваць шмат. *Калісь убіва́лі бу́бна, а нічога не палучалі.* Ручаёўка.

УБІРА'ЦЦА *незак.* 1. Выбірацца, пераходзіць. *На дварэ холадна, дак ены убіра́юцца у хату.* Дзяражычы. // Выязджаць. *Адін з нашай дерэ́ўні убіра́ўся на Украіну, да скора прыехаў назад.* Ручаёўка. 2. Прыбірацца.

*І маццы, і даццэ нада убіра́цца да гуляць: даццэ трэба і накрасіцца, і губы падвесці.* Чаплін.

УБІ'ЦЦА *зак.* 1. Забіцца. *Упаў з каня, чуць не убіўся.* Бывалькі. 2 *перан.* Прыйсці ў роспач. *Убіцца з таей рыбай.* Крупейкі. △ *Убіцца у петуха́ (пе́ўня).* Вельмі стаміцца. *Папатрусіцца на тых танцах, дак уб'ецца у петуха́.* Дзяражычы. *Убіўся у петуха́, а нема чого́ гледець на тую робо́ту.* Карпаўка. *На той робо́ці уваб'ешся у пе́ўня.* Пярэдзелка. *Убіцца ў галаву́.* Запомніцца. *Убілася у галаву́ ему дурная думка.* Ручаёўка. *Каці убілася у го́лаву, што захварэла ракам, дак сосо́хла на скепку.* Чаплін.

УБЛАГА'ЦЬ *зак.* Упрасіць. *Чуць ублага́лі его, дак паехаў прывезе машыну дроў.* Дзяражычы.

УБЫ'ЦЬ *зак.* Ужыцца, прабыць. *Ена баба такая, што не убу́де у нас.* Дзяражычы. *Ён ніде не убу́де.* Казярогі.

УВАБРА'ЦЬ *зак.* 1. Убраць, звезці з поля. *Хлеб увабра́лі увесь.* Дзяражычы. *Еты год пасеела трохі проса да такое добрае уроділа, дак добра, шо увабра́лі да етых даждзжоў.* Ручаёўка. 2. Схаваць. *Я ж аставіла у карзіні, ай вы мо увабра́лі куды ад децей?* Бывалькі.

УВАГНА'ЦЬ *зак.* Захапіць і пагнаць. *Нас усіх увагна́лі аж у Хвайнікі, а партызаны аслабанілі.* Ручаёўка.

УВАЖА'ЦЬ *зак.* Паважаць, кахаць. *Жывуць ены хорошо́, ён ее уважа́е.* Дзяражычы.

УВА'ЖЛІВЫ *прым.* 1. Уважлівы. *Таня так добра чытае, такая ува́жлівая, усё слухае і запамінае.* Ручаёўка. 2. Уступчывы. *Е ува́жлівые деці: свае цацкі па-раздаюць.* Дзяражычы.

УВАЖЫ'ЦЕЛЬНЫ *прым.* Уважлівы. *Добры хлопец папаўся ёй, уважы́цельны: і старому драстуй дасць, і малога не абідіць.* Пярэдзелка.

УВАЗНА'ЦЬ *зак.* Спазнаць. *Уваза́лі людзі войну, як страшка було: мы ж два гады булі пад немцамі.* Бывалькі. *Я увазна́ла ета недаўна.* Дзяражычы.

УВАЙСЦІ' *зак.* 1. Увайсці. *Увайді у хату, чого́ ты там стаіш.* Бывалькі. *Я увайшла́ і гавару, шчо там араюць, а ён: а чого́ ены там аруць? — деруцца значыць.* Дзяражычы. 2. Набрацца сілы, моцы. *Скасілі сена, і кордо́шка шчэ уво́йде.* Дзяражычы. *Маленькі буў такі слабенькі, кволы, а тады, бач, увайшо́ў, дак люба гледець.* Ручаёўка.

УВАЙЦІ'ЦЬ *зак.* Увайсці. *Хоць бы увайціць у хату сваю да холаду.* Ручаёўка.

УВАЛІ'ЦЬ [1] *зак.* 1. Наваліць, насыпаць. *Яблак уваліла цэлае ведро — хваціць вам.* Казярогі. // Моцна забалець. *Як уваліла у ногу, дак і на печы, і грэла — і нічога не памагае.* Дзяражычы. 2. Упасці. *У тое піва муха уваліла.* Вулкан.

УВАЛІ'ЦЬ [2] *зак. перан.* Забіць. *Кабана кожны год ува́ліць.* Дзяражычы.

УВАЛЛІ'ЦЬ *зак.* Уліць, наліць. *Парасяці сыровадкі не хоча уваллі́ць.* Дзяражычы. *Ты две ведрэ уваллі у жлукта.* Крупейкі. *Уваллі́ла крухмалу у кісель.* Пярэдзелка.

УВАПХА'ЦЬ *зак.* Увапхнуць. *Стой жа, я увапха́ю соро́чку у штонікі.* Ручаёўка. *Кой-як увапха́ў усе у чамайдан — і пошо́ў к машыні.* Чаплін.

УВАРВА'ЦЬ *зак.* 1. Уварваць. *Варвары ноч уварва́лі* (Прымаўка). Ручаёўка. 2. Ударыць. *Як уварве́ папругай. А ён як заскача.* Пярэдзелка.

УВЕ'РЫЦЦА *зак.* Упэўніцца. *Цепер я уве́рыўся, шо ты міне ізменяеш.* Дзяражычы. *Прося ужэ уве́рылась, шчо усе добра буде.* Быванькі. *Калі прыехалі на канікулы і раз, і другі, дак ена уве́рылась, шчо не кінулі вучобу.* Цясны.

УВІДНУ'Ю *прысл.* Завідна. *Не панесе увідну́ю, буде ждаць цёмнага.* Ручаёўка.

УВО'Й *м.* Падоўжаны край бёрда, у які ўстаўляецца трысцё. *Де устаўляецца трысцё, то называецца уво́й.* Казярогі. *Памянш.* уво́інка. *Уво́інка зламалася, сегодні мне не прыдецца ткаць.* Мохаў.

УВЯРА'ЦЦА *незак.* Упэўнівацца, заспакойвацца. *За чарніку я увера́юся: больш за стакана сахару паклала, дак ена не пракісне.* Ручаёўка.

УВЯШЧА'ЦЬ *незак.* Угаворваць, пераконваць. *Настаўніца прышла, увешча́ла міне, штоб я не кідала школу.* Дзяражычы.

УГАВАРА'ЦЬ *незак.* Угаворваць. *Вучысь, угавара́ю, угавара́ю его, а ён уцекае с урокаў.* Ручаёўка. *Матка села у галавах да як бероза ллецца, так плача, як зезюля куе, так ему усе угавара́е.* Дзяражычы.

УГАДАВА'ЦЬ *зак.* Выгадаваць, выкарміць. *А як свекруха сама летась угадава́ла двох парасятак, дак була вочы вубрала Сашы.* Дзяражычы. *Як угаду́ю ка-*

*бана пудой на восім, дак будам зіму і лета с салам.* Крупейкі.

УГАДА'ЦЬ *зак.* Пазнаць. *Я его угада́ў, а не бачыліся мо десяць гадоў.* Дзяражычы. *Прыедеш додо́му, дак і не угада́юць. Як беспрызорнік, мамка цебе і не угада́ла б ужэ.* Ручаёўка.

УГА'ДУВАЦЬ *незак.* Абдумваць, меркаваць. *Думаю, пайду коро́ву сваю здам; і так, і так уга́дую — як здаць міне.* Ручаёўка.

УГАМАНІ'ЦЦА *зак.* Супакоіцца. *Крыху угаманіўся хлопец, дак хоць што-небудь зделае за еты час.* Пярэдзелка.

УГАРЫ' *прысл.* Зверху. *Беры ягады угары́, ены не пацертые, а знізу пойдуць на верэня.* Ручаёўка.

УГА'С: *без уга́су.* Без перарыву, запар. *Я уцета без уга́су деветнаццаць годо́ў на хермі.* Дзяражычы.

УГЕ'ПАЦЦА *зак.* Стаміцца. *Ена сенні так плакала, аж урумзалась, аж уге́палась.* Ручаёўка.

УГЛА'БАЦЬ *незак.* Заграбаць. *Угла́бue усе у лапы, да усё сабе, да сабе.* Дзяражычы.

УГЛЯДА'ЦЦА *незак.* 1. Наводзіць парадак. *Некаму у нас угледа́цца: старые му, дак як е, так і добра.* Ручаёўка. 2. Захапляцца. *Нехай маладые угледа́юцца да жэняцца, а мы ужэ старые.* Дзяражычы.

УГНЕ'ЗДЗІЦЬ *зак.* Ударыць, выцяць. *Як угне́здіў мойго́ кабана кныплем, дак ён і азадак поцёг.* Дзяражычы.

УГНЕ'СЦІСЬ *зак.* Уціснуцца. *О-о такую шчылінку аставіш, дак курыца у сенцы і угнеце́цца.* Пярэдзелка.

УГО'ДНА *прым.* Пажадана. *Табе тое не ўго́дна, тое не смачна — не угодіш.* Дзяражычы. △ *Што ўго́дна.* Што хочаш (хочаце), любое. *Буде мой небож, сыграе што уго́дна.* Дзяражычы.

УГО'РУ *прысл.* 1. Угору. *Пагледі уго́ру, што ты убачыш?* Вулкан. 2. Вышэй. *А ноло́гі уго́ру і уго́ру булі калісь, а цепер добра стала.* Ручаёўка.

УГРАШЫ'ЦЦА *зак. перан.* Балбатнуць. *А мо калі угрэшысся — не державца езыкі.* Дзяражычы.

УГРО'БЛІВАЦЬ *незак.* Аднімаць здароўе. *Ета усадьба і угро́блюе: кожан день ходіш туды, да сколькі жукоў-каларадаў абберэш за лета.* Ручаёўка.

УДАБА'РЫЦЬ *зак.* Зрабіць што-небудзь нечаканае. *От, хлопцы удаба́рылі: нас на клямку зашчэплена.* Пер-

вамайск. *Як пойдуць на Зелёнае, так і удабáрацъ што-небудь.* Пярэдзелка.

УДАЛЕ'ННЫ *прым.* Вельмі прыгожы. *Удалённы буў мой стары да хорóшы. Тая жонка була удалённая да прыстойная, а ета скупучая.* Дзяражычы. *У Хведосіхі і деўкі і хлопцы удалённые — як ляльні.* Ручаёўка.

УДА'ЛЫ *прым.* Прыгожы. *Удаленны буў мой стары да хорóшы, а я не ўдáлая була, але у мене талан, талан буў.* Дзяражычы. *Такая дачка у ее удáлая, усе і гледеў бы на ее.* Казярогі. *Удáлая песня, так бы ее і слухаў.* Бывалькі.

УДАЛЯ'ЦЬ *незак.* Аддаляць. *Вецер хмары удаляе, толькі пад гразу дошч можа быць.* Дзяражычы.

УДАРАВА'ЦЬ *незак.* Уступіць, даравацъ. *Ён век не ударýе, еслі хто вінават. Ён не ударýе, а як гопне.* Ручаёўка.

УДА'РЫЦЬ *зак.* Ударыць. *Не бойся, ён цябе не удáрыць.* Бывалькі. △ *Удáрыць цілігрáму.* Паслаць тэлеграму. *Наді, праўда, нада удáрыць цілігрáму.* Бывалькі. *Марусі удáрце цілігрáму.* Дзяражычы. *Удáрыць у рýку. (голаву).* Забалець. *У рýку учорі удáрыла, а тады перастала. Еслі я прастыну ці перацежэлюся, дак так ударáе у гóлаву.* Бывалькі. *Ой, у гóлаву ужэ удáрыла.* Чаплін.

УДЕ'РЖУВАЦЬ *незак.* Вытрымліваць, трымаць. *Му ж не такіе паклалі сыны на вайне, дай удёржуем, шчо ж ты будеш рабіць, от і жыць трэба.* Ручаёўка.

УДЗЕ'РЖЫЦЬ *зак.* Утрымаць. *Ена тае капусты не купіць, буде бегаць сюды, калі мы удёржым у той дежцы.* Дзяражычы.

УДО'БА *ж.* Узрост. *Я дастоелась, прыйшла мая вочарадь к урачу, бачу, седіць жэншчына у такую о удóбу, як вы — у таком возрасці.* Дзяражычы.

УДО'ВІЦА *ж.* Удава. *Удóвіцай я з вайны, молóдой, мае деткі, засталася, усе ждала свойгó сокала, да не вернуўся ён.* Пярэдзелка.

УДО'ЛІ *прысл.* Доле. *Сяеначы пазасыпалі удóлі.* Дзяражычы. *Пускай Надьку, нехай удóлі поўзае.* Карпаўка.

УДРА'ПНУЦЬ *зак.* Драпнуць. *У савы дума: каб удрáпнуць когó.* Первамайск.

УДУ'МАЦЦА *зак.* Задумацца, засмуціцца. *Як удýмаўся, да удýмаўся: с токóга добра да нічога нема, усе*

*немцы разграбілі, да не спіць і не спіць. Я пытаю: Чогó ты не спіш? — Ходóра, я так удýмаўся.* Дзяражычы. *Яна удýмалася дак захварэла, прыехаў сын да: хату на міне парапісуй.* Крупейкі. *Васіль хацеў матку забраці к сабе, дак ена удýмалася ці шчо ды не гомóніць: рэч атнело.* Чаплін.

УДУШЫ'ЦЬ *зак.* Задушыць, прыдушыць. *Ен жонку сваю удушыў: падушку на галаву і удушыў.* Ручаёўка.

УДЫ'РЫЦЬ *зак.* Ударыць. *Пойдам і спросім, му ж іх не удырым.* Ручаёўка.

УЕ'ДЛІВЫ *прым.* Надакучлівы. *Уéдлівые такіе малые деці, не паседіш за імі ні мінуты.* Ручаёўка.

УЕ'ДНЫ *прым.* Быстры, праворны. *Уéдная девачка — ета пронóзаватая. Ну і уéдны хлопец у Насці удаўся.* Пярэдзелка. *Ну, і уéдны ты хлопец: цэлы день бегаеш, як метла.* Ручаёўка. *Памянш.* уéдненькі. *Такая була уéдненькая, бегла з бутылачкай і упала. Уéдненькі — провóрны, уносліві.* Дзяражычы.

УЕ'СЦІСЯ: *уéсціся у (гóркія) пячóнкі.* Надакучыць. *Вот ужэ уéўся у гóркіе печóнікі, не атпускае мене а ні на мінуту.* Дзяражычы. *За зіму так свіння уéлась у печóнкі: стольні хлеба паела, а худая, худая.* Казярогі.

УЗ *прыназ.* За. *Старэйшай нема, што уз нашу Варку.* Бывалькі.

УЗА'ПАР *прысл.* Падрад, запар. *Узáпар годóў восім не паступаюць.* Дзяражычы. *Две неделі узáпар езділа у Лоеў.* Ручаёўка.

УЗАТКНУ'ЦЦА *зак.* Наткнуцца. *З акна упаў да на кол узаткнýўся.* Дзяражычы.

УЗАТКНУ'ЦЬ *зак.* Надзець. *Іді валенкі узаткні, як будеш стаяць на дварэ.* Дзяражычы.

УЗБРЫ'ЗНУЦЬ *зак. перан.* Паказацца, з'явіцца. *Хмарка найде. Сонейка узбрызнула.* Бывалькі. *Мае картóплі не узыходяць, а ее узбрызнулі, як чэснок.* Дзяражычы.

УЗВЕ'ЧАРА *прысл.* Увечары, звечара. *Узвéчара сонца зашло у хмарку.* Казярогі.

УЗГАМАНІ'ЦЦА *зак.* Згаварыцца. *Ены узгаманіліся збіраць цацкі* (кветкі). Дзяражычы.

УЗДАРАВЕ'ЦЬ *зак.* Ачуняць, паправіцца. *Ну як? Корóва твая шчэ не уздаравéла?* Ручаёўка.

УЗДЫ'БАЧКІ: *на ўздыбачкі, на ўздыбачках.* На дыбачках (на пальчыках). *Устань на уздыбачкі — уба-*

*чыш агонь.* Мохаў. *Пахадi на уздыбачках.* Пярэдзелка.

УЗЛI'ЦЦА *зак.* Раззлавацца. *Дак ена штось на мене узлiлася, не хоча гаварыць.* Дзяражычы. *Деўка як узлiцца, аж сепае.* Бывалькi.

УЗЛI'ЦЬ *зак.* Палiць. *Хадем, я табе узаллю, а ты памыеш.* Дзяражычы. *Я узаллю вам на рукi.* Ручаёўка.

УЗНI'КНУЦЬ *зак. перан.* Вырасцi, выгадавацца. *Маiх i девак быстра пабралi: не успее узнiкнуць, як i паберуць, дак i цепер так добра жывуць.* Дзяражычы.

УЗО'ЛIЦЦА *зак.* Пазалiцца (пра палатно, бялiзну). *Наччэш палатна калiсь, а тады трэба было, каб ено добра узóлiлась.* Пярэдзелка. *Трэба ж так етым посцiлкам узóлiцца, аж гледець радасна.* Мохаў.

УЗО'РАЦЬ *зак.* Узараць. *Такая земля негадяшчая, як узóраш ее, дак глыжак тых поўна.* Дзяражычы. *Заўтра паедам узóраць пад жыта.* Цясны.

УЗРАДЗЕ'ЦЬ *зак.* Узрадавацца. *Усе б людечкi узрадéлi, каб сказалi: мiр ва усiм свету.* Дзяражычы. *Прыежджае ён i прывозiць iз'ёмку. Я тады узрадéла: ранка, як рыбеччае вочка.* Чаплiн.

УЗРАСЦI'ЦЬ *зак.* Вырасцiць, выгадаваць. *Бабушка узрасцiла дачку.* Бывалькi. *Усiх сыноў i дочак узрасцiла, а трох сыноў пабiта на вайне.* Дзяражычы.

УЗРАЎЦI'СЯ *зак.* Зараўцi. *Самалеты узрэўлiся, адiн за другiм летаюць.* Бывалькi.

УЗРЭ'ЦЬ *зак.* Паглядзець, пабачыць. *Iдi мiне прыведi мужа, я его узрý, а то, мабыць, скора памру.* Дзяражычы.

УЗЫВА'ЦЬ *незак.* Вызываць. *Узывáюць мiне у школу: хлопец мой збег с урокаў.* Ручаёўка. *Узывáюць нашых хлопцаў у ваенкамат: скора будуць прызываць у армiю.* Чаплiн.

УЗЯ'ЦЦА [1] *зак.* 1. Узяцца. *Адкуль жа узяўся ахотнiк малады* (З нар. песнi). Бывалькi. *Кортóшка парасла, да вельмi узелáсь расткамi.* Пярэдзелка. △ *Узяцца за рóзум.* Адумацца, стаць разважным. *Пара табе, хлопец, за рóзум узяцца, не маленькi, ужэ дваццаць п'яць годóў.* Бывалькi. *Iзразу дурэў, у школу не хадiў, а тады усё ж узяўся за рóзум, дак i добра кончыў восьмы клас.* Пярэдзелка. 2. Зрабiцца. *Усё лiцо узелóся пад блiнец, такая чорная: i на лабу, i на шчэках пецьмiны.* Дзяражычы.

УЗЯ'ЦЦА [2] *зак. перан.* Радзiцца. *А тады Светлана i*

*Ліля узяліся — раділіся.* Бывалькі. *Было, ужэ Карп узяўся мой, да свекар не знае, шчо ему даваць, так жалеў діця мае.* Дзяражычы. *Галя узелáся, дак вы ешчэ аддельна жылі.* Ручаёўка. *У ее ж учóра узелóся двое детак.* Чаплін.

УЗЯ'ЦЬ *зак.* 1. Узяць. *Вазьмý сабе етыя ігрушы.* Вулкан. *Азьмі сабе адну штуку.* Дзяражычы. *Корóвы есць не узя́лі, жуякі не жуюць.* Карпаўка. △ *Узя́ць у лабéты.* Стварыць становішча безвыходнасці. *Віцю тогó узя́лі у лабéты, дак і пускаць баяцца к нам прыехаць.* Дзяражычы. *Узя́ць у разóнт.* Зразумець. *Ты ж не крычы, ты ж вазьмі у разóнт; хіба матка табе хоча чогó плохóга.* Дзяражычы. 2. Узяць замуж. *Із Бувалек хлопец сюю зіму хацеў узя́ць ее.* Вулкан. *Тая деўка не знала, што ён ее вóзьме, а от талан: хадіў і узя́ў.* Дзяражычы. *Вазьмý девачку семнаццаці лет* (З нар. песні). Бывалькі. 3. Стаць. *От бежыць і бежыць, а тады і узя́ў крычаць.* Мохаў.

УКАНА'ЎШЧЫК *м.* Выканаўца. *Станіслаў за уканáўшчыка, па раёну нолóгі сабірае.* Дзяражычы.

УКА'ПАВАЦЦА *незак.* Выкопвацца. *Укáпаваўся пограб, а сцёбка рубілася із лесу.* Дзяражычы.

УКАТА'ЦЬ *зак.* З'ехаць. *Ена укатáла ужэ даўно з Ручаёўкі.* Ручаёўка.

УКА'ТЫВАЦЬ *незак.* Выкочваць мёд. *Укáтываць мёд — так у нас болей говóраць.* Ручаёўка.

УКАША'ЦЦА *зак.* Ублытацца, умяшацца. *Ена ж укáшэцца у кожнае дела, на кожнага набрэша.* Дзяражычы.

УКА'ШУВАЦЬ *незак.* Выкошваць. *Я буду за десяць укáшуваць, абы мне далі сена на корóву.* Ручаёўка.

УКВО'ЛІЦЬ *зак.* Ударыць, выцяць. *Адін аднаго уквóляць, дак кажуць: а ты б узяў его за кіршэнь да аб зямлю.* Пярэдзелка.

УКІДА'ЦЦА *незак.* Імкнуцца. *Цепер у багацтва не ўкідáйся, абы здорóўе було.* Дзяражычы.

УКІ'НУЦЦА *зак.* 1. З'явіцца. *Такая ненавісць укінецца у чалавека.* Крупейкі. 2. Здарыцца. *Укінуўся на людей ціх.* Ручаёўка. 3. Захапіцца. *А мой дак укінуўся у кніжкі: чытае день і ноч.* Дзяражычы.

УКІ'НУЦЬ *зак.* 1. Укінуць. *Укінь маленькую рыбку у рэчку.* Дзяражычы. *Нада у дежку укінуць немнога закваскі.* Пярэдзелка. 2. Наліць, накласці. *Я табе ўкіну,*

*мама, малака кіслага. Де той кісель? Міне укінь у стакан.* Дзяражычы. *Я вам укіну меду і хлеба.* Ручаёўка. 3. Засмажыць. *Хазяйка укіне паўхунта мяса у кортоплі ане у боршч.* Дзяражычы. *Што ты у той горшычак укінеш?* Ручаёўка.

УКЛАНІ'ЦЦА *зак.* Прывітацца, пакланіцца. *Баба ішчэ уклóніцца — драстуйце, як здорóвейка ваша.* Дзяражычы. *Я кагу: убачыш, дак укланісь бабі Вулляні.* Дзяражычы.

УКЛА'СЦІ *зак.* 1. Пакласці. *Седі з діцям, а укладéш у калыску, дак пакалышы.* Ручаёўка. 2. Зацягнуць, уцягнуць (нітку). *Матка у іголку укладé, а я не укладý.* Бывалькі. *Цепер ужэ прашу унучку уклáсці нітку у іголку, бо вочы сталі пагана бачыць.* Чаплін. △ *Уклáсці вóчы.* Закахацца, улюбіцца. *Девачка такая уклáла вóчы у его, ні на когó гледець не хоча.* Дзяражычы.

УКЛЯ'ПАЦЦА *зак.* Памыліцца. *Ета ж трэба так уклепáцца: на падасінавіка падумала грыб.* Ручаёўка. *От, ты не уклепáлася, мае діця, усё правільна зделала.* Чаплін.

УКМЕ'ЦІЦЬ *зак.* Прыкмеціць. *Добра его укмéціла, як на вячоркі хаділа.* Дзяражычы.

УКО'НВАЦЬ *незак.* Выконваць. *Мой брат па раёну ездіць, укóнвае нолóгі, а Сцепан збірае молокó і кортóплі.* Дзяражычы.

УКО'ЦАЦЬ *зак.* Забіць. *Сына ее десь укóцалі, дак і цепер плача.* Казярогі.

УКУ'С *м.* Смак. *Найшлі укýс — храпы етыя.* Дзяражычы. // *перан.* Густ. *У цебе дак добры укýс: такіе красівые хусты купіла.* Ручаёўка.

УКУСІ'ЦЬ *зак.* 1. Укусіць. *Сабака укусіў за ногу.* Бывалькі. 2. З'есці, перакусіць. *Прышлі после хронту додóму — нічым нічога не засталі, на раз укусіць не засталі.* Дзяражычы. *Што ета за хлеб! Ён жа і стаіць тут, укусіла уранні, дак ён і стаіць ле серца, ле ложачкі.* Крупейкі.

УКУТА'ЦЦА *незак.* Ухутвацца. *Ей госпаду богу, старэйшыя люді крапчэйшыя: я не укутáюсь зімой.* Дзяражычы. *Я большу часць на адін бок прывыкла. Лажуся дагары і з голóвой укутáюсь тады.* Казярогі. *Хворые укутáюцца крэпка.* Ручаёўка.

УКУ'ТАЦЬ *зак.* Ухутаць, захінуць. *Укýтаць діця трэба.* Казярогі. *Баба укýтала нас роднóм.* Дзяражычы.

УЛАГАВА'ЦЬ *зак.* Задзірванець. *Улагавáла ужэ паша.* Дзяражычы.

УЛА'ДЗІЦЦА *зак.* 1. Уладзіцца. *Не гаруй так, можа шчэ усе ўлáдіцца.* Вулкан. *Да нача улáдійся у Гомель, экзамены у жэлезнадарожнае вучылішча здаў, доўжан прыці вызаў.* Пярэдзелка. 2. Унадзіцца. *Улáділісь куры у ечмень, увесь скудлычылі.* Казярогі.

УЛА'ДЗІЦЬ *зак.* 1. Упарадкаваць. *Свінню убілі і да абеда улáділі.* Вулкан. 2. Паспрыяць. *Беры ее, а мы табе улáдім: дадім табе і трактар, і робóту.* Дзяражычы.

УЛА'ЗІЦЬ *незак.* 1. Улазіць. *Шчэ недаўна ногі улáзілі у чобаты, а цепер ніяк не лезуць.* Бывалькі. 2. Спаўзаць, вылазіць. *Улазіць плотóк, нацегні болей на лоб.* Ручаёўка.

УЛА'СЦЬ *ж.* 1. Улада. *Вот екая улáсць була царская, шчоб ена век не верналася.* Дзяражычы. *От жа шчо значыць Савецкая улáсць. Нічога не робім му, старые, а пенсаю палучаем.* Ручаёўка. 2. Воля. *Еслі б мая улáсць, я б цебе не пусціла ехаць у Калерыю.* Ручаёўка.

УЛІ'ЧВАЦЬ *незак.* Выкрываць, абвінавачваць. *Я нікагда децей не улічвала, шчо ены шкоду зделалі.* Дзяражычы.

УЛУ'ЗУВАЦЬ *незак.* Вылушчваць, вылузваць. *Суседка штук п'яць на гуркох вуламала кіехоў: дзесь улýзувала, гледела, ці спелые кіехі.* Ручаёўка.

УЛУЧЫ'ЦЦА *зак.* Прыбіцца. *От улучылася пуленя, як его вýлучыць назад.* Бывалькі. *Улучылася чужое егня у стаду, чыё ета токóе.* Дзяражычы.

УЛЯКНУ'ЦЦА *зак.* Спалохацца. *Ці ена була бальная ці ена улекнýлась — забалела біркулёзам.* Дзяражычы. *Не дай бог, шо б ена не улекнýлась, а то серца разарвецца.* Крупейкі. *Ена так улекнýлась, шчо ены ее кінулі.* Мохаў.

УЛЯКНУ'ЦЬ[1] *зак.* Спалохаць. *Ты так мене улекнýла: я ж цебе не бачыла за возам.* Бывалькі.

УЛЯКНУ'ЦЬ[2] *зак.* Уцягнуць. *Ены ее улекнýлі у етае дела.* Дзяражычы. *Улекнýлі — угаварылі, пасаветувалі зделаць тое і тое.* Крупейкі.

УЛЯЛЮ'ШЧЫЦЬ *зак. іран.* Услужыць, зрабіць паслугу. *Во ты мне улелю́шчыла, дак улелю́шчыла: каго ж ты мне прыслала на кваццеру!* Дзяражычы.

УЛЯПІ'ЦЦА *зак.* Учапіцца. *Чогó ты улепіўся за*

*мною, седеў бы дома на печы.* Бывалькі. 2. Уладзіцца. *У колхо́зі буў сторажам: улепіўсь і зарабатуе; ужэ тышчыць акарак.* Казярогі.

УЛЯЦЕ'ЦЬ: *уляце́ць за́муж.* Паспешліва выйсці замуж. *Вучысся, вучысся, а тады як улеціш за́муж. Добра, як добра, а як ліха.* Ручаёўка.

УМ *м.* Розум. *То ж нема у цебе ума, екі дурны поп цебе хрысціў.* Бывалькі. *Шчо старые гово́рець на глум, дак моло́доє беры на ум.* Дзяражычы.

УМЕ'КА *м.* і *ж. іран.* Умелец. *Ну і уме́ка ты. Нічога не умееш зделаць. Ты дажа пілу не так цягаеш, як трэба.* Ручаёўка.

УМЕ'РЦІ *зак.* Памерці. *Папрашчалась з діцямі і унукамі і умерла.* Дзяражычы. *У пост уме́р, заручыны булі. Не здолеў чалавек, умѐр.* Карпаўка.

УМЕ'СЦЕЧКУ *прысл.* Разам. *Умѐсцечку селелі пуленяткі.* Ручаёўка.

УМЕ'СЦІ *прысл.* Разам. *Уме́сці гулялі у адной дерэўні і пабраліся.* Дзяражычы.

УМЕ'ЦІЦЬ *зак.* Прыкмеціць. *Я б его уме́ціла усераўно і надавала б.* Ручаёўка.

УМІРА'ЦЬ *незак.* Паміраць. *А вот я буду уміра́ць і век не папрашу.* Дзяражычы. *Каму гаравацЬ, таму не уміра́ць.* Крупейкі. *Цепер так добра жывом, шчо і уміра́ць не нада.* Казярогі. *Уміра́ць сабірайся, а хлеб пашы.* Чаплін.

УМО'ЎКНУЦЬ *зак.* Змоўкнуць. *Як я скажу, дак ена умо́ўкне.* Дзяражычы. *Я тады умо́ўк, дак ена: от табе так і трэба.* Чаплін.

УМО'ЧУВАНЫ *дзеепрым.* Вымачаны. *Ото тая беленькая девачка нача умо́чуваная.* Ручаёўка. *Умо́чуваные коно́плі разаслалі.* Чаплін.

УНЕ'ГАЦЦА *зак.* Стаміцца. *Учора уне́галась, дак і сёдні не хоча брацца.* Бывалькі. *Мужык мой спіць да деўяці, а я у п'яць устала і ужэ уне́галась.* Дзяражычы. *І так бывала уне́гаісся, што і ног не падымеш.* Первамайск. *Нада ж ему так уне́гацца, шчо і на карвацЬ не лёг.* Чаплін.

УНЁ *часц.* Вунь. *Унё там лежыць.* Вулкан. *Унё парася пабегла на вуліцу.* Ручаёўка.

УНІСТАЖА'ЦЬ *незак.* Знішчаць. *Пчолы трутня на зіму скрозь уністажа́юць.* Ручаёўка. *Уністажа́ем жукоў, а ены кожны год едяць карто́плі.* Чаплін.

УНІ'ЦІЦЬ *зак.* Ударыць. *Так сабаку уніціў пугай, што аж падскочыў.* Пярэдзелка.

УНІ'ЧЫЦЬ *зак.* Ударыць. *Сядь, а то як унічу рэмнем, то будеш помніць.* Дзяражычы.

УНІЯ'Т *м.* Шкоднік, балаўнік. *Ах ты уніят, де цебе хворо́ба носіць!* Барэц. *Іді, уніят, хоць пад'еж чого́, цэлы день не стыкаецца дома.* Пярэдзелка.

УНО'СІЦЬ *незак.* 1. Уносіць. *Учорі уно́сіла корто́плі у пограб.* Дзяражычы. 2. Выносіць. *Усе трэба уно́сіць із хаты.* Ручаёўка. *З хаты уно́сяць сталы, сланы на двор,* Чаплін.

УНО'СЛІВЫ *прым.* Жвавы, рухавы. *Ее бацька буў уно́сліві, і ена такая, не паседіць на месці — круціцца і круціцца.* Карпаўка.

УНУ'КА *ж.* Унучка. *Мая уну́ка занелась тожа сціркаю. Уну́ка павумувае, павучышчае.* Дзяражычы. *Мая уну́ка атгуляла: тады папагуляла, што була што неделі у делі, на веселлях папагуляла.* Ручаёўка. *Уну́ка ты мая, а екая ты худе́нькая.* Чаплін.

УНУЧО'К *м.* Унучак. *Унучо́к, іді да пераберы грыбу.* Ручаёўка. *Мой унучо́к сеголета школу кончыў.* Чаплін.

УНУЧО'НАК *м.* Унучак. *Я еду к дачке унучаня́т гледець.* Ручаёўка. *У мене трое унучаня́т.* Чаплін.

УНУША'ЦЬ *незак.* Навучаць. *Калісь унуша́лі старые, і старых слухалі калісь.* Дзяражычы. *Я сваім децям скрозь унуша́ла толькі добрае дела.* Крупейкі.

УНЫ'ЎКА *ж.* Маркота, журба. *Ужэ цепер з уны́ўкай: калі весела, калі не так, годы цепер не маладые.* Ручаёўка.

УНЬ *часц.* Вунь. *Унь і чобо́ты, і валенцы лежаць.* Ручаёўка.

УПАДА'ЦЬ [1] *незак.* Выпадаць, прыходзіцца.— *Чого́-та вы раней не прыехалі? Не упада́ла? — Так, збіраліся даўно, а вот толькі цепер прыехалі.* Дзяражычы.

УПАДА'ЦЬ [2] *незак.* Уніжацца. *Буду я шчэ перад ім упада́ць. Я на его гледець не магу.* Бывалькі.

УПАДО'БАЦЬ *зак.* Палюбіць. *Я его уподо́бала, мой хазяін такі добры чалавек.* Дзяражычы.

УПА'ДУВАЦЬ [1] *незак.* 1 *перан.* Шмат працаваць. *О-о, детачкі, як бы я ле семеечкі упа́дувала, а то я упа́дуваю ле чужых людей.* Дзяражычы. 2. *перан.* Клапаціцца, дагаджаць. *Чужая б не хацела і вады падаць, сказала б, шчо я ле цебе буду упа́дуваць. А дачка ж*

*упа́дуе*. Дзяражычы. *У нас упа́дуваць за вамі нема каму*. Ручаёўка.

УПА'ДУВАЦЬ [2] *незак.* Трапіцца. *Грошы палучае, дак шо упа́дувае, скрозь купіць*. Дзяражычы.

УПАЗНЕ'ЦЬ *зак.* Спазніцца. *Еслі б упазне́ла, дак не было б нічым нічога: усё б выгарала*. Пярэдзелка.

УПА'ЙВАЦЬ *незак.* Выпойваць, выгадоўваць. *Петнаццаць годо́ў я упа́йвала целят*. Дзяражычы. *Так харашэ упа́йвала, што часта прэмію палучала*. Крупейкі.

УПАЛНЯ'ЦЬ *незак.* Выконваць. *Па м'ясу упалня́е і па грашах*. Ручаёўка. *Усе загото́ўкі упалня́ем у строк*. Чаплін.

УПА'СЦІ *зак.* 1. Упасці. *Десь мо упа́лі грошы. Бачыш, де упа́лі*. Ручаёўка. 2. Супасці, быць аднолькавым. *Па зіме лета не упа́ла, можа і зіма не супаде*. Пярэдзелка. 3. Зменшыцца, паменшыцца. *Ено німа ужэ малака: упа́ла*. Дзяражычы. 4. Аслабець, захварэць. *Той дед на ногі упа́ў, папухлі ногі, а у ее упа́ла на вочы*. Дзяражычы. *Ета чэраз мужа ена і сама упала: нічога не можа рабіць*. Казярогі. *На вочы упа́ла, пані Васілёк*. Крупейкі.

УПЕ'КЦІСЯ *зак.* Надакучыць, абрыднуць. *Еты Грыша так мне упёкся*. Дзяражычы. *Упе́клася мая свекруха мне*. Ручаёўка. *Дошч еты упёкся, як качарэжны дым*. Чаплін.

УПЕРАГО'НКІ *прысл.* Наперагонкі, навыперадкі. *Упераго́нкі пабеглі*. Бывалькі. *Як бежым упераго́нкі, скрозь выйграю*. Крупейкі.

УПЕ'РАД *прысл.* 1. Уперад. *Папаўсь у перад: ні узад, ні уперад*. Крупейкі. *Такі тоўсты стаў, іде, дак жывот упе́рад далека від́на*. Ручаёўка. 2. Папярэдзе. *Ена іде упе́рад, вуўяжыцца, яксці ена заўязувала плото́к рагамі наперад*. Ручаёўка. 3. Раней. *Курачка наша седела упе́рад недель две*. Бывалькі.

УПЕ'РАДЗЕ *прысл.* Уперад, раней. *Мене упе́радзі бланка прышла, а тады ужэ пасылку палучыла*. Дзяражычы.

ЎПЕРАЙМЫ' *прысл.* Наперарэз. *Вон бычок пабег, бегі ему, унучок, уперайма́ы*. Пярэдзелка.

УПЕ'РАК *прыназ.* Упоперак. Ён заўсёды становіцца *упе́рак да́рогі*. Дзяражычы. *Упе́рак вуліцы трактар стаў з прыцэпам, не прайсці*. Чаплін.

УПІВА'ЦЬ *незак.* Выпіваць. *Учорі с таей сваей невесткай от упівáлі.* Ручаёўка.

УПІ'САВАЦЬ *незак.* Выпісваць. *Подвóду пашла упісаваць.* Ручаёўка. *Секлетар сегодні упісуе нолóг.* Чаплін.

УПІ'ЦЦА *зак.* Напіцца, шмат выпіць. *Упіўся, дак чуць домóў прыпоўз.* Дзяражычы. *Молокó спарыла і так упілáся, што аж паздаравела.* Карпаўка.

УПЛАДЗІ'ЦЦА *зак.* Нарадзіцца. *Летась целя упладілась такое негадяшчае.* Ручаёўка.

УПЛАДЗІ'ЦЬ *зак.* Нарадзіць. *З діцяці умерла: діця упладіла да умерла.* Дзяражычы.

УПЛЕ'СЦІ [1] *зак.* Уплесці. *Трэба каснікі уплéсці у косы.* Бывалькі.

УПЛЕ'СЦІ [2] *зак.* 1. З'есці. *Паклалі коўбік у сенцы, дак не агледеліcь, як сабака схапіў і уплёў его, ні капелінaчкі не асталося.* Дзяражычы. 2. *перан.* Схапіць. *Сабака куру у зубы ўплёў і несе.* Ручаёўка.

УПЛЁТ *м.* Стужка. *Брат сестрыцу расплетаў, а детые уплёты падеваў* (З нар. песні). Вулкан.

УПЛЁТКА *ж.* Стужка. *Як уплецеш уплётку бувала у косу, так красіва гледець.* Ручаёўка.

УПЛЁТНІК *м.* Стужка. *Сеголета абрэзалі косы нашы дейкі, то і уплётак не трэба купляць.* Дзяражычы.

УПЛІ'СКАЦЦА *зак.* Прывязацца, прычапіцца. *Ета ж парася, як упліскаецца за кім, дак не адчэпісся.* Дзяражычы.

УПЛЫ'НЬ *прысл.* Уплаў. *Жандармы стралялі у людей, і уплы́нь люді перабіраліcь без лодак.* Первамайск. *Уплы́нь пусціўся, а рака у нас шырокая, дак чуць выплыў.* Рудня Марымонава.

УПЛЮ'НУЦЦА *зак.* Прычапіцца. *Тут Сенікаў сабака за мной як уплюнуўся, дак я колóк вунела.* Дзяражычы. // Унадзіцца. *Як уплю́нулася ворона, дак ніякага не ловіць, а толькі чорненькае пуленятка.* Ручаёўка.

УПО'СЛІ *прысл.* Пасля. *Упóслі у вас була дейка.* Дзяражычы. *Упóслі говóрыць мне, калі я ужэ усе прадала.* Ручаёўка. *Прышла упóслі у клуб, дак стаяла увесь вечар.* Чаплін.

УПРА'ВІЦЦА *зак.* Справіцца. *Два разы упрáвіўся раненым быць.* Дзяражычы.

УПРА'ЖКА *ж.* Запрэжка. *Каліcь у нашага пана такая упрáжка була.* Вулкан. △ *У адну́ упрáжку.* З ран-

ня да вечара, цэлы дзень. *Дні малые, дак робо́таюць у адну упра́жку.* Казярогі.

УПРАКА'ЦЬ *незак.* Папраўляць. *Не так што зделала, хазяін упрака́е.* Ручаёўка.

УПРО'КІ *мн.* Папрокі. *Ніякіх упро́каў я ад ее не чула.* Вулкан. △ *Упро́кі дава́ць.* Папракаць. *Упро́кі стала дава́ць ёй, а невестка абіділась, дак мо два годы не разгаваруюць.* Ручаёўка.

УПРО'ЦІ *прысл.* Супраць. *Як вы семейные, дак і бегайце, капайце, я не ўпро́ці.* Дзяражычы.

УПРО'ЦЬ *прысл.* Супраць. *Я ж не ўпро́ць сыйцісь з ім.* Рудня Марымонава.

УПРО'ЧКІ *прысл.* Прэч. *Што ты міне проці ночкі шлеш упро́чкі* (З нар. песні). Чаплін.

УПРЫ'СКАЦЦА *зак.* Унадзіцца. *Хто буде іці, дак парасяці упры́скаецца дай по́йде. Упры́скацца — унадіцца за кім-небудь.* Дзяражычы.

УПУ'ДЗІЦЦА *зак.* 1. Кінуцца бегці ад страху. *Конь упу́діўся, дак калі б не адскочылі, збіў бы.* Дзяражычы. 2. *перан.* Хутка пабегчы. *Як упу́діўся за Пецькам, дак чуць дагнаў.* Бывалькі.

УПУСКА'ЦЬ *незак.* Апускаць. *Кого́ хоро́няць да глыбока, глыбока, дак страшка. Да стануць упуска́ць дамавіну, дак кото́рые не упу́сцяць харашэ, да переверняць, да накідаюць землі сто́лькі наверх.* Дзяражычы.

УПУСЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Упусціць. *Упусці коро́ву у двор.* Вулкан. 2. Апусціць. *Я ж пісьмо упусціла шчэ на той неделі, дак да етай пары нічога не чутна, а ено іде два дні.* Бывалькі. 3. Усадзіць. *Настаяшчы меснік твой Кузьма, як упусціў нажа у серца, дак кабан дайжа не віснуў.* Бывалькі.

УРАБЕ'ЦЬ *зак.* Спалохацца, спужацца. *Мы іменна урабе́лі: а ні назад іці , ні у дерэўню бегці.* Крупейкі.

УРАБІ'ЦЦА *зак.* Запэцкацца. *Паслала ка́пу на мост да думаю: клопат, нехай і уро́біцца, а буду спаць на ёй. Ета ж робо́та такая, павернісь, шоб ты не урабілася, калі ново́з вукідаем.* Дзяражычы. *Я стары хвартух захавала, нехай буде два, а то думаю, той уро́біцца.* Казярогі.

УРАБІ'ЦЬ *зак.* Запэцкаць. *Я ж коро́ву абцеру палаценцам, ена у мене ні раз не ляжа, штоб урабіла дойкі.* Крупейкі.

УРАДНЮ'ЧЫ *прым.* Вельмі шкодны. *Уradню́чая ена*

*з маткай з вашаю.* Карпаўка. *Ена такая урадніочая, што гаді, як ліхой скуле.* Дзяражычы.

УРА'ЖА *м.* Вораг. *Хто табе кажа, той на мене ура́жа, што у мене децей многа.* Чаплін.

УРАЖО'НЫ *прым.* Прыроджаны. *Ена такая уражо́ная, хоць ты ей кол на голове зацешы, а ена на сваём.* Дзяражычы.

УРАЗДЗЁР *прысл.* Ва ўсе бакі, усюды. *У коміні дір-кі — рука лезе, дым пойде, дак ураздёр.* Дзяражычы.

УРА'ЗІЦЬ *зак.* Ударыць, пашкодзіць, пакалечыць. *Не упаді: ручку ура́зіш.* Бывалькі. *Не чапай, а то ногу можаш ура́зіці.* Ручаёўка.

УРАКНУ'ЦЬ *зак.* Сурочыць. *Як я красівая, здоро́вая, дак могуць і уракну́ць.* Дзяражычы. *Адна мене уракну́ла: у цебе печ чыстая, дак забалелі рукі.* Ручаёўка.

УРА'ННІ *прысл.* Раніцай, ранкам. *Заўтра ура́нні бацька нехай везе.* Дзяражычы.

УРО'ДЗІЦЬ *зак.* Урадзіць. *Да добра уро́діла той год.* Дзяражычы. *Улетку уро́діла ці не уро́діла, а даярка палучае кілаграм хлеба.* Бывалькі.

УРО'К *м.* Урок. *Забалеў чалавек: ох, мо у его уро́к е, чого́ ж ён захварэў.* Дзяражычы.

УРО'ЧЛІВЫ *прым.* 1. Той, хто здольны сурочыць. *Ён такі уро́члівы чалавек: як пагледіць, дак ты абезацелна захварэіш.* Бывалькі. 2. Той, каго можна сурочыць. *Я не уро́члівая, я не баюся урокаў.* Дзяражычы. *А мая Таня дак часта хварэе, такая ена уро́члівая: як толькі ета баба пагледіць, абезацелна ее усю ператрэ, перахварэе.* Чаплін.

УРУ'Н *м.* Рунь. *Восенню уру́н, весной — усходы.* Вулкан.

УРУ'НА *ж.* Рунь. *Асенняе жыта — уру́на.* Бывалькі. *Калі подо́ймецца вісокае, дак называецца уру́на; урунее восенню.* Карпаўка. *Уру́на восенню, весной кажуць: скарада хоро́шая.* Ручаёўка. *Уру́на хоро́шая узыйшла у нас сёлета.* Чаплін. *Памянш.* уру́нка. *Уру́нка была такая зелёненькая.* Казярогі.

УРУ'МЗАЦЦА *зак.* Заплакацца. *Ена сегодні так уру́мзалась, што аж хліпала.* Ручаёўка.

УРЫВА'ЦЬ *незак.* Вырываць. *Дядька Петро, калі ву будеце тые дверцы урыва́ць?* Ручаёўка.

УРЭ'ДА *ж.* Шкода. *Не дай божа, екую ён урэ́ду зрабіў людям.* Ручаёўка.

УРЭ'ДЗІЦЬ *незак.* Шкодзіць. *Укол не так урэ́діць, як пілюжкі.* Дзяражычы. *Я не буду табе урэ́діць, делай, як сама знаеш.* Крупейкі.

УРЭ'ДНА *прысл.* Шкодна. *Урэ́дна міне, як важка параблю.* Дзяражычы.

УРЭ'ДНЫ *прым.* Шкодны. *У іх жа хлопец такі урэ́дны.* Бывалькі. *Которы пацан урэ́дны, нехорошы — от ты невейгалас, так кажуць на его.* Дзяражычы. *От урэ́днае парася: усё вішчыць і вішчыць.* Первамайск.

УРЭ'ЗАЦЬ *зак.* Выразаць. *На нарад хаділа, жэртак вупісала, да наняць трэба, каб хто урэ́заў тые жэрткі.* Дзяражычы.

УРЭ'М'Я *н.* Час. *Прышло ж токо́е урэ́м'я, маладые усе такіе.* Ручаёўка.

УСА'ДЗЬБА *ж.* 1. Сядзіба. *У нас во ета хата, хлевы, город называецца уса́дьба.* Бывалькі. 2. Прысядзібны ўчастак. *На уса́дьбі неважніе кардо́плі.* Дзяражычы. *Пойдем уса́дьбу ускапаем.* Чаплін. *Памяниш.* уса́дзебка. *Уса́дебку ім далі, да уродела той год.* Дзяражычы.

УСАДЗІ'ЦЬ *зак.* 1. Усадзіць. *Усадіў палец у дверы, дак крычаў, аж пачарнеў.* Бывалькі. 2. Пасадзіць. *Усыпалі на посцілку рой, а тады матку усаділі у вулле.* Ручаёўка. △ *Хоць у ма́сла усадзіць.* Змясціць у спрыяльныя ўмовы. *Нас с табой хоць і у ма́сла усаді, дак мы такіе будам.* Карпаўка.

УСЕ' Ж ТЫКІ *часц.* Усё-такі. *Ну дак усе́ ж тыкі ена не заплаціла.* Бывалькі.

УСЕАДНО' *прысл.* Усё адно, усё роўна. *Усеадно́ хоць хвартух, хоць запонка.* Дзяражычы.

УСКІ'НУЦЬ *зак.* 1. Ускінуць. *Ускінь кажух, голым не іді на двор.* Бывалькі. 2. Падкласці. *Нехай торх гарыць, а тады ускінеш дроў трошачкі.* Дзяражычы.

УСКО'ЛЕНЦЫ: *на уско́ленцы.* На калені. *Да стану на уско́ленцы да прашчэння папрашу.* Бывалькі. *Калісь як лецелі ены, етые ерапланы, дак падалі на уско́ленцы і маліліс, а цепер ужэ прывыклі.* Ручаёўка.

УСКО'РПУШКІ: *на уско́рпушках.* На кукішках. *Цепер на услончыку дояць, а тады на нагах, на упрыседках, на уско́рпушках.* Ручаёўка.

УСКРО'ЗЬ *прысл.* Заўсёды. *Піша пісьма діцяці ускро́зь.* Бывалькі. *Ускро́зь, Прося, нам так з тобо́ю буде.* Дзяражычы.

УСО'ХНУЦЬ *зак.* Высахнуць. *На печ высыпала про-*

га, каб скарэй усохла. Бывалькі. *Шчоб твой язык усох, токое ты говорыш.* Дзяражычы.

УСПЛАШНУ'Ю *прысл.* Запар. *Усплашнўю сеголета косяць траву.* Бывалькі.

УСТАДО'ЛЕЦЦА *зак.* Сціішыцца, суняцца, супакоіцца. *У мозкох круціцца у серэдіне, удар пагаманіла. Устодолелась, хваліць бога, усё у галаве.* Ручаёўка.

УСТАНАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* 1. Устанаўліваць. *Трэба плаціць, сваей цаны ніхто не устанаўляе.* Бывалькі. 2. Устаўляць. *Мне устанаўляў доктар тые зубы, дак ён міне знае.* Дзяражычы.

УСТО'ЛЬКІ *займ.* Вось толькі. *І гасударства давала дагавор, штоб ты здаў устолькі і устолькі хлеба.* Бывалькі.

УСТРА'ІВАЦЦА *незак.* Уладжвацца. *Паехалі ены на медсесцёр устраівацца.* Дзяражычы.

УСТРАМЧА'ЦЦА *незак.* Імкнуцца. *Ты не так устрамчаесся к делу, як я.* Крупейкі.

УСТРАМЯНІ'ЦЬ *зак.* Уладкаваць на вучобу, на службу. *Етага сына некуда було устрэменіць, дак у колхозі робіць.* Дзяражычы.

УСТЫ'РКНУЦЦА *зак.* Уваткнуцца. *Бусел пырх і палецеў, а топор у бочку з дёгцем устыркнўўся, і дёгаць вуцек* (З нар. казкі). Крупейкі.

УСТЫРКНУ'ЦЬ *зак.* Уторкнуць. *Веху устыркнўлі ле самага паварота.* Ручаёўка.

УСХАПІ'ЦЦА *зак.* Ускочыць, падхапіцца. *Я саўсім хворая лежала, а девачка прыпадачная як усхапілась серод ночы, дак не знаіш, куды бегці і што рабіць.* Ручаёўка.

УСЦІЛА'ЦЬ *незак.* Засцілаць. *Скарэнька сталы усцілаюць да ставяць усе, што нагатавалі.* Чаплін.

УСЦІ'ЛКА *ж.* Вусцілка. *Калі нема усцілкі, дак у чобатах нельзя вуйці, так холадна у ногі.* Казярогі.

УСЦЯГА'ЦЦА *незак. перан.* Працаваць праз сілу. *І у саўхазе ена усцегаецца, худая, худая, як жэрдка.* Ручаёўка.

УСЦЯ'ГУВАЦЦА: *усцягувацца ў нітачку.* Старанна рабіць. *Сем настаўнікаў вучылі мойго сына, дак ён у нітачку усцягуецца — вучыцца.* Ручаёўка.

УСЫПА'ЦЬ *незак.* Высыпаць, каласіцца. *Жыта усходіць, расце, а тады усыпае.* Ручаёўка.

УСЫ'ПАЦЬ *зак.* 1. Усыпаць. *Усып трохі слівак у*

*хвартух*. Карпаўка. 2. Наліць. *Вазьмі усып крышанёў*. Ручаёўка. 3. *перан*. Пабіць. *Ой, усыпала мне матка*. Ручаёўка. △ *Усыпаць прачуха́нца*. Крэпка пабіць. *От, усыпала мне матка добрага прачуха́нца*. Карпаўка.

УСЫ'ПІШЧА *н*. Дзежка, у якую ссыпаюць зерне. *Усыпішча—тое, што усыпная дежка*. Пярэдзелка. *У усыпішча жменяю ячменю нанасіў*. Дзяражычы.

УСЫРЫ'ЧЫЦЬ *зак*. Падстроіць. *Падажджы, галубка, я табе усырычу, будеш ты мене помніць*. Дзяражычы.

УСЮ'ДЫ: *усюды усве́тачку*. Усюды. *Ета баба усюды усве́тачку пабыла, усе гарады аб'ехала*. Дзяражычы.

УСЯГДА' *прысл*. Заўсёды. *Вучонаму усегда доро́га і шлях аткрыты*. Дзяражычы.

УСЯГО: *усяго́ насве́тачку*. Шмат, многа. *У горадзе накупляў усего́ насве́тачку*. Крупейкі.

УСЯДНО' *прысл*. Усё адно, усё роўна. *Я его туды так не хацела пускаць, а ён міне не паслухаў і пошоў уседно́*. Дзяражычы.

УСЯКА'ЦЬ *незак*. Угаворваць. *Колькі ні усека́й, ены пойдуць: ены слухаюць таварышаў*. Ручаёўка.

УСЯРО'Д *прыназ*. Сярод. *Усеро́д ночы пашла додо́му*. Дзяражычы.

УСЯ'ЧЫНА *ж*. Усё, усякае. *Такая свекруха, хоча, штоб усё по ее було, нехай ей уся́чына*. Дзяражычы. *Уся́чыны навез з Гомля: платкі-расцеганкі, буркі з рызінамі купіў, мукі усякай*. Ручаёўка.

УТ *часц*. Вось, вот. *Ут ета ена со мной не гаманіла*. Ручаёўка.

УТА'К *прысл*. Так, вось так. *Я ута́к стаяла пад хвоею, пака дошч не кончыўся*. Бывалькі.

УТАКІ' *займ*. Вось такі. *Вугал утакі хужай, чым чысты, той красівей*. Ручаёўка.

УТАПІ'ЦЬ *зак*. 1. Утапіць. *Утапіла каценятак у ведрэ*. Вулкан. 2. Спусціць, апусціць. *У макіцер масла да уто́піць у коло́дезь, дак ено як свежае скolькі днёў*. Дзяражычы.

УТАРКА'ЦЬ *незак*. Трывожыць, турбаваць. *Іграй, іграй, мойго́ серца не ўтарка́й* (З нар. казкі). Вулкан.

УТО' *займ*. Вунь то. *Уто́ махры вышытые, а тут белые*. Дзяражычы.

УТО'Й *займ*. Вунь той. *Уто́й, шчо учора прыежджаў, прыўоз нам мукі*. Ручаёўка. *Заберы на насенне тые жаўклякі*. Казярогі.

УТО'РЫ *мн.* Паз у ніжняй частцы бочкі, у які ўстаўляецца дно. *Ото ж утóры, цечэ у мене дежка міжда абручоў.* Дзяражычы. *Як бы у утóрах цекла, дак ты мукой бы абсыпала.* Крупейкі.

УТО'ТТА *часц.* Вось тота. *Утóтта і то, што ён не хоча заверыць спраўку.* Бывалькі.

УТРА'ЧУВАЦЦА *незак.* Траціцца, выдаткавацца. *Ена не хоча ехаць туды да утрáчувацца.* Дзяражычы. *Заручыны я не думаю спраўляць, нехай ены не утрáчуюцца.* Ручаёўка.

УТУ'ПІЦЦА *зак.* Захапіцца. *Як утýпіцца у шчо, дак хоць ты ему стрэль.* Дзяражычы. *Як утýпіцца у кніжку, дак не атарваць.* Бывалькі.

УТУ'ТАКА *прысл.* Вось тут. *Утýтака жонка была.* Ручаёўка. *Утýтака летась мы столькі белых грыбоў набралі.* Чаплін.

УТУШЫ'ЦЬ *зак.* Патушыць. *На корчомцы кабана громам убіла і хлеў запаліла, дак кабана смаляць, а хлеў утушылі. Не крэпка і грымнула — сарай загарэўся. Каб сена було, не утушылі б.* Ручаёўка.

УТЫРКНУ'ЦЬ *зак.* Уторкнуць. *Утыркнýлі кінджал у дуба.* Пярэдзелка. *Утыркнýў дубец, а вырасла дерава.* Чаплін.

УТЭ'ТТА *прысл.* Вось тут. *Утэ́тта кругом булі бальшые лесы.* Первамайск. *Утэ́тта калісь стаяла наша старая хата.* Пярэдзелка.

УХАБАТАВА'ЦЦА *зак.* Супакоіцца, уціхамірыцца. *Ета усё роўна: нехай ухабатýюцца пчолы, нехай угаманяцца, успакояцца пчолы. Ой, нехай ена ухабатýецца — і на чалавека, і на усе. Дайжа багата кажуць: нехай ухабатýецца.* Дзяражычы.

УХАДЖА'ЦЬ *незак.* Заходзіць, хадзіць. *Мала ены ухаджáюць к ему.* Дзяражычы.

УХА'ДЖУВАЦЬ *незак.* Заходзіць. *Ці буде ка мне Прося ухáджуваць, як пераеде у другую дерэўню.* Дзяражычы. *Я туды ухáджую часта: мая мама там.* Пярэдзелка.

УХАДНЫ' *прым.* Выхадны. *Здорóўя класці не буду: е ухадны́ день.* Ручаёўка. *Сегодні нам зделалі ухадны́.* Чаплін.

УХАДО'КАЦЦА *зак.* Супакоіцца, заспакоіцца. *Трошкі уходóкайся пад вутра, а то крычаў усю ноч.* Бывалькі.

УХАДО'КАЦЬ *зак.* Сапсаваць, прывесці да непрыгоднасці. *Ён і ету машыну уходокае скора.* Дзяражычы.

УХАЖО'Р *м.* Хлопец, які заляцаецца да дзяўчыны. *Кавалер — ета на усіх хлопцаў, а ухажор — каторы імеець девачку.* Ручаёўка. *К ей ухожорай многа хаділа, а я ей гаварыла, з кім гуляць, з кім не гуляць.* Чаплін.

УХАЖО'РКА *ж.* Дзяўчына або жанчына, да якой заляцаецца хлопец ці мужчына. *Я глянь, аж ены абое седяць с ухажоркаю.* Дзяражычы.

УХАПІ'ЦЬ *зак.* Ухапіць. *Невад ухапілі да у лозу пабеглі.* Дзяражычы. *Ухапіў за руку і не пускае.* Карпаўка. // Вырваць. *Калісь пагнаў валы, две расадіны ухапілі, дак войт мне зубы павыбіваў.* Первамайск.

УХВА'Т *м.* Лаўкач. *Ох і ухват твой Віця: з кіпяшчага гаршчка вухваціць.* Дзяражычы.

УХЛУ'ПІЦЦА *зак.* Здохнуць. *Ускочыў сабака у сенцы, схапіў коўбік і пацёг — і німа, ніде не знайшлі; не удавіўся ён і не ўхлупіўсь.* Дзяражычы.

УХЛУ'ПШЫ *прым.* Запаўшы. *Куды твая дзеўка гадіцца: бок ухлупшы, вунелі адну лёгкую, дак вунімаюць і рэбрыны.* Дзяражычы.

УХЛЯ'РЫЦЬ *зак.* Ударыць. *Бацька ні за што можа ухлярыць корову.* Бывалькі. *Гледі, не ухляр ее.* Дзяражычы.

УХО'ДЗІЦЬ: *уходзіць із сябе.* Раздражняцца. *Чалавек уходіць сам із себе, а ена і не гледіць у его бок.* Ручаёўка.

УХО'ДЧЫНА *ж.*, УХО'ДЧЫНЫ *мн.* Уходзіны. *Восьмага еду на уходчыну к брату.* Дзяражычы. *Прыедам, дак уходчыны будуць спраўляць.* Ручаёўка.

УЦЕ' *часц.* Вось. *Хлопец дома адін, адін у арміі — уцé і сем'я такая.* Дзяражычы. *Шчэ уцé прыде з хермы, дай сваю короўку буде даіць.* Казярогі. *Уцé сеялі жыта да косім на корм.* Крупейкі.

УЦЕРАБЕ'НІЦЬ *зак.* Згубіць марна час. *Цэлы день уцерабеніла, а нічога не дабілась.* Дзяражычы.

УЦЕ'РЫЧ *м.* Ручнік. *Падай уцерыч з кручка.* Бывалькі. *Дай уцерыча вуцерцісь.* Казярогі.

УЦЕ'ТА *часц.* Вось гэта. *Уцета тая Баршчоўка недалека.* Вулкан. *Уцетта хлопчычак памагае нам.* Дзяражычы. *Уцета палучаю трэці раз па сорак рублей.* Ручаёўка.

УЦЕТАВО' *часц.* Вось гэта. *Уцетавó не дай бог ба-*

*чыць.* Ручаёўка. *Уцетаво́ пабыў две неделі у больніцы і паправіўся.* Чаплін.

УЦЕ'ТАКІ *часц.* Усё-такі. *Уце́такі ён курсы закончыў.* Ручаёўка.

УЦЕ'ТКА *часц.* Вось гэтак. *Уце́тка прастудіўся, мабуць, заберуць у больніцу.* Ручаёўка.

УЦЕ'ТЫ *займ.* Вось гэты. *Уцеты мацер'ял ён буў да нікалаеўськай вайны.* Дзяражычы. *Тры гады як перайшлі у уце́тую хату.* Первамайск. *Азьмі уце́тую кніжку.* Ручаёўка.

УЦІРА'ЛЬНІК *м.* Ручнік. *Вунь чыстые уціра́льнікі на дварэ сушацца.* Дзяражычы. *Скацеркі да уціра́льнікі паўязала да мне аддала.* Ручаёўка. *І цепер лежыць у той, у ведрэ уціра́льнік.* Чаплін.

УЦІРА'Ч *м.* Ручнік. *Уціраемся уцірачо́м.* Мохаў.

УЦІ'РЫЧ *м.* Ручнік. *Во пабачце, екіе у мене уцірычы: я калісь добра вушывала, а цепер вочы слабые.* Пярэдзелка. *Еты во уцірыч, што на акне, сама вушывала шчэ у деўках.* Мохаў.

УЦІХАРА' *прысл.* Цішком. *Ой, Алесечка, і заўтрі навары квасо́ўкі, такая смачная, дак дед есць квосо́ўку, а сама уціхара́ ад деда з'есць сала да м'яса.* Дзяражычы.

УЦЮДЫ' *прысл.* Вось сюды. *Уцюды́ боль аддае.* Дзяражычы.

УЦЯ'ГЛЫ *прым.* Вынослівы, трывалы. *Вы маладые, а я старая, а вы столькі не зделаеце, як я: я уця́глая.* Пярэдзелка.

УЦЯ'МІЦЦА *зак.* Забыць. *Уця́млюсь, з кім равесніца.* Мохаў. *От я уця́мілась, де летась брала ягады.* Казярогі.

УЦЯМКУ' *прысл.* Не ў памяці. *У мене уцемку́ бальшы празнік — ушэсце.* Дзяражычы.

УЧАНЯ' *н.* Вучань. *Учаня́ такое маленькае ходіць у школу.* Бывалькі. *Хоць бы я тых учаня́т пабачыла.* Дзяражычы.

УЧА'СІЦЦА *зак.* Стаміцца. *Пака кончыла робо́ту, дак так уча́сілась, шчо чуць додо́му прыпаўзла.* Пярэдзелка.

УЧКУ'Р *м.* 1. Матуз ці вяроўка, якія ўшываліся ў штаны замест гу́зікаў. *Учку́р — шнур зделаюць дай зацягуюць у штаны.* Дзяражычы. *Раней у ніжніх штана́х аборкі былі — учкуры.* Пярэдзелка. *Учку́р добра з лёну*

*плесці, тады ён крэпкі такі.* Мохаў. 2. Абрывак вяроўкі, шнурок. *Падперазаўся учкуро́м да і пошоў.* Дзяражычы.

УЧО'РІ *прысл.* Учора. *Учо́рі прынёс зелезіну.* Дзяражычы. *Ены учо́рі езділі па ягады.* Ручаёўка. *Учо́ры пашла по̀лпе́рвага, дак ехала на трактары.* Дзяражычы. *Ена у хвершала була учо́ры.* Чаплін.

УЧУ'ЦЬ *зак.* 1. Пачуць. *Ены, шчо учу́юць, усё пішуць.* Дзяражычы. *Як учу́юць песню, ідуць у дерэўню.* Карпаўка. 2. Даведацца, дазнацца. *Я учу́ў: Насцечка харашэ іспалюе рожу.* Казярогі. // Пазнаць. *Учу́ла мене, дак так крычыць.* Дзяражычы.

УЧЫНІ'ЦЬ [1] *зак.* Замясіць. *Хлеб учорі пекла. Я зараней учыніла.* Ручаёўка.

УЧЫНІ'ЦЬ [2]: *учыніць во́лю (во́лечку).* Паслухацца, падпарадкавацца. *Панасіла соло́му, паскладала — тваю во́лю учыніла. Пашла замуж за немілага — бацькаву во́лечку учыніла.* Дзяражычы.

УЧЫ'СЦІЦЬ *зак. перан.* Ударыць. *Як учы́сціў друкам, дак ён аж пакаціўся.* Дзяражычы.

УШАМЯТА'ЦЦА *зак. перан.* Узяцца за работу. *Прыехала, дак ужэ як ушэмета́ліся невесткі гатаваць.* Дзяражычы.

УШКУ'ДЗІЦЬ *зак.* Пакрыўдзіць. *Хтось мене ушку́діў, дак я скарэй уцекла додо́му.* Бывалькі.

У'ШЛЫ *прым.* Шустры, быстры. *Ена була у́шлая девачка, так хуценька усе рабіла.* Дзяражычы.

УШУ'ШКАЦЦА *зак.* Цёпла апрануцца. *От ужэ ушу́шкалася, толькі нос тырчыць.* Дзяражычы. *Ушу́шкаецца, ніхто не увазнае.* Ручаёўка.

УШЧАЧЭ'ПІЦЬ *зак.* Моцна схапіць (пра боль, хваробу). *Уцета забрало́ ее, ушчачэ́піла, дак о так хаділа згорбіўшысь.* Дзяражычы.

УШЧО'РК *прысл.* У абрэз, якраз. *Хлеба — ушчо́рк, толькі раз пад'есці.* Барэц.

УШЧУ'КНУЦЬ *зак.* 1. Сціхнуць, супакоіцца. *Як бацька дома, дак век не ушчу́кне, пака не пажалее.* Ручаёўка. 2. Паздаравець, ачуняць. *Там ушчу́кнула, а у ногі увыйшло.* Дзяражычы.

УШЫВА'НКА *ж.* Вышытая частка кашулі, кофты на грудзях і на рукавах. *Заўтра наденеш соро́чку з ушыва́нкай.* Ручаёўка.

УШЫВА'НЫ *прым.* Вышываны. *Манішка ушыва́ная*

*ці не ушываная — усероўна манішка.* Пярэдзелка. *Сорочкі ушываные, багата калісь ушывалі.* Ручаёўка.

УШЫВА'ЦЬ *незак.* Вышываць. *Унука хаділа у школу, там вучылі ушываць.* Дзяражычы. *Ушывалі на рукавох, каўнеры, на чахлах ушывалі.* Ручаёўка.

УШЫХАВА'ЦЦА *зак.* Улезці, ушчаміцца. *Ты паедь у п'ятніцу, дак не ушыхуешся ні у поезд, нікуды.* Дзяражычы.

УЯВІ'К *м. лаянк.* Шкодны чалавек. *Ух, ты уявік, нахальнік.* Казярогі.

# Ф

ФА'ЛДА *ж.* Фалда. *Старые пазабіраюць фалды, як мужчынскіе штаны.* Ручаёўка.

ФАНДЫ'КІ: *фандыкі навесці.* Прыбрацца. *Фандыкі навела да па вуліцы лынды і б'е. Прыбралась деўка, прынараділась — вот ужэ навела фандыкі.* Дзяражычы.

ФАНІБЕ'РЫЦЦА *незак.* Фанабэрыцца, задавацца. *Фаніберыцца ему не було чым, маленькі буў, як мо мой чалавек.* Ручаёўка.

ФАРБО'ТА *ж.* Вязаныя карункі. *Трэба звезаць у ручнік фарботу.* Бывалькі.

ФІГУРЭ'Й *м.* Рубанак, якім робяць фігуры. *Красівые дверы паделаў фігурэем мой дядька.* Пярэдзелка.

ФІЛО'НЧАСТЫ *прым.* Філянговы. *Дверы філончастые, што ены з кускоў.* Ручаёўка.

ФІ'ЛЯ *ж.* Хваля. *Вецер з поля, філя з мора, ой, давела любоў да гора* (З нар. песні). Казярогі.

ФО'РНУЦЬ *зак.* Паехаць, пайсці (раптоўна). *Сабраліся да як форнулі у суседнее село гуляць.* Дзяражычы.

# Х

ХАДА'К *м.* Прылада, пры дапамозе якой вучыцца хадзіць малое дзіця. *О-о, добры хадак у Тані, бацька недаўна зделаў.* Дзяражычы.

ХАДАНА' *прысл.* Хадака. *Ена за тухель дай хадана ат его, дак ён чуць дагнаў ее.* Дзяражычы.

ХАДЗЕ'ННЕ *н.* Хада, хаджэнне. *Так міне хадённе упеклась, не хочу хадіць тые коровы даіць.* Дзяражычы.

ХАДЗІ'ЦЬ *незак.* 1. Хадзіць. *Хай луччай к нам хóдяць па гуркі да па капусту.* Бывалькі. *Да ужэ забалела дней чатыры, дак я хаджý, як солóная.* Дзяражычы. *Начаваць хаджý к пастухом ручаёўськім.* Ручаёўка. 2. Перамяшчацца. *Пасажырка хóдіць у Лоеў.* Дзяражычы. *Цепер столькі машын хóдяць па вуліцы, нельзя куру вупусціць.* Ручаёўка. 3. Плаваць (на плытах). *Хадіў хазяін па плутох·і за дубовіка буў.* Дзяражычы. 4. Наведваць (школу). *Адно було вучылішча у Дзеражычах, а сем сёл хаділі.* Бывалькі. *Танька у трэйці клас хóдіць.* Чаплін. 5. Быць апранутым. *Ой, мае девачкі, Томка пры деньгах да красіва хóдіць. Ета не цікавая: сама нехарашэ хóдіць і у комнаці у ее гразна.* Дзяражычы. *Цепер луччай людi ходяць.* Крупейкі. 6. Заляцацца. *Тая деўка не знала, што ён ее возьме, а от талан: хадіў і узяў.* Дзяражычы. *Ён дед буў хвастлівы, любіў да баб хадіць.* Крупейкі. 7. Даглядаць. *Вера ужэ десяць годóў хóдіць ле целят.* Дзяражычы. 8. Знаходзіцца пры справе. *Ена ле прадуктаў хóдіць.* Ручаёўка. 9. Працякаць. *Як Днепр хадіў ле дерэўні, дак грады булі: на бугарках лес, а у нізіні вада.* Дзяражычы. 10. Рухацца. *А то панажы, што так нагамі хóдяць туды-сюды.* Пярэдзелка. △ *Хадзіць у бáбы.* Бабіць, прымаць роды. *Не, мамка, я ужэ хаділа у бáбу.* Ручаёўка. *Хадзіць зáмуж.* Быць замужам. *Папуталась у деўкі: ці ты хаділа зáмуж.* Дзяражычы. *Вольга хаділа зáмуж да пражыла п'яць годóў і кінула.* Ручаёўка. *Хадзіць хóдарам.* Калаціцца, трэсціся. *Як падымуць калэмут, дак хата хóдарам хóдіць. Вот ражжухалась баба, аж кульмянне хóдарам хóдіць.* Дзяражычы. *Хадзіць па чыслах* (аб рэлігійных святах). Выпадаць на пэўныя даты. *Юр'я хóдіць па чыслах.* Дзяражычы. *Месаед меняецца: самы большы десяць недель, тады петроўка малая — две неделі, а Петро хóдіць па чыслах.* Ручаёўка. *Хадзіць у раскóшы.* Добра жыць. *Так нагаравалісь у войну, цепер хоць нашы деці хóдяць у роскóшы.* Дзяражычы.

ХАДНЯ' *ж.* Хада, хадзьба. *Хадня з костурам — не хадня.* Бывалькі.

ХАДУ'ЛЯ *ж.* Прылада, пры дапамозе якой дзеці вучацца хадзіць. *Діця устаўляюць у хадýлю, і ено вучыцца хадіць.* Ручаёўка.

ХАДУ'Н *м.* Прылада, пры дапамозе якой вучыцца

хадзіць малое дзіця. *Мае унучыкі дак без хадуноў хадіць навучыліся.* Пярэдзелка.

ХАЗЯ́ІН *м.* 1. Гаспадар. *Мой Есіп буў добры, добры хазя́ін, у его не прападала нічога.* Дзяражычы. *Цепер жа, бач, екіе хазяіны́: паехалі у горад на заработкі, а бабы самі упраўляюцца.* Чаплін. 2. Муж. *Я жыву без хазяіна і пусцечай не занімаюсь.* Дзяражычы. *За трыма хазяіна́мі пабыла і ішчэ маладая.* Казярогі. *Буў у мене хазя́ін, шэсцера децей асталося.* Чаплін.

ХАЗЯ́ЙКА *ж.* Гаспадыня. *Хазя́йка укіне поўхунта м'яса у карто́плі ане у боршч.* Дзяражычы. *Без хазя́йкі не буду абедаць, нельзя так.* Ручаёўка.

ХАЗЯ́ЙЛІВЫ *прым.* Гаспадарлівы. *Мой чалавек буў чэсны, паслушны і хазя́йлівы.* Дзяражычы. *Такі чалавек хазя́йлівы буў і гарэлкі не піў багата.* Крупейкі. *Еслі ено путное, хазя́йліваe, дак ено і у горадi і у дерэўні жыве.* Чаплін.

ХАЗЯ́ЙСТВА *н.* Гаспадарка. *Я важка не робо́тала у моладасці, хоць хазя́йства було большо́е: наймалі і рабілі.* Дзяражычы. *Цешча атпісала ему і хату і усе — усе хадя́йства: коро́ву, свіней, цёлку.* Крупейкі. *На саматужкі везе усе хадяйства і веде коро́ву.* Ручаёўка.

ХАЗЯ́ЙЧЫН *прым.* Гаспадынін. *Девачка прыбірае хазя́йчыну пасцель.* Дзяражычы.

ХАЛАДЗЕ́Ц *м.* 1. Халаднік. *Халадéц — страва, прыгатаваная з цыбулі і сметаны.* Пярэдзелка. *На вечэру халадéц зделаю, онь прынесла цыбулі.* Ручаёўка. 2. Халадзец. *Халадéц цепер не робім, бо м'яса нема.* Ручаёўка. *Халадéц, холо́днае кажуць цепер, а калісь — студень.* Пярэдзелка.

ХАЛАДЗІ́ЦЬ *незак.* Ахалоджваць. *Аух, аух, устала, стала мене халадіць, дак мене укрылі.* Дзяражычы. *Холо́діць, я не нагрэюсь ніколі.* Казярогі.

ХАЛАДНЕ́ЧА *ж.* Халадэча. *Халаднéча такая на дварэ.* Пярэдзелка.

ХАЛАДНІ́ЦА *ж.* Халадэча, стужа. *А учора такая была халадніца.* Ручаёўка.

ХАЛАСЦЕКАВА́ЦЬ *незак.* Быць нежанатым. *Мой Грыша, большы, халасцекава́ў да трыццаці годо́ў і не піў гарэлкі.* Чаплін.

ХАЛАСЦІ́К *м.* Халасцяк. *Ты ж халасцік буў, дак табе усё прашчано.* Дзяражычы. *Хацеў халасціко́м зделацца.* Ручаёўка.

ХАЛО′ДНАЕ *прым.* Халадзец. *Холо́днае кажуць цепер, а калісь — студень.* Пярэдзелка.

ХАЛО′ДНЫ *прым.* 1. Халодны. *Ідi, баба, прынесі холо́днае вады.* Ручаёўка. 2. *перан.* Абыякавы. *Мая донька, нашто табе абіджацца: дваюрадные, траюрадные — холо́дная радня.* Вулкан. 3. Чужы. *Ета госць іде, да холо́дны, каб сын мой прыйшоў.* Ручаёўка.

ХАЛО′СТЫ *прым.* 1. Халасты. *Калі чалавек нежанаты, на его у нас гово́раць: холо́сты хлопец.* Ручаёўка. 2. *перан.* Не запоўнены мёдам (пра рамкі ў вуллі). *Рамка холо́стая, бо узятку нема.* Ручаёўка.

ХАМЗА′ТЫ *прым.* Гугнявы, гамзаты. *Ета хто гово́рыць такі хамза́ты?* Ручаёўка. *У ее большая девачка хамза́тая.* Чаплін.

ХАМЗА′ЦЬ *незак.* Гугнявіць. *Чого́ ты там хамза́еш?* Ручаёўка.

ХАМЗЕ′ЛЬ *м. зняваж.* Гамзаты, гугнявы чалавек. *Сядь, хамзе́ль, не трогай ее, чого́ ты к ёй лезеш.* Ручаёўка.

ХАМРЫ′ЧЫЦЬ *незак. груб.* Есці з прагнасцю. *Седіць і хамры́чыць верэнікі.* Пярэдзелка.

ХАПА′ЦЬ *незак.* 1. Хапаць. *Кукліха ягады хапа́е, як маладая.* Ручаёўка. 2. *перан.* Запамінаць, запісваць. *Ета ены хапа́юць наш разгавор.* Ручаёўка.

ХАРА′КЦЕРНЫ *прым.* 1. З характарам, характарны. *Манін хлопец расце хара́кцерным: як што захоча зделаць, усе роўна не адступіцца.* Дзяражычы. 2. Чулы, спагадлівы, добры. *Семен такі хара́кцерны: добры, жаласлівы.* Первамайск.

ХАРАШО′, ХАРАШЭ′ *прысл.* Добра. *На весне рыба хорошо́ ловіцца.* Дзяражычы. *Сёдні соло́нікі харашэ́ зварыліся.* Казярогі. *Да вайны жылі харашэ́, послі вайны мы ахлялі, а цепер жывом луччай, чым да вайны.* Пярэдзелка. // Багата. *Ён жыве хорошо́, дастатачна.* Бывалькі. Дружна. *Мы жылі харашэ́: паважалі адін аднаго.* Дзяражычы. *Хорошо́, мая сестра, жывуць: слова плохо́га не скажуць адін на аднаго.* Пярэдзелка. *Памянш.* харашэ́нечка. *Ідi, Томка, пагледі як торх гарыць, харашэ́нечка гарыць.* Дзяражычы. *Ена харашэ́нечка подо́йде да попро́сіць.* Чаплін.

ХАРАШЭ′НЬКА *прысл.* Добранька. *Ты ж харашэ́нька гавары, а то нельзя нічога по́няць.* Дзяражычы. *Ена сама усе харашэ́нька зробіць.* Крупейкі.

ХАРО'МІНА *ж.* Хата, будынак. *Усеройна як хоро́міна гарыць, бляс такі буў на небі.* Бывалькі.

ХАРО'ШЫ *прым.* 1. Станоўчы. *Такі хоро́шы буў свекар: неродны, а як родны.* Бывалькі. *Хоро́шае, дак і kiву баіцца.* Дзяражычы. *Хочыш, штоб ено хоро́шае було, ніякага гора не еўшы.* Пярэдзелка. *Слухмяные, не балаўные, трудалюбімые — хоро́шые деці.* Крупейкі. // Смачны. *Яблака хоро́шае, смачнае, а спечэш, дак ено не смачнае, расплывецца.* Дзяражычы. 2. Здаровы. *Ён хоро́шы буў, хоро́шы, як ат нас паехаў, а ета там себе зневечыў.* Дзяражычы. // Поўны, тоўсты. *Деўкаю була тоненькая, а цепер такая хоро́шая, поўная.* Бывалькі. *Вольга дома такая хоро́шая була, а як паехала у Гомель, схудняла.* Дзяражычы. 3. Прыгожы. *Деўка такая хоро́шая: усё б і гледеў на ее.* Бывалькі. *Ужэ пажы́лая, не здолее ужэ, а шчэ хоро́шая.* Дзяражычы. *Да такая ж деўка була, як Дунай, хоро́шая такая.* Ручаёўка. 4. Значны (па велічыні). *А велікіе пукі ты везала? — Да серэдніе, хоро́шые пукі.* Дзяражычы. *Ці велікі твой сын вурас? — Ужэ парадачны, хоро́шы хлопчык.* Бывалькі. *Ужэ хоро́шые корто́плі у цебе на горо́ді: скора зацвітуць.* Чаплін. 5. Паважаны, прыстойны. *Як прыведе беседу, дак: Іванаўна, ты пастарайся, етые люді хоро́шые.* Дзяражычы. 6. Кастрыраваны. *Мы ж его уже схалашчалі, ён ужэ хорошы кабанчык.* Дзяражычы.

ХАРЧ *м., ж.* Харчы. *Я кабану цепер толькі трохі даю малака у его харч — у корто́плі.* Дзяражычы. *Харч парцізанам насіла.* Ручаёўка. *Екая харч — такая робо́та.* Крупейкі.

ХАРЧЫ'ЦЦА *незак.* Харчавацца. *Ены самі там хо́рчацца, п'яць рублей за месяц.* Дзяражычы.

ХА'ТА *ж.* 1. Хата, дом. *Ха́ты делалі калісь малые: сем аршын, болей не делалі.* Дзяражычы. *У аднаго була ха́та, жалезам крыта.* Первамайск. *Зелёначкі нада ха́ту пабеліць.* Чаплін. 2. Пакой. *Каб было две ха́ты, дак паделіліся б, а у адной хужа буде.* Бывалькі. *Он у людей па две ха́ты, а на квацеру нікога не беруць.* Пярэдзелка. △ *Ха́ты не чу́тна.* Шум, гоман. *Деўкі, што ж ета токо́е: ха́ты не чу́тна. Бежыце пейце і гуляйце на дварэ.* Дзяражычы.

ХАТЫ'ЛЛЕ *н.* 1. Рыззё, лахманы. *Хаты́лле — лахмоцце тое: трапкі да латкі.* Дзяражычы. *Хаты́лле рванае панадее дай ходіць.* Ручаёўка. 2. *перан.* Хатнія рэ-

чы. *Свекар раззлаваўся да за ее тое хатылле, вукідае, патрэты над карваццю — зрывае.* Дзяражычы.

ХАТЫ'ЛЬ *м.* Клунак. *А то хтось іде с хатылём.— Де? — А вон, хтось з клумкам за плечамі іде.* Дзяражычы.

ХА'ЎКАЦЬ *незак.* Пазяхаць. *Штой-та ты хáўкаеш, спаць хочыш.* Пярэдзелка.

ХВА'БРАСЦЬ *ж.* Храбрасць. *Ты не паказуй сваю хвáбрасць, луччай цішэй будь.* Бывалькі. // Сіла, моц. *Мая ешчэ хвáбрасць — я скапала сама план.* Пярэдзелка.

ХВА'БРЫ *прым.* Моцны, здаровы. *Я хвáбры буў прошлы год: касіў, дрова рубаў.* Ручаёўка.

ХВАБРЭ'Ц *м.* Храбрэц. *І смерць не страшна хвабрацáм-маладцам* (З нар. песні). Первамайск.

ХВАРА'БНІК *м.* Хмызняк. *А де ж коро́вы? Пагубляў у хварáбніку?* Пярэдзелка.

ХВАРАСЦІ'НА *ж.* Дубец. *Вазьму хварасціну да як атхварашчу.* Чаплін.

ХВАРСО'ВЫ *прым.* Фарсісты. *Ён жа такі хворсóвы: іде і плёткай махае.* Дзяражычы.

ХВА'СТАЦЦА *незак.* Хваліцца, выхваляцца. *Хвáстацца тут ужэ нечым, цепер у кождага такая сорóчка.* Ручаёўка.

ХВАСТЛІ'ВЫ *прым.* 1. Выхвальны. *Хвастлівы хлопец у суседкі: абы у чым не пойде, дай ему новае да хорóшае.* Ручаёўка. 2. Які любіць жанчын. *Ён дед буў хвастлівы: любіў да баб хадіць.* Дзяражычы.

ХВАСТУ'Н *м.* Хвалько. *І хвастýн жа ён буў малады, усе толькі і пераменяў адежу.* Ручаёўка.

ХВАСТЫ' *мн. перан.* Астаткі нітак асновы, якія адразаюцца ад палатна. *Хвасты́ адразаюцца, іх сукалі, шылі імі, а де веніка звяжуць.* Ручаёўка.

ХВАТА'ЦЦА[1] *незак.* Хапацца. *Не хватáйся за вілкі: папячэш рукі.* Бывалькі.

ХВАТА'ЦЦА[2] *незак.* Спяшацца. *Калі ж ему усе некалі і некалі, а калі забежыць, дак так прахутка хватáецца.* Дзяражычы.

ХВАТА'ЦЬ: *хватáць землі.* Даказваць свой пункт погляду. *Вось разышлася, аж землі хватáе. Чогó цебе берэ, нехай не верацъ.* Дзяражычы.

ХВАШЧА'НКА *ж.* Мачалка, вяхотка з хвашчу, са-

ломы. *Без хвашча́нкі мне плоха мыць посуд.* Ручаёўка. *Хвашча́нкай мыем, а як жа.* Дзяражычы.

ХВІЛЕ'ПІЦА *ж.* Завіруха, мяцеліца. *Хлопцы паехалі, а тут захаділась хвіле́піца етая, нічога не відна.* Дзяражычы.

ХВІ'ЛЯ *ж.* Хваля. *Вецер з поля, хвіля з мора, давела любоў да гора* (З нар. песні). Первамайск.

ХВІР *м.* Вір. *Унь у той хвір каня укруціла летась.* Ручаёўка.

ХВІ'ШЧА *ж.* Нягода, халодны дождж ці снег з ветрам. *І як ена даберэцца у такую хвішчу!* Дзяражычы.

ХІБЕ'Т *м.* Здольнасць, уменне. *Такі ж хібе́т у ее у руках.* Дзяражычы. *Ці подхо́д, ці хібет другі, а з ім ена добра жыве.* Крупейкі.

ХІБЕ'ТНЫ *прым.* Удалы, здольны. *А ена ж такая хібе́тная — залатые рукі.* Вулкан. *Ён і хібе́тны: усячыну делае, і хату строіць, і шо не возьме — зделае.* Дзяражычы. *Ена і хібе́тная, і цікавая.* Казярогі.

ХІ'ЖА *м.* Прыбудова. *У гумне ставілі хіжу на яму.* Дзяражычы. *Памянш.* хіжка. *К прыстобашніку прыделачак — хіжка.* Пярэдзелка.

ХІ'ЛЫ *прым.* Слабы, кволы. *Дачка хілая саўсім.* Дзяражычы.

ХІЛЯ'ЮЧЫ *дзеепрысл.* Хістаючыся. *Іде бальны хіля́ючы.* Чаплін.

ХІ'МЕРАДЫ *мн.* 1. Чараўніцтва. *Ета ж екіесь хімерады наслалі на ее.* Пярэдзелка. 2. Капрыз. *Што ты мне сваe хімерады паказуеш.* Казярогі.

ХІ'НЦЯ *ж.* Ліхаманка. *Трасла цебе сем год хінця, ешчэ трэсці буде* (З нар. песні). Первамайск.

ХІ'РКАЦЬ *незак.* Кашляць. *Кабан наш так хіркае.* Дзяражычы.

ХІТА'ЦЦА *незак.* Хістацца. *Нада зуб вырваць, а то ён саўсім хіта́еццa.* Дзяражычы. *Вучыш, вучыш, а тады вуйдеш, аж хіта́ecся.* Ручаёўка. *Арэх расце дай хіта́ецца, а мой татка пацешаецца* (З нар. песні). Чаплін.

ХІТА'ЦЬ *незак.* Калыхаць, хістаць. *Рукі баляць, дак устанеш да уцета так хіта́еш, хіта́еш.* Дзяражычы.

ХІЦЯ' *прысл.* Хаця. *Хіця́ б зірнула раз.* Дзяражычы. *Хіця́ б грыб у суп: суп жа дабрэнны з грыбамі.* Карпаўка. *Хіця́ мне капачка пападе?* Ручаёўка.

ХЛАП'Я' *н.* Хлопчык. *Такое неўдалае було хлап'я́.* Пярэдзелка. *Я знаю хлап'я́т тых.* Крупейкі.

ХЛЕБ *м.* 1. Збожжа, жыта. *Хлеб увабралі добра, да дажджоў.* Дзяражычы. *Хлёба цьма на полі. Людзі палучылі і хлеба, і картóшкі.* Ручаёўка. *Ета збожжа говóрацъ толькі у колхóзі, а мы хлеб, хлеб — то ж хлеб і е.* Чаплін. 2. Хлеб печаны. *Хлеб бувае глёўкі, гараны, не відна, шчо ён і белы, як чугун лежыць.* Дзяражычы. *Уце пеком ужэ трэцціае печыва хлёба.* Первамайск. 3. *перан.* Дастатак, багацце. *Цыган сярод хлебóў уміраe.* Ручаёўка. *Памянш.* хлёбец. *Деткі мае, у нас е хлёбец, купляць сегодні не нада.* Дзяражычы. *Каб хлёбец падышоў, я б его скоранька спекла.* Пярэдзелка. *У магазіні хлёбец готóвы.* Чаплін.

ХЛЕБАРЭ′ЗКА *ж.* 1. Хлебарэзка. *У сталоўку новые хлебарэ́зкі прывезлі.* Бывалькі. 2. *перан. груб.* Твар. *Хлебарэ́зку раз'еў.* Пярэдзелка.

ХЛЕБАТА′ *ж.* Збажына. *Столькі хлебаты́ стаіць у Нікалаеўцы.* Ручаёўка.

ХЛЕПЯТА′ЦЬ *незак.* Булькаць, хлюпаць. *У грудях хлепёшча, хлепёшча, прама кроў хванталам іде, а тады хлёп-хлёп-хлёп.* Дзяражычы. *Кроў як пойде із рота, печонкамі хлепёшча, як у кабана.* Чаплін.

ХЛЕЎ *м.* Хлеў. *Унук жа вукачаў гной із хлевá.* Дзяражычы. *Загані целічку у хлеў, а то зіхае.* Ручаёўка. *Его мамка на хлеву́ целяты поіць, корóвы доіць да пашла моху драць.* Ручаёўка. *Памянш.* хлеўчучóк. *У хлеве адбіваюць хлеўчучóк — саж. Дачка, бежы скарэй, свіння з хлеўчучкá вускачы́ла.* Ручаёўка.

ХЛЁПНУЦЬ *зак.* Залпам выпіць. *Літры две малака адразу хлёпну.* Бывалькі.

ХЛЁСТКА *прысл.* Спрытна. *Ета сілее тую, ета так хлёстка б'ецца.* Дзяражычы.

ХЛЁСТКІ *прым.* Спрытны. *Хлёсткі, хлёсткі буў, расцягне да пацягне, аж вецер лампу тушыць.* Казярогі. *Свекруха была быстрая, акуратная, хлёсткая.* Пярэдзелка.

ХЛО′ПАЦЬ *незак. перан.* Прагна есці (пра кабана). *Кабану размучу у воду мукі, галушкі звару, дак ён хлóпае іх, як кортóплі.* Дзяражычы.

ХЛО′П'Е *н.* Атрэп'е, адыходы пры трапанні льну. *Лён абдіраюць ці трапаюць, астаецца хлóп'е.* Ручаёўка.

ХЛУДЗЕ′Ц *м.* Палачка, на якую надзяюць цэўкі. *З крушыны хлудцы́ рабілі з маладых, роўненькіх ветак.* Цясны.

ХЛУДЗІ'НА *ж.* Дубец, палка. *Я цебе стукну хлудінай.* Карпаўка. *Калі б хлудінаю, хлудінаю, каб не хаділа, куды не трэба.* Ручаёўка.

ХЛЫБАСНУ'ЦЬ *зак.* Ударыць. *Не балуй, Сашка, а то як хлыбаєну́ па спіне.* Пярэдзелка.

ХЛЫ'СНУЦЬ *зак.* Ударыць. *Я як хлы́сну его палкаю.* Дзяражычы.

ХЛЫСТ *м.* Спілаванае страявое дрэва. *У добрага хазяіна дак адны хлысты́, а пней нема.* Ручаёўка.

ХЛЮПАШЧА'ЦЬ *незак.* Плюхацца. *А рыбы столькі многа, што аж хлюпашчы́ць.* Чаплін.

ХЛЮШЧ: *мокры (вымак) як хлюшч.* Прамоклы да ніткі. *Такі дожч іде, я вы́мак як хлюшч.* Дзяражычы. *Мокры як хлюшч.* Пярэдзелка.

ХЛЯВЕ'Ц *м.* Невялікі хлявок. *Маленькі хлеў — хлеве́ц для целяці, парасяці.* Дзяражычы. *Пайду хлеве́ц разбуру, де целяці стаяла.* Крупейкі. *Хлеў — де коровы, а маленькі — хлеве́ц для целяці, парасяці.* Ручаёўка.

ХЛЯ'ГА *ж.* Хлюпота. *На дварэ хля́га такая — не прайці.* Вулкан. *У такую хля́гу на вуліцу не выйді.* Бывалькі.

ХЛЯ'РЫЦЬ *незак.* Ісці, лупіць (пра дождж). *То ж такі дожч на дварэ хля́рыць.* Дзяражычы.

ХЛЯЎЧУ'К *м.* Хлявок. *Адгараділі хлеўчу́к да адсаділі туды целяці.* Дзяражычы.

ХЛЯШЧЭ'Й *прым.* Званчэй. *У нашых галаса хлешчэ́й.* Дзяражычы.

ХО'ВАЛКІ *мн.* Хованкі. *А чого́ ты з імі у хо́валкі не гуляеш?* Дзяражычы.

ХОЛО'ДНА *прысл.* Холадна. *Холо́дна, дак не хоча з хлева выходіць.* Бывалькі. *А уб'еш кабана да холо́дна, дак сала добра лежыць.* Чаплін.

ХО'ПНУЦЬ *зак.* Хапнуць. *Ён рад, што хо́пнуў дваццаць п'яць.* Ручаёўка.

ХО'ХАМ *м.* Смех, рогат. *Такі хо́хам паднялі у хаці. Табе хо́хам, а мне слёзы.* Ручаёўка.

ХОЧ [1] *злучн.* Хоць, хаця. *Хоч найдеш де хунт сала, дак старае.* Карпаўка.

ХОЧ [2] *часц.* Хоць, хаця. *Канец года, а мне хоч ты кідай вучобу.* Дзяражычы. *Паеду туды хоч на год.* Чаплін.

ХОЧ БА *часц.* Хоць бы, хаця б. *Вам хоч ба сегодні подо́хлі куры.* Ручаёўка.

ХРА'ПА[1] *ж.* 1. Храпка, ножка качана. *Найшлі укус — храпы етые, нічога на свеце не панімаюць.* Дзяражычы. *Заберы корові: то у місцы лісты, да децям чысцілі храпы.* Ручаёўка. *Як бальшы качан, то храпа укусная.* Чаплін. 2. Замёрзлая зямля, гразь без снегу. *Ужэ храпа була на вуліцы.* Первамайск. *Паехалі быстра, аж храпа зазвінела.* Пярэдзелка.

ХРА'ПА[2] *ж.* Корань лілеі. *Лілія расце, сцелецца, дак ее корань — храпа.* Дзяражычы. *Храпы насабірала з жоўтай лілії.* Бывалькі.

ХРАПА'ТЫ *прым.* Храплівы. *Де той храпаты, нехай бы помог прынесці мешка.* Пярэдзелка.

ХРАСТАВІ'НА *ж.* Крыжавіна. *Хрэставіны зверху і знізу, а па хрэставінам чатыры стоячкі, звязуюць верх і ніз.* Дзяражычы.

ХРУ'МКАЦЬ *незак.* Хрумстаць. *Света, не хрумкай ты так сільна за столом.* Пярэдзелка.

ХРУ'ШЧЫКІ *мн.* Хрушчы. *Хрушчыкі — ета такіе сухарыкі.* Бывалькі. *Хрушчыкі пайду скора пекці.* Пярэдзелка. *Усего було на свадьбі: і хрушчыкі тые ж булі, тольki екіесь неважные.* Ручаёўка.

ХРЫБЕ'ТНІК *м.* Хрыбет. *Палазь болей па чужых агародах, дак і хрыбетнік пераламлю.* Пярэдзелка.

ХРЫСТАВА'ННЕ *н.* Падарунак на вялікдзень. *Я ёй хрыставання не давала саўсім.* Дзяражычы.

ХРЫШЧЭ'НІЦА *ж.* Хросніца. *Хрышчэніца мая Верка раділась увосень.* Вулкан. *Мая хрышчэніца — так говорацъ у нас на хросную дачку.* Чаплін.

ХРЭНО'ВІК *м.* Нагатаваны хрэн. *Хрэновіку нема, деткі, і гарчыцы не купляла, ежце м'яса так.* Ручаёўка.

ХРЭСТ *м.* 1. Крыж. *Дейка адна була, дак схавалась за хрэст да папужала добра усіх на русалку.* Ручаёўка. *Памянш.* хрэсцік. *Залаты хрэсцік калісь матка павесіла.* Бывалькі. 2. Вышыўка крыжыкам. *Усяк ушывала: і пад хрэст, і немецкім хрэстом ушывала.* Дзяражычы. *Мне дак хрэстом легчэй ушываць.* Цясны.

ХРЭ'СЦІК *м.* Шво. *Грэчкаю зарубіць — нача хрэсцікамі такімі рубілі.* Дзяражычы.

ХРЭ'ШЧЫК *м.* 1. Хрэст. *Старые екіе і цепер хрэшчыкі носяць.* Ручаёўка. 2. Рошчына. *Хрэшчык — як пекуць хлеб, дак цеста астаўляюць і на ём учыняюць хлеб.* Дзяражычы. *Рашчыняем дежку, пеком хлеб і зноў кі-*

*даем хрэ́шчыка.* Ручаёўка. 3. Прыстасаванне, якое ўстаўляецца ў галаву калоды для адкладвання мёду. *Хрэ́шчык устаўляецца у нутро коло́дкі з нажывай вашчыны ці пасушы.* Пярэдзелка. 4. *анат.* Крыж. *Упаў да перабіў сабе хрэ́шчык на спіне, его іскаёжыла у крук.* Дзяражычы.

ХУ'ДА *прысл.* Дрэнна, кепска. *Калісь було і ху́да, і добра, я на тое забулася.* Бывалькі. *Ху́да жыці на чужыні, не маючы роду* (З нар. песні). Чаплін. *Памянш.* худзе́нька. *Як худе́нька без зубоў жыці.* Дзяражычы.

ХУДАБА' *ж.* 1. Дрэннае жыццё. *Можна паверыць, такая ужэ ёй худаба́. Коро́ва е, свіней корміць, план сее — і усё мала.* Дзяражычы. 2. Беднасць. *Кроме худабы́, нічога я не бачыла: адна без хазяіна вурасціла чэцвера децей.* Чаплін.

ХУДЗЮ'ЧЧЫ *прым.* Вельмі худы. *І де ено деецца у его: есць як не ў себе і такі худюччы, адны мошчы.* Пярэдзелка.

ХУДО'БА *ж.* Жывёла, статак. *Худо́бы дома було сколькі!* Бывалькі. *Нада ж худо́бу дагледець, а то ена, бедная, з рання не еўшы.* Дзяражычы. *Худо́ба ужэ у поле пашла.* Чаплін.

ХУДО'БІНА *ж.* Жывёліна. *Трава русалка — такая кашлатая, што і худо́біна не есць.* Чаплін.

ХУ'ДЧЫ *прым.* Горшы. *Іді у больніцу, дак хворо́бу ішчэ ху́дчую на себе унесеш.* Дзяражычы.

ХУДЫ'[1] *прым.* Худы. *Здоро́вы чалавек быстрэй уміpae, як худы́.* Первамайск. *Тая ж Алеся худа́я, ена гонкая.* Ручаёўка.

ХУДЫ'[2] *прым.* Благі, кепскі. *Урэм'я застала нас такое худо́е.* Бывалькі. *Бач жа, екое худо́е лета ета.* Ручаёўка.

ХУРАВА'ЦЬ *незак.* 1. Працаваць. *Бабы хуру́юць у колхо́зі і дома.* Бывалькі. 2. Цішком насіць, вазіць. *Хуру́юць усю ноч.* Дзяражычы.

ХУ'ТКА *прысл.* Хутка. *Сеголета так ху́тка увабралі усе корто́плі.* Дзяражычы. *Памянш.* хуце́нька, хуце́нечка, хуце́ненечка. *Твая невестка прого́ніць чэраду да хуце́нька іде.* Дзяражычы. *Тая баба хуце́нька сабралась і паехала.* Ручаёўка. *Беры свой заступ, дак мы хуце́нечка зделаем.* Дзяражычы. *Я хуце́нечка устала да бегом на хверму.* Бывалькі. *Чось забалела, дак хуце́нечка*

*прыдi.* Чаплiн. *Хуцёненечка, хуцёненечка соскочыць.* Ручаёўка.

ХУТРАВА'ЦЬ *незак.* Тынкаваць. *Учора хутравалi хату.* Бывалькi.

# Ц

ЦА'ЛIК *м.* Верхнi цвёрды пласт снегу. *Цалiк ужэ добра держыць.* Пярэдзелка. *Памянш.* цалiчок. *Децi коўзаюцца па цалiчку.* Пярэдзелка.

ЦА'МРА *ж.* Частка калодзежа. *Колодезь iз цамрамi iзделаны хорошы.* Дзяражычы.

ЦАНАВА'ЦЬ *незак.* Цанiць, ацэньваць. *Я цаную сам сваю хату.* Ручаёўка.

ЦАПА'ЦЬ *незак.* Чапляць, вешаць. *Ужэ ж май прайшоў, не нада цапаць клёну голькi.* Ручаёўка.

ЦАПКI' *мн.* Жэрдкi ў сушнi, на якiя расстаўляецца лён. *Цапкi етые вешаюць ле сцен.* Ручаёўка.

ЦАРА'ПIНА *ж.* Драпiна. *Усiм у класе делалi, у мiне було две царапiны.* Ручаёўка.

ЦАЎЁ *н.* Ручка матыкi, цэпа. *Цаўё ў капанiцы зламаў.* Казярогi. *Так харашэ було малацiць цэпам з тым цаўём.* Первамайск.

ЦАХЛЕ'ЦЬ *незак.* Адрывiста брахаць (пра сабаку, якi гонiцца за зайцам). *Чуеш, цахлiць сабака, зайца падняў.* Пярэдзелка.

ЦА'ЦКА *ж.* Цацка, забаўка. *Цепер такiе красiвенькiе цацкi для децей, раней такiх не було.* Пярэдзелка. *Цацкi даюць децям, чым его шчэ забавiш — соскай цi цацкай.* Ручаёўка. *I цацак, бувала, накупляю i усераўно плача, так хоча са мной iцi.* Чаплiн.

ЦА'ЦКI *мн.* 1. Вазоны. *Што такое цацкi? — Дак ета ж цветы, шчо у вазонах.* Бывалькi. *Пагледi, екiе у мене цацкi на вокнах.* Дзяражычы. *Не паламай цацак — не лезь у вакно.* Ручаёўка. // Кветкi. *Вергiня, роза, шалудiйкi, кучараўкi, гайстры, дроздiкi — цацкi.* Дзяражычы. *Цацкi сеюць у горöдi.* Крупейкi. 2. Лекавыя травы. *Будам збiраць цацкi, высушым да здадiм у апцеку.* Дзяражычы. *Красiвенные цацкi ото — дробненькiе цветочкi, белые цацкi — ат поносу.* Крупейкi.

ЦВЕ'РДЫ *прым.* 1. Цвёрды. *Баюся, шчоб хто не агледiў, да не парваў дулi, ены цвёрдые шчэ. Вымя ка-*

*лі цвёрдае, дак молокó дужа добрае.* Ручаёўка. 2. Устойлівы. *Жукі етые цвёрдай порóды, у нас іх век не було калісь, а цепер намножылась каларадаў.* Ручаёўка. △ *Цвёрдае палатно.* Грубае палатно. *З цвёрдага палатна шыюць мешкі на кортóплі.* Ручаёўка.

ЦВЕ'СЦІ *зак.* Цвісці. *Сеголета яблані так добра будуць цвéсці.* Ручаёўка.

ЦВЕТ *м.* 1. Кветка. *Ідзі, Наташа, пагледзі, екі я табе цвет сарвала.* Дзяражычы. *Картапляным цветáм лечылі калісь.* Чаплін. 2. Узор па краях хусткі. *Цвéты булі толькі па берагах хусткі.* Дзяражычы. // Вытканы ўзор. *Цветы́ ткуць на тры ніты, а як накідаюцца — не знаю, не ткала шчэ.* Цясны.

ЦЕ [1] *займ.* Гэты. *Узышла хмара, дак як ба це дошч не пошóў.* Дзяражычы. *Зверы ходяць, дак думкі такіе: ці то ноч, ці то не.* Казярогі.

ЦЕ [2] *часц.* Гэта. *Це ж ему послі Акцебра тры годы.* Крупейкі.

ЦЕ [3] *р. скл. займ.* ты. *Вочы у це завідушчые.* Карпаўка.

ЦЕГАНІ'НА *ж.* Клопат, цяганіна. *Я загадей атпісала дачцэ, а то умру, дак цеганіны той буде.* Ручаёўка. *Ета ж із Слуцка заехаць, да білет купіць, да цеганіны, а ена не захацела ехаць.* Чаплін.

ЦЕ'ГЦІ *незак.* Цягнуць. *Буде відна, як буде здорóўе цéгці.* Дзяражычы. *Цегну́ ногі, а ены не ідуць, саўсім аслабеў, а трэба ж цéгці.* Ручаёўка.

ЦЕЖЫ'НА *ж.* Нізіна. *Хлопцы за цежы́най рыбу таптушаць.* Барэц. *Цежы́на — нізіна з кустамі і водóй.* Пярэдзелка.

ЦЕ'ЛЬНЫ *прым.* Споднi, нацельны. *Ён з карваці да у цéльным белле ка мне.* Дзяражычы.

ЦЕ'ЛЬМА *прысл.* Перад ацелам. *Корóў цéльма прадала.* Бывалькі.

ЦЕ'МКІ *прым.* Кемлівы. *Ета деўка цéмкая, усе панімае.* Крупейкі. *Я калісь була цéмкая: пака пелі, я перанімала.* Пярэдзелка.

ЦЕ'МНАЧЫ *прысл.* Упоцемку. *Ужэ цéмначы нанач прасіўся.* Дзяражычы. *Цéмначы пашла на двор, дак чуць ногі не паламала.* Ручаёўка.

ЦЕ'МНІЦА *ж.* Цемя. *Цéмніца шчэ не зарасла. Бегла я, упала головóй, цéмніцай ударылась, з тогó урэм'я і балею головóй.* Ручаёўка.

ЦЕ'ПЕРСЯ *прысл.* Вельмі даўно. *Ці ета цёперся было.* Дзяражычы. *Цёперся ён зрабіў бочку, а грошай не несуць.* Пярэдзелка.

ЦЕ'ПЛІЦЬ *незак.* 1. Тапіць. *Рана уночы устаў мой чалавек і пошоў восець цёпліць.* Дзяражычы. 2. Сушыць, падсушваць. *Трэба лён цёпліць, бо уночы будам церці.* Пярэдзелка.

ЦЕРАБЕ'ННЕ *н.* Цярабленне. *Ну, вот, пасля того як дерава спіляць, дак церабённе іде: галлё ссекаюць.* Ручаёўка.

ЦЕРЗАНУ'ЦЬ *зак.* Тузануць, шмаргануць. *За вуха церзанёш его да папробуй уламаць.* Дзяражычы. *Так хацеў церзанўць за косу да баяўся маткі.* Ручаёўка.

ЦЕ'РТКА *ж.* Тарка. *Етую цёртку трэба ужэ вукінуць, а купіць новую, бо ена саўсім тупая і пагана трэ.* Ручаёўка.

ЦЕ'СТА *н.* 1. Цеста. *Замесіла цёста да трэба булачкі паделаць.* Бывалькі. △ *Аддáць дзяжў з цёстам.* Аддаць усё. *Ты ему хоць і дежў з цёстам аддáй і усё мала, і усё не угодіш.* Дзяражычы. 2. Прыгатаваны для свіней корм. *Ідi да дай ім тое цёста, нехай не вішчаць.* Ручаёўка.

ЦЕ'СЦЕВЫ *прым.* Цесцеў. *Паганяй каня з цёсцевага двара* (З нар. песні). Чаплін.

ЦЕ'СЦЮХНА *м.* Цесць. *А Сашачка у цёсцюхны п'е, гуляе* (З вясельнай песні). Вулкан.

ЦЕ'ТТАКА *прысл.* Вось тут. *За намі цёттака Грыб жыве.* Казярогі.

ЦЕ'ТЫ *займ.* Вось гэты. *Хочаш на цётай граде жыць.* Бывалькі. *Во цётые лапаткі пустые, а я думала, што не.* Дзяражычы. *Цётая барышня була у нас.* Чаплін.

ЦЕ'ШЫЦЬ *незак.* Няньчыць. *Я ужэ нанелася цёшыць децей.* Дзяражычы.

ЦЁГАМ: *цёгам цёгці.* Цягнуць. *Хіба Віця прывезе. Чым жа ён прывезе? Цёгам буде цёгці?* Дзяражычы. *Я готóва цёгам цёгці, толькі трэба забраць з собóю.* Карпаўка.

ЦЁМНАЧЫ *прысл.* Упоцемку. *Ее як цёмначы не застанеш, дак і не убачыш.* Бывалькі. *На Юр'я старая цёмначы устала, вунела з кубла постóлікі.* Дзяражычы.

ЦЁМНЫ *прым.* 1. Цёмны. *От бугаркі ідуць па небу, збіраюцца цёмные, буде дошч.* Ручаёўка. 2. Забіты, ад-

сталы. *Дерэўня наша цёмная була.* Пярэдзелка. *Цёмные мы калісь булі, ніде не булі і нічога не зналі.* Чаплін. △ *Цёмная рабо́та.* Цяжкая, фізічная работа. *Роботалі на цёмнай рабо́ці, дак тожа езыка токо́га не любяць.* Дзяражычы. *Ад цёмнага да цёмнага.* Цэлы дзень. *Ад цёмнага да цёмнага бабы на костагызі.* Карпаўка.

ЦЁСКА *ж.* Трэска. *Там цесалі цёскі, яназбірала цёсак і несу у халаці етые трэскі.* Дзяражычы. *Заўтры ены паймаюцца не толькі за цёскі.* Крупейкі. *Памянш.* цёсачка. *Я набрала тоненькіх цёсачак.* Дзяражычы.

ЦЁСЧЫК *м.* Чалавек, які чэша бярвенні. *О-о, цёшчыкам робо́таць нада велікае уменне: ета ж нада, шчоб брэўно роўнае, дабрэннае і стройнае палучылась.* Ручаёўка.

ЦЁТЧЫН *прым.* Цётчын. *Цётчынае міскі не занесла.* Ручаёўка. *Цётчына дачка прышла.* Дзяражычы.

ЦІВО'СЯ *прысл.* Даўно. *А пошо́ў ужэ ціво́ся — так кажуць у Сеўкох.* Сеўкі.

ЦІК *м.* Цюк. *Цікі́ цетрадей прынеслі у школу.* Бывалькі. *Там сіцец лежыць ціка́мі.* Дзяражычы.

ЦІКА'ВА *прысл.* 1. Акуратна. *Ціка́ва робіць — акуратна робіць.* Дзяражычы. *Да і зделана ціка́ва у коло́дках.* Мохаў. *Памянш.* ціка́венька. *Зделай ціка́венька — акуратна.* Дзяражычы. 2. Асцярожна. *Ідзі чэраз кладку да ціка́ва, не упаді.* Дзяражычы. *Несі да ціка́ва, не разбі.* Бывалькі. *Веді себе ціка́ва, цікавенька у Гомелі, не кідайся у гулі.* Крупейкі. *Памянш.* ціка́венька. *Веді себе ціка́венька, не балуйся на кладцы, а то упадеш у воду.* Пярэдзелка.

ЦІКА'ВЫ *прым.* 1. Акуратны. *Ой, ена не ціка́вая: сама не харашэ ходіць і у комлаці у ее гразна, а ціка́вая — то культурная, чысценькая, і у домі у ее красіва, чыста. У людей маткі ціка́вые, а я не ціка́вая; а шчо ж я вінавата, шчо мене бог пасадіў: я ж нічога не бачу. Калі б бачыла, дак і ціка́вая була б: усе б паладіла і парабіла.* Дзяражычы. *Мой цікавы буў чалавек, не хадіў абу як.* Чаплін. *Памянш.* ціка́венькі, ціка́венечкі. *Тая девачка такая ціка́венькая, так чыста ходіць.* Бывалькі. *Кошачка такая ціка́венькая: не наделае ніколі у хаці. О, екая ціка́венькая коро́бочка і то хунт весіць: ні сучочка, ні скепачкі.* Дзяражычы. *Свекруха ціка́венечкая була такая: у ее чысты і посуд буў. Так добра було, ено, діцятачка, такое ціка́венечкае.* Дзяражычы

*Мар'я о-от пражыла век цікáвенечкая: акуратная, чысценькая, ходіць да дела не робіць, дак ена вумуецца скрозь.* Пярэдзелка. 2. Добры. *Такі цікáвы буў дед: хорóшы такі, як Прося. Дак хорóшы хлопец? — Хорошы, цікáвы. Веня буў такі цікáвы, такі цікáвы — проста я его не ацэню.* Дзяражычы. 3. Чысты, гладкі. *Ены, дошкі, такіе цікáвые, луціца такая цікáвая.* Дзяражычы.

ЦІКА'ЎКА *ж.* Чалавек, які цікавіцца ўсім. *Ой, ена малая шчэ, да такая цікáўка, усе ей нада знаць, ужэ столькі кніжак прачытала.* Дзяражычы.

ЦІ'ПАЧКА *ж.* Кропелька. *Трэба мне мукі трошкі узяць, адну ціпачку.* Дзяражычы.

ЦІ'ХА *прысл.* 1. Ціха. *Той прыходіць — ціха пагаворы, той — громка пагаворы.* Дзяражычы. 2. Павольна, марудна. *Я пакладу аднаго торху, дак ён ціха і буде гарэць, пасцепенна буде гарэць.* Дзяражычы. 3. Асцярожна. *Донька, ціха пераходь рэчку, не упаді.* Ручаёўка. *Памянш.* ціхененечка. *Ціхененечка, хуцененечка соскочыць.* Ручаёўка.

ЦО'ДА *ж.* Сода. *У магазіні цóды багата.* Ручаёўка. *У мене трохі шчэ е цóды.* Чаплін.

ЦО'ПНУЦЬ *зак.* Шлёпнуць, злёгку выцяць. *Я й сваіх децей ні цóпнула, ні лаяла, ні з людьмі век не поспóрыла.* Крупейкі.

ЦУГ *м.* Вясло. *Нашто ты цýга узяў? Пакладі у лодку.* Чаплін.

ЦУКЕ'РЫК *м.* Цукерка. *Думала, цукéрык тут лежыць.* Крупейкі. *Ена цукéрыка хацела даць.* Ручаёўка.

ЦУР *м.* Нячысцік. *Я саўсім із сіл выбілась, нехай вам цур.* Дзяражычы.

ЦУРУ'БАЛКА *ж.* 1. Гузік з дрэва. *Нашые штаноў да з палкі цурýбалку зделае, гузікаў нема, а цурýбалкі.* Дзяражычы. *Послі вайны не було гузікаў, дак я хлопцам у штаны делала цурýбалкі.* Ручаёўка. *Дядька кажух зашпіліваў цурýбалкамі.* Пярэдзелка. 2. *перан.* Тоўстая рука. *Надень плацце з рукавамі, куды ты тые цурýбалкі павыстаўляла.* Пярэдзелка.

ЦУЦЬ *выкл.* Цыц. *Ена стане адгаваруваца, дак ён тупне: цуць, не пікні.* Дзяражычы.

ЦЫБЕ'ЛЬ *м.* Здаравяк (вялікі). *У нас говóрадь пра тогó, екі велікі вырас,— цыбéль.* Казярогі. *Ого, ён ужэ стаў во екі цыбéль.* Карпаўка.

ЦЫ'БІНА *ж.* Корань расліны. *Узела памыла каран-*

*цы, цыбіны тые, нацерла на цёрку, заліла спіртам і паставіла настайвацца.* Дзяражычы.

ЦЫГА'НКА *ж.* Шаршатка. *Цыга́нкай шылі шэрсць, мешкі шшывалі.* Карпаўка.

ЦЫГА'НКІ *мн.* Коржыкі грэцкія. *Цепер цыга́нак мы не пеком: грэцкай мукі нема.* Бывалькі.

ЦЫРКУ'Н *м.* Цвыркун. *Седіць цырку́н де-небудь на деравi ці у вуглу у хаці і цыркае, наподобіе скачыкаў.* Ручаёўка.

ЦЬМА[1] *ж.* 1. Цемра, цемень. *Пакрыла усюды цьма.* Дзяражычы. 2. Цемната. *Калісь цьма була, дак абы екую бралі, а цепер вучоны вучоную берэ.* Дзяражычы.

ЦЬМА[2] *прысл.* Многа, шмат. *Децей цьма було.* Бывалькі.

ЦЬМЕНЬ *м.* Кмен. *Цьмень памагае ат прастуды.* Пярэдзелка. *Сеголета багата цме́ню насушыла.* Чаплін.

ЦЭ'БАР *м.* Цэбар, вядро для вады. *Налівалі ваду у цэ́беры, дежкі налівалі.* Ручаёўка. *У цэ́беры замешываюць коро́вам.* Дзяражычы. *Хто кажа цэ́бер, а хто ражка. Што не паснедалі, трэба у цэ́бер вуліць.* Ручаёўка. *Замачу у цэ́беры і пасціраю.* Чаплін. *Мне калісь зделаў чалавек еты цэ́бер, дак я мо больш двацці годо́ў у ім сціраю.* Пярэдзелка.

ЦЭ'ЛІКІ *мн.* Бульба ў мундзірах. *Цэ́лікі — корто́плі у мундірах.* Дзяражычы. *Наварыла цэ́лікаў, можа хто з'есць.* Крупейкі.

ЦЭ'ЛКА *ж.* Цэўка. *Ена цэ́лку напраде, а я не, ена мене перамагае.* Дзяражычы. *Арэхавых цэ́лак нарабіў мне.* Пярэдзелка. *А цэ́лак штук сорак було, із бузіны рабілі.* Ручаёўка. *Памянш.* цэ́лачка. *У чоўнік цэ́лачка з пражай укладуецца.* Мохаў. *Цэ́лачкі такіе е, на іх нама́туваюцца ніткі і закладуюцца ў чоўно́к.* Ручаёўка.

ЦЭЛКІ' *мн.* Крупы з шалупаек бульбы. *Цэлкі́ — у войну делалі: таўклі шалупайкі з корто́плі, ета була як крупа. Із цэлко́ў із етых варылі кашыцу.* Дзяражычы.

ЦЭ'ЛЫ *прым.* 1. Поўны. *Цэ́лы кушын малака прынесла.* Бывалькі. 2. Цэлы, нядраны. *Я адену не латаную кухвайку, а цэ́лую, дак кажуць: ена багатая.* Дзяражычы. 3. Увесь. *Я у землянцы цэ́лы год жыла.* Дзяражычы.

ЦЭ'ЛЬНЫ *прым.* Цэлы, увесь. *Праседеў цэ́льны урок на задней парці.* Казярогі. *Нехай астаецца на цэ́лны день.* Крупейкі. *Ены свае деньгі растрачуюць, а ее цэ́лные.* Ручаёўка.

ЦЭ'ЎКА[1] *ж.* Цэўка. *Памажы цэ́вак насукаць, а то мне некалі.* Крупейкі.

ЦЭ'ЎКА[2] *ж.* Косць ад локця да кісці рукі. *У его буў пералом цэ́ўкі.* Ручаёўка.

ЦЭ'ХЛІЦЬ *незак.* Падаваць голас (пра сабаку, калі ён гоніць звера). *У нас кажуць цэ́хліць, калі гоніць звера, голас падае.* Дзяражычы. *Сабака цэ́хліць.* Бывалькі.

ЦЮДО'Ю *прысл.* Вось сюды. *Цюдо́ю на гору раз сходіў, дак войкаў, войкаў.* Чаплін.

ЦЮ'ПАЧКА *ж.* Капелька, маленькі кавалачак. *Уцета мне цю́пачку масла даў Егор.* Бывалькі.

ЦЮРУ'-ЦЮРУ' *выкл.* Падзыўныя словы для парасят. *Хто маніць чуш-чуш, а хто цюру́-цюру́, абы ішлі.* Ручаёўка.

ЦЮШНЯ' *ж.* Нерастаропны чалавек. *Екая-та старая цюшня́.* Дзяражычы.

ЦЯ'ГАВЫ *прым.* Цяглавы. *Де земля плахая, там можна робо́тать ця́гаваю сілаю.* Карпаўка. *Машыны нада, ця́гавая сіла нада.* Первамайск.

ЦЯ'ГАСЦЬ *ж.* Турботы, непрыемнасць. *Ця́гасць такую палучыла ат свае невесткі.* Бывалькі.

ЦЯГА'ЦЦА *незак.* 1. Цягацца. *Пагледі, што цега́ецца па земле.* Вулкан. 2. Ледзьве хадзіць.— *А мама як? Цегаецца? — Шчэ ходіць.* Ручаёўка.

ЦЯГА'ЦЬ *незак.* 1. Цягаць. *Іде у школу і па земле цега́е торбу.* Дзяражычы. 2. Вырываць. *Петро, памажы цега́ць цыбулю, а то, відно, дошч пойде.* Казярогі. 3. Пракладваць. *Ета строяць радіва, шчэ на том посёлку німа, там строяць, лінію цега́юць.* Дзяражычы. *Нашы цега́юць ціліхвон па етай старане.* Бывалькі.

ЦЯ'ГЛЫ *мн.* Паджылкі. *Баляць ногі пад ця́глами.* Пярэдзелка.

ЦЯЖО'ЛЫ *прым.* 1. Цяжкі. *У войну наша жысць цежо́лая була.* Дзяражычы. *Шчо ты наклала у той чамайдан, такі цежо́лы.* Ручаёўка. 2. Моцны. *Цежо́лые моро́зы булі.* Дзяражычы. 3. Смуродны. *Дрова у нас нехоро́шые, топім торхам, дак у міне у хаці дух цежо́лы.* Дзяражычы.

ЦЯЛЕ'МКАЦЦА *незак.* Ісці ціха, павольна. *Чого́ ты там целе́мкаешся, скарэй іді, а то не дого́ніш.* Дзяражычы.

ЦЯЛЕ'Ш *м.* Кавалак бервяна, калоды. *Ат хорóшага целешá, дак і трэска хараша* (З прыказкі). Ручаёўка.

ЦЯЛЕ'ШНІК *м.* Чалеснік. *Целéшнік — де засланка стаіць.* Ручаёўка. *Целéснікі разваліліся.* Дзяражычы.

ЦЯЛІ'ЦА *ж.* Цёлка. *Целіца у мене есцека.* Бывалькі. *Прысудзілі кабана і целіцу.* Дзяражычы. *Там целіца стаіць, дак травы дабудь.* Ручаёўка. *Памянш.* цялічка. *Я целічку пайду заганю.* Ручаёўка. *Цялічак у колхóзе добра гадуюць.* Чаплін.

ЦЯМНО'ТА *ж.* Цемната, цемра. *Сегодні ужэ такая цемнóта, шчо ні відна нічога, учора ясная погóда була.* Дзяражычы.

ЦЯМНО'ТНЫ *прым.* Вельмі цёмны. *Такая цемнóтная ноч, хоць вока вукалі.* Дзяражычы. *Цемнóтная такая погóда, дак цёмна, як скрозь полотнó гледжу, дай годе.* Крупейкі.

ЦЯМРА'ВЫ *прым.* Цёмны, змрочны. *Учора буў вельмі цемрáвы день.* Пярэдзелка.

ЦЯНЯ'ЦЦА *незак.* Ледзьве хадзіць. *Мо я і умру сей год, ане ж шчэ і ценяюся, а моч у мене не держыцца.* Дзяражычы. // Жыць так-сяк. *Хаця б адін ценяўся, а то децей напладіў.* Ручаёўка.

ЦЯПЕ'РАК *прысл.* Цяпер. *Пабачыш, як цепéрак ены верадуюць, дак серца закаменее.* Чаплін.

ЦЯПЕ'РАКА *прысл.* Цяпер. *Носяць цепéрака хорóшае, заможна людзі жывуці. Цепéрака давальней жывуці.* Чаплін.

ЦЯПЕ'РАКІ[1] *прысл.* Цяпер. *Цепéракі не перакаюся, шо не пашла замуж.* Бывалькі. *Цепéракі зубоў нема, тольκі чатыры пні.* Ручаёўка.

ЦЯПЕ'РАКІ[2] *часц.* Вось. *Экіпажы булі, шэсцерыкі цепéракі на колёсах.* Дзяражычы. *Цепéракі я уцета к ім прышла з сваім салам.* Чаплін.

ЦЯПЕ'РАЧА *прысл.* Цяпер. *Не дапускувалі калісь вучыцца, а із нас цепéрача і начальства, і усе чыста.* Первамайск.

ЦЯПЕ'РЫ *прысл.* Цяпер. *Цепéры е, шчо палучае девяць тысяч.* Первамайск. *Цепéры усюды народу поўна: ніде не прабіцца, не прашыцца.* Рудня Марымонава.

ЦЯПЛУ'ШКА *ж.* Верхняя вопратка без рукавоў. *Цеплýшка — нагруднік на ваці.* Мохаў.

ЦЯРМЁЦЦЕ *н.* Кастрыца з канапель. *Ехаў пан-капітан і ў деўчыны папутаў: што за косці лежаць, што*

*сабакі не едяць? — Цермёцце з канапель* (Загадка і адгадка). Чаплін.

ЦЕРМІ'НА *ж.* Цёрн. *Пасаділа сынку чырвону каліну, а чужой деціні калючу церміну. Чогось та каліна стала пасыхаці, калюча церміна стала расцвітаці* (З нар. песні). Вулкан.

ЦЯРНО'ЎКА *ж.* Шарсцяная хустка ў кветкі. *От, у цебе красівая цернóўка, цветы красівые.* Бывалькі. *Шарсцяная, дак расцеганка казалі, цернóўка казалі.* Дзяражычы. *Цернóўкі — вельмі цёплые хусты.* Чаплін.

ЦЯРНУ'ЦЬ *зак.* Прыціснуць. *П'яные ехалі, дак машына цернýла — да нагі і нема.* Дзяражычы.

ЦЯРТУ'ШКА *ж.* Тарка. *Трэба драчы садраць на цертýшку.* Дзяражычы. *Саша прыбегла, узела шчотку і цертýшку.* Бывалькі. *Памянш.* цяртýшачка. *А то на цертýшачку можна падраць.* Дзяражычы.

ЦЯРЭ'НІКІ *мн.* Заробленыя дні. *Тая той памагае, а тая той — церэ́нікаў зарабляе.* Пярэдзелка. *Ужэ п'яць церэнікаў зарабіла, а тады ходіш адбуваеш.* Мохаў.

ЦЯРЭ'ШАНЬКА *ж.* Чарэшня. *Пахаранілі хазяіна у вішнёвам саду, пасаділі церэ́шаньку у галоўках ему, расці, расці, цэрэ́шанька, тонка да вісока, упускай жа ўсе лісточкі тонкіе і шырокіе. Нельга, нельга церэ́шаньку неспелу ламаці, як вуспее рабіначка, пайду наламаю* (З нар. песні). Первамайск.

# Ч

ЧАБО'ЦІ *мн.* Боты. *Чобóці купіла Паўліку.* Вулкан. *У рызінавых чобóцях добра увосень.* Дзяражычы.

ЧАЙНІЧО'К *м.* Чайнік. *Чайнічóк купіла беленькі з сініміі цветочкамі.* Бывалькі. *Завары чай у чайнічку.* Ручаёўка. *Завáрыць траву у чом-нібудь, а тады у чайнічóк вулле і п'е гарачы, як чай.* Чаплін.

ЧА'КАЦЬ *незак.* Ісці (пра гадзіннік). *Мне веселей, як часы чáкаюць.* Дзяражычы. *Часы нача, як мы увыйшлі, не чáкалі.* Ручаёўка.

ЧАКУ'ХА *ж.* Доўбня, вялікі цяслярскі драўляны малаток. *Чакýха делаецца як молат. Ёй рыбу глушаць хату асаджваюць.* Пярэдзелка. *Чакýхай шчо хочаш зробіш: і дрова можна колóць, і дрэва падганяць.* Ручаёўка.

ЧАЛАВЕ'К *м.* 1. Чалавек. *Праедь чэраз рэку, стрэнь*

*чалавека — і другі разговóр.* Дзяражычы. *Бач, екая крыша красівая. О так і чалавéк: як падчэпурыцца, дак хорóшы, а то гразны, мурзаты.* Ручаёўка. *Памянш.* чалавéчык. *Калісь у мене із Лоева чалавéчык знокóмы крыў крышку.* Дзяражычы. 2. Муж. *Ее чалавéк умер, дак ена жыла сама сабе.* Дзяражычы. *Ена з чалавéкам сваім прыехала.* Пярэдзелка. *С той пары, як первага мойгó чалавéка на вайне убіта, дак у мене мігрэнь.* Ручаёўка. *Ена іде замуж: нашла сабе чалавéка.* Чаплін.

ЧАЛЕ′НІЦЬ *незак.* 1. Лаяць, сварыцца. *Як іду у клуб, дак ена і чалéніць.* Дзяражычы. *Чалéніў, чалéніў да шчэ ці годі, а ён і вухам не веде.* Пярэдзелка. 2. Даказваць, выгаворваць. *Ена ужэ столькі ёй чалéніла, дак схаділа к бабі.* Дзяражычы.

ЧА′ЛКА *ж.* Плыт. *За мостом наделаюць чáлак, чáлак: тады плывом караванам.* Пярэдзелка.

ЧАЛЯ′ДКА *ж.* Наймічка, хатняя работніца. *Пане Ходора, я пайду да найду табе чэлядку. Чэлядка тая і мост памые, і децей гледіць, і корóву подóіць. Як наймаюць чэлядку бальшые людї, дак кідаюць грошы.* Дзяражычы.

ЧАМЯРВА′ *ж.* Шмат, багата. *Ці у мене коз воз, ці децей чамервá.* Вулкан.

ЧА′ПА *ж.* Затычка, корак.*Седіць, як чáпа, такая ена ужэ недобрая.* Дзяражычы.

ЧА′ПАЦЬ *незак.* Павольна ісці. *Бач, ужэ девяноста годóў, а шчэ чáпае, хоць з костурам, да чáпае.* Бывалькі.

ЧАПА′ЦЬ *незак.* 1. Чапаць. *Не чапáй децей, табе ужэ пара жэніцца.* Крупейкі. 2. Развешваць. *Налілось просцó — адкуль верабейкі узеліся: деда рукамі стаўлела, бумагу чапáла — не адагналі верабейкаў.* Бывалькі.

ЧАПЕ′ЛЬНІК *м.* Ручка ў чапяле. *Змені чапéльнік у чапеле, бо еты згніў.* Пярэдзелка.

ЧАПЕ′Ц *м.* 1. Чапец. *Памыю чэпéц сабе і насавік абмыю, сцелюся сама сабе.* Дзяражычы. *Падкоснік у косы падкладувалі, шоб косы таўсцейшые булі і чапéц добра держаўся.* Крупейкі. 2. Сальнік, сала вакол страўніка. *Коўбік, а круга его сала тое брыжамі, як чэпéц, дак і кажуць — чэпéц.* Дзяражычы. *Усё нутро сабака з сенец вуцег: і чэпéц, і коўбік, і сала тое.* Ручаёўка.

ЧАПУРНЫ′ *прым.* Прыбраны прыгожа. *Такая ужэ маладіца чапурнáя.* Дзяражычы. *Прышоў да ўдавы па-*

*рынь малады: «Ты ўдава чапурна́, сватаў бы я цебе сам за себе, да ў цебе децей многа»* (З нар. песні). Чаплін.

ЧАРАВІ′КІ *мн.* Чаравікі. *Чэрэвікі роўненечкіе панабіралі.* Дзяражычы. *Чаравікі калісь насілі мала, оцета ж луччай былі пасталы.* Казярогі. *Цепер ужэ не гово́рацъ чэрэвікі, а раней жа мы так баціңкі называлі.* Ручаёўка.

ЧАРАДА′ *ж.* 1. Чарада, статак кароў. *Жонцы чэ́раду пасці трэба було: нема парабкоў чэ́раду пасці.* Дзяражычы. *На тры чараде́ деляцца коро́вы у Ручаёўцы.* Ручаёўка. 2. Чарга пасвіць кароў. *Чэрада́ — ета калі пасуць па вочарадзі коро́ў. Учорі я чэ́раду пас.* Дзяражычы. *Заўтра чарада́, я пайду з рання, а ты подо́йдеш часам к васьмі.* Пярэдзелка.

ЧАРАДНІ′К *м.* Пастух. *Чэрэднік іде, трэба збіраць на стол.* Казярогі. *Чэрэдні́к нашу дераве́ньскую стаду пасе, чэ́раду пасе.* Пярэдзелка.

ЧАРАНО′ *н.* Чарэнь. *Пакладі на чарано́ посцілку.* Ручаёўка. *Палажылі мы ее на чарано́.* Чаплін.

ЧАРАПА′ШКА *ж.* Бяззубка. *Ены ж як ночо́вачкі, две штучкі разваліюцца, і вулазіць чарапа́шка аттуля.* Ручаёўка.

ЧАРАП′Я′НКА *ж.* Чарапок. *Мы палекаліся да гаршкі аб землю — чарап′я́нкі зделалі.* Дзяражычы.

ЧАРНАБРЫ′ЎЦЫ *мн.* Аксаміткі. *Чарнабры́ўцы — такіе маленькіе цветы, наподо́біе гваздікі.* Ручаёўка.

ЧАРНАВІ′К *м.* Пахавальны ліст, паведамленне аб смерці на фронце. *На чэрнаві́к рублей трынаццаць палучае.* Дзяражычы. *Пошо́ў на хронт і нема, чэраз два гады чарнаві́к палучылі.* Карпаўка. *А ёй прышоў чарнаві́к, бо его як паслалі на заданне, дак ён і не вернуўся.* Чаплін.

ЧАРНАВО′ЧЫ *прым.* Чарнавокі. *Іч, сабака чарнаво́чы.* Дзяражычы. *У мене усе деці чарнаво́чые.* Бывалькі.

ЧАРНАГАЛО′ВІК *м.* Баравік з чорнай шапачкай, які расце ў хвойніку. *Чарнагало́вікі — чорные крэпкіе грыбы, іх адкладай аддельна.* Казярогі. *Цэлае ведро чарнагало́вікаў прынесла.* Мохаў.

ЧАРНО′ХА *ж.* Назва рыбы. *Чорно́ха падхо́діць пад язіка, на ёй крупная лузка.* Бывалькі.

ЧАРНУ′ШКА *ж.* Цыбуля, якую сеюць насеннем.

*У нас мала хто чарнушку сее — цыбулінамі садяць.* Цясны. *Чарнушка солодкая бувае.* Ручаёўка.

ЧАРО'Н *м.* 1. Чарэнь. *Я паскідаю усю адежу, шчоб чарóн прахаладаў.* Дзяражычы. *А я, деткі, як забаліць у паясніцы, дак на чарóн лягу да пагрэюсь, дак так добра потым.* Пярэдзелка. 2. Верхні цвёрды пласт снегу. *Крэпкі снег, ідеш — не правальваецца, коркай пакрыты — чарóн.* Пярэдзелка.

ЧАСНА'К *м.* Часнок. *І часнáк садяць, нельзя без его: часнáк і у каўбасы трэба, і у гуркі.* Дзяражычы. *Вукапаю кордóплі, а тады ужэ у канцэ сенцебра садім на зіму часнáк.* Ручаёўка.

ЧАСНАЧЫНА *ж.* Галоўка часнаку.— *А колькі на кілаграм? — Мо п'яць чэсначын, а паўтара рублі аддай.* Цясны.

ЧАСЦЯКО'М *прысл.* Часта. *Часцекóм зайде.* Дзяражычы. *Там, у Гомлі, часцекóм дашчы ідуць.* Первамайск. *Часцекóм варым увечары кортóплі.* Чаплін.

ЧА'ЎРАЦЬ *незак. перан.* Галадаць, жыць надгаладзь. *Паедяць усе зразу да і чáўраюць тады.* Дзяражычы.

ЧАХМЕ'НЬ *м.* Верхняя доўгая мужчынская вопратка. *Чахмéнь шыіцца із сукна, длінны, з башлыком, без падкладкі.* Крупейкі.

ЧА'ХНУЦЬ *незак.* 1. Астываць. *То ж я вунела гаршчкі, шчоб чáхлі.* Дзяражычы. *Паатстаўляй абед, шчоб чах, а то гарачы крэпка.* Ручаёўка. 2. Чахнуць, марнець, хварэць. *Ужэ чáхне чалавек, сколькі ему там асталося жыць.* Дзяражычы. *Парасяці чáхла, чáхла, пака і саўсім прапала.* Бывалькі.

ЧАХО'Л *м.* Манжэт. *Чэхлы бо делай мене шырокіе, шчоб свабóдна було.* Дзяражычы. *Я заўсёды ушывала хрэшчыкамі чэхлы у кохці.* Мохаў. *Сюды нада ушыць вузенькі чэхóл.* Ручаёўка. *Памянш.* чэ́хлік. *Калісь сорóчкі з зобóрамі, з чэ́хлікамі булі, да вуштупуеш — ого як.* Дзяражычы. *У мене шоб чэ́хлік буў у сорóчцы.* Ручаёўка.

ЧАХО'НЯ *ж.* Чахонь. *Давай, Грыша, хоць чахóні наловім.* Карпаўка. *Чахóню велікую купіла у Івана.* Чаплін. *Памянш.* чахóнька. *Чахóнькі, платанкі к неделі наберу.* Мохаў. 2. *перан.* Худая жанчына. *От чыстая чахóня стала: пуп прырос к хрыбетніку.* Крупейкі. *Па-*

*мянш.* чахóнька. *От стала, што чахóнька, такая худая да плоская.* Чаплін.

ЧАЦВЯРНЯ': *на чацвярнé.* На карачках. *А большы хлопчык на чэцвернé паўзе у агонь.* Дзяражычы.

ЧАЦВЯРТУ'ШКА *ж.* Чацвярцінка (гарэлкі). *Бач, де чэцвертýшка стаіць і не раздавілась, нічога усветачку.* Дзяражычы. *Схаді і купі чэцвертýшку — лаўка прыехала.* Ручаёўка.

ЧАЦВЯРЦІ'НЫ *мн.* Памінкі па нябожчыку праз чатыры дні пасля смерці. *На трэціны і на чэцверціны занела круп і сала.* Дзяражычы.

ЧАШУ'ЧКА *ж.* Кароста. *Калі ета чашýчка напала, дак так усе часалась.* Ручаёўка.

ЧКЕ-ЧКЕ-ЧКЕ *выкл.* Падзыўныя словы для свіней. *Чке-чке-чке, еж, мая свінка, еж.* Ручаёўка.

ЧМА'РЫ *прым.* Цёмны. *Вось такіе б чмáрые калготкі купіць Нінцы, а то гразніць светленькіе.* Дзяражычы. *У мужчын верхніе сорóчкі булі чмáрые.* Бывалькі.

ЧО [1] *прысл.* Чаму. *Чо ена с тобой не разгаваруе?* Дзяражычы.

ЧО [2] *займ.* Што. *Чо нагатавалі на абед?* Бывалькі.

ЧО'БАТЫ *мн.* Боты. *Я панесу ему бахілы і чóбаты крэпіць. Трэба чóбат пашукаць і бахіл.* Дзяражычы. *Памажы-ка мне, жонка, чóбаты зняць.* Ручаёўка. *Ідеш мыць плацце на рэчку — чóбаты надевай, бо холадна.* Чаплін.

ЧО'БРЫК *м.* Чабор. *Я па чóбрык не хаділа шчэ.* Дзяражычы.

ЧОМ *прысл.* Чаму. *Каліна мая, чом ты не цвіла? — Навалілісь лютые морозы, дак я не цвіла.— Девачка мая, чом замуж не йшла?— Я схаділа усе горы-даліны, дружка не знайшла* (З нар. песні). Первамайск.

ЧОП *м.* Затычка, корак. *Чоп — пробка для затыкання дераўянай бочкі.* Дзяражычы. *Памажы выцягнуць чоп, трэба масла наліць.* Бывалькі. *Піўную бочку затыкаюць чóпам. У бутлі тожа чоп.* Цясны.

ЧО'РНЫ *прым.* 1. Чорны. *Без мохрыкаў чóрны плотóк — кашымірка.* Дзяражычы. *Як уплюнулася ворóна, дак ніякага не ловіць, а толькі чóрнага пуленёнка.* Ручаёўка. *Учорі як набрыў на чарніцы — чóрная земля, а ены як вішні. Як із'ем чóрнага хлеба, дак дыхаць не пускае.* Чаплін. 2. Брудны. *Скінь плотóк да памый, пабач, екі чóрны.* Бывалькі. *Бабы торх вубіраюць цэлы*

*день, дак гразные, чо́рные додо́му ідуць.* Ручаёўка. △ *Чо́рная столь.* Столь над бэлькамі (па гарэ). *Калі паклаў паталок, насыпаю песком, мохам, а тады кладу чо́рную столь.* Ручаёўка.

ЧОРЦЬ *м.* Чорт. *Кагу: а чорць вас беры, такая журба па вас, аж деццa негде.* Дзяражычы. *У нас гово́рацьː чорць з рагамі.* Ручаёўка.

ЧОСЬ *займ.* 1. Штось, штосьці. *Сепаратар і летась чыргаў, чось там задіраецца.* Дзяражычы. *Не, бацёк, чось не знаю его.* Пярэдзелка. 2. *часц.* Штосьці. *Я чось есці не хочу.* Пярэдзелка.

ЧО′ЎНІК[1] *м.* Лодка. *У мойго́ чо́ўніка ужэ бок адгніў, старэнны ён, хоць ба шчэ трохі ён павазіў мене.* Пярэдзелка.

ЧО′ЎНІК[2] *м.* Чаўнок. *У чо́ўнік укладаецца цэўка з пражай.* Карпаўка. *Чо́ўнікі і куплялі, і самі рабілі з клёна. Було калісь тры штукі у мене.* Цясны. *Усе адно як гаварыць: чо́ўнік і чаўнок.* Мохаў.

ЧОХ *м.* Чых. *Чого́ ты голая ходіш, пака заляжа ці то чох нападе.* Дзяражычы.

ЧУБЕ′ЛІК *м.* Птушка амялушка. *Увосень чубе́лікі як налецяць, дак усю рабіну паклююць.* Бывалькі.

ЧУБО′К *м.* 1. Чубік. *Хлопца пастрыглі нагала, а цепер ужэ чубо́к зачэсуе.* Бывалькі. 2. Кавалачак, мясцінка. *Мой жа косіць: там чубо́к, там чубо́к вукасіць — так на коро́ву і назбірае.* Ручаёўка.

ЧУ′ДА *ж.* Цуд. *Чу́ду чудную раскажу.* Казярогі. *Чу́да чыстая з ею була.* Чаплін.

ЧУ′ДНЫ *прым.* Дзіўны. *Раскажы мне, як етага лавашніка хвамілея, чу́дная екая-то.* Крупейкі. *Паймалі рыбакі нейкую чу́дную не то рыбу, не то чорта.* Першамайск.

ЧУЖНІ′К *м.* Наняты чалавек. *Калісь паны і нашы мужыкі багатые наймалі рабочага і звалі его чужнік. Чужнікóм я параcallботаў у людей.* Ручаёўка.

ЧУЖЫ′[1] *прым.* 1. Чужы. *Квацер'янт — чужы́ чалавек.* Вулкан. *Як на сваём езыку не здержыш, дак на чужо́м век не.* Дзяражычы. *О-о детачкі, як бы я ле семеечкі сваe упадувала, а то я упадуваю ле чужы́х людей.* Бывалькі. *Чужы́ плот не горо́д: не загарадіць плотам, не завезці гноем.* Крупайкі. *То ж каб чужо́е, а то свая страда.* Ручаёўка. *Не захацела работаць, кажа: паеду у чужо́е.* Чаплін. 2. Далёка. *Чужы́е прэдседацелі булі у*

*нашай дерэўні.* Бывалькі. *Параска так за Віцем кіпела, кіпела да й паехала у чужы́е сёла даіць коро́вы, а ён ажаніўся.* Дзяражычы. △ *Чужо́е чужы́м, а сырое сырым.* Аб тым, што застаецца без змен. *Дваюро́дные ее жалець не будуць: чужо́е чужы́м, а сырое сырым.* Дзяражычы. *Чуж-чужына́.* Чужынец, чужак. *Усе чуж-чужына́: і небогі, і браты дваюрадные.* Дзяражычы. *Калі б родные былі браты ане сёстры, а то чуж-чужына́.* Бывалькі.— *Цётка, ета вашы родічы?— Не, чуж-чужына́.* Ручаёўка.

ЧУЖЫ'К *м.* Чужак, чужынец. *Е такіе скарысные на мене, усе як водо́ю ллюць на мене, калі б не еты прэдседацель, дак і не была б на етай робо́ці; ён жа чужы́к і жыве у мене. А у мене чужыкі і чужыкі скрозь.* Дзяражычы.

ЧУ'ЙКА *ж.* Верхняя доўгая мужчынская вопратка. *Чу́йка — світа з каўнером.* Вулкан. *Із башлыком чу́йку дед шые.* Бывалькі. *Булі чу́йкі велікіе. Наденеш з голово́ю башлык такі.* Дзяражычы. *Світа була калісь длінная і шырокі варатнік — называлась чу́йка.* Ручаёўка.

ЧУ'ЙНА *прысл.* Чутка. *Як прыдеце позна, ступайце, не бойцеся, я сплю чу́йна, чую, як з гулянкі маладые ідуць.* Пярэдзелка.

ЧУЛА'Н *м.* Камора. *У мешок да на чула́н сцёгна павесілі* Дзяражычы. *Чула́н са столлю — прыстолены. Гово́раць камора, кладоўка, а у нас чула́н.* Ручаёўка. *Ідi у чула́н мукі прынесі.* Чаплін.

ЧУМА' *ж.* 1. Чума. *Калі скаціна чумо́й хварэе, дак дохне багата.* Ручаёўка. 2. перан. Неахайная жанчына. *То ена нікуды не ходіць, ена чума́, і ў хату ее не улезці.* Дзяражычы. *Седіць як чума́.* Пярэдзелка.

ЧУМАКІ' *мн.* Самаробны абутак. *Берэ старую галенішчу, складае угольнікам, абчэпае кругом веровачкамі — от і чумакі.* Дзяражычы. *І с аўчын делалі, шоб цёпла було — чумакі.* Чаплін.

ЧУ'НІ *мн.* Лапці з пяньковых вяровак. *Чу́ні — лапці, ены плелісь з веровачак, з аборак.* Дзяражычы. *Пасля вайны у чу́нях хаділі.* Казярогі. *Чу́ні плетуць з аборы, капыл нада, на капыле плесці.* Крупейкі. *Раней як хаділі у чу́нях, дак ні ногі не балелі, ні спіны, шчас ужэ іх ніде не убачыш.* Пярэдзелка. 2. Абутак на драўлянай падэшве. *Прыбівалі у чу́ні дераўяные падбіўкі, шчоб не драліся.* Дзяражычы. *Памянш.* чу́нікі. *Чу́нікі делалі з канапель, з лазы делалі кручочкі, на іх плелі вероўкі, а*

*тады рабілі чýнікі.* Дзяражычы. *Аборачкі паўём да чýнікі плетом.* Ручаёўка.

ЧУРА'К *м.* Палена, цурка. *Чатыры куракі папілілі мы.* Дзяражычы. *Чуракі тры ле кворткі паклалі.* Крупейкі. *Атпіляў чураќа.* Ручаёўка.

ЧУ'СТАВАЦЬ *незак.* 1. Адчуваць. *Мы шчэ не чýствалі вайны, мы малые тады булі.* Чаплін. 2. Цяміць. *У мене галава такая бальная, я мала чýстую, ужэ будеце распрашуваць сына.* Ручаёўка.

ЧУТКІ' *прым.* Чуткі. *Я чуткáя на сон: так нача засну, а прачынаюсь ураз.* Дзяражычы.

ЧУТНО' *прысл.* Чутна. *Трактар гуде, дак не чутнó, людi крычаць цi маўчаць.* Бывалькі.

ЧУ'ХАЦЬ *незак.* Часаць. *Такіе болечкі на петах, агнём гарыць: мама, чýхайце.* Ручаёўка. *Ета ж ласціцца Мухтар, так любіць, шчоб чýхалі его.* Чаплін.

ЧУХО'НЯ *ж.* Чахонь. *Зварьі чухóню, а то есць ахота.* Пярэдзелка.

ЧУЦЬ *незак.* Чуць. *Вы чýйце, шчо я кажу.* Бывалькі.

ЧУШ-ЧУШ-ЧУШ *выкл.* Падзыўныя выгукі для парасят. *Чуш-чуш-чуш! Гадаваці буду вас.* Ручаёўка.

ЧУ'ШКА-ЧУ'ШКА *выкл.* Падзыўныя выгукі для свіней. *Чýшка-чýшка, де цебе нечысты дух носіць.* Мохаў.

ЧЫГУНЕ'Ц *м.* Маленькі чыгун. *У чыгун пастаўляю вады — у большы, ане у чыгунéц — маленькі называецца, менчы.* Дзяражычы.

ЧЫКІРО'ЎШЧЫК *м. спец.* Тралёўшчык. *Адны валяюць, трактарыст пад'ежджае, чыкірóўшчык тросам чапляе браўно, і его вывозяць.* Ручаёўка.

ЧЫНАВЫ': *чынавыя дóшчачкі.* Дзве тонкія дошчачкі (у кроснах). *Бувала, матка путае, де чынавые дóшчачкі.* Дзяражычы.

ЧЫНІ'ЦЬ *незак.* 1. Латаць. *Утрох будам рубаху чыніць.* Бывалькі. *Той жа у вучылішчы усе убірае да грубы чыніць.* Дзяражычы. 2. Начыняць. *Чыняць маткі каўбасы к ражаству.* Дзяражычы.

ЧЫНО'ЎКІ *мн.* Дзве тонкія дошчачкі, звязаные ніткамі, якія служаць для таго, каб не блыталася аснова. *Вечарам трэба схадіць да цёткі за чынóўкамі, бо у сваіх дошчачка зламалася.* Карпаўка.

ЧЫНЫ' *мн.* Два калочкі, якія служаць для падліку пасмаў і раздзялення нітак асновы на два рады. *Шчоб падлічыць пасмы, е чыны — колóчкі такіе.* Дзяражычы.

*Не буде чынóў, то не будуць разделяцца ніткі, нітка дайжна іці наўхраст.* Ручаёўка. *Пры навіванні у чыны́ укладаюць две дошчачкі.* Чаплін.

ЧЫРА′ *ж.* Рамка з адкладзенай у яе чарвой. *Калі матка зачырэла, значыць чырá.* Чаплін.

ЧЫ′РГАЦЦА *незак.* Чыркаць. *Ета бувала: ено чы́ргаецца, а я усеадно ганяю молокó, сліўкі бегуць, а я ганяю.* Дзяражычы.

ЧЫ′РГАЦЬ *незак.* Чыркаць. *От чы́ргае сепаратар і летась чы́ргаў, чось там задіраецца.* Дзяражычы. *Чы́ргае, оцетаво я табе прыносіла, ты паладіў, а оцета усеадно чыргае.* Ручаёўка.

ЧЫРЫ′ЦА *ж.* Чыранка (птушка). *А ні чыры́цы, а ні ворóны не убачыш.* Пярэдзелка. *Памянш.* чыры́чка. 1. Чыранка. *Две чыры́чкі плавалі ле нас на возеры.* Бывалькі. 2. *перан.* Засватаная дзеўчына. *Ці не залецела наша чыры́чка ўчора к вам?* (З нар. песні). Карпаўка.

ЧЫРЫ′ЦЦА *незак.* Чыркацца. *Валасы твае чы́рацца па варатніку.* Дзяражычы.

ЧЫРЫ′ЦЬ *незак.* Чыркаць. *Не чыры́ў наш на сцене ніколі.* Бывалькі. *Бач, чы́рыць Саша.* Дзяражычы.

ЧЫ′СЛЕНІК *м.* Каляндар. *Таня, будеш у горадзі, дак чы́сленік купі тамака.* Пярэдзелка.

ЧЫ′СЛЕНКА *ж.* 1. Ніткі, якія ўваходзяць у пасма. *Па тры ніткі беруць — чы́сленка. На іванаўськім палатне відна чысленкі.* Дзяражычы. *Чы́сленка — як кросна ткуці, дак шчытають па тры ніткі, а тады десяць чысленак — пасма.* Ручаёўка. *Старая, ужэ чы́сленак палічыць не магу.* Цясны. 2. Лік тры. Не відна па вас, шоб чэраз *чы́сленку елі.* Ручаёўка. 3. Трое дзяцей.— *А у цебе толькі чысленка?— Цепер у мене толькі чысленка: трое убіта на хронці.* Бывалькі.

ЧЫСЛО′ *н.* 1. Лічба. *Калісь мы такіх чы́сел не чулі, як цепер вучаць.* Вулкан. 2. Дата. *Па чыслам ходіць Петро: сегодні празнік Іван Петроўскі.* Ручаёўка. △ *Пад пéрвае чысló.* Вышэйшая ацэнка чаго-небудзь. *О-о, цепер Прося жыве пад пéрвае чысló.* Дзяражычы. *Такіе девачкі павырасталі — пад пéрвае чысló, усё і гледеў бы на іх.* Казярогі.

ЧЫ′СТА [1] *прысл.* 1. Чыста. *У мене скрозь чы́ста у хаці.* Бывалькі. 2. Зусім. *Сметану сабрала зверху, а молокó усе чы́ста не сышлося.* Дзяражычы.

ЧЫ'СТА[2] *злучн.* Нібы. *Пчолка — чыста чалавек.* Дзяражычы.

ЧЫ'СТА[3] *часц. узмацн. Як віснулі усе чыста: децей жа з двацатага году утрох прышло, а ішло на войну можа пяддесят, а пасылалі — земле важка, вот легла, дак легла нашых людей, да дубочкі, да дубочкі.* Дзяражычы. *Я палучу грошы, дак усего чыста панакуплюем.* Крупейкі.

ЧЫСТАТА' *ж.* Чысціня. *Вы б нанялі прыслугу да жылі у чыстацé і любаце.* Дзяражычы.

ЧЫ'СТЫ *прым.* 1. Чысты. *То баба такая: паседіць у серэдіне і вулеціць чыстая.* Дзяражычы. *Ім намеісся чыстых штаноў — у воду зайде да з вуценяткамі боўтаецца.* Ручаёўка. *Расцеганка — руські плоток, чыстая шэрсць, красівы такі.* Крупейкі. *Памянш.* чысценькі. *Девачка такая чысценькая, да абаюдная, да нешэпелятая.* Дзяражычы. △ *Чыстае пóле.* Раздолле, прастор. *У чыстам полі, у шырокам раздоллі там касары сена косяць* (З нар. песні). Первамайск. *За ею парэнь малады у чыстам полі на вараном кане бежыць.* Карпаўка. *Чысты вýгал.* Вугал у лапу. *Чысты вугал робяць, каб було красівей.* Ручаёўка. *А чысты вýгал — ета калі канцы бярвенняў не выступаюць.* Чаплін. *Чыстае вóка.* Не вінаваты ні ў чым. *Мае вóка чыстае перад ім.* Дзяражычы. 2. Здаровы. *Я чыстая стала, да расправілась, да поўная, дак прышла корóў даіць, дак як ото зеркала: такая хорóшая стала.* Дзяражычы.

ЧЫ'СЦЕНЕНЕЧКІ *прым.* Аднатонны. *Усякіе паесы булі: чысцененечкіе — зелёненечачкіе булі, красные — і полóсамі.* Дзяражычы.

ЧЫ'СЦІЦЬ *незак.* 1. Чысціць. *Валодька такі верны: сваіх коней скрозь чысціць.* Дзяражычы. *То у місцы лісты, мы децям чысцілі храпы.* Крупейкі. 2. *перан.* Біць, лупцаваць. *Матка мая увыйшла, да за комель, да давай чысціць нас.* Дзеражычы.

ЧЭ'КАЦЬ *незак.* Дыбаць. *Ну, чэкай, небожа.* Пярэдзелка. *Чэкала, чэкала, чуць даплелась.* Ручаёўка.

ЧЭ'КЕР *м.* Плойма, шмат дзяцей. *У тае хазяйкі чэкер у хаці. Цэлы чэкер напладіла.* Бывалькі. *Такі чэкер: было аж семера децей.* Крупейкі.

ЧЭ'ЛЯДКА *ж.* Наймічка, хатняя работніца. *Мой хазяін чэлядку наняў, дак девяць годóў чэлядка служыла.* Дзяражычы.

ЧЭ'ПАК *м.* Чапец. *А тэя, цеперакі кажуць чэпéц, а тады — чэ́пак.* Ручаёўка. *Як стане халадець, дак я нашу чэ́пак.* Чаплін.

ЧЭ'ПІК *м.* Чапец. *У козлы заплецецца да чэ́пік наверх — так калісь хадзілі.* Дзяражычы.

ЧЭРАЗ *прыназ.* 1. Цераз. *Наша село агнёвае: агонь прайшоў чэраз его, асталася адна земелечка.* Бывалькі. *Люба у нас чэраз хату жыве.* Ручаёўка. 2. Праз, з-за. *Ета ж я чэраз Просю паехала.* Дзяражычы. *У нас жа Валодька умер чэраз пажар, пералекаўся.* Казярогі.

ЧЭ'СНАСЦЬ *ж.* Сумленнасць. *Каму ні плаціць, да плаціць, а луччай свайму, дак ён па чэ́снасці зделае.* Дзяражычы.

ЧЭ'СНЫ *прым.* Сумленны. *У нас прэдседацель чужы, да такі чэ́сны чалавек.* Бывалькі.

ЧЭСЦЬ *ж.* Сумленне. *Я ж думала, што ён па чэ́сці зделае, а ён не па чэ́сці, а па-пескі.* Дзяражычы.

ЧЭ'ЦВЕРАНЬ *м.* 1. Прапілаваны праём у вушаках. *Чэ́цверань — паз у вушняках, куды уваходіць рама ці дверы.* Пярэдзелка. 2. Праём у дошках, куды заганяецца шпона. *Убіраецца чэ́цверэнь, штоб пакрылась доска доскаю.* Пярэдзелка.

ЧЭ'ЦВЕРЦЬ *ж.* Прапілаваны праём у вушаках. *Чэ́цверць вубіраюць у дверах і вокнах — паз вудаўбуюць.* Дзяражычы.

# Ш

ШАБЕ'ТА *ж.* 1. Скрынка, *Падай тую шабéту, пакладу пугаўкі.* Дзяражычы. 2. Кожаная або сшытая з палатна сумка. *Ён прынёс у шабéці тры бутылкі малака.* Дзяражычы. *Он, шабéту узяў і носіць.* Пярэдзелка. *З шабéтай пабегла разносіць пошту.* Чаплін.

ШАВЯЛЯ'ТЫ *прым.* Шапялявы. *От шэвеля́тая Прося стала: зубы павыпадалі.* Дзяражычы.

ШАГ *м.* Крок. *Маткін участак — 400 шагóў. Мая унука маленькая, і шагі у ее маленькіе.* Ручаёўка.

ША'ЙКА *ж.* Страказа. *Як цёпла, дак ша́йкі летаюць ле вады.* Казярогі.

ШАЛАМО'К *м.* Кепка. *Абы не жарка, екісь шаламóк надене на голаву.* Дзяражычы.

ШАЛЕ'ПНУЦЬ *зак.* перан. Ударыць. *Ена заступілася, дак ее шалёпнулі камнем.* Ручаёўка.

ШАЛЕ'ЦЬ *незак.* Дурэць, сваволіць. *Не шалéй так, паседі хоць мінутку ціха.* Дзяражычы.

ШАЛЁНЫ *прым. перан.* Вельмі рухавы, жвавы. *От такі шалёны кабанчык, кручаны, як метла, не пастаіць на месці.* Дзяражычы.

ШАЛЁЎКА *ж.* 1. Шалёўка. *Е доска грубая, а шалёўка — тонкая, ёй аббіваюць хату, робяць зобóры́. Робяць узор на шалёўцы, вунь немчык як выразаў.* Ручаёўка. 2. Агароджа з дошак. *Шалёўка крашана, там о-о небог жыве.* Ручаёўка. *Вунь крашана шалёўка, тады его дом буде.* Чаплін.

ШАЛУДЗІ'ЎКІ *мн.* Гваздзікі. *Жоўтыя чарнабрыўцы у нас называюць шэлудіўкі.* Дзяражычы. *Шалудіўкі — цацкі такіе, сеюць у горóді.* Ручаёўка.

ШАЛЯ'НКА *ж.* Шарсцяная хустка. *Шаліноўка подхóдіць пад нашу шаля́нку.* Дзяражычы.

ША'МАЦЬ *незак.* Шамацець, шалясцець. *Чую, што ета ша́мае, а ета дісятка у кармані.* Пярэдзелка.

ША'МНУЦЬ *зак.* 1. *перан.* Праваліцца. *Я тады як ша́мну у яму, дак чуць вулезла.* Ручаёўка. 2. *перан.* Пайсці хутка. *Я устала да як ша́мнула додóму, прышла — ужэ валы гналі пасці.* Ручаёўка.

ШАМЯШЧЫ'НА *ж.* Перхаць. *У галаве шамешчы́на е, ета калі кожа бунтуецца.* Ручаёўка.

ШАНУ'ЦЬ *зак.* Кінуцца, пайсці. Іду па пуці, дак *можа мене у другое места шанé — на луг, там, де трава.* Дзяражычы.

ША'НЬКА *ж.* Сумка, торба. *Шанька, лісёнка, кайстра, сумка, торба — п'яць наіменаванняў аднаму.* Дзяражычы. *Кніжкі мы у ша́ньках насілі.* Бывалькі. *Памянш.* ша́нечка. *Ты узела ша́нечку?* Дзяражычы. *Шанька — бальшая кайстра, ша́нечка — маленькая сумачка.* Мохаў.

ШАПАЦЕ'ЦЬ *незак.* Шамацець. *Як дерава трухлявае шапаціць, так і ена.* Дзяражычы.

ШАПАЦЁЛКА *ж. перан.* Нядужы, слабы чалавек. *Ходóра ужэ шапацёлка, трухлявая.* Дзяражычы.

ШАПЯЛЯ'ТЫ *прым.* Шапялявы. *От шэпеля́тая Прося стала, говóрыць — нічога не разберэш: зубы павыпадалі.* Бывалькі. *Шэпеля́тая стала ты.* Дзяражычы.

ШАПЯТА'ЦЬ [1] *незак. перан.* Цяміць, кеміць, разу-

мецъ. *У голóваццы не так шапéча, як шапéтала: пазабувалася усё.* Бывалькі.

ШАПЯТА'ЦЬ[2] *незак.* 1. Шаптаць, ціха гаварыць. *Голóвачка не так доносе: што б не шапетáў ле цебе ніхто.* Бывалькі. 2. Шамацець, шалясцець. *Чую: штось шапéча і шапéча у сене.* Ручаёўка.

ШАР *м.* Старана вуліцы, бок вуліцы. *Не, не па етаму шарý жыву, де Вулляна: Вулляна па леваму шарý, а я па праваму.* Дзяражычы. *На том шарý шыхверам крытая хата.* Ручаёўка.

ШАРАШЫ'ЦЬ *незак. перан.* Біць. *А немцы вокна шарашы́лі мне ноччу, думалі, парцізаны у мене.* Бывалькі.

ШАРДЭ'КАЦЬ *незак.* Гаварыць неразборліва, невыразна. *Бацьку мойгó паралізавалá, дак не гаварыў, а шэрдэ́каў.* Дзяражычы.

ШАРО'ЙКІ *мн.* Абдзіркі з проса. *Падсып свінням шарóек.* Пярэдзелка.

ШАРСЦЯ'НЫ *прым.* Шарсцяны́. *Шэрсця́ные платкі прывезлі у магазін.* Дзяражычы. *Шэрсця́ные ніткі называюцца у нас ешчэ і суконные.* Карпаўка.

ША'РФІК *м.* Шалік. *Ужэ нема моды шáрфікі насіць.* Бывалькі. *Мы калісь везалі усякіе шáрхвікі.* Ручаёўка.

ШАРЫ'ГАЦЬ *незак. груб.* Лаяць. *А ён прыде п'яны, дай пачне на усіх шары́гаць, такіе мацюкі пускае, хоць вушы заткні.* Ручаёўка.

ША'РЫЦЬ *незак.* Шукаць (старанна). *Шáрыў ён шáрыў — і нічога не знайшоў.* Пярэдзелка.

ШАСТУ'ШАЧКА *ж.* Шостая частка надзела. *У мене була шастýшачка на двох. У Дзеражычах булі наделы трацінные, чэцверцінные, шастýшачкі і двінаццатая частка.* Дзяражычы.

ШАСЦЯРЫ'К *м.* Шасцёрка коней. *Экіпажы булі, шэсцерыкі цеперакі — на калёсах.* Дзяражычы.

ШАТКО'ЎКА *ж.* Шаткоўня. *У нас да вайны і шаттóўка была, і самавар, і бойка.* Дзяражычы.

ШАТЫ'РЫЦЬ *незак.* Шараваць. *Паша песку прынесла дай шаты́рыць пол.* Дзяражычы.

ШАЎКАВІ'ЦА *ж.* Шаўкоўніца. *Парвалі деці усю шаўкавіцу.* Казярогі.

ШАЎРО' *н. іран.* Худыя каровы. *Пахудалі бедные: не каровы, а шаўрó.* Пярэдзелка.

ШАЦЁРЧЫК *м.* Парасон. *У горадї ходяць пад шацёрчыкам.* Бывалькі.

ШВА'НКА: *шванку атпаліць (упароць, нарабіць).* Зрабіць шкоду. *Онь уночы пойдуць, квортку маю суседу занесуць, а мне другую прыцягнуць — отэта шванку атпаліў. Дрова дядька прыўёз, дак хлопцы за ноч к цёццы панасілі — упоролі шванку.* Дзяражычы.

ШВАРАВА'ЦЬ *незак.* Шпацыраваць. *У мене тут чыста, а деці шварўюць туды-сюды, толькі гразі наносяць.* Бывалькі.

ШВА'Я *ж.* Шэсць сажаняў дроў. *Загатаўляем некалькі швай дроў.* Ручаёўка.

ШВЕ'ЙКА *ж.* Швачка. *Покойная цёця швейка була, і машына була у ее.* Пярэдзелка.

ШВЕ'ЙНЯ *ж.* Швейная майстэрня. *Ена у швейні роботала.* Дзяражычы.

ШВЕ'НДАЦЬ *незак.* Бадзяцца, сноўдацца. *Чого вы швенадаеце сюды-туды?* Карпаўка. *Як настане день, дак швендають і швендають.* Чаплін.

ШВО'РКА *ж.* Вяроўка, аборка. *Дай бо ты мне шворку екую.* Дзяражычы. *Памянш.* шворачка. *Он шворачка вісіць на гвоздіку, вазьмі да заўяжы.* Дзяражычы.

ШКАДЛІ'ВЫ *прым.* Зладзеяваты. *Ён жа такі шкадлівы чалавек: хоць скепку, а украде.* Дзяражычы.

ШКАРЛУ'ПКА *ж.* Шкарлупіна яйца. *Шкарлупкі курам аддаем, каб еечкі булі крэпкіе.* Ручаёўка. *Куры перасталі есці шкарлупкі.* Чаплін.

ШКВА'РКІ *мн.* Скваркі. *Трэба було шкварак нажарыць з камамі.* Ручаёўка.

ШКЛЮД *м.* Шырокая сякера для часання бярвенняў. *Шклюдам абрабатуем дрэва на экспарт. Сякерай цешам к сабе, а шклюдам ад себе, ён прыспасоблены толькі для етага.* Ручаёўка.

ШКЛЯ'НКА *ж.* Кавалак шкла. *Пеця ногу парэзаў аб шклянку.* Ручаёўка.

ШКО'ДА [1] *ж.* Шкода. *Такую ты мне шкоду зделаў.* Бывалькі. *Тут жа шкоды нема: ну аўса ці ешчэ чого, а калі б була шкода, дак коровы ішлі б туды.* Дзяражычы.

ШКО'ДА [2] *прысл.* Шкада. *Як ена паганая да негілюзная, дак шкода хлопца.* Дзяражычы. *Мне було шкода, калі ён памёр.* Пярэдзелка. *З ей нічога не буде, да децей малых шкода.* Ручаёўка.

ШКРАБЯТА'ЦЬ *незак.* Шкрабаць. *Мене за руку шкрабéча кошачка, дак я гавару аух.* Дзяражычы.

ШКУ'РА: *у шкýры не мéсціцца.* Вельмі злавацца. *Жарын прыехаў на адін час і у шкýры не мéсціцца, кідаецца.* Дзяражычы.

ШКУРА'ЦІКІ *мн.* Самаробны абутак. *Булі шкурáцікі послі вайны: зверху кожа, а там дераўяные.* Ручаёўка.

ШЛЁГНУЦЬ *зак.* Выцяць, ударыць. *І шлёгнуў молóга пугай па спіне.* Пярэдзелка. *У ваде шлёг па каню, дак ена плыг у ваду да плёсь* (З нар. казкі). Вулкан. *Пугу возьмеш і шлёгнеш.* Чаплін.

ШЛУ'ННЕ: *шлýнне пераéсці.* Вельмі надакучыць. *Такі мучыцель! Ета ж трэба так шлýнне пераéсці.* Чаплін. *Выцягне ён мне усё шлýнне.* Пярэдзелка.

ШЛЫГ *м.* Вяроўка, якой ловяць коней. *А я каню шлыг на шыю, ён і стаў.* Ручаёўка.

ШМАРАВА'ЦЬ *незак.* Церці. *Не шмарýй ты нагамі, багата песку прынёс.* Пярэдзелка.

ШМАРГАНУ'ЦЬ *зак. перан.* Ударыць. *Так шмарганýў, што палецеў.* Пярэдзелка.

ШМО'РКАЦЬ *незак.* Шморгаць (носам). *Шмóркае носам. Як стаў шмóркаць, дак сабака забрахаў.* Рудня Марымонава.

ШМЫ'КАЦЬ *незак.* Шмыгаць, часта хадзіць туды-сюды. *І што за деці: шмы́каюць і шмы́каюць то у хату, то с хаты.* Пярэдзелка.

ШНУР *м.* 1. Шнур. *Нацегні шнур, я ужэ буду вешаць плацце.* Вулкан. *Адін берэ шнур з аднаго боку, другі — з другога, галавешкай адбіваеш, палучаецца лінія, і па ёй правільна абцешаш.* Ручаёўка. 2. Кручковая рыбалоўная прылада. *Шнуры́ закідаем, у мене іх п'яць штук.* Пярэдзелка. *Шнур — перам'ёт на рацэ.* Чаплін. 3. Аздоба, упрыгожванне. *Калісь світкі шылі з шнурáмі.* Дзяражычы. *Пашыла спадніцу з шнурáмі.* Пярэдзелка. △ *На шнуры́.* Пэўны вышываны ўзор. *На шнуры́ ткуць посцілкі і скацеркі, толькі ужэ на чатыры панажы.* Цясны.

ШНУРАВА'ННЕ *н.* Аздоба, упрыгожванне (адзення). *Партны прыходіць, шые світу, а шнуравáння німа — не буду і сукно гадіць.* Ручаёўка.

ШНУРО'ЎКА *ж.* 1. Ніжняя вопратка без рукавоў, якую жанчыны насілі паверх кашулі. *Па-вашаму ліхвік,*

*а па-нашаму — шнуро́ўка, шнуро́вачка.* Дзяражычы. *Памянш.* шнуро́вачка. *Я старая, а шнуро́вачку нашу, бо ена цёплая, о-о бачыце, у мене под кохтай ена.* Дзяражычы. 2. Верхняя вопратка без рукавоў, да пояса, якую жанчыны носяць паверх кашулі. *Спадніца із шнуро́ўкаю.* Ручаёўка.

ШО [1] *займ.* 1. Што. *Я ужэ сама плачу, гавару: госпаді, за шо вы мене мучаце.* Бывалькі. 2. Хіба, няўжо. *Шо ее воўк не паймае.* Казярогі.

ШО [2] *злучн.* Што. *Вы не знаеце, шо міне некалі.* Вулкан. *Начай непраўда, шо я свая.* Дзяражычы.

ШОБ *злучн.* 1. Каб. *Трэба, шоб матка прышла.* Казярогі. *Не відно, шоб чэраз чы́сленку елі.* Ручаёўка. 2. *часц.* Каб. *Шоб на іх панападала мая балезня!* Дзяражычы. *Шоб цебе перан асмаліў!* Ручаёўка.

ШО'ПА *ж.* 1. Павець, памяшканне без сцен для гаспадарчых рэчаў. *Цэлую зіму поло́ва лежала пад шо́паю.* Вулкан. *У колхо́зі снапы ставяць у кучкі і возяць у шо́пы.* Первамайск. *Там буде і карасіна ле шо́пу.* Ручаёўка. 2. Паветка над склепам, стогам і інш. *Шо́па — кото́ра без сцен, а толькі крыша — ета шо́па. Навес — без сцен на сто мераў, а шо́па — маленькая над пограбам і над стогам — чатыры жэрткі — от і шо́па — крыша без сцен.* Дзяражычы. *Памянш.* шо́пка. *Яму вукапалі, наверх шо́пку паставілі.* Дзяражычы.

ШОСЬ *займ.* Штосьці. *Хведот шось давай гаманіць.* Дзяражычы.

ШПАР *м.* Паз, шчыліна. *Прабраць шпар — калі ложыцца хата, то выдаўбліваецца равок, канаўка, куды пасля кладуць мох.* Пярэдзелка. *Калісь шпары́ не шпоро́ваные, мох вісіць рукавом.* Ручаёўка. *Шпары́ нада мохам забіваць.* Чаплін. △ *Шпары́ шпарава́ць.* Затыкаць пазы мохам. *Заўтра з сынам будам шпары́ шпарава́ць.* Ручаёўка.

ШПА'РАК *м.* Гліна паміж дошкамі. *Шпа́рак атпаў, трэба замазаць.* Мохаў.

ШПАРХАНУ'ЦЬ *зак.* Парнуць. *Шпархане́ да мучся лежачы, бо ён жа можа не заколіць зразу.* Бывалькі.

ШПА'РЫЦЬ *незак.* Шпарка ісці, спяшацца. *І так шпа́рыў да Лоева, што стаў пад пенай.* Пярэдзелка.

ШПЕ'ТНЫ *прым.* Акуратны. *Такі ужэ носік шпе́тны.* Дзяражычы.

ШПО'НКА [1] *ж.* Гузік з нітак. *Две пра́разкі і у еты*

*прáразкі саджалі шпóнку, зашпульвалі сорóчкі у кайнерах з зеркальцам.* Пярэдзелка. *Памянш.* шпóначка. *Во бачыце екіе шпóначкі у сорóчцы, я сама делала.* Чаплін.

ШПО'НКА[2] *ж.* Драўляны шып, якім замацоўваюцца дошкі. *Во ены, етые шпóнкі лежаць у мене у яшчыку, скора мост будам перасцілаць.* Пярэдзелка. *Дошкі у дверах замацоўваюцца шпóнкамі.* Чаплін.

ШРА'МАР *м.* Шрам. *Я мужа не узнала, усё ліцо у шрамарáх, я сына не узнала, уся грудь у арденах* (З нар. песні). Дзяражычы.

ШТАНЫ' *мн.* 1. Нагавіцы. *Прося, надевай штаны хоць Есіпавы, клопат, шчо з сеслам.* Дзяражычы. *Памянш.* штóнікі. *Давай штóнікі купім хлопцам.* Чаплін. △ *У штóніках.* Неачышчаная (бульба). *Нада наварыць кортóпляў у штóніках.* Пярэдзелка. 2. *перан.* Дзве градкі клінам, якія сходзяцца ў адну. *У штанóх пасеялі трохі кортóпель.* Пярэдзелка.

ШТОВЕ'ЧАРА *прысл.* Кожны вечар. *Алёшачка к Надi штовéчара ходіць.* Чаплін.

ШТОЗРА' *займ.* Абы-што. *Ік такой папалася бабі, говóрыць штозрá.* Ручаёўка.

ШТО'СЬКІ *займ.* Штосьці. *Матка штóські прынесла з Лоева.* Дзяражычы.

ШТУПО'ВАНЫ *прым.* Падшываны. *Дайце мне штупóваную світу.* Крупейкі.

ШТУПО'ЎКА[1] *ж.* Цыраванне. *Штупóўка — две ніткі бером, луччай буде насіцца: чулкі парвуцца, а штупóўка астаецца.* Пярэдзелка.

ШТУПО'ЎКА[2] *ж.* Падшываная целагрэйка. *Адень штупóўку, а то холадна на вуліцы.* Крупейкі.

ШУГАВА'ТЫ *прым.* Дурнаваты, неразумны. *От, дурак екісь шугавáты, ены екіесь нача не усе дома, ены па бацьку пашлі.* Бывалькі. *То ена такая дурная, шугавáтая.* Дзяражычы.

ШУГАВЕ'Й *м.* Лёгкадумны чалавек. *Старшая у іх дейка вопытная, а менчая — шугавéй.* Дзяражычы.

ШУГА'ЙЛА *м.* Лёгкадумны чалавек. *Той Васіль, як шугáйла, его толькі слухай.* Дзяражычы. *Ена самастаяцельная, а ён шугáйла.* Бывалькі.

ШУГАНУ'ЦЬ *зак.* Узмахнуць. *Як шуганé венікам па каліўніку.* Бывалькі.

ШУЛЯ'К *м.* Мяккі качан капусты. *Мяккі качан — то шуляк.* Ручаёўка. *Шулекі параслі, хіба то качанне.* Цяс-

ны. *Памянш.* шулячо́к. *Вазьмі там шулечка́ на боршч.* Дзяражычы.

ШУЛЯ'ЧЧА *н. зб.* Мяккія качаны капусты. *Адно шуля́чча на городі, што мы будам ставіць на зіму.* Ручаёўка.

ШУМ *м.* 1. Шум. *Такога шу́му, такога гармідару наделалі у хаці.* Вулкан. 2. *перан.* Вайна, зруйнаванне, спусташэнне. *Так добра сталі жыць, нехай ба так жылі, як цепер, нашы деці і унукі, так усе баімся, шоб шу́му не було.* Ручаёўка.

ШУ'МА *ж.* 1. Пацёртая салома. *Кінь кабану шу́мы.* Барэц. 2. Смецце, якое застаецца пасля раставання снегу. *Шу́мы багата пад вокно́м, трэба згрэбці.* Пярэдзелка.

ШУМАВА'ТЫ *прым.* Шумны. *Шофір адін шумаваты, толькі і чутна его.* Дзяражычы.

ШУ'ПІЦЬ *незак.* Разумець, цяміць. *Не шу́піць нічога мой хлопчык.* Бывалькі. *Ты шу́піш што-небудь у етым кіно?* Пярэдзелка.

ШУПЛА'ЦЦЕ *н.* Рыззе. *Он параскідалі трапкі, саберы ета шупла́цце і памый.* Пярэдзелка.

ШУПШЫ'НА *ж.* Шыпшына. *З шупшы́ны, як хто умее, дак варэнне добрае варыць.* Пярэдзелка. *Шупшы́на пахожа на розу, такая ж, толькі маленькая.* Дзяражычы.

ШУ'РКА *ж.* Мера дроў (адзін кубаметр). *Шу́ркі, дак ета дрова у лесі, іх секуць і складаюць у кучу. Як адін кубаметр, дак адна шу́рка.* Ручаёўка.

ШУ'СТРЫ *прым.* Жвавы, спрытны. *Маладец, ён такі шу́стры чалавек: дома бегае, усе делае — ото як венікам.* Дзяражычы.

ШУТКАВА'ЦЬ *незак.* Жартаваць. *Я так шутку́ю толькі.* Первамайск. *Весёлы чалавек мой стары, як саберуцца у нас увечары і маладые і старые, дак ён так любіць шуткава́ць.* Пярэдзелка.

ШУТКО'ВЫ *прым.* Жартаўлівы. *Ён ужэ стары, а такі шутко́вы, весёлы.* Первамайск.

ШУФЛЯ'ДЗІК *м.* Футляр. *Я думала, шо ета шухля́дік, шо ачкі укладаюць.* Дзяражычы.

ШУ'ХЛЯ *ж.* Лапата, шуфель. *Шу́хля — бальшая лапата, кідаюць ею песок і усе токо́е.* Дзяражычы. *Мужык усе перабіў, паналіваў у хаці, а тады воду шу́хлею павыліваў на двор.* Ручаёўка.

ШУЦЕ'ЙНА *прысл.* Жартаўліва. *Ён шуце́йна прыняў-*

*ся да і жыве дзесяць годоў.* Дзяражычы. *Калісь брат пошоў у школу і мене з ім шуцёйна атправілі, бо было тлькі шэсць годоў, а я вучыўся добра, дак мене і аставілі у школі.* Ручаёўка.

ШЧАБО'ЎКНУЦЬ *зак. перан.* Абазвацца, парушыць маўчанне. *Ніде нішто не гомоніць, не шчобоўкне—ціхенька усюды.* Дзяражычы. *Ніхто тут не шчобоўкне — ніде нікога немашакі.* Первамайск.

ШЧАВА' *ж.* Шчаўе. *Кіслы, як шчавá.* Карпаўка. *Шчавы нарвалі, заўтры боршч зварым.* Первамайск.

ШЧАВО'К *м.* Пстрычка. *Як дасць шчаўкá, дак гуз ускочыць на лабу.* Бывалькі. *Вот я толькі два шчаўкі даў, дак ена мене так баялась.* Дзяражычы.

ШЧАДРАВА'ЦЬ *незак.* Хадзіць перад Новым годам па хатах з песнямі, віншаваць з Новым годам. *Хадзілі, хадзілі, шчадравáлі, песні пелі — маладые булі.* Ручаёўка. *Раньша у кожную хату хадзілі шчадравáць, а цепер — хто любіць.* Цясны.

ШЧАДРО'ЎЛІ *мн.* Шчодры вечар, шчадрэц. *Шчадрухі прыдуць пад акно на шчадрóўлі і пеюць.* Ручаёўка.

ШЧАДРО'ЎСКІ: *шчадрóўскіе пéсні.* Песні, якія выконваліся на Новы год і перад Новым годам. *Калісь етых шчадрóўськіх пéсняў багата пелі, да і цепер шчадроўськіе пеюць.* Ручаёўка.

ШЧАДРУ'ХА *ж.* Жанчына, якая шчадруе. *Шчадрýхі ходяць шчадраваць, а тады гуляюць у кого-небудь.* Чаплін.

ШЧАКЕ'Т *м.* Агароджа з колляў, дошак. *Коляць колікі папалам, забіваюць у землю — от і шчакéт.* Казярогі. *Хатка старая, да і шчакéт ужэ паваліўся.* Крупейкі.

ШЧАКЕ'ЦІНА *ж.* Дошка ў плоце. *Атарваў шчакéціну і усе яблакі абарваў.* Ручаёўка.

ШЧАКЯТА'ЦЬ [1] *незак.* Шчабятаць. *Калі шчакéчуць деці, як верабеняточкі.* Ручаёўка.

ШЧАКЯТА'ЦЬ [2] *незак. перан.* Трашчаць (пра страляніну з аўтамата, кулямёта). *Самалёт леціць да шчакеча, а ены пахаваліся.* Вулкан. *Кожную ноч немцы шчакетáлі, так ужэ страшка було.* Крупейкі.

ШЧАНЁНАК *м.* Шчаня. *Як ашчанілася сучка, п'яць шчанёнкаў було.* Чаплін.

ШЧАНЬ *ж.* Бочка. *На зіму ставім две шчáні капусты і гуркоў.* Ручаёўка. *Муку калісь у шчáні хавалі, а цепер колькі трэба, купляем у магазіне.* Цясны.

ШЧАПО'К *м.* Кручок. *Зашчапі на шчапо́к дверы.* Ручаёўка. *Прышоў да пацегнуў за дверы, дак шчапо́к і вырваўся.* Пярэдзелка.

ШЧАРБІ'НА *ж.* 1. Шчарбіна. *Такая маладая, а пабач, сколькі шчэрбін у році.* Бывалькі. 2. *перан.* Няшчасце, урон. *Запалі, мамка, свечку да пагледі ды па запечку, ці велікая шчэрбіна — нема ў хаці семяніна* (З нар. песні). Вулкан.

ШЧА'РЫЦЬ *незак.* Шчэрыць. *Чого́ ты зубы шча́рыш?* Вулкан.

ШЧАСЛІ'ВЕНЬКА *прысл.* Шчасліва. *Шчаслівенька, мо па доро́зі куды паедіш.* Дзяражычы.

ШЧА'ЎЛЕВЫ *прым.* Із шчаўя. *Я шча́ўлева баршчу захацела, пашла нарвала шчаўлю да зварыла.* Ручаёўка.

ШЧО [1] *злучн.* Што. *Ета рэдка такі род е, шчо друг друга не пакідаюць.* Дзяражычы.

ШЧО [2] *займ.* Што. *У Любечы навалам, не то шчо, дак разнай вобуві.* Дзяражычы. *Так баліць, нача шчо паразбіванае.* Цясны. *Деражні кажуць шчо, а баршчоўцы — што.* Бывалькі. *Шчо у вас е? Шчо вам даць?* Ручаёўка.

ШЧОБ *злучн.* 1. Каб. *Я кажу табе, шчоб ты сегодні була тут.* Вулкан. *У его нема радімага цела, шчоб не було пулі.* Дзяражычы. 2. *часц.* Каб. *Шчоб табе зарвала да замуравала!* Дзяражычы. *Шчоб ты мне чэраз два часы прынесла шаткоўку.* Ручаёўка.

ШЧО-ЛІ'БА *прысл.* Што-небудзь. *Ты ж хочаш, шчоб ена шчо-ліба прывезла.* Ручаёўка.

ШЧО'ТАЧКА *ж.* Махры унізе плаццяя, спадніцы. *Ена спадніцу з шчо́тачкамі як надене каліcь, дак усе хлопцы загледаліся.* Пярэдзелка. *Плацце красівае, шчо́тачка унізу.* Ручаёўка.

ШЧО'ТАЧКІ *мн.* Часткі на задніх лапках пчалы. *На шчо́тачках пчолы вашчыну носяць.* Чаплін.

ШЧО'ТКА [1] *ж.* 1. Шчотка. *Куды я учора шчо́тку палажыла, нечым зубы пачысціць.* Вулкан. *Шчо́ткай адежнай абатрэш касцюм ці плацце.* Чаплін. // Прылада для апрацоўкі льну пасля трапання. *Вот бачыш шчо́тка етая, ёй мы вычэсуем лён. Каліcь ена у кожнай хаці була.* Ручаёўка. 2. Пендзаль. *Шчо́тка бувае з травы, з рого́жы.* Вулкан. *Цёця Прося гліны узела і шчо́тку беліць.* Дзяражычы.

ШЧО'ТКА [2] *ж.* Дошкі, якія прыбіваюцца ўпоперак да

лат, калі дах крыецца чарапіцай, шыферам ці гонтай. *Не хватае дошак на шчо́тку, трэба купляць зноў.* Пярэдзелка.

ШЧУ'ПАЦЦА *незак.* Церабіцца (пра курэй). *Куры шчу́паліся.* Бывалькі. *Так ужэ шчу́паюцца куры, наверна, буде дошч.* Вулкан.

ШЧУ'ЦЦА *зак.* Пачуцца. *Глухому не шчу́ецца, дак здасца.* Дзяражычы.

ШЧЫКА'ЦЦА *незак.* Шчыпацца. *Не шчыка́йся, бо мацці скажу.* Первамайск. *Урэдная малой була, як стане шчыка́цца, дак усе дзеці плакалі.* Рудня Марымонава.

ШЧЫКЕ'Т *м.* Агароджа з колляў, дошак. *Трэба шчыке́там загарадзіць.* Дзяражычы. *Унь у суседа шчыке́т.* Ручаёўка.

ШЧЫ'РЫ *прым.* Працавіты. *Ета хазяйка шчы́рая: усе робіць.* Дзяражычы. *У ее чалавек буў такі шчы́ры: хату паставіў, хлевы паделаў — ні мінуты не паседзіць.* Ручаёўка.

ШЧЫРЭ'Ц *м.* Буйны пясок. *Ета нада песок — шчырэ́ц.* Дзяражычы.

ШЧЫТ *м.* 1. Верхавіна дрэва. *Думаю, як я тые вішні паберу на том шчыту́.* Дзяражычы. *Ізнізу не збірай, а на шчыт узлезь: на шчыту́ ігрушы е.* Ручаёўка. *Воро́на села ле самага шчыта́.* Чаплін. 2. Грэбень крышы, хлява. *На верх хлева, на крышу хаты кажуць шчыт.* Дзяражычы. *Ета ж залез на самы шчыт хаты.* Крупейкі.

ШЧЭ *прысл.* Яшчэ. *Бацька шчэ памаленьку дыбае.* Дзяражычы.

ШЧЭ'ЛЕПІ *мн.* Сківіцы. *Пошо́ў ірваць зуб, а такая невопытная доктарка, дак шчэ́лепі сам держаў.* Первамайск. *Плёх у шчэ́лепі.* Пярэдзелка.

ШЫ'БЕЛЬНЫ *прым.* Вельмі свавольны, гарэзлівы, нестрыманы. *Пры бабі зрабіла б ета, дак пахадзіў бы вілашнік. Хіба ена была такая шы́бельная!* Пярэдзелка.

ШЫ'БЕННА *прысл.* Хутка, неасцярожна. *Усякіе шохвіры е, екіе едуць так шы́бенна, што аж страшка па вуліцы іці.* Ручаёўка.

ШЫ'БЕНЬ *м.* Палка. *Шы́бнем ці чым ударыць, дак плача.* Ручаёўка.

ШЫ'БКА [1] *ж.* Шкло ў акне. *Шы́бкі у акне загразніліся, памыць нада.* Чаплін.

ШЫ'БКА [2] *прысл.* Хутка, шпарка. *Шы́бка бегае, ніхто не дого́ніць.* Казярогі.

ШЫ'ВАРАТ *м.* 1. Патыліца, карак. *На шываране пасела скулле.* Ручаёўка. 2. Каўнер. *Вот як вазьму за шыварат, дак будеш знаць.* Чаплін.

ШЫВО'К *м.* Шво. *Ой, екі паганы палучыўся шывóк.* Мохаў.

ШЫГІРА'ВЫ *прым.* Картавы, шапялявы. *Ужэ як шыгірáвая да картавая, дак начорта тая жонка.* Дзяражычы. *Шыгірáвая, абу ему панаравілась, а ена шыгірáвая.* Ручаёўка.

ШЫГІРА'ЦЬ *незак.* Картавіць, шапялявіць. *От ужэ вубраў, дак вубраў: ена шыгірáе, шыгірáвую вубраў.* Дзяражычы. *На від хлопец нічога, а пагаманіць, дак шыгірáе, нічым нічога не разабраць.* Ручаёўка.

ШЫ'ЙКА *ж.* Месца на печы паміж комінам і сцяной. *Малая упала з шыйкі — о де тая печ, с тогó урэм'я ёй стала плоха.* Дзяражычы. *Я павыймала гладышкі у шыйку.* Крупейкі.

ШЫ'ЛЕГ *м.* Лаза. *Шылег ле ракі расце.* Бывалькі. *Шылег такі добры: о-о такой таўшчыны. У шылег захаваецца ат маткі і вушывае там ручнік.* Дзяражычы. *Іде целятніца, а ён бежыць па шылегу.* Крупейкі. // Чырвоная лаза. *Шылег — красная лаза.* Дзяражычы. *У нас красны шылег у зарожку расце.* Крупейкі.

ШЫ'ЛЛЕ *н.* Хваёвыя шыпулькі, іголкі. *Я прышла і як на шыллі седжу: скарэй трэба бегці коровy даіць да целятка паіць.* Ручаёўка.

ШЫПУ'ШКА *ж.* Кончык пальца. *Атморóзіў мой Іванька шыпýшкі.* Пярэдзелка. *Не лезь, шыпýшку прышчэміш.* Ручаёўка.

ШЫ'ФЕРЫНА *ж.* Ліст шыферу. *Шыферынай накрыла, бо куры туды ходяць.* Ручаёўка. *П'яць шыферын прынесла ад Толі.* Чаплін.

ШЫ'ЦЕЛЬНЫ *прым.* Прызначаны для шыцця (пра ніткі). *Е ніткі партные, шэрсцяные — ета шыцельные ніткі.* Дзяражычы.

ШЫ'ЦІК *м.* Маленькі чарвячок (водзіцца ў рэчцы), які будуе вакол сябе домік-трубачку. *Шыцікі такіе вот як чарвекі доўгенькіе, ены домікі трубачкамі делаюць.* Ручаёўка.

ШЫ'ЦЦА *незак.* 1. Шыцца. *А калі мне плацце буде шыцца? Беры сама шый.* Чаплін. 2. *перан.* Лезці, падлазіць. *Чогó ты шыесся сюды, затопчуць цебе.* Вулкан. *Шыецца пад міне, так ей холадна.* Дзяражычы.

ШЫ'ШАЛІЦЬ *незак.* Хрустаць. *Матка седіць на печы да усё шышаліць дай шышаліць, коржыкі там у ее е.* Дзяражычы.

ШЭЛЕХТ *м.* Сварка, бойка. *Як дасць бацька шэлехту, дак сын становіцца шоўкóвы.* Дзяражычы. *От дае шэлехту — у кіяшніку жонка начуе.* Ручаёўка.

# Э

ЭГЕ' *выкл.* Так (ага).— *Мая хата асталася сестрэ маей.— Бабі Насці? — Эгé.* Дзяражычы. *Заўтрі пойдам у ягады? — Эгé, пойдам.* Мохаў.

# Ю

ЮК-ЮК-ЮК *выкл.* Грук-грук. *А свіння у хлеве толькі юк-юк-юк.* Барэц.

Ю'КА *ж.* Пакунак. *Вуцеглі у бабы ю́ку на базары.* Барэц. *У ю́ку скруціла усе свае добрó і паехала.* Пярэдзелка.

Ю'ПКА *ж.* 1. Спадніца. *Кажуць спадніца, ю́пка — усяк говóрацъ. У мене щчэ і сейчас ю́пка шарсцяная з двума бархаткамі.* Дзяражычы. *Набрала шэрсці у клетку, пашыла ю́пку, у той ю́пцы венчалася.* Крупейкі. 2. Світка. *Світы насілі доўгіе белые суконные — называлісь ю́пкі. Рукава і усе называлася ю́пка.* Дзяражычы. *Казачына — кажух с авечак, тут ззаду зобóры; казачына, як ото ю́пкі калісь бабы насілі.* Ручаёўка.

ЮХА' *м.* Уха. *Наварылі юхі, наелісь, пазалегалі, а міліцыя ехала — за брэдень і паехалі.* Дзяражычы. *У нас рыбу бацька скрозь ловіць, дак я і нажару і юхі зделаю.* Ручаёўка.

Ю'ХТА *ж.* Юхт, скура з ялавіны. *Купіла чобаты, добрые з ю́хты, не прапускáюць воду.* Бывалькі. // Худы, знясілены чалавек. *Да зделаў тую дейку на ю́хту, жоўценечкая була, а цепер хорóшая, паправілась.* Дзяражычы.

Ю'ШКА [1] *ж.* Юшка — кружок, якім зачыняюць комін. *Ты ю́шку зачыніла?* Бывалькі. *Рана зачыніла ю́шку, дак пачаделі.* Казярогі.

Ю'ШКА [2] *ж.* Юшка ў страве. *Ю'шку з баршча вуллі свінням у чыгун.* Крупейкі. *Усё еж, а то гушчу вуцег, а ю́шку не хоча есці.* Ручаёўка.

# Я

Я′БЛАШНІК *м.* Кісель з яблак. *У нас із мукою ці з крухмалам яблакі вараць — я́блашнік.* Пярэдзелка.

Я′ВАР [1] *м.* Явар. *Сеў на яво́ры, сам сабе гаво́ры.* Бывалькі. *Дед жывы быў да пасадіў явар, а ета не явар, а в'яз.* Дзяражычы. *Памянш.* я́варка. *Свото́чык мой, яварка, несі Ходо́ры.* Дзяражычы.

Я′ВАР [2] *м.* Аер. *Прынеслі деці я́вару, дак так пахне у хаці.* Казярогі.

ЯВАРЫ′НА *ж.* Явар. *У полі явары́на стаяла* (З нар. песні). Дзяражычы.

ЯВО′НЫ *займ.* Яго. *Свекроўка — ево́ная маці — паехала у госці.* Бывалькі.

Я′ГАДЗІНА *ж.* Ягада. *І грыбы далека і за я́гадінай далека іці.* Первамайск. *За я́гадінаю ходім у боло́та, па журавіны.* Карпаўка.

Я′ГАДКІ *мн.* Ружовыя месцы на твары. *Во натанцавалась, бач, як я́гадкі гараць.* Ручаёўка.

ЯГО′НЫ *займ.* Яго. *З его́най маткай жыве.* Дзяражычы.

Я′ГРУС *м.* Агрэст. *Я'грусу багата е сеголета.* Вулкан. *Я'грус е у мае дачкі, а у нас нема.* Ручаёўка. *Я'грус пасаділа на горо́ді.* Чаплін.

ЯДА′ЛКА *ж.* Лыжка. *Вазьмі чыстую еда́лку.* Мохаў. *Саберы са стала еда́лкі.* Пярэдзелка.

Я′ДРАНЫ [1] *прым.* Ядраны. *Ено ужэ вечары я́драные сталі.* Дзяражычы.

Я′ДРАНЫ [2] *прым.* Вялікі. *Паделаліся, як вышні — такіе я́драные.* Карпаўка.

ЯЖЫ′ХА *ж.* Самка вожыка. *Раз бачу: ежы́ха з ежанятамі чэраз доро́гу бегла.* Чаплін.

ЯЗ *м.* 1. Запруда на рэчцы для лоўлі рыбы. *Езы́ паставіў.* Первамайск. 2. Прорубка, пелька, куды запускаецца нерат. *Делаем езы́ зімою, а тады туды запускаем сетку.* Первамайск.

ЯЗГЛІ′ВЫ *прым.* Балбатлівы. *У нас езглівых не любяць.* Пярэдзелка.

ЯЗЫ′К [1] *м.* Язык. *Не паказуй езы́к: некрасіва ета.* Вулкан. *Ну і езы́к жа у его, як мельніца робо́тае.* Чаплін.

ЯЗЫ′К [2] *м.* Мова. *Наш єзы́к — мешань, ета важчэй-*

*шы, кажуць, езык.* Дзяражычы. *Не, на наш езык наверное, хоча па-гарадскому гаварыць.* Казярогі. // *перан.* Характар. *Наверна, езык такі, шо са ўсімі агрызнулася, дак ніхто не хоча даваць.* Чаплін. △ *Язык прыламаць.* Навучыцца гаварыць па-гарадскому. *Як бы жыў ле горада да езык прыламаў, дак і гаварыў бы, як у горадзі.* Дзяражычы.

ЯЗЫКА'ТЫ *прым.* Балбатлівы, шкодны. *Такі стары, ужэ семдесят чатыры гады, а шчэ са усімі аб'едаецца, такі езыкаты, усе ему трэба.* Ручаёўка.

ЯЗЫКА'Ч *м.* Языкаты чалавек. *Пагана быць езыкачом, ніхто такога не любіць.* Ручаёўка.

ЯЗЫ'ЧНІЦА *ж.* Гаваруха *Ена такая езычніца, шчо на ее кажуць найда: у брыгадзі ніхто так не раскажа, як ена.* Дзяражычы.

Я'КАСЬ *прысл.* Неяк. *Я'кась слаба вучыўся.* Ручаёўка. *Прышла якась к ей, а ена падняцца не можа.* Чаплін.

ЯКАТА'ЦЬ *незак.* Плакаць ад болю, крычаць. *Як жа ена бедная екатала, пака скабку вунялі.* Дзяражычы.

ЯК-ДА-НІБУ'ДЗЬ *прысл.* Як-небудзь. *Летам як-да-нібудь трошкі прынесу.* Первамайск.

ЯК-ЖА-ЛІ'БА *прысл.* Як-небудзь. *Як-жа-ліба жыць трэба.* Ручаёўка.

ЯКІ' *займ.* 1. Які. *Трэба пабачыць, екі ён шчэ домоў прыде.* Казярогі. 2. Некаторы. *Па екіх каліўех нада паабліваць.* Дзяражычы. *Каторые кажуць хвартух, а екея — запонка.* Ручаёўка.

ЯКІ-КО'ЛЬВЕ *займ.* Які-небудзь. *Хоць бы у мене екая-кольве сестра ці дачка була.* Ручаёўка.

Я'КСЬЦІ *прысл.* Неяк. *Тады роділа яксьці, а цепер не родіць — перагарэла земля, пазасыпала песком усе.* Дзяражычы.

Я'КСЯ *прысл.* Неяк. *Ну й брыдка на дварэ якся.* Дзяражычы. *Я'кся его паслалі на заданне, а ён не вернуўся: знайшлі его убітым.* Крупейкі.

ЯЛІ'ЦЬ *незак.* Падкідваць мяч уверх (пры гульні ў лапту). *А цепер буде еліць Рубан.* Барэц. *Плоха ты еліш, дак не папаў па мечу.* Пярэдзелка.

Я'МА *ж.* Склеп. *Паграба е у некаторых, а то вукапае нору, лесінамі абкладе і ставіць дежкі — от і яма.* Казярогі. *У яму кордошку ссыпалі, на усю зіму хваціць.* Мохаў.

Я'МКА *ж.* Месца ў печы, куды заграбаюць жар, вы-

грабаюць попел. *У ямку пастаў чыгунок, там шчэ цёпла.* Первамайск. *Пагрэй рукі, унь у ямку толькі вуграбла жар.* Чаплін.

Я'МКІ *мн.* Дзіцячая гульня ў мяч. *Як растане, дак на паляні у ямкі будам гуляць.* Барэц.

ЯРАВЫ' *прым.* Пылаючы, палымнеючы. *А звенчала мене шабля войстрая, а свецілкі былі еравые свечы* (З нар. песні). Чаплін.

Я'РАЙ *м.* Аер. *Як памыеш мост, накідай яр'я.* Мохаў. *Сегодні прынеслі багата яраю.* Пярэдзелка.

Я'РМАЛАК *м.* Кірмаш. *Бацька у Брагінь паехаў на ярмалак.* Дзяражычы. *Зімой бувае ярмалак.* Первамайск. *Па ярмалкох возяць вобуль, світары.* Ручаёўка.

ЯРМО' *н.* Збруя для валоў. *Ярмо — на пару букоў.* Ручаёўка.

Я'РУС *м.* Капец (бульбы). *Я'рус насыпле, а тады соломай і землёй засыпае.* Казярогі.

Я'РУШКА *ж.* Яравое жыта, ярыца. *Я'рушкі пасеялі трохі сеголета, жыта атмякла, дак мо ярушка уродіць.* Вулкан.

ЯРЫ' *мн.* Жмуркі. *Давацце гуляць у еры: я найду і злаўлю.* Пярэдзелка. *У тые еры як набегалася, дак чуць да пасцелі даплелася.* Барэц.

Я'РЫШЧА *н.* Зжатае поле пасля ярыцы. *На ярышчы паслалі лён.* Первамайск.

ЯРЭ'МЕЦ *м.* Збруя для аднаго вала. *Ярмо — на пару букоў, а ерэмец — для адіночкі: аднаго вала ане корову запрагаюць.* Ручаёўка.

Я'СІК *м.* Малая падушка. *На етам ясіку шчэ мая дочачка спала.* Пярэдзелка.

ЯТРО'ВІЦА *ж.* Ятроўка. *Мая етровіца у Брагіне жыве.* Ручаёўка. *Етровіца кажа: пад ігрушай ключ.* Чаплін.

ЯЎЛЕ'ННЕ *н.* Дзеянне. *Паліцэйскіе тварылі незаконные еўлення: білі, грабілі, пасаблялі немцам.* Бывалькі.

ЯЎЛЯ'ЦЦА *незак.* З'яўляцца. *Такая еўляецца жаднасць: хоць у бахіла, а украду, у адно бахіла да у другое.* Ручаёўка. *Думала, што не прыдёць, думала не явіцца, дверы атвараюцца, з улыбачкай еўляецца.* Вулкан.

Я'ЧНІЦА *ж.* Ячменная салома. *Сегодні абабрала кортошку да ячніцы прывезла — прэдседацель вупісаў.* Дзяражычы.

# ЗМЕСТ



**ТАМАРА СЕМЕНОВНА ЯНКОВА**

**ДИАЛЕКТНЫЙ СЛОВАРЬ ЛОЕВЩИНЫ**

Издательство «Наука и техника»

На белорусском языке

Рэдактар *М. М. Дубоўская.* Мастак *К. С. Ракіцкі.* Мастацкі рэдактар *В. А. Жахавец.* Тэхнічны рэдактар *С. А. Курган.* Карэктар *Л. В. Пятроўская.*

ІБ № 1492

Здадзена ў набор 12.02.82. Падпісана ў друк 28.06.82. АТ 14690. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 2, Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Друк. арк. 13,5. Ум. друк. арк. 22,68. Ум. фарб. адб. 22,68. Ул.-выд. арк. 23,7. Тыраж 1200 экз. Зак. № 300. Цана 1 р. 60 к.

Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68.